# *Летапісец з Падляшша родам*

*Хоць не зазнаў я шчасця ў роднай хаце,*
*І лёс мяне кідаў у чужыну,*
*Кахаю я цябе, Радзіма-маці.*
*Дзмітры Шатыловіч*

Успаміны людзі пішуць з даўніх вякоў, маючы ўнутраную патрэбу распавесці пра пражытае іншым, найперш сям'і. Але гэтае вось выданне – крыху асаблівае. У ім надрукаваны падрабязна спісаныя аўтарам успаміны з 1955-1988 г.г. і складзены як хроніка – быццам летапіс. Год за годам апісаныя тут скрупулёзна падабраныя падзеі з сямейнага ды прафесійнага жыцця аўтара, на фоне – што даволі арыгінальнае – адначасовых падзей у Польшчы і ў свеце. Адзначаны таксама бягучыя звесткі з грамадска-культурнага жыцця беларускай меншыні, паколькі ў гэтым руху Дзмітрый Шатыловіч прысутны амаль ад пачатку.

Успаміны, што ўвайшлі ў гэтую кніжку, аўтар спісаў на працягу мінулых пяці гадоў, дасылаючы чарговыя раздзелы ў беластоцкі штомесячнік „Часопіс". Чытаючы іх цяпер поўнасцю, адчуваецца найперш нейкую цеплыню і задавальненне аўтара з жыцця. Няма тут жалю, смутку і цяжкіх момантаў. З тэксту б'е спакой, стабільнасць і аптымізм. Таму як жа адрозніваюцца гэтыя запісы ад іншых кніжак з пакутнымі найчасцей успамінамі равесных Шатыловічу аўтараў.

Бо лёс таго пакалення беларусаў пераважна быў даволі пакутны. Тыя будуючыя „мяшчане” выйшлі з бедных беларускіх вёсак, дзе з маленства трэба было цяжка працаваць на гаспадарцы, а ў час вайны і першыя паваенныя гады хавацца яшчэ ад стрэлаў і выбухаў. І толькі выезд у горад прынёс ім урэшце сякі-такі спакой і цывілізацыйны аванс. Ва ўспамінах назаўсёды, да канца жыцця, засталіся, аднак, тая нэндза, той пот, боль і кроў. А час Народнай Польшчы, на які выпалі іх найлепшыя дарослыя гады, гэта – незабыўнае шчасце, проста рай на зямлі. І нічога, што ў краінах на захадзе Еўропы, дзе ўцалеў той ненавісны капіталізм, у той самы час настаў значна большы дабрабыт.

Дзяцінства і маладасць Дзмітрыя Шатыловіча таксама не было лёгкім. Вырастаў у сялянскай сям'і ў вёсцы Чаромха, дзе ў 1933 г. скончыў тры класы Пачатковай школы. Наступныя тры – у суседняй Станцыі Чаромха. Пачалася вайна і настала савецкая ўлада. Трынаццацігадовы Дзмітры ў верасні 1939 г. пачаў вучобу ў Чыгуначным тэхнікуме ажно ў Брэсце. Вядома, дахаты было далёка, таму пасля няцэлых трох месяцаў бацькі перанеслі сына ў шосты клас Беларускай сярэдняй школы ў Бельску-Падляшскім. Сёмы клас скончыў ён у чэрвені 1941 г. Пачалася трывожная нямецкая акупацыя. Найгоршае прыйшло восенню 1943 г., калі хлопец быў вывезены на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію. У апошніх месяцах вайны трапіў з Чырвонай Арміяй на фронт. Быў цяжка паранены. Калі раны крыху загаіліся, стаў працаваць у шпіталі як санітар. У канцы ваеннай мітусні трапіў нават у Берлін, адкуль накіравалі яго ў запасны полк пяхоты ў сённяшні Ольштын, а ў лістападзе 1945 г. трапіў ён у Беларусь, пад Бабруйск. У родную вёску дабраўся толькі на пачатку студзеня 1946 г. Хаця Дзмітрыю ішоў ужо 20-ты год жыцця, пачаў далей вучыцца. Адукацю закончыў у Ленінградскім электратэхнічным інстытуце і як інжынер-электрык з вясны 1954 г. пачаў працаваць і жыць у Варшаве. Наступныя гады – з 1955-га па 1988-ы – апісаны менавіта ў гэтай кніжцы. Успаміны з ранейшых гадоў надрукаваны былі ў выданнях „Нівы”, у кнігах „У новай айчыне”, „Пакаленне вайны”, „Час трывогі і надзеі” і ў альманахах „Беларус” з 2012 і 2013 г.г., што выйшлі ў Нью-Йорку.

Дзмітры Шатыловіч ўсё дарослае жыццё пражыў у Варшаве. Таму на вокладцы кніжкі апынулася і выява славутага Палаца культуры і навукі як тадышняга сімвала сталіцы польскай дзяржавы. Дарэчы, аўтар у сваіх успамінах пабудову гэтага гмаху таксама адзначыў. Палац на пачатку меў імя І. Сталіна. Аўтар кніжкі запісаў, што падчас пяцігадовай рэалізацыі гэтай магутнай інвестыцыі загінула 14 савецкіх працаўнікоў і двое лзетак. Адна ахвяра ўпала з высокага паверха на яго вачах.

Сярод сямейных і асабістых спраў аўтар з дэталямі адзначыў, як пазнаў жонку, як нараджаліся іхнія дзеткі, а пасля ўнукі. У многіх месцах ўспамінае таксама пра радню на Беласточчыне. Падрабязна апісвае кватэры ў якіх жыў, а таксама колькі калі зарабляў. І так, першая яго кватэра мела ўсяго 30 квадратных метраў, плаціў за яе 59 злотых чыншу (плюс за электраэнергію і газ). Аўтар зарабляў тады – на пачатку 60-х – больш чым 6 тысяч злотых. Другую кватэру, удвая большую, атрымаў (так гэта тады называлася) уплаціўшы ў каапeратыве 24 750 злотых.

Шмат месца ў кніжцы адведзена выездам аўтара з сям'ёю кожны год у летні адпачынак і яго экскурсіям па Польшчы і Еўропе. Гэта таксама ўжо гістарычны знак тадышняй эпохі, калі надта модныя былі славутыя „wczasy", прытым амаль дарэмныя. Аўтар многія гады ў вольны час працаваў гідам замежных экскурсій у польскім турыстычным бюро „Орбіс" і іншых, што дазволіла яму спазнаць палову Еўропы. За мяжою працаваў таксама на кантрактах як інжынер. З усіх гэтых паездак прывозіў шмат здымкаў, пераважна каляровых. На жаль, тадышнія адбіткі аказаліся нетрывалымі, з часам выблеклі. Гэта, бадай, адзіны мінус кніжкі, што ўдалося памесціць у ёй так мала здымкаў, з увагі на недастатквую тэхнічную якасць арыгіналаў.

Калі ідзе пра агульныя падзеі ў Польшчы і ў свеце, аўтар зафіксаваў усе важнейшыя палітычныя факты паасобных гадоў, а таксама буйныя катастрофы самалётаў. Асабліва сачыў яшчэ за палётамі ў космас – спаборніцтвам у гэтым паміж рускімі і амерыканцамі.

Гэтая кніжка можа быць таксама вельмі каштоўнай крыніцай ведаў для даследчыкаў беларускага руху ў пасляваеннай Польшчы. Аўтар, напрыклад, згадвае пра прадпрыемства „Бэтэска" ў Беластоку, якім на пачатку кіравала Беларускае грамадска-культурнае таварыства. У „Бэтэсцы" ў 1961 г. працавала 147 чалавек і давала яна пры-

быткі. Фірма дажыла пачатку 1963 г., калі была пераўтворана ў „Кааператыў працы «Бэтэска», які меў абавязак 20% даходу прызначаць на статутную дзейнасць БГКТ. Гэты кааператыў яшчэ існуе, аднак пра яго беларускія карані ніхто ўжо не памятае.

Чытаючы ўспаміны Дзмітрыя Шатыловіча год за годам можна адбыць непаўторнае падарожжа ў гістарычны ўжо час. Дзякуючы гэтым запісам, старэйшы чытач можа ўспомніць, а малодшы сабе ўявіць штодзённае жыццё на працягу дзесяткаў гадоў у крыху прызабытай ужо Народнай Польшчы. Прытым у гэтым вобразе няма ані пахвалы, ані крытыкі тадышняга часу. Гэта проста жывы запіс, які застыў у памяці сведкі гэтай эпохі.

*Юрка Хмялеўскі*

# 1955

Пасля смерці І. Сталіна наступіла адліга ў міжнародных адносінах паміж СССР і ЗША ды іхнімі саюзнікамі. Дзве акалічнасці паўплывалі на паслабленне напругі паміж імі.

Па-першае, зменшылася выразная гегемонія ЗША ў галіне мілітарнай тэхналогіі. У 1954 г. СССР правёў другую спробу з вадароднай бомбай значна большай магутнасці ад тых, якія былі выкарыстаны ў спробах ЗША. На Урале СССР пачаў серыйную прадукцыю балістычных ракет з радыюсам дзеяння 6 тыс. кіламетраў, якія маглі пераносіць атамныя бомбы. Амерыка не магла ўжо, як раней, адчуваць сябе бяспечнай ды сімуляцыя ваенных гульняў даказвала, што ў атамнай вайне не будзе пераможцаў.

Па-другое, пасля смерці І. Сталіна 5 сакавіка 1953 г. у дзяржавах ўсходняга блоку наступіла значнае памяншэнне напругі ва ўнутраных грамадска-палітычных адносінах. Аб'явілі многа амністый для палітычна зняволеных, пачаліся рэабілітацыйныя працэсы ахвяр палітычных рэпрэсій, абмежавалі развіццё цяжкой прамысловасці і ўзбраенняў, а пашырылі будову грамадзянскіх прадпрыемстваў. У газетах сталі асуджваць культ асобы, хаця яшчэ не так моцна, як пачнуць гэта рабіць пасля XX з'езда КПСС у лютым 1956 г.

Пасля смерці І. Сталіна і арышту ў чэрвені 1953 г. Л. Берыі (1899--1953), М. Хрушчоў (1894-1971) стаў у верасні 1953 г. першым сакратаром КПСС і ўжо 8 лютага 1955 адставіў прэм'ера Г. Маленкова (1901-1988), скрытыкаваў яго за рэвізіянізм, бо той не згаджаўся

з палітыкай Хрушчова. Прэм’ерам стаў маршал М. Булганін (1895--1975), а Л. Берыю расстралялі 23 снежня 1953 г.

Вайна ў Карэі закончылася ў 1953 г. – у Панмунджоне быў падпісаны мірны дагавор, на якім падзялілі дзяржаву на дзве часткі – напруга паміж гэтымі часткамі ўтрымліваецца па сёння. У 1954 г. пасля паразы французскіх войск пад Д’ен Бен Фу закончылася вайна ў В’етнаме.Дзяржаву таксама падзялілі на дзве часткі і пасля дайшло да ўмяшальніцтва ЗША, але амерыканцы не атрымаўшы перамогі выйшлі з В’етнама і паўночны В’етнам захапіў паўднёвую частку.

На жаль, узнікалі новыя месцы канфліктаў. У 1954 г. успыхнула гарачая вайна супраць фрацузаў у Алжыры, ў Егіпце ў 1952 г. была звергнута манархія, узнікла рэспубліканская дзяржава пад кіраўніцтвам ген. Гамаль Абдэль Насера, які адкрыта стараўся выкінуць англічан з Суэзскага канала. Усё гэта накручвала халодную вайну паміж ЗША і СССР.

**23 студзеня 1955 г.** прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР выдаў указ аб заканчэнні вайны між Савецкім Саюзам і Нямеччынай – 14 верасня былі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны паміж СССР і ФРГ. У верасні ў Маскву прыехаў канцлер ФРГ Конрад Адэнауэр. СССР адпусціў у Нямеччыну нямецкіх палонных, якіх трымаў з часу вайны. Аднак заходнія дзяржавы 5 мая аб’явілі аб заканчэнні акупацыі Заходняй Нямеччыны і 9 мая прынялі яе ў НАТА. Тады Савецкі Саюз – разам з Албаніяй, Балгарыяй, Чэхаславакіяй, Венгрыяй, Польшчай, Румыніяй і Усходняй Нямеччынай – 14 мая стварыў Варшаўскі дагавор са штабам у Маскве. Ва Усходняй Нямеччыне (ГДР) узнікла армія. Памятаю, як у сувязі са стварэннем Варшаўскага дагавора на пляц Дзяржынскага (сёння: Банковы) сагналі людзей з розных варшаўскіх прадпрыемстваў і там з прамовай выступаў, побач польскіх міністраў, прэм’ер СССР М. Булганін.

**26 мая** М. Булганін і М. Хрушчоў паехалі ў Югаславію і закончылі непрыязныя адносіны паміж СССР і Югаславіяй, якія стварыў І. Сталін. Аднак Броз Ціта не згадзіўся прыступіць да Варшаўскага дагавору і вёў сваю нейтральную палітыку.

У Польшчы вызвалілі з турмаў многіх палітычных вязняў і ў 1954 г., таксама Уладыслава Гамулку, які быў зняволены ў 1951 г., а раней абвінавачаны ў „правым ўхіле”, бо ў 1948 г. выступіў супраць асуджэння маршала Югаславіі Броз Ціта.

**23 студзеня** ў Англіі адбылася чыгуначная катастрофа, у якой загінулі 17 пасажыраў, а 43 былі параненыя, а **23 лютага** ў Францыі ў Ле-Мане на марафоне аўтамабіль Мерседэс-Бэнц упаў на трыбуны і загінулі 80 глядачоў. **11 мая** ў Польшчы ў пажары кінатэатра ў Веляполю-Скаржыскім згарэлі 58 чалавек.

**2 чэрвеня** ў СССР адкрылі касмадром Байканур, з якога потым сталі ўздымацца ў космас савецкія спадарожнікі Зямлі.

**У 1955 годзе** я далей працаваў кіраўнікам праектнай групы „Энергапраекта" ў галіне электратэхнікі пры пабудове цеплацэнтралі Жэрань у Варшаве. У групе працавалі 17-20 чалавек, якіх прысылалі мне з бюро. Былі між імі інжынеры, тэхнікі, чарцёжнікі і чарцёжніцы. Адны працавалі ўвесь час, іншыя прыходзілі на месяц-два і адыходзілі назад у бюро ды на іх месца давалі мне іншых людзей. З Пястава я часта заязджаў у „Энергапраект" на вуліцу Кручу, а пасля ехаў двума трамваямі на Жэрань. З Пястова да бюро ехаў я электрычным цягніком да вакзала Сьрудмесце, а пасля ішоў пехатою на вул. Кручу. На Жэрань не трэба было прыходзіць пунктуальна, трэба было толькі распісацца ў спіску прысутных. Ад працоўнікоў я таксамаа не дамагаўся, каб яны прыходзілі пунктуальна. За час маёй працы ў праектнай групе ў цеплацэнтралі на Жэрані пачалі працаваць два катлы і два блокі турбіна-генератар-трансфарматар па 25 мегаватаў кожны.

Ніна, мая жонка, ездзіла таксама электрычным цягніком на працу і бегла пехатою з вакзала на вуліцу Навагрудскую, але ёй на працу трэба было з'явіцца пунктуальна на восьмую гадзіну. Тады за спазненне на працу пагражаў суд. Ёй было цяжэй, бо яна была ўжо цяжарнай. Матэрыяльнае становішча ў нас было не вельмі добрае, аднак і не цяжкое. Ніна перад прыездам дамоў купляла спажывецкія прадукты ў Варшаве і везла іх у Пястаў. Мяса раз у тыдзень прывозіла нам патаемна жанчына дзесьці з-пад Варшавы. Мыць бялізну прыходзіла жанчына з Пястава, Шымчакова. Яна таксама мыла вокны і прыбірала час ад часу нашу кватэру, за што мы ёй плацілі. Ніціна мачыха гатовіла нам абеды. Ніна працавала бухгалтарам у Аб'яднанні забеспячэння прыватнай прамысловасці. Невялікая прыватная прамысловасць яшчэ ў Польшчы існавала. На вуліцы Хмельнай у Варшаве працавалі некалькі прыватных крамаў,

майстэрняў. Існавалі невялікія прыватныя прадпрыемствы. Бюро, у якім працавала Ніна, забяспечвала гэтыя прадпрыемствы сыравінай і дапамагала прадаваць іхнюю вытворчасць дзяржаўным прадпремствам.

**У канцы мая 1955 г.** вызваў мяне да сябе дырэктар ‚Энергапраекта" і запрапанаваў мне перайсці на працу ў бюро, дзе арганізавалася новая група працаўнікоў-электрыкаў, якая мела пачаць праект электрычнай часткі электрастанцыі Конін. Праектаванне элекрастанцыі Конін Міністэрства энергетыкі даручыла раней праектнаму бюро ва ўсходнім Берліне. Яны ўжо прыслалі свае праекты зробленыя на нямецкай мове і апаратуры. Наша група мела прыстасоўваць тыя праекты да польскай апаратуры і выпускаць іх на польскай мове. Дырэктар ведаў, што я някепска ведаю нямецкую мову, бо быў вывезены гітлераўцамі ў 1943 годзе на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію і вучыўся нямецкай мове ў школе.

Дырэктар павысіў мне месячную зарплату да 1400 зл. і да гэтага даходзіла прэмія прыблізна 100-110% і 58 зл. сталічнага дадатку, але я страціў 150 зл. за кіраванне групай на Жэрані. Прапанова дырэктара мне аднак спадабалася, бо не мусіў я ездзіць далёка на Жэрань, толькі меў працаваць у бюро на вуліцы Кручай 6/14. Групу на Жэрані перадаў я іншаму інжынеру і стаў працаваць у вялікім пакоі на 15 асоб – былі між імі 4 інжынеры, 5 тэхнікаў і 5 чарцёжнікаў. Кіраўніком групы быў інжынер Генрых Рудзінскі, які да мяне адносіўся вельмі добра. Дадаткова атрымоўваў я працу, каб перакладаць у хаце праекты з нямецкай мовы на польскую, за што плацілі дадаткова ад колькасці перакладзеных слоў.

**Пад канец красавіка**, вызвалі мяне ў Міністэрства энергетыкі і перадалі ключы да новай невялікай кватэры на Макатове на вуліцы Лавіцкай. Кватэра была невялікая, з жылою плошчай у 30 кв. метраў. У кватэры былі два невялікія пакоі, цёмная кухня з акном на меншы пакой, у якім была газавая печка і ракавіна з кранамі на цёплую і халодную ваду. Ванны пакой меў ванну і газавую печку, якая агравала ваду і ў ванным пакоі, і ў кухні. Балкон быў вельмі малы, са шклянымі дзвярыма, якія служылі і за акно на панадворак. У меншым пакоі было шырокае акно, таксама на панадворак. Пярэдні пакой меў 1 кв. метр, з яго былі дзверы ў ваннипакой з левага

боку, а з правага – у кухню, а насупраць у большы пакой, у якім былі дзверы ў меншы пакой. Радыятары цэнтральнага ацяплення былі ў кожным пакоі. Кватэра была на трэцім паверху ў пяціпавярховым доме. Ліфту ў доме не было. Месячная плата за кватэру была невялікая, 59 зл. За газ і за электраэнергію трэба было плаціць асобна. Гэтую кватэру я меў да сакавіка 1962 г., калі атрымаў кааператыўную кватэру ўдвая большую.

Цёшчы не падабалася такая малая кватэра і яна не хацела туды пераехаць. Аднак я з Нінай купілі ў растэрміноўку мэблю: шырокі тапчан на дзве асобы, які паставіў я ля кухоннай сцяны пад акном у малым пакоі, а трохдзвярную шафу, вялікі круглы раскладны стол і чатыры крэслы паставіў у большым пакоі. Калі часам вяртаўся позна ноччу з камандзіроўкі, то начаваў у Варшаве. Часам начаваў разам з Нінаю, калі позна мы вярталіся з тэатру. Пасля да большага пакоя яшчэ я дакупіў і ўставіў раскладную канапу на дзве асобы. Аднак кватэра доўгі час стаяла пустая і толькі на восень 1956 г. мы пераехалі ў яе разам з цёшчай і сынам, бо ў Варшаве не трэба было паліць у печах драўнінай, а ў красавіку 1957 г. ізноў вярнуліся ў Пястаў.

**1 мая**, як заўсёды, прайшоў паход рабочых і працаўнікоў Варшавы па вул. Маршалкоўскай, а 22 ліпеня ў Варшаве быў вялікі вайсковы парад і праехалі танкі. Перад Палацам Культуры і Навукі на трыбунах стаялі як 1 мая, так і 22 ліпеня, Б. Берут, К. Ракасоўскі, Ю. Цыранкевіч і ўся ўладная эліта.

**Пад канец ліпеня** Ніна пайшла ў бальніцу на вул. Солец, дзе праз некалькі сутак нарадзіла сына. Я штодзень да яе даязджаў, заносіў ёй ўсё, што яна пажадала. Тады, перад 22 ліпеня, савецкія працаўнікі аддалі (фармальна 28 кастрычніка) ў карыстанне Палац Культуры і Навукі, які яшчэ меў імя І. Сталіна. Калі я сыходзіў з электрычнага цягніка, дык праходзіў побач яго. Тады я бачыў каля яго вельмі многа людзей, якія прыехалі паглядзець яго і звонку, і ўнутры. Адкрыліся ў ім новыя кінатэатры, тэатры, рэстараны і залы – людзі сталі ездзіць хуткім ліфтам наверх, каб аглядаць панараму Варшавы. Палац будавалі з 1952 г. На праваслаўных могілках на Волі знаходзяцца магілы савецкіх працаўнікоў, якія загінулі ці памерлі ў час пабудовы палаца. Загінулі 14 працаўнікоў і двое дзяцей. Я сам калісьці здалёк бачыў як адзін рабочы адарваўся і ляцеў уніз з высокага паверху. Тады я не

чуў, каб нехта сказаў, што палац трэба разбурыць, хаця і не усім ён падабаўся. Людзі казалі, што рускія паставілі палац замест разбуранага ў міжваенны перыяд палякамі праваслаўнага Неўскага сабора на Саскім пляцы.

**31 ліпеня** я забраў жонку Ніну і сына з бальніцы ў Пястаў – у гэты дзень пачаўся пяты Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Прыехала ў Варшаву моладзь з усіх частак свету, з'явілася многа неграў, якіх у Варшаве тады рэдка бачылася. Вечарам на плошчы перад Палацам культуры і навукі былі танцы ды розныя імпрэзы. У мянее тады не было часу, каб туды ездзіць, я ўсё гэта толькі бачыў, калі праходзіў з цягніка на працу і вяртаўся дамоў. Год пасля фестывалю пайшлі чуткі, што ў многіх польскіх дзяўчат нарадзіліся чорныя дзеці. Тады разам з палацам аддалі ў карыстаенне „Стадыён 10-годдзя", які знаходзіцца па правы бок Віслы – з 1990 г. па кастрычнік 2007 г. служыў ён за вялікі базар. Цяпер у гэтым месцы пабудавалі новы стадыён. У карыстанне перадалі яго ў 2012 г. Прозвішча Сталіна, якое выціснулі на сцяне над уваходам у Палац культуры і навукі, цяпер закрытае бляхай.

Жонка Ніна мела нейкі час водпуск на дзіця. Я таксама ўзяў водпуск, аднак мы нікуды не выязджалі. Апекавацца сынам дапамагала Ніне яе мачаха, якая яго палюбіла, хаця раней і капрызнічала. Я пасля працы, калі ўжо закончыўся водпуск, стараўся хутка вяртацца дамоў, каб дапамагчы жонцы. Аднак час ад часу даводзілася мне выязджаць у камандзіроўкі ў Конін, Познань, Кракаў і іншыя гарады – на нарады і ўзгадненні. Хутка мы сына ахрысцілі ў праваслаўным саборы на Празе, далі яму імя Георгій (Юра). Хросным бацькам быў Сяргей Хмяльніцкі, а маткай – мая сястра, Марыя Унучка з вёскі Чаромхі.

Міністэрства энергетыкі запатрабавала, каб „Энергапраект" забраў ад нямецкага бюро праектаў усё тое, што яно зрабіля для элекрастанцыі Конін і прыстасаваў праекты да польскай апаратуры. Тады арганізавалі групу людзей з розных спецыяльнасцей у „Энергапраекце", якія паедуць у Берлін і возьмуць ад берлінскага бюро ўсё, што яны зрабілі і прывязуць у Варшаву. У гэтую групу і мяне ўключылі. У кастрычніку я паехаў з нашай групай „Энергапраекта" ва ўсходні Берлін. Я быў там два тыдні. Тады яшчэ можна было свабодна перайсці праз Брандэнбургскую браму ў заходнюю частку Берліна.

Горад яшчэ не залечыў ваенных ран. Я не меў многа часу, каб знайсці месцы, дзе я быў некалькі дзён у 1945 г., бо мы доўга працавалі ў нямецкім праектным бюро. Выходзілі з яго, калі было ўжо цёмна. Толькі ў дзве нядзелі я пахадзіў па заходняй частцы горада. У тамашніх крамах было многа больш тавараў, чым ва ўсходняй частцы. Аднак і ўсходні Берлін быў многа лепш запоўнены рознымі таварамі за Варшаву.

Калі вярнуўся я з Берліна, трэба было хутка адаптаваць нямецкія праекты электрастанцыі Конін, дзе амаль ўжо гатовіўся кар'ер для здабычы бурага вугля, на якім мела працаваць элекрастанцыя. Вугаль пастаўляўся ў электрастанцыю з кар'ера стужкавымі канвеерамі. Электрастанцыю пачалі будаваць ля невялікай вескі Гаславіцэ, якая знаходзіцца сем кіламетраў на поўнач ад чыгуначнага вакзала Конін. Невялікі горад Конін ляжыць на поўдзень ад вакзала. Ля вёскі Гаславіцэ знаходзіцца невялікае возера, з якога бралі ваду для электрастанцыі. Я пачаў праектаваць аўтаматыку і рэлейнае забеспячэнне блока (турбіна-генератар) 55 мегаватаў фірмы Эшэр Выс са Швейцарыі і яго розных электрарухавікоў. Лініі высакавольтнай перадачы 110 тыс. кілавольтаў праектаваў „Энергапраект" Кракаў, аднак калі яны не паспявалі з тэрмінамі, даводзілася мне пераймаць частку іхняй працы.

У 1955 г. сітуацыя ў свеце, пасля смерці Сталіна, стала супакойвацца, пачаліся першыя перамовы паміж ЗША і СССР на тэму скарачэння атамных узбраенняў, прынялі ў ААН такія дзяржавы, як Венгрыю і Балгарыю ды нават Албанію, Савецкая Армія выйшла з Аўстрыі, але Аўстрыя дала згоду, што не ўвойдзе ў НАТА.

**29 кастрычніка** ў Севастопальскай бухце наступіў загадкавы выбух лінкора „Наварасійск", ад якога загінулі 609 маракоў.

**У 1955 г.** у Польшчы прыйшлі на свет 793,8 тыс. дзяцей – гэта быў год самага высокага прыросту насельніцтва ва ўсёй гісторыі краіны.

# 1956

1956 г. быў багаты рознымі падзеямі. У маім сямейным жыцці нічога асабліва не змянілася. Далей я жыў у Пяставе з жонкаю, сынам і цёшчаю ды даязджаў цягніком на працу разам з жонкаю ў Варша-

ву. Цёшча даглядала сына, які рос хутка і альбо сядзеў у высокім ложку, альбо бегаў па пакоі на карачках. Калі я вяртаўся з працы, то ў дзіцячым вазку прагульваў яго па парку. Пры доме быў вялікі агароджаны пляц з дрэвамі і там ён часта сядзеў на паветры. Я далей праектаваў аўтаматыку і электрычную частку электрастанцыі Конін у „Энергапраекце" ў Варшаве па вул. Кручай. Электрастанцыя хутка будавалася разам з вугальным кар'ерам.

**2 лютага** прэзідэнтам ЗША стаў ген. Дуайт Дэйвід Эйзенхаўэр (1890-1969).

Ужо з 1955 г. былі націскі з Варшавы, каб стварыць беларускую арганізацыю, падпарадкаваную ПАРП і беларускую газету. 1 лютага прызначылі Георгія Валкавыцкага галоўным рэдактарам гэтай новай газеты. Ён пастанавіў назваць яе „Нівай" і шукаў людзей у рэдакцыю. **26 лютага** ў Беластоку на I з'ездзе ўтварылася Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы (БГКТ). Выбралі на з'ездзе Галоўнае праўленне, яго прэзідыум і Галоўную рэвізійную камісію. Былі прыняты статут і пастановы З'езда. Старшынёй БГКТ абралі Аляксандра Давідзюка, а яго намеснікамі – Георгія Валкавыцкага і Піліпа Кізевіча. Я аб гэтым у Варшаве даведаўся з газет. Заняты працай у „Энергапраекце" я не сустракаўся з беларусамі, якія аб гэтым маглі мяне паведаміць. Я даведаўся з газет, што **4 сакавіка** выйшаў у Беластоку першы нумар беларускай газеты ў Польшчы „Ніва". „Ніву" я першы раз знайшоў у Варшаве на рагу вуліц Алеі Еразалімскія і Новы Свет у магазіне з газетамі і пачаў яе купляць ды чытаць. Дзякуючы БГКТ пачало развівацца беларускае школьніцтва, навучанне беларускай мовы адкрылася ў больш за 150 пачатковых школах для больш чым 10 тыс. вучняў, пасля ў 36 школах вялося навучанне ўсіх прадметаў на беларускай мове. 1 кастрычніка у Варшаўскім універсітэце ўтварылася Кафедра беларускай філалогіі.

Амаль 4 месяцы пазней за БГКТ, бо **16-17 чэрвеня**, утварылася Украінскае грамадска-культурнае таварыства, а **15 чэрвеня** пачала выходзіць украінская газета „Наше Слово".

У Маскве з **14 лютага** пачаў працу вельмі важны XX з'езд КПСС, дзе **25 лютага** першы сакратар КПСС М. Хрушчоў прачытаў даклад аб кульце асобы І. Сталіна і яго наступствах, у якім ахарактарызаваў яго як злачынцу, які мае на сумленні смерць мільёнаў невінаватых

людзей. Даклад гэты можна знайсці і прачытаць у інтэрнэце, таму не буду пісаць аб ім дакладна. Напішу толькі коратка для тых, якія не захочуць шукаць яго ў сеціве. На пачатку М. Хрушчоў звярнуў увагу, што яшчэ хворы У. Ленін выслаў у 1922 і 1923 гг. у палітбюро партыі тры пісьмы (а адно яшчэ напісала Г. Зіноўеву яго жонка Крупская, якую І. Сталін праз тэлефон абругаў), дзе прапануе звольніць з генеральнага сакратара партыі І. Сталіна, як чалавека невыноснага і грубіяна, які не падыходзіць на гэтую пасаду, бо калі ён сканцэнтруе ў сваіх руках вялікую ўладу, то наробіць многа шкоды. Аднак палітбюро і XIIIз’езд партыі не паслухалі гэтай рады Леніна, пакінулі Сталіна на гэтай пасадзе і многіх з іх ён пасля ліквідаваў.

Калі я быў у Заходняй Нямеччыне, то прачытаў „Воспоминания бывшего секретаря Сталина” Барыса Бажанава (1900-1982). Б. Бажанаў быў асабістым сакратаром І. Сталіна з 1923 г. па 1928 г. і яму пашанцавала ўцячы з СССР цераз Іран і Індыю ў Францыю. У сваіх успамінах ён пацвярджае, што і Л. Троцкі (1879-1940), і Г. Зіноўеў (1883--1936), і Л. Каменеў (1883-1936) галасавалі пры ім на пасяджэнні палітбюро, каб пакінуць на пасадзе генсекратара І. Сталіна, калі прачыталі пісьмо У. Леніна аб Сталіне. А Б. Бажанаў піша ў сваіх успамінах, што І. Сталін, калі толькі стаў генсакратаром, то загадаў працаўніку тэлефоннай сувязі працягнуць тэлефонныя драты ад усіх працаўнікоў палітбюро ў свой кабінет, каб праслухоўваць усе іхнія размовы. Калі працаўнік гэта зрабіў, то Сталін даў загад Г. Ягадзе, каб яго расстраляць, каб ён нікому не перадаў гэтую тайну. (Б. Бажанаў у 1930 годзе надрукаваў у Францыі некалькі артыкулаў аб І. Сталіне на французскай і англійскай мовах).

І Сталін пасля ўвёў паняцце „вораг народа”. Гэты тэрмін вызваляў ад патрэбы доказу, што абвінавачаны насамрэч вінаваты. І пачаліся масавыя рэпрэсіі і расстрэлы, ад якіх згінула мільёны невінаватых людзей. Многія рэпрэсіі ён вёў асабіста з камісарамі ўнутраных спраў, дзе людзей білі і катавалі, каб прызналіся да няпраўды. Пасля ліквідаваў гэтых камісараў, каб не пакідаць слядоў свайго злачынства. Так зрабіў з камісарамі ўнутраных спраў Г. Ягадай (1891-1938) і М. Яжовым (1895-1940). Па загадзе І. Сталіна, Г. Ягада запланаваў у Ленінградзе забойства С. Кірава (1886-1934). Выкарысталі рэўнасць мужа каханкі С. Кірава, Л. Нікалаева. НКУС выпусціў яго з турмы,

далі яму пісталет і ўпусцілі яго ў палац Смольны, дзе ён, як толькі С. Кіраў выйшаў з залы, дзе была нарада, застрэліў яго. Л. Нікалаева расстралялі, а абвінавацілі ў забойстве Г. Зіноўева. Аднак людзі чулі віну Сталіна і спявалі частушкі: „Эх, огурчики, помидорчики, Сталин Кирова пришил в колидорчике". Мне ў 1940 г. адзін савецкі салдат заспяваў ціха частушку: „Семёновна, да юбка свалена, убили Кирова, убъют и Сталина". Пасля І. Сталін, каб закрыць сляды свайго злачынства, даў загад расстраляць Г. Ягаду. Гэтае злачынства І. Сталіна, забойства С. Кірава, дакладна апісаў Аляксандр Арлоў у сваёй кнізе „Тайная история сталинских преступлений". Ён быў маёрам АГПУ-НКУС (яго праўдзівае імя і прозвішча – Леў Фельдбін) і ведаў многія тайны, якія рабіла НКУС, ды яго выслалі раней на вайну ў Іспанію і адтуль ён уцёк у ЗША, калі яму запрапанавалі сустрэцца з савецкім агентам на борце савецкага судна. Ён прадчуў, што яго там чакае. У той час яшчэ камісарам унутраных спраў быў М. Яжоў.

Пасля смерці І. Сталіна ўжо дзесяткі тысяч расстраляных і бязвінных людзей суды рэабілітавалі. Перад смерцю І. Сталін хацеў расстраляць многіх лекараў, якія лячылі яго і членаў улады. Яны ўжо сядзелі ў турмах, ды пасля смерці дыктатара іх выпусцілі.

М. Хрушчоў крытычна выказаўся аб ваенным геніі І. Сталіна, які верыў, што Гітлер не нападзе на СССР, хоць англійская і савецкая разведкі перадавалі яму, што немцы канцэнтруюць ля граніцы з СССР вялікую армію. Ён не прыгатовіў дзяржавы да вайны і дапусціў да таго, што немцы дайшлі да Масквы. Абвінаваціў яго ў памылках на фронце, якія прынеслі многа непатрэбных ахвяр. Падаў таксама, што лінію фронту шукаў Сталін на глобусе, а не на ваеннай карце, а сапраўднай лініі фронту ён ніколі не бачыў, бо баяўся паехаць на фронт.

М. Хрушчоў абвінаваціў Сталіна, што ў час вайны ў 1943 і 1944 гг. дэпартавалі па яго загаду ў Сібір і Казахстан многія народы з Каўказа, як карагаеўцаў, калмыкоў, чачэнаў, інгушоў і балкарцаў. Хацеў дэпартаваць украінцаў, а не зрабіў гэтага толькі таму, што іх было вельмі многа.

На гэтым з'ездзе быў польскі першы сакратар ПАРП Баляслаў Берут (1892-1956), які, праўдападобна, так напужаўся, што там захварэў быццам на грып і **12 сакавіка** памёр. Прывезлі яго мёртвага **14 сакавіка** ў Варшаву і выставілі ў труне ў будынку ЦК ПАРП на

рагу вуліц Новы Свет і Алеі Еразалімскія. Там некалькі дзён стаяла чарга даўжынёю ў трыста метраў з людзей, якія хацелі яго пабачыць у труне. Чарга ішла па вуліцы Новы Свет і далейзварочвала на вул. Ксянжэнцую. Я не меў часу, каб стаяць у чарзе, аднак пайшоў пабачыць яе. Дайшлі да мяне тады чуткі, што Б. Берута атруцілі або застрэлілі ў Маскве,ды гэта былі толькі выдумкі. Ён быў хворы артэрыясклерозам і ў снежні 1955 г. хварэў на пнеўманію, якую добра не вылечыў, а дабіў яго даклад М. Хрушчова аб зверствах І. Сталіна, у якіх і ён сам адчуў сваю віну. Ён быў вельмі паслушны Маскве, таму М. Хрушчову не было сенсу яго ліквідаваць. На пахаванне яго прыехаў М. Хрушчоў і пры ім на IV Пленуме ПАРП 20 сакавіка выбралі першым сакратаром ПАРП Эдуарда Охаба.

У ЗША даклад М. Хрушчова апублікавалі толькі **4 чэрвеня**. У Польшы даклад М. Хрушчова аб Сталіне, хаця яго трымалі ў таямніцы, хутка разышоўся. Копію яго можна было купіць на базары. У нашым бюро яго хутка прачыталі партыйнай групе. Крытыка Сталіна давяла да многіх крытычных артыкулаў у польскіх газетах і штотыднёвіках. Многія жадалі перамен у працы ўрада і органаў бяспекі. **5 мая** за злоўжыванне ўладай выкінулі з пасады члена камісіі Палітбюро ЦК ПАРП Якуба Бермана, а **28 чэрвеня** ў Познані ў фабрыцы ім. Сталіна (раней Цагельскага) рабочыя выйшлі на вуліцу пратэставаць супраць нізкіх заробкаў. Калі частка рабочых знішчыла радыёстанцыю, якая заглушала замежныя вяшчанні, заняла турму, з якой выпусціла зняволеных і пайшла атакаваць будынак бяспекі, адтуль пачалі да іх страляць з кулямётаў. Многіх паранілі або забілі. У Познань увайшлі танкі і патушылі бунт. Загінулі 57 жыхароў горада, многа было параненых, многіх арыштавалі. Прэм’ер-міністр Ю. Цыранкевіч гразіў па радыё, што ўлада адрубіць рукі тым, хто іх на ўрад падыме. Пасля гэтага ў ЦК ПАРП паўсталі дзве групы, адна прасавецкая, якая называлася „наталінскай”, ад мясцовасці ў якой жылі яе члены, а другая, якую група наталінская абвінавачвала за арышты і праслед палякаў у часы Б. Берута, аднак яна жадала рэформ; называлася „пулаўскай”, ад вуліцы Пулаўскай у Варшаве. У першай групе быў маршал Польшчы К. Ракасоўскі, а ў другой – член ЦК ПАРП Р. Замброўскі. Гэтыя дзве групы вялі між сабою ідэалагічную барацьбу.5 сакавіка англічане дэпартавалі

з Кіпра архіепіскапа Макарыоса на астравы Сешэлі, абвінавачвалі яго ў сувязі з грэцкімі тэрарыстамі.

**17 красавіка** СССР закрыла камінформбюро, якое ў 1947 г. стварыў І. Сталін супраць Б. Ціта ў Югаславіі.

**З 1 мая** пачалі перадаваць у Варшыве 5 разоў у тыдзень тэлеперадачы, якія маглі глядзець у Варшаве толькі тыя, хто раней купіў замежны тэлевізар, бо польскіх у магазінах яшчэ не было.

**5 мая** Заходнюю Немеччыну прынялі ў НАТА.

**15 мая** на вуліцах Варшавы быў вялікі шум, бо польскі веласіпедыст С. Круляк заняў першае месца ў велагонцы міру. На многіх вуліцах павесілі мегафоны і людзі пры іх збіраліся, калі падавалі весткі з велагонкі, якая вяля з Варшавы праз Берлін у Прагу.

**2 чэрвеня** В. Молатаў перастаў быць міністрам замежных спраў СССР. На яго месца М. Хрушчоў прызначыў Д. Шапілава. **21 лістапада** В. Молатаў стаў міністрам дзяржаўнага кантролю.

**24 чэрвеня** ў Егіпце выбралі прэзідэнтам Г. Насера (1918-70), які **26 ліпеня** абʼявіў аб нацыяналізацыі Суэзскага канала, што давяло пад канец года да вайны з Англіяй, Францыяй і Ізраілем.

**На пачатку ліпеня** я быў у Познані на нарадзе па будаўніцтве электрастанцыі Конін і пабачыў сляды нядаўніх пратэстаў рабочых і насельніцва. Мы часцей пачалі ездзіць на будову электрастанцыі Конін. У Гаславіцах пабудавалі дом, дзе была сталовая і пакоі, там можна было пераначаваць. Там была амбулаторыя з рознымі ўрачамі. Пасля нарады мы хадзілі на Гаславіцкае возера і там адпачывалі.

З вакзала ў Коніне ў Гаславіцы ездзілі мы рэйсавым аўтобусам. Пасля правялі туды вузкія чыгуначныя рэйкі і ездзілі ў Гаславіцы малыя цягнікі. Ля вакзала пабудавалі там некалькі высокіх будынкаў для рабочых, якія працавалі пры пабудове электрастанцыі. Пабудавалі там таксама гатэль, дзе мы пачаткова начавалі. Часам начавалі мы ў невялікім гарадскім гатэлі, калі не было месца ў гатэлі пры вакзале.

У другой палове ліпеня я з Нінай узялі водпуск на цэлы месяц і паехалі ў вёску Чаромху і там былі з сынам, а цёшча адпачывала ў Пяставе без унука.

У Чаромсе-вёсцы вучылі мы сына хадзіць, аднак ён раз упаўшы ўдарыўся і пасля баяўся сам хадзіць. Пачаў хадзіць у Пяставе пад

канец жніўня, дакладна калі яму закончылася 13 месяцаў. Калі мы пад канец жніўня вярнуліся з працы, то ўбачылі, як ён сам адзін ходзіць па пакоі.

Жыццё сялян на вёсцы было цяжкае. Пасля смерці І. Сталіна не заганялі сілай у кааператывы (калгасы), аднак накладвалі на сялян вялікія падаткі і пастаўкі збожжа, мяса ды іншых прадуктаў, таму многія сяляне аддавалі зямлю бясплатна дзяржаве, пакідалі сабе малы кавалак або ўцякалі ў гарады.

Барацьба паміж групамі ў ЦК ПАРП ішла да кастрычніка. З турмы выйшаў былы сакратар ПАРП У. Гамулка. Пад націскам Р. Замброўскага ды групы „пулаўскай" Э. Охаб адрокся ад функцыі першага сакратара ЦК ПАРП і на VIII пленуме ЦК **19-20 кастрычніка** на яго месца выбралі У. Гамулку. Пад Варшаву падыходзіла савецкая армія з-пад Легніцы, у Варшаву прыляцелі з Масквы М. Хрушчоў з В. Молатавым і А. Мікаянам. Баяліся, што Польшча адарвецца ад СССР. Аднак У. Гамулка заверыў і пераканаў іх, што палітычных зменаў у Польшчы не будзе, што Польшча будзе вернай Савецкаму Саюзу і М. Хрушчоў з В. Молатавым і А. Мікаянам адляцелі ў Маскву, а савецкая армія вярнулася ў казармы. **24 кастрычніка** ўсіх людзей з працы і нас з бюро пагналі на пляц перад Палацам культуры і навукі, дзе выступалі з прамовамі У. Гамулка і іншыя. К. Ракасоўскі хаваўся за іншых, каб яго не бачылі. „Натолінская" група пацярпела паражэнне і К. Ракасоўскі з групай савецкіх ваенных выехалі ў Савецкі Саюз.

Падзеі ў Польшчы выклікалі **23 кастрычніка** паўстанне ў Будапешце, дзе людзі знішчылі помнік Сталіну і ўладу аддалі Імрэ Надзю, які аб'явіў 1 лістапада, што Венгрыя выходзіць з Варшаўскага дагавора. Савецкая Армія пачаткова выйшла з Будапешта, аднак Я. Кадар быццам папрасіў дапамогі М. Хрушчова і савецкія танкі да 10 лістапада здушылі паўстанне. Было многа ахвяр, многія паўстанцы ўцяклі ў Аўстрыю. Я. Кадар утварыў новы ўрад. Імрэ Надзь схаваўся ў югаслаўскае пасольства, аднак яго выдалі ў 1958 г. і пасля расстралялі.

Пачаткова была эйфарыя сярод палякаў, якія лічылі што У. Гамулка адарве Польшчу ад прыгнёту СССР, аднак яна хутка суцішылася, калі У. Гамулка пачаў сваю барацьбу супраць рэвізіянізму. Усё ж такі У. Гамулка давёў да ліквідацыі сельскагаспадарчых вытворчых каапе-

ратываў (калгасаў) і выпусціў **28 кастрычніка** на сваболу каталіцкага кардынала С. Вышынскага і іншых каталіцкіх епіскапаў, і пачаткова згадзіўся ўвесці ўрокі рэлігіі ў школах. Таксама выпусціў з турмаў арыштаваных людзей у Познані.

**29 кастрычніка** Ізраіль заняў увесь паўвостраў Сінай. Англія і Францыя бамбілі Егіпет, высадзілі там свой дэсант. Аднак пад націскам ЗША і ААН пасля вывелі сваіх салдат з Егіпета, а Ізраіль – з Сіная. Аднак Егіпет страціў многа салдат і ваеннай тэхнікі. На Сінайскі паўвостраў увайшлі салдаты ААН.

**Ад 1 лістапада** павысілі мне асноўную зарплату да 1500 зл. і да яе даходзіла яшчэ 90-100% прэміі ды 64 зл. сталічнага дадатаку.

Хацеў бы напісаць некалькі слоў аб нашых сведках на нашым шлюбе, якія трымалі ў царкве над намі кароны. Былі гэта браты Сяргей і Мікалай Хмяльніцкія. Яны былі праваслаўнымі беларусамі з-пад Гродна, якія яшчэ да вайны жылі і працавалі ў Варшаве. Старэйшы Сяргей ажаніўся з полькай Данутай. Ён дагаварыўся з ёю, што сыноў будуць хрысціць у царкве, а дочак у касцёле. І не меў ён шчасця, бо жонка яму нарадзіла тры дачкі, якія ахрысціла ў касцёле. Ды жылі яны вельмі згодна, ён хадзіў у царкву маліцца, а жонка ў касцёл. Ён быў хросным бацькам майго сына Юры. Калі Сяргей памёр, то паніхіду з яго целам адслужылі спачатку ў праваслаўным саборы ў квартале Прага, а пасля ў каталіцкім касцёле на Павонзках, дзе яго пахавалі ў сямейнай грабніцы. Яго жонка Данута дажыла да 94 гадоў.

Мікалай Хмяльніцкі таксама ажаніўся з полькай перад вайной і ў 1939 г. забралі яго ў польскую армію і папаўся ён, як сяржант, у савецкі палон. У савецкім палоне быў ён пакуль не арганізавалі там армію пад камандаваннем ген. У. Андэрса. Яго скіравалі ў тую армію, быў ён лёгка паранены пад Монтэ Касіна ў Італіі і пасля трапіў у Англію. Вярнуўся ён непатрэбна да жонкі ў Варшаву і заспеў яе з іншым мужчынам, з якім янажыла без шлюбу. Дзяцей у яе не было. З жонкай ён развёўся і жыў адзін. Меў часам жанчыны полькі ды з імі жыў без шлюбу. Ён мне гаварыў, што калі б ведаў, што яго жонка жыве з другім, ніколі не вярнуўся б у Польшчу. У 1946-56 гг. яго, як салдата арміі ген. Андэрса, праследавалі. Пасля стаў саратнікам. Калі памёр яго брат Сяргей, ён хацеў жаніцца з яго жонкай, ды



*Пястув, 1956 г. Жонка аўтара Ніна з сынам*

Данута сказала, што яна ўжо старая і адмовіла. Атрымаў ён невялікую кватэру недалёка ад маёй новай кватэры, якую ён пасля прадаў і пайшоў у дом для састарэлых франтавікоў, дзе памёр і пахавалі яго на праваслаўных могілках на Волі.

У мяне наканец цёшча згадзілася пераехаць на зіму ў Варшаву-у, дзе не трэба было абаграваць драўнінаю печак. У меншы пакой быў устаўлены жалезны высокі ложак для сына, з якога ён сам не мог бы выйсці ды там ён спаў. Цёшча спала ў меншым пакоі ля ўнука на тапчане, а мы ў большым пакоі на раскладной канапе. Жонка Ніна другі раз пад канец года стала цяжарнай. І так у Варшаве мы дачакаліся 1957 г.

**Пры канцы года** ў бюро змянілі кіраўніка нашай праектнай групы. Генрыха Рудзінскага перавялі на пасаду галоўнага спецыяліста, а на яго месца нам далі інжынера Казіміра Шасталу. Ён хутка павысіў мне зарплату, бо я яму быў патрэбны як інжынер, які добра ве-

дае рускую мову, а таксама нямецкую і англійскую. Я пачаў у бюро хадзіць на курс французскай мовы. Вучыўся аднак на курсе толькі год, а пасля з-за частых камандзіровак на электрастанцыю Конін, мусіў гэтую вучобу закончыць.

# 1957

Жылі мы ў Варшаве. Бліжэй нам было да працы. Даязджалі мы да працы на вул. Кручу толькі адным аўтобусам. Ніна ехала па вул. Кручай два аўтобусныя прыпынкі далей за мяне. Ніна працавала бухгалтарам, а я рабіў праекты для электрастанцыі Конін, дзе збудавалі ўжо галоўны будынак, мантавалі кацёл, турбіну, генератар і трансфарматар. Я туды штотыдзень ездзіў на аўтарскі нагляд і калі трэба было наносіў на месцы папраўкі ў сваіх праектах. Я меў там выдзелены службовы пакой у гасцінным доме метраў 200 ад электрастанцыі – плацілі мне не толькі за камандзіроўку. Меў я там прызнаную адну чацвёртую стаўкі інжынера ад мая да канца 1957 г., якую мне плацілі кожны месяц. У маім гасцінным пакоі я меў свой ложак, стол і чарцёжную дошку. У гасцінным доме была сталовая і амбулаторыя.

У ЗША прэзідэнтам стаў Дуайт Эйзенхаўэр, а ў Польшчы яшчэ Уладзіслаў Гамулка цешыўся папулярнасцю сярод палякаў, таму на выбарах ў польскі сейм, якія прайшлі **20 студзеня**, выбралі дэлегатаў выстаўленых яго групай. На выбарах заахвочвалі, каб заходзіць за заслоны з бюлетэнямі перад тым, як іх укінуць ў выбарчую скрыню. Гэтак было першы і апошні раз. **27 лютага** прэм’ер-міністрам назначылі зноў Ю. Цыранкевіча.

У сувязі з тым, што я атрымаў кватэру ў Варшаве на сябе і на жонку, Ніна стала жыхаркай Варшавы і галасавала ў Варшаве, а не ў Пяставе. Цёшча ў Пястаў на галасаванне не паехала. Часта да мяне прыязджала мая матка з вёскі Чаромхі, якая спала на раскладным ложку і выходзіла з сынам на панадворак да пясочніцы. Цёшча даглядала сына і варыла нам абеды. Сын пачаў ужо выгаварваць многія словы. Мая матка не гаварыла чыста па-польску, таму суседзі хутка даведаліся, што я беларус і нашы імёны аб гэтым сведчылі. Аднак з гэтай прычыны нейкай варожасці я не сустрэў. Ніна часамі

ў працы мела сярод жанчын нейкія з'едлівыя словы. Я ў працы іх не адчуваў. Кіраўнік Ніны ў працы Ежы Карнацкі часта выпускаў яе патаемна з працы ў царкву, калі было праваслаўнае свята. Адзін раз ён забраў яе са сходу, сказаў, што яна павінна ісці ў банк, а выслаў яе ісці ў царквуна плашчаніцу. „Ідзі, – сказаў, – сёння ў цябе свята, толькі вярніся пад канец працы". Пасля Е. Карнацкі ўзяў развод са сваёй жонкай-каталічкай, Зосяй, якая працавала разам з Нінай, і ажаніўся з адной праваслаўнай жанчынай, Тамарай, і яна яго пахавала пасля смерці на праваслаўным магільніку на Волі ў сваёй сямейнай грабніцы недалёка ад царквы. Там яна з ім ляжыць, як Тамара Карнацкая.

У будынку, які стаяў на другім баку нашага панадворка пры вуліцы Лавіцкай, жыла руская сям'я, якая прыехала ў Польшчу з Югаславіі. Старэйшая жанчына, якую называлі Дода, мела прозвішча Мецёлкіна. Яна з мужам пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўцяклі з Расіі ў Югаславію – яны жылі ў Бялградзе да прыходу партызан Ціта. У іх там была дачка Тамара і сын Юра. Дачка Тамара яшчэ ў Бялградзе выйшла замуж за працаўніка польскага пасольства, Шаляху, прыехала ў Варшаву з мужам, дзе яны атрымалі некалькі год перад намі кватэру 48 кв. метраў. У Тамары нарадзіліся дачка і сын – калі мы пазнаёміліся з імі, яна з мужам мела ўжо развод і жыла толькі з маткай і дзяцьмі. Пасля выезду Тамары ў Польшчу ўлады камуністаў Югаславіі пачалі выганяць многіх рускіх эмігрантаў з Югаславіі, якія супрацоўнічалі з немцамі або былі праціўнікамі камунізма і тады памёр муж Доды. Дода з сынам прыехала ў Варшаву да дачкі Тамары. Брат Тамары, Юра, хутка ажаніўся з нейкай полькай, а Дода жыла разам з Тамарай і даглядала яе дзяцей, кватэру і варыла ім.

З чатырох цётак маёй жонкі Ніны ў Бялградзе,якія былі дочкамі рускага царскага генерала-лейтэнанта Віктара Іванавіча Чэкмарова, уцёкшага ў 1920 г. з арміяй Урангеля з сям'ёй у Югаславію (яго біяграфію лёгка можна знайсці ў рускім інтэрнэце на Google) таксама дзве яго дачкі, Канкордзія і Анна, якія выйшлі ў Бялградзе замуж за братоў Гансонаў і перад вайной там жылі, у 1945 г. мусілі ўцякаць ад партызан Ціта. Канкордзія з мужамі дзяцьмі папала ў ЗША ў Бастон, а сям'я Анны – у Лондан. Цётку Надзею Фармакоўскую, як і яе мужа цітаўцы не праследавалі, бо акадэмік Уладзімір Фармакоўскі

быў ім патрэбны як вучоны. А чацвёртую цётку Наталію цітаўцы арыштавалі і трымалі два месяцы ў турме. Выцягнуў яе з турмы У. Фармакоўскі, які прадставіў самаму маршалу Броз Ціту просьбу, што гэта яго сваячка і запэўніў, што яна не будзе шкодзіць новай уладзе камуністаў. Толькі дзве засталіся ў Бялградзе пасля вайны і да іх мы ездзілі ў 1968 г., аб чым я пісаў ва ўспамінах.

Тамара Шаляха працавала ў радыёкамітэце ў Варшаве. Яна са сваёй маткай часта прыходзілі да нас і часта Дода пільнавала на панадворку майго сына Юру, калі ён гуляў у пясочніцы, а цёшчы трэба было пайсці дамоў.

**20 сакавіка** пачалі выпускаць у Варшаве першы польскі аўтамабіль „Сірэна-100", які пасля мадэрнізавалі на „Сірэну 101" і вышэйшыя нумары. У Варшаве закончылі яго прадукцыю ў 1972 г., а тады пачалі яго выпускаць у Бельску-Бялай да 1983 г. Раней у Варшаве прадукавалі аўтамашыны „Варшава" на савецкай ліцэнзіі „Пабеды".

**26 сакавіка** падпісалі згоду з СССР на новую рэпатрыяцыю палякаў з СССР. У 1958 г. прыехала многа палякаў, сярод іх і вядомы спявак, кампазітар і музыка Чэслаў Немэн (1939-2004). Сапраўднае яго прозвішча Выдрыцкі – ён раней жыў на Гродзеншчыне ў Старых Васілішках.

Час ад часу прыязджаў да нас мой сябра з Крынак, Вадзім Кішкель, з якім я вучыўся ў чацвёртым класе Беларускай гімназіі ў 1946 г. у Бельску-Падляшскім. Ён быў ужо інжынерам-механікам і толькі што ўзяў ва Уроцлаве развод з Раісай, дачкой вядомага тады праваслаўнага святара Сцяпана Бягуна, якога я калісьці бачыў на літургіі ў царквеў Яленяй Гуры ў 1953 г. Дачкі яго і яго я не ведаў. Аказалася, што В. Кішкель ва Уроцлаве жаніўся з яго дачкой і жыццё ў іх не склалася добра. В. Кішкель перажываў развод і абвінавачваў жонку ў эгаізме і непрымірымасці. Працаваў ён тады на поўдні Польшчы і часта прыязджаў ў Варшаву ды начаваў у мяне.

**У чэрвені** я завёз цёшчу з сынам ізноў у Пястаў. Я туды ўдзень прыязджаў, каб пабачыцца з сынам, а на ноч ехаў сам, ці з Нінай, у Варшаву на сваю кватэру. Я часта выязджаў у камандзіроўку ў Конін і ў іншыя гарады, Ніна спадзявалася дзіцяці і 7 ліпеня я яе завёз у бальніцу, якая была па вуліцы Мадалінскага, недалёка ад нашага дома і яна ў гэты дзень радзіла дачку.

**З 1 мая 1957 г.** у Варшаве польскае чорна-белае тэлебачанне пачало вяшчаць праграмы – 5 дзён у тыдзень. Рэдка хто яго глядзеў, бо ў людзей не было тэлевізараў. Часам у магазінах паказваліся замежныя тэлевізары і хаця яны былі дарагія, то хутка іх разбіралі. **У красавіку 1957 г.**, калі я рана падыходзіў да дзвярэй майго офіса, я заўважыў паблізу ў магазіне пад дзвярыма чаргу. Там стаялі знаёмыя з офіса. Калі я іх запытаў, па што стаіць чарга, яны мне сказалі, што тут запісваюцца на куплю польскіх тэлевізараў „Вісла", якія пачалі ў Польшчы рабіць на савецкай ліцэнзіі. Я падпісаўшы прысутнасць у офісе, стаў у чаргу і запісаўся на куплю тэлевізара. І вось, прыйшло паведамленне, што **9 ліпеня** я магу адабраць тэлевізар з магазіна, калі заплачу нейкую суму грошаў. І ў гэты дзень я ўзяў таксі, забраў тэлевізар „Вісла А", а пасля жонку з дачкой з бальніцы.

Будучы ў Ленінградзе я ўжо ў 1948 г. нявраз аглядаў тэлебачанне ў інстытуце і гэты тэлевізар я ведаў. Калі я паставіў яго ў пакоі на прыгатоўлены ўжо столік і падключыўда хатняй антэны, то паказалася на ім праграма тэлебачання. Нават, калі дачка ў ложку пачала капрызіць і я яе ўзяў на рукі і сеў перад тэлевізарам – яна на яго паглядзела, то супакоілася. Тэлевізар „Вісла А" на савецкіх электронных лампах быў з невялікім экранам 18х24 см. Трэба было адкрыць накрыўку зверху яго, бо там былі шарыкі для настройкі гуку і карціны – там быў таксама галоснік. Тэлевізар „Вісла" служыў мне гадоў пяць. Пасля я яго выменіў на венгерскі тэлевізар з большым экранам.

На наступны дзень я адвёз Ніну і дачку ў Пястаў. Сам я узяў месячны водпуск і быў там разам з імі. У жніўні пачаў зноў працаваць, праектаваць і ездзіць у камандзіроўкі, пераважна ў Конін. У жніўні ахрысцілі дачку ў праваслаўным саборы св. Марыі Магдаліны. Хросным бацькам быў мой сябра В. Кішкель, а хроснай маткай – Тамара Шаляха, аб якой я напісаў вышэй. Прыём для гасцей быў зроблены ў нашай малай кватэры на вул. Лавіцкай. Цёшча і жонказ сынам прыехалі на гэты дзень з Пястава ў Варшаву. На прыёме былі матка Тамары, сама Тамара з дзяцьмі і Вадзім Кішкель. Пасля прыёму цёшча і Ніна з дзяцьмі вярнуліся ізноў у Пястаў і былі там да канца верасня. Пасля ўсе вярнуліся ў Варшаву.

**4 ліпеня** ў СССР М. Хрушчоў пры дапамозе маршала Г. Жукава выкінуў з Прэзідыума ЦК КПСС і з ураду Л. Кагановіча, Г. Мален-

кова і В. Молатава, а **26 кастрычніка** выслаў М. Хрушчоў маршала Г. Жукава ў Югаславію ды Албанію і калі ён там быў, то прыгатовіў яму адстаўку з міністра абароны. Міністрам абароны назначыў тады маршала А. Васілеўскага.

**4 кастрычніка** ў СССР быў выпушчаны ў неба першы спадарожнік зямлі („Спутнік I"). Пісалі, што амерыканцы вельмі напужаліся, што Савецкі Саюз цяпер апярэдзіў іх і мае ракеты, якія могуць даляцець да ЗША. 3 лістапада СССР выпусціў у космас у „Спутніку II" сабаку Лайку, якая не вярнулася на зямлю, а загінула ў космасе.

Я амаль штотыдзень купляў „Ніву" і калісьці прачытаў там верш В. Шведа, якога я ведаў яшчэ з 4 класа Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім у 1946 г. Тады і я напісаў верш і выслаў яго ў „Ніву". Першым маім вершам было „Падляшша", які я пабачыў на старонцы „Нівы" дзесьці на пачатку 1958 г. Пасля паказаліся ў „Ніве" мае іншыя вершы.

Беларускае школьніцтва на Беласточчыне пашыралася. Было ўжо 57 пачатковых беларускіх школ, а ў 111 школах беларуская мова была як прадмет. Былі два агульнаадукацыйныя беларускія ліцэі – у Бельску і Гайнаўцы, а ў міхалоўскім ліцэі была беларуская мова як прадмет. У Беластоку пры Настаўніцкай завочнай студыі быў арганізаваны Аддзел беларускай філалогіі, а пры Варшаўскім універсытэце ўжо была беларуская кафедра. Звыш 15 тыс. вучняў навучаліся беларускай мове.

Пад канец года БГКТ выдала свой першы „Беларускі каляндар". Рэдактарам яго быў Мікалай Баравік.

**2 кастрычніка** закрылі студэнцкі тыднёвік „Po prostu". У. Гамулцы не спадабаліся яго артыкулы. Пачаліся пратэсты студэнтаў у Варшаве, якія працягваліся чатыры дні. Міліцыя разагнала студэнтаў, адна асоба загінула, многія былі паранены і арыштаваны. Рэдактары, як Ежы Урбан, які ў 1981-1989 быў прадстаўнікам па справах прэсы і выступаў супраць „Салідарнасці", а цяпер выдае часопіс „Nie", доўга не маглі пры У. Гамулцы атрымаць працы журналіста.

**З 1 кастрычніка** я атрымоўваў аснаўную пенсію 1600 зл. і 90-110% прэміі і 71 зл. сталічнага дадатку. І так дачакаліся мы 1958 г.

# 1958

У 1956-59 гадах фінансавае становішча Польшчы было добрае. Абарот грошай павялічыўся на 30% і з 1956 да 1958 гг. нацыянальны даход павялічыўся амаль на 17%, а інфляцыя была невялікая. Гады 1956-58 паменшылі напругу на рынку, павялічылася вытворчасць і палепшылася матэрыяльнае становішча насельніцтва. Рэальная заработная плата ў нацыянальнай гаспадарцы ўзрасла ў 1956-58 гг. на 24,8%. Амаль зніклі чэргі ў прадуктовых крамах, у Варшаве яшчэ былі невялікія чаргі за мясам. Багацейшыя куплялі аўтамашыны, можна было купіць без чаргі радыёпрыёмнікі, пыласосы, халадзільнікі, электрычныя пральныя машыны і дарагія замежныя чорна-белыя тэлевізары. Паявілася пачуццё „малой стабілізацыі" і надзея, што будзе лепш. Не было беспрацоўя. Не бачыў я ў той час, каб бяздомныя людзі шукалі нечага ў сметніцах, як часта гэта сустракаю цяпер.

На XII пленуме ЦК ПАРП вырашылі паскорыць індустрыялізацыю ды гарантаваць такім чынам працу моладзі, бо прырост насельніцтва быў вялікім.

**У лютым** Сейм прыняў пастанову аб падрыхтоўцы ў 1960-66 гг. святкавання 1000-годдзя польскай дзяржавы аналагічна, як каталіцкі касцёл гатовіўся святкаваць у 1966 годзе 1000-годдзе хрышчэння Польшчы, а ў чэрвені вырашылі таксама паставіць на полі Грунвальдскай бітвы помнік і рыхтавацца да святкавання 550-годдзя гэтай бітвы ў 1960 г.

У 1958 г. часамі я і па пяць сутак праводзіў у Коніне, дзе рыхтаваліся ўжо да запуску першага блока 55 мегаватаў. Яго назвалі другім блокам, бо першым блокам быў генератар чэхаславацкай фірмы „Шкода" магутнасцю 28 мегаватаў. Першы кацёл служыў таксама для агравання дамоў у пабудаваных новых шматпавярховых будынках ля самага чыгуначнага вакзала ў Коніне, дзе жылі працаўнікі электрастанцыі. Я быў на сінхранізацыі першага блока на электрастанцыі Конін. Пасёлак ля вакзала ў Коніне зусім змяніўся. Пабудавалі там вялікія гарадскія блокі для працаўнікоў і прыгожыя крамы ды сталовыя. Такіх вялікіх супермаркетаў, як цяпер, тады не будавалі.

У Коніне ў вольны час я час ад часу пісаў вершы ў „Ніву". Я меў там самастойны пакой. Аднак многа вольнага часу ў мяне не было,

бо часта адбываліся нарады на розныя вытворчыя тэмы. Прыязджалі таксама іншыя праекціроўшчыкі і чарцёжнікі з бюро праектаў і трэба было быць з імі, каб даваць ім працу на месцы. Часта трэба было там наносіць папраўкі ў праекты, бо мянялася апаратура або знаходзілі нейкую памылку. Чарцёжнікі мелі ў пакоях свае дошкі для чарчэння і там працавалі. Камп'ютэраў тады яшчэ не было. Там былі амбулаторыі, сталовая і ларок.

**30 сакавіка** прайшоў у Беластоку другі з'езд БГКТ, на якім заклікалі, каб у кожнай вёсцы на Беласточчыне быў гурток БГКТ, каб БГКТ усю сваю дзейнасць скіравала для ўмацавання народна-дэмакратычнай улады ў Польшчы і каб у кожнай беларускай вёсцы была беларуская школа. А тады было ўжо 57 школ з беларускай мовай навучання і 116 школ, дзе беларуская мова навучалася як прадмет. У пачатковых школах 8861 дзіця вучылася беларускай мове і былі, як і сёння, два беларускія ліцэі – у Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім. Старшыню БГКТ на з'ездзе выбралі завочна. Стаў ім Уладзімір Станкевіч, былы дзяяч КПЗБ. Намеснікамі старшыні выбралі Аляксандра Давідзюка і Піліпа Кізевіча, а сакратаром – Віктара Шведа. Кадэнцыя выбранага Галоўнага праўлення БГКТ была двухгадовай. Стварылі на з'ездзе эканамічную камісію, якаяператварылася ў прамыслова-епрадпрыемства „Бэтэска", у якім працавала пасля 250 чалавек.

Прыйшло поштай запрашэнне ў Беласток на семінар у рэдакцыю „Нівы". Я паехаў і пазнаёміўся з галоўным рэдактарам „Нівы" Георгіем Валкавыцкім, Сакратам Яновічам, Яшам Буршам ды спаткаўся з Віктарам Шведам, з якім я ўжо некалькі год не бачыўся. Аказалася, што ў Варшаве жылі мы ў тым самым будынку на вуліцы Лавіцкай, толькі мелі розныя лесвічныя ўваходы. Хутка пазнаёмілася мая сам'я з яго сям'ёй і часта бывалі мы адзін у аднаго ў гасцях, пакуль не пераехалі мы ў 1962 г. на іншую кватэру, а яго сям'я не распалася.

Я таксама быў у рэдакцыі „Нівы" **8 чэрвеня** на першым з'ездзе Беларускага літаратурнага аб'яднання, дзе была прынята яго назва – „Белавежа". Доказам гэтаму з'яўляюцца два здымкі на 7-й стар. у каталогу Аб'яднання .„Белавежа" з 2003 г. Старшынёй „Белавежы" выбралі Георгія Валкавыцкага. З-за службовых абавязкаў я не заўсёды мог прыехаць на семінары, якія арганізавала тады „Белавежа", але на



*У кватэры аўтара па вул. Лавіцкай у Варшаве. Тэлевізар „Вісла”, хададзільнік „Саратаў” (на ім ёлка)*

многіх быў. Ад Віктара Шведа я даведаўся, што ў Варшаве ёсць аддзел БГКТ. Я запісаўся ў яго. Аддзел знаходзіўся на вуліцы Сенатарскай. Я туды прыходзіў часта і пазнаёміўся з П. Ластаўкай, Ю. Туронкам і пасля з Баршчэўскім ды іншымі. Меў там у наступныя гады два ці тры аўтарскія вечары, у час якіх я чытаў свае вершы.

**15 чэрвеня** польскае радыё ў Беластоку пачало трансляцыю 15-хвілінных радыёперадач на беларускай мове.

**17 чэрвеня** расстралялі былога венгерскага прэм’ер-міністра з 1956 г. Імрэ Надзя.

Калі элекрастанцыя ў Коніне пачала працаваць, я далей праектаваў наступныя яе блокі. Аднак у ліпені і мне, і Ніне далі месячны

водпуск ды мы разам з сынам і дачкою паехалі ў вёску Чаромху, дзе прабылі да паловы жніўня. Было там цесна, бо ў маёй сястры было чатыры дачкі і акрамя яе самой была там яшчэ мая маці. Так што ў хаце было з дзяцьмі нас 11 чалавек. Мы занялі найбольшы пакой у доме. Мая дачка Іра пачала хадзіць, калі мела 11 месяцаў. Нашы дзеці гулялі са старэйшымі дочкамі сястры. Хадзілі мы з імі часта ў лес, у поле, а ў Пяставе адпачывала маці Ніны.

У Маскве М. Хрушчоў баяўся, каб не страціць уладу і **27 сакавіка** звольніў М. Булганіна ды сам стаў старшынёю Савета міністраў СССР, а **6 верасня** выкінуў яго з ЦК КПСС. 30 ліпеня М. Хрушчоў сустрэўся ў Кітаі з Мао Дзедунгам. **14 ліпеня** ў Іраку наступіў дзяржаўны пераварот. Быў забіты кароль Фейсал і яго наследнік, а ўладу ўзяў кароль Іарданіі Гусейн.У сувязі з тым у Ліван ўвайшлі салдаты ЗША.

**30 студзеня** ЗША выслалі ў космас свайго штучнага спадарожніка Зямлі „Эксплорэра І", а **21 снежня** Шарль дэ Голь быў абраны прэзідэнтам Францыі.

**У чэрвені** Вадзім Кішкель паведаміў мяне, што ён жэніцца ў Лодзі, што бярэ за жонку сваю ранейшую знаёмую, якую пазнаў, калі вучыўся ў Палітэхніцы ў Лодзі, Лену Бабруўка. Сям'я яе была праваслаўнай. Прасіў мяне, каб я на царкоўным шлюбе быў яго шафёрам. Паехаў я з Нінаю ў Лодзь, дзе ён нас сустрэў, пазнаёміў нас з Ленай Бабруўкай, з яе сястрой-лекарам Насцяй і з яе бацькамі. Былі таксама яго бацькі, з якімі я пазнаёміўся, калі быў раней у Крынках. Трэба было мне ў царкве трымаць над яго галавою карону. Крыху баяўся, што адной рукой не вытрымаю, аднак усё пайшло добра. Пасля быў я з Нінай на шлюбным прыёме, а вечарам вярнуліся мы цягніком у Пястаў.

На чаромхаўскім фэсце на Ільлю былі мы яшчэ ў Чаромсе – сустрэў я там сябру Мікалая Кердалевіча, з якім вучыўся ў Ленінградзе ў адным інстытуце, бо на Ільлю ён прыехаў з жонкаю і дзяцьмі да сваіх бацькоў. Яго жонка Люда пазнаёмілася тады з маёй жонкай Нінай. Ён пачаткова працаваў у праектным бюро ва Уроцлаве і быў там разам з жонкаю і дзяцьмі, а цяпер, за намоваю жонкі, пераехалі ў Бельск-Падляшскі да яе бацькоў і там жылі ды працавалі. Тады яшчэ нішто не прадказвала, што праз год яны разыдуцца.

У сувязі з валікім натуральным прыростам насельніцтва **24 верасня** У. Гамулка кінуў заклік пабудаваць тысячу школ на 1000-годдзе Польшчы. Год 966, калі князь Мешка I прыняў хрысціянства з Чэхіі, палічылі пачаткам Польшы, хаця княства польскае існавала многа дзясяткаў гадоў раней. Як паказваюць археалагічныя раскопкі і летапісы, не толькі была дзяржава ды насельніцтва сённяшней Малапольшчы, Сілезіі, былога княства Вісліцкага прыняло хрост у IX стагоддзі з Вялікага Княства Мараўскага, дзе праводзілі хрысціянскую місію апосталы славян Кірыл і Мяфодзій, а пасля іх вучні. На гэтых землях былі хрысціянскія епіскапы і цэрквы пабудаваныя да 966 года.

Першую школу-тысячагодку аддалі ў Чэлядзі **26 ліпеня 1959** г., а **4 верасня 1965 г.** – закончылі будаваць 1000 школ. Да канца 1966 г. аддалі дзецям 1416 школ. У сувязі з напружанай міжнароднай сітуацыяй школы ў той час у гарадах праектавалі і будавалі так, каб лёгка іх можна было замяніць на шпіталі і пад кожнай школай у гарадах будавалі бамбасховішча. Цяпер з-за малога натуральнага прыросту па вёсках многія школы-тысячагодкі стаяць пустыя, або гмінныя ўлады прадалі іх ці разабралі.

**У 1958 г.** самалёты ЗША часта парушалі тэрыторыю СССР і на поўначы, і на поўдні. СССР слаў пратэсты, але гэта нічога не памагала і 2 верасня савецкія самалёты збілі амерыканскі самалёт С-130 на тэрыторыі СССР.

**28 верасня** ездзіў я на сінхранізацыю першага блока ў Польшчы магутнасці 100 мегаватаў у Скавіне.

**Ад 1 верасня** я атрымоўваў аснаўную пенсію 2400 зл. і прэмію 100-110% і стаў старэйшым праекціроўшчыкам.

**14 снежня** прэзідыум ГП БГКТ вырашыў выдаць зборнік вершаў членаў літаб’яднання **– 10 красавіка 1959 г.** ён выйшаў друкам пад загалоўкам „Рунь”.

Барыс Пастэрнак з СССР атрымаў Нобелеўскую прэмію за літаратурны твор „Доктор Живаго”, у якім аўтар апісаў жыццё ў часы грамадзянскай вайны пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі. Замест таго, каб цешыцца, што маюць новага нобелеўскага лаўрэата, другога пасля І. А. Буніна, М. Хрушчоў, а за ім уся савецкая прапаганда ў СССР, накінуліся на пісьменніка, абвінавацілі яго ў паклёпе на кастрычніцкую рэвалюцыю. Выкінулі яго з Саюза савецкіх пісьменнікаў

ды змусілі адрачыся ад Нобелеўскаў прэміі. Супраць яго выступілі многія савецкія пісьменнікі, як Л. Ашанін, А. Безыменскій, Б. Слуцкій. Жадалі выгнаць яго з СССР. Я прачытаў гэтую кнігу і праглядзеў на відэа амерыканскі фільм зняты на аснове гэтай кнігі ды не знайшоў там падстаў для такога цкавання і пераследу пісьменніка, ад якога ён памёр у 1960 г., быццам на рака лёгкіх. Пасля яго смерці А. Галіч напісаў і спяваў аб ім песню з такімі словамі:

*До чего же мы гордимся,*
*сволочи,*
*Что он умер в своей постели...*
*(- - -)*
*А над гробом встали мародёры,*
*И несут почётный караул,*
*Ка-ра-ул!*

# 1959

**2 студзеня** СССР выслаў ракету Луна 1 „Мечта", якая даляцела на адлегласць 6 тыс. км ад Месяца і стала спадарожнікам Сонца.

**7 студзеня** першая дзяржава прызнала ўладу Фідэля Кастра – былі гэта ЗША.

Эйфарыя, з якой у верасні 1956 г. польскае насельніцтва Варшавы сустракала першага сакратара ПАПР Уладзіслава Гамулку, амаль цалкам загінула да 1959 г. На IX пленуме ЦК ПАРП **15-17 мая** У. Гамулка выступіў супраць так званых рэвізіяністаў, гэта значыла супраць партыйных дзеячаў, якія хацелі пашырыць дэмакратыю ў дзяржаве. З ПАПР выкінулі тады больш як 15% іх членаў. У асобнай пастанове пленума асудзілі сталінскія рэпрэсіі і выкінулі з ПАРП Якуба Бермана (найбліжэйшага супрацоўніка Баляслава Берута), Станіслава Радкевіча (міністра публічнай бяспекі) і Мечыслава Меткоўскага (віцэ-міністра публічнай бяспекі). Аднак У. Гамулка быў праціўнікам дэмакратычных рэформаў. ПАРП надалей заставалася кіруючай партыяй у дзяржаве, далей абавязвала цэнзура, цэнтральнае планаванне ў эканоміцы ды замежная палітыка Польшчы была падпарадкавана СССР. У. Гамулка выступаў як супраць дагматызму, так і супраць рэвізіянізму, не згадзіўся, каб у партыі былі фракцыйныя

групы. Заатакаваў ён Лешка Калакоўскага, Віктара Варашыльскага і Рамана Зіманда. Аднак выступіў ён супраць прымусовай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і амаль усе кааператывы (калгасы) былі распушчаны. Яго крытыкавалі за гэта такія дагматыкі як Казімеж Міяль, Віктар Класевіч і Станіслаў Лопат. З сакратарыята ЦК адышоў Эдвард Охаб, а ўвайшлі Ежы Мараўскі і Зэнан Клішка. Сакратаром ВК ПАРП у Катавіцах быў пастаўлены Эдвард Герак. Змянілі 10 з 17 сакратароў ваяводскіх камітэтаў ПАРП. ІІІ з'езд ПАРП у сакавіку 1959 г. замацаваў У. Гамулку і ён атрымаў поўны кантроль над ПАРП, але давер насельніцва траціў.

Перамены ў польскім палітычным жыцці мелі ўплыў на сітуацыю нацыянальных меншасцяў. Нацыянальным грамадска-культурным таварыствам вызначылі акрэсленае месца ў палітычнай сістэме дзяржавы. Змушалі іх падтрымліваць праграму ПАРП у асяроддзях нацыянальных меншасцяў, таварыствы павінны былі хваліць партыю і сацыялізм.

**У лютым 1959 г.** сакратар Камісіі ЦК ПАРП па нацыянальных пытаннях Аляксандр Слаў папракнуў дзяржаўную адміністрацыю, а асабліва Міністэрства культуры і мастацтва, што ў іх працы ў асяроддзі нацыянальных меншасцяў звяртаецца малая ўвага на свецкі светапогляд у выхаванні. Некалькі дзён пасля ІІІ З'езда ПАРП Камісія ЦК па нацыянальных пытаннях выдала ўказкі, як павінна праходзіць праца ў асяроддзі нацыянальных меншасцяў. Таварыствы атрымалі задачу актывізацыі сялянскіх масаў, папулярызацыі ПГРаў і сельскагаспадарчых кааператываў. У ліпені 1959 г. улады таварыстваў атрымалі дакумент, які называўся „Кірункі працы грамадска-культурных таварыстваў нацыянальных меншасцяў пасля ІІ пленума ПАРП". Дакумент прымушаў таварыствы пераконваць нацыянальныя меншасці да рэалізацыі праграмы партыі.

**У лістападзе 1959 г.** камісія апрацавала новы дакумент, які называўся „Прапановы ў справе далейшага развіцця культурна-асветнай працы сярод нацыянальных меншасцяў у Польшчы", які стаў інструкцыяй для ўлад таварыстваў.

**Зіму і вясну** жылі мы з дзяцьмі і цешчай ў Варшаве і ездзілі, як раней, аўтобусам на працу. Я далей праектаваў наступныя блокі на электрастанцыі Конін. Акрамя гэтага далі мне праектаваць аўтама-

тыку ў Фабрыцы штучных валокнаў ва Уроцлаве. Я ездзіў туды часта ў службовую камандзіроўку, жыў у гасцініцы „Палёнія" і пасля працы сустракаўся са знаёмымі ва Уроцлаве, з якімі пазнаёміўся ўжо раней. Былі там знаёмыя жонкі Ніны, Кавалеўскі Леанід з жонкаюі дачкою ды сынам, якія таксама ўцяклі з ровенскай вобласці ад бальшавікоў, Трэнбачкевіч Л. з жонкай Варварай і іншыя. Варвара мела дзявочае прозвішча Львова, Ніна з ёй вучылася паўгода  да паловы чэрвеня 1944 г.у Варшаве ў рускай гімназіі, калі яна разам з бацькам і мачахай уцяклі з Сарн. Часта з Уроцлава я ездзіў у Конін.

**У чэрвені** завезлі мы маці Ніны з дзяцьмі ў вёску Чаромху, дзе яна правяла з імі цэлы месяц, а ў ліпені я прыехаў туды з Нінай, а маці Ніны сама вярнулася ў Пястаў і адпачывала. А я з Нінай і з дзяцьмі асталіся там на цэлы ліпень.

Я з Нінай пакінуў на адзін дзень дзяцей з маёй мамай, а самі і паехалі мы ў Бельск-Падляшскі да маіх знаёмых і правялі там некалькі гадзін. Хацелі паехаць на наступны дзень у Белавежу, аднак на вакзале ў Гайнаўцы сустрэлі мы нечакана нашага знаёмага Алега Сланіцкага, брата опернай спявачкі Галіны Сланіцкай (1931-2000) з Варшаўскай оперы, якога я ведаў яшчэ ў 1946 г. з Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім, а пасля з Ленінграду, дзе ён вучыўся ў Інстытуце караблебудавання разам з Мікалаем Бірылкам (з вёскі Новае Беразова з-пад Гайнаўкі) і Грыгорыем Гнеўшавым (1926-2002) з Белавежы. З Ленінграду, аднак, і Алега Сланіцкага, і Мікалая Бірылку, польскія ўлады пасля адклікалі ў Варшаву, дзе яны закончылі Варшаўскую палітэхніку. Ніна Алега ведала з Варшавы. М. Бірылку польскія ўлады адклікалі з Ленінграду, бо нейкія партыйныя актывісты з яго вёскі напісалі данос у Міністэрства асветы ў Варшаву, што ён з'яўляецца сынам кулака.

Алег нас не пусціў ў Белавежу, а на сваім матацыкле завёз у госці на сваю невялікую кватэру. Нечакана з'явіўся туды мой сябра з вёскі Чаромхі, Мікалай Кердалевіч, з якім я вучыўся і ў Чаромсе, і ў Беларускай гімназіі ў 1946 г, і ў польскім ліцэі ім. Т. Касцюшкі ў Бельску-Падляшскім у 1946-1948 гг., а пасля ў тым самым Электратэхнічным інстытуце ў Ленінградзе ў 1948-1953 гг. і разам з ім мы ў А. Сланіцкага правялі час да вечара і я з Нінай вярнуліся цягнікам у Чаромху. Таму мы не паехалі ў Белавежу. Я тады здзівіўся, чаму М. Кердалевіч

сам без жонкі прыйшоў да Алега. Ён жыў з жонкаю, дачкою, сынам і з бацькамі жонкі Люды Асташэвіч у Бельску-Падляшскім па вул. Бранскай. Аднак я яго там аб гэтым не запытаў. Пасля даведаўся, што жонка выгнала яго з дому. Не ведаў чаму. Пасля мне сказалі, быццам бацькі жонкі Люды не вельмі яго палюбілі, пачаліся сваркі і ён ад нерваў пачаў піць. А ён, калі вярнуўся з Ленінграду, атрымаў працу ў праектным бюро ва Уроцлаве. І там жыў з жонкай. Не ведаю, чаму яны пераехалі жыць у Бельск-Падляшскі. Яны пасля ўзялі развод. Жонка яго Люда Асташэвіч таксама разам з намі і з Віктарам Шведам закончыла 4-ты клас Беларускай гімназіі ў 1946 г, а пасля разам з намі (без В. Шведа) у 1948 г. – польскі ліцэй ім. Т. Касцюшкі. В. Швед у 1946 г. паехаў у Варшаву на аднагадовы падрыхтоўчы курс у вышэйшыянавучальныя ўстановы. М. Кердалевіч, калі атрымаў пенсію, жыў у Гайнаўцы разам са сваёй сястрой Марыяй, якая была ўдавой і памёр у 1996 г., пахавалі яго на могілках у вёсцы Чаромсе.

Пасля мы з Чаромхі вярнуліся ў Пястаў, каб у верасні ізноў пераехаць на нашу малую кватэру ў Варшаве па вул. Лавіцкай. Кватэра мела толькі 30 кв. метраў плошчы: два малыя пакоі, цёмная кухня, ванная і перадпакой, Аднак там было цэнтральнае ацяпленне, газ у кухні і ў ваннай, чаго не было ў Пяставе. Мэблю мы даўно ўжо купілі з малым халадзільнікам „Саратаў" і з электрычнай пральнай машынай, на якую я атрымаў талон на электрастанцыі Конін, там яе купіў і прывёз у Варшаву. Меў першы польскі чорна-белы тэлевізар „Вісла", які я купіў яшчэ ў ліпені 1957 г. Гэтую першую кватэру я атрымаў у 1955 г. з Міністэрства энергетыкі і жылі мы ў ёй да сакавіка 1962 г.  Тады я атрымаў кааператыўную кватэру ў два разы большую.

**У верасні** Вадзім Кішкель з Лодзі – паходзіў ён з Крынак, знаёмы з Беларускай гімназіі з 1946 г. і з польскага ліцэя ў Бельску-Падляшскім (1946-1948), які цяпер быў інжынерам-механікам – папрасіў мяне, каб я быў хросным бацькам яго сына.  Ён быў з 1957 г. хросным бацькам маёй дачкі Ірэны. Я з Нінай паехалі ў Лодзь і там з сястрою яго жонкі Лены, Насцяй Бабруўка, хроснай маткай, у царкве ахрысцілі яго сына Уладзіміра. Лена Бабруўка з Лодзі была ў Вадзіма Кішкеля другою жонкай. З першай жонкай, Раісай Бягун, дачкой праваслаўнага святара Сцяпана Бягуна, якога я бачыў у час набажэнства ў 1953

г. у Яленяй Гуры, ён яшчэ раней ва Уроцлаве ўзяў развод. Дзяцей з Раісай ён не меў. Пасля Лена нарадзіла Вадзіму яшчэ дачку Ліду. Вадзім Кішкель вельмі згодна жыў са сваёю другой жонкай, часта яны прыязджалі да мяне ў госці, часам нават начавалі, аднак у 70-я гады, калі ён вяртаўся са сваім сынам з Крынак у Лодзь на сваёй машыне, недалёка Лодзі з бакавой дарогі нехта выехаў і ўдарыў у яго машыну. Вадзім загінуў на месцы, а паранены сын выздаравеў і жыве разам з сястрою ў Лодзі.

Умовы матэрыяльнага жыцця сялян у той час былі вельмі цяжкія. Акрамя падаткаў грашыма сяляне мусілі прадаваць дзяржаве ад колькасці гектараў зямлі абавязковыя пастаўкі збожжа, бульбы, малака і мяса за нізкую цану. Ліквідаваў гэтыя пастаўкі толькі Э. Герак у 1972 г. Таму мне прыйшлося тады памагаць сястры, а матцы я штомесяц высылаў нейкую суму грошай, каб яна мела на свае патрэбы. Муж сястры працаваў у той час на чыгунцы, аднак там зарплата была мізэрнай. Каб не плаціць вялікіх падаткаў ён аддаў вялікую частку зямлі дзяржаве.

Я тады ўжо запісаўся ў жыллёвы кааператыў на большую кватэру і чакаў яе. Восенню прызналі мне кватэру на 5 асоб на Празе ў пяціпавярховым блёку без ліфта  на пятым паверсе недалёка ад фабрыкі „22 Ліпеня” (ранейшы „Вэдэль”),  ды я яе не прыняў. Жыць на пятым паверсе не захацела ні жонка, ні яе маці. І я чакаў далей. Хацеў замяніць дзве кватэры, у Пяставе і па вул. Лавіцкай, на адну большую. Было некалькі прапаноў, ды ўсе не падыходзілі.

Я высылаў у „Ніву” свае вершы і яны там друкаваліся. У красавіку выйшаў  першы калектыўны зборнік вершаў членаў літаб’яднання „Белавежа”, які назвалі „Рунь”. У ім былі змешчаны чатыры мае вершы. Занялі яны ў зборнікудзевяць старонак на 72 старонкі зборніка. Аб „Руні” тады пісалі і ў Польшчы, і ў Беларусі. У „Літаратуры і мастацтве” **13 мая** быў вялікі артыкул аб „Руні” галоўнага рэдактара Янкі Шарахоўскага. Яўген Самахваленка з украінскай „Нашай культуры”назваў зборнік „Паэзія любові і тугі”. Нават напісала аб ім **18 чэрвеня**  маскоўская „Литературная газета” і ў Польшчы **28 чэрвеня** „Trybuna Literacka”, **28 чэрвеня** „Przyjaźń”, а нават **5 ліпеня** лодзінскі „Русский голос”, які тады яшчэ выходзіў. На жаль, я тады не меў часу ездзіць і выступаць з вершамі на Беласточчыне.

**13 верасня** савецкая міжпланетная станцыя Луна 2 першая даляцела да Месяца і на ім разбілася.

Пад канец года з групай інжынераў я пачаў праектаваць электрычную частку першага блока 200 мегаватаў кандэнсацыйнай электрастанцыі на буры вугаль у Тураве ля Багатыні. Элекрастанцыю мелі будаваць ля самай граніцы з ГДР і недалёка ад чэхаслявацкай граніцы. Будавалі ўжо там кар'ер для бурага вугля, якім будуць аграваць катлы ў электрастанцыі. Вугаль будзе падавацца адразу з кар'ера стужкавымі канвеерамі на вугальны склад электрастанцыі. Электрастанцыя гэта цяпер мае магутнасць 2106 мегаватаў. Цягнік з Варшавы ехаў туды ўсю ноч. Сядаў я вечарам у спальны вагон і а 9 гадзіне раніцы быў у Тураве. Начаваў я пераважна ў Багатыні, а часам у гасцініцыў Згажэльцы. Ехаў я туды на некалькі дзён. Аднačасова з Электрастанцыяй Тураў трэба было праектаваць далей элекрастанцыю Конін, якая ў 1964 г. дайшла да магутнасці 488 мегаватаў. Магутнасць двух астатніх блокаў была па 120 мегаватаў (28 + 55 + 65 + 50 + 50 + 120 + 120 = 488). І ў працы, і ў камандзіроўках, і ў кватэры ў Варшаве дачакаўся я 1960 г.

# 1960

**29 лютага** быў моцны землятрус у паўночным Алжыры, загінулі 1100 чалавек.

60-я гады прынеслі польскай народнай гаспадарцы зварот да перыяду 6-гадавога плану, за часоў Берута, бо прадпрыемствы другі раз страцілі самастойнасць, улады пачалі ствараць камбінаты, якімі лёгка можна было цэнтральна кіраваць ды якія мелі прыкметы манаполій. Пасля рабілі спробы павялічыць даходнасць нейкай групе прамысловых прадпрыемстваў, каб мець большы экспарт. Аднак, як раней, звярталі большую ўвагу на горную прамысловасць, металургію і машынную прамысловасць.

Заробкі рабочых і сялян былі нізкія. Нягледзячы на гэта, магчыма ў сувязі з тым, што не было бачнага беспрацоўя, быў вялікі натуральны прырост насельніцтва. У 1950-56 гг. быў ён вышэйшы за 19‰ кожны год, а ў 1960 г. – 15‰. З 1946 г. па 1960 г. насельніцтва Польшчы павялічылася амаль на 6 мільёнаў чалавек, а ў гарадах

на 7 мільёнаў. **6 снежня 1959 г.** было ў Польшчы 29 776 тыс. асоб. У вёсках насельніцтва паменшылася на 1 мільён чалавек, ды было іх яшчэ ў 1960 г. 51,6%.

**Да чэрвеня** жылі мы ў Варшаве, а ў бюро я праектаваў элекрычную частку далейшых блокаў электрастанцыі Конін і першага блока элекрастанцыі Тураў ды ездзіў у два месцы ў камандзіроўкі. Часам затрымоўваўся ва Уроцлаве, бо яшчэ клікалі мяне і на фабрыку штучных валокнаў. Часта начаваў у Згажэльцы і давозілі мяне туды з Турава, разам з іншымі працаўнікамі бюро, легкавым аўтамабілем, а пасля рана везлі нас ізноў на электрастанцыю Тураў.

У Коніне далі мне яшчэ ў 1959 г. талон ды ўдалося мне купіць там электрычную пральную машыну, якую я прывёз у багажным вагоне дамоў. Памог мне мой асістэнт Марыян Яніцкі, які працаваў разам са мной у Коніне. У нас прала бялізну і ў Пяставе, а пасля і ў Варшаве, жанчына з Пястава, Шымчакова. Цяпер у Варшаву прыязджала яна на цэлы дзень і прала на электрычнай пральнай машыне. Плацілі мы ёй за працу. Калі я купіў электрычную пральную машыну, ёй стала лягчэй. Бо машына была з выжымалкай вады. Гэта пральная машына служыла мне да 1975 г., пакуль я не купіў пральную машыну-аўтамат. Тады старую я вынес у падвал. Ніколі яна мне не сапсавалася. А аўтаматычная пральная машына фірмы Поляр псавалася мне некалькі разоў. Невялікі халадзільнік савецкай прадукцыі „Саратаў” я купіў ужо без талона ў краме яшчэ на вуліцы Лавіцкай. Там таксама я купіў без талона пыласос чэшскай вытворчасці.

**15 сакавіка** памёр праваслаўны мітрапаліт Польшчы Дзяніс, якога польскія камуністычныя ўлады пасля вайны саслалі ў Сасновец і які жыў там да 1960 г. Памагаў яму святар А. Семянюк, які пасля смерці мітрапаліта вярнуўся ў Варшаву. Пахавалі мітрапаліта на праваслаўных могілках у Варшаве на Волі пры царкве Яна Клімака. У сувязі з тым, што ў 1959 г. памёр прызнаны польскімі ўладамі новы мітрапаліт Макар (Аксюк Львоўскі), у 1960 г. выбралі новага праваслаўнага мітрапаліта Польшчы епіскапа Шрэтэра, які прыняў імя Цімафей.

**22 мая** быў моцны землятрус ў Чылі. Ад цунамі і ад землятруса загінулі ў Чылі і ў Японіі больш за 3000 чалавек.



*1959 г. Дзеці аўтара, Юра і Ірэна, ля ёлкі на кватэры па вул. Лавіцкай у Варшаве*

**Ад 23 сакавіка да 3 красавіка** М. Хрушчоў, па запрашэнні Ш. дэ Голя, нанёс візіт у Францыю, дзе падпісалі дагавор аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве.

**1 мая** было вельмі многа шуму, бо савецкая ракета збіла амерыканскі шпіёнскі самалёт над Свярдлоўскам. Саветы арыштавалі амерыканскага лётчыка Гары Паўэрса (1926-1977), які выратаваўся на парашуце, і пасадзілі яго ў турму на 10 год. У сувязі з тым М. Хрушчоў сарваў канферэнцыю з прэзідэнтам ЗША Д. Эйзенхаўэрам у Парыжы, 11 лютага 1962 г. Г. Паўэрса абмянялі на мосце ў Берліне на савецкага шпіёна Уільяма Фішэра.

**29 мая** прайшоў у Беластоку III з’езд БГКТ, на якім старшынёю быў выбраны Уладзімір Станкевіч, намеснікам старшыні – Георгій Валкавыцкі, а сакратаром – Уладзімір Юзвюк. У. Станкевіч у сваёй прамове абавязваў актывістаў заснаваць у кожнай беларускай вёсцы на працягу трох месяцаў гурткі БГКТ. З’езд аб’явіў „галоўным полем дзейнасці БГКТ” вёску. У. Станкевіч быў старшынёю толькі да 13 лістапада, бо пачаў працаваць у МУС і займаўся справамі нацыянальных меншасцяў. А старшынёю на пленуме ГП паставілі Лідзію Бялецкую, якая на III з’ездзе была выбрана толькі членам Прэзідыума БГКТ.

Ужо ў сакавіку ўсе справы грамадска культурных таварыстваў нацыянальных меншасцяў і іх часопісаў улады перадаюць Нацыянальнай камісіі пры Аміністрацыйным аддзеле ЦК ПАРП. Адказным за палітыку нацыянальных меншасцяў стаў Веслаў Ацепка. Справамі нацыянальнасцяў займаўся таксама Грамадзянска-адміністратыўны дэпартамент МУС, якога кіроўнікам быў Казімір Віташэўскі. МУС станавілася рэалізатарам нацыянальнай палі-тыкі дзяржавы. Улады пачалі абмяжоўваць самастойнасць грамадска-культурных таварыстваў, імкнуліся, каб яны папулярызавалі праграму ПАРП сярод нацыянальных меншасцяў. Раней далі таварыствам нацыянальных меншасцяў права арганізаваць гаспадарчую дзейнасць, на аснове пастановы Рады Міністраў ад 17 лістапада 1958 г. Улада хацела, каб грамадскія таварыствы нацыянальных меншасцяў самі зараблялі на сваю статутную дзейнасць, каб паменшыць ім датацыю. БГКТ атрымала два невялікія прадпрыемствы ў Варшаве і два на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Адно прадпрыемства ў Варшаве вырабляла сінтэтычныя пластмасавыя матэрыялы на замежны і ўнутраны рынак, а другое эфірныя алеі, эсенцыі для газіраваных напояў і кандытарскіх вырабаў. На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства былі гравійныя кар’еры ў Валілах, Габятах і Дзернякове і пякарня ў Гайнаўцы па вул. Дзяржынскага 13. Усе гэтыя прадпрыемствы мелі назву „Бэтэска” і дырэктарам іх быў Пятро Ластаўка (1907-1968), якога ў той час і пазней я часта сустракаў у Варшаве ў сядзібе БГКТ на вуліцы Сенатарскай. Грамадскія таварыствы іншых нацыянальных меншасцяў атрымалі таксама прадпрыемствы. Украінскія і яўрэйскія



*Аўтар з дачкою Ірай*

таварыствы атрымалі па 4 прадпрыемствы, а па тры – таварыствы чэхаў і славакаў ды рускае.

Дзеячы таварыстаў не мелі ніякай падрыхтоўкі ані вопыту, каб кіраваць гэтымі вытворчымі і гандлёвымі прадпрыемствамі. У 1959 г. за гаспадарчае злоўжыванне і растраты арыштавалі і асудзілі членаў Гаспадарчай управы Рускага ГКТ. У 1960 г. замест планаваных прыбыткаў амаль усе прадпрыемствы, якімі кіравалі таварыствы нацыянальных меншасцяў прынеслі вялікія страты. Толькі „Бэтэска", дзякуючы фінансавым вынікам варшаўскіх фірмаў і здольнасцям Пятра Ластаўкі, мела прыбытак амаль роўны велічыні бюджэту БГКТ.

**У кастрычніку** Нацыянальная камісія ў сваім рапарце дала загад усім таварыствам нацыянальных меншасцяў да канца года ліквіда-

ваць гаспадарчую дзейнасць, а Міністэрства Фінансаў мела распрацаваць план датацый для грамадскіх таварыстваў нацыянальных меншасцяў на 1961 год. Аднак МУС гэтага не зрабіла і грамадскія таварыствы нацыянальных меншасцяў далей кіравалі гаспадарчымі прадпрыемствамі. У „Бэтэсцы" ў 1961 г. працавала 147 чалавек і давала яна прыбыткі, а прадпрыемствы іншых нацыянальных меншасцяў павялічвалі страты.

Да нас прыходзіў сусед з жонкаю аглядаць праграмы па тэлебачанні і яны далі нам адрас жанчыны ў сям'і Гжэбень ў Рабцы, якая ахвотна нас прыме з дзяцьмі ў ліпені на цэлы месяц на сваю кватэру. Ніна напісала ёй ліст. Жонка Гжэбеня згадзілася і падала нам цану. 1 ліпеня я з Нінай, сынам і дачкоў цягнікам у спальным вагоне паехалі праз Кракаў у бок Закапанага. Ехалі мы ўсю ноч. Рана выйшлі мы на станцыі Хабуўка і там знайшлі фурмана, які ведаў адрас сям'і Гжэбеня ў Рабцы. Ён нас завёз пад самюткі іхні дом.

Жонка Гжэбеня дала нам вялікі пакой на другім паверсе з чатырма ложкамі – для нас і дзяцей. Ежу можна было варыць на кухні. Ніна снеданне і вячэру сама гатовіла, а абеды пачаткова куплялі мы ў сталовай у Рабцы – і для сябе, і для дзяцей. Аднак дачцы абеды ў сталовай зашкодзілі і пасля для яе Ніна абеды гатовіла на кухні ў нашай гаспадыні. Мясцовасць Рабка была прыемная, быў лес і рэчка, дык дзеці там добра сябе пачувалі. Дзеці ў сям'і Гжэбень былі крыху старэйшыя за нашыя, аднак яны часта з імі гулялі.

На другі або на трэці дзень, калі мы з дзяцьмі былі пад лесам на сонцы, Ніна заўважыла, як ішлі дзве жанчыны і мужчына. Ніна пазнала іх, падбегла да іх і запытала ці гэта сям'я Грыгаровічаў з Сарн. Яны затрымаліся і запыталі адкуль яна іх ведае. Ніна знала іх з Сарн яшчэ перад вайною. Яны добра ведалі Ніны матку і помнілі Ніну, якая была тады малой дзяўчынкай. Гэта былі бацька, маці і цётка вядомага пазней архітэктара і прафесара Аляксандра Грыгаровіча, які пазней запраектаваў царкву ў Ялоўцы, сабор св. Тройцы ў Гайнаўцы, дзе штогод праходзіць Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі і царкву св. Міхаіла ў Бельску-Падляшскім. Сям'я Грыгаровічаў жыла ў гэты час ў Кракаве і яны, як і мы, прыехалі ў той час у Рабку на адпачынак. Яны жылі ў цэнтры Рабкі ў нанятай кватэры. З той пары мы амаль штодзень з імі сустракаліся і праводзілі разам час.



*У вёсцы Чаромха. Матка аўтара Анна, яе ўнучка Ніна з дачкой аўтара Ірай, сястра аўтара Марыя з дачкой Геняй*

Мы часта заходзілі да іх на кватэру. Пасля і Ян Грыгаровіч і яго сын Аляксандр, калі бывалі ў Варшаве, заязджалі да нас.

У сям'і Гжэбень на першым паверсе наймала кватэру жанчына, якая мела прозвішча Халева з 16-гадовай дачкой Крыстынай з Кракава. Яны пакінулі Рабку раней за нас і прасілі нас, калі мы будзем вяртацца дамоў, каб прыехаць на тры дні з дзяцьмі да іх ў госці і пабачыць Кракаў. Сям'я Грыгаровічаў заставалася ў Рабцы яшчэ на жнівень. Мы з імі развіталіся і паехалі цягнікам у Кракаў ды затрымаліся на тры дні ў нашых знаёмых Халеваў, з якімі жылі мы ў Рабцы ў сям'і Гжэбень. Матка з дачкой мелі ў Кракаве вялікую кватэру ў блоку. Муж жанчыны быў кушняром. З вокнаў іх кватэры мы добра бачылі Мар'яцкі касцёл і як трубачы на вежы гралі гейнал. Мы з дзяцьмі агледзелі горад, былі на Вавелі, ва многіх касцёлах Кракава. Жанчына давала нам снеданні, абеды і вячэру і не захацела, каб мы ёй за гэта плацілі. На трэці дзень мы з ёй сардэчна развіталіся

і паехалі на вакзал ды вярнуліся на цягніку ў Пястаў. У верасні прыехалі мы ізноў з Пястава ў Варшаву. З дачкою жанчыны з Кракава, Крыстынай Халевай, я пасля перапісваўся, запрашаў яе ў Варшаву, аднак яна не прыехала.

Калі мы былі ў Рабцы, то ўлады гучна святкавалі 550 гадавіну бітвы пад Грунвальдам.

**19 жніўня** ў СССР выпусцілі на ракеце ў космас дзве сабакі, Белку і Стрэлку, якія **21 жніўня** вярнуліся на Зямлю, а **23 верасня** М. Хрушчоў з'явіўся ў Нью-Йорку і **29 верасня** на сесіі ААН стукаў туфлем аб стол, калі выступаў прэм'ер-міністр Англіі Г. Максімілан. ЗША наклала эмбарга на гандаль з Кубай. **З 16 жніўня** Кіпр стаў незалежнай рэспублікай з прэзідэнтам архіепіскапам Макарыусам.

**24 кастрычніка** была вялікая катастрофа на савецкім касмадроме Байканур, у якой згінулі 92 асобы.

**З 25 жніўня па 11 верасня** ў Італіі на алімпійскім стадыёне ў Рыме прайшлі летнія алімпійскія спаборніцтвы, у якіх удзел узялі 83 дзяржавы, а СССР атрымаў 43 залатых, 29 сярэбраных ды 31 бронзавы медаль, ЗША атрымалі 34 залатых, 21 сярэбраны і 16 бронзавых, а Польшча – 4 залатыя, 6 сярэбраных і 11 бронзавых медалёў.

Калісьці глыбокай восенню, вяртаючыся з літаратурнага семінара ў Беластока ў Чаромху, па дарозе выйшаў на вакзале ў Бельску-Падляшскім і пайшоў да Асташэвічаў на вул. Бранскую, дзе жыла Люда, жонка майго сябра з Чаромхі, М. Кердалевіча. Я сустрэў там не толькі бацькоў Люды, але і яе самую з дзяцьмі. Я запытаў, чаму яна разышлася са сваім мужам. Яна мне сказала, што ён вельмі распіўся, выносіў рэчы з дому і прадаваў на гарэлку. Мне не хацелася верыць. Ён любіў часам выпіць, ды ніколі я не бачыў яго п'яным. Ён, калі вярнуўся з Ленінграда, дзе вучыўся разам са мною, атрымаў працу ў бюро праектаў вугальных шахт ва Уроцлаве. Ён там працаваў нейкі час і сцягнуў туды жонку. Не ведаю, якую атрымалі яны там кватэру, аднак мне здаецца, што яго жонка Люда непатрэбна сцягнула яго да сваіх бацькоў у Бельск-Падляшскі. Не ведаю, якую ён працу атрымаў у Бельску-Падляшскім, аднак не думаю, каб ён мог мець там лепшую зарплату, чым ва Уроцлаве. Магчыма, гэта давяло да сварак паміж ім і бацькамі Люды ды з горычы ён пачаў піць. Я тады з Людай так загаварыўся, што пайшоў астатні цягнік з Бельска-Падляшска-

га ў Чаромху і мне прыйшлося ў яе пераначаваць і раніцай вярнуцца ў Чаромху, а пасля ў Варшаву. Люду Асташэвіч, як і яе бацкоў, я ведаў добра. Яе знаў яе, як сяброўку з таго самага класа ў беларускай гімназіі ў 1946 г. і таго самага класа польскага ліцэя ім Т. Касцюшкі ў Бельску-Падляшскім у 1947-48 гг. Мы разам здавалі іспыты на атэстат сталасці. Яна ў той час жыла з бацькамі ў доме Яраслава Кастыцэвіча па вул. Дубічы. Тады пачалася гарачае каханне між ёй і Мікалаем Кердалевічам. Яна пасля закончыла вышэйшую навучальную ўстанову ў Шчэціне. Іх каханне закончылася разводам, калі мелі дачку і сына. У кнізе „Час трывогі і надзеі" ў маіх успамінах я пісаў аб іх ды ёсць там здымкі. М. Кердалевіч памёр ў 1996 г.і пахавалі яго на могілках у вёсцы Чаромха.

**8 лістапада** у ЗША выбралі прэзідэнтам Д. Кенэдзі.

У лістападзе падчас маёй камандзіроўкі ў „Энергапраект" у Кракаве я зайшоў на кватэру да Грыгаровічаў, з якімі мы былі ў Рабцы. Быў там брат Яна Грыгаровіча, які прыехаў у госці з СССР, і ён мне расказаў, што там ён некалькі год сядзеў у савецкім лагеры, калі жыў яшчэ І. Сталін, толькі за крытыку марнатраўства ў адным з калгасаў.

На семінары ў Беластоку я сустрэўся з В. Шведам, які адышоў ад жонкі ў Варшаве і працаваў у Беластоку, дзе яго выбралі сакратаром Галоўнага праўлення БГКТ. У канцы 1960 г. пачала да яго прыязджаць жонка і прасіць, каб ён вярнуўся да яе ў Варшаву. І пад канец 1960 г. ён вярнуўся да жонкі, якая жыла з яго сынам і са сваёю маткай у тым самым блоку на вул. Лавіцкай 1/5, дзе я меў кватэру. Мы мелі толькі па-суседску розныя лесвічныя клеткі. Мы часта гасцявалі адзін у аднаго. Я і мая жонка пазнаёміліся з яго жонкай і цешчай. Я пачаў хадзіць у варшаўскі аддел БГКТ на вул. Сенатарскай, дзе В. Швед пачаў працаваць, пазнаёміўся там з Ю. Туронкам, Пятром Ластаўкай, пасля з А. Баршчэўскім і іншымі. У сакавіку 1962 г. я атрымаў новую кааператыўную кватэру, удвая большую, аднак мы яшчэ часам прыязджалі да яго. Пасля аднак, калі ўжо ў іх нарадзілася дачка Аня, пачаліся ў іх ізноў сваркі і жонка выкінула Віктара з кватэры. Пасля жонка яго прасіла маю жонку, каб сказала Віктару, што ён можа вярнуцца да яе, што яна адчувае сваю віну, ды ўжо было позна і дайшло ў іх да разводу. Віктара першая жонка Галіна памерла ў 1995 г. Мы пазнаёміліся таксама з сястрой жонкі Віктара і яе мужам і двума сы-

намі, якія жылі на кватэры блізка вул. Лавіцкай. Муж яе і яна любілі алкагол. Ніхто з іх ужо не жыве. Старэйшы сын у іх хварэў на сіндром Доўна (мангалізм) і з кватэры яго не выпускалі.

# 1961

Пасля 1956 г. ліквідавалі многа сельскагаспадарчых кааператываў (калгасаў), якія былі дэфіцытныя і маладаходныя, што паправіла сітуацыю ў сельскай гаспадарцы. Здавалався, што калектывізацыю ў Польшчы адкінуліназаўсёды. Аднак, у сувязі з націскамі з боку у Масквы і мясцовых дагматыкаў у ПАПР ужо ў 1957 г. У. Гамулка стаў заклікаць сялян, каб падтрымалі ідэю сельскагаспадарчых кааператываў, а тыя якія засталіся дзяржава старалася падрымаць пры дапамозе сакрэтных датацый. Аднак новыя кааператывы не ўзніклі, бо самі сяляне іх не хацелі.

Першыя гады пасля 1956 г. прынеслі заўважнае паляпшэнне гаспадарчай сітуацыі ў краіне. Адбыўся рост прадукцыі ў фабрыках ды ўзрасла рэальная зарплата ў працаўнікоў, у крамах было больш тавараў і людзі мелі надзею, што з кожным годам жыць будзе лепш.

У кастрычніку 1958 г. партыйныя ўлады вызначылі дырэктывы эканамічнага развіцця дзяржавы на 1959-1965 гады, у якіх гаварылася аб павелічэнні індустрыялізацыі дзяржавы, каб забяспечыць людзям месца працы, павялічыць іх зарплату ды палепшыць жыццё. Улады абвясцілі, што павялічаць капіталаўкладанні ў цяжкую прамысловасць. Пачалі павялічваць капіталаўкладанні ў горную прамысловасць, у металургію і цяжкую прамысловасць. Скрывалі пры гэтым жаданне савецкіх улад павялічыць ваенную магутнасць камуністычнага блока. Новы курс пацвердзіў III з'езд ПАПР у сакавіку 1959 г., калі яго ўжо фактычна ажыццяўлялі.

1959-1961 гады прынеслі зніжэнне хуткасці эканамічнага развіцця, хаця ўлады працягвалі сваю палітыку індустрыялізацыі дзяржавы. Ішла будова двух вялікіх кар'ераў бурага вугля ў Турашове і Коніне. У 1960 г. пачалі здабываць серу ля Тарнобжэга і руду медзі пад Лягніцай. Хутка развівалася машынабудаўнічая, металургічная і хімічная прамысловасці. Горш было з лёгкай прамысловасцю. Матэрыяльная сітуацыя насельніцтва не пагоршылася. Палравілася камунікацыя

і жыллёвыя ўмовы, але ўзровень паслуг быў нізкі. Ля крамаў стаялі чэргі. У людзей было больш грошай, чым у крамах тавару. Міжнародны крызіс 1961 г. паглыбляў рыначныя напружанні ў Польшы.

Я далей праектаваў электрычную частку і аўтаматыку для электрастанцый Конін і Тураў ды ездзіў у камандзіроўкі і ў адно, і ў другое месца. У Тураве стаяў амаль гатовы будынак, дзе мантавалі ўжо кацёл, турбіну, генератар і трансфарматар 200 мегаватаў. Часам ехаў туды на цэлы тыдзень і начаваў у Багатыні, дзе пабудавалі дамы з выгаднымі кватэрамі з ваннамі і цёплай вадою. Кожны з нас атрымліваў там асобны пакой. Часам начаваў я ў гасцініцы ў Багатыні, а калі не было там месца – мяне везлі ў Згажэлец. На электрастанцыі Конін далі мне пастаянны пакой, якога ніхто не займаў. Усюды былі сталовыя і амбулаторыі. У Коніне я тры гады меў сталы аўтарскі нагляд і электрастанцыя плаціла мне дадаткова паўстаўкі інжынера нагляду.

Пісаў я час ад часу вершы, якія друкаваліся ў „Ніве". У вольны час заходзіў я ў аддзел БГКТ па вуліцы Сенатарскай ў Варшаве, дзе сустракаў знаёмых.У Беластоку **26 лютага** ўрачыстым пасяджэннем адзначылі пяцігоддзе БГКТ. Арганізацыя мела ўжо чым пахваліцца. Было ў яе 3000 членаў і дасягненні ў многіх накірунках дзейнасці. 11 лютага перадалі бельскаму беларускаму ліцэю новае памяшканне. Развівалася дзейнасць „Бэтэскі". ГП БГКТ выдаў першую індывідуальную кніжку з выбранымі фельетонамі Дзядзькі Лявона.

**1 студзеня** ў СССР прайшла грашовая рэфома, абменьвалі рублі – 10 на 1.

**17 студзеня** амерыканскія агенты Чомбе застрэлілі Патрыса Лумумбу, паэта і першага прэм’ера Конга.

**20 студзеня** прэзідэнтам ЗША стаў Джон Кенэдзі (1917-1963) і **3 ліпеня** ён сустрэўся з М. Хрушчовым у Вене. Паказвалі іх многа раз па тэлебачанні ў Варшаве. Відаць, яны не вельмі дагаварыліся, бо **13 жніўня** прыйшла вестка, што між усходнім і заходнім Берлінам узвялі сцяну абцягнутую дадаткова калючым дротам, каб немцы з ГДР не ўцякалі ў ФРГ. **18 жніўня** будова сцяны была закончана. Да ўцекачоў ГДРаўская паліцыя страляла. Гэтую сцяну знеслі толькі ў лістападзе 1989 г.

**1 лютага** польская тэлевізія ў Варшаве пачала перадаваць праграмы кожны дзень.

**17 сакавіка** ў Заліве Свіней напалі на Кубу 1300 узброеных і абучаных у ЗША уцекачоў з Кубы – праціўнікаў Фідэля Кастра, якія пры дапамозе ЗША хацелі перахапіць уладу на Кубе. Аднак кубінская армія на працягу двух-трох дзён іх знішчыла. Палітыка Кенэдзі ў адносінах да Кубы Фідэля Кастра пацярпела паражэнне. Помню, што сустрэўся я ў той час у Варшаве са Святланай Кастыцэвіч, дачкой Яраслава Кастыцэвіча з Бельска-Падляшскага, якая прыехала ў госці да Ларысы Качынскай, з якой мы разам закончылі беларускі ліцэй у 1946 г. З Ларысай, Святланай і Аляксеем Шыманюком правялі мы некалькі гадзін у Варшаве. Дыскутавалі мы аб інтэрвенцыі на Кубе.

**4 лютага, 3 сакавіка і 25 сакавіка** СССР выпусціў у космас тры спадарожнікі Зямлі, а 12 сакавіка грухнула вестка, што ў космас паляцеў на караблі „Васток" першы чалавек з СССР, Юрый Гагарын (1934-1968), які хутка вярнуўся на Зямлю. 5 мая амерыканцы выслалі таксама свайго лётчыка А. Шэпарда (1923-1998) у космас на караблі „Меркуры", які таксама вярнуўся на зямлю. 9 жніўня СССР выслаў у космас другога касманаўта Г. Цітава (1935-2000), які таксама вярнуўся, зрабіўшы 17 віткоў вакол Зямлі. 21 ліпеня ЗША выслалі В. Грысона (1926-1967) у космас. Карабель вылецеў на вышыню 185,1 км і праз 16 хвілін упаў у Атлантычны акіян. Кабіна патанула, а касманаўта выратавалі. Згінуў ён пасля ў Апалоне-1 у 1967 г. з двума іншымі касманаўтамі.

**1 сакавіка** памёр у Адэсе і там быў пахаваны мітрапаліт Польшчы Макарый (Аксяюк, 1984-1961) , які ўжо ў 1959 г. з-за хваробы перадаў кіраванне мітраполіяй архіепіскапу Цімафею (Шрэтэру, 1901-1962), якога цяпер і абралі мітрапалітам. Макарыя прыслалі ў Польшчу з СССР у 1951г., калі польскія ўлады саслалі польскага мітрапаліта Дзяніса (1876-1960) у Сасновец на выгнанне.

**15 сакавіка** згінула ад пажару ў Макошчы ў Забжы 12 шахцёраў.

**1 мая** павысілі мне асноўную зарплату да 3000 зл. і прэмію пакінулі 100-110 %.

**У чэрвені** мы ўзялі водпуск на цэлы месяц, бо жонцы пашанцавала купіць пуцёўку на два тыдні на 4 асобы на прыватную кватэру ва Устронь у сваім месцы працы, а мне ў „Энергапраекце" на наступныя два тыдні ў Дом адпачынку „Энергапраекта" ў мясцовасці

Вісла-Глэнбцэ, якая распалажана недалёка ад Устроня. Да Устроня мы паехалі спальным вагонам. Ехалі мы цэлую ноч праз Катавіцэ і ранкам таксі з вакзала Устронь завезла нас да нашага дома. Гэта быў прыватны дом, у якім мы атрымалі вялікі пакой з 4 ложкамі. Быў супольны ванны пакой з туалетам. У суседнім пакоі жыў старэйшы мужчына з прыгожаю маладою жонкай. Сталаваліся мы паблізу ў сталоўцы дзяржаўнага дома адпачынку. Хадзілі мы туды на снеданне, абед і вячэру. Там было некалькі туалетаў. Хутка мы пазнаёміліся з іншымі сем'ямі і разам хадзілі на шпацыр у лясок ды на луг. Мясцовасць была прыемная, з чыстым паветрам. Два разы выкупілі мы аўтобусныя экскурсіі, на якіх паказалі нам славутыя месцы, як музей у замку ў Пшчыне і лютэранскія касцёлы ў Цешыне, на граніцы з Чэхаславакіяй, і іншых гарадах. Сям'я ў якой мы жылі была пратэстанцкая – лютэранская, як і амаль усе іншыя жыхары Устроня і Віслы.

**15 чэрвеня** аўтобусам з Устроня паехалі мы ў Віслу-Глэнбцэ, дзе да канца чэрвеня ў нас быў выкуплены вялікі пакой з ваннай і туалетам у Доме адпачынку „Энергапраекта". У ліпені і жніўні дом аддавалі на летнік для дзяцей працаўнікоў „Энергапраекта". Туды пасля ездзіла мая дачка Ірэна. Там была на месцы сталовая, якая давала нам смачныя снеданні, абеды і вячэры. Там сустрэлі мы інжынера-электрыка з жонкаю і старэйшымі ад нашых дзяцьмі, Зыгмунта Жылінскага, з якім я працаваў у тым самым калектыве праекціроўшчыкаў у „Энергапраекце". Мы пасля праводзілі разам многа часу. Арганізаваліся там экскурсіі ў горы, на Бараню гару, там дзе выплываюць Белая і Чорная Вісэлка. Ніна не мела сілы, каб ісці далёка ў горы, яна заставалася з жонкаю З. Жылінскага ў доме адпачынку. А я з Зыгмунтам і з групай іншых мужчын пехатою ішлі некалькі кіламетраў у горы.А на аўтобусную экскурсію на Кубалёнку і ў Істэбную мы ездзілі з жонкамі і дзяцьмі. Пад канец чэрвеня на развітанне дом адпачынку арганізаваў вечар з музыкай і танцамі. Помню, як мой сын Юра не дазваляў матцы танцаваць з Зыгмунтам Жылінскім. 30 чэрвеня вечарам выехалі мы цягніком у спальным вагоне у Варшаву, а пасля ў Пястаў.

**11 кастрычніка** ў СССР у Семіпалацінску наступіў першы падземны выбух атамнай бомбы, а 30 кастрычніка абвясцілі, што

ў СССР наступіў пробны выбух самай моцнай атамнай бомбы, 50 мегатон.

**Ад 17 да 31 кастрычніка** праходзіў у СССР XXII з'езд КПСС, дзе М. Хрушчоў крытыкаваў культ асобы І. Сталіна і абяцаў да 1980 г. збудаваць у СССР камунізм. Змянілі назву горада Сталінград на Валгаград. Ліквідавалі ва ўсіх гарадах, нават у Грузіі, помнікі І. Сталіну. Пакінулі толькі вялікі помнік І. Сталіну ў Грузіі ў горадзе Горы ля яго музея і дома, дзе жылі яго бацькі і дзе ён нарадзіўся. Помнік гэты разабралі паціху толькі ноччу з 24 на 25 чэрвеня 2010 г., бо Сакашвілі хоча там паставіць помнік загінуўшым грузінам у вайне з Расіяй у жніўні 2008 г. Многа грузінаў у Горы пратэставала, калі даведаліся, што помнік І. Сталіну разабралі.

**12 верасня** СССР парваў адносіны з Албаніяй, якая не пагадзілася з крытыкай культу асобы І. Сталіна. Ноччу з **31 кастрычніка на 1 лістапада** вынеслі цела І. Сталіна з маўзалея Леніна і пахавалі яго ў магіле пад крамлёўскай сцяной.

Ад жніўня ў СССР М. Хрушчоў павёў моцную антырэлігійную прапаганду. Многія цэрквы былі ў той час разбураны, асабліва на тэрыторыі заходняй БССР. Ён хваліўся, што хутка ў СССР не будзе ні аднаго святара.

Гэта быў апошні мой год на вуліцы Лавіцкай у Варшаве. У наступным годзе ў сакавіку атрымаў я ўдвая большую кааператыўную кватэру, дзе жыву і па сёння. Тады яшчэ не было так многа ахвочых на кааператыўныя кватэры, бо яны былі многа даражэйшымі за кватэры атрыманыя ў жыллёвым аддзеле. За кватэру 30 квадратных метраў на вул. Лавіцкай я плаціў у месяц 59 зл. плюс плата за электраэнергію і газ. А зарплату я меў тады больш чым 6000 зл. За кааператыўную кватэру 60 кв. метраў і лоджыю трэба было ў 1962 г. плаціць мне ўжо 190 зл. Акрамя таго, у кааператыў трэба было ўплаціць за кватэру перад яе атрыманнем 24 750 зл.

У 1959 годзе, каб атрымаць большую кватэру, я запісаўся ў Міжзаводскі жыллёвы кааператыў „Энергетыка" на кватэру на пяць чалавек (М-5) і чакаў. Раней у гэтым кааператыве можна было хутка атрымаць новую кватэру, ды з кожным годам усё больш людзей запісвалася ў яго, бо атрымаць кватэру ад дзяржавы або па месцы працы ў Варшаве станавілася немагчымым. Ужо ў 1960 г. запрапанавалі мне

кватэру на Празе на вуліцы Ст. Аўгуста, каля вул. Грахоўскай – была гэта кватэра на пятым паверсе ў пяціпавярховым будынку без ліфта. Я адмовіўся ад яе. У 1961 г. кватэру зноў мне прызналі, у іншым падобным да папярэдняга будынку на той жа вуліцы, але ўжо на першым паверсе. Я таксама не згадзіўся, бо ведаў, што на першым паверсе кватэру лягчэй абакрасці і ў ёй заўсёды холад праймае ад падлогі.

Цяпер за гэтую кватэру, якую я атрымаў у 1962 г. і пасля набыў яе на ўласнасць, я плачу ў кааператыў 507 зл. кожны месяц і яшчэ падатак у гарадскую касу за зямлю, на якой стаіць будынак, у якім знаходзіцца мая кватэра. Пасля ў 1970-х гадах больш людзей запісвалася ў кааператывы і трэба было даўжэй чакаць сваёй кватэры. Аднак нават у кааператывах нельга было атрымаць вялікіх кватэр, калі сям'я была нешматлікаю. Я, каб атрымаць кватэру на 5-асабовую сям'ю (кватэру М5) мусіў запісаць сваю родную матку з вёскі Чаромхі. І яна стала фармальнай жыхаркай Варшавы, хаця прыязджала да нас толькі ў госці.

Акрамя невялікай платы за кватэры розныя працаўнікі мелі розныя льготы ў працы. Я, як працаўнік энергетыкі, меў да 2000 г. ільготу ў аплатах за электраэнергію. За спажыванне электраэнергіі да 3000 кілават-гадзінаў плаціў грашакі, працаўнікі медыцыны мелі бясплатныя лекарствы на ўсе рэцэпты. Ды ўсе дзяржаўныя працаўнікі плацілі за ўсе лекі на рэцэптах толькі 70% іх кошту. Дзяржаўным працаўнікам усе санаторыі былі бясплатнымі. Давалі льготы для працаўнікоў у дамы адпачынку. Вельмі многа розных ільгот мелі шахцёры. Мелі нават свае крамы, дзе ім танней прадавалі розныя тавары. Усе гэтыя льготы пасля 1989 г. паволі пачалі ліквідаваць і пазабіралі іх амаль цалкам. Нават ваенным інвалідам забралі многа бясплатных лекаў.

## 1962

Апошні раз святкавалі мы Каляды і Новы год у нашай кватэры па вуліцы Лавіцкай. Быў В. Швед і іншыя знаёмыя. Цесна было, ды прыемна.

**22 лютага** было многа шуму па тэлебачанні, бо быў прыведзены ў дзеянне трубаправод „Дружба" з СССР у ГДР праз Польшчу – у нафтаперагонны завод у Плоцку паплыла савецкая нафта.

**У сакавіку** прызналі мне кватэру на трэцім паверсе ў дзевяціпавярховым будынку з ліфтам на вуліцы Чэрнякоўскай, блізка вуліцы Гагарына. Мы ў нядзелю паехалі паглядзець яе. Дворнік даў нам ключы і мы ўвайшлі ўсярэдзіну. Кватэра мела 60 кв. метраў з лоджыяй, з вялікім пярэднім пакоем з акном на панадворак, у якім было пяць дзвярэй: на кухню з акном на панадворак, у асобны туалет, у асобную ванную і ў два жылыя пакоі. З большага пакоя былі дзверы ў лоджыю і ў невялікі трэці пакой. Пярэдні пакой лёгка можна будзе раздзяліць, каб стварыць чацвёрты пакой пры кухні. Я пасля так і зрабіў. Цёплая вада плыла адразу з кранаў у кухні і ў ванным пакоі, бо яна агравалася цеплацэнтраллю на Сякерках. У ванным пакоі не было газавай печкі. Газ быў толькі ў кухні падключаны да газавай печкі з чатырма фаеркамі з месцам, дзе можна пячы пірагі. У кухні было заглыбленне на халадзільнік. У ванным пакоі была вялікая ванна і таз, аднак не было месца на электрычную пральную машыну, і на доўгі час яе трэба было ўставіць на кухню. Пасля я перарабіў ванны пакой: уставіў туды каротшую ванну і паставіў туды пральны аўтамат і таз. У кухні ля сцяны пад акном была доўгая шафа. Шафа была ў пярэднім пакоі, а акрамя таго там было месца да вешання верхняй адзежы. Батарэі цэнтральнага ацяплення былі ў кожным пакоі і на кухні. Ванны пакой агравалі дзве тоўстыя трубы пры сцяне са столі да падлогі. У падвале апрача выдзеленай для кожнай кватэры камеры для барахла, была пральня з цёплай вадой і газавай печкай з бакам, дзе можна было варыць бялізну. Былі таксама два вялікія пакоі для сушэння бялізны. Пакуль я не купіў пральнага аўтамата, прыходзіла да мяне прачка з Пястава, я зносіў у падвал у пральню машыну і яна там прала бялізну, а пасля сушыла.

Кватэра спадабалася сям'і і мы рашылі яе ўзяць. У сувязі з тым, што мне трэба было ехаць у камандзіроўку на электрастанцыю Тураў, Ніна пачала ўсё афармляць. Бюро Ніны прызнала ёй і ўплаціла ў кааператыў 24 750 злотых першага ўзносу за кватэру. Трэба было прыгатовіць усё да здачы дзяржаве старой кватэры і наняць транспарт, які перавязе меблю са старой на новую.

Гэтыя фармальнасці працягнуліся амаль тры тыдні і за гэты час працаўнік нашага бюро, Нахалінскі, які атрымаў кватэру на другім паверсе перакупіў дворніка і заняўнашу кватэру на трэцім паверсе,

пакінуўшы сваю падобную на другім. Ніна і цёшча нават уцешыліся, бо будзе ніжэй хадзіць уніз, калі затрымаецца ліфт. І хоць за гэту кватэру трэба быдо даплаціць тры тысячы злотых узносу, Ніна згадзілася, і я не пратэставаў. Яе бюро даплаціла кааператыву гэтую суму, аднак сказала, што яна яе ім мусіць сплачваць у растэрміноўкуна два гады. У адзін дзень здалі мы старую кватэру, наняты намі транспарт перавёз старую меблю на новую кватэру. Пасля трэба было купляць новую меблю. І сталі мы жыць у большай кватэры. З нашага балкона на другім баку вул. Чернякоўскай бачылі мы ў той час, як пасуцца на лузе каровы. А далей дыміў высокі комін цеплацэнтралі Сякеркі. Быў добры даезд трыма тралейбусамі да маёй працы, а Ніна да працы даязджала адным аўтобусам. З аўтобуснага і тралейбуснага прыпынка можна было даехаць адным аўтобусам ці тралейбусам да ўсіх чыгуначных вакзалаў, апрача Усходняга. Па другім баку Чэрнякоўскай ездзіў яшчэ трамвай з цэнтра Варшавы ў Вілянаў. Дом быў адсунуты ад вуліцы на метраў 20, а ля тратуара рос высокі жываплот і таму быў меншы шум ад гарадскога транспарта, чым у блоках, якія стаялі ля самой вуліцы.

Я хутка памяняў халадзільнік „Саратаў" на большы „Мінск" і тэлевізар „Віслу" на большы венгерскі тэлевізар. Гэта можна было купіць без чаргі. А на камплет меблі трэба было запісацца і чакаць.

Тады таксама ў электрастанцыі Тураў сінхранізавалі з электрычнай сеткай першы блок 200 мегаватаў. За ім будавалі ўжо другі блок такой самой магутнасці. Катлы былі на буры вугаль з кар'ера.

**20 мая** памёр і быў пахаваны на могілках на варшаўскай Волі праваслаўны мітрапаліт Цімафей. Наступнага мітрапаліта Польшчы, Сцяпана, выбралі толькі ў 1965 годзе.

**31 мая** ў Ізраілі пасля суду павесілі гітлераўскага злачынчцу А. Айхмана.

**1 чэрвеня** ў СССР павысілі цэны на прадукты харчавання. У той самы час на Электравозабудаўнічым заводзе імя Будзённага ў Навачаркаску панізілі зарплату. Вызвала гэта забастоўку і хваляванне рабочых, якія выйшлі з пратэстам да ўлад. Дайшло да расстрэлу рабочых – армія і КДБ застрэлілі 26 чалавек і многіх паранілі. Пасля сем рабочых засудзілі на смяротнае пакаранне, а 114 рабочых на 10-15 год лагераў. Цяпер на месцы расстрэлу стаіць помнік – ахвяры рэабілітаваны.

**3 ліпеня** Францыя, пасля рэферэндума, згадзілася на незалежны Алжыр. Часовы ўрад Алжыра вярнуўся з замежжа. **26 верасня** Ахмед Бен Бела стаў прэм'ер-міністрам Алжыра.

У ліпені ўзялі мы водпуск і заплацілі за два тыдні курорту з дзяцьмі на Балтыйскім моры ў Юраце на поўвостраве Хель. Паехалі мы туды ў спальным вагоне. Мелі мы прыватную кватэру з туалетам і цёплай вадой, а елі снеданні, абеды і вячэры ў дзяржаўнай сталоўцы паблізу нашай кватэры. Да мора і пляжа мелі мы блізка. У другіх прыватных кватэрах жылі сем'і з Ніны бюро, з якімі спатыкаліся мы на пляжы. Дзеці першы раз пабачылі мора. Калі была горшая пагода, мы ездзілі з дзяцьмі ў іншыя мясцовасці, як Хель, Ястарню ці Кузніцу.

Калі скончыўся курорт у Юраце, а ў нас было некалькі дзён вольнага часу, мы паехалі запрошаныя да добрай знаёмай Ніны Туманян у Гданьск. Сям'я іх жыла ў двух доміках з агародам. Ніна Туманян жыла са сваёй дачкою Таняй, якой было ўжо 17 год, У іх доме гасціў святар з Варшавы а. Афанасій Семянюк, які раней жыў ў Сасноўцу, з мітрапалітам Польшы Дзянісам, калі яго туды выгналі з Варшавы польскія ўлады. Бацюшка А. Семянюк займаў пакой на другім паверсе, а мы – на трэцім. Пражылі мы ў Ніны Туманян некалькі дзён. У суседнім доміку жыла яе сястра ўдава Ліда з удавой іх маткай Валянцінай Дзмітрыевай і з удавой-дачкой Лідыі, Элай.

Хачу коратка апісаць гісторыю гэтай сям'і. Бацька і матка Ніны Туманян, Дзмітрыевыя, былі рускімі эмігрантамі, якія ўцяклі ад бальшавікоў пасля кастрычніцкай рэвалюцыі і пасяліліся ў Жырардаве ў адным доме. Уладальнік гэтага дома, паляк, хутка ажаніўся са старэйшай дачкой Дзмітрыевых, Лідыяй. Яна не стала каталічкай, аднак дачку Элеанору ахрысціў муж у касцёле. Усё ж такі ўладальнік дома быў такі добры, што згадзіўся, каб у адным пакоі яго дома яны маглі зрабіць праваслаўную капліцу, куды прыходзілі маліцца праваслаўныя жыхары Жырардава. Бацька Ніны быў таксама перад вайной у Жырардаве старшынёй рускага грамадска-культурнага таварыства. У 1945 г. савецкі салдат, па нацыянальнасці грузін, Туманян, лекар гінеколаг, дэзертыраваў з Савецкай Арміі. Калі сустрэў Ніну і хутка з ёй ажаніўся, стаў жыць разам з імі ў Жырардаве. Аднак палякі, жыхары Жырардава, на пачатку 1945 г. выдалі ўпраўленню польскай

дзяржаўнай бяспекі іх паходджаене і УБ арыштавала бацьку і мужа Ніны, калі яна была цяжарнай. Іх перадалі савецкім уладам і след па іх загінуў. Відаць, савецкае НКУС іх расстраляла. А Ніна 13 жніўня 1945 г. ужо без мужа радзіла дачку Таццяну. Пасля ў царкоўку ў іх доме прыязджаў служыць набажэнства святар А. Семянюк з Варшавы і таму яны яго добра ведалі. І дзякуючы А. Сяменюку, да якога Ніна Кандыба, пазнейшая мая жонка, хадзіла на ўрокі рэлігіі, яна пазнала Ніну Туманян, яшчэ тады, калі яны жылі ў Жырардаве. У 1947-48 гг. школьныя ўлады ліцэя, дзе Ніна Кандыба вучылася, пажадалі мець на атэстаце ацэнку з рэлігіі і Ніна хадзіла на лекцыі рэлігіі ў дом мітрапаліта пры варшаўскім Саборы Марыі Магдаліны. А вучыў іх святар А. Семянюк. Пазней, у сувязі з тым, што ў Жырардаве цяжка было з працай, уладальнік іх дома паехаў у Гданьск, там купіў два домікі, прадаў свой у Жырардаве і перавёз у Гданьск сваю жонку з дачкой, яе мужам і сынам, яе матку Валянціну Дзмітрыеву і Ніну Туманян з дачкойТаняй. Калі мы былі ў іх, то ён ужо не жыў і памёр муж яго дачкі Элеаноры, а сын Элы выехаў жыць у горад Ясла. Пасля Ніна Туманян выйшла замуж за разводніка П. Шыманскага, яны жылі ў Гданьску-Аліве, дзяцей у іх не было і яны ўжо не жывуць. Таццяна выйшла замуж за нейкага матроса Шалабоду, які ўжо памёр, мае свой дом ў Гданьску-Асове, дзяцей яна не мае. Эла выехала ў Ясла да сына, мае ўнукаў. Таня часта тэлефануе маёй жонцы.

Тады ў Гданьску спаткаўся я з сем'ямі сваіх сяброў з Ленінграда Б. Сехмана і Г. Гнеўшава (1926-2002), якія жылі па-суседску ў адным блоку.

Вярнуліся мы з Гданьска ў Варшаву і на наступны дзень паехалі на 10 дзён у вёску Чаромху. Люда Кердалевіч прыслала Ніне пісьмо, у якім прасіла яе, каб мы, калі будзем у Чаромсе, наведалі яе ў Бельску-Падляшскім. І мы пакінулі дзяцей пад апекай маёй маткі і вечарам наведалі яе ды яе бацькоў. Мы пераначавалі ў яе і ранкам вярнуліся цягнікам ў Чаромху. Ніна пабачыла, як выраслі ўжо яе дзеці, якія больш чым год не бачылі свайго бацькі, бо працаваў ён дзесьці ля Жэшава. Яны ўжо вучыліся ў школе.

У верасні мой сын Юра пайшоў у школу на вуліцы Красналэнцкай. Спачатку цёшча з Ірай вадзілі яго да самай брамы ў школе, а пасл-

я сам ён хадзіў у школу і вяртаўся дамоў. Я раней навучыў яго чытаць, так што цяжка яму ў школе не было. Ніна ездзіла з ім на ўрокі праваслаўнай рэлігіі ў царкву на Празе. Вучыў іх там рэлігіі святар М. Лянчэўскі.

**У кастрычніку** пачаўся крызіс між СССР і ЗША з-за Кубы, які пагражаў атамнай вайною. СССР паціху пачаў усталёўваць на Кубе, за згодай Фідэла Кастра, ракеты сярэдняга дасягу, якія маглі данесці да ЗША атамныя боегалоўкі. Амерыканскія самалёты выкрылі гэта **14 кастрычніка** і прэзідэнт ЗША Джон Кенедзі **22 кастрычніка** стварыў блакаду Кубы і прыгразіў бамбардзіроўкай савецкіх ракет на Кубе, ды пабаяўся, што з Кубы могуць выстраліць ракету з атамнай боегалоўкай, якая даляціць да ЗША. Тады б пачалася атамная вайна. Нарэшце дагаварыліся М. Хрушчоў з Дж. Кенедзі, што СССР размантуе і забярэ ракеты з Кубы, аднак Кенедзі даў гаратыю, што ЗША не нападзе на Кубу і забярэ свае ракеты з атамнымі боегалоўкамі з Турцыі. Да **22 лістапада** СССР забраў усе свае ракеты з Кубы, а ЗША забралі свае з Турцыі.

Аляксандр Баршчэўскі падпісаў мне і падарыў свой першы паэтычны зборнік вершаў „Белавежскія матывы", які выдала яму **30 студзеня** БГКТ. Быў гэта першы зборнік вершаў беларускага паэта ў Польшчы – члена літаб'яднання „Белавежа".

**8 верасня** кітайская армія на паўночным усходзе Індыі перайшла яе граніцу і пачала вайну з Індыяй. Баі ішлі да І – тады закончылася вайна і кітайскія салдаты выйшлі з тэрыторыі Індыі.

**У лістападзе** ў СССР часопіс „Новый мир" за згодай М. Хрушчова пачаў друкаваць аповесць А. Салжаніцына (1918-2008) „Адзін дзень Івана Дзянісавіча", у якой аўтар апісаў адзін дзень з жыцця зняволенага ў сталінскімГУЛАГу. У Польшчы хутка пераклалі аповесць на польскую мову і пачалі друкаваць яе ва многіх часопісах. А. Салжаніцына тады хутка прынялі ў Саюз савецкіх пісьменнікаў. Аднак пасля **14 кастрычніка 1964 г**., калі М. Хрушчоў страціў уладу, пры Л. Брэжневе А. Салжаніцын трапіў у непрыхільнасць. У 1969 г. яго выкінулі з Саюза савецкіх пісьменнікаў. І хаця ён у 1970 г. атрымаў Нобелеўскую літаратурную прэмію, калі на Захадзе з'явілася яго кніга „Архіпелаг ГУЛАГ", то ў 1974 г. яго самога з сям'ёй пасадзілі ў самалёт і выдварылі з СССР ў Заходнюю Нямеччыну. Салжаніцын

пачаткова жыў у Швейцарыі, пасля ў ЗША і толькі ў 1994 г. вярнуўся ў Расію. А. Салжаніцын трапіў у ГУЛАГ у 1945 годзе з фронту, бо быў такі наіўны, што з фронту напісаў ліст знаёмаму і ў ім скрытыкаваў І. Сталіна. А ўсе лісты з фронту праходзілі цэнзуру. Пасля смерці І. Сталіна яго вызвалілі і рэабілітавалі.

У БГКТ у Беластоку пленум прыхіліўся да просьбы Лідзіі Бялецкай і вызваліў яе з абавязкаў старшыні БГКТ. На паўгода абавязкі гэтыя пераняў Макар Дземяновіч – кіраўнік ваяводскага жывёлагадоўчага саюза, былы дэпутат Сейма.

# 1963

На новай кватэры на вул. Чэрнякоўскай маці Ніны, Матыльда, не захацела ўжо вясной вяртацца ў Пястаў, бо атрымала для сябе асобны пакой ля ваннай. У сувязі з тым, што раней яна ўвесь час гаварыла, што ніколі не пакіне Пястава, я, каб атрымаць кватэру на пяць асоб, прапісаў на сваю кватэру маю маці з вёскі Чаромхі, якая толькі да мяне прыязджала ў госці, а не хацела жыць у Варшаве. Гарадскія ўлады Варшавы не хацелі прапісаць маю цёшчу, як шостую асобу. Доўгі час мы яе прапісвалі на часовае пражыванне і толькі ў 1964 г. улады згадзіліся прапісаць яе на пастаяннае жахарства пры ўмове, што мы ніколі не будзем жадаць ад кааператыва замяніць нашу кватэру на большую, на шэсць чалавек. Кватэру ў Пяставе яна аддала ўласніцы гэтага дома гаспадыні Лісецкай. Яна ахвотна яе ўзяла , бо ў яе дачкі радзіўся сын і ім стала цесна.

Я з Нінай працавалі ў старых бюро. Я далей рабіў праекты для электрастанцый у Коніне і ў Тураве ды часта выязджаў туды ў камандзіроўкі, а таксама на нарады і ўзгадненні ў іншыя гарады, як Познань, Кракаў і Уроцлаў. Помню, што далі мне зрабіць невялікі праект для электрастанцыі Скавіна і калі я паехаў туды, то сустрэў там сябра, з якім вучыўся ў Ленінградзе. Ён скончыў інстытут два гады пазней за мяне і атрымаў працу ў электрастанцыі Скавіна. У Кракаве сустракаў я свайго сябра з таго ж інстытута, Антона Калёнка, які скончыў інстытут адзін год пазней за мяне і прывёз з Ленінграда прыгожую рускую жонку. Пасля яго з жонкайвыслалі ў Ірак і нашы сувязі закончыліся.

У 1963 г. стаялі моцныя маразы, у выніку якіх закрылі многія школы. Помню, што замёрз вугаль на складзе цеплацэнтралі Сякеркі і на некалькі дзён выключылі ў дамах цэнтральнае ацяпленне. Тэмпература ў кватэры ўпала да 12°С. Тую зіму назвалі „зімой стагоддзя".

**19 лютага** СССР згадзіўся забраць свае войска з Кубы.

**У кастрычніку 1960 г.** Нацыянальная камісія ў сваім рапарце дала загад усім таварыствам нацыянальных меншасцяў да канца года ліквідаваць гаспадарчую дзейнасць, а Міністэрства фінансаў мела распрацаваць план датацый для грамадскіх таварыстваў нацыянальных меншасцяў на 1961 год. Аднак МУС гэтага не зрабіла і грамадскія таварыствы нацыянальных меншасцяў далей кіравалі гаспадарчымі прадпрыемствамі. У „Бэтэсцы" ў 1961 г. працавала 147 чалавек і давала яна прыбыткі, а прадпрыемствы іншых нацыянальных меншасцяў павялічвалі страты. „Бэтэска" дажыла пачатку 1963 г.

**З 1 лютага** гаспадарчыя прадпрыемствы БГКТ пачалі ператварацца ў кааператывы працы. **1 сакавіка** адбылося апошняе пасяджэнне праўлення „Бэтэскі". На ім абмяркоўвалася дамова аб перадачы маёмасці прадпрыемства кааператывам працы. Новыя фірмы прынялі назву „Кааператыў працы «Бэтэска»", якія абавязаліся 20% даходу прызначаць на статутную дзейнасць БГКТ. У іншых таварыствах ліквідаваліся гаспадарчыя прыбудоўкі, а адказныя ў рускім таварыстве трапілі ў турму.

**16 чэрвеня** ў Беластоку прайшоў IV з'езд БГКТ, на якім старшынёю быў выбраны Міхась Хмялеўскі, а намеснікам старшыні – Мікалай Самоцік. Міхась Хмялеўскі ў той самы час, як і я, вучыўся ў Ленінградзе. Ён тады там закончыў журналістыку.

У Варшаве ў той час я сустракаўся з двума малодшымі сябрамі з майго інстытута Леанам Вуйцікам, які таксама прывёз жонку з Ленінграда, і Эдмундам Стрыхальскім, які жаніўся ў Варшаве і працаваў у Інстытуце ядзерных даследаванняў (IBJ) у Сверку пад Варшавай, дзе **17 сакавіка** прывялі ў дзеянне першы польскі атамны рэактар, які назвалі „Анна". Аднак мае сябры хутка памерлі, першы на сэрца, а другі на рака. У другога спачатку на рак памерла жонка, а потым і ён сам. Яны пакінулі маладую дачку. Жонка Вуйціка і яго сын ды дачка жывуць у Варшаве.

**10 сакавіка**, помню, патанула амерыканская атамная падводная лодка, у якой загінулі 129 чалавек, а **3 чэрвеня** памёр папа рымскі Іаан XXIII і **21 чэрвеня** быў абраны новы рымскі папа Павел VI.

**16 чэрвеня** паляцела ў космас першая жанчына Валянціна Церашкова і вярнулася на Зямлю **19 чэрвеня**. Раней, бо **2 сакавіка**, СССР выпусціў ракету „Луна 4" на месяц, але яна туды не даляцела і стала спадарожнікам Зямлі. **14 чэрвеня** выляцеў у космас на „Вастоку 5" Валеры Быкоўскі і вярнуся на Зямлю пяць дзён пазней.

**З 16 мая** „Энергапраект" выслаў мяне на курс лекцый і практычных заняткаў звязаных з транзістарамі на два тыдні ў Піўнічную недалёка ад Крыніцы. **15 мая** быў я ў камадзіроўцы ў Коніне і адтуль паехаў у Лодзь, а з Лодзі – у Калюшкі. З Калюшкаў даехаў я ў Чанстахову. Там чакаў на цягнік у Крыніцу да поўначы і з'явіўся ў Піўнічнай на наступны дзень а 11 гадзіне і адразу пайшоў на заняткі ў лабараторыю. Жыў я ў доме адпачынку „Гражына" ў адным пакоі з інжынерам з „Энергапраекта", Зэгаркам. Лекцыі і лабараторыі мы мелі па 10 гадзін. Мелі мы таксама свабодны панядзелак і тады я паехаў з маім таварышам Зэгаркам паглядзець курорт Крыніцу, па якім мы пагулялі, папілі крынічную ваду ды паехалі на Паркаву гару фунікулёрам, а пад вечар вярнуліся ў дом адпачынку. Сустрэў я ў Піўнічнай знаёмага са студэнцкай практыкі у 1953 г. інжынера з Уроцлава, які таксама прыехаў на курс транзістараў. Ён мне даў тады электрычныя схемы малых гідраэлектрастанцый на поўдні Польшчы, якія я выкарыстаў у маёй дыпломнай працы ў Ленінградзе. З транзістарамі я быў знаёмы яшчэ ў інстытуце ў Ленінградзе, на курсе я толькі папоўніў свае веды пра іх. Вярнуўся я з Піўнічнай пад канец мая.

**У ліпені** павысілі мне асноўную зарплату да 3200 зл. пры прэміі 100-110% і Ніна выкупіла на два тыдні пуцёўку ў дом адпачынку ў Крутыні пры самой рэчцы Крутыня. Паехалі мы туды аўтобусам амаль пад самы дом адпачынку. Быў гэта вялікі двухпавярховы будынак і на першым паверсе была вялікая сталовая. Там нам далі вялікі пакой на другім паверсе з умывальнікам і чатырма ложкамі. Можна было браць байдаркі, плаваць па рацэ, ды для гэтага трэба было мне здаць экзамен з плавання. Рэчка была вузкай і неглыбокай, ды вада ў ёй была чыстая і было ў ёй многа рыб. Адна маладая сям'я з-пад Жэшава лавіла ў рэчцы рыбы рукамі. Жонка вяслом му-

ціла ваду, а яе муж рукамі лавіў рыбу і выкідваў яе на бераг, а сын іх збіраў і ўкідваў у торбу. Кожны дзень на вечар яны прыносілі дзясяткі рыб, самі іх елі і раздавалі. Недалёка ад нас было Войнава, дзе тады яшчэ жылі стараверы. Навокал быў лес з ягадамі, ды ў ім былі кляшчы. Увайшоў аднойчы клешч у цела сына Юрыя і Ніна хадзіла з ім да санітаркі, каб яна яго выцягнула. Недалёка было многа кемпінгавых домікаў, у якіх жылі турысты. Я на байдарцы плаваў то з сынам, то з дачкою.

Паехалі мы **5 ліпеня** аўтобусам на экскурсію на возера Снярдвы і пасля плавалі па возеры катэрам да самых Мікалаек. Прыпомніў я тады, як восенню 1944 г. гналі немцы мяне з групай працаўнікоў побач гэтага гарадка на працу – капаць акопы. Забралі мяне ад баўэра, у якога я працаваў, пад канец жніўня і змушалі нас капаць акопы ў розных месцах Усходняй Прусіі.

Зрабілі ў Крутыні таксама экскурсію ў „Воўчае гняздо" Гітлера ля Кентшына (Rastenburg) ў Гярложы. Паехаў туды толькі я адзін, без жонкі і дзяцей, на аўтобусе з турыстамі. Пабачыў у лесе бункеры, дзе жыў Гітлер і яго генералы, дзе зрабілі замах на яго жыццё. Амаль усе бункеры былі разбураны. Толькі бункер Гітлера, якога сцены мелі таўшчыню 11 метраў, стаяў амаль цэлы.

Я ў лістападзе 1944 г паміж Растэнбургам і гэтым „Воўчым гняздом" капаў супрацьтанкавыя акопы і ноччу пад канец лістапада з двума маімі сябрамі, беларусам і літоўцам, уцяклі з гэтых акопаў да баўэраў, у якіх мы раней працавлі. Дамоў не маглі ўцячы, бо недалёка была ўжо лінія фронту. Прыпомніў я, калі ехаў на гэтую экскурсію, як мы ўцякаючы ішлі па снезе і наткнуліся на тэлефонныя правады, якія цягнуліся некалькімі радамі да „Воўчага гнязда", якое было сем кіламетраў ад нас і аб якім мы тады нічога не ведалі. Аб гэтым „Воўчым гняздзе" пасля я напісаў верш „Логвішча", які пасля ўвайшоў у мой зборнік вершаў „Эцюды падарожжа". Аб тым, як мы ўцякалі з акопаў, я напісаў у некалькіх нумарах „Нівы" ў 90-я гады мінулага стагоддзя.

Дамоў з Крутыні вярнуліся мы таксама аўтобусам і тады, помню, адразу трэба было зрабіць прышчэпку мне, жонцы і дзецям супраць воспы. Паявілася тады эпідэмія воспы ва Уроцлаве, а я праз увесь Уроцлаў ездзіў цягніком у Турошаў. Помню, прыехала тады да нас

мая маці з вёскі Чаромхі і ёй трэба было таксама зрабіць прышчэпку супраць воспы.

Потым мы яшчэ паехалі з дзяцьмі на тыдзень у Чаромху.

Дачка Іра, заахвочаная сынам і сяброўкамі, захацела ісці ў шэсць год у школу, бо яе старэйшыя сяброўкі з нашага дома, якія мелі ўжо сем год, сталі вучаніцамі. Ніна раней была ў псіхолага, які даў пасведчанне, што Іра можа ісці ў першы клас пачатковай школы. І сын з дачкой хадзілі часта разам ў школу, ён у другі клас, а Ірэна ў першы. Яна не мела ніякіх цяжкасцяў у школе і атрымоўвала амаль заўсёды вельмі добрыя адзнакі. Я яе навучыў чытаць не толькі польскія падручнікі, але рускія і беларускія. Яна, як і сын, у варшаўскім аддзеле БГКТ на вул. Сенатарскай выступалі з іншымі дзяцьмі і гаварылі там няраз беларускія вершы. Ніна вадзіла іх на ўрокі праваслаўнай рэлігіі ў царкву і там яны вучыліся праваслаўных малітваў.

**22 лістапада**, калі я вечарам вярнуўся з камандзіроўкі, то на галоўным вакзале ў Варшаве пачуў у вакзальным радыё вестку, што быў забіты прэзідэнт ЗША Джон Кенедзі (1917-1963). Быццам яго забіў Освальд. Прэзідэнтам ЗША стаў Л. Джонсан.

**14 чэрвеня** Пекін прыслаў у СССР 25 пунктаў абвінавачвання СССР у рэвізіянізме і напісаў, што Кітай не прызнае больш СССР за кіраўнічую дзяржаву сярод сацыялістычных дзяржаў. **14 ліпеня** СССР крытычна аднёсся да гэтых закідаў з боку Кітая – гэтак закончылася дружба паміж СССР і Кітаем.

**21 ліпеня** быў моцны землятрус ў Скоп'і ў Македоніі. Загінулі 1070 чалавек, а больш за 3000 былі паранены.

**9 кастрычніка** ў Швейцарыі валун з гары ўпаў на плаціну, разбіў яе і вада заліла некалькі вёсак. Загінулі больш за 2000 чалавек.

**15 кастрычніка** канцлер Заходняй Нямеччыны К. Адэнаўэр пайшоў у адстаўку – яго месца заняў Л. Эрхард.

# 1964

**2 студзеня** нечакана завітаў у Варшаву Мікіта Хрушчоў. Чаму ён прыехаў, ніхто не ведаў. Чаго ён хацеў ад У. Гамулкі, нічога не напісалі.

**9 студзеня** пачаліся антыамерыканскія хваляванні ля Панамскага канала. Загінула 95 чалавек. Панама парвала дыпламатычныя зносіны з ЗША.

**25 студзеня** з базы ЗША ў Каліфорніі выслалі спутніка Эхо-2 на зямную арбіту. Гэта быў першы супольны эксперымент ЗША і СССР у галіне доследаў космасу.

**27 студзеня** Францыя, першая з заходніх дзяржаў, наладзіла дыпламатычныя адносіны з Кітайскай Народнай Рэспублікай.

**29 лютага** У. Гамулка выступіў з прапановай замарозіць атамнае і тэрмаядзернае ўзбраенне на свеце. НАТА не згадзілася з прапановай.

Заканчвалася ўжо будова электрастанцыі Конін. Гатовіліся да сінхранізацыі з электрычнай дзяржаўнай сеткай астатняга блока 120 мегаватаў. Ужо будавалі другую электрастанцыю з катламі на буры вугаль, з генератарамі на 120 мегаватаў, Адамаў, якая распалажана ў 30 км ад Коніна, недалёка ад мясцовасці Турэк. Першы блок сінхранізавалі восенню 1964 г., а пяты ў 1966 г. Аднак яе праектавала іншая група праекціроўшчыкаў „Энергапраекта". Я многа год пазней праектаваў для яе аўтаматыку падачы вугля транспарцёрамі ў катлы. Да яе даязджаў цягнікам на вакзал Кола, а пасля аўтобусам км 30 да электрастанцыі. Цяпер наша група праектавала электрастанцыю Тураў.

**14 сакавіка** 34 навукоўцаў і пісьменнікаў выслалі пісьмо прэм'еру Ю. Цыранкевічу з пратэстам супраць абмежаванай культурнай палітыкі дзяржавы. Падпісалі пісмо М. Дамброўская, А. Сланімскі, П. Ясеніца і іншыя. За перадачу пісьма за граніцу ў Радыё Свабода і збор подпісаў арыштавалі Яна Ліпскага. 15 красавіка ў Варшаўскім універсітэце быў праведзены мітынг у падтрымку пісьма 34-х.

**З 1 сакавіка** мяне перавялі ў іншую праектную групу, каб памог ім праектаваць электрастанцыю Понтнаў. Кіраўніком гэтай групы быў многа старэйшы за мяне інжынер Браніслаў Кавальчык. Электрастанцыя Понтнаў, таксама на буры вугаль, знаходзіцца ў 4 км на поўнач ад электрастанцыі Конін, ля возера Гаславіцкага, з якога, як і электрастанцыя Конін, бярэ ваду для катлоў і для ахаладжвання турбін ды машын. У электрастанцыі Понтнаў, як і ў Тураве прадбачыліся блокі па 200 мегаватаў, якія я ўжо праектаваў для электра-



*7.1.1962 г. на прыёме на вул. Лавіцкай у Варшаве: З. Верблінскі, жонка Ніна, аўтар успамінаў (стаіць), матка Ніны і Віктар Швед*

станцыі Тураў. Кіраўніку групы я спадабаўся і ён хутка са мною падружыў, пачаў запрашаць мяне і маю жонку да сябе ў госці. Пасля мы ездзілі разам на экскурсіі ў ГДР, Венгрыю, Румынію і Балгарыю ды адпачывалі ў Доме „Энергапраекта" ў Свінавусці. У 1981 г. ён пайшоў на пенсію, а калі я ў 1988 г. вярнуўся з Індыі, Б. Кавальчык хутка захварэў і памёр на 72 годзе жыцця.

Юра і Іра хадзілі ў адну школу на вуліцы Красналэнцкай, толькі Юра ў другі клас, а Іра ў першы. Прыносілі яны вельмі добрыя ацэнкі са школы і настаўніцы іх хвалілі. Кожную нядзелю, а пасля і ў суботу, Ніна вазіла дзяцей ад першага класа ў сабор Марыі Магдалены на Празе на ўрокі праваслаўнай рэлігіі. Вучыў іх протаіерэй Мікалай Лянчэўскі.

**14 мая** М. Хрушчоў адкрыў у Егіпце на рацэ Ніл Асуанскую плаціну, запраектаваную ў СССР і пабудаваную пад кіраўніцтвам савецкіх інжынераў.

**27 мая** ў Індыі памёр Д. Неру, які ад 1947 г. быў першым прэм’ерам Індыі.

**Ад 15 да 20 чэрвеня** ў Варшаве прайшоў IV з’езд ПАРП, на якім ставілі націск на эканамічнае развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі, на будову новых кватэр. У 1960-1964 гг. пабудавалі толькі 300 тыс. пакояў у кватэрах у гарадах і 120 тыс. на вёсках. Гэта было мала, бо ў той час кожны год больш пар жаніліся, чым будавалася кватэр. Слабасцю тагачаснай гаспадарчай палітыкі быў недахоп прадуманай доўгатэрміновай стратэгіі грамадска-гаспадарчага развіцця падзеленага на паасобныя этапы і кепскія адносіны да ўзрастання рэальных заработных плат і супольных даходаў насельніцтва, як рэзультата многіх іншых эканамічных фактараў росту, а не як мэты эканамічнай палітыкі. Не звярталі ўвагу на рост узроўню жыцця насельніцтва і каб даць насельніцтву такую колькасць тавараў, якую яно хоча купіць без чаргі. Давяло гэта да напругі ў гаспадарцы, што аслабіла эфектыўнасць сродкаў назначаных на гаспадарчае развіццё.

**У ліпені** Ніна выкупіла пуцёўку на 14 дзён на курорт ў таварыстве ПАКС (PAX) Баляслава Пясэцкага (1915-79) у Закрочыме, недалёка ад Варшавы. Даехалі мы туды аўтобусам. Гэта быў аднапавярховы дом са сталоўкай і з вялікімі пакоямі з чатырма ложкамі і ўмывальнікамі. Перад домам быў вялікі пляц, дзе дзеці маглі гуляць, а іх бацькі загараць на шазлонгах. Недалёка была рака Вісла, дзе быў невялікі пляж, куды мы тады рэдка хадзілі. Ля берага Віслы стаяў стары рачны карабель „Малгося”, які можна было аглядаць. У сувязі з тым, што Закрочым быў блізка Варшавы, у нядзелю прыехала да нас на цэлы дзень маці Ніны, Матыльда Сахацкая, якую пад вечар Юра не хацеў пусціць на аўтобус у Варшаву.

У той самы час адпачываў разам з намі ў гэтым жа доме ў суседнім пакоі вядомы польскі палітык і пісьменнік Станіслаў Цат-Мацкевіч (1896-1966), які ў 1954-55 гг. быў польскім прэм’ерам на эміграцыі ў Лондане, а ў 1956 г. вярнуўся ў Польшчу. Перад вайной ён жыў у Вільні, быў староннікам Ю. Пілсудскага, а пасля яго смерці востра крытыкаваў польскія санацыйныя ўлады, за што 17 дзён у 1938 г. сядзеў ў Картуз-Бярозе. Крытыкаваў тады санацыйныя улады таксама і за перaслед праваслаўных, за разбурэнне цэркваў. Яго брат, Юзэф Мацкевіч (1902-85) нават у знак пратэсту ў 1938 г. перайшоў з каталіцкага веравызнання на праваслаўе.

Помню, як вярнуўся Цат-Мацкевіч ў Польшчу, то вельмі крытыкаваў Англію ў сваіх артыкулах у польскіх часопісах. Калі яму нехта напісаў, што ён жэр англійскі хлеб, а цяпер яе крытыкуе, ён даказваў, што ад Англіі ён не атрымоўваў грошай, бо меў свае прывезеныя з Польшчы і за іх жыў. Ён падпісаў таксама пісьмо 34-х, а ў 1956 г. пачаў высылаць свае артыкулы ў польскія часопісы ў Францыі. За гэта польскія ўлады хацелі яго судзіць, ды ён хутка памёр. У доме адпачынку, дзе мы яго сустракалі і ў сталовай, і перад домам, ён быў вельмі ветлівы.

Калі мы вярнуліся з Закрочыма ў Варшаву, то на 10 дзён паехалі мы з дзяцьмі ў вёску Чаромху, каб дзеці былі больш на свежым вясковым паветры. Дочкі ў сястры ў Чаромсе ўжо падраслі і яны ахвотна апекаваліся нашымі дзяцьмі.

**31 ліпеня** даляцела на Месяц амерыканская беспілотная станцыя „Рэйнджэр" і разбілася, раней прыслала фотаздымкі Месяца.

**2 жніўня** аб'явілі, што быццам в'етнамскія тарпедныя катэры заатакавалі амерыканскія знішчальнікі „Медакс" і „К. Тэрнер Джой". Тысячы амерыканскіх самалётаў за гэта збамбілі паўночны В'етнам. **4 жніўня** была новая атака на тыя самыя знішчальнікі в'етнамскіх тарпедных катэраў. ЗША выслалі салдат у В'етнам і пачалася вайна між В'етнамам і ЗША. Пазней ЗША прызналіся, што ніякай атакі в'етнамскіх катэраў на амерыканскія знішчальнікі не было. Гэта была мана, каб мець падставу бамбіць В'етнам і высылаць туды сваю армію. Тысячы амерыканскіх самалётаў да 1973 года нішчылі В'етнам, загінула ў гэтай вайне шмат в'етнамцаў і амерыканцаў. У 1969 г ваявала ў В'етнаме 540 тыс. амерыканскіх і больш як 500 тыс. паўднёвав'етнамскіх салдатаў супраць паўночнага В'етнама. **29 сакавіка 1973 г.** амерыканцы ганебна пакінулі В'етнам, а камуністы з поўначы **30 красавіка** занялі Сайгон ды ўвесь В'етнам.

**30 верасня** пачаўся пуск Нова-варонежскай атамнай электрастанцыі. Магутнасць першага рэактара была 240, а другога 365 мегаватаў.

**5 кастрычніка** арыштавалі пісьменніка М. Ваньковіча за перадачу за мяжу крытычных інфармацый аб уладах Польшчы, **5 лістапада** яго судзілі, ён атрымаў тры гады турмы, аднак яго не арыштавалі і ў турме ён не сядзеў.

**12 кастрычніка** савецкі касмічны карабль „Васход" з касманаўтамі В. Камаровым, К. Феакціставым, і Б. Ягоравым 16 разоў акружыў Зямлю і вярнуўся на яе.

**14 кастрычніка**, калі М. Хрушчоў адпачываў на Чорным моры, у Маскве тайком сабралася палітбюро КПСС, якое вызваліла Хрушчова ад абавязкаў першага сакратара КПСС і прэм'ер-міністра. Першым сакратаром КПСС стаў Л. Брэжнеў, а прэм'ер-міністрам Касыгін. М. Хрушчоў трапіў у няласку – яго абвінавацілі ў многіх памылках. Памёр ён 11 верасня 1971 г.

**29 кастрычніка** Нобелеўскую прэмію ў галіне квантавай фізікі атрымалі два савецкія фізікі, Н. Басаў і А. Прохараў, разам з амерыканцам М. Таўсанам.

**16 кастрычніка** адбыўся пробны выбух атамнай бомбы ў Кітаі.

**3 лістапада** прэзідэнтам ЗША выбралі Л. Джонсана.

**З 14 на 15 лістапада** служба бяспекі Польшчы канфіскавала крытычны мемарыял Я. Кураня і К. Мадзалеўскага – улады выключылі іх з ПАРП.

# 1965

Яшчэ з **20 лістапада 1964 г.** распачаўся ў Варшаве ў судзе гучны працэс, у якім у крадзяжы мяса абвінавачвалі 400 асоб. Галоўным абвінавачаным быў дырэктар С. Ваўжэцкі. Суд у лютым прыгаварыў яго да смерці, чатыры асобы атрымалі пажыццёвае зняволенне, іншыя – па некалькі год турмы. Працэс вёўся пад націскам улад, якія хацелі, каб гэты суд быў паказны, напужаў іншых аферыстаў. Многа шуму было ў газетах, у радыё і ў тэлебачанні.

Нашай праектнай групе акрамя электрастанцыі Понтнаў далі пректаваць электрастанцыю Астралэнку Б з блокамі па 200 мегаватаў кожны. Пачаў я ездзіць туды ў камандзіроўкі. Вазілі мяне пераважна „нысай" з „Энергапраекту".

**10 студзеня** ў катастрофе ля Нарвегіі загінуў польскі карабель з 18 матросамі.

**20 студзеня** прэзідэнтам ЗША надалей пераабралі Л. Джонсана.

**18 сакавіка** пачаўся касмічны палёт савецкіх касманаўтаў Беляева і Ляонава на „Васходзе 2". Ляонаў тады быў першым касманаўтам, які

выйшаў у скафандры ў час палёта з касмічнага карабля ў адкрыты космас. 3 чэрвеня зрабіў гэта амерыканскі касманаўт Эдвард Уайт на касмічным караблі „Джэміні 4". На „Джэміні" 3, 4, 5, 7 і 6А амерыкацы зрабілі пяць групавых палётаў у космас у 1965 г. „Джэміні 3" з касманаўтамі Уолтэрам Шырам і Томасам Стэфардам вылецеў 23 сакавіка і зрабіў тры віткі і астатні ў 1965 г. „Джэміні 6А" вылецеў 15 снежня з касманаўтамі В. Грысам і Д. Янгам і зрабіў 16 віткоў. Амерыканцы гатовіліся да палёту на Месяц. Апрача таго 20 лютага разбілася на Месяцы амерыканская сонда „Ранджэр 8", а 24 сакавіка „Ранджэр 9", аднак выслалі яны на Зямлю больш як 10 тыс. здымкаў паверхні Месяца. 12 мая разбілася таксама на Месяцы савецкая „Луна 5", а „Луна 6" не змагла 11 чэрвеня сесці на Месяцы, трапіўшы на сонечную арбіту.

**18 сакавіка** арыштавалі Яцка Кураня і Караля Мадзалеўскага за адкрытае пісьмо, да членаў ПАРП, у якім крытыкавапі польскую ўладу і ПАРП. За гэта **19 ліпеня** суд прыгаварыў Я. Кураня на тры гады, а К. Мадзалеўскага на тры з паловай гады турмы.

**27 сакавіка** ў Румыніі генеральным сакратаром Камуністычнай партыі Румыніі быў выбраны М. Чавушэску (1918-1989), які пачаў весці палітыку не заўжды згодную з жаданнямі КПСС. Быў аднак вельмі непрыемным дыктатарам для румынскага народа.

**28 сакавіка** ў землятрусе ў Чылі загінулі 400 жыхароў гэтай краіны.

**1 красакавіка** прыйшла вестка аб смерці У. Чэрчыла, ранейшага прэм'ер-міністра Вялікабрытаніі, які прычыніўся да перамогі над гітлераўскай Нямеччынай. У тэлебачанні паказвалі фільмы з яго пахавання.

У Паўднёвым В'етнаме ЗША высадзілі тысячы сваіх салдат і пачалася там зацяжная вайна з цяжкай бамбёжкай Паўночнага В'етнама. У сувязі з гэтым у ЗША і ў Англіі прайшлі вялікія дэманстрацыі супраць гэтага крывавага канфлікта.

**6 красавіка** з'явіўся ў Варшаву з візітам Л. Брэжнеў. Працаўнікоў майго бюро і розных прадпрыемстваў Варшавы выганялі на трасу яго праезду, каб паказаць, што народ яго вітае. Быў ён у Варшаве да 9 красавіка і падпісаў з У. Гамулкам дамову аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе між СССР і Польшчай.

**28 сакавіка** ЗША заатакавалі Дамініканскую Рэспубліку, высадзілі там сваіх салдат і давялі да замены прэзідэнта і ўлады на такую, якая была выгаднай Амерыцы.

**20 мая** ў Егіпце разбіўся пакістанскі самалёт. Згінулі 119 пасажыраў, а шэсць было параненых. Раней, 19 красавіка, разбіўся ў Сірыі ярданскі самалёт. Згінулі 54 асобы.

**30 мая** ў Польшчы былі праведзены выбары ў Сейм і народныя саветы, якія прайшлі, як і праходзілі раней. У выбарах ўзялі ўдзел 96,6% выбаршчыкаў. ПАРП атрымала 55,5% галасоў, Аб'яднаная сялянская партыя – 25,4%, беспартыйныя – 11,1%, Дэмакратычная партыя – 8% галасоў. Прэм'ер-міністрам Польшчы стаў, як і раней, Ю. Цыранкевіч.

**26 мая** ў саборы Марыі і Магдаліны ў Варшаве адбылася інтранізацыя новага праваслаўнага мітрапаліта Польшчы Сцяпана (Рудыка, 1891-1969). Папярэдні праваслаўны мітрапаліт Польшчы Цімафей памёр 20 мая 1962 г.

Водпуск узялі мы ў жніўні. На два першыя тыдні жніўня. Ніна выкупіла чатыры месцы ў доме адпачынку ў Закрочыме, у тым самым месцы, дзе мы былі ў 1964 г., а наступныя два тыдні я выкупіў у Доме адпачынку „Энергапраекта" на Балтыйскім моры пры нямецкай граніцы ў Свінавусці. Да Закрочыма мы паехалі з дзяцьмі аўтобусам і там, як год назад, адпачывалі пры рацэ Вісле. Як і ў 1964 г. адпачываў там у той жа час былы прэм'ер польскага ўрада на эміграцві ў Лондане ў 1954-55 г. вядомы палітык і пісьменнік Станіслаў Цат-Мацкевіч (1896-1966), які ў 1956 г. вярнуўся ў Польшчу. Аднак у 1965 г. ён быў у той самы час разам з намі толькі тыдзень. Ад ліпеня ўжо вялося ў пракуратуры следства супраць яго і супраць Януара Грудзінскага ды Яна Непамуцэна Мілера за публікацыі ў замежнай прэсе іх артыкулаў. Аднак яго не арыштавалі, бо ў 1966 г. ён памёр. Вярнуліся мы дамоў таксама аўтобусам.

Выкупілі раней мы квіткі на хуткі цягнік у Свінавусце на два спальныя купэ разам з сям'ёй майго кіраўніка ў бюро Б. Кавальчыка. У адным купэ была мая жонка Ніна з Юрам і Ірай, а ў суседнім жонка Б. Кавальчыка з іх сынам і іх малодшай дачкой. Старэйшая іх дачка ўжо была замужняй і з намі не ехала. Я з кіраўніком Б. Кавальчыкам дзень раней меў нараду ў Познані. Паехалі мы туды ў кама-

ндзіроўкуі адтуль пасля нарады цягнікам паехалі ў Свінавусце. З'явіліся мы туды пад вечар і атрымалі два выкупленыя намі пакоі, дзе мы пераначавалі. Ніна з дзяцьмі і жонка Б. Кавальчыка са сваімі, старэйшымі за нашых, дзяцьмі вечарам у той дзень, калі мы былі ў Познані занялі ў цягніку выкупленыя спальныя месцы і рана на наступны дзень з'явіліся на вакзале ў Свінавусці, дзе мы іх сустрэлі. Разам з багажом праехалі мы маторным паромам на востраў, дзе быў наш дом адпачынку і дабраліся да яго на таксі. Маторныя паромы перавозілі людзей і машыны на другі бераг бясплатна. Курсіравала іх там некалькі. Недалёка стаялі ваенныя караблі.

Свінавусце – вельмі прыемнае месца для адпачынку. Ад нашага дому да марскога пляжа было 100 метраў. Елі мы снеданні, абеды і вячэры ў доме адпачынку Міністэрства энергетыкі, які знаходзіўся побач нашага дома і стаяў бліжэй да мора, чым наш. На пляжы былі пляжныя кашы, у якіх загаралі мы на сонцы. Дзеці ахвотна купаліся ў моры, рабілі ў пяску замкі, хадзілі мы з імі пад самую нямецкую граніцу, дзе відаць было нямецкіх турыстаў. Пляж ад маяка да нямецкай граніцы цягнуўся не менш чым чатыры кіламетры. У той час яшчэ нельга было перахадзіць на нямецкі бок, але ў другой палове 80-х гадоў ужо дазвалялі, калі хто меў з сабою пашпарт. Тады хадзілі мы ў іх крамы, абмяняўшы польскія злотыя на нямецкія маркі. Цяпер зрабілі нам экскурсію катэрам па моры, аўтобусную па курортах пры моры і пехотою па рыбных прадпрыемствах Свінавусця.



*Аўтар на пляжы ў Свінавусці*

Дамы ў Свінавусці ля самага мора выкупілі розныя прадпрыемствы і прадавалі пакоі летам на адпачынак для сваіх працаўнікоў. Для тых, хто мала зарабляў былі ільготы. Калі я плаціў за чатырохмесны пакой на два тыдні 600 зл., то мой асістэнт толькі 145 зл. У кожным пакоі быў туалет, умывальнік і душ з цёплаю вадой. Былі і двухмесныяпакоі – каштаваў ён мне 400 зл. Калі атрымаў я два пакоі, кожны з двума ложкамі, то ў адным жыў я з сынам, а ў другім жонка з дачкой. Можна было там хадзіць на розныя медыцынскія працэдуры, якія лекар прыпісваў. Працэдуры былі бясплатныя. На восень, зіму і вясну дамы аддаваліся ў санаторыі. Санаторыі для працаўнікоў былі бясплатнымі. Мяне ў 1985 г. у красавіку выслалі на тры тыдні ў санаторый у Свінавусці. Толькі тады жыў я не ў „Доме Энергапректа" а ў „Доме электрастанцыі Конін". Давалі мне тады гразевыя ванны на пазваночнік, а нараслі на нагах, так званыя „шпоры", разбілі мне ўльтракароткімі радыехвалямі. Паблізу Свінавусця, ля намецкай граніцы, быў прыемны сасновы лес. Калі дзень быў пахмурны, то хадзілі мы ў лес. Ля мора ў кустах стаялі яшчэ разбітыя нямецкія бункеры.У 1989 г. і ў 1990-1992 гадах, я яшчэ ездзяў у „Дом Энергапраекта" з жонкаю і малымі ўнукамі, а пасля „Энергапраект" прадаў дом і закончыўся адпачынак працаўнікоў у Свінавусці.

Цяпер выкупілі мы экскурсію з дзяцьмі на адзін дзень катэрам на падводных крылах у Шчэцін, дзе гід паказаў нам горад, касцёлы і порт, музеі. Я з жонкай у Шчэціне раней былі некалькі разоў, а дзеці – першы раз. Вечарам вярнуліся мы тым самым катэрам у дом адпачынку ў Свінавусці.

Лёгка ў Свінавусці можна было купіць рыбу і іншыя спажывецкія прадукты. Час на моры прайшоў нам вельмі прыемна. Вярнуліся мы ў Варшаву цягнікам у спальных купэ. Селі мы там вечарам і ранкам былі ўжо ў Варшаве.

**19 жніўня** перадалі ў эксплуатацыю электрастанцыю Тураў на паўднёвым усходзе Польшчы. Працавалі там ужо сем блокаў па 200 мегаватаў кожны. Да 31 снежня 1971 г. пабудавалі там яшчэ тры блокі па 200 мегаватаў і аддалі ў эксплуатацыю электрастанцыю, якая мела магутнасць 2000 мегаватаў. Будавалі ўжо электрастанцыю Понтнаў з блокамі па 200 мегаватаў кожны на буры вугаль. Першы блок аддалі ў эксплуатацыю ў 1967 г.

За раман „Ціхі Дон" Міхал Шолахаў (1905-1984), пісьменнік з СССР, атрымаў літаратурную Нобелеўскую прэмію. Пасля ў 1970 г. А. Салжаніцын закінуў пісьменніку, што „Ціхі Дон" з'яўляецца плагіятам казацкага пісьменніка Фёдара Крукава (1870-1920), які або памёр на тыф, або яго забілі бальшавікі ў 1920 г., бо ён ваяваў супраць бальшавізму. Яшчэ раней закідвалі Шолахаву, што „Ціхі Дон" з'яўляецца плагіятам. Пры Сталіне стварылі камісію, якая мела праверыць, ці М. Шолахаў сам напісаў раман. Камісія адкінула закід, што М. Шолахаў ад кагосьці яго перапісаў. Аднак многія не вераць гэтай камісіі.

**12 лістапала** СССР выпусціў аўтаматычныя міжпланетныя станцыі „Венеру 2", а 16 лістапада „Венеру 3" , якія мелі сесці на планету Венеру. „Венера 2" 27 лютага 1963 г. праляцела 24 тыс. км ад планеты Венеры, а „Венера 3" села 1 сакавіка 1963 г. на планету Венеру, аднак нічога не перадала на Зямлю, бо раней у час палёту сапсаваліся ў ёй усе важныя апараты. Станцыя перадала толькі звесткі ў час палёту.

**18 лістапада** каталіцкія польскія епіскапы выслалі каталіцкім епіскапам Заходняй Нямеччыны ліст, у якім пісалі аб прабачэнні вінаў і самі прасілі прабачэння. Гэта вельмі не спадабалася У. Гамулцы і камуністычнай уладзе Польшчы. Падняўся вэрхал у газетах, радыё і тэлебачанні, дзе моцна асуджалі гэтае пісьмо польскіх епіскапаў.

**19 снежня** Праваслаўная і Каталіцкая цэрквы знеслі анафемы, якія наклалі адна на адну ў 1054 г., калі адбыўся падзел паміж усходнімі праваслаўнымі цэрквамі і Рымам. Знеслі іх падчас сустрэчы канстантынопальскі патрыярх Афінагор і рымскі папа Павел VI.

**19 снежня** ў Францыі ў другім туры выбараў прэзідэнтам Францыі выбралі Шарла дэ-Голя. Атрымаў ён 44.9% галасоў.

# 1966

Энергетыка да 1966 г. паспешліва аддавала ў эксплуатацыю новыя энергетычныя блокі. Закончылі пабудову трэцяга блока 120 мегаватаў і сінхранізавалі яго з энергетычнай сеткай у Адамаве. У Тураве працавала ўжо сём блокаў 200 мегаватаў. А ў Понтнаве мы закончылі праектаваць першы блок 200 мегаватаў. Пішу толькі аб тых блоках, якія праектаваў наш калектыў. А іншыя калектывы праектавалі іншыя электрастанцыі. Праектавалі электрастанцыі таксама

„Энергапраекты" ў Катавіцах і ў Глівіцах. Праектавалася і будавалася цеплацэнтралі ў многіх гарадах Польшы, як Варшава, Познань, Лодзь, Гданьск, Беласток і іншых. У „Энергапраекце" Варшава быў калектыў, які праектаваў гідраэлекрастанцыі ў Жыдаве, Жарноўцы, у Паромбках-Жарах.

**3 студзеня** памёр бацька савецкай касманаўтыкі Сяргей Каралёў.

**17 студзеня** над Іспаніяй падчас запраўкі палівам у паветры амерыканскага бамбардзіроўшчыка Б-52 з чатырма тэрмаядзернымі бомбамі, наступіла сутыкненне з амерыканскім заправачным самалётам КЦ-135. Наступіў выбух, загінулі сямёра лётчыкаў (трое лётчыкаў выратаваліся на парашутах). Тры тэрмаядзерныя бомбы ўпалі на бераг мора і наступіла скажэнне глебы радыеактыўным палоніем, якое адчуваецца да сённяшняга дня, хаця вывезлі адтуль многа скажанай глебы, а чацвёртая бомба ўпала ў мора і знайшлі яе на 81 дзень пасля катастрофы.

**19 студзеня** І. Гандзі (1917-1984) выбралі прэм'ер-міністрам Індыі. У 1884 г. яна загінула ў замаху.

**31 студзеня** вылецела савецкая касмічная аўтаматычная станцыя „Луна 9" без людзей, а 3 лютага мякка села на Месяцы, 8 гадзін яна перасылала на зямлю панараму Месяца і здымкі, а 31 сакавіка „Луна 10" вылецела і 3 красавіка ўвайшла на арбіту Месяца, а 29 мая на ім разбілася. Пасля „Луна 11" увайшла 27 жніўня на арбіту Месяца, а 4 кастрычніка ўпала на яго паверхню і „Луна 12" 29 кастрычніка ўвайшла на арбіту Месяца, а 18 студзеня 1967 г. разбілася на Месяцы.

**16 лютага** прайшоў VI з'езд БГКТ. Старшынёй БГКТ быў выбраны Вінцук Склубоўскі, намеснікам старшыні – Мікалай Самоцік і сакратаром – Уладзімір Юзвюк.

**22 лютага** СССР выслаў у космас на „Спутніку 10" двух сабак, Угалька і Вецярка. Яны былі ў космасе 23 сутак і вярнуліся жывымі 17 сакавіка. Калі іх выцягнулі са спутніка, дык былі без шэрсці, адчувалі вялікую смагу і не маглі стаяць на нагах. Аднак шэрсць у іх адрасла і пасля яны бегалі і жылі некалькі год, нарадзілася ў іх здаровае патомства. Гэты эксперымент паказаў, што касманаўты ў космасе могуць быць доўгі час.

**1 сакавіка** савецкая станцыя „Венера 3" села на планеце Венеры, аднак нічога не перадала на Зямлю, бо ў час палёту сапсаваліся яе прыборы. Вылецела яна з касмадрома 16 лістапада 1965 г.

**5 сакавіка** ў Японіі разбіўся англійскій самалёт „Боінг 707-436", які ляцеў з Токіо ў Ганконг. Загінулі 124 асобы, у іх ліку 26 сямейных пар, якія асіраціілі 63 дзяцей.

**12 сакавіка** ў Белавежы ў звычайнай хаце адкрыўся беларускі этнаграфічны музей. Уласнік хаты аддаў яе ў арэнду – хата была зацеснай і непрыстасаванай да патрэб музея. Была думка аб пабудове новага будынка, але нічога з гэтага не выйшла. Ад холаду і вільгаці за першую зіму многія экспанаты згнілі. Новага будынка не знайшлі і ў лютым 1969 г. сабраныя экспанаты музея, якія ўцалелі, пайшлі ў скансен у Цеханоўцы, дзе ім адмовілі ў „беларускасці".

**16-17 сакавіка** амерыканскія касманаўты М. Амстронг і Д. Скот на „Джэміні 8" злучыліся ў космасе са спутнікам „Аджэна," хацелі забраць яго на Зямлю. Тады амаль не дайшло да катастрофы, бо дзве станцыі пачалі моцна круціцца і М. Амстронг паспеў уручную адлучыцца ад „Аджэны" і вярнулася „Джэміні 8" без „Аджэны". Пасля ЗША выслалі ў космас чатыры спутнікі „Джэміні" 9, 10, 11, 12 у кожным былі два касманаўты. У „Джэміні 9", які паляцеў 3 чэрвеня , былі касманаўты Т. Стэфард і Ю. Стэрпан, у „Джэміні 10", які паляцеў 18 чэрвеня, былі касманаўты Дж. Янг і М. Колінг,у „Джэміні 11", які вылецеў 11 верасня былі касманаўты Ч. Конрад і Р. Гордан і ў „Джэміні 12", які вылецеў 11 лістапада былі касманаўты М. Колінг і Р. Гордан.

**22 сакавіка** ва Уроцлаве заваліўся будаваны факультэт меліярацыі ў Вышэйшай сельскагаспадарчай школе. Загінулі дзесяцёра рабочых.

**У сакавіку** з'явіўся з візітам у Польшчу шах Ірана Рэза Пахляві (1919-1990).

У тым часе ЗША расшыраюць вайну ў В'етнаме, бамбуюць паўночную частку В'етнама, гарады Ханоі і Хайфанг і з 3 мая Камбоджу. Аднак в'етнамцы ўсё больш збіваюць амерыканскіх самалётаў і 6 ліпеня па вуліцах Ханоі правялі 50 збітых амерыканскіх лётчыкаў, якія ўцалелі і трапілі ў в'етнамскі палон.

**30 мая** ЗША выпусцілі аўтаматычную касмічную станцыю „Сервеёр 1", якая мякка села на Месяцы і выслала на зямлю 11237 здымкаў Месяца.

**14 чэрвеня** рымскі папа Павел VI ліквідаваў рэестр усіх кніг забароненых перад ім усімі іншымі рымскімі папамі. Рэестр гэты Павел VI перадаў у музей.

**2 ліпеня** Францыя правяла выпрабавальны атамны выбух у Афрыцы.

**13 жніўня** ў Кітаі пачынаецца культурная рэвалюцыя, ад якой страцілі жыццё сотні тысяч кітайскіх жыхароў. Адносіны між СССР і Кітаем завастрыліся. З СССР у кастрычніку выгналі ўсіх кітайскіх студэнтаў, якія там навучаліся.

**11 сакавіка** Францыя запатрабавала, каб НАТА забрала свае базы з Францыі, а ад 20 да 30 чэрвеня прэзідэнт Францыі Ш. дэ-Голь знаходзіцца з афіцыйным візітам у СССР. 28 кастрычніка ён пажадаў, каб ЗША вывелі сваіх салдатаў з В'етнама і перасталі яго бамбаваць.

**3 мая** ў Чэнстахове Каталіцкі касцёл святкаваў тысячагоддзе прыняцця Польшчаю хрысціянства князём Мешкам I з Чэхіі. Нічога не ўспаміналася, што Польшча ўжо многа год раней прыняла хрысціянства з Мараваў і што дзесяткі гадоў да прыняцця хрысціянства князем Мешкам I у Гнезне, у Кракаве і ў іншых гарадах былі ўжо хрысціянскія епіскапы і цэрквы.

Ніна выкупіла ў чэрвені месцы ў доме адпачынку ў Берутавіцах (цяпер Карпач Гурны). Тады вёску ля Карпача назвалі ў гонар прэзідэнта Берута Берутавіцамі і пабудавалі там дамы адпачынку. Назву Берутавіцы на Карпач Гурны змянілі ў 1991 г. Мы туды даехалі ў спальным вагоне цягнікам з Варшавы. Ехалі цэлую ноч цераз Уроцлаў і Яленюю Гару. Атрымалі мы там вялікі пакой з чатырмаложкамі, з туалетам і душам, у доме адпачынку „Уроча". Сталовая была ў доме адпачынку. Дзеці першы раз пабачылі горы Карканошы. Мясцовасць была вельмі цікавая. Недалёка стаяў драўляны пратэстанцкі касцёл Ванг з XIII стагоддзя прывезены туды ў XVII стагоддзі з Нарвегіі. Была падвесная дарога, якая падвозіла людзей да высокай гары Снежкі (1692 м). Я з Юрам паехалі падвеснай дарогай пад гару і пасля ўзышлі на яе разам з экскурсіяй і былі ля самай чэхаславацкай граніцы. Пабачылілі там метэаралагічную абсерваторыю і капліцу св. Ваўжынца. Лягчэй было ўзысці наверх, чым сысці ўніз. Ніна з Ірай асталіся ўнізе, не захацелі падымацца на гару. Ніна раней была на гэтай гары, калі мяне не ведала, ішла пехатою на яе ад самага пачат-

ку, за што атрымала нейкі турыстычны медаль. Цяпер асталася ўнізе і чакала нас. Мелі мы там аўтобусныя экскурсіі ў розныягорныя мясцовасці, былі мы ў Шклярскай Парэмбе, дзе я меў на гідрастанцыі студэнцкую практыку ў 1953 г. і камандзіровачнаю практыку ў 1954 г. Хадзілі мы ў Карпач. Час у Берутавіцах прайшоў вельмі прыемна. У Берутавіцах сустрэлі мы нашу суседку з пятага паверху нашага блока са сваёй дачкой, Марыяй, Вольгу Дземяновіч, беларуску з-пад Вілейкі. З імі часта мы праводзілі час.

Калі мы вярнуліся цягнікам дамоў у спальных вагонах, то хутка ізноў паехалі ў Свінавусце ў Дом „Энергапраекта", дзе я выкупіў месцы на два тыдні. У гэтым доме мы ўжо былі ў 1965 г., так што месца нам ужо было знаёмае.  Дзеці цешыліся морам. Якраз сустрэлі мы ў Свінавусці пляменніцу суседкі з нашага дома са сваім мужам і дачкой ды з імі часта мы праводзілі наш час. Яны жылі ў іншым доме адпачынку. Са Свінавусця вярнуліся мы таксама ў Варшаву цягніком у спальных купэ. Матка Ніны адпачывала тады сама ў Варшаве. Яна не хацела ехаць з намі ў дом адпачынку. Пасля адпачынку чакала нас праца ў бюро. У тэлебачанні паказвалі, што 5 лістапада на паўвостраве Вестэрплятэ ля Гданьска быў адкрыты помнік салдатам, якія першыя прынялі атаку немцаў у 1939 г.

**19 жніўня** ад землятрусу ва ўсходняй Турцыі загінулі амаль 2000 жыхароў.

**У верасні** прыехала да нас на некалькі дзён Ліда, дачка маёй сястры Марыі з Чаромхі. Яна ўжо вучылася ў сярэдняй школе ў Бельску-Падляшскім. Паказалі мы ёй Варшаву і ваколіцу. Былі ў некалькіх музеях Варшавы.

**2 лістапада** Албанія парвала свае адносіны з СССР і стала замацоўваць іх з Кітаем.

# 1967

Вайна ў В'етнаме між амерыканцамі і паўночнымі в'етнамцамі расшыралася, а **26 студзеня** кітайскія хунвейбіны захапілі савецкае пасольства ў Пекіне, пратэстуючы супраць таго, што СССР выгнаў у 1966 г. усіх кітайскіх студэнтаў з савецкіх  вышэйшых навучальных установаў, ды нікога не адпускалі з пасольства да 12 лютага.

**27 студзеня** на амерыканскім касмадроме Каневерал згарэлі ў ракеце „Апалон 1" тры амерыканскія касманаўты (Э. Уайт, Р. Чафі і В. Грысом), а 24 красавіка загінуў савецкі касманаўт У. Камароў пры прызямленні савецкай ракеты „Саюз 1", бо не адкрыўся парашут.

Падняўся шум, калі 6 сакавіка ў Дэлі (Індыя) перабегла з савецкага пасольства ў амерыканскае дачка І. Сталіна і Надзеі Алілуевай (1901-1932 гг.), другой жонкі І. Сталіна, Святлана Алілуева і папрасіла там прытулку. Пасля з Індыі яна трапіла ў Швейцарыю, а адтуль у ЗША і там напісала тры кнігі аб сваім бацьку і СССР. Ёй дазволілі паехаць у Індыю, каб яна змагла там порах свайго трэцяга мужа індуса, Браджэша Сінгха, пасля крэмацыі ўкінуць у раку Ганг. Калі я быў у 1987 і 1988 гг. у Дэлі, то бачыў, што савецкае і амерыканскае пасольствы знаходзяцца пры адной вуліцы і блізка сябе, дык Святлана лёгка магла ўцячы, калі засталася адна. Калі яна ішла вуліцай, дык брама на тэрыторыю амерыканскага пасольства адчынілася, яна праз яе прайшла і засталася.

Святлана нарадзілася 28 лютага 1926 г., добра ведала англійскую мову (пераклала з яе некалькі кніг на рускую) і ў маі 1962 г. у Маскве ахрысцілася. Першым яе мужам з 1944 г быў яўрэй, Грыгорый Марозаў (аднакласнік яе брата Васіля) – з ім мела яна сына Іосіфа (1945-2008). Святлана пісала, што яе бацька не хацеў нават убачыць яе мужа, таму што ён быў яўрэем і ён ануляваў іх шлюб. Другім яе мужам быў сын члена палітбюро ЦК Андрэя Жданава, Юрый Жданаў, ад якога нарадзілася дачка Кацярына. З ім таксама Святлана разышлася. У 1967 г. яна выдала ў ЗША першую сваю кнігу на рускай мове „Двадцать писем другу", якую быццам стала пісаць яшчэ ў Савецкім Саюзе, дзе расказала свае ўспаміны пра бацьку. Кнігу гэту я прачытаў у 1968 г., калі перавёз яе з Нью-Йорка мой знаёмы з Уроцлава Л. Кавалеўскі, якога запрасіў да сябе ў 1968 г. яго знаёмы праваслаўны мітрапаліт у Нью-Йорку Ірыней (Іван Бекіш). За гэту кнігу яна атрымала ад нямецкага журнала „Штэрн" 480 тыс. нямецкіх марак (122 тыс. амерыканскіх долараў). У гэтых успамінах Святлана апісала, як яе бацька пасля смерці жонкі Надзеі (якая праўдападобна застралілася) праследаваў сям'ю Алілуевых. Загадкава загінуў брат Надзеі, Павел (1894-1938), былі высланы ў гулагі цёткі Святланы ды іншыя яе сваякі. Святлана апісала таксама як І. Сталін выслаў у ссылку жонку з дзяцьмі свайго сына ад першай жонкі,

Като Сванідзе, Якава Джугашвілі (1907-1943), калі даведаўся, што ён трапіў у нямецкі палон і аб смерці ў Казані свайго брата лётчыка, Васілія (1921-1962), які пасля смерці І. Сталіна трапіў у турму ў 1953 г. і сядзеў там да 1961 г., а пасля памёр ад алкагалізму. Аднак Святлана напісала няпраўду, што яе бацька меў у сакавіку 1953 г. кровазліцце ў мозг, калі купаўся ў гарачай лазні, а не пасля прыёму на сваёй дачы. Відаць, яе ашукалі Берыя і памагатыя. Пасля Святлана выдала яшчэ ў 1969 г. кнігу „Только один год" і ў 1992 г. „Далёкую музыку". У ЗША ў 1970 г. Святлана чацвёрты раз выйшла замуж за амерыканскага архітэктара В. Пітэрса, якому нарадзіла дачку Вольгу, але з ім таксама разышлася. У 1984 г. яна пераехала з дачкою Вольгай у Савецкі Саюз і жыла пачаткова ў Маскве, а пасля ў Тбілісі. Хоць мела яна там добрыя матэрыяльныя ўмовы, пенсію, кватэру і машыну, а яе дачку Вольгу вучылі рускай мове, але яна папрасіла М. Гарбачова, каб іх адпусцілі з СССР у Англію. М. Гарбачоў згадзіўся. Дзеці Святланы, Іосіф і Кацярына, у Савецкім Саюзе не схацелі з ёю сустракацца. Калі яны выехалі ў 1986 г. у Англію, а пасля ў ЗША, то Кацярына з імі перапісвалася. Пасля Святлана аб'ехала многа краінаў пакуль былі ў яе грошы. Цяпер, здаецца, жыве яна, як Лана Пітэрс, у ЗША ў штаце Вісконсін у прытулку для састарэлых і атрымлівае пенсію 690 долараў ЗША. Яна назвала свайго бацьку „маральным і духоўным монстрам", а Кастрычніцкую рэвалюцыю – „фатальнай і трагічнай памылкай".

Калі ў якасці польскага гіда „Орбіса" я быў з экскурсіяй у 1977 г. у Грузіі, дык бачыў разбураныя ўсе помнікі І. Сталіна – і ў Тбілісі, і ў іншых гарадах, але ў Горы, дзе нарадзіўся І. Сталін, ля яго музея, стаяў яго помнік, хаціна яго бацькі шаўца-п'яніцы і вялікі палац-музей, дзе паказвалі падарункі, якія прыслалі яму з усяго свету на яго 70 год нараджэння. У гэтым музеі паказвалі таксама партрэт яго дачкі Святланы, якая ў той час жыла ў ЗША. А навокал я бачыў – у грузінскіх шафёраў ды ў аўтобусах, і ў іншых машынах на шыбах – прыклееныя здымкі І. Сталіна. Грузіны дэманстравалі ўсім, што яны любяць І. Сталіна, хоць ён сам вельмі крытычна ставіўся і да Грузіі, і да грузінаў. Часта ў размовах Сталін казаў, што ён хіба не з'яўляецца сынам Вісарыёна Джугашвілі, а нават, як цяпер адкрылі, змяніў дату свайго нараджэння з 6 снежня 1878 г. на 21 снежня 1879 г. і хацеў,

каб думалі, што ён з’яўляецца сынам славутага генерала падарожніка і географа Мікалая Пржвальскага (1839-1888), які ніколі не быў не толькі ў Горы, але нават і на Каўказе. М. Хрушчоў яму паверыў.

**21 сакавіка** адбываецца дзяржаўны пераварот у Грэцыі, дзе ўлада перайшла ў рукі „чорных палкоўнікаў” – генерала С. Патакаса, палкоўніка Г. Пападопулоса і палкоўніка Н. Макарэзоса, якія 10 мая ўзялі пад кантроль Праваслаўную царкву і забралі ўладу каралю, які з сям’ёю ўцёк у Італію.

**19 мая**, згодна з жаданнем Егіпета, ААН выводзіць сваіх салдатаў з-пад ізраільска-егіпецкай мяжы ды 22 мая Егіпет закрывае заліў Акаба для ізраільскіх караблёў. Ізраіль пачаў мабілізаваць сваіх рэзервістаў. Гаварылася, што будзе ізраільс-ка-арабская вайна, таму што ўсе сусездзі Ізраіля заявілі, што калі Ізраіль нападзе на Егіпет, то яны пачнуць вайну з Ізраілем.

**У першыя дні чэрвеня** ў нашым бюро была арганізаваная аўтобусная экскурія ў ГДР. На гэтую экскурсію прымалі толькі работнікаў варшаўскага „Энергапраекта” і я мог паехаць адзін, без жонкі. Выехалі мы аўтобусам з Варшавы вельмі рана. Даехалі да Слубіцаў і там затрымаліся на ноч у гасцініцы „Палёнія”. На другі дзень паехалі мы да мяжы. Трымалі нас там гадзіны дзве і пад вечар былі мы ў гасцініцы ў Берліне. На другі дзень павазілі нас па горадзе. Маглі мы пабачыць, акрамя іншых ўсходнеберлінскіх аб’ектаў, толькі Брандэнбургскую браму з усходняга боку. Яе тады добра пільнавалі і заходняй часткі Берліна нам не паказалі. Завезлі нас у Потсдам, дзе паказалі нам Цэціленхоф звонку і ўнутры, у якім адбылася мірная потсдамская канферэнцыя 17 ліпеня – 2 жніўня 1945 г. з удзелам Сталіна, Трумена і Чэрчыля. Паказалі нам  вялікі стол, за якім яны сядзелі і вялікія іх здымкі на сценах. Пасля пабачылі мы іншыя палацы, як Сан-Сусі з аранжэрэяй і іншыя цікавыя месцы Брандэнбургіі.

Давалі нам вельмі шчодрыя снеданні, якіх мы не маглі з’есці, смачныя абеды, і сціплую вячэру. Пераначавалі мы другую ноч у гасцініцы ў Берліне.

Яшчэ мы пераначавалі адну ноч у гасцініцы ў Берліне і ранкам паснедаўшы паехалі мы проста ў Варшаву, дзе з’явіліся позна ноччу.

Калі мы вярнуліся, то даведаліся дакладна аб перамозе Ізраіля над арабамі ў шасцідзённай вайне. **5 чэрвеня** а 8-ай гадзіне раніцы

ўся ізраільская авіяцыя паднялася ў паветра і знішчыла на егіпецкіх аэрадромах 416 самалётаў Егіпета, сама страціўшы толькі 26 сваіх. Ізраіль захапіў Сінай, Сектар Газы, Іерусалім і Голанскія вышыні ў Сірыі ды заходні бераг Іарданіі. Яўрэі, якія працавалі ў нашым бюро вельмі цешыліся з перамогі Ізраіля і былі абураны, што У. Гамулка парваў з Ізраілем дыпламатычныя адносіны і што Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў прагаласавала, каб Ізраіль пакінуў захопленую арабскую тэрыторыю, чаго ён не зрабіў. Як мы пасля даведаліся, гэтая аперацыя „Фокус" была многа раней падрыхтаваная Ізраілем і ў ёй прымала ўдзел 192 амерыканскія лётчыкі, якія прыехалі ў Ізраіль, як турысты.

Падзеі ў Ізраілі выкарыстала ў Польшчы група „партызанаў", якімі кіраваў  Мечыслаў Мочар, каб выступіць супраць гэтак званых сіяністаў. Улады арганізавалі  тады мітынгі супраць Ізраіля, на якіх часта паказваліся лозунгі  „Сіяністы ў Сіён".

**19 чэрвеня** на VI кангрэсе прафсаюзаў У. Гамулка сказаў: „W związku  z tym, że agresja Izraela na kraje arabskie spotkała się z aplauzem w syjonistycznych środowiskach Żydów – obywateli polskich, pragnę oświadczyć co następuje: nie czyniliśmy przeszkód obywatelom polskim narodowości żydowskiej w przeniesieniu się do Izraela, jeśli tego pragnęli. Stoimy na stanowisku, że każdy obywatel polski powinien mieć tylko jedną ojczyznę – Polskę Ludową. Niech ci, którzy odczuwają, że słowa te skierowane są pod adresem – niezależnie od ich narodowości – wyciągną z nich właściwe wnioski". І далей: „Nie możemy pozostać obojętni wobec ludzi, którzy w obliczu zagrożenia pokoju światowego, więc także bezpieczeństwa Polski i pokojowej pracy naszego narodu, opowiadają się za agresorem, za burzycielem pokoju, za imperializmem".

Эмацыйная прамова У. Гамулкі датычыла таксама беларусаў і іншых нацыянальнасцяў у Польшчы. ГП БГКТ асудзіла ізраільскую перамогу. Павалі нарастаў сураціў да палітыкі У. Гамулкі і ў радах „партызанаў" Мочара, і сярод яўрэяў, якія знаходзіліся ў той час ва ўладах Польшчы і гэта прывяло да падзеяў 1968 г.

**14 чэрвеня** ў Кітаі правялі першы пробны ўзрыў тэрмаядзернай бомбы.

**На пачатку ліпеня** паехалі мы на некалькі дзён у вёску Чаромху з дзяцьмі. Дочкі маёй сястры ўжо вучыліся ў сярэдніх школах

у Бельску-Падляшскім, дык нашы дзеці правялі з імі некалькі дзён. Дзве старэйшыя дачкі сястры, Ніна і Ліда, прыехалі з намі ў Варшаву і мы ім паказалі горад, былі з імі ў парку і ў палацы ў Вілянаве.

**У другой палове ліпеня** я з Нінай, Юрай ды Ірай цягніком у спальным вагоне паехалі ізноў на два тыдні ў „Дом Энергапраекта” ў Свінавусце. Год раней мы таксама правялі там два тыдні. „Дом Энергапраекта” стаяў у горадзе, метраў сто ад пляжа. Ад вакзала ў горад пераязджалі мы паромам. Сталаваліся мы ўвесь час у сталовай „Дома Энергетыка”, які стаяў па другі бок вуліцы. Пакоі ў нас былі двумесныя, кожны з душам. Там былі знаёмыя працаўнікі з майго бюро, чарцёжніца Ірэна Мараўская са сваім сынам і інжынер Гук са сваёй сям’ёю. Мы часта праводзілі з імі свой час.

Свінавусце – прыемны прыморскі курорт. Пляж цягнецца ад нямецкай мяжы кіламетраў чатыры, да маяка. Вада чыстая. З другога боку граніцы бачны нямецкі пляж.У 80-я гады дазвалялі нам пераходзіць праз граніцу, а ў 90-я нават рабілі экскурсіі ў Капенгаген і ў многія нямецкія гарады. Цяпер арганізавалі толькі экскурсіі па іншых польскіх марскіх курортах і прадпрыемствах горада ды рабілі прагулку караблём па моры.

Ніна дамовілася па тэлефоне са сваёй даўняй знаёмай з Сарнаў, Марыяй Еўчук, і з яе дачкой Мусяй (Марыяй), урачом стаматолагам і яе сынам Севай (Усеваладам), якія жылі ў Шчэціне, што мы прыедзем з дзяцьмі да іх. Паехалі мы цягніком. Сева сустрэў нас на вакзале і на двух таксі забраў нас на кватэру Марыі Еўчук. Там мы з’елі абед і Сева павёз паказаць нам Шчэцін. Пабачылі мы яго касцёлы і палацы – палац, дзе калісьці жыла пазнейшая руская царыца Кацяпына II. Я, Ніна і дзеці бачылі Шчэцін у 1966 г. ды былі мы тады коратка, бо прыехалі мы са Свінавусця катэрам і ім вярнуліся. Цяпер мы пераначавалі на кватэры М. Еўчук, на другі дзень яшчэ пабачылі горад і цягніком вярнуліся ў Свінавусце. Я ў Шчэціне быў раней два разы на службовых канферэнцыях.

Сева мне расказаў, што з яго сястрой Мусяй калісьці заручыўся будучы генерал Войцех Ярузельскі (у той час быў ён толькі афіцэрам, а яна працавала стаматолагам у войску) ды ён пасля не спадабаўся сястры, бо не захацеў браць шлюб у царкве, і яна вярнула яму пярсцёнак, чаго мажліва пасля і шкадавала. Муся пасля выйшла замуж

за іншага польскага афіцэра, які абяцаў ёй, што пасля цывільнага шлюбу возьмуць паціху і царкоўны шлюб, але ён яе ашукаў, бо пасля пабаяўся пайсці ў царкву і дзяўчына ўзяла з ім развод. Была яна такая веруючая, што без царкоўнага шлюбу не захацела разам жыць. Жыла яна з маці на адной кватэры і не пайшла больш замуж, нават калі маці памерла.

Пад канец ліпеня вярнуліся мы са Свінавусця і пайшлі на працу, а Іра ў жніўні выехала з дзецьмі з майго бюро ў дом адпачынку Вісла-Глэмбцэ, там дзе мы адпачывалі разам у 1961 г. Юра не захацеў ехаць і застаўся ў Варшаве. Дзеці ў верасні пайшлі ў школу.

Калі мы былі ў Свінавусці, то да мяне прыйшло запрашэнне на ўрачыстае пасяджэнне ў элекрастанцыі Понтнаў у сувязі са святам адраджэння Польшчы, ды я не змог паехаць. Узнагароду, якую мне прысвоілі потым прыслалі мне дамоў. У час працы я часта ездзіў у камандзіроўкі на электрастанцыю Понтнаў, дзе ўжо працавалі два блокі 200 мегаватаў і амаль гатовы быў трэці блок. У электрастанцыі Тураў будаваўся ўжо восьмы блок 200 мегаватаў. На электрастанцыі Адамаў працавалі ўжо 5 блокаў па 120 мегаватаў кожны.

Перад выездам у Свінавусце, **3 ліпеня** мы даведаліся аб чыгуначнай катастрофе паміж Дзялдовам і Нідзіцай. Чатыры вагоны сышлі з рэек ды загінулі 7 асоб, а 47 былі пararанены.

**6 верасня** візіт у Польшчу нанёс французскі прэзідэнт Шарль дэ Голь, якога з энтузіязмам сустракалі ў многіх гарадах да 12 верасня. Дэ Голь ужо ў 1959 г. выказаўся за прызнанне польска-нямецкай мяжы па Одэры і Нысе Лужыцкай, прызнаў не зважаючы на супрацію ЗША ў 1964 г. Кітайскую Народную Рэспубліку і ў чэрвені пакрытыкаваў Ізраіль за вайну з арабамі, што выклікала моцную крытыку з боку французскіх яўрэяў ва ўладах Францыі. Дэ Голь у 1966 г. нанёс візіт у СССР, дзе таксама быў гучна прыняты.

**25 лістапада** ў Народным Тэатры ў Варшаве прайшла прэм’ера „Дзядоў” А. Міцкевіча ў пастаноўцы К. Дэймка, якую скарысталі і „партызаны” Мочара, і дзеці яўрэйскіх партыйных саноўнікаў, каб справакаваць антысавецкія дэманстрацыі, каб У. Гамулка закрыў гэты спектакль і выклікаў незадавальненне студэнтаў ды насельніцтва Варшавы. У. Гамулка трапіў як муха у гэтую павуціну ды гэта прывяло ў 1968 г. да студэнцкіх выступленняў супраць улады У. Гамулкі, якія

скончыліся вельмі непрыемна і для многіх студэнтаў, і для грамадзян Польшчы яўрэйскай нацыянальнасці.

**28 лістапада** ў Варшаве ў ФСО выпусцілі першы аўтамабіль ФІАТ-125.

**7 снежня** ў Шчэціне ў трамвайнай катастрофе згінулі 15 чалавек, а 47 былі цяжка паранены.

**13 снежня** ля шахты медзі „Канрад" у Івінах а 3-й гадзіне ноччу вада прарвала плаціну пасляфлатацыйных асадаў шахты. Высокая на 6 метраў хваля балота заліла Івіны і 4 суседнія вёскі. Загінулі 18 асоб і 570 былі пакрыўджаны. Вада і балота разбурыла 150 будынкаў.

# 1968

1968 год быў багаты падзеямі. ЗША высылае ўсё больш салдатаў у В'етнам і не могуць яны дабіцца перамогі. **4 студзеня** лік амерыканскіх салдатаў у В'етнаме павялічваецца да 485 тысяч, а эфектаў няма, таму ў ЗША ўсё часцей людзі дэманструюць супраць вайны ў В'етнаме. **30 студзеня** пачалося наступленне в'етнамскай камуністычнай арміі ў паўднёвым В'етнаме.

У Чэхаславакіі выбіраюць першым сакратаром КПЧ А. Дубчэка, які абяцае ўвесці дэмакратычныя рэформы ў дзяржаве, што не падабаецца Л. Брэжневу ў СССР. Раней першым сакратаром КПЧ быў А. Навотны, які яшчэ астаецца прэзідэнтам.

**5 студзеня** я з жонкаю Нінай і з маім кіраўніком групы праекціроўшчыкаў з „Энергапраекта" Б. Кавальчыкам і яго жонкаю паехалі спальным экскурсійным цягнікам у тры сталіцы: Будапешт, Бухарэст і Сафію. У вагоне ў кожным купэ былі па два месца дла спання, я спаў на верхняй, а Ніна на ніжняй паліцыцы. З кожнай сталіцай мы знаёміліся тры дні, пачынаючы ад Будапешта. Спалі мы ў вагоне, а харчаваліся ў рэстаран-вагоне. У Будапешце і Бухарэсце абеды елі мы ў гарадскіх рэстаранах пасля аўтобуснай экскурсіі. Марозу не было, так што мы правялі прыемна два тыдні ў падарожжы. У Будапешце аглядзелі мы горад, яго музеі і венгерскі парламент. У Бухарэсце таксама пабачылі горад, многія праваслаўныя цэрквы і некалькі музеяў. Вечарам пасля экскурсій вярталіся мы ў цягнік і ў вагон-рэстаран на вячэру, а пасля ў сваё купэ ў вагоне. У Сафіі

13 студзеня сказалі нам, што мы будзем начаваць дзве ночы ў гасцініцы Балкантурысту „Рыле” і завезлі нас туды на абед і далі пакоі. Пасля абеду павезлі нас на экскурсію ў горад. Палякі з нашай экскурсіі вельмі зацікавіліся, калі ўбачылі, што многія балгары ў гэты дзень неслі ў руках тарты, піrожнае, кветкі і ракію. Калі спыталіся ў балгарскага гіда, якое ў іх сёння свята, ён адказаў, што заўтра балгары святкуюць св. Васілія Вялікага і што гэта ў іх вялікае прыватнае свята ды да таго і нядзеля.

Пасля вячэры ў рэстаране ў гасцініцы я з Нінай рашылі пайсці пяшком на набажэнства ў Неўскі Сабор, у якім мы ўжо ўдзень былі на экскурсіі ў музеі праваслаўных ікон. У сувязі з тым, што мы не ведалі добра дарогі з нашай гасцініцы да сабора, час ад часу пыталіся на рускай мове ў пешаходаў у якім напрамку нам трэба ісці. І нечакана спыталіся мы ў маладой незнаёмай нам пары, якая вельмі добра ведала рускую мову. Яна была настаўніцай рускай мовы ў Сафіі, а яе муж – інжынер закончыў нейкі маскоўскі інстытут. Яны былі такія ветлівыя, што завялі нас у Неўскі сабор, прастаялі з намі гадзіну на літургіі і адвялі нас у нашу гасцініцу, якая аказалася паблізу пяціпавярховага дома, у якім яны жылі. Па дарозе назад завялі нас у невялікую рускую царкву, дзе было поўна народу. Раней нас здзівіла, што ў Неўскім саборы было мала людзей. Знаёмыя нам сказалі, што ў гэтую рускую царкоўку прыходзяць рускія, беларусы і ўкраінцы, жыхары Сафіі , бо пропаведзь святар гаворыць тут на рускай мове. Калі мы ля гасцініцы дзякавалі ім за іх сардэчную ветлівасць, яны запрасілі нас на наступны вечар прыйсці да іх на вячэру.

На наступны дзень пасля снедання мы мелі экскурсію ў горад, а пасля абеду вольны час ды паехалі падвеснай чыгункай у закрытым вагоніку на гару Вітоша ля Сафіі, дзе правялі некалькі гадзін амаль да вечара. Там было даволі холадна. Калі мы вярнуўшыся ў гасцініцу з’елі ў рэстаране вячэру, не паспелі паехаць ліфтам у наш пакой, як убачылі ў холе ля рэстарана нашага ўчарашняга знаёмага інжынера-балгара. Ён чакаў, каб нас забраць да сябе. Кватэру ён меў трохпакаёвую з кухняй, пярэдняй і туалетам. З Вітошы прыехалі мы прамёрзлыя і таму балгары пачаставалі нас у першую чаргу так званай у іх „грэтай ракіяй” у фарфоравых невялікіх кілішках і без закускі. Калі „грэтая ракія” нас разагрэла, паявіліся на стале віно,

мяса, вінаград і іншая гародніна. А „грэтая ракія" была слівавіцай падгрэтай на кухні да тэмпературы 40 °C. Прыйшоў да іх яшчэ іх нейкі знаёмы. Час у іх так хутка мінуў, што вярнуліся мы ў гасцініцу ў поўнач. На апошні наш дзень у Сафіі, пасля снедання ранкам нашы знаёмыя балгары прыйшлі з намі развітацца ля нашай гасцініцы і мы з аўтобуса памахалі ім на развітанне. Пасля мы з імі доўгі час перапісваліся, слалі сувеніры, аднак ніколі не бачыліся, хаця я пасля некалькі разоў быў у Балгарыі. Ды не ў Сафіі. А яны ніколі не былі ў Польшчы, хоць мы іх запрашалі прыехаць да нас. Пасля перапіска закончылася..

Вярталіся мы таксама цэраз Бухарэст і Будапешт і затрымліваліся ў гэтых гарадах толькі на адзін дзень у кожным горадзе. Вярнуліся мы дамоў **20 студзеня** і **22** пайшлі на працу.

**31 студзеня** зрабіўся шум, бо на астатнім спектаклі п'есы А. Міцкевіча „Дзяды" ў рэжысуры К. Дэймка, якую паказвалі ў Нацыянальным тэатры ў Варшаве ад 25 лістапада 1967 г., і якая была пастаўлена на 50 гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе, вечарам 30 студзеня студэнты ўвесь час білі моцныя апладысменты і крычалі, калі былі антыцарскія выказванні Г. Галёўбка, а пасля спектакля зрабілі дэманстрацыю супраць цэнзуры ля помніка А. Міцкевіча на Кракаўскім прадмесці і крычалі выдуманы К. Мадзалеўскім лозунг „Незалежнасць без цэнзуры! Хочам культуры без цэнзуры!". Яны ўсклалі кветкі ля помніка і крычалі, каб улады знеслі цэнзуру. Міліцыя разагнала дэманстрацыю, 35 студэнтаў арыштавала.

Спектакль гэты перад прам'ерай праглядзелі савецкія крытыкі і літаратары і ім ён спадабаўся. Калі гэты спектакль стаў славутым, знаёмы з „Энергапраекту " М. Ліпка купіў сабе і мяне на яго білеты і я з ім яго паглядзеў. Спектакль нам спадабаўся, ды нас здзівіла, што ў першых радах сядзелі людзі, якія пасля антыцарскага звароту артыста Густава Галёўбка білі моцныя апладысменты, рабілі шум і голасна крычалі ад захаплення. Выглядала гэта на правакацыю. Мы прыглядзеліся ім і ўбачылі сярод іх літаратара А. Сланімскага, які вельмі голасна крычаў. Хадзілі чуткі, што на гэты спектакль пачалі для правакацыі прыходзіць людзі (былі між імі і „партызаны" М.Мочара, тады міністра ўнутраных спраў, і моладзь яўрэйскай нацыянальнасці – дзеці партыйных саноўнікаў), якія спецыяльна ра-

білі шум, голасна крычалі і апладзіравалі, калі чулі антыцарскія ці антырускія словы артыстаў, каб справакаваць улады да інтэрвенцыі, і вызваць незадаволенасць людзей да ўлад. І У. Гамулка трапіў на іх вуду, пабачыў у гэтым антысавецкую дэманстрацыю. І дзяржаўныы цэнзар, якім тады быў бацька А. Міхніка, О. Шэхтар, па загаду У. Гамулкі ў студзені зняў гэту п’есу са сцэны. Пасыпаліся пратэсты і з Саюза польскіх літаратараў і ад іншых асоб. Пад петыцыяй студэнтаў падпісалася 3 тысячы асоб. Здавалася многім, што ў аснове гэтых дэманстрацый ляжала ізраілска-арабская вайна ў чэвені 1967 .г, якую востра асудзіў У. Гамулка і сарваў дыпламатычныя адносіны Польшчы з Ізраілем. Таму былі арганізаваныя дэманстрацыі супраць У. Гамулкі моладзі габрэйскага паходжаня, якіх бацькі былі важнымі чыноўнікамі камуністычнай улады Польшчы, незадаволеных палітыкай У. Гамулкі да Ізраіля, а таксама „партызан” М. Мочара, якія хацелі адсунуць У. Гамулку ад улады і самі яе захапіць і пачаткова справакаваць першага сакратара ПАПР да дзеяння супраць яўрэяў ва ўладах і ў ПАРП. У Францыі былі такія самыя дэманстрацыі яўрэйскай моладзі і міністраў яўрэйскага паходжаня супраць дэ Голя, які асудзіў Ізраіль за вайну супраць арабаў у 1967 г.. Яго таксама абвінавацілі ў антысемітызме.

**8 сакавіка** студэнты Варшаўскага Унівесітэта сабраліся на пляцу перад універсітэтам з пратэстам супраць цэнзуры, які арганізавалі так называемыя „камандосы” А. Міхнік, Г. Шляйфер, К. Мадзэлеўскі, Я. Курань і іншыя. Ды ўлады іх яшчэ ранкам перад пратэстам студэнтаў арыштавалі. Супраць іх арышту таксама пратэставалі студэнты. Праўдападобна дэманстрацыя сама б  разышлася, каб міліцыя М. Мочара і ОРМО яе не разагнала і многіх не пабіла. Гэта таксама была правакацыя Мочара. А ў сувязі з тым, што большасць „камандосаў”, дзяцей саноўнікаў улады, была яўрэйскага паходжання пачалася антыгабрэйскае цкаванне У. Гамулкі. Ад Варшаўскага універсітэта прайшла тады дэманстрацыя студэнтаў па Кракаўскім Пшэдмесці і па Новым Свеце і міліцыя не разагнала яе раней, а толькі спецыяльна давяла яе да Еразалімскіх Алей і зрабіла гэта на вачах У. Гамулкі, ля будынка ЦК ПАРП. Іх там разагналі і многіх пабілі.

**9 сакавіка** пачалі дэманстраваць студэнты з Варшаўскай політэхнікі і студэнцкія дэманстрацыі пашырыліся на іншыя гарады, як

Кракаў і Вроцлаў, Лодзь, Познань, Торунь і Гданьск. Студэнты чакалі на падмогу рабочых, аднак яе не было.

Чуваць было плёткі, што п'еса не падабалася савецкаму паслу ў Варшаве А. Арыставу і быццам бы ён змусіў польскі урад зняць яе з афішы, ды пасол абвяргаў гэта. Хацеў нават афіцыйна выступіць з абвяржэннем.

Дэманстрацыі кончыліся для студэнтаў кепска, многіх выкінулі з навучальных установ і забралі іх служыць у армію, а вельмі многіх людзей яўрэйскага паходжаня, якім прыклеілі этыкету сіяністаў, выкінулі з працы і дазволілі ім свабодна выехаць з Польшчы. Правялі вялікую чыстку і ў арміі і ў міністэрствах і ў іншых дзяржаўных установах. Выкідвалі з працы саноўнікаў яўрэйскага паходжання, членаў ПАРП. У Гамулка сказаў, што калі яўрэй не адчувае сябе палякам, то можа свабодна з'ехаць у Ізраіль ці ў іншую дзяржаву, а першы сакратар Варшаўскага Камітэта ПАРП І. Кэнпа на сходзе крычаў: „Сіяністы ў Ізраіль!" Сілай яўрэяў не выкідвалі з Польшчы, толькі многіх звальнялі з працы, аднак тым, якія выязджалі, адбіралі польскае грамадзянства і польскі пашпарт, каб не маглі вярнуцца. Выехала тады 12-15 тыс. асоб яўрэйскага паходжання. Некаторыя выязджалі ахвотна. Выехала амаль 1 000 студэнтаў ВНУ яўрэйскага паходжання, 18 высокіх партыйных чыноўнікаў і 729 вышэйшых чыноўнікаў з ПАПР і ўлад, між іншым міністр Ф. Тапольскі і некалькі віцэ-міністраў, многа дырэктараў дэпартаментаў міністэрства, 28 дыпламатаў, 128 саноўнікаў Упраўлення Дзяржаўнай Бяспекі, 55 палітычных афіцэраў Народнага Польскага Войска, 28 суддзей, больш як 200 журналістаў прэсы і 61 рэдактараў камуністычнага радыё і тэлебачання. Ды „камандосы" і яўрэйская апазіцыя, якія сядзелі не раз у турмах, не выехалі і сталіся пасля слаўнымі і некаторыя з іх, як А. Міхнік, багатымі. Пасля 15 сакавіка У. Гамулка прызнаў сваю памылку, стаў прыцішаць, ды пушчаны рухавік чыстак цяжка было спыніць. Пасля сакавіка 1968 г. засталіся ў Польшчы яўрэйскія арганізацыі і прэса, працаваў у Варшаве Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр і многія яўрэі асталіся на высокіх дзяржаўных пасадах. У. Гамулку абвінавачвалі ў антысемітызме, хаця яго жонка была яўрэйкай. У. Гамулка астаўся далей першым сакратаром ПАПР. Праўдападобна падсунулі тады У.

Гамулку праект павышэння цэн на многія тавары, ды ён не згадзіўся. Зрабіў гэта ў снежні 1970 г. і тады страціў уладу.

У „Энергапраекце", дзе я працаваў, на пасадах кіраўнікоў было не менш дзесяці асоб яўрэйскага паходжання і ўсе яны засталіся, за выключэннем аднаго інжынера, Нэя. Ён сам выступіў, што хоча выехаць у Швецыю і выехаў. Яго ніхто не выганяў.

У Чэхаслівакіі **23 сакавіка** прэзідэнт А. Навотны адыходзіць у адстаўку і **30 сакавіка** выбіраюць прэзідэнтам Л. Свабоду.

**У маі** месяцы наш знаёмы з Вроцлава Л. Кавалеўскі паляцеў у Нью-Йорк запрошаны мітрапалітам Амерыканскай Праваслаўнай Рускай Царквы Ірынеем (Іванам Бэкішам), які добра ведаў бацьку і матку маёй жонкі Ніны, і Ніну хрысціў, калі быў настаяцелем царквы ў Паліцах на Валыні. Ён добра ведаў усіх яе сваякоў, якія паўцякалі ад бальшавікоў з Крыма разам з арміяй П. Врангеля ў Югаславію, а пасля 1939 г. з Польшчы ў розныя дзяржавы Еўропы і Амерыкі і ў 1944 г. з Югаславіі, і з імі перапісваўся. Ён быў мітрапалітам АПРЦ ад 1965 да 22 кастрычніка 1977 г. і таксама ўцёк ад бальшавікоў на захад у 1939 г., а пасля трапіў у Японію, а адтуль у ЗША. Л. Кавалеўскі атрымаў ад мітрапаліта адрасы цётак і іншых сваякоў маёй жонкі, якіх яна пасля вайны загубіла. Прыехаўшы да нас з аэрадрома Л. Кавалеўскі спачатку даў нам на суткі прачытаць на рускай мове прывезеную ім з ЗША кнігу „Двадцать писем к другу" Святланы Алілуевай, дачкі І. Сталіна, якая ўцякла 6 сакавіка 1967 г. у Дэлі ў Індыі з савецкага пасольства ў амерыканскае і папрасіла ў ім прыстанішча. Пасля перадаў нам адрасы цётак маёй жонкі з боку яе маткі Аляксандры Чэкмаровай. Даў нам адрасы ў Бялградзе ў Югаславіі цётак Ніны, Надзеі Фармакоўскай і Наталлі Вінніцкай, дачок былога царскага генерала Віктара, і кузіны жонкі Тані Яршовай у вёсцы Браусэ недалёка ад Альбі ва Францыі, унучкі контр-адмірала Анатолія Кананава ды адрасы Канкордыі Гансон з Бостана ў ЗША, і Анны Гансон з Лондана, сясцёр Надзеі і Наталлі з Бялграда. Мая жонка Ніна не бачыла іх ад 1938 г., калі была яшчэ малой дзяўчынай, і цяпер не ведала дзе яны жывуць і што з імі здарылася. Унучку контр-адмірала Анатолія Кананава, Таню, разам з дзедам і яго ўсёй сям'ёй, як і сям'ю Віктара Чэкмарова саветы ў 1939 г. выгналі з іх маёнткаў у Паліцах на Валыні і пасля смерці Віктара ў Сарнах яны ўсе паехалі

тады ў яшчэ незалежную Літву ў Вільню – там ім прыслаў пашпарты і візы ў Югаславію праф. Фармакоўскі з Бялграда, муж цёткі Ніны, Надзеі. У 1942 г. пасля смерці жонкі Веры контр-адмірала А. Конанава сям’я яго з Югаславіі выехала ў Францыю, дзе жыў сын Анатолія Конанава, таксама контр-адмірал, Іван Конанаў, які ваяваў у 1919 г. з бальшавікамі.

**У маі і чэрвені** я часта ездзіў у камандзіроўкі на будову электрастанцыі Понтнуў, дзе ўжо працавалі тры энергетычныя блокі па 200 мегаватаў і быў амаль гатовы чацвёрты блок такой самай магутнасці, які хутка быў аддадзены ў эксплуатацыю.

Ніна атрымаўшы адрасы цётак у Бялградзе напісала ім пісьмы і хутка атрымала адказы. І цёткі ў Бялградзе, і кузіна з Францыі запрашалі і маю жонку і мяне прыехаць да іх. Мы думалі выехаць у Югаславію з экскурсіяй з дзяцьмі і запісаліся на экскурсію ў турыстычным бюро „Спорт Турыст” на выезд у Дуброўнік. Там аднак, калі пабачылі, што мы хочам выехаць туды з дзяцьмі, нам адмовілі, бо пабаяліся, што мы ўцячэм на Захад. Тады мы ў турыстычным бюро „Орбіс” выкупілі экскурсію на 4 асобы (я з жонкай, сынам і дачкой) у жніўні на тыдзень у Мамаю ў Румыніі і на другі тыдзень у Залатыя Пяскі ў Балгарыі. Калі атрымалі мы запрашэнне прыехаць у Бялград, пастанавілі паехаць туды ў верасні. Дзяцей не маглі мы ўзяць з сабой, бо яны ўжо хадзілі ў школу і мы не хацелі, каб улады думалі, што хочам уцячы на Захад. Каб паехаць у Югаславію не трэба было тады мець афіцыйнага запрашэння, дастаткова было далучыць да просьбы ў пашпартнае бюро ў міліцыі канверт пісьма ад кагосьці з Югаславіі. Мы так зрабілі і пад канец ліпеня атрымалі блакітную аднаразавую ўкладку на выезд у Югаславію важную з пасведчаннем асобы (dowodem osobistym), якія мы мелі пры сабе. І мы тады купілі перад выездам у Румынію чыгуначны білет у Бялград на **6 верасня** і купілі нейкую суму венгерскіх фарынтаў. Цёткі пісалі Ніне, каб мы не ехалі ў Румынію і Балгарыю і прыязджалі да іх, бо палітычная сітуацыя з Чэхаславакіяй не вельмі прыемная пасля таго, як 4 жніўня ў Чэхаславакіі выбралі прэм’ер-міністрам О. Чэрніка і ён знёс цэнзуру і пачаў праводзіць дэмакратычныя рэформы. Ды ўжо было позна. 10 жніўня выехалі мы ў спальным вагоне ў напрамку на Бухарэст цераз Пярэмышль і Украінскую ССР. Кармілі нас у ваго-

н-рэстаране. На тэрыторыі Украіны наш цягнік нідзе не спыняўся. На граніцы з Румыніяй нам сказалі закрыць усе вокны і аблілі ўвесь цягнік нейкім дэзінфекцыйным растворам, бо баяліся, каб мы не завезлі да іх заразную хваробу кароў – яшчура. Цераз Румынію ехалі мы ноччу і гід папярэдзіў нас, каб мы не адчынялі вокнаў, бо румынскія злодзеі ўлазяць на вагон і зверху выцягваюць багаж з купэ праз адкрытыя вокны ў час язды цягніка. Даехалі мы шчасліва да Бухарэста, там забралі нас у аўтобус і паказалі горад. Раней бачылі мы яго зімой, цяпер ужо разам з дзецьмі, паказалі нам летам Трыумфальную арку, патрыярхальны сабор, стадыён і  будынак падобны да варшаўскага Палаца культуры і навукі, пабудаваны таксама Савецкім Саюзам, але на акраіне горада, а не ў цэнтры. Патрыярхальны сабор аглядзелі мы таксама ўнутры.

З Бухарэста ў Канстанцу павезлі нас цягніком у вагоне з мяккімі крэсламі. У Канстанцу прыехалі мы падвечар. Турыстычным аўтобусам адвезлі нас у Мамаю. Яшчэ было відна, калі мы туды прыехалі і, як мы хацелі, далі нам пакой з туалетам і душам на 4 асобы, на другім паверсе вялікага курортнага дома „Унірэа”. Рэстаран быў унізе, мы з’ехалі туды ліфтам на вячэру. Дом стаяў ля самага пляжа і вокны нашага пакоя глядзелі на мора. Яшчэ пасля вячэры паспелі мы выкупацца ў моры. Пляж быў шырокі, да вады трэба было ісці метраў 40 па вельмі дробным пяску. Мора далёка ад берага было плыткае, каб вада дастала да шыі, трэба было прайсці ў вадзе метраў 30. Калі мы вярталіся з мора ў наш дом, спаткалі мы ля яго гурбу чэхаў, якія стаялі, голасна гутарылі і смяяліся ды спявалі, быццам бы ўсім хацелі паказаць, што яны вольныя людзі і цешацца свабодай. Яны цешыліся, ды нам не давалі спаць амаль да поўначы. Многія звярталі чэхам увагу, што ўжо ноч і ўжо час, каб ісці спаць, але заўвагі людзей нічога не памагалі. Быццам рабілі шум усім на злосць.І так было ўвесь тыдзень, кожны вечар.

У Чэхаславакіі ад 1963 г. пачаліся гаспадарчыя цяжкасці, якія давялі ў 1967-1968 гг. да палітычнага крызісу. І таму знялі А. Навотнага з першага сакратара КПЧ і выбралі А. Дубчака. Таксама, як я ўжо пісаў, прэзідэнтам стаў Л. Свабода, на якога згадзіўся СССР. Аднак калі новы прэм’ер-міністр О. Чэрнік пачаў праводзіць лібералізацыю жыцця ў дзяржаве, амаль поўнасцю знёс цэнзуру друку і газеты сталі

свабодна пісаць і крытыкаваць камуністычныя парадкі ў дзяржаве, не спадабалася гэта не толькі Брэжневу, але і амаль усім правадырам у камуністычных дзяржавах. У газетах Савецкага Саюза і ў Польшчы пачалі востра крытыкаваць новае кіраўніцтва КПЧ і абвінавачваць іх у рэвізіянізме і ў жаданні прадацца заходнім капіталістам. Аднак народ падтрымліваў новае кіраўніцтва партыі, што мы бачылі тут. СССР баяўся, каб чэхаславакі не ўпусцілі на сваю тэрыторыю войск НАТА і таму запрапанаваў ёй, каб яна згадзілася ўвесці на яе тэрыторыю савецкіх салдатаў. Чэхаславацкія ўлады адмовілі.

Румыны ў Мамаі і над берагам Чорнага Мора пабудавалі многа цікавых гасцініц для турыстаў і многа турыстаў летам сюды прыязджала на адпачынак не толькі з Польшчы,але і з Чэхаславакіі, ГДР, а нават з заходніх дзяржаў, бо было тут танней, чым ва Францыі ці Іспаніі. Цэны тут былі невысокія і харчаванне добрае. Абед быў з трох страў і на 4 асобы на стол кожны раз давалі літр добрага чырвонага віна і 2 літры мінеральнай вады.

З Польшчы акрамя нашай групы было дзве з іншых турыстычных бюро. На наступны дзень прывяла ў нашую гасцініцу сваю групу наша знаёмая, якая працавала гідам у іншым турыстычным бюро, Святлана Пятруковіч, у якой я пазнаёміў Ніну і якая пазней угаварыла мяне закончыць курс гідаў замежных экскурсій. Пагода ўвесь час была добрая і калі надаела ляжаць на пяску на сонцы, ездзілі мы аўтобусам у Канстанцу, дзе агледзелі не толькі горад і порт, ды і музей, марскі акварыум з фаунай Чорнага мора, дзве старахрысціянскія цэрквы і мячэць.

Час хутка прайшоў і **20 жніўня** пасля снедання выехалі мы турыстычным аўтобусам у Балгарыю. Ехалі ўздоўж Чорнага мора цераз румынскія курорты Норд Еўфорыя, Суд Еўфорыя, Мангалію і аглядалі прыемныя гасцініцы, якія пабудавалі румыны над берагам Чорнага мора. І так даехалі мы да балгарскай граніцы, а пасля цераз Каварну і Албену ў Залатыя Пяскі (па балгарску – Златни Пясьци) – балгарскі курорт ля самага Чорнага мора. Гасцініцу мы атрымалі высока над пляжам на другім паверсе, далі нам два пакоі: мне з сынам, і жонцы з дачкою, у кожным пакоі быў туалет і душ. Прыехалі мы на абед. Сталовая была паблізу ў другім будынку. Абеды таксама былі смачныя з трох страў і з дзвюма бутэлькамі чырвонага балгарскага віна

на 4 асобы. На пляж трэба было сходзіць уніз па ступеньках. Пясок на пляжы быў жоўты (і таму курорт назвалі Залатыя Пяскі) і вада была недалёка ад берага глыбокая, і калі быў моцны вецер, то хвалі білі аб бераг. Цяпер трэба было звяртаць увагу на дзяцей, каб часам задалёка не адышлі ў мора ад берага і хваля іх не захапіла.

Тут таксама многа было палякаў. чэхаў і немцаў з ГДР, аднак чэхі тут так не спявалі перад вокнамі гасцініцы, як у Мамаі, хаця на пляжы збіраліся ў групы і доўга гутарылі. Мы ўжо былі загарэлыя пасля Румыніі і маглі даўжэй ляжаць на сонцы. 20 жніўня мы пасля абеда адразу пайшлі на пляж і толькі пасля вячэры вярнуліся ў нашы пакоі ў гасцініцу, а 21 жніўня мы пасля снедання зыходзілі ўніз і на абед і вячэру падымаліся ўверх. Пасля вячэры гулялі мы па курорце. Балгары таксама, як і румыны, пабудавалі ўздоўж Чорнага мора многа гасцініц, рэстаранаў і да-моў-курортаў.

22 жніўня я перад абедам прыйшоў у пакой гасцініцы і лёг на ложак, ды раптам прыбегла да мяне дачка са словамі: «Чэхі гавораць, што пачалася вайна, бо рускія напалі на Чэхаславакію!». Я сарваўся з ложка, падышоў да радыёпрыёмніка і пачаў шукаць перадачу на зразумелай для мяне мове. І калі знайшоў перадачу на рускай мове, то пачуў толькі музыку і песні. Па доўгіх блуканнях па радыёхвалях пачуў я на рускай мове, як чыталі нейкае пісьмо чэскіх грамадзян, якія быццам бы крытыкавалі кіраўніцтва КПЧ. Хутка мы сышлі ў сталовую на абед і там даведаліся ад знаёмых турыстаў, якія выслухалі заходнія радыёперадачы, што А. Дубчэк і О. Чэрнік ужо вывезены ў Маскву і што ў Чэхаславакію ўвайшлі не толкі савецкія салдаты, а разам з імі і польскія і венгерскія ды нямецкія з ГДР. Толькі Румынія, з дзяржаў Варшаўскага дагавору, прыняла нейтральную пазіцыю і сваіх войск не выслала.

Сярод чэхаў паявілася мітусня, відаць было на іх тварах страх. Гід, які нас сустрэў на абедзе, нас суцешыў, каб мы нічога не баяліся, бо наша група дажыве тут згодна з планам экскурсіі да канца і мы пасля спакойна вернемся цягнікам дамоў. Бо наша дарога вядзе праз Румынію і Савецкі Саюз. Горш будзе тым, якія маюць вяртацца цераз Венгрыю і Чэхаславакію, бо там граніца закрытая. Яны мусяць чакаць пакуль пусцяць цягнікі цераз Венгрыю і Славакію. Чэхі вельмі хваляваліся і хто прыехаў прыватна, то пакінуў хутка Залатыя Пяскі.

Пагода была для нас вельмі добрая. Калі надаела ляжаць на пляжы, мы ездзілі аўтобусам паглядзець іншыя курорты, як Албена і Дружба, а нават у горад Варну. У нядзелю **25 жніўня** паехалі мы ў Варну і зайшлі ў вялікую праваслаўную царкву на набажэнства, а пасля паехалі паглядзець помнік – маўзалей Уладзіслава Варнэньчыка, сына польскага караля Уладзіслава Ягайлы, які загінуў тут у бітве з туркамі ў 1444 г.

А **28 жніўня** пасля абеда адвезлі нас аўтобусам на чыгуначны вакзал у Варне і пагрузілі ў спальны вагон першага класа. Я меў купэ з сынам, а жонка з дачкою. Калі мы былі ўжо ў вагоне, убачылі мы многіх польскіх турыстаў, прыехаўшых прыватна цераз Чэхаславакію і Венгрыю, якія шукалі ці няма свабодных купэ ў нашым цягніку. Многія жанчыны з дзяцьмі плакалі на пероне. Вячэру нам далі ў вагон-рэстаране і ноч ехалі мы спакойна цераз Румынію. На румынскай тэрыторыі з'елі мы снеданне і абед у вагон-рэстаране. Прыходзілі румынскія тамажнікі, аднак у нашы багажы не заглядалі. У сувязі з тым, што Румынія выступіла супраць нашэсця на Чэхаславакію, многія нашы турысты баяліся, што румыны могуць мець да нас прэтэнзію. Аднак усё прайшло спакойна. Украіну праехалі мы без затрымкі і на яе тэрыторыі з'елі мы вячэру і пад вечар былі мы ў Пшэмыслі. Польскія тамажнікі таксама не жадалі, каб мы адкрывалі нашы багажы, гаварылі толькі, што многа самалётаў ляціць з Савецкага Саюза ў бок Чэхаславакіі і назад. Ранкам 30 жніўня былі мы ўжо дома ў Варшаве і 1 верасня пайшлі на працу. І дома чакалі, калі пусцяць першы цягнік з Варшавы ў Бялград. І толькі ранкам 5 верасня ў тэлебачанні сказалі, што 6 верасня паедзе наш цягнік у Бялград,а пасля ў Сафію. Што граніца з Чэхаславакіяй ад 6 верасня будзе адкрытай.

**5 верасня** хутка я з Нінай прыгатовілі свой багаж. Я пайшоў на пошту, скуль выслаў у Бялград тэлеграму на французскай мове, што **8 верасня** ранкам будзем у Бялградзе. На наступны дзень пасля працы вечарам мы развіталіся з дзяцьмі і маткай Ніны, якія аставаліся ў Варшаве, і паехалі на таксі на варшаўскі вакзал. Цягнік ужо стаяў і мы занялі выкупленыя намі месцы. У нашым купэ акрамя нас нікога не было. У цэлым вагоне было мала пасажыраў. Яшчэ перад поўначчу пераехалі мы чэхаславацкую граніцу. Дакументы праверылі

нам толькі польскія пагранічнікі ў Цешыне і чэхаславацкія ў Пэтровіцах. А мытнікі не прыйшлі. Удзень затрымаліся мы ў Братыславе на нейкі час і церазакно заўважыў я напісаныя на адным таварным вагоне словы: "Русские домой!" Прайшлі ўздоўж вагона смутныя чэхаславацкія кандуктары і да нас не азваліся. На граніцы з Венгрыяй венгерскі мытнгік спытаўся толькі, ці ёсць у мяне венгерскія фарынты. Я паказаў, што ў Польшчы я афіцыйна памяняў польскія злоты на фарынты, бо калі буду вяртацца, то хачу спыніцца ў Будапешцее. Сербскія мытнікі нічога нас не пыталіся, а везлі мы ў падарунку Нініным цёткам некалькі крышталёвых ваз. На вакзале ў Бялградзе сустрэў нас сын Надзеі, цёткі Ніны, Мікалай Фармакоўскі, які добра валодаў рускай мовай. Ён пазнаў нас, бо мы раней пісалі, што будзем трымаць у руках польскую газету. Ён прывітаўся з намі і на сваёй машыне адвёз нас да сябе ў дом на вуліцу Бранічэўскую, 18. Там спаткаліся мы са старымі цёткамі Ніны, Надзеяй Фармакоўскай і Наталляй Вінніцкай, якая два тыдні перад нашым прыездам упала і зламала сабе нагу і цяпер ездзіла на калясцы. Яны былі здзіўлены, што мы адважыліся прыехаць да іх цераз Чэхаславакію.

Калі мы прыехалі да Ніниных цётак у Бялград, цётка Надзея загаварыла да Ніны па-французску і вельмі здзівілася, калі даведалася, што Ніну яе бацькі не вучылі французскай мовы. Тады пачалі мы размову на рускай мове. У сувязі з тым, што 8 верасня была нядзеля, Мікалай Фармакоўскі завёз нас на набажэнства ў рускую царкву Св. Тройцы ў Бялградзе, якая стаіць ля вялікага сербскага сабора св. апостала Марка. Храм Св. Тройцы быў пабудаваны ў 1924 г. рускімі эмігрантамі, якія ўцяклі ў Югаславію ад бальшавікоў. Хаця генерал Пётр Врангель памёр у Брусэлі, то цела яго перавезлі ў Бялград і пахавалі ў рускай царкве Св. Тройцы. Ла ўвахода ў царкву ёсць табліца, дзе напісана, што прах Ген. Пятра Врангеля тут спачывае. Зайшлі мы таксама ў храм св. ап. Марка і пакланілся мошчам сербскага святога Савы.

Недалёка дома (метраў 100) дзе мы жылі на вялікім пляцы ў 1935 г. пачалі будаваць вялікі сабор св. Савы, ды вайна спыніла будову і камуністычныя ўлады Югаславіі не дазвалялі яго будаваць да 1985 г. Мы былі там у малай капліцы на вячэрні. Цяпер у тым месцы стаіць самы вялікі (91 х 81 м.) праваслаўны сабор у Еўропе.

Хоць цётка Ніны Надзея Фармакоўская была даўно ўжо ўдавой, бо яе муж праф. акадэмік Уладзмір Фармакоўскі памёр у 1954 г. і быў пахаваны на кошт дзяржавы на рускіх могілках у Бялградзе, то ён пакінуў ёй і сыну прыемны дом, у якім было некалькі пакояў і садок перад домам, дзе раслі кветкі. Мы атрымалі ў гэтым доме мілы пакой з акном у садок. На вечар былі запрошаны на наша спатканне ў госці некалькі знаёмых рускіх эмігрантаў, якія цікавіліся жыццём у Польшчы і тым, як мы да іх даехалі. Югаслаўскае тэлебачанне часта паказвала, што адбываецца ў Чэхаславакіі ў Празе і ў іншых гарадах, як пратэставалі там студэнты супраць савецкай акупацыі і як адзін з іх падпаліў сябе ў знак пратэсту.

На наступны дзень, калі сын Надзеі Мікалай быў у працы, я з Нінай выйшлі самі паглядзець вуліцы і магазіны горада і нас здзівіла вялікая колькасць заходнееўрапейскіх тавараў у вітрынах іх магазінаў. Калі мы стаялі ля вітрын, часта прадаўцы выходзілі з магазінаў і запрашалі нас увайсці і паглядзець тавары.

Калі Мікалай вярнуўся з працы, то пасля абеда завёз нас у старую бялградскую крэпасць Калемегдан, дзе аглядзелі мы царкву св. Петке, мячэць Бараклі Джамія, прыгожы парк, дзе стаіць фігура Параможцы, які глядзіць на захад і правай рукой датыкае мяча, а на яго левай руцэ сядзіць голуб. Агледзелі мы ваенны музей. З Калемегдана паглядзелі мы зверху як уліваецца рака Сава ў Дунай і на Новы Бялград, у якім таксама мы гулялі.

**12 верасня** сербскае тэлебачанне інфармавала, што Албанія выйшла з Варшаўскага дагавора, пабаяўшыся каб Савецкая Армія не ўвайшла на яё тэрыторыю, хаця ў гэты дзень пачалі пакідаць Чэхаславакію салдаты Польшчы, Венгрыі і ГДР. Асталіся толькі савецкія.

Вечарам прыйшла да нас і з намі пазнаёмілася Таццяна Фармакоўская, якая прыехала сюды з Ленінграда і якая была калісь жонкай Барыса Фармакоўскага, археолага, брата Уладзіміра. Яна выйшла замуж за Барыса, быўшы яшчэ студэнткай, Барыс у 1928 г. памёр і яна потым выйшла замуж за нейкага Віктара Кірэева, нарадзіла яму дачку Алену і хутка з ім разышлася, застаўшыся пры прозвішчы першага мужа Фармакоўская. Жыла яна ў Ленінградзе з дачкой, мужам дачкі і ўнучкай. Мы з ёй тут часта праводзілі вольны час, бо яна ўжо не

раз была ў Бялградзе.Цяпер яна жыла ў знаёмай сербскай сям'і, бо ў цётак Ніны гасцявалі ўжо мы, і для яе не было ўжо месца. На наступны год, калі мы з дзецьмі паехалі цягнікам на экскурсію ў Ленінград, былі ў іх на кватэры.

Потым Мікалай завёз на сваёй машынай на гару Авалу, 20 км ад Бялграда, дзе аглядзелі мы вайсковы парад. Там стаіць іх помнік Невядомаму Салдату і вялікі перадатчык тэлебачання. Пасля Мікалай паказаў нам паркі і музеі Бялграда і рускія могілкі, дзе пакоіліся рускія салдаты, загінуўшыя ў вайне 1914 -1918 гг. і рускія эмігранты, што ўцяклі ад бальшавікоў. Былі там магілы і помнікі акадэміка У. Фармакоўскага, маткі яго жонкі Надзеі Апалінарыі, сястры контр-адмірала А.Конанава, якая ўцякла разам з сям'ёй Конанавых з Сарн цераз Літву ў Бялград ў 1939 г., і жонкі контр-адмірала Анатолія Конанава Веры, сястры дзеда маёй жонкі Ніны Міхала Чэкмарова.

Нейкія рускія грамадзяне Бялграда запрашалі нас да сябе ў госці, так што час у Бялградзе прайшоў хутка і 16 верасня нам трэба было вяртацца дамоў. Не маглі мы купіць білетаў на цягнік Бялград – Варшава і рашылі паехаць цягнікам у Будапешт, а з Будапешта іншым цягнікам у Варшаву. У купэ з сідзячымі месцамі было некалькі чалавек, між імі была толькі адна дзяўчына з Польшчы, іншыя пасажыры былі сербамі. Выехалі мы падвечар і пасля поўначы пераехалі венгерскую мяжу. Помню, венгерскі мытнік заўважыў пад багажом нейкага пасажыра сербскія газеты і іх забраў. Да нашага багажа не заглядваў і я правёз усе сербскія газеты, якія ўзяў у Мікалая Фармакоўскага. У Будапешт прыехалі мы ранкам **17 верасня** і ўвесь дзень з польскай дзяўчынай мы правялі ў Будапешце. Зрабілі разам многа здымкаў маім фотаапаратам. Вечарам селі мы ў Будапешце ў цягнік у Варшаву і спакойна пераехалі чэхаславацкую і польскую граніцу. 18 верасня мы былі ўжо дома, а на наступны дзень пайшлі на працу, а 23 верасня трэба было ехаць у камандзіроўку на некалькі дзён на электрастанцыю Понтнуў ля Коніна.

**5 лістапада** выйграў прэзідэнцкія выбары ў ЗША рэспубліканец Рычард Ніксан, які абяцаў вывесці амерыканскае войска з В'етнама, а прэзідэнт Л. Джонсан, які пачаў гэтую вайну, такі быў непапулярны ў ЗША, што сам не захацеў браць удзел у выбарах у прэзідэнты другі раз. А 2**4 снежня** амерыканская ракета Апалон 8 з трыма касманаў-

тамі некалькі разоў акружыла Месяц і вярнулася на Зямлю. СССР прайграў з ЗША спаборніцтва ў космасе ў палётах на Месяц.

**У канцы 1968 г.** паявілася палітычная дактрына, якую назвалі дактрынай Брэжнева аб абмежаваным суверэнітэце сацыялістычных дзяржаў Варшаўскага дагавора. Дактрыну гэту першы раз апублікаваў у „Праўдзе" С. Кавалёў у артыкуле „Суверэнітэт і міждзяржаўныя абавязацельствы сацыялістычных дзяржаў". Шырэй аб гэтым сказаў А. Грамыка на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, каб апраўдаць акупацыю Чэхаславакіі. Згодна з гэтай дактрынай дзяржавы Варшаўскага дагавора маюць права на інтэрвенцыю, калі будуць парушаны „асновы сацыялістычнага ладу" ў нейкай дзяржаве Варшаўскага дагавора.

**Ад 11 да 16 лістапада** ў Варшаве прайшоў пяты з'езд ПАРП, на якім Л. Брэжнеў пацвердзіў сваю дактрыну. На з'ездзе не ўвайшоў у Палітбюро ПАРП Э. Охаб.

# 1969

**1 студзеня** павысілі маю аснаўную пенсію да 4400 зл. з прэміяй 100-150%. Тады 1 амерыканскі долар на чорным рынку можна было купіць за 100 зл., ды за яго нічога афіцыйна нельга было купіць у Польшчы і вывезці яго афіцыйна заграніцу таксама нельга было. Толькі ў 1972 г. стварылі магазіны „Пэвекс", дзе за заходнюю валюту і за так званыя „боны" можна было купіць тавары з капіталістычных дзяржаў. У Польшчы 1 кг цукру каштаваў тады 10,5 зл., а 1 кг самай таннай каўбасы – 40 зл. На ўсе тавары былі адзіныя цэны ў кожным магазіне, кожны тавар меў прыклеены ярлык з яго цаной. У Варшаве ў той час не было цяжкасцей каб купіць спажывецкія тавары, часта стаялі чэргі за мясам і калі прывезлі апельсіны ці лімоны ў нейкія магазіны. Магазіны былі запоўнены чорна-белымі тэлевізарамі, польскімі і замежнымі, радыёпрыёмнікамі, халадзільнікамі „Мінск" і іншым. Аўтаматычныя польскія пральныя машыны з'явіліся ў магазінах ў 1974 г. Былі дзе-нідзе прыватныя магазіны, дзе прадаваліся прыватныя тавары прыватнага вырабу, даражэйшыя ад дзяржаўных. Былі прыватныя краўцы і шаўцы і невялікія прадпрыемствы, ды было іх мала.

У 1969 г. праектаваў я далей электрычную частку пятага і шостага блокаў, па 200 мегаватаў кожны, на электрастанцыі Понтнуў і часта ездзіў туды ў камандзіроўкі. Кожны год аддавалі ў эксплуатацыю там па 2 блокі па 200 мегаватаў, каб у 1969 г аддаць у эксплуатацыю астатні, шосты блок. Акрамя таго я ўжо праектаваў электрычную частку першага блока 200 мегаватаў з катламі на пыл з каменнага вугля ў электрастанцыі Астралэнка Б. У Астралэнцы была старая электрастанцыя магутнасцю 80,5 мегаватаў, цяпер яе разбудоўвалі. У 1972 г. аддалі ў эксплуатацыю трэці блок 200 мегаватаў. Ад часу да часу туды таксама ездзіў у камандзіроўку пераважна службовым аўтамабілем з бюро. Побач электрастанцыі працавала там фабрыка цэлюлозы, ад якой чуць было вельмі непрыемны пах. Акрамя „Энергапраекта" ў Варшаве быў яшчэ „Энергапраект" у Катавіцах, які таксама праектаваў цеплавыя электрастанцыі. У нашым бюро праектаваліся таксама і гідраэлектрастанцыі. Запатрабаванне тады на электраэнергію вельмі хутка расло, бо будавалася многа новых фабрык.

**1 студзеня** Чэхаславакія ператварылася ў федэрацыю дзвюх дзяржаў: Чэхіі і Славакіі, а **16 студзеня** у Празе чэскі студэнт Ян Палах спаліўся на вачах людзей у пратэсце супраць савецкай акупацыі Чэхаславакіі.

**10 студзеня**. Швецыя першая з заходніх дзяржаў прызнае Паўночны В'етнам, а ад **20 студзеня** прэзідэнтам ЗША стаў Р. Ніксан, які абяцаў вывесці амерыканскіх салдатаў з В'етнама.

**1 лютага** кіраўнікі дзяржаў Югаславіі і Румыніі абвяргаюць „дактрыну Брэжнева" аб абмежаваным суверэнітэце сацыялістычных дзяржаў членаў Варшаўскага Дагавора, пасля таго як савецкія салдаты разам з польскімі, венгерскімі і ўсходненямецкімі ўвайшлі ў Чэхаславакію. ,

**8 лютага** на 2-ім працэсе прыгаварылі Адама Міхніка на 3 гады, Генрыха Шляйфера і Барбару Таруньчык – на 2 гады, Вітальда Гэцкага – на год турмы за студэнцкія антыдзяржаўныя выступленні ў 1968 г.

**15 сакавіка** даходзіць да вайсковага канфлікту між СССР а Кітаем на рацэ Усуры за Даманскі востраў, дзе групы кітайскіх салдатаў перайшлі граніцу, напалі і забілі савецкіх пагранічнікаў. Пачаліся баі з артылерыяй і танкамі. Загінула 58 савецкіх салдатаў і 94 было па-

раненых, кітайскіх салдат быццам бы згінула амаль 1000. СССР затрымаў востраў да 19 мая 1991 г., бо тады згодна з дагаворам СССР аддаў яго Кітаю.

**26 сакавіка** памёр мітрапаліт Польшчы Сцяпан (Рудык).

Беларускі музей у Белавежы па загаду польскіх улад адправіўся на вечны спачын у Цехановец. Там ён страціў назву „беларускі" на „музей паўночна-усходняй Польшчы". Наступіла гэта пасля чарговага польскага „звароту", бо сабраным экспанатам адмовілі даць назву „беларускія".

На пачатку сакавіка Мікалай Фармакоўскі з Бялграда паведаміў Ніну, што яе і яго цётка Наталля памерла ад рака. У 1968 г. яна зламала нагу і калі мы былі ў верасні ў Бялградзе, яна ездзіла на калясцы, ды была вясёлая, мела добрую памяць і многа нам расказвала аб сваім жыцці, падала нам радаслоўе іх сям'і ад свайго дзеда генерал-лейтэнанта Івана Гаўрылавіча Чэкмарова (1815-1887), які меў са сваёй жонкай-княгіняй Наталіяй Андрэеўнай Абаленскай 7 сыноў і 5 дочак. Помніла імёны і прафесіі ўсіх яе дзядзькоў і цётак. Два сыны яе дзеда былі царскімі генераламі.

Адзін генерал, Віктар быў яе бацькам і ён разам з арміяй Врангеля і з сям'ёй уцёк з Крыма ў Стамбул, а пасля ў Бялград, дзе яго тры дачкі, Канкордзія, Надзея і Анна, выйшлі замуж і асталіся жыць, а ён вярнуўся з жонкай у Польшчу ў свой маёнтак у Паліцы, недалёка Сарн. Яна ж выйшла замуж за царскага афіцэра ўдаўца з дачкой Таццянай, Дзмітрыя Вінніцкага, і разам з ім выехала у Парыж. Пасля смерці ў Парыжы свайго мужа, яна вярнулася ў Бялград і жыла разам з сястрой Надзеяй Фармакоўскай. Дачку свайго мужа Таццяну яна выдала замуж ў Бялградзе за рускага эмігранта прафесара матэматыкі бялградскага універсітэта, Адзінцова. Прафесар з Таццянай сустракаліся з намі і запрашалі нас да сябе ў госці. Іх сын Дзмітрый меў жонку сербку, Свету. Другім генералам, сынам яе дзеда, быў Міхал, дзед маёй жонкі. Ён раней выехаў з Херсона ў Паліцы ля Сарн у свой маёнтак і з бальшавікамі не ваяваў. Дачка яе дзеда, Вера выйшла замуж за контр-адмірала Анатолія Конанава, які ваяваў з бальшавікамі, уцёк у Грэцыю, а пасля ў Бялград і адтуль вярнуўся ў свой маёнтак у Польшчы ў Паліцах, да жонкі. Матка Наталлі, Апалінарыя, была роднай сястрой контр-адмірала Анато-

лія Кананава; яна да канца верасня 1939 г. жыла разам з яе бацькам Віктарам у маёнтку ў Поліцах.

Яна расказвала, што калі ў 1945 годзе партызаны Броз Ціта занялі Бялград, то яе на нейкі час арыштавалі, бо мела яна французскае грамадзянства і толькі дзякуючы інтэрвенцыі праф. Фармакоўскага ў самага маршала Броз Ціта, яе выпусцілі і дазволілі жыць у Бялградзе.

Яна расказала, што ў жніўні 1939 г. яна прыехала да сваіх бацькоў у Польшчу ў Поліцы і туды ў верасні прыйшлі бальшавікі. Іх сям'ю і сям'ю контр-адмірала Анатолія Кананава бальшавікі выгналі з іх мёнткаў у Поліцах. Яны на кароткі час затрымаліся ў Сарнах, дзе памёр яе бацька, Віктар, і яна тады са сваёй маткай і з сям'ёй Анатолія Кананава, з яго жонкай, сынам, унучкай і малым праўнукам паехалі ў горад Вільнюс, які тады І. Сталін аддаў Літве. Там яна пазваніла ў Бялград да праф. Уладзіміра Фармакоўскага і ён ім аформіў візы ў Югаславію і яны цераз акупіраваную немцамі Польшчу, Чэхаславакію і Венгрыю прыехалі ў Бялград.

Ды, як відаць, пералом нагі, аслабіў арганізм Наталлі Вінніцкай і заатакаваў яе рак і забіў.

Мы ўжо атрымалі ад цёткі Ніны, Надзеі Фармакоўскай, пісьмовае запрашэнне для Ніны, мяне і нашых дзяцей Юры і Іры прыехаць да іх і польскія ўлады далі нам дазвол на выезд. Надзея пісала нам, каб мы не ехалі ў Маскву і Ленінград, а прыехалі ў Бялград, ды мы ўжо ўплацілі грошы на экскурсію ў СССР і маглі паехаць у Бялград толькі ў жніўні. Мы ўжо выкупілі білеты на цягнік у Бялград на **7 жніўня**. Ніна ў сакавіку выкупіла экскурсію на 4 асобы „Цягнікам Дружбы" ў Маскву і Ленінград на 11 дзён у сваім бюро, дзе працавала. На гэту экскурсію ехала многа асоб з так званай „прыватнай ініцыятывы", уласнікаў прыватных магазінаў на вуліцы Хмельнай у Варшаве.

**27 сакавіка** я атрымаў тэлефон з вёскі Чаромхі з паведамленнем, што мая матка захварэла і хоча, каб я да яе прыехаў, а на другі дзень мяне паведамілі, што матка мая ўжо не жыве і каб я прыязджаў на пахаванне яе на могілках ля царквы. Паехаў я з Нінаю. На наступны дзень людзі няслі маміну труну на руках кіламетраў два на могілкі ля царквы, якая ляжыць ля шашы Кляшчэлі – Полаўцы – Высокае. Мама мела 82 гады. Пахавалі яе побач майго бацькі, які згінуў у час баёў у вёсцы Чаромсе ў 1944 г.

Выехалі мы на экскурсію з дзяцьмі **8 красавіка** з Гданьскага чыгуначнага вакзала ў 20.50 у спальным вагоне 2-класа ў купэ на 4 асобы. Ранкам **9 красавіка** ад'ехалі мы з Брэста ў Маскву, куды прыехалі ноччу у 22.45. Сталаваліся мы ў вагон–рэстаране. У Маскве з вакзала завезлі нас у гасцініцу, дзе мы пераначавалі. На наступны дзень пасля снедання экскурсійна-турыстычным аўтобусам завезлі нас на Чырвоную плошчу, паказалі маўзалей Леніна, а пасля маскоўскі Крэмль. Я ў 1948-1950 гадах пяць разоў быў у Маскве, калі ехаў у Ленінградскі Электратэхнічны Інстытут і з яго вяртаўся на канікулы, ды ніколі не бачыў цела Леніна ў маўзалеі і ніколі не быў за сцяною Крамля, бо тады там жыў І. Сталін. Уваход у Крэмль тады быў закрыты. Цяпер спачатку завялі нас пад званіцу Івана Вялікага вышынёй у 81 м, на якой вісіць 21 звон. На Іванаўскай плошчы пабачылі мы крэпасную гармату самага вялікага ў свеце калібру, з якой ніколі не стралялі, бо не мелі патрэбы. Гармату гэту назвалі „цар-пушкай". Даўжыня гарматы – 5,34 м, калібру – 890 мм, таўшчыня дула – 15 см, важыць яна 40 тон. Адлілі яе ў 1566 г. Можна з яе страляць толькі каменнымі ядрамі.

Недалёка ад гарматы, ля званіцы Івана Вялікага, на пастаменце стаіць так званы „цар-звон", які важыць 200 тон. Адлілі яго ў 1733-1735 гадах на Іванаўскай плошчы, ды ў гэтым часе ў 1737 г., калі лілі гэты звон, Крэмль ахапіў вялікі пажар, на распалены звон палілася халодная вада і на зване паявіліся вялікія і малыя трэшчыны. Да 1836 г. ён ляжаў у глыбокай яме, і калі яго выцягнулі, то адарвалася ад яго ашчэпка, якая важыла  11,5 т. Вышыння звана – 6,14 м, дыяметр – 6,6 м. На зване відны 5 ікон і партрэты цара Аляксея Міхайлавіча і царыцы Анны.

Далей на Саборнай плошчы аглядзелі мы Успенскі сабор, пабудованы ў 1475-1479 гг. з 5 залацістымі вялікімі купаламі. Унутры яго сцены пакрыты прыгожымі кананічнымі фрэскамі Хрыста, Бога Айца ды звязаныя з жыццём і смерцю Божай Маці, з сусветнымі хрысціянскімі саборамі ад IV да VII стагоддзя пасля нараджэння Хрыста і кампазіцыя сцэн Страшнага Суда. Далей аглядзелі мы царкву Рызпалажэння, Архангельскі і Благавешчанкі саборы. Усе цэрквы і саборы ў той час былі толькі музеямі і праваслаўныя святары не мелі права на тое каб там праводзіць багаслужбы.

Пасля абеду мы прыехалі яшчэ ў маскоўскі Крэмль, каб паглядзець арсенал, які называлі „Аружэйнай палатай”, дзе пабачылі калекцыі старой зброі, старыя сярэбраныя і залатыя гадзіннікі і многія іншыя старадаўнія вырабы.

Вечарам прапанавалі нам выбрацца ў оперу, тэатр або цырк. Дзеці выбралі цырк і былі задаволеныя. На наступны дзень паказвалі нам горад і іншыя музеі, між іншым Трацякоўскую галерэю. Там пабачылі мы іконы Андрэя Рублёва (1350-1430 гг.) і карціны Сімана Ушакова, Д. Лявіцкага, І. Рэпіна і многіх іншых рускіх мастакоў. Пасля завезлі нас у Новадзевічы манастыр, дзе агледзелі мы Смаленскі сабор, падобны да Успенскага сабора ў маскоўскім Крамлі. Пайшлі мы на блізкі Новадзевічы могільнік, дзе прайшлі да магіл Гогаля, Чэхава, Брусава і іншых рускіх пісьменнікаў, кампазітараў, жывапісцаў і генералаў. Пабачылі мы там магілу і помнік другой жонкі дыктатара І. Сталіна Надзеі Алілуевай, якая, паводле слоў яе дачкі Святланы Алілуевай, 7 лістапада 1932 г. пакончыла свае жыццё самагубствам, застрэлілася з пісталета, калі яе І. Сталін моцна зняважыў. Хадзілі плёткі, што, пэўна, застрэліў яе сам муж.

**13 красавіка** ў нядзелю на праваслаўны Вялікдзень жанчына-гід завезла нас на літургію ў Патрыяршы сабор, дзе мы пабачылі старэнькага (91 гадоў) маскоўскага праваслаўнага патрыярха Алексія Першага, які ўжо быў слабы і ў час набажэнста сядзеў у царкве на крэсле. Памёр ён 18 сакавіка 1970 г.

Пад крамлёўскай сцяною, справа ад маўзалея, паказалі нам паміж магіл іншых савецкіх рэвалюцыянераў (м.інш. Ф. Дзяржынскага), магілу І. Сталіна, якую па загадзе М. Хрушчова ноччу з 31 кастрычніка на 1 лістапада 1961 г. вынеслі з маўзалея Леніна, дзе ён ляжаў побач Леніна ад сакавіка 1953 г., і пахавалі яго ў зямлі. Ля яго магілы паставілі ягоны бюст на пастаменце. Ля кожнай магілы стаялі бюсты. На магілу І. Сталіна кожны дзень хтосьці раніцай прыносіў букет кветак. Наша гід сказала, што гэта робяць нямецкія камуністы, якія жывуць у Маскве. Чаму, не ведала. Урны пасля крэмацыі іншых важных асоб былі замураваны ў крамлёўскую сцяну.

**13 красавіка** завезлі нас ноччу на Ленінградскі вакзал і пасадзілі ў спальны вагон і паехалі мы **14 красавіка** ў Ленінград. У Ленінград прыехалі мы каля 9-ай гадзіны раніцы. Завезлі нас у гасцініцу не-

далёка ад Маскоўскага вакзала, дзе далі нам снеданне і забралі нас аўтобусам „Інтурыста" на экскурсію па горадзе. Мяне ўцешыла тады, што многія старыя цэрквы пачалі рэстаўрыраваць. Крыжы на купалах ужо зіхацелі золатам, хаця амаль усе яны былі музеямі.

Пасля абеда ў нас быў вольны час і мы паехалі на Петраградскую старану да нашай знаёмай, з якой мы пазнаёміліся ў Бялградзе ў 1968 г., – да Таццяны Фармакоўскай, жонкі вядомага рускага археолага Барыса Фармакоўскага, роднага брата прафесара акадэміка з Бялграда, Уладзіміра Фармакоўскага, мужа цёткі маёй жонкі Надзеі. У яе на кватэры мы пазнаёміліся з яе дачкой Ленай Кірэевай, яе мужам і ўнучкай Марынай ды ўнукам Аляксеем. У сувязі з тым, што гэта быў другі дзень Вялікадня, яны нас частавалі сырнай пасхай, якую самі зрабілі. Кватэра ў іх была трохпакаёвая з кухняй і ванным пакоем ў новым доме, недалёка заліва, у парку.

Барыс Уладзіміравіч Фармакоўскі (1870-1928) быў гісторыкам мастацтва і археолагам, рабіў раскопкі ў Македоніі і ў Ольвіі (аб ім напісана ў Савецкай Энцыклапедыі). Таццяна, калі была студэнткай, выйшла за яго замуж. Расказвала, што ён у Пецярбургу за цара меў вялікую кватэру, якую пасля рэвалюцыі яму забралі. Не памагло нават і тое, што ён быў добра знаёмы з У. І. Ульянавым (Леніным), бо з ім разам вучыўся ў Сімбірску ў гімназіі. Пасля смерці Барыса Таццяна Іванаўна выйшла замуж за Віктара Кірэева і нарадзіла яму дачку Алену, ды хутка яго пакінула і затрымала за сабой прозвішча Фармакоўская. Пісала часта ўспаміны пра свайго мужа Барыса. Ды не хацелі іх друкаваць, калі ў іх не ўспомніла, што яе муж вучыўся разам у гімназіі ў Сімбірску разам з Уладзімірам Леніным і што яны тады сябравалі.

На наступны дзень, **15 красавіка**, пасля снедання паказалі нам Эрмітаж, дзе пабачылі мы карціны заходееўрапейскіх мастакоў, а пасля ў Рускім музеі пабачылі мы рускіх жывапісцаў і многія цэрквы і саборы. Былі мы ў Ісакіеўскім саборы, які тады быў музеем. У вольнычас я паказаў жонцы і дзецям, дзе я пяць год вучыўся і жыў ад кастрычніка 1948 да канца снежня 1953 г., павадзіў іх па сваім інстытуце.

Завезлі нас у Петрапаўлаўскую крэпасць, дзе паказалі царскія казематы, у якіх першага пасадзілі сына ад першай жонкі цара Пятра І. Аляксея, калі ён выступіў супраць свайго бацькі. Паказалі нам месца,

дзе задушылі царэвіча, якога пасля пахавалі ў саборы Пятра і Паўла. Пабачылі мы прыгожы Петрапаўлаўскі з залочаным шпілем вышынёй 122,5 м з лятучым анёлам з крыжам, а пад саборам – магілы рускіх цароў і іх жонак, пачынаючы ад Пятра І, да Аляксадра ІІІ. Некаторыя магілы былі зроблены з яшмы і арляца. Тады яшчэ не было там магілы жонкі цара Аляксандра ІІІ Марыі Фёдараўны – яе магіла была ў Даніі. І не было таксама магіл апошняга цара Мікалая ІІ і яго сям'і.

**16 красавіка** ноччу ў 23 гадзіны ад'ехалі мы спецыяльным цягнікам цераз Брэст у Варшаву. З намі ездзіў наш знаёмы, Мікалай Хмяльніцкі, які трымаў быў карону над галавою Ніны ў час нашага царкоўнага шлюбу. Мікалай у верасні 1939 г. папаў, як польскі сяржант, у савецкі палон і пасля – у армію Андэрса, браў удзел у баях пад Монтэ-Касіна, дзе быў паранены, пасля трапіў у Англію і ў 1946 г. прыехаў у Варшаву да жонкі. Мікалаева жонка была ўжо каталічкай ды ўжо жыла з іншым. Калі б Мікалай гэта ведаў, не вярнуўся б з Англіі, бо нейкі час камуністычныя ўлады яго праследавалі. Ехала таксама з намі многа асоб з „прыватнай ініцыятывы", якія мелі ўласныя магазіны па вуліцы Хмельнай у Варшаве. Савецкія мытнікі пыталіся толькі, ці мы не вывозім золата, а польскія ў нейкіх турыстаў кантралявалі багаж і ў аднаго забралі праваслаўную старую ікону, якую ён дзесьці купіў.

18 красавіка раніцай вярнуліся мы дамоў, а 19, у суботу, пайшлі працаваць на сваіх месцах працы, а дзеці ў школу – дачка ў шосты, а сын у сёмы клас. Дома даведаліся мы, што ў Чэхаславакіі першым сакратаром КПЧ замест А. Дубчака стаў Г. Гусак, а ў Францыі 28 красавіка прэзідэнт Ч. дэ-Гол у сувязі з тым, што рэферэндум прайшоў не па яго жаданні, падаўся ў адстаўку. 15 чэрвеня новым прэзідэнтам Францыі выбралі Ж. Пампіду.

**У маі** нас запрасілі ў Чаромху на вяселле. выходзіла замуж за Уладзіміра Леўчука дачка маёй сястры, Ніна, якой было ўжо 19 гадоў. Паехалі мы разам з дзяцьмі на суботу **10 мая** да маёй сястры, дзе ўжо вечарам пачалося вяселле, якое закончылася пасля поўначы. Царкоўны шлюб быў **11 сакавіка** ў Кляшчэлях. Ехалі мы туды на ўпрыгожаных вазах з песнямі цераз амаль цэлую вёску, а пасля шашою ў Кляшчэлі. На вяселлі былі мы **12 мая** ў хаце бацькоў мужа Ніны. Уладзімір Леўчук пабудаваў хутка трохпакаёвы дом з кухняй

і туалетам, а побач і хлявы, на ст. Чаромсе па вуліцы 1 Мая, дзе жыве з жонкаю і цяпер.

**11 мая** адбыўся VI з'езд БГКТ, на якім старшынёю выбралі Міхася Хмялеўскага. Выступаў на ім сакратар КВ ПАПР В. Мікульскі, які хваліў БГКТ за папулярызацыю беларускага фальклору, аднак ацаніў дагэтуляшнія дасягненні Таварыства на ніве культурнай дзейнасці і развіцця беларускага фальклору як сціплыя. Ён сказаў, што заданне БГКТ палягае ў зліцці беластоцкага рэгіёна ў цэласнасць дзяржаўнага арганізму, у агульны працэс, які ахоплівае ўвесь польскі народ. Ён хацеў, каб палітычныя асаблівасці, якія ставілі сцяну між польскім і беларускімі народамі былі знесены. З'езд сваёю першаю пастановай заклікаў усіх членаў таварыства праняць актыўны ўдзел у выбарчайкампаніі ў народныя рады і сейм ПНР, а ў дзень выбараў аддаць свае галасы на прадстаўнікоў Фронту адзінства народа.

Пасля з'езда БГКТ выйшла кніжка Сакрата Яновіча „Загоны", якая адбілася рэхам на палосках „Нівы" і ў польскім друку.

**1 чэрвеня** прайшлі выбары ў сейм ПНР. Польская Аб'яднаная Рабочая Партыя (ПАРП) атрымала ў сейме 255 месцаў.

**У чэрвені** Юра закончыў сёмы клас і перайшоў у восьмы, а Іра перайшла ў сёмы. У Саборы Марыі і Магдаліны бацюшка Лянчэўскі меў урачыстае спатканне з бацькамі і вучнямі дзяцей, якія хадзілі ў царкву на ўрокі праваслаўнаага закону Божага.

**У ліпені** Іра паехала з дзецьмі, па накіраванні офіса Ніны, у дом адпачынку для дзяцей у Рабцы. Правяла там амаль цэлы месяц. Юра застаўся дома. Мы купілі ўжо квіткі ў Бялград на **7 жніўня**. Цётка Ніны, Надзея, прасіла нас у пісьмах, каб мы раней да іх прыехалі, ды мы не маглі. Яна хвалявалася, што яе сын Мікалай жаніўся ўжо з нейкай харваткай Нявенай, якая ёй не падабалася. Гэта была яго другая жонка. З першай развёўся. Дзяцей у іх не было.

**21 ліпеня** ноччу (у ЗША было яшчэ 20 ліпеня), я з Юрам аглядалі па тэлебачанні, як Ніл Армстранг з амерыканскага касмічнага карабля Апалон-11, а потым і Эдвін Олдрын выйшлі з касмічнай станцыі на Месяц і па ім хадзілі. СССР прайграў спаборніцтва з ЗША ў палётах на Месяц. Цяпер вядома, што два савецкія касмічныя караблі Н1, якія мелі ляцець на месяц 21 лютага і 3 ліпеня, узарваліся на касмадроме і нанеслі многа шкодаў. **13 ліпеня** СССР выслаў на месяц Луну

15 без людзей, якая на Месяцы набрала глебы ды праўдападобна пры пасадцы разбілася.

І раптам, **пасля 20 ліпеня**, мы атрымалі пісьмо ад Мікалая Фармакоўскага з Бялграда, што яго матка Надзея ад кровазліцця ў мозг раптоўна памерла і што ён пахаваў яе разам са сваім бацькам. Ды ён нас далей запрашае ў жніўні прыехаць у Бялград. Ён нас будзе сустракаць з новай жонкай Нявенай.

**22 ліпеня** ў Польшчы адбываецца святкаванне 25-годдзе ПНР. У Варшаве па вуліцы Маршалкоўскай прайшоў вайсковы парад, на якім апрача У. Гамулкі і іншых членаў улады Польшчы былі М. Падгорны і Л. Брэжнеў з СССР.

**7 жніўня** мы выехалі разам з Ірай і Юрам цягнікам Варшава-Бялград-Сафія ў Бялград. Ехалі мы ноч, дзен і ноч ды **9 жніўня** раніцай, каля дзевятай гадзіны, былі ў Бялградзе. Мікалай Фармакоўскі сустрэў нас на пероне і завёз сваім аўтамабілем у дом па вул. Бранічэўскай, дзе нас сустрэла яго жонка Нявена.

Мікалай Фармакоўскі узяў на сваёй працы водпуск і вазіў нас не толькі ў Калемегдан і Авалу, а паехалі мы і ў Панчава, Смедэрэва і нават у Новы Сад да яго знаёмых рускіх эмігрантаў, сяброў яго бацькоў.

Аднаго разу, калі самі мы выйшлі прайсціся па горадзе і паглядзець тавары ў крамах, Іра пачула, як маці адной дзяўчыны гутарыла з ёю на рускай мове. Іра адазвалася да іх, а пасля пазнаёміла іх з намі. Гэтая жанчына, Галіна з дачкою Тацянай, прыехала сюды з Адэсы. Муж жанчыны Ціхамір Ачымовіч быў сербам, які калісь прыехаў у СССР на ВНУ і застаўся, калі І. Сталін пасварыўся з Б. Цітам. Цяпер яны прыехалі ў Сербію да бацькоў і братоў былога студэнта, якія жывуць недалёка ад Бялграда. Мы з імі пахадзілі па крамах, нарабілі здымкаў і жонка серба адэсістка Галіна Ачымовіч запрапанавала нам, каб мы далі ёй свае дадзеныя, то яна на наступны год прышле нам у Польшчу запрашэнне прыехаць да іх у Адэсу. Мы згадзіліся і наступнага году я з Нінай па гэткім запрашэнні паехалі на 10 дзён у Адэсу ў госці. Доўгі час мы перапісваліся з імі.

Мы пазнаёміліся ў Бялградзе з былым рускім салдатам, якога ў 1914 г. царскія ўлады Расіі выслалі абараняць Бялград ад Аўстрыі і пасля ён там застаўся. Потым ён нават два разы прыязджаў да нас

у госці. Каб прыехаць у Польшчу, яму не трэба было мець ад нас запрашэння.

Па тэлебачанні там паказвалі 21 жніўня вялікія дэманстрацыі чэхаў у Празе супраць савецкай акупацыі. Дэманстрацыі арганізавалі ў гадавіну ўваходу савецкіх войскаў у Чэхаславакію.

На **22 жніўня** былі ў нас выкупленыя квіткі на цягнік Бялград-Варшава і мы спакойна **24 жніўня** ў нядзелю вярнуліся дамоў у Варшаву, а **25 жніўня** пайшлі ў офісы на працу. **3 верасня** тэлебачанне падало, што памёр прэзідэнт Паўночнага В'етнама Хо-Шы-Мін.

**13 верасня** ў суботу ў кангрэсавай зале Палаца Культуры і Навукі я атрымаў першы раз Сярэбраны Крых Заслугі за праекты электрастанцый у Коніне, Тураве і Понтнаве. Закончылася пабудова электрастанцыі Понтнаў на бурым вугле магутнасці 1200 мегаватаў, а ў электрастанцыі Тураў працавала ўжо 7 блокаў па 200 мегаватаў магутнасці кожны.

**13 і 14 лістапада** ў газетах пачалі пісаць, як амерыканскія салдаты ў в'етнамскай вёсцы забілі 450 мірных жыхароў. Супраць вайны у В'етнаме ў Вашынгтоне прайшла 250-тысячная дэманстрацыя.

**14 лістапада** амерыканскі касмічны карабель Апалон-12 прызямліўся на паверхні Месяца з касманаўтамі Чарльзам Конрадам, Аланам Бінам і Рычардам Горданам.

Хачу сказаць тое, пра што мяне часта пыталі – чаму мяне і маю жонку, у сувязі з нашымі выездамі ў замежжа, служба польскай дзяржаўнай бяспекі ніколі не выклікала да сябе на размову. Пашпартны аддзел ні мне, ні маёй жонцы ніколі не адмовіў ні ў пашпартце, ні ў праве на выезд нават у заходнюю дзяржаву – у спіску Вільдштэйна, які патрапіў у інтэрнэт, прозвішча Шатыловіч у якасці сакрэтнага супрацоўніка польскай бяспекі нідзе не сустракаецца. Калі я стараўся атрымаць пашпарт з правам на замежную паездку, я заходзіў у пашпартны аддзел міліцыі і там здаваў пашпартны апытальнік, які здаваў кожны, хто хацеў выехаць у замежжа. І нічога болей.

# 1970

Пасля смерці **26 сакавіка 1969 г.** праваслаўнага мітрапаліта Польшчы Сцяпана, **24 студзеня 1970 г.** выбралі мітрапалітам Польшчы

Васілія (Дарашкевіча, 1914-1998) і 1 сакавіка атрымаў ён белы клабук мітрапаліта Польшчы.

З 1961 г. па 1970 г. рост магутнасці электрастанцый у Польшчы быў 7575 мегаватаў, у тым рост магутнасці цеплавых элекрастанцый быў 6649 мегаватаў, гідраэлектрастанцый – 509 мегаватаў і індустрыяльных – 417 мегаватаў. Былі пабудаваны цеплавыя электрастанцыі ў Лагішы, Адамаве, Коніне, Тураве, Лазісках і Пантнове. З 1991 па 2000 г. рост магутнасці быў толькі 2600 мегаватаў, амаль тры разы меньшы, нягледзячы на вялікі прагрэс у будове магутных энергетычных блокаў, бо будавалі ўжо блокі магутнасцю амаль 1000 мегаватаў кожны. А блокі магутнасцю ў 519 мегаватаў у 1991-2000 гг. трэба было ліквідаваць па прычыне ўстарэласці. У электрастанцыі Тураў у 1970 г. пачалі будаваць апошні дзясяты блок 200 мегаватаў, а ў Пантнове закончылі ўжо шосты блок 200 мегаватаў – усе на буры вугаль. Праектавалі мы тры блокі па 200 мегаватаў у Астралэнцы Б. У той час фабрыка „Рафака" ў Рацібожы будавала ўжо ўсе катлы для польскіх элекрастанцый, фабрыка „Замех" у Эльблангу – усе турбіны, а фабрыка „Дольмель" ва Уроцлаве – усе генератары для гэтых электрастанцый, а іншыя польскія фабрыкі – іншае машыннае аснашчэнне. Амаль усе гэтыя фабрыкі пасля 1998 г. прадалі замежным фірмам. Дырэктар „Энергапраекта" сказаў, што сёння „Энергапраект ", які да 1989 г. праектаваў не толькі ўсе польскія, але і многія замежныя электрастанцыі (у Югаславіі, Іране, Грэцыі, Румыніі, Турцыі, Індыі), цяпер толькі мадэрнізуе старыя электрастанцыі і не здольны запраектаваць новую. Старыя праекціроўшчыкі паўміралі і адышлі на пенсіі, а новых не навучылі. Цяпер новыя электрастанцыі праектуюць для Польшчы замежныя фірмы, а нашы інжынеры выязджаюць працаваць на Захадзе, бо не могуць у нас знайсці працу. Нягледзячы на вялікае зніжэнне запатрабавання на электрычную энергію, з прычыны ліквідацыі многіх прамысловых устаноў і прадпрыемстваў, ужо ў Польшчы ёсць заўважальны дэфіцыт электраэнергіі, павялічваецца яе імпарт. Імпартуюць яе нават з Украіны і хочуць імпартаваць яшчэ з Калінінграда, калі ўзнікне там атамная электрастанцыя. Хочуць цяпер пабудаваць у Польшчы тры атамныя электрастанцыі, а распачатую ў 1989 г. атамную электрастанцыю ў Жарноўцу, якую я часткова праектаваў да свайго выезду ў Індыю ў сакавіку 1986 г.,

дзе работы ў той час многа прасунуліся, са страху пасля Чарнобыля, спынілі. Дзяржава панесла тады вялікія страты, больш чым мільярд долараў па прычыне неразумнай пастановы. Закупілі тады 4 атамныя рэактары ВВЭР-440, кожны для генератараў 440 мегаватаў, два з іх разбурылі зусім, трэці прадалі за сімвалічныя грошы фінскай атамнай электрастанцыі Лавіса, дзе ён працуе без аварыі па сённяшні дзень, а чацвёрты – таксама без аварыі – працуе ў Венгрыі ў Пакш. Працуюць без аварыі 8 такіх рэактараў у Расіі і на Украіне. Пад націскам Еўрасаюза затрымалі працу чатырох рэактараў ВВЭР-440 на электрастанцыі Казладуй у Балгарыі, з-за іх старасці, аднак Балгарыя прасіла пасля Еўрасаюз, каб дазволіць ім ізноў уключыць два рэактары, бо цана электраэнергіі пасля іх выключэння ўзрасла на больш чым 80% і не могуць экспартаваць яе ў Албанію. Еўрасаюз не згадзіўся. У Чарнобылі былі атамныя рэактары тыпа РБМК-1000. У Жарноўцу пасля пастановы аб спыненні будовы электрастанцыі разбурылі і раскралі ўсё, што там тады збудавалі. Вядома, цяпер гэтыя новыя атамныя электрастанцыі будуць праектаваць і будаваць заходнія фірмы. Першую атамную электрастанцыю хочуць збудаваць да 2020 г.

**11 красавіка** амерыканская касмічная станцыя Апалон--13 паляцела на Месяц, ды 13 красавіка наступіў унутры выбух і пасля некалькі карэкцый палёту станцыя 17 красавіка вярнулася назад і ўпала ў Ціхі акіян, адкуль выцягнулі з яе жывых касманаўтаў. Гэты выпадак затрымаў палёт на месяц Апалона-14 да наступнага года.

Пасля пасадкі амерыканскіх касманаўтаў на Месяцы ў Апалоне-11 і Апалоне-12 у 1969 г., СССР выслаў **17 жніўня** касмічную станцыю Венера-7 на планету Венеру, якая там прызямлілася на парашуце 15 снежня на невідочным з Зямлі баку планеты. Аднак па прычыне высокай тэмпературы і высокага атмасфернага ціску на планеце станцыя перастала высылаць сігналы на Зямлю пасля 53 хвілін. Толькі 20 хвілін станцыя высылала сігналы з самай планеты. Выявілася, што тэмпература на планеце 475 °C і атмасферны ціск 90 атм. 22 жніўня СССР выслаў другую касмічную станцыю на Венеру, на станцыі наступіў выбух у рухавіку і яна не даляцела да планеты, а стала спадарожнікам зямлі і назвалі яе Космасам-359.

**12 верасня** СССР выслаў на месяц касмічную станцыю Луну-16, якая 20 верасня села на Месяцы на Моры Дастатку, забрала з яго 101 грам глебы і 24 верасня вярнулася з глебаю на Зямлю. 11 лютага Японія выслала свайго спадарожніка на зямную арбіту.

Далей амерыканскія салдаты ваявалі ў В'етнаме, Камбоджы і Лаосе, бамбілі Паўночны В'етнам і поспехаў не мелі. **1 красавіка** пачалося наступленне в'етконгаўцаў ў Паўднёвым В'етнаме і 20 сакавіка амерыканцы пачалі выводзіць з В'етнама 150 тыс. салдатаў, а 28 чэрвеня забралі ўсіх сваіх салдатаў з Камбоджы.

Ізраіль далей рабіў налёты на Егіпет. **12 лютага** бамбіў Каір, ад бомбаў згінулі 70 мірных жыхароў, а 8 красавіка скінуў бомбу на школу ў Егіпце, ад якой згінулі 30 дзяцей. 28 верасня памёр прэзідэнт Егіпета Насэр, новым прэзідэнтам стаў Анвар Садат.

**У лістападзе** памёр у Францыі генерал Шарл дэ Голь, былы прэзідэнт Францыі.

**21 мая** ад землятрусу ў Перу загінулі 67 тыс. жыхароў.

**4 чэрвеня** ўручылі мне медаль за Удзел у баях за Берлін, які прызналі мне **5 мая**.

Да нашага знаёмага ў Варшаве, Р. Буйноўскага, прыехала яго знаёмая з Сарн (УССР) і ён яе выслаў да нас – яна дала маёй жонцы Ніне адрас яе цёткі, дачкі царскага генерала Міхала Іванавіча Чэкмарова, Лідзіі Чэкмаровай, сястры яе маткі, і дзвюх пляменніц, дачок другой сястры яе маткі. Ад тых дачок, Алены Чэкмаровай, Марыі Кандалец і Тамары Панько (дзявочае прозвішча – Некрашэвіч), не мела весткі з 1943 г. Ніна напісала ім пісьмо, перадала жанчыне з Сарн і хутка ад іх атрымала адказ, што яны жывуць разам у Сарнах у двух дамах побач. Цётка маёй жонкі, Алена (памерла ў 1926 г.). мела з першым мужам Аляксандрам Кандалецам дзве дачкі, Марыю і Наталію, і пасля яго смерці з другім – Васілём Некрашэвічам – Тамару і Любоў. Як пасля даведалася мая жонка, яе кузінка Наталія выйшла замуж за П. Валянскага і жыла на поўдні Польшчы, недалёка ад Замосця, а Любоў Некрашэвіч застраліў у 1944 г. у Фаляніцы ля Варшавы нямецкі афіцэр. Яна прыехала ў Фаляніцу да сваёй цёткі Алены Ханенка, дачкі царскага контр-адмірала Анатолія Аляксеевіча Кананава (аб ім пішуць на рускай мове ў інтэрнэце). В. Некрашэвіча бальшавікі ў 1941 г. вывезлі ў Казахстан, ды пасля вайны ён вярнуўся ў Польшчу ў Згажэ-

лец з другою жонкаю, полькаю Янінай, з якой ажаніўся ў Казахстане і ў 50-я гады там памёр. Яго жонка Яніна Некрашэвіч жыла пасля ў Бельску--Падляшскім. У Сарнах асталіся толькі Марыя і Тамара ды іх цётка Лідзія, якая была незамужняй. Іх у 1941 г. не вывезлі ў Казахстан, таму што яны не жылі разам з В. Некрашэвічам. Тамара мела мужа Мікалая Панько і сына Алега, а Марыя была незамужняй.

У той час прыйшло з Адэсы ад Галіны Ачымовіч, якую мы пазналі ў 1969 г. на вуліцы ў Бялградзе разам з яе дачкой Таняй, афіцыйнае запрашэнне для мяне і Ніны, афармленае яе мужам Ціхамірам у савецкай міліцыі ў Адэсе, каб прыехаць да іх у другой палове мая. Мы хутка купілі чыгуначныя білеты ў Адэсу, абмянялі дазволенаю нам суму польскіх злотых на савецкія рублі ды купілі падаркі. Ад Тамары Панько з Сарнаў у пісмеатрымалі адрас у Адэсе яе сына Алега, які там вучыўся ва ўніверсітэце, на гістарычным факультэце, з просьбаю, каб з ім там сустрэцца, калі будзем у Ачымовічаў. Выявілася, што з Варшавы едзе ў Адэсу спальны вагон пры цягніку да Кіева. У Кіеве гэты вагон пасля пад вечар далучаюць да цягніка Кіеў-Адэса. Мы выехалі ў Адэсу 15 мая ранкам, прайшлі ў Брэсце без праблем мытны кантроль і пасля поўдня даехалі да Сарн. Там цягнік стаяў хвілін пяць, і за гэты час Ніна пабачылася са сваёй цёткай Ліляй Чэкмаровай і кузінкай Марыяй Кандалец, якія прыйшлі на перон і ўвайшлі на тры хвіліны ў наш вагон з букетам бэзу, расцалаваліся і пабачылі мяне. З імі Ніна не бачылася больш за 30 гадоў. Раніцою наступнага дня даехалі мы ў Кіеў. Нам сказалі, што мы можам пакінуць нашы чамаданы ў вагоне,бо вагон будзе закрыты і можам ісці пагуляць на ўвесь дзень у горадзе. Мы ўзялі патрэбныя нам рэчы  і выйшлі на вакзал.

Перад вакзалам мы заўважылі, што кожную гадзіну ад'язджае з-пад вакзала турыстычны аўтобус з экскурсаводам, трэба толькі купіць на яго квіткі. Мы купілі іх у касе і паехалі на экскурсію па Кіеве. Пабачылі мы многія вуліцы Кіева, затрымаліся мы і агледзелі Сафійскі сабор унутры з яго прыгожымі мазаікамі і фрэскамі ды мазаіку Богамаці Аранту, якія ўжо чакалі рэстаўрацыі, бюст Яраслава Мудрага, сына полацкай княгіні Рагнеды і кіеўкага князя Уладзіміра. Сабор быў пабудаваны па загадзе князя Яраслава Мудрага ў XI стагоддзі, а пасля ў XVII і XVIII стагоддзях змяніў свой выгляд. Недалёка ад сабора стаяла вялікая званіца, а далей помнік Багдану

Хмяльніцкаму на кані. Завезлі і паказалі нам Залатую Браму Кіева, і Пячэрскую лаўру. У Пячэрскай лаўры пабачылі мы толькі царкву ўнутры з іконамі, ды не паказалі нам падзямельных калідораў, дзе ляжаць мошчы манахаў. Я іх пасля пабачыў, калі, як гід, прыязджаў у Кіеў з польскімі экскурсіямі. Пасля экскурсіі самі былі мы ля Андрэеўскага і Уладзімірскага сабораў і гулялі па Крашчаціку, галоўнай вуліцы Кіева, заглядаючы ў крамы.

Пад вечар прыйшлі мы на вакзал і ў тым жа вагоне і купэ паехалі ў Адэсу. Ранкам у нядзелю **17 мая** сустрэлі нас на вакзале ў Адэсе Ціхамір Ачымовіч з жонкаю і дачкой ды завезлі нас да сябе. Атрымалі мы асобны пакой у іх трохпакаёвай кватэры на трэцім паверсе. Пагода была сонечная і пасля снедання ўсе мы паехалі на пляж ля Чорнага мора. Пляж быў жвірысты, таму на ім стаялі драўляныя нары, адна ля адной. Вада была цёплая, можна было купацца.

Сам Ціхамір Ачымовіч, як я ўжо пісаў, быў сербам. Нарадзіўся ён у 1926 г. у сяле Рагоза ў Югаславіі, дзе тады жыла яго сям'я, недалёка ад Бялграда. У час вайны ён быў цітаўскім партызанам, кулямётчыкам і ў баі з немцамі быў тры разы ранены. Пасля вайны быў высланы на вучобу ў СССР. Калі ў 1948 г. Сталін пасварыўся з Цітам, ён паверыў савецкай прапагандзе і не вярнуўся ў Югаславію, а застаўся жыць у СССР. У Савецкай арміі ён даслужыўся звання маёра. А пасля ў 1964 г. ён закончыў Літаратурны інстытут імя Горкага ў Маскве, ажаніўся з адэсіткай Галінай Сакалоўскай і выдаваў там свае ўспаміны з сербскай партызанткі ды іншыя кніжкі. У той час выдаў ён ужо некалькі кніжак, перакладзеных з сербскай на рускую мову, якія нам паказваў. У перакладзе на рускую мову выйшаў раман „Касмаец" (1964) і аповесць „Дом без адраса" (1968). Скардзіўся ён мне толькі на савецкіх цэнзараў, якія прымушалі яго мяняць тое, што ён напісаў. Вельмі крытыкаваў ён М. Хрушчова, які пагадзіўся з Ціта, хаця М. Хрушчоў даў магчымасць яму і яго сям'і ездзіць у Югаславію. Быў задаволены, што знялі М. Хрушчова з сакратара КПСС, бо калі забралі па яго загадзе ў калгаснікаў зямельныя ўчасткі, стала там не хапаць на рынку прадуктаў. Ён лічыў М. Хрушчова самадурам, які прымушаў людзей сеяць кукурузу там, дзе яна не хацела расці і абяцаў хутка сілай збудаваць у СССР камунізм.

Пасля абеда паехалі мы разам на Прыморскі бульвар, дзе пабачылі Пацёмкінскія ўсходы, на якіх 192 прыступкі. Збудавалі іх калісьці па загадзе і за грошы графа Пацёмкіна для яго жонкі. На іх стаіць стары помнік дзюк дэ Рышалье, француза, які за цара Аляксандра I з 1803 г.быў нейкі час градапачальнікам Адэсы. Далей пабачылі мы прыгожы Марскі порт, з якога адплываюць караблі. Недалёка стаіць палац графа Варанцова, пабудаваны ў 1827 г. Потым аглядзелі мы прыгожы оперны тэатр пабудаваны ў 1887 г., Дзерыбасаўскі пляц з вуліцай і іншыя месцы.

На наступны дзень пайшлі мы самі ў інтэрнат універсітэта і знайшлі там Алега Панько, сына кузінкі Ніны Тамары з Сарн і пагулялі з ім па Адэсе. Мы прыкмецілі тады аб'яву, на якой заклікалі на экскурсію караблём на Крым у Ялту. Ніна пайшла ў бюро і купіла два квіткі на гэтую экскурсію. Там, калі даведаліся, што мы з Польшчы, то не захацелі нам прадаць квіткоў у каютах з мясцовымі жыхарамі і прадалі нам два месцы ў двухмеснай каюце за 50 рублёў. Мы мелі рублі і згадзіліся на дарагую каюту.

І на наступны дзень падвечар селі мы на карабель і паплылі на Крым. Праз гадзіну, як толькі мы з'елі вячэру, паднялася на моры моцная бура. Трэба было легчы ў ложкі і прывязацца, каб нас не выкінула. Бура так гойдала нашым караблём, што прымацаваная да стала паміж нашымі ложкамі настольная, зробленая з метала, электрычная лямпа адарвалася ад стала і з грукатам упала на падлогу. Аднак праз гадзіны дзве бура заціхла і можна было заснуць. Абудзіліся мы ранкам і выйшлі на палубу, там пабачылі, што ля басейна з вадой бура паламала многа крэслаў. Калі мы з'елі снеданне, пабачылі бераг Крыма. З берагу пад'ехала лодка і павяла наш карабель у порт Ялту. На караблі мы пазнаёміліся з украінскай сям'ёй з Адэсы, Коласам Іванам, яго жонкаю Надзяй і дачкою Таняй, якія гутарылі з намі на рускай мове. Мы з імі правялі ўвесь дзень у Ялце. Спачатку завялі яны нас у былы царскі Лівадзійскі палац, у якім была з 4 па 11 лютага 1945 г. Ялцінская канферэнцыя Ф. Рузвельта, У. Чэрчыля ды І. Сталіна і дзе ў час канферэнцыі жылі сам Ф. Рузвельт і яго дэлегацыя. У 1834 г. Лівадзію купіў польскі магнат граф Леў Патоцкі і пабудаваў там свае будынкі і вінніцу. У 1860 г. цар Аляксандр II адкупіў ад дачок графа Патоцкага за 300 тыс. рублёў серабром зямлю

і будынкі ў Лівадзіі для сваёй жонкі і толькі ў 1904 г. цар Мікалай II даў загад пабудаваць Лівадзійскі палац, у якім прайшла потым Ялцінская канферэнцыя.

Пасля паглядзелі мы палац графа М. Варанцова (1782--1856) на Алупцы, пабудаваны ў 1830-48 гг., дзе жылі ў час Ялцінскай канферэнцыі У. Чэрчыль і англійская дэлегацыя, а які пасля стаў музеем, палац князя Ф. Юсупава, дзе жыў ў час каферэнцыі І. Сталін і савецкая дэлегацыя, ды іншыя месцы. (Князь Фелікс Юсупаў, 1887-1967, браў удзел 29 снежня 1916 г. у замаху на Г. Распуціна. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі жыў у Парыжы). Пасля з'елі мы разам з Коласамі ў сталовай абед. Вечарам селі зноў на карабель і ўжо без буры вярнуліся на наступны дзень раніцою ў Адэсу да Ачымовічаў. У той час у Адэсе жыло амаль 33% яўрэяў (а ў 1926 г.было іх нават 41%), аб чым мы пераканаліся, калі мы вечарам пайшлі ў оперны тэатр.

Мы мелі месцы ў другім радзе. Відаць, яны заўважылі, што мы не з Адэсы, бо ў час перапынку падыходзілі да нас некалькі асоб яўрэйскага паходжання з просьбай, каб мы прыслалі для іх запрашэнне ў Польшчу. Давалі нам на паперы свае дадзеныя, а адна жанчына, якая жыла недалёка ад оперы папрасіла, каб мы зайшлі да яе на кватэру, дзе яна хацела даць нам свае дадзеныя для запрашэння. Аказваецца, калі яўрэям далі мажлівасць выехаць у Ізраіль, цяпер іх у Адэсе засталіся толькі 1,2 %.

Калі мы сабіраліся выязджаць, то Ніна пайшла ў Адэсе ў міліцыю з просьбай, каб нам дазволілі, калі будзем вяртацца ў Варшаву цягніком цераз Сарны, затрымацца на два дні у яе цёткі. І ёй адмовілі. Сказалі, што дазволяць ехаць нам у Маскву, Ленінград і нават у Львоў, ды толькі не ў Сарны. Пазней у 1978 і 1981 гадах мы атрымалі запрашэнне ад Тамары Панько з Сарн і былі там, але ў 1970 г. нам не дазволілі туды паехаць.

Сяброўка Ніны, Альжбета Катоўская з яе працы ў бюро, дала Ніне адрас сваёй сястры Марыі з Львова, якая згадзілася нас прыняць у сябе на кватэру, калі б мы нечакана да яе заехалі. Ніна ведала, што ў Львове жыла знаёмая яе з Сарн, жонка доктара Маліноўскага, Антаніна. Муж яе ўжо памёр. З 1939 па 1945 г. яны жылі ў Сарнах. Пасля пераехалі яны ў Львоў і Ніна не мела яе адрасу. І мы пастанавілі ехаць дамоў цераз Львоў.

Ачымовічы з Адэсы самі не хацелі ехаць у Польшчу, прасілі толькі прыслаць запрашэнне іх знаёмым, з якімі мы ў іх сустрэліся. Мы ім выслалі запрашэнне з Варшавы, але яны да нас не прыехалі. Я думаю, што ім не дазволіла іх міліцыя. Прыехалі аднак да нас у 1972 годзе Іван і Надзя Коласы з дачкою, але гаварылі, што мелі цяжкасці з атрыманнем дазволу.

Пасля доўгі час я перапісваўся з Галінай Ачымовіч, яе муж Ціхамір Ачымовіч захварэў на туберкулёз, ездзіў па санаторыях, якія яму не памаглі і 24 снежня 1978 г. ён памёр. Таня Ачымовіч, дачка Ціхаміра і Галіны, добра ведала сербскую і англійскую мовы і працавала пасля экскурсаводам ў Інтурысце. Пасля я знайшоў ў інтэрнэце, што яна выйшла замуж і змяніла прозвішча на Зяйцава-Ачымовіч. Я ў 1979 г, калі працаваў у час водпуску гідам „Орбіса", меў экскурсію ў Адэсу і зайшоў да Ачымовічаў, ды іх не застаў. Матка з дачкою паехалі ў Югаславію. Я пакінуў у суседкі для іх падарак, які прывёз з Польшчы. Спаткаўся я тады з сям'ёй Коласаў. Быў у іх на новай кватэры. У 90-я гады памёр таксама Іван Колас.

І вось **24 мая** мы сардэчна развіталіся з Ачымовічамі і паехаі ў спальным вагоне ў Львоў. Наступным ранкам з'явіліся мы ў сястры сяброўкі з працы Ніны, Марыі ва Львове з пытаннем, ці яна прыме нас да сябе . Яна згадзілася, але прасіла, каб яе суседзям па кватэры гаварыць, што мы з Адэсы, а не з Варшавы. Мы ведалі добра і рускую, і ўкраінскую мовы, і нам яе суседзі паверылі. Мы пакінулі нашы рэчы і Ніна пайшла са мною ў адрасны стол і даведалася, дзе жыве яе знаёмая жонка дохтара Маліноўскага, Антаніна са сваёю дачкою Аленай Ланкевіч і ўнучкаю. Жылі яны на вуліцы Арцёма, а сённяя змянілі яе назву вуліцу на Уладзіміра Вялікага. Пасля мы пайшлі на вакзал і купілі білеты на турыстычны аўтобус і з экскурсаводам аб'ехалі мы Львоў ды пабачылі многія яго кварталы, касцёлы і цэрквы і Лычакоўскія могілкі. Першую ноч пераначавалі мы ў жанчыны, да якой мы ранкам прыехалі і на наступны дзень паехалі на трамваі да жонкі дохтара Маліноўскага. Засталі мы мужа яе дачкі Алены, Георгія Ланкевіча. Ён казаў нам пачакаць аж прыйдзе яго цёшча Антаніна. Яна Ніну пазнала і вельмі сэрдэчна нас прыняла, затрымалі нас на ноч. Ніна ведала Антаніну і яе дачку Лену з Сарн. Дохтар Маліноўскі з жонкаю жылі да 1939 г. у Дамбравіцы ў сваім доме, а дачка іх Лена

вучылася ў гімназіі ў Сарнах і наймала кватэру ў мачахі Ніны. Пасля верасня 1939 г., калі прыйшлі бальшавікі, то выгналі Маліноўскіх з Дамбравіцы з іх уласнага дома і дом гэты заняў НКУС. Маліноўскія перасяліліся ў Сарны. Калі ў 1941 г. прыйшлі немцы, то Маліноўскія даведаліся, што ў падвале іх дома НКУС расстраляў многа мясцовых жыхараў і Маліноўскія не захацелі жыць у сваім доме, прадалі яго і купілі кватэру ў Сарнах, а пасля смерці дохтара пераехалі ў Львоў. Там Лена выйшла замуж за Георгія Ланкевіча і нарадзіла дачку Таццяну. І тады мы ў іх пераначавалі ды пасля абеда ў іх пайшлі на вакзал, каб купіць квіткі ў Варшаву. Квіткі аднак былі толькі на наступны дзень і то даражэйшыя, у польскім вагоне, цэлае спальнае купэ было на дзве асобы. Трэба было пераначаваць трэцюю ноч у жанчыны Марыі ў Львове. І мы толькі 28 мая пераехалі граніцу і 29 ранкам вярнуліся дамоў. Потым у тэлебачанні мы даведаліся, што ў Адэсе каранцін, бо выкрылі там эпідэмію халеры. Калі б мы спазніліся, маглі б нас у Адэсе затрымаць даўжэй. Антаніна Маліноўская і Лена Ланкевіч ужо не жывуць, яе дачка Таня выйшла замуж за Кухарскага і з ім мае дачку Віку. Да нас яна прыязджджала ў 2003 г. Яе муж паехаў працаваць у Канаду і там нечакана памёр, калі атрымаў тамашняе грамадзянства і меў забраць жонку і дачку да сябе. Таня засталася ўдавой і жыве з дачкою ў Львове. Працуе лекарам.

Сын Юра закончыў 8-ы клас школы і ў сувязі з тым, што меў ён добрыя ацэнкі з усіх прадметаў прынялі яго ў 1-ы клас агульнаадукацыйнага ліцэя без экзаменаў, а дачка Іра перайшла ў 8-ы клас пачатковай школы.

Цэлы чэрвень мы працавалі ў нашых офісах, а ў ліпені паехалі мы з дзецьмі на два тыдні ў дом адпачынку ў Пуцк. Дзеці купаліся ў Балтыйскім моры. Пасля мы пераехалі да ўнучкі маткі Ніны, Ірэны Стшэльчык і яе мужа Андрэя, якія мелі вялікую кватэру ў Гданьску, куды яны нас раней запрасілі, і ў іх затрымаліся на тры дні. З іх дочкамі, Ёляй і Зосяй, ездзілі мы з дзяцьмі пабачыць Вэстэрплятэ, заалагічны сад і іншыя месцы ў Гданьску. Пасля вярнуліся мы зноў у Варшаву на працу.

**15 жніўня** я з Нінай паехалі ў Чаромху, бо запрасіла нас дачка маёй сястры, Ніна са сваім мужам Уладзімірам Леўчуком, **на 16 жніўня** на хрэсьбіны іх сына, які ў іх нарадзіўся. Далі яму ў царкве

імя Андрэй. Цяпер ён жыве і працуе з жонкаю ў Чыкага ў ЗША. Мае амерыканскае грамадзянства і працуе ў фабрыцы дэтэктараў газаў і высылаюць яго часта ў камандзіроўкі ў азіяцкія дзяржавы. Быў ён ў Сінгапуры, у Паўднёвай Карэі, на Тайване. Бацькі яго жывуць далей на станцыі Чаромсе, дзе ўжо тады збудавалі вялікі дом і ля гэтага дома тады вечарам прымалі чалавек 30 гасцей, расставіўшы на панадворку сталы.

**У верасні** на працы ў Ніны зрабілі экскурсію на Міжнародны індустрыяльны кірмаш у Заграбе ў Югаславіі і Ніна запісала сябе і мяне на гэту экскурсію. У дзень выезда на экскурсію я паехаў у камандзіроўку з майго бюро ў „Энергапраект" Катавіцы і адтуль пад вечар пайшоў у гасцініцу „Сілезія", дзе мела затрымацца экскурсія з Варшавы і атрымаў там пакой з адным турыстам з Катавіцаў. Вечарам з экскурсіяй прыехала Ніна і яе закватэравалі ў іншым пакоі.

На наступны дзень паехалі мы аўтобусам цераз Чэхаславакію. Па дарозе ў нейкім матэлі з'елі мы абед і да вечара пад'ехалі пад возера Балатон і затрымаліся ў гасцініцы ля самага возера на захад ад Кестэлі. Там атрымаў я з Нінаю пакой на дзве асобы з туалетам і душам ды далі нам вячэру. Пасля пайшлі мы пагуляць над берагам возера і на мола.

Ранкам пасля снедання абвезлі нас па Вадакшоны і Кестэлі ды паехалі мы ў напрамку Заграба. Калі мы ехалі па дарогах Харватыі, мяне дзівавала, калі бачыў я з аўтобуса, як харвацкія сяляне і сялянкі везлі з поля бульбу вазамі, якія цягнулі не коні, а валы. І бачылі мы там многа валоў, якіх часта паганялі і ішлі побач з імі не мужчыны, а харвацкія жанчыны. Па дарозе ў Крыжэўцах з'елі мы абед і пад вечар паехалі мы ў Заграб і раскватаравалі нас ў вельмі прыемнай гасцініцы ў цэнтры горада. Мы атрымалі пакой на дзве асобы з усімі выгодамі.

Кармілі нас у гасцінічным рэстаране вельмі добра. Жылі мы там чацвёра сутак. На другі дзень паказалі нам у Верхнім горадзе ў гістарычным цэнтры Градэц касцёл св. Марка з мазаічным дахам з гербамі Харватыі, Славоніі, Далмацыі і Заграба, дзе ўнутры на сценах знаходзяцца старыя надпісы глаголіцай, вежу Лотшчак з XIII стагоддзя, пасля уніяцкую царкву Кірыла і Мяфодзія, касцёл св. Сцяпана, пляц

караля Таміслава і археалагічны музей. Пасля вазілі нас на кірмаш і мелі мы там многа свабоднага часу.

Вярталіся мы таксама цераз Венгрыю. І нанач затрымаліся ў гасцініцы над возерам Балатонам, адкуль вельмі рана выехалі. У Катавіцах высадзілі толькі жыхароў гэтага горада і ля 12 гадзіны начы вярнуліся мы ў Варшаву.

Польскія ўлады ліквідавалі ў Бельку-Падляшскім Педагагічны ліцэй з беларускаю мовай навучання, які выпускаў настаўнікаў беларускай мовы для школ.

Ян Чыквін выдаў адразу два зборнікі беларускіх вершаў „Іду" і „Святая студня", а ў аддзеле БГКТ на вул. Сенатарскай я даведаўся што С. Яновіча спаткалі рэпрэсіі ад польскіх улад, што мусіў ён пакінуць працу ў рэдакцыі „Нівы", бо раней выслаў нейкае пісьмо да свайго знаёмага ў БССР з крытыкай Савецкага Саюза і яно дайшло да ўлад савецкіх, а пасля і польскіх.

**8 снежня** прыехаў у Варшаву канцлер Заходняй Нямеччыны Вілі Брандт і падпісаў з Польшчаю дамову аб нармалізацыі адносін між Польшчаю і Федэратыўнаю Рэспублікай Нямеччыны ды згадзіўся на граніцу між Польшчаю і Нямеччынай па рэках Одэры і Нысе-Лужыцкай.

**12 снежня** У. Гамулка аб'явіў, што будуць павышаны цэны на многія харчовыя прадукты, а **14 студзеня** пачалася забастоўка ў гданьскай суднаверфі. Некалькі тысяч работнікаў выйшлі на дэманстрацыю пад будынак Ваяводскага камітэта ПАРП. Наступілі сутычкі з маліцыяй, у час якіх пачуліся выстралы, бо дэманстранты хацелі падпаліць камітэт. Некалькі дэманстрантаў загінулі. Беспарадкі разышліся па ўсяму Гданьску. У. Гамулка прызнаў забастоўку спробай контррэвалюцыі і дазволіў міліцыі ўжываць агнястрэльную зброю. На працягу 4 сутак загінулі 45 чалавек, 1165 былі параненыя.

**15 снежня** рабочыя падпалілі будынкі Ваяводскага камітэту ПАРП і Ваяводскіх прафсаюзаў. У. Гамулка выдаў загад ужываць зброю ў сутычках з дэманстрантамі. Войска і міліцыя пачалі страляць да людзей. Загінулі 5 чалавек.Калі 16 снежня рабочыя ішлі на працу, то войска пад брамаю Гданьскай суднаверфі пачало да іх страляць. Пачаліся вулічныя баі ў Тчэве, Прушчы-Гданьскім і ў Эльблангу.

**16 снежня** вечарам першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАПР у Гданьску Станіслаў Кацёлак па гданьскім тэлебачанні прасіў рабочых, каб вярнуліся на працу.

Калі **17 снежня рабочыя** суднаверфі ў Гдыні ішлі на працу, то ля чыгуначнага вакзала Гдыня-Суднаверф пачало страляць да іх войска. Многія рабочыя загінулі. Пачаліся вулічныя баі і забастоўка ў суднаверфі ў Шчэціне, дайшло да беспарадкаў у Слупску. Па тэлебачанні прэм'ер Юзаф Цыранкевіч абвінавачваў рабочых за гэтыя беспарадкі.

**18 снехня** войска страляла да дэманстрантаў у Эльблангу.

**20 снежня** сабраўся VII пленум ЦК ПАРП без У. Гамулкі, які выбраў першым сакратаром ПАРП Эдуарда Герэка. Ад улады адсунулі У. Гамулку, Баляслава Яшчука, Зянона Клішку, Мар'яна Спыхальскага і Рышарда Стшэлецкага. У Палітычнае бюро ўвялі, між іншых, Эдварда Бабюха, Пятра Ярашэвіча, Мечыслава Мочара, Сцяпана Альшоўскага і Юзэфа Шыдляка.

Э. Герэк пераканаў да сябе рабочых і **22 снежня** закончылася забастоўка ў Шчэціне.

**23 снежня** прэм'ер-міністрам быў пастаўлены Пётр Ярашэвіч.

Ранейшы прэм'ер Юзаф Цыранкевіч стаў кіраўніком Рады дзяржавы.

# 1971

Віною за падзеі 1970 г. новае кіраўніцтва Польскай аб'яднанай рабочай партыі абвінаваціла У. Гамулку, які быў ужо ў шпіталі па прычыне павышанага ціску крыві. Эдуард Герэк выступіў яшчэ ў снежні 1970 г. супраць памылак папярэдняга кіраўніцтва партыі, аднак паставіўся несур'ёзна да расправы з рабочымі ў Гданьску, апраўдваў атакі міліцыі і войска ды абяцаў паправіць матэрыяльную сітуацыю рабочых.

Адносіны паміж рабочымі і ўладай заставаліся напружанымі. У другой палове студзеня 1971 г. у суднаверфях Гданьска, Гдыні, Сопата і Шчэціна пачаліся забастоўкі. 23 студзеня па ўсім Шчэціне пачалася агульная забастоўка. Рабочыя дамагаліся ад улады адмены павышэння цэнаў на прадукты харчавання, якія аб'явіў У. Гамулка,

дэмакратычных выбараў партыйных улад і гарантыяў бяспекі для забастоўшчыкаў. Рабочыя таксама хацелі, каб наведала іх кіраўніцтва партыі з Э. Герэкам і П. Ярашэвічам. 24 студзеня Э. Герэк, разам з П. Ярашэвічам, Ф. Шляхціцам, ген. В. Ярузельскім і К. Барцікоўскім, прыехалі ў суднаверф у Шчэціне, а пасля і ў Гданьск. Э. Герэк дамогся таго, што рабочыя спынілі забастоўкі, заваёўваючы іх давер пытаннем: „Дык як будзе, дапаможаце?" Рабочы тады адказалі: „Дапаможам!" Аднак улады не хацелі адмяніць павышэння цэнаў. У лютым 1971 г. забастоўкі пачаліся ізноў. Цяпер пачалася яна ў Лодзі ў тэкстыльных прадпрыемствах. У забастоўках бралі ўдзел жанчыны. 14 лютага прыехалі туды П. Ярашэвіч і Ян Шыдляк – улады 15 лютага рашылі адмяніць павышэнне цэнаў з 1970 г. Напруга ў дзяржаве знялася.

У польскім грамадстве паволі ўзрастаў давер да ўлады. Былі павышаны самыя нізкія заробкі, а цэны на прадукты харчавання былі замарожаны на першыя гады. Змякчылі цэнзуру і палітыку ў дачыненні да Касцёлу. Часцей дазвалялі будаваць новыя касцёлы, пастанавілі адбудаваць Каралеўскі замак у Варшаве. У лютым 1971 г. VIII Пленум ЦК ПАРП адмяніў падрыхтаваны У. Гамулкам 5-гадовы план на 1971-1975 гады. Пачалі апрацоўваць новы план.

**10 студзеня** вылецеў, затым сеў на Месяцы, а наканец вярнуўся на Зямлю амерыканскі касмічны карабель „Апалон 14" з касманаўтамі Аланам Шэпардам, Сцюартам Русам і Эдгарам Мітчэлем.

**22 лютага** Міністэрства адукацыі Польшчы прыняло пастанову, згодна якой бацькі дзяцей абавязкова павінны падаваць пісьмовую дэкларацыю ў школах, калі хочуць, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову. Увялі добраахвотнае навучанне беларускай мовы ў школах Польшчы.

Я праектаваў у „Энергапраекце" аўтаматыку 3-га блока 200 мегаватаў у электрастанцыі „Астралэнка" і 2-га ў элекрастанцыі „Казяніцы". Аддалі ўжо ў эксплуатацыю 10-ты блок у Тураве і другі ў Астралэнцы, а першы ў Казяніцах амаль быў гатовы. Кожны блок быў магутнасці 200 мегаватаў. Ездзіў я на аўтарскі нагляд толькі ў Астралэнку і ў Казяніцы.

**4 сакавіка** выйшаў у Беластоку зборнік вершаў Уладзіміра Гайдука „Ракіта".

**23 сакавіка** ў шахце „Ракітніца” ў Забжы загінулі 18 шахцераў, а шахцёра А. Пёнтка выцягнулі жывога **30 сакавіка**.

**У сакавіку** ЗША прызналіся, што страцілі ў В’етнаме больш за 45 тыс. салдатаў забітымі, а поспеху не мелі. **25 сакавіка** прайшла ў Вашынгтоне 200-тысячная дэманстрацыя супраць гэтай вайны. Многіх дэманстрантаў арыштавалі. Прэзідэнт Ніксан пачаў забіраць амерыканскіх салдатаў з В’етнама, а 18 жніўня ўлады Аўстраліі і Новай Зеландыі вывелі адтуль усіх сваіх салдатаў.

СССР, прайграўшы спаборніцва ў палётах на Месяц, пабудаваў і выслаў **19 сакавіка** касмічную станцыю „Салют 1”. **22 сакавіка** паляцелі на гэтую станцыю тры касманаўты, але не змаглі адчыніць да яе люк і **25-га** вярнуліся на Зямлю. **6 чэрвеня** вылецела другая экспедыцыя. Яна адчыніла люк і жыла на станцыі 22 дні, аднак, калі вярталася на Зямлю, іхняя кабіна страціла шчыльнасць і касманаўты Геогій Дабравольскі, Уладзіслаў Вольскі і Віктар Пацаеў загінулі. **11 кастрычніка** станцыю пусцілі ў атмасферу і яна згарэла.

**У красавіку** я атрымаў паведамленне ад маёй пляменніцы з Бельска-Падляшскага Ліды Семянюк, што **1 сакавіка**, пасля цяжкой хваробы, памёр Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч, мой настаўнік рускай і латынскай моваў у Беларускай гімназіі і ліцэі ў 1946 г. у Белску-Падляшскім, у якім ён быў дырэктарам, а я тады канчаў чацвёрты клас гімназіі. Я тады яго добра ведаў, бо я кватараваўся на вуліцы Дубічы, на якой ён блізка жыў. Няраз я быў у яго доме з іншымі вучнямі. Я добра ведаў яго дачку Святлану, якая ў той час вучылася ў другім класе ліцэя. На жаль, я атрымаў вестку аб яго смерці, калі яго ўжо пахавалі. На паховінах служылі больш за дваццаць святароў і епіскап Ніканор, які ў 1948-1952 гадах, як і а. Мікалай Неслухоўскі, служыў у Бельску-Падляшскім і быў добрым знаёмым Яраслава Кастыцэвіча. Яраслаў Кастыцэвіч з 1965 г. быў ужо на пенсіі. Нарадзіўся ён у 1896 г.

**3 мая** пад націскам Брэжнева знялі першага сакратара ЦК Сацыялістычнай адзінай партыі Нямеччыны ў ГДР Вальтэра Ульбрыхта (1893-1973), а паставілі на яго месцы Эрыха Хонекера (1912-1994).

**12 мая** ў Гданьску Леакадыя Рыхерт нарадзіла трох хлопцаў і дзве дзяўчынкі.

**26 чэрвеня** пярун ударыў у магазін нафты перагоннага завода ў Чэхавіцах. Загінулі тады 37 пажарнікаў.

**10 ліпеня** ў Варшаве ўпершыню вытранслявалі адзін раз у тыдзень праграму каляровага тэлебачання па французскай сістэме „Сэкам", але мала хто змог яго паглядзець, бо не мелі каляровых тэлевізараў. Пасля з'явіліся ў крамах каляровыя тэлевізары на французскай ліцэнзіі, ды каштавалі яны па 18 тыс. злотых. Рэдка хто змог іх набыць, хоць і можна было іх купляць без чаргі.

**26 ліпеня** амерыканскі касмічны карабель „Апалон 15" з касманаўтамі Дэйвідам Скотам, Альфрэдам Чордэнам і Джэймсам Ірвінам паляцелі на Месяц, затрымаліся на яго паверхні, праехаліся па ім спецыяльнай машынай на колах і вярнуліся на Зямлю.

**5 ліпеня** паехаў я з Нінай і з дзяцьмі ў Гданьск. Дома ў Варшаве засталася матка Ніны, Матыльда. У Гданьск запрасіла нас да сябе ўнучка маткі Ніны, Ірэна Стшэльчык з мужам Андрэем. Яны мелі вялікую кватэру (больш за 100 кв. м), дык нам далі адзін свабодны пакой. З імі ездзілі мы на пляж у Сопат, а з іх дочкамі падвечар у паркі і музеі ды на Вэстэрплятэ. Дамоў вярнуліся мы **12 ліпеня** і на наступны дзень пайшлі на свае месца працы.

**У ліпені** купілі мы квіткі на тры асобы на цягнік у Дуброўнік у Югаславію цераз Бялград і Сараева, а з Дуброўніка купілі мы квіткі на польскі аўтобус цераз Заграб і Будапешт у Варшаву. Сын, Юра, не захацеў ехаць з намі, пастанавіў застацца ў Варшаве з маткаю Ніны. Паехалі мы толькі з дачкою Ірэнай, якая здала экзамены і была прынята ў першы клас агульнаадукацыйнага ліцэя, у якім вучыўся Юра. Раней, пры дапамозе пісьмаў, дамовіліся мы з Таццянай Фармакоўскай з Ленінграда, што сустрэнемся ў Бялградзе і адтуль разам паедзем у Сараева ды ў Дуброўнік. Яна ўжо там была няраз і мела знаёмых, у якіх мы маглі б затрымацца.

Аб Таццяне Фармакоўскай я пісаў раней, што яна была жонкаю Барыса Уладзіміравіча Фармакоўскага (1870-1928), роднага брата акадэміка Уладзіміра Фармакоўскага з Бялграда і дацэнтам па гісторыі мастацтва, ужо на пенсіі. Барыс У. Фармакоўскі быў вядомым гісторыкам мастацтва і археолагам, які не ўцёк ў часы рэвалюцыі ў Югаславію, як яго брат, і коратка жыў у Ленінградзе. Аб ім пішуць у савецкай энцыклапедыі і ў рускім інтэрнэце. І хоць ён вучыўся ў Сімбірску разам у адным класе з У. Ульянавым (Леніным) і ведаў яго асабіста, ён не дапамог яму, як вучонаму, калі бальшавікі забралі ў яго вялікую



*Аўтар на моло ў Сопаце*

кватэру з бібліятэкай ў Петраградзе ды далі яму маленькі пакойчык, дзе цяжка было працаваць.

А Уладзімір Фармакоўскі ў Бялградзе быў мужам Надзеі, цёткі маёй жонкі, Ніны. Надзея была дачкой царскага генерала-лейтэнанта Віктара Іванавіча Чэкмарова (1861-1939), які памёр ў Сарнах 10 кастрычніка 1939 г., калі выгналі яго бальшавікі з яго маёнтку ў Поліцах. (Яго біяграфію лёгка знайсці на Google ў рускім інтэрнэце: Виктор Иванович Чекмарёв – Русская армия в Великой войне). Аб У. Фармакоўскім успамінаюць сербскі інтэрнэт і сербская энцыклапедыя.

Віктар Іванавіч Чэкмароў быў братам дзеда Ніны па маці, генерала Міхала Іванавіча Чэкмарова, які памёр ў Поліцах на Валыні ў сваім маёнтку ў 1919 г. Біяграфію бацькі Віктара і Міхала, генерала-лейтэнанта Івана Гаўрылавіча Чэкмарова (1815-1887) можна таксама лёгка знайсці ў рускім інтэрнэце.

Таццяна Фармакоўская, пасля смерці свайго першага мужа Барыса, выйшла замуж за Кірэева і мела тады з ім дачку Алену, аднак з ім узяла развод і затрымала сабе прозвішча першага мужа Фармакоўскага. Толькі ў яе дачкі Алены было прозвішча Кірэева.

Выехалі мы цягнікам **5 жніўня** вечарам і ў Бялградзе былі мы **6 жніўня** раніцою, дзе на вакзале сустрэў нас Мікалай Фармакоўскі, сын акадэміка Уладзіміра, і прывёз нас на сваёй машыне да сябе ў свой дом на вул. Бранічэўскай. Там сустрэла нас яго жонка Нявэна. Пасля снедання з'явілася Таццяна Фармакоўская з Ленінграда са сваёй унучкай, Марынай, дачкой Алены Кірэевай, якая была аднагодкай з маёй дачкой Ірэнай. Яны жылі ў знаёмага нам серба Джорджа Младэнавіча. Правялі мы разам у Бялградзе і ў яго ваколіцах, куды нас вазіў Мікалай, чацвёра сутак, потым разам селі ў хуткі цягнік у Сараева. Ранкам мелі мы прыехаць на вакзал у Сараеве і там меў нас сустрэць Таццянін знаёмы серб, з якім яна дамовілася пры дапамозе пісьмаў. Мы былі ў чацвёртым вагоне ад лакаматыва. Першы вагон быў спальны. Мы мелі сядзячыя месцы. У нашым вагоне я сядзеў ля акна спіной да лакаматыва, перада мною сядзела Іра ля століка пры акне, пры мне Ніна, а насупраць яе сядзела Марына з Ленінграда. Таццяна Фармакоўская пайшла ў суседняе купэ і ляжала на лаўцы. І раптам цягнік пачаў раптоўна тармазіць і пачуўся моцны гук, лёгкі багаж паляцеў з верхніх полак, на калідоры пачуўся крык жанчын і цягнік спыніўся. Маю спіну на хвіліну моцна прыціснула да сцяны вагона, дачка Іра ўдарылася моцна аб рабро століка ля акна, на Марыну паляцеў на галаву багаж з полкі. Усе сарваліся на ногі, паадкрывалі вокны і пачалі выглядаць цераз іх. Праз нейкі час жанчыны сабраліся і выйшлі з вагона паглядзець, што здарылася. Я застаўся сам у купэ. Была амаль поўнач, за акном цёмна і холадна.

Калі жанчыны вярнуліся, дык сказалі, што наш цягнік наехаў на таварны вагон з дошкамі і лакаматыў з'ехаў уніз з чыгуначнага насыпу. З рэек з'ехаў таксама першы спальны вагон. На шчасце ніхто не загінуў і не было параненых. Здарылася гэта ля Басанскага Шамаца.

У вагоне сядзелі мы да раніцы. Калі развіднела, прыехаў з Сараева другі цягнік, мы і ўсе пасажыры перайшлі ў яго. Калі мы пераходзілі з багажом наперад, то я ўбачыў лакаматыў і часткова першы спальны вагон, якія ссунуліся з чыгуначнага насыпу. У спальным вагоне спала толькі адна жанчына, ды ёй нічога не сталася. Мы другім цягнікам у Сараева, замест ранкам, прыехалі пасля абеда. Ды знаёмы Таццяны, Аляксандр, чакаў нас і забраў хутка да сябе. Аказалася, што серб быў

у часы акупацыі вывезены немцамі ў Нямеччыну і працаваў з рускай дзяўчынай, Галінай, з якой пасля ажаніўся і прывёз яе пасля ў Сараева і там з ёй жыў. Прымалі яны нас вельмі гасцінна.

Калі мы з’елі ў іх абед, ён нам паказаў Сараева, сталіцу Босніі і Герцагавіны ў Югаславіі. Горад узнік у 1263 г. і называўся Боснавар, пасля папаў у Асманскую імперыю, таму ў ім многа мусульман. Тады назвалі горад Сараевам і з 1878 г. па 1918 г. быў ён у Аўстра-Венгрыі. Былі мы ў дзвюх цэрквах з XV ст., Міхала і Гаўрыіла, паглядзелі мы ўнутры самую вялікую на Балканах мячэць, якую назвалі Бегова джамія, дзе мусульмане перад уваходам у яе мыюць ногі ў калодзежы, якi стаіць ля мячэці і пакідаюць абутак перад мячэццю. Пабачылі мы месца і сляды ў асфальце на вуліцы, дзе стаяў і страляў Гаўрыла Прынцып, які забіў 25 чэрвеня 1914 г. аўстрыйскага эксгерцага Ф. Фердынанда і яго жонку Софію Хотак. З-за яго пачалася першая сусветная вайна. Аляксандр пазнаёміў нас з  сербкай Відойкай Наваковіч, з якой мы доўгі час перапісваліся і ў якой мы пераначавалі дзве начы, калі ў 1974 г. вярталіся цераз Сараева з Дуброўніка ў Бялград. Цяпер мы ў Аляксандра і Галіны пераначавалі і на наступны дзень селі ў цягнік і паехалі ў Дуброўнік. Краявід па дарозе быў вельмі цікавы: прыгожыя горы, многа тунеляў. Падвечар прыехалі мы ў Дуброўнік. Там забрала нас да сябе знаёмая Тані Фармакоўскай сям’я харватаў Косічаў. Мы атрымалі асобны пакой, а Таня Фармакоўская з дачкой – другі. За пакой мы плацілі дынарамі і Ніна на іх кухні гатовіла страву.

Недалёка ад іх дома быў базар, дзе мы танна куплялі, садавіну, вінаград і віно з бочкі. Іх дом быў на горцы, стаяў у садзе, дзе рос таксама вінаград. Да старага горада трэба было ісці амаль два кіламетры. Стары горад Дуброўнік – гэта горад-музей, які ўзнік у VII стагоддзі. Калісьці называўся ён Рагоза. Ляжыць у Далмацыі, якая была далучана да Харвацкай Рэспублікі, а цяпер да Харвацыі. У горад трэба было ўвайсці цераз браму Піле з XVI стагоддзя з белай фігурай св. Улаха. За брамай ляжыць галоўная вуліца Страдум, вельмі прыгожая, выкладзеная белымі пліткамі з мармуру. За брамай знаходзіцца францысканскі манастыр з манастырскай аптэкай, у якую можна было ўвайсці. Далей стаяў фантан-студня Ануфрыо з XV стагоддзя, з якога можна было напіцца халоднай крынічнай вады, якая

выцякала з блізкай гары. Удзень у спёку стаяла там многа людзей і набіралі ў пасудзіны з крана ваду. Далей знаходзіцца прыгожы Пляц Ложа з ратушай. Пасля ўбачым мы касцёл св. Улаха з XVII стагоддзя, у якім стаіць пазалочаная статуя гэтага святога. Потым дойдзем да Дварца Спонца з XV стагоддзя і побач убачым Гарадскую Гавань, дзе стаяць катэры і лодкі. Далей стаіць Дамініканскі манастыр, які тады быў музеем, а побач кафедральны сабор Узнясення Дзевы Марыі з XVII стагоддзя і далей этнаграфічны музей. Была ў сярадзіне горада невялікая, ды прыемная праваслаўная царква. Навокал горада цягнецца гарадская сцяна даўжынёй у два кіламетры, па якой можна хадзіць ды глядзець панараму горада і мора. З яе відаць недалёкі і невялікі востраў Локруш, на які можна дабрацца катэрам. На гару цягнецца падвесная дарога, па якой ехалі вагонікі, якія вазілі людзей туды і назад. Вечарам, калі сонца моцна не грэла, па вузенькіх вуліцах Дуброўніка шпацыравалі тысячы людзей. Чуваць было навокал розныя мовы. Там быў і пляж, на якім загаралі многа людзей, асабліва жанчын.

Мы часта хадзілі загараць на вялікі пляж у Новым горадзе, куды прыходзіла купацца вельмі многа людзей. У вадзе Адрыятычнага мора многа солі, таму на ёй лёгка плаваць, яна трымае чалавека на паверхні. Вада ў жніўні была вельмі цёплая і загараць на пляжы трэба было асцярожна ды павольна, бо сонца моцна грэла. Побач пляжа стаяла вялікая і прыгожая гасцініца „Компас" з басейнамі. Толькі яна была не на нашу кішэню. У 1974 г. мы пазнаёміліся з немкай з Баварыі, з Бад-Райхенгаль, Цінай Блянк, і яна нас запрашала ў гэтую гасцініцу. У 1978 г. яна запрасіла мяне і Ніну да сябе ў Бад-Райхенгаль і мы ў яе былі тады ўвесь тыдзень.

Цяпер мы праводзілі час з Таняй Фармакоўскай і яе дачкою, але прыйшоў час і нам трэба было з імі развітацца пры польскім аўтобусе Дуброўнік – Варшава, на які мы мелі ў Варшаве выкупленыя квіткі. Яны яшчэ засталіся ў Дуброўніку. Выехалі мы **25 жніўня** ў 9 гадзін раніцы. Ехалі мы ўздоўж берага Адрыятычнага мора да самага Спліту. З правага боку аўтобуса стаяла вялікая сцяна гары, а з левага боку – высокая прорва ў мора. Часта бачыў я ў гэтай прорве разбітыя аўтамашыны, якія калісьці ў яе ўпалі і ляжалі там. Ніхто іх не выцягваў з прорвы. У нейкіх курортных мясцовасцях мы затрымлі-

валіся, як напрыклад у Макарскай, каб купіць вады, ліманад ці пайсці ў туалет. На 30 хвілін затрымаліся мы ў Спліце і прайшліся па алеі з пальмамі. Пасля павярнулі мы на поўнач і ехалі дарогай, якая падымалася высока на Дынарскія горы. Зверху людзі адчувалі нізкі ціск паветра, жачыны скардзіліся на звон у вушах. Цікавыя былі горныя віды, пейзажы і панарамы. Калі з'ехалі мы ўніз, то затрымоўваліся па дарозе і ў нейкіх малых мясцовасцях. Падвечар прыехалі мы ў Заграб і там у цэнтры горада затрымаліся мы нанач у заказанай для нас гасцініцы.

**26 жніўня** раніцай паехалі мы дамоў цераз Венгрыю і нанач затрымаліся ў Будапешце. З'елі мы ў гасцініцы вячэру, пахадзілі вечарам па Будапешце, пераначавалі, ранкам з'елі снеданне ў гасцініцы, а пасля, цераз Славакію, падвечар прыехалі мы на начлег у гасцініцу „Меркуры Каспровы" ў Закапаным. Там далі нам вячэру, а на наступны дзень раніцай – снеданне. **27 жніўня** былі мы ў Варшаве, **28 жніўня** – у сваіх офісах.

**У верасні** ў маім офісе арганізавалі 5-дзённую аўтобусную экскурсію ў Бяшчады.

На гэтую экскурсію я паехаў з працаўнікамі свайго офісу, без жонкі. Першую ноч пераначавалі мы ў Жэшаве. На другі дзень аб'ехалі мясцовасці ля Салінскага возера і там у курортным доме мы пераначавалі. На наступны дзень, па дарозе ў Пярэмышль, паглядзелі мы замак у Красічыне, а потым і сам Пярэмышль – там жа і пераначавалі. На чацвёрты дзень паглядзелі мы палац і музей у Ланцуце і пераначавалі ў Жэшаве. Пасля, па дарозе ў Варшаву, паглядзелі старыя замкі і гістарычныя мясцовасці.

**14 лістапада** амерыканскі касмічны зонд „Марынер" стаў штучным спадарожнікам планеты Марс.

**4 снежня** армія Індыі ўвайшла ў Бангладэш, вызваліла яго ад Пакістана, а 16 снежня Бангладэш стаў самастойнай дзяржавай – незалежнай ад Пакістана, са сталіцай ў Дацы. Армія Індыі выйшла з Бангладэша.

# 1972

Я далей праектаваў аўтаматыку для энергетычных блокаў на электрастанцыі Казеніцы – пачалі мы праектаваць новы 7-ы блок, кацёл,

які меў быць не на вугаль, а на нафту ў электрастанцыі Понтнаў, аднак ездзіў я час ад часу ў камандзіроўку толькі на электрастанцыю Казеніцы, дзе здалі ў карыстанне першы блок 200 мегаватаў і будаваліся чатыры наступныя блокі па 200 мегаватаў. Здалі ў эксплуатацыю апошні трэці блок 200 мегаватаў у электрастанцыі Астралэнка Б, які пасля мадэрнізацыі даваў 226 мегаватаў магутнасці. Першы блок у Астралэнцы Б 221 і другі 200 мегаватаў сілкавалі лініі электраперадачы 220 кілавольтаў, а трэці блок 226 мегаватаў – лініі 110 кілавольтаў.

**1 студзеня** адкрылі мяжу паміж Польшчай і Усходняй Нямеччынай (ГДР). Можна было ехаць ва Усходнюю Нямеччыну без запрашэння. Са Свінавусця можна было пераходзіць мяжу пяшком і купляць тавары ў нямецкіх крамах. Трэба было толькі абмяняць польскія злотыя на нямецкія маркі.

**5 студзеня** ў Беластоку ПАРП узначаліў малады Здзіслаў Куроўскі (нар. у 1937 г.) – былы старшыня ГП ЗМВ, адданы першаму сакратару ПАРП Эдуарду Герэку. Куроўскі заняў месца Аркадзія Лашэвіча (1916-1985), які быў першым сакратаром ПАРП у Беластоку з 1956 г.

**8 студзеня** Рада міністраў замарозіла цэны на ўсе спажывецкія прадукты і многія прамысловыя прадукты.

**13 студзеня** прэзідэнт ЗША Р. Ніксан аб'явіў, што амерыканскія салдаты будуць выведзены з В'етнама.

**30 студзеня** на тэлебачанні паведамілі аб „крывавай нядзелі” ў Паўночнай Ірландыі, у Лондан-Дэры, дзе англійскія салдаты застрэлілі 13 маладых ды мірных ірландскіх дэманстрантаў, удзельнікаў мірнага маршу супраць права інтэрнавання ірландцаў падазроных у тэрарызме. 14-ты паранены хутка памёр. Каралева Вялікабрытаніі Альжбета II дала за гэта салдатам узнагароды, у выніку чаго **2 лютага** ў сталіцы Ірландыі Дабліне натоўп знішчыў будынак брытанскага пасольства.

**21 лютага** аб'явілі аб пабудове на поўначы Польшчы атамнай электрастанцыі. Планавалі закончыць гэтую пабудову ў 1980-82 гадах. Гэты план не быў выкананы. Памятаю, што перад маім выездам у Індыю, у лютым 1986 г., я яшчэ праектаваў аўтаматыку для электрастанцыі Жарновец, а ў сакавіку ў Індыі даведаўся аб катастрофе

ў Чарнобылі. Гэтая катастрофа многіх так напужала, што ў 1990-х гадах спынілі пабудову электрастанцыі Жарновец – усё, што там пабудавалі, а зрабілі ўжо вельмі шмат, раскралі і знішчылі. Адзін савецкі рэактар знішчылі, другі прадалі ў Венгрыю, а трэці – у Фінляндыю. Прададзеныя рэактары па сённяшні дзень працуюць там без аварыі.

**21 лютага** прэзідэнт ЗША Р. Ніксан пачаў свой візіт у Кітай. Гэта быў першы візіт прэзідэнта ЗША ў камуністычны Кітай. У гэты дзень савецкая аўтаматычная станцыя „Луна-20" мякка села на Месяцы, перадала здымкі з Месяца, набрала там 55 грамаў грунту і 25 лютага вярнулася на Зямлю.

**22 лютага** ў бульбяным прадпрыемстве ў Любані ад выбуху загінулі 17 рабочых ды ў гэты ж дзень у паўднёвай Англіі, у Андэршоце, ад ірландскай бомбы загінулі сямёра англічан.

**2 сакавіка** ЗША выпусцілі касмічны зонд „Піянер 10", у які паклалі пласцінку з пасланнем ад людзей Зямлі да жыхараў у космасе.

**19 сакавіка** ў Польшчы прайшлі выбары ў Сейм IV склікання, на якіх ПАПР атрымала 55,5% галасоў, а Фронт адзінства народу (FJN), у які ўваходзіла ПАПР – 99,53%. Кіраўніком Рады дзяржавы выбралі Юзэфа Цыранкевіча, а прэм'ер-міністрам – Пятра Ярашэвіча.

**15 красавіка** пачалі будаваць Гуту Катавіцы.

**16 красавіка** амерыканская касмічная ракета „Апалон 16" села на Месяцы з касманаўтамі Джонам Янгам і Чарльзам Дзюкам. Дж. Янг і Ч. Дзюк праехалі амаль 20 км на месячным ровары па Месяцы, ад'ехалі ад „Апалона" 4,6 км, а Томас Матынглі кружыў над імі на арбіце вакол Месяца. Пасля касманаўты ўзялі з Месяца 95,71 кг грунту і **27 красавіка** вярнуліся на Зямлю.

**5 мая** ў катастрофе самалёта „ДЦ-81", які ляцеў з Палерма ў Рым, загінулі 115 чалавек.

**10-11 мая** прайшоў V Пленум ЦК ПАПР, на якім галоўнай тэмай было будаўніцтва дамоў. Э. Герэк у сваім выступленні сказаў, што на працягу жыцця аднаго пакалення трэба збудаваць другую Польшчу.

**15 мая** аб'явілі аб зніжэнні цэнаў на многія тавары.

**22 мая** з візітам у Маскву прыехаў прэзідэнт ЗША Р. Ніксан. Гэта быў першы візіт прэзідэнта ЗША ў СССР, а 26 мая СССР і ЗША пад-

пісалі дамову „СОЛТ-1" аб абмежаванні сістэмаў супрацьракетнай абароны на неабмежаваны час.

**З 31 мая па 1 чэрвеня** з візітам у Варшаве быў прэзідэнт ЗША Р. Ніксан.

**3 чэрвеня** ў чыгуначнай катастрофе ля Быдгашчы загінулі 12 пасажыраў.

**6 чэрвеня** вывезлі з Ленінграда ў Вену рускага паэта Ёсіфа Бродскага – пакінулі яго там без права вяртання ў СССР.

**17 чэрвеня** ў ЗША знайшлі пяць чалавек – прадстаўнікоў Рэспубліканскай партыі Ніксана, у гасцініцы Уотэргейт, дзе знаходзілася бюро Дэмакратычнай партыі. Яны ўсталёўвалі там прылады для праслухоўвання, фатаграфавалі дакументы Дэмакратычнай партыі. Быў гэта пачатак судавых працэсаў, якія прывялі да таго, што **9 жніўня 1974 г.** Ніксан перастаў быць прэзідэнтам ЗША. Пачалася гэтак званая „афёра Уотэргейт".

**18 чэрвеня** ў катасрофах самалётаў у Англіі загінулі 118 чалавек, а ў СССР – 122 чалавекі.

**З 19 па 23 чэрвеня** з афіцыйным візітам у Польшчу прабываў прэзідэнт Югаславіі Броз-Ціта.

**На пачатку ліпеня** мы былі запрошаны сям'ёй унучкі другой маці Ніны – Матыльды, Ірэнай і Андрэем Стшэльчыкамі на два тыдні ў Гданьск. Родная маці Ніны, Аляксандра, памерла яшчэ ў Сарнах на Валыні і пахавалі яе на могілках ў Паліцах. Другая маці Ніны мела ў Сарнах дачку Соню ад першага мужа, якая выйшла замуж у Сарнах за паляка Заянчкоўскага і пасля выехала з ім у Пястаў за Варшавай. Там Соня нарадзіла дачку Ірэну, якая пасля стала жонкай Андрэя Стшэльчыка і яны атрымалі працу ў Гданьску ды кватэру ў 102 кв. метры. Ірэна была зубным урачом, а Андрэй – дырэктарам. Мы былі ў іх на кватэры з імі ды з іх дочкамі – Ёляй і Зосяй, ездзілі ў Сопат на пляж, як і ў 1971 годзе.

Нечакана **9 ліпеня** атрымалі мы з Варшавы тэлефон, што маці Ніны, Матыльда, у Варшаве на кватэры ўпала і праўдападобна зламала сабе нагу. Званіў наш сусед Сяргей Дземяновіч з пятага паверху нашага дома. Як пасля высветлілася, яна ўпала ў пярэднім пакоі і не магла падняцца. Падцягнулася да тэлефону і пазваніла суседу Дземяновічу, які прыбег, зламаў замок у дзвярах, занёс маю цёшчу

на тапчан у яе пакой і пазваніў па тэлефоне да нас у Гданьск. Адразу Ніна з Юрай паехалі ў Варшаву і завезлі Матыльду ў бальніцу на Празе, дзе ёй зрабілі аперацыю, злучылі зламаную косць нагі пры суставе ля таза металічным стрыжнем, замест таго, каб злучыць косці спецыяльным апаратам і затрымалі яе ў бальніцы на два тыдні. Калі Ніна запытала ардынатара бальніцы Лукасіка, чаму ён не даў апарату для злучэння касцей, а стрыжань, ён адказаў, што апарат дорага каштуе, а Матыльда ўжо старая і доўга не пажыве. Цёшча (1888-1983) мела тады амаль 84 гады, а старыя жанчыны часта хварэюць на астэапароз. У іх слабыя косці. Аднак пасля аказалася, што Матыльда са стрыжнем у назе пераржыла самога ардынатара Лукасіка.

Я з Ірай засталіся ў Гданьску яшчэ на нейкі час, а калі мы вярнуліся, цешча яшчэ была ў бальніцы. Ніна кожны дзень да яе ездзіла. Часта ездзілі мы ў бальніцу разам. Пасля прывезлі мы яе дамоў, ды яна ляжала ў асобным пакоі і Юра пасля пачаў яе вучыць хадзіць па пакоях апіраючыся спачатку на два кастылі. Пасля яна ўжо сама хадзіла апіраючыся на адзін кастыль па кватэры і дажыла яна ў нас амаль да 95 гадоў. Памерла яна ў 1983 г. Калі б яна мела апарат замест стрыжня, праўдападобна хадзіла б без кастыля, і калі б ардынатар нам запрапанаваў заплаціць за апарат, мы б гэта зрабілі.

Па нацыянальнасці цёшча была эстонкай. Пры цары яна вучылася ў Санкт-Пецярбурзе і там выйшла замуж за двараніна Сахацкага, хаця сама не была дваранкай. Муж яе прывёз у Сарны, там нарадзіла яму дачку Соню і там ён хутка памёр. Мела яна ў Сарнах свой вялікі дом і агарод – доўгі час жыла ўдавой адна, калі яе дачка выехала са сваім мужам Заянчкоўскім у Пястаў за Варшаву. Бацька Ніны, Васіль Эразмавіч Кандыба, пасля смерці сваёй жонкі Аляксандры, роднай маці Ніны, перадаў маёнтак па маці Ніны (53 га зямлі, лугу і лесу, 2 га саду і вялікі дом з хлявамі і клуняй) у Поліцах у арэнду, ажаніўся ў 1937 г. з Матыльдай і пераехаў жыць з Нінай з Паліцаў у яе дом у Сарны. Не мог ён прадаць маёнтку ў Поліцах, бо ён па матцы перайшоў на дачку Ніну, а Ніна не была паўнагадовай.

Калі ў верасні 1939 г. прыйшлі бальшавікі, то выгналі ў Поліцах з іх маёнткаў і іх дамоў усіх сваякоў Ніны па матцы (11 чалавек) разам з цёткай Ніны, Лідыяй, а да Васіля Кандыбы ў Сарнах не чапляліся. Сваякі Ніны на нейкі час пераехалі з Поліцаў у Сарны

і там жылі. 14 кастрычніка памёр у Сарнах родны брат дзеда Ніны, Міхала, былы царскі генерал-лейтэнант Віктар Іванавіч Чэкмароў – яго пахавалі на могілках у Сарнах. Іншыя сямёра сваякоў Ніны з Сарнаў, калі даведаліся, што І. Сталін аддаў Літве Вільню, хутка селі ў цягнік і прыехалі ў Вільню. З Вільні яны пазванілі ў Бялград прафесару Уладзіміру Фармакоўскаму, які быў жанаты на дачцы памёрлага Віктара Чэкмарова, ён ім хутка аформіў візы ў Югаславію і яны цераз акупіраваную немцамі Польшчу, Славакію і Венгрыю прыехалі ў Бялград.

Жонку Аляксея Анатольевіча Конанава, сына былога контрадмірала Анатолія Аляксеевіча Конанава, Яўгенію, (дзявочае прозвішча – Дворжыцкая; яна з'яўлялася нашчадкам генерал-маёра Андрыяна Іванавіча Дворжыцкага, які апошні раз суправаджаў цара Аляксандра II і быў паранены ў Санкт-Пецярбургу на Екацерынінскім канале, разам з царом Аляксандрам II, толькі ён астаўся жывым, а цар Аляксандр II памёр), якая выехала ў Вільню цягнікам пазней, савецкія пагранічнікі арыштавалі і выслалі ў гулаг ў Каспійск, дзе ў 1942 г. яна памерла ад голаду.

Муж-удавец другой цёткі Ніны па маці, Алены, які астаўся ў Сарнах, Васіль Некрашэвіч, быў вывезены ў 1940 г. у Казахстан і вярнуўся ў 1946 г. як польскі грамадзянін у Згажэлец. Адну толькі цётку Ніны, Лідыю, якая жыла ў Сарнах, НКУС не рэпрэсаваў, нават пасля 1944 г. Ды яна пры Польшчы аддала сваю зямлю В. Некрашэвічу і працавала ў яго. Замуж яна не выйшла.

Васіль Кандыба з Нінай і з Матыльдай жылі у Сарнах да красавіка 1944 г. Аднак калі ў 1944 г. да Сарнаў падыходзіла Чырвоная армія, пабаяўся заставацца ў Сарнах і выехаў пачаткова з Нінай і Матыльдай у Варшаву, а пасля – у Пястаў ля Варшавы, да дачкі Матыльды, Соні і наканец у Чанстахову, дзе памёр у 1946 г. Ніна ў Чанстахове ўжо закончыла тады чацвёрты клас гімназіі і атрымала малы атэстат сталасці (mała matura).

Тады Матыльда з Нінай вярнуліся ў Пястаў, дзе жыла яе дачка Соня, там наняла кватэру ў Лісецкай. Ніна з Пястава пачала ездзіць у камерцыйны ліцэй у Варшаву, а пасла, калі яго закончыла, у Вышэйшую эканамічную школу. Дачку Матыльды Соню перад Пасхай у 1952 г. задушыла шчытападобная залоза, калі яна мыла

вокны – пахавалі яе ў Варшаве на Волі, на праваслаўных могілках. У Пяставе Мадыльда жыла далей з Нінай, Ніна ў Варшаве пачала працаваць і ў 1954 г. пазнаёмілася са мною.

Матыльда была пратэстанткай, але першы і другі яе муж былі праваслаўнымі і дачка яе Соня таксама была праваслаўнай – Матыльда хадзіла маліцца толькі ў царкву, а не ў пратэстанцкую кірху; пахавалі яе на праваслаўных могілках у Варшаве на Волі.

Аднак унучкі і праўнучкі Матыльды былі каталічкамі, бо муж Соні быў каталіком. Пасля смерці цёшчы, памерла ў Гданьску яе ўнучка, Ірэна, а яшчэ раней яе муж Андрэй Стшэльчык і нядаўна ў Францыі памерла яе праўнучка Зося, якая пакінула там дзве дачкі, бо яна ў Францыі выйшла замуж за француза. Другая праўнучка Ёля і яе сын Януш жывуць у Гданьску. Ёля даўно ўжо разышлася са сваім мужам і жыве толькі з сынам, які закончыў у Варшаве палітэхніку. Ёля таксама інжынер.

Васіль Э. Кандыба баяўся заставацца ў Сарнах, бо пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ён уцёк у Варшаву і ў 1921--23 гг. быў намеснікам кіраўніка Таварыства помачы рускім бежанцам у Польшчы. Кіраўніком гэтага Таварыства была Людміла І. Любімава. Па-руску гэтае таварыства называлася Управление отдела трудовой помощи под покровительством Международного красного креста. Таварыства гэтае арганізавала на тэрыторыі Польшчы розныя майстэрні і кааператывы з рускіх, беларускіх і украінскіх эмігрантаў з царскай Расіі – эмігранты самі на сябе зараблялі.Такіх майстэрняў і кааператываў навокал Варшавы было некалькі. Прозвішча В. Э. Кандыбы можна знайсці ў рускім інтэрнэце. У 1921 г. Васіль Кандыба ў царкве на Падвалю ў Варшаве ажаніўся з Аляксандрай Чэкмаровай, пазнейшай маці Ніны.

Мы ўжо раней, **на пачатку жніўня**, мелі выкупленую пуцёўку на 14 дзён у дом адпачынку ў Гданьску-Аліве на чатыры асобы. Цяпер, калі цёшча зламала нагу, Ніна рашыла застацца з ёй у Варшаве – чацвёртае месца прапанавалі мы дачцы нашых знаёмых з Уроцлава, Трэмбачкевічам. Яны згадзіліся і з намі паехала іх дачка, Ліля Трэмбачкевіч, як чацвёртая асоба. Яна спала ў адным пакоі з маёй дачкой Ірэнай, а я ў другім з сынам Юрай. Наш дом адпачынку знаходзіўся блізка вакзала, з якога мы ездзілі ў Сопат на пляж. З намі часта ездзілі

на пляж дочкі Стшэльчыкаў, Ёля і Зося. У доме адпачынку сарганізавалі нам экскурсію на адзін дзень у Мальбарк, дзе мы аглядзелі стары крыжацкі замак. Варнуліся мы з Гданьска ў Варшаву самалётам, бо тады цана білета на самалёт была амаль такая, як цана білета ў вагоне першага класа хуткага цягніка. Калі мы вярнуліся ў Варшаву, то сустрэліся з сям'ёй Коласаў, якія прыехалі да нас з Адэсы. Я з Нінай правялі з імі ў 1970 г. адзін дзень у Ялце і на караблі з Адэсы ў Ялтуу і з Ялты ў Адэсу, аб чым я пісаў ў сваіх успамінах з 1970 г. Мы ім выслалі запрашэнне і яны да нас прыехалі з дачкой. Яны гасцявалі ў нас больш за тыдзень – пад канец жніўня яны вярнуліся дамоў у Адэсу.

**21 ліпеня** ад выбуху ірландскай бомбы ў Белфасце загінулі дзевяць чалавек, а 130 чалавек былі паранены, а **22 ліпеня** савецкі зонда „Венера-8" села на планеце Венеры – яе апаратура перасылала на Зямлю розныя звесткі ў час пасадкі і цераз 50 хвілін пасля пасалкі. Зонд перадаў тэмпературу на паверхні планеты – 470 °C і атмасферны ціск – 90 атмасфер. Гэты высокі ціск і высокая тэмпература ў канцы і знішчылі зонд.

**31 ліпеня** ў Паўночнай Ірландыі ад ірландскіх бомб загінулі дзевяць чалавек, а 30 чалавек былі паранены.

**12 жніўня** апошнія амерыканскія салдаты выйшлі з В'етнама – ЗША закончылі вайну.

**14 жніўня** ў катастрофе „Іл-62" ля ўсходняга Берліна загінулі 156 чалавек.

**26 жніўня** ў Мюнхене ў Баварыі адкрылася 20-я летняя алімпіяда, на якой **5 верасня** васмёра арабскіх тэрарыстаў напалі на ізраільскіх алімпійцаў, двух адразу застрэлілі, а дзевяць узялі ў заложнікі і запатрабавалі, каб Ізраіль выпусціў 232 арабскіх вязняў-тэрарыстаў са сваіх турмаў, а 16 вязняў – з еўрапейскіх турмаў. Ізраіль у гэтым амовіў. Немцы хацелі вызваліць заложнікаў у тэрарыстаў, але вызваленне прайшло так няўдала, што загінулі ўсе дзевяцёра ізраільскіх алімпійцаў, пяць тэрарыстаў і адзін нямецкі паліцыянт, а трое тэрарыстаў немцы захапілі ў палон.

**24 верасня** прайшоў VII З'езд БГКТ, на якім старшынёй быў выбраны Мікалай Самоцік, яго намеснікам стаў Георгій Валкавыцкі.

**7 лістапада** ў ЗША на другі тэрмін прэзідэнтам стаў Рычард Ніксан.

**7 снежня** апошняя касмічная ракета „Апалон-17" села на Месяцы з касманаўтамі Юджынам Сернанам і Гарысонам Шмідтам – 19 снежня яны вярнуліся на Зямлю. Юджын Сернан і Гарысон Шмідт 72 гадзіны былі на Месяцы і рабілі здымкі. Рональд Эванс кружыў над імі на арбіце Месяца.

# 1973

На пачатку года я пачаў праектаваць аўтаматыку і рэлейную ахову блокаў 210 мегаватаў у Югаславіі ў Тузлі IV. У 1970 годзе „Энергапраект" запраектаваў блок 210 мегаватаў для Тузлі III, які пачаў сваю працу ў 1971 г. Польшча прадала ім тады таксама катлы на буры вугаль з фабрыкі катлоў „Рафака" ў Рацібожы, паравыя турбіны з фабрыкі „Замэх" (цяпер „Alstom Power") у Эльблангу і генератары з фабрыкі „Дольмэль" ва Уроцлаве (цяпер „Donako Ltd"), маторы і іншую апаратуру да гэтых блокаў. Я далей ездзіў ў камандзіроўкі на электрастанцыю Понтнаў, дзе ў 1973 г. пачаў працаваць сёмы блок 200 мегаватаў з катлом на мазут і ў Казеніцы, дзе працавалі другі, трэці, чацвёрты і пяты блокі, усе магутнасцю ў 200 мегаватаў кожны з катламі на каменны вугаль. У Казеніцах пачалі мы праектаваць першы блок 500 мегаватаў вытворчасці СССР (кацёл, турбіна, генератар, трансфарматар), як блок дзевяты, які мелі там аддаць у эксплуатацыю ў 1978 г. На наступны год гатовілі ў електрастанцыі аддаць у эксплуатацыю шосты і сёмы блокі таксама магутнасцю ў 200 мегаватаў кожны. Пачалі будаваць ужо восьмы такі ж блок.

**27 студзеня** ў Парыжы было падпісана пагадненне паміж ЗША і В'етнамам, паводле якога амерыканскія салдаты цягам 60-ці дзён мелі пакінуць В'етнам, а ў Паўднёвым В'етнаме мелі прайсці выбары.

**21 лютага** ізраільскія самалёты-знішчальнікі збілі над Сінаем лівійскі пасажырскі самалёт – загінулі 108 пасажыраў.

**28 лютага** ля Шчэціна разбіўся польскі самалёт з чэшскім прадстаўніцтвам. Загінулі пяць членаў экіпажа і 13 пасажыраў, у тым шэсць чалавек чэшскага прадстаўніцтва разам з чэшскім і польскім міністрамі ўнутраных спраў.

**10 сакавіка** ў катастрофе самалёта ў Швейцарыі загінулі 108 пасажыраў.

**13 сакавіка** аказаўся няўдалым палёт савецкай арбітальнай касмічнай станцыі „Салют II", якая разгерметызавалася і адбыўся ў ёй выбух.

**30 сакавіка** закончылі вытворчасць аўтамашын „Варшава" на ліцэнзіі СССР.

**21 ліпеня** было першай у Народнай Польшы вольнай суботай.

**27 жніўня** ў катастрофе цягніка пад Радкавіцамі загінулі16 асоб, 27 былі паранены.

Я з Нінай ды з дачкой Ірай атрымалі ў сакавіку афіцыйнае запрашэнне з савецкай міліцыі ў Ленінградзе, ад Таццяны Фармакоўскай, з якой мы пазнаёміліся ў 1968 г. у Бялградзе. Мы ў яе былі ў 1969 г., калі ехалі цягнікам дружбы Варшава – Масква – Ленінград. Ды за гэты час яна памяняла сваю кватэру на большую і цяпер жыла з сям'ёй сваёй дачкі ў цэнтры Ленінграда, на Канюшаным завулку недалёка ад Эрмітажа і блізка Храма Спаса „на крыві", які пабудавалі на месцы, дзе 4 сакавіка 1881 г. ад бомбы загінуў цар Аляксандр II. Паблізу знаходзіцца Канал Грыбаедава.

Юра застаўся дома з маці Ніны, а я з Нінай і Ірай 18 красавіка ноччу выехалі з гданьскага вакзала ў Варшаве і ў чацвер пераехалі польска-савецкую граніцу ў Кузніцы і Гродне, а ў пятніцу ранкам, 19 сакавіка, былі на кватэры ў Таццяны Фармакоўскай. Раней мы напісалі ў Адэсу сям'і Коласаў, што будзем у Ленінградзе – 21 сакавіка яны туды таксама прыехалі, затрымаліся ў гасцініцы і мы з імі некалькі дзён правялі ў Ленінградзе. Горад я добра ведаў, дык я яго ім і паказаў.

Калі Коласы выехалі, то Таццяна Фармакоўская, у якой было многа знаёмых у Эрмітажы, паказала нам залаты фонд Эрмітажа, да якога рэдка дапускаюць экскурсіі.

Пабачылі мы там залатыя вырабы, якія знайшлі ў старажытных курганах ды вырабы, зробленыя ювелірамі для рускіх цароў, розныя залатыя гадзіннікі з алмазамі ды велікодныя залатыя яйкі, падарункі для членаў царскскай сям'і ды іншыя залатыя прадметы.

Пасля дачка Таццяны Фармакоўскай, Лена Кірэева, завезла нас у Пушкіна – былое Царскае Сяло, дзе пабачылі мы ўсярэдзіне царскі палац царыцы Кацярыны II, які ўжо адрэстаўравалі пасля вайны, Царскі ліцэй, Камеронавую галерэю, парк з Вялікім Ставам, Турэцкай

лазняй і іншыя месцы ў Пушкіне. Не было яшчэ тады ў палацы Янтарнага пакоя, які ў часы акупацыі немцы кудысьці вывезлі і схавалі – па сённяшні дзень яго не знайшлі.

Муж сястры Таццяны, Веры Рубаністай, завёз нас на сваёй машыне ў Фінскі заліў, дзе знаходзіўся тады музейны шалаш Леніна, дзе быццам у 1917 г. хаваўся Ленін. Там пабачылі адноўлены музейны шалаш, пахадзілі па бярозавым лесе побач залива.

Вярнуліся мы ў Варшаву таксама цераз Гродна і Кузніцу 2 мая і даведаліся, што 6 мая дачка маёй сястры ў Чаромсе, Лідка, бярэ шлюб. Трэба было ехаць у Чаромху.

Маці Ніны, Матыльда, ужо хадзіла па хаце падпіраючыся кастылём, ды пакідаць яе адну нельга было. Таму дачка Іра засталася дома, а я з жонкай і з сынам паехалі цягніком у Чаромху і 5 мая былі мы ўжо на вакзале ў Чаромсе. З вакзала забраў нас у вёску Чаромху мой швагер Даніла. У суботу дом гатовіўся да прыёму гасцей. Гасцей была поўная хата.

Лідка закончыла эканамічны ліцэй у Бельску-Падляшскім і там пазнаёмілася з вучнем гэтага ліцэю Алегам Сяменюком з вёскі Гацькі, якая знаходзіцца на поўнач ад Бельска-Падляшскага. У нядзелю 7 мая прыехаў на сваёй машыне Алег і пасля прыёму забраў Лідку да сябе. Для гасцей быў заказаны аўтобус, якім усе мы паехалі ў дом бацькоў Алега ў Гацькі. Шлюб іх адбыўся ў царкве ў Райску, у вёсцы, якую немцы 16 чэрвеня 1942 г. спалілі ды расстралялі 142 яе жыхароў, бо партызаны недалёка забілі немца. Спалілі яны тады і царкву ў Райску, а новую, у якой адбыўся шлюб, жыхары перавезлі з Тамашова на пачатку 1970 г. Пасля шлюбу мы пайшлі ў Райск паглядзець помнік, узведзены забітым жыхарам вёскі. Быў халодны вецер і мой сын, Юра, вечарам захварэў, меў высокую тэмпературу. Бацькі Алега далі нам асобны пакой, Ніна ўсю ноч прасядзела пры сыне. Я хадзіў паглядзець на танцы, ды не танцаваў. Ранкам дзед Алега завёз нас на блізкі чыгуначны вакзал і мы паехалі ў Чаромху, а пасля і ў Варшаву.

Бацькі Алега хутка пабудавалі ў Бельску-Падляшскім двупавярховы мураваны дом для сваёй дачкі і сына, дзе яны жывуць па сённяшні дзень. Лідка з мужам жывуць на другім паверсе, а сястра Алега – на першым. Лідка нарадзіла двух сыноў, Дарка і Фаму, якія

цяпер жывуць у Беластоку. Дарак з жонкай таксама мае двух сыноў, а Фама ў гэтым годзе ажаніўся. Алег са сваім сябрам ужо многа гадоў маюць будаўнічую фірму ў Маскве. Лідка працавала ў пажарнай стражы і даўно атрымлівае высокую пенсію, хаця ў момант пераходу на яе не мела 60 год. Жывуць багата. Купілі дзве або тры кватэры ў Варшаве ды Торуні і атрымоўваюць грошы ад наймальнікаў. Ездзілі на экскурсіі і на Кубу, і ў паўднёвую Азію ды часта бываюць ў ЗША, дзе ў Чыкага працуюць і маюць амерыканскае грамадзянства дзве сястры Галіна і Геня і Андрэй, сын трэцяй сястры Ніны, якая жыве ў станцыі Чаромсе.

**11 і 12 мая** сакратар КПСС Л. Брэжнеў прыехаў у Польшу, а **з 18 па 21 мая** быў у Заходняй Нямеччыне, **26 чэрвеня** паляцеў у ЗША, дзе сказаў, што халодная вайна між СССР і заходнімі дзяржавамі закончылася. І заходняя і ўсходняя Нямеччыны былі прыняты ў ААН.

**14 мая** ЗША выслалі ў космас арбітальную станцыю без касманаўтаў „Скайлаб". Пачаткі былі няўдалымі, бо ў станцыі адарвалася супрацьметэарытавая покрыва і 25 мая выслалі да яе касманаўтаў, якія зрабілі рамонт і прабылі там 28 дзён. Пасля лёталі да яе іншыя экіпажы касманаўтаў. Станцыя існавала да 11ліпеня 1979 г. пакуль не згарэла ў атмасферы.

**6 чэрвеня** ў фабрыцы ў Бельску-Белай выпусцілі першы польскі малалітражны аўтамабіль „Фіат-126п", якога называлі „Малюхам". Фабрыка выпускала гэтыя машыны да 2000 г.

**Пад канец чэрвеня** Ніна з дачкой і сынам ды сям'ёй Кахноўскіх, якія жылі ў нашым блоку на шостым паверсе, паехалі ў дом адпачынку над возерам Бялым у Акунінцы – 7 км ад Уладавы. Я застаўся ў Варшаве з цешчай. Ніна была там толькі тыдзень, бо прыехала да нас з Ленінграда Лена Кірэева, у якой былі мы ў сакавіку. Дзеці засталіся тыдзень даўжэй і вярнуліся дамоў з Кахноўскімі. Ніна і я паказвалі Лене Кірэевай Варшаву.

**У другой палове ліпеня** я з сынам і дачкой ды з сям'ёй Кахноўскіх паехалі на два тыдні на адпачынак ў Гданьск--Бжэзьна. Ніна засталася са сваёй маці ў Варшаве. Жылі мы на прыватнай кватэры ды мелі з Кахноўскімі асобныя пакоі. Пагода ў Гданьску была добрая і мы там часта загаралі на пляжы і правялі прыемна наш час.

Вярнуліся мы ў Варшаву на пачатку жніўня самалётам, а Кахноўскія прыехалі цягніком.

Я атрымаў з БГКТ выдадзеную ў Мінску кніжку-альманах „Літаратурная Беласточчына”, у якой змясцілі вершы і кароткія апавядання, друкаваныя раней у „Ніве” або ў асобных выданнях, 16 беларускіх аўтараў Беласточчыны. Сярод іх знайшліся і мае два вершы.

**11 верасня** Аўгуста Піначэт, які з 1971 г. быў камандуючым гарнізона ў Сантыяга ў Чылі, зрабіў дзяржаўны пераварот, у час якога загінулі многія жыхары Чылі і іх прэзідэнт Сальвадор Альендэ. Пасля, са снежня 1974 г. па снежань 1990 г., Піначэт быў прэзідэнтам-дыктатарам Чылі.

**6 кастрычніка** пачалася вайна паміж кааліцыяй Егіпта і Сірыі з Ізраілем, якую назвалі вайной Йом Кіпур (Судны Дзень), ад дня яўрэйскага свята з такою назвай. Вайна пачалася ад нечаканага ўдару спалучаных сілаў Егіпта і Сірыі на паўвостраў Сінай і Узвышша Голан, якія з часу шасцідзённай вайны 1967 г. знаходзіліся пад уладай Ізраіля. Егіпецкія і сірыйскія салдаты два-тры дні ішлі наперад. Да канца дня на паўвостраў Сінай Егіпет перакінуў цераз Суэзкій канал 30 тыс. салдат і 500 танкаў, знішчыў 350 ізраільскіх танкаў і забіў або ўзяў у палон 1200 ізраільскіх салдат. Да канца 7 кастрычніка егіпецкія салдаты занялі пазіцыю 15 км на ўсход ад Суэцкага канала і затрымаліся. Ізраільская контратака 8 кастрычніка была няўдалай, Ізраіль страціў 80 танкаў і спыніў атаку.

**6 кастрычніка** Сірыйскія салдаты захапілі ізраільскую радыёперахопную станцыю на гары Хермон разам з сакрэтнымі кодамі ізраільскай ваеннай разведкі Аман і да канца дня мелі ў руках амаль усю паўднёвую частку пласкагор’я і 8 кастрычніка затрымаліся. Гэта выкарыстаў Ізраіль, каб дакончыць мабілізацыю сваіх сілаў. 10 кастрычніка ізраільская армія выгнала сірыйскіх салдат з Узвышша Голан і 11 кастрычніка ўвайшла на тэрыторыю Сірыі – 13 кастрычніка была 40 км ад Дамаска, затрымалася і Ізраіль пачаў перакідаць салдат на паўвостраў Сінай.

**14 кастрычніка** прайшла вялікая танкавая бітва на Сінаі, 500 егіпецкіх танкаў і 450 ізраільскіх. Ізраіль бітву выйграў. Егіпет страціў 260 танкаў і адступіўся. Ізраіль пачаў контратаку. Ізраільскія салдаты прабіліся на заходні бераг Суэцкага канала, ударыўшы 15 кастрыч-

ніка ў разрыў паміж дзвюма арміямі Егіпта. Ізраільцяне перайшлі Суэзкі канал і адрэзалі Трэцюю Армію Егіпта. 18 кастрычніка ізраільскія салдаты пачалі наступаць на Каір і Суэц. 20 кастрычніка ў Маскве дайшло да падпісання дамовы паміж СССР і ЗША аб заканчэнні арабска-ізраільскай вайны. 22 кастрычніка наступіла адтэрміноўка ваенных дзеянняў.

**13 кастрычніка** ў катастрофе пад Масквой самалёта ТУ-104Б загінулі 119 пасажыраў.

**20 кастрычніка** Саудаўская Аравія аб'явіла эмбарга на пастаўкі нафты ў ЗША за дапамогу для Ізраіля. Гэтак жа зрабілі і дзяржавы ОПЕК для заходніх дзяржаў. Нафта вельмі падаражэла. Пачаўся крызіс валютнай сістэмы і крызіс гаспадаркі.

**25 верасня 1982 г.** паводле дамовы ў Кэмп Дэвід Ізраіль прымусілі аддаць паўвостраў Сінай Егіпту. Узвышша Голан застаюцца далей пад уладай Ізраіля.

**У снежні** мяне вызначылі да выезду на аўтарскі нагляд у Югаславію, у Тузлу ў Босніі. Перада мной паехаў туды сябра па працы З. Канафарскі. Я яго павінен быў замяніць. Для мяне ўжо зрабілі службовы пашпарт на ўсе краіны Еўропы. Высылала мяне туды ў камандзіроўку фірма „Электрым", у час камандзіроўкі меў я ў сваім офісе атрымліваць сярэдні заробак з астатніх трох месяцаў – 12784 зл. кожны месяц, а ў Тузлі – камадзіровачныя 120 сербскіх дынараў за кожны дзень. Мяне хацелі ў студзені выслаць у Тузлу на ўвесь год, ды я тады не згадзіўся, бо не мог тады пакінуць сям'ю ў Варшаве на такі перыяд. Паехаў Зянон Канафарскі, бо ён быў халасцяком.

Мой вылёт у Бялград вызначаны быў на **27 снежня** а 11.40. Рана я паехаў у „Электрым", па пашпарт і дакументы, а там сказалі мне, каб я зайшоў у адзін кабінет, бо са мной хоча пабачыцца нейкі дырэктар, Заблоцкі. Я спяшаўся і не меў шмат часу, але зайшоў. Дырэктар паглядзеў на мяне і запытаў, ці я яго не пазнаю. Твар яго быў быццам знаёмы, ды хто ён быў я не мог прыгадаць.

– Не помніш, мы калісь вучыліся разам у адным класе ліцэя ў Бельску-Падляшскім, – сказаў ён. Тады я прыгадаў сабе, хоць не бачыўся з ім з 1948 г. Мы пацалаваліся, пагаварылі хвілін дзесяць і я з ім развітаўся. Ён папрасіў мяне, каб я зайшоў да яго, калі вярнуся з Югаславіі. Ён даў мне на дарогу каляндар з „Электрыма". Пасля

я ў касе атрымаў чэк на 488 амерыканскіх долараў і 84 югаслаўскіх дынараў.

Хутка я вярнуўся дамоў і даведаўся, што мая цешча Матыльда, калі мяне не было дома, ізноў упала з тапчана і другі раз зламала сабе ногу. Сын Юра ўжо павёз яе ў бальніцу. Я ўзяў свой багаж і разам з жонкай ды дачкой паехалі мы на таксі на пляц МДМ, дзе селі ў аўтобус „ЛЁТ", які завёз нас на аэрадром. Там развітаўся я з жонкай і дачкой, здаў багаж і пайшоў у югаслаўскі самалёт „ЯТ" – там было многа свабодных месцаў і я сеў ля акна.

У Варшаве было холадна і хмурна, навокал была імгла. Самалёт хутка вылецеў над хмары і паказалася сонца, а пад намі хмары бялелі, як снежная пустыня. Хутка сцюардэса прынесла мне снеданне і апельсінавы сок. Цераз дзве гадзіны селі мы на аэрадроме ў Бялградзе. У Бялградзе не было снегу, а тэмпература была ў чатыры градусы. Аўтобусам нас давезлі да будынка аэрадрома. Мяне ніхто не сустракаў. Хутка я знайшоў свой багаж і таможнік паглядзеўшы на мае дакументы, прапусціў мяне не заглянуўшы ў чамаданы. Я падышоў да аўтобуса, які стаяў ля будынка аэрадрома і ён за сем дынараў давёз мяне ў Бялград да бюро „ЯТ", ля царквы св. Марка і рускай царквы. Я не памятаў, як даехаць да аўтобуснага вакзала, каб такім чынам даехаць у Тузлу, таму пастанавіў я заехаць на вядомую мне вуліцу Бранічэўскую, да Колі Фармакоўскага, у якога я быў і ў 1971 годзе, і раней. Калі б не багаж, я б дайшоў да яго пехатою, а так трэба было ўзяць таксі, за якое заплаціў 40 дынараў.

Увайшоў я ў дом Колі. Сустрэла мяне яго жонка Нявэна, якая спачатку мяне не пазнала, а пасля здзівілася. Яна запытала мяне, дзе Ніна. Тады я сказаў ёй, што прыехаў сам, бо еду службова ў Тузлу. Яна пазваніла Колі, які сказаў, што вярнецца дамоў перад 15 гадзінай. Тады не было яшчэ 14 гадзіны. Я перадаў ёй мае падарункі для яе, яе малога сына і для Колі. Я ад яе пазваніў у польскае прадстаўніцтва „Электрыму" і паведаміў ім, што я прыехаў сам, што ніхто мяне не сустрэў, што ў мяне ёсць для іх паперы, якія павінен нехта ад іх з прадстаўніцтва ад мяне забраць, і што не ведаю ці сёння едзе нейкі аўтобус у Тузлу. Яны сказалі, што ўжо няма аўтобуса ў Тузлу і што цераз 45 мінут нехта прыедзе да мяне.

З’явіўся прадстаўнік „Электрыму”. Папрасіў прабачэння, што ніхто мяне не сустрэў, забраў паперы і сказаў, што мне заказалі начлег ў гасцініцы „Славія”, што я магу туды ўжо ехаць. Хутка з’явіўся-я Коля. Я з ім прывітаўся і пайшоў пехатою сам у гасцініцу. Дарогу да яе я добра ведаў. У гасцініцы я атрымаў пакой № 509 з ваннай і туалетам. Калі вярнуўся я да Колі, ён бавіўся са сваім малым сынам, якому споўніўся ўжо адзін год. Нявэна прынесла паўлітра польскай выбаровай гарэлкі, якую дзесьці купіла, і закуску. Хутка прыйшла яе суседка Дабрыла Паязітовіч з цёплай ракіяй, падобнай да віна. Разам пасядзелі мы да 10 гадзіны вечара і тады Коля сваёй машынай адвёз мой багаж і мяне ў гасцініцу.

На наступны дзень а гадзіне 9 раніцы пайшоў я на аўтобусны вакзал і купіў білет у Тузлу на гадзіну 12.15 за 40 дынараў. На 12.00 ужо не было месцаў. Вярнуўся ў гасцініцу і паблізу паглядзеў цэны ў магазінах, пасля гадзіну адпачываў, забраў багаж і з’ехаў ліфтам уніз. Там пад гасцініцай узяў таксі за 20 дынараў даехаў на аўтобусны вакзал. Там хутка сеў у аўтобус на маё месца № 18. Пасажыраў было вельмі многа, многія стаялі, бо не купілі месцаў. Многія людзі вярталіся на Новы год, бо ў Югаславіі лічаць яго вялікім сямейным святам.

Праз паўгадзіны аўтобус затрымаўся, бо на дарозе была нейкая аварыя, пасля наш аўтобус паволі ехаў між разбітымі машынамі. Па дарозе я ўбачыў за акном амаль 20 разбітых машын. Адна аўтамашына ляжала вывернутая на ўзбочыне дарогі. Аўтобус ехаў навакольным шляхамі і замест быць у Тузле а 16-й гадзіне, прыехаў а пасля 17-й. Сем гадзін у аўтобусе. Ад аўтобуснага вакзала да гасцініцы „Брысталь” было два кіламетры дарогі. Трэба было ўзяць таксі, якое каштавала 30 дынараў. Аўтобусны білет Бялград – Тузла каштаваў 40, а таксі – 30 дынараў.

У гасцініцы атрымаў я пакой № 311 на чацвёртым паверсе. Даехаў да яго з багажом ліфтам. Пакой самастойны з ваннай. У пакоі шырокі ложак, двухдзвярная шафа, стол, столік, шафка на чамадан, начная лямпа, тэлефон. У купальным пакоі ванна і душ, вялікае люстра, некалькі ручнікоў, купальнае прасцірадла, сцены пакрытыя блакітнымі кафлямі, у кранах халодная і гарачая вада.

Я быў галодны і заварыў сабе хутка гарбату і з'еў тое, што меў пры сабе. Пасля запытаў у швейцара ўнізе гасцініцы, дзе жыве мой калега З. Канафарскі. Паехаў на трэці паверх да яго. Ён ужо пакаваў свае рэчы, каб выслаць іх чыгункай у Польшчу. Тым, хто працаваў тут больш за паўгода, элекрастанцыя давала спецыяльныя драўляныя скрынкі і аплачвала кошт высылкі багажу. Зянон пачаставаў мяне югаслаўскім каньяком і сказаў, што выгадна тут купляць. Пайшоў я хутчэй спаць, бо рана трэба было ўстаць, каб а шостай гадзіне ў рэстаране паспець на снеданне, якое гасцініца давала бясплатна.

На другі дзень, у суботу, выехаў я з Зянонам аўтобусам, які падстаўляла электрастанцыя а гадзіне 6.30 на тэрыторыю электрастанцыі. Калега пазнаёміў мяне з іншымі польскімі працаўнікамі з розных гарадоў, якія там працавалі – было там амаль 30 польскіх спецыялістаў. Паказаў мне пакой у электрастанцыі, дзе буду працаваць. У суботу тут быў свабодны ад працы дзень. Таму мы ўсе вярнуліся аўтобусам у горад а 11 гадзіне. Па дарозе ў гасцініцу я абмяняў чэк, які далі мне ў Варшаве і атрымаў 7710 дынараў, мае камандзіровачныя на 65 дзён. У вольную нядзелю 30 снежня я абышоў і паглядзеў Тузлу, дзе апрача вялікіх новых дамоў людзі жылі ў малых курных хатах, у якіх не было комінаў і дым выходзіў з-пад дахаў, пакрытых чарапіцаю. Часта пры такім доме стаяў замежны самаход. У горадзе стаяла некалькі малых мусульманскіх мячэцяў з высокімі мінарэтамі, з якіх не муэдзіны, а гучнагаварыльнікі склікалі верных на малітву. Мячэці былі аднак амаль пустыя. Была адна вялікая прыгожая царква ў горадзе і адна невялікая на могілках. Быў адзін каталіцкі касцёл, да якога прыязджалі з вёсак пераважна жанчыны ў белых сукенках. Мусульманкі, якія прыязджалі ў горад з вёсак, мелі сукенкі сшытыя між нагамі, як нагавіцы.

У панядзелак, **у астатні дзень года** пазнаёміўся я з электрастанцыяй, лепш пазнаёміўся з новымі працаўнікамі. Некаторыях я добра ведаў з працы ў Польшчы. Быў адзін працаўнік з электрастанцыі Конін, з якім я раней сустракаўся, быў адзін знаёмы з „Энергапамяру", з якім я сустракаўся на многіх электрастанцыях, з іншымі аднак я ўбачыўся толькі першы раз. Многія жылі ў прыватных кватэрах з жонкамі і дзяцьмі, якія вучыліся ў школах у Тузле і ўжо добра ведалі сербска-харвацкую мову. На вечар **31 снежня** ўсіх польскіх спе-

цыялістаў запрасілі на сустрэчу Новага года ў рэстаране. Нам толькі паведамілі, што тут нельга прасіць незнаёмых жанчын з іншых сталоў да танца, бо можа дайсці да бойкі з мужам такой запрошанай жанчыны.

Зянон Канафарскі (1930-2010) пасля Тузлы доўга не папрацаваў у „Энергапраекце", бо хутка пазнаёміўся з адной полькай са Швецыі, з ёй ажаніўся і выехаў у Швецыю. Недаўна ў інтэрнэце я знайшоў вестку, што 9 верасня 2010 г. ён памёр у Стакгольме. Сястра яго, Стэфанія, прывезла цела яго ў Польшчу і пахавала на пагосце у Гданьску-Срэбжыску.

# 1974

Дырэкцыя электрастанцыі Тузла ў Югаславіі запрасіла на свой кошт усіх польскіх спецыялістаў працуючых на электрастанцыі ў рэстаран вечарам з 31 снежня на 1 студзеня на навагодні баль. Польскім спецыялістам разам з іх жонкамі, якія там жылі, далі 5 сталоў, кожны на 6 асоб. Тыя асобы, якія там працавалі больш як год, мелі там сваіх жонак і нават дзяцей, якія вучыліся ў школах у Тузлі. Дзеці іх добра ўжо ведалі сербска-харвацкую мову. Нас перад балем папярэдзілі, каб мужчыны не запрашалі да танца мясцовых жанчын ці дзяўчын, бо можа дайсці да бойкі. Басанцы вельмі раўнівыя. Можам танцаваць толькі з польскімі жанчынамі, якіх было між намі некалькі. На сталах многа было ежы і югаслаўскага віньяку і віна. На кожным стале стаялі на талерках смажаныя парасяты, мяса якіх я першы раз тут пакаштаваў. Мне яно не вельмі смакавала, было саладжавае. Іграў чароўна аркестр. Танцавалі яны іх танец, які называўся „кола", у ім бралі ўдзел і мужчыны, і жанчыны аддзельна ў коле. У ім маглі танцаваць супольна з мясцовымі дзяўчынамі і жанчынамі і нашы мужчыны і жанчыны. Час правялі мы ў рэстаране амаль да раніцы і на Новы год да працы мы не ехалі, а адпачывалі. Адпачывалі мы таксама і 2 студзеня, які быў вольным днём ад працы.

У дні працы будзіўся я рана а гадзіне $5^{30}$ і ад $6^{00}$ унізе ў гасцініцы ў рэстаране атрымоўваў першае снеданне бясплатна і ішоў да спецыяльнага аўтобуса, які чакаў на працаўнікоў электрастанцыі і ён а гадзіне $6^{30}$ вёз нас на тэрыторыю электрастанцыі. Я меў ў электраст-

анцыі свой уласны пакой да працы. У мяне было там многа вольнага часу, я хадзіў і аглядаў электрастанцыю. Часам трэба было нанесці папраўкі ў дакументацыю, калі прыйшла іншая апаратура, чым была ў праекце. А 10 гадзіне мелі мы другое снеданне, ужо на свой кошт і а 12 гадзіне давалі нам ў сталовай абед і а 15 гадзіне аўтобус адвозіў мяне ў гасцініцу разам з іншымі працаўнікамі. Многа польскіх працаўнікоў жыло ў прыватных дамах, якія наймала ў прыватных жыхароў Тузлы электрастанцыя. Іх давозілі іншымі аўтобусамі. Аўтобус разам са мной вёз у электрастанцыю і пасля з працы дамоў мясцовых працаўнікоў з Тузлы, якія жылі паблізу гасцініцы „Брысталь". Ехалі ў ім пераважна мужчыны і толькі некалькі мясцовых жанчын. Мяне адразу здзівіла, калі сідзячыя жанчыны часта ўставалі з месца і аддавалі яго маладым мужчынам, калі не было вольных сідзячых месцаў. І жанчыны стаялі, а мужчыны сядзелі. Звычай гэты астаўся ў іх яшчэ ад турэцкага панавання.

Тузла знаходзілася ў 1974 г. у рэспубліцы Босніі і Герцагавіны. Граніцы яе ўстанавіў тады іх прэзідэнт Броз Ціта без рэферэндуму. У той час у Босніі і Герцагавіне было 39,6% мусульман-басанцаў, 37,2% сербаў і 20,6% харватаў. Сербы былі праваслаўнымі, а харваты – каталікамі.

У 1463 г. туркі падбілі Боснію, а ў 1482 – Герцагавіну, Туркі накладалі на праваслаўных і каталікаў вялікія падаткі, і таму баснійскія феадалы (бегі), каб не страціць сваіх прывілеяў прынялі хутка іслам і прымушалі да гэтага сваіх сялян. Аднак не ўсе праваслаўныя сяляне згадзіліся прыняць іслам. Многія бунтаваліся супраць туркаў, арганізавалі паўстанні, з якімі туркі вельмі жорстка распраўляліся. Пасля жорсткай турэцкай расправы над паўстаннем у 1876 г., Расія аб'явіла ў 1877-78 г. Турцыі вайну і Берлінскі кангрэс аддаў Боснію і Герцагавіну пад акупацыю Аўстра-Венгрыі. Пачаткова Аўстра-Венгрыя дала басанцам мажлівасць самакіравання. Аднак у 1908 г. Аўстра-Венгрыя далучыла Боснію і Герцагавіну да манархіі, што давяло да забойства ў募Сараеве ў 1914 эрцгерцага Францa Фердынанда і яго жонкі і да 1-шай сусветнай вайны, пасля якой Боснія і Герцагавіна трапіла ў каралеўства Югаславіі. А пасля другой сусветнай вайны занялі Боснію партызаны Броз Ціта і далучылі яе да камуністычнай дзяржавы, Югаславіі.

Аднак мусульманскія прывычкі асталіся ў басанцаў да 1974 г.

Жанчыны там былі вельмі ветлівыя. Мне рэдка ўдавалася першаму сказаць „Добро ютра” ці „добар дан” ( добры ранак ці добры дзень), калі я ўваходзіў у магазін, у якім працавалі жанчыны. Не паспеў я закрыць дзверы магазіна, як пачуў іх прывітанне. У магазінах тады там было многа тавараў і прадаўшчыцы дбалі пра кліента.

Басанец не ішоў пад руку ці паблізу сваёй жонкі па вуліцы, а заўсёды метры два перад ёй. Сярод інтэлігенцыі гэта занікала, але сярод рабочых і сялян было гэта відна на вуліцы. Нават праваслаўныя ці каталіцкія басанцы прытрымліваліся гэтага звычаю. У рэстаранее ў гасцініцы „Брысталь”, куды я часта хадзіў на вячэру, мала было пар, пераважна сядзелі і пілі толькі адны мужчыны. І пілі вельмі мала алкаголю, бо за час майго там пражывання, я толькі адзін раз сустрэў п'янага мужчыну на вуліцы і я не ўпэўнены, ці гэта быў басанец. А алкаголь быў тут недарагі. Літр самага дарагога віньяку каштаваў тут 36 дынараў, а на базары можна было купіць слівавіцу за некалькі дынараў. Сялянам дазвалялі самім рабіць слівавіцу дома і яе прадаваць. Спатыкаў там толькі час ад часу п'яных маіх знаёмых польскіх спецыялістаў, якія там працавалі, асабліва з фірмы „Энергапомяр”. Прастытутак таксама там не сустрэў. Самі жанчыны ніколі ў рэстаран не хадзілі.

Перад уваходам на кватэру басанца трэба было зняць абутак і пакінуць яго перад дзвярыма. І ніхто яго не краў. Крадзяжоў у электрастанцыі я таксама не сустракаў. А ў Польшы на электрастанцыі Астралэнка гінулі манаметры на 50 атмасфер. Не разумею каму яны маглі быць патрэбныя. Кралі толькі каб украсці. Як я ўжо пісаў, басанку-мусульманку з вёскі можна было распазнаць па яе вопратцы. Усе іх сукенкі былі сшытыя паміж нагамі, і здымалі іх зверху ўніз як штаны. Вясковыя басанкі былі адзетыя дрэнна і выглядалі непрыемна. Гарадскія басанкі апраналіся ўжо модна, яны ахвотна выходзілі замуж за сербаў ці харватаў і пакідалі мусульманскую веру. Сербіянкі рэдка выходзілі замуж за басанцаў з-за іх феадальных адносін да жонак.

Здарылася многа забаўных здарэнняў. Напрыклад мой знаёмы інжынер, басанец, прыходзіў да працы і браў ключы ў лазню. Гэта мяне здзівіла і я яго запытаў:„Ты ж дома маеш ванну і цёплую ваду. Чаму

ты не мыешся дома?” Ён усміхнуўся і сказаў: „Ты не ведаеш маёй сітуацыі. У мяне жонка цяжарная восьмы месяц. Калі б я пайшоў мыцца ў сябе дома ў ванну, то мая цешча падумала б, што я меў палавыя зносіны з цяжарнай жонкай. У нас пасля кожных палавых зносін мужчына абавязкова павінен выкупацца, каб змыць грэх, бо палавыя зносіны з жонкай гэта нешта нячыстае”.

У Тузлі было некалькі малых мячэцяў і адна пры рынку нават з 15 –го стагоддзя. Ля кожнай мячэці стаяў мінарэт, ды я ніколі не бачыў на ім муэдзіна, аднак голас яго разносіўся з гучнагаварыцеля. Каб увайсці ў мячэць, трэба было перад дзвярыма скінуць абутак. Аднак у мячэць хадзіла вельмі мала людзей і пераважна толькі жанчыны з вёсак. У пятніцу (мусульмане пятніцу святкуюць, як мы надзелю) усе мусульмане працавалі ў нашай электрастанцыі. Многія з іх лічылі сябе няверуючымі камуністамі. Працавалі ў пятніцу таксама рабочыя пры здабычы бурага вугля, які падавалі ў катлы электрастанцыі і ў шахтах каменнай солі.

Як я ўжо пісаў ва ўспамінах з 1973 г. у Тузлі былі дзве праваслаўныя цэрквы, адна вялікая ў цэнтры горада і другая малая на праваслаўным пагосце. Царква ў цэнтры горада была прыгожая ўнутры і ў нядзелю на набажэнства прыходзіла многа людзей.

У Тузлі быў толькі адзін каталіцкі касцёл, стаяў ён недалёка ад царквы, у які ў нядзелю прыязджалі жыхары навакольных вёсак і амаль усе жанчыны харваткі насілі на сабе белыя сукенкі ці фартухі. У электрастанцыі я не сустрэў мясцовага працаўніка, які быў бы католікам, а праваслаўных было многа. Частка з іх прыязджала з Сербіі. Большасць мусульман працаўнікоў электрастанцыі была няверучая. Так яны тады гаварылі аб сабе.

У горадзе былі вялікія кантрасты. На акраінах горада, а нават недалёка ад гасцініцы „Брысталь” было многа бедных малых і нават курных хат. Выглядала гэта дзіўна, калі ля дома стаіць заходні дарагі аўтамабіль, а з даху гэтага дома з усіх бакоў выплывае шэры дым. На гэтых дамах не было комінаў. Многія прыватныя дамы, у якіх жылі польскія працаўнікі, былі багатыя, з усімі выгадамі, абаграваліся спецыяльнымі невялікімі мазутнымі печкамі. Цэнтральнае ацяпленне было толькі ў шматкватэрных будынках. Зімою тэмпература рэдка

калі там зніжалася да 0 $^{0}$C, амаль усю зіму стаяла асенняе пахмурнае надвор’е. Я зімою там снегу не бачыў.

Броз Ціта дазваляў сваім грамадзянам выязджаць на працу ў заходнія дзяржавы і многія адтуль прывозілі ў Югаславію заходнюю валюту і заходнія аўтамашыны. У адміністрацыі гатэля прадавалася без агранічэння заходняя валюта па афіцыйнай цане за дынары. Многа заходніх тавараў прадавалі ў іх магазінах за югаслаўскія дынары. Амаль таксама, як у нас цяпер за польскія злоты. У Польшчы ў той час заходнія тавары прадаваліся толькі ў магазінах ПЭВЭКС на заходнюю валюту і на „таварныя боны ПЭКАО”. Боны прысылалі ў Польшчу ў банк палякі, якія працавалі за мяжой. Высланую імі ў Польшчу валюту банк замяняў на „таварныя боны ПЭКАО”.

Кантрасты бачыліся нават у Харватыі. Калі я ехаў у 1970 г. аўтобусам у Заграб, там на многіх палях Харватыі сяляне аралі зямлю валамі. Валы цягнулі вазы з бульбай ці з атавай. Перад валамі ішлі жанчыны-харваткі і іх вялі. У Сербіі я гэтага не бачыў.

19 студзеня рана ў суботу а гадзіне $5^{30}$ зрабілі нам неспадзяваную экскурсію на суботу і нядзелю на поўдзень Югаславіі. Электрастанцыя зрабіла гэта для польскіх хімікаў, якія ўжо выязджалі ў Польшчу, ды былі свабодныя месцы ў аўтобусе і я з імі паехаў. У аўтобусе было 18 асоб і шафёр. Паехалі мы ў напрамку на Сараева. Праз гадзіну змяніўся клімат. У Тузлі было асенняе надвор’е, а пад Сараевам сустрэлі мы зіму са снегам. А 8 гадзіне затрымаліся мы ля дарожнай кафаны (так называюць сербы кавярню), каб напіцца. Каб пагрэцца, я выпіў шклянку гарачага віна за 4 дынары і паехалі мы далей. Праехалі мы блізка месцаў дзе раней была ў Сараеве зімовая алімпіяда. Пасля ехалі мы паблізу чыгуначнай дарогі, якой я ехаў з жонкай і дачкой два гады раней летам у Дуброўнік. Да горада Коніц бачылі мы зіму са снегам, пасля снег загінуў і было з кожнай хвілінай цяплей і цяплей. А гадзіне 12-тай затрымаліся мы ў Мостары і зрабілі нам перапынак. Кожны з нас аддзельна пайшоў у горад, яго паглядзець. Мостар вельмі мне спадабаўся, асабліва стары горад. Многа наўкол ва ўсходняй частцы горада было мінарэтаў і мячэцяў (джамій). Былі адкрытыя толькі два вялікія магазіны, так званыя тут робны кучы, бо роба гэта па-сербску тавар, а куча – дом і магазін. Я толькі зайшоў і паглядзеў на тавары, бо цэны там былі такія самыя, як у Тузлі.

Пагода была сонечная, так што я пакінуў у аўтобусе паліто і хадзіў у адным пінжаку. Дайшоў да ракі Нярэтвы ў старым горадзе і Старым мастом (так называецца мост) прайшоў на заходнюю частку горада, дзе жылі харваты, там пабачыў іх касцёл і вярнуўся. Праходзячы Старым мастом паглядзеў на дзіўныя дзве турэцкія вежы Хелебію і Тэру, якія стаялі насупраць па розных баках ракі ля Старога маста. А гадзіне 15–ай паехалі мы далей. Па дарозе затрымаліся мы ля старажытнага замка, дзе быў калісьці турэцкі гарэм і я зрабіў там некалькі здымкаў. Даехалі мы вечарам да Джавановічаў, 60 км на поўдзень ад Дуброўніка.

У Дуброўніку мы не затрымоўваліся. Бачылі мы яго толькі з акна на шашы. Джавановічы – гэта курортная мясцовасць. Электрастанцыя пабудавала там свае домікі на 3-4 асобы з ваннай, туалетам, электрычнымі бойлерамі, з кухняй, з электрахаладзільнікам і печкай. У пакоях шырокія тапчаны, шафы, сталы. Прыехалі мы змучаныя, выкупаліся і пайшлі спаць. На наступны дзень мы адпачывалі. Домікі стаялі ля мора, тэмпература была $20^0$ С і былі між намі такія, якія выкупаліся ў моры, бо вада была цёплая. Пасля абеда завезлі нас у Дуброўнік, у якім я ўжо быў. Ізноў я пабачыў старыя дамы, мармуровыя вуліцы, зялёныя дрэвы, на якіх вісяць апельсіны ўжо зімою. З двома сябрамі я увайшоў на памост і там уласнік маторнай лодкі запрапанаваў нам за 12 дынараў праезд па моры. На лодцы нас трох паглядзела з мора стары Дуброўнік. Вазіў нас паўгадзіны. Пасля мы ў рэстаране з'елі абед, пахадзілі па вуліцах і вярнуліся ў аўтобус. І з Дуброўніка едучы ў Тузлу толькі адзін раз спыніліся, каб выпіць гарачага віна і ў гасцініцы „Брысталь" пайшоў я спаць а 23 гадзіне. Аказалася, што калі мы былі на экскурсіі, у Тузлі два дні ішоў дождж.

Паблізу маёй гасцініцы стаіць гара-парк з дрэвамі і вузкімі дарожкамі. Паблізу сцежак і дарожак у парку ляжаць пліты, на якіх былі выпісаны імёны і прозвішчы загінуўшых у Тузлі ў барацьбе з нямецкімі акупантамі партызан Ціта. Там загінула іх некалькі соцень. Большасць з іх была басанцамі-мусульманамі, што можна пазнаць па іх імёнах. Мова басанцаў была амаль такая самая, як сербаў.

Калі прыйшло праваслаўнае свята Каляды, то многія сербы, якія працавалі на электрастанцыі, 6-га студзеня бралі звальненне з працы

і ехалі дамоў. Нам гаварылі: „сутра у нас Божыч і мы не радым” ( заўтра ў нас Каляды і мы не працуем).

Жонка і дачка папрасілі мяне, каб я прыгатовіў ім запрашэнне ў Югаславію на жнівень, бо хочуць ізноў пабачыць Дуброўнік. Аказалася, што польскія ўлады за Герка ўвялі патрэбу афіцыйнага запрашэння ад знаёмага, пасведчанае польскім пасольствам. Я даць такога запрашэння не мог, бо меў у маі ўжо быць у Польшчы. Раней, пры У. Гамулку, каб атрымаць дазвол на выезд у Югаславію, трэба было толькі паказаць канверт з пісьмом ад нейкага знаёмага з Югаславіі. Цяпер, за Эдварда Герка, трэба было прасіць Колю Фармакоўскага з Бялграда, каб ён аформіў такое запрашэнне мне, маёй жонцы і дачцэ.

Я ў вольны час вучыўся сербска-харвацкай мовы і пачаў перапісвацца з многімі знаёмымі і з Бялграда, і з Сараева. Напісаў таксама пісьмо  Марії Кусіч з Дуброўніка з пытаннем, ці можам у яе наняць кватэру ў жніўні. Яна згадзілася. Запрашалі нас таксама на два-тры дні ў жніўні знаёмыя жанчыны з Сараева і нават з Новага Саду.

Я думаў, што вярнуся дамоў пад канец сакавіка, калі наступіць сінхранізацыя блока 200 мегаватаў з электрасеткай. Аднак калі ўрачыста прайшла сінхранізацыя, то праз паўгадзіны наступіла аварыя польскага генератара: паўстала кароткае замыканне з зямлёй у абмотцы ўзбуджэння генератара. Дырэкцыя электрастанцыі страшна была расчараваная. Усё затрымалася. Вызвалі хутка спецыялістаў з фабрыкі генератараў „Дольмель” ва Вроцлаве.  Пакуль яны прыехалі, прайшоў сакавік. На Вялікдзень 14-15 сакавіка я паехаў аўтобусам у Бялград да Мікалая Фармакоўскага і аформіў запрашэнне ў Югаславію на жнівень для сябе, жонкі Ніны і дачкі Іры. Юра рашыў застацца ў Варшаве з маткай Ніны. Ён закончыў ужо ліцэй і з-за добрых вынікаў у ліцэі атрымаў права паступіць без экзаменаў на фізічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта і меў мець у жніўні практыку на будове ў Варшаве.

Спецыялісты з Вроцлава разабралі генератар, зрабілі рамонт і пад канец сакавіка яго ўключылі і ён працаваў да гадзіны 17-тай. І тады наступіла кароткае замыканне ў югаслаўскай шафе 6 кв.трансфарматара напружання. Наступіў выбух, паявіўся агонь і згарэлі дзве шафы. Ды гэта ўжо не была наша віна. Басанцы хутка сабралі сваіх

манцёраў і праз некалькі дзён паставілі новыя шафы з трансфарматарамі напружання. Пачаліся новыя спробы і вечарам а гадзіне $21^{30}$ 18 мая наступіла сінхранізацыя генератара. Тады пачаліся віншаванні, расставілі сталы з закускай, віном і віньяком і півам наўкол генератара і гасцявалі мы некалькі гадзін.

Адзін з польскіх спецыялістаў, малады хлапец, які спаў у суседнім пакоі за маёй сцяной, раптам згінуў. Кожны з нас меў заграніччны пашпарт на ўсю Еўропу. І ён выкарыстаў гэта і відаць уцёк у Аўстрыю. Шуму не было, хутка прыехаў з Польшчы з яго фірмы другі спецыяліст.

Пусцілі мяне дамоў **ў палавіне чэрвеня** і то аднаго на маю моцную просьбу. Паехаў я сам у Бялград, затрымаўся ў гасцініцы „Славія", правёў вечар у Мікалая Фармакоўскага, які на наступны дзень завёз мяне да аўтобуса авіялініі ЯТ, а адтуль яе аўтобусам папаў я на аэрадром і самалётам вярнуўся ў Варшаву.

Дома Ніна выкупіла ўжо білеты на польскі аўтобус у Дуброўнік для сябе, для мяне і для дачкі Ірэны. Назад будзем вяртацца югаслаўскім транспартам да Бялграда, дзе затрымаемся ў Мікалая Фармакоўскага, а пасля цягніком вярнемся дамоў.

У Польшчы ў той час **21 студзеня** ўлады павысілі цэны на алкаголь і бензін, а **29 мая** парламент прыняў рашэнне, што сяляне могуць дабравольна аддаваць дзяржаве сваю зямлю за інвалідскую пенсію. А **28 чэрвеня** ў шахце Чэхавіцэ-Дзедзіцэ наступіў выбух і згінула 32 шахцёраў.

У Варшаве **22 ліпеня** ўлада гучна святкавала 30-годдзе ПНР, **18 ліпеня** прыехаў у Варшаву першы сакратар КПСС Л. Брэжнеў і 22ліпеня стаяў на трыбунах разам з Э. Геркам і прымаў парад. І 22 ліпеня ў Варшаве адкрылі Лазенкоўскую трасу руху з новым мостам праз Віслу.

**4 лютага** ад выбуху ірландскай бомбы ў аўтобусе ў Англіі згінула 12 асоб.

**3 сакавіка** ля Парыжа разбіўся турэцкі самалёт. Згінула 347 пасажыраў.

**13 лютага** СССР выгнаў за граніцу Аляксандра Салжаніцына з жонкай – вывезлі іх самалётам, выкінулі і пакінулі.

**29 красавіка** ў Партугаліі наступла дэмакратычная „рэвалюцыя гваздзікаў", якая адабрала ўладу наследніку дыктатара А.Салазара, Марсэлу Каэтану.

**20 ліпеня** Турцыя заняла частку Кіпра, бо быццам бы баялася, што зойме Кіпр Грэцыя, якой тады кіравалі „чорныя генералы", і трымае яе да сённяшняга дня.

**8 жніўня** амерыканскі прэзідэнт Р. Ніксан аддаў уладу свайму намесніку Д. Форду з-за аферы Уотэргейт.

**4 жніўня** ранкам я з жонкай Нінай і дачкой Ірэнай селі ў польскі турыстычны аўтобус, а багаж наш шафёр пагрузіў пад падлогай аўтобуса. Аўтобус гэты павёз нас у Югаславію ў горад Дуброўнік. Я ў Тузле атрымаў пісьмо, у якім сям'я Марыі Кусіч згадзілася, што можам да іх прыехаць у жніўні на два тыдні і для нас будзе прыгатоўлены ў іх доме пакой на другім паверсе з трыма ложкамі, шафай і тэлевізарам і будзем мець права на карыстанне іх кухняй і ванным пакоем. Падалі мне таксама цану, колькі ім трэба за гэта заплаціць у дынарах. Я прывёз з сабою нейкую суму дынараў і я іх афіцыйна мог з сабою забраць назад. Акрамя таго я меў на сваім рахунку ў польскім банку амерыканскія долары і я атрымаў ад банку дазвол іх вывезці за граніцу Польшчы.

**4-га жніўня** вечарам прыехалі мы ў Будапешт у гасцініцу і там з'елі вячэру, пахадзілі вечарам па вуліцах горада ля венгерскага парламента, а пасля пераначавалі. На наступны дзень паехалі мы ў Югаславію і па дарозе польскі гід нас завёз паказаць нам музей сербскага Асвенціма ў Ясеновацу, званага харвацкім лагерам смерці ў 1941-43 г. паблізу месца, дзе рака Уна ўліваецца ў раку Саву. Не буду многа пісаць аб гэтым лагеры, бо заняло бы мне гэта некалькі старонак. А артыкулы аб Ясеновацу можна лёгка знайсці ў інтэрнэце. Усіх нас здзівіла толькі тое, што ў гэтым лагеры смерці катамі былі не немцы, як у польскім Асвенціме, а каталіцкія харвацкія манахі францысканцы, якія былі горшымі катамі, чым немцы. Як вылічылі гісторыкі, у лагерах Ясеноваца, Старай Градзіскі і Даніцы катавалі людзей 953 каталіцкіх харвацкіх францысканцаў і духоўных. Многія з іх уцяклі пасля з Харватыі, аднак 139 з іх пазнейшы югаслаўскі ўрад Ціта пакараў за зверствы карай смерці. Камендантам лагера ў Ясеновацу быў францысканец Міраслаў Філіповіч, які любіў мардаваць людзей

матыкай. Францысканцы любілі ў час катавання рабіць сабе здымкі і фільмы, якія мы аглядзелі. Часта рабілі яны і фільмавалі спаборніцтвы, хто больш разрэжа горлаў у людзей закрыўленым нажом, які назвалі „сербарэзам", і **28 жніўня** выйграў спаборніцтва францысканскі ксёндз Брзіца, які перарэзаў горлы 1360 сербам, у тым ліку жанчынам і дзецям. У Ясеновацу згінула 120 тысяч дюдзей, у тым ліку 19 тысяч дзяцей, а ў трох лагерах смерці 600 тысяч сербаў, 60 тысяч жыдоў і 24 тысячы цыганоў.

Пасля паехалі мы далей і пад вечар даехалі да гасцініцы ля Плітвіцкіх азёр. Там мы з'елі ў рэстаране вячэру і пераначавалі.

Плітвіцкія азёры сталі ў Югаславіі, тады ў Рэпубліцы Харватыі, прыродным паркам. У ім знаходзяцца невялікія прыгожыя азёры з рознаколернай вадой. Мы на наступны дзень мелі вольны час амаль да абеда, пабачылі некалкі азёр. Два з іх мелі бірузовую воду. Бачылі мы азёры з малінавай вадой, прыгожыя вадаспады з каляровай вадой і чароўны лес навокал. Пасля абеда паехалі мы далей і пад вечар былі мы ў Дуброўніку.

У аўтобусе ехала з намі нашая знаёмая з нашага суседняга блока ў Варшаве, Аня са сваім сынам. Калі мы прыехалі, яна не мела заказанай кватэры. Нас чакала на аўтобусным прыпынку наша знаёмая Марыя Кусіч. Тады Аня падышла са сваім сынам і папрасіла ў нашай знаёмай, каб яна да сябе іх прыняла. Марыя Кусіч не хацела, бо не мела вольных ложкаў. Аня сказала, што яны ўзялі з сабой матрацы, якія напаўняюцца паветрам, і будуць на іх спаць. Марыя Кусіч згадзілася, і яны ў іншым пакоі на першым паверсе спалі на падлозе на сваіх матрацах. Мы тады часта разам з імі хадзілі ў стары Дуброўнік і на пляж. Дуброўнік мы ўжо добра ведалі, бо былі другі раз.

На пляжы ў новым Дуброўніку, калі я з Нінай купаўся ў моры, а Ірэна пільнавала нашы рэчы, адна немка, якая была адна на пляжы, папрасіла яе папільнаваць яе рэчы, бо хоча выкупацца. Ірэна згадзілася і потым, калі мы ўсе выйшлі з вады, пазнаёміліся з немкай Цінай Блянк з Бад-Райхенгаля. Яна жыла ў прыгожай гасцініцы „Компас", якая стаяла паблізу пляжы. Ціна запрасіла нас да сябе ў пакой гасцініцы, паказала яе нам. Гасцініца гэта была не на нашу кішэнь, з выгаднымі пакоямі і басейнамі. Ціне падабалася, што я ведаю някепска нямецкую мову, і калі яна выязджала з Дуброўніка, дала нам

свой дамашні адрас у Бад-Райхенгалі ў Баварыіі. Я з ёй перапісваўся доўгі час. Яна некалькі раз запрашала нас прыехаць да яе і мы ў 1979 г. у яе былі 10 дзён. Ціна была ўдавой, бо муж яе трапіў у палон на рускім фронце, вярнуўся дамоў хворы і хутка памёр.

**20 жніўня** развіталіся мы з сям'ёй Марыі Кусіч, з Аняй і яе сынам ды паехалі сербскім аўтобусам у Сараева. Ехалі мы той самай дарогай, якой у 1971 г. прыязджалі цягнікам з Сараева ў Дуброўнік. Тыя самыя тунелі, той самы прыгожы краявід. Калі мы прыехалі ў Сараева, пайшлі мы на чыгуначны вакзал купіць чыгуначныя квіткі ў Бялград. Касірам быў мужчына. Калі мы сказалі яму, што мы з Польшчы і хочам купіць квіткі на цягнік у Бялград, ён закрыў касу, завёў нас у пакой на другім паверсе, паставіў нам каву і прынёс нам квіткі ў Бялград на 22 жніўня, за якія мы вярнулі яму грошы. Ён сказаў, што ён харват, даў нам свой дамашні адрас і ўзяў наш і прасіў нас, каб мы дазволілі яму затрымацца ў нас на кватэры на некалькі дзён, бо ён мае двух хворых сыноў і хацеў бы прыехаць у Варшаву да знаёмага яму прафесара лекара, які калісь быў у Югаславіі, каб яго папрасіць лячыць яго сыноў. Ён называўся Ілья Міятовіч. Мы згадзіліся. Праз год ён да нас прыехаў, я завёў яго да гэтага лекара ля Варшавы ў Канстанціне, аднак лекар сказаў яму, што хваробы яго дзяцей ён не можа вылечыць. Лекар добра знаў сербска-харвацкую мову. Сумны Ілья вярнуўся дамоў.

З чыгуначнага вакзала мы ўзялі таксі і паехалі да нашай знаёмай Відойкі Наваковіч, якая прыслала нам пісьмо ў Дуброўнік і запрашала нас да сябе. Яе дом быў вялікі і стаяў у прыемным агародзе недалёка месца, дзе 25 чэрвеня ў 1914 г. Гаўрыла Прынц застрэліў эксгерцага Фердынанда і яго жонку. Прыехала тады да маткі яе дачка, якая была настаўніцай у школе, і калі матка яе паказала ёй маё пісьмо з Дуброўніка да яе, яна здзівілася, што я вельмі добра ўжо пішу па-сербска-харвацку. У Відойкі былі мы да 22 жніўня. Самі мы хадзілі па Сараеве.

Помню, зайшлі мы ў адну праваслаўную царкву і Ніна сказала святару, якога там сустрэлі, што мы праваслаўныя палякі і хочам паглядзець царкву. Ён засмяяўся і адказаў, што ён першы раз чуе, што бываюць праваслаўныя палякі. „Вы напэўна з'яўляецеся бела-

русамі, украінцамі ці рускімі, ды не палякамі” – адказаў ён. Царкву ён нам паказаў і расказаў яе гісторыю.

**22 жніўня** выехалі мы цягнікам з Сараева, а 23 жніўня у Бялградзе на чыгуначным вакзале сустрэў нас Мікалай Фармакоўскі і завёз нас да да сябе. Там сустрэла нас яго жонка Невена. Зноў ён павазіў нас па Бялграду і ваколіцы, наведалі мы знаёмых у Бялградзе і ў Новым Садзе і 25 жніўня паехалі мы цягнікам Бялград – Варшава дамоў. Не затрымоўваліся ў Будапешце, бо мелі раней выкупленыя квіткі на месцы ў цягніку Бялград-Варшава.

У электрастанцыі Казяніцэ аддалі ў эксплуатацыю 6-ты і 7-мы блокі па 200 мегаватаў кожны на каменны вугаль і ў Понтнуве 8-мы на 200 мегаватаў (7-мы ўжо працаваў) на мазут. У 1982-85 г.г. блокі 7-ы і 8-ы з-за недахопу мазуту не працавалі і машыннае абсталяванне ад іх бралі пры рамонце для іншых блокаў і пасля 2000 г. іх зусім разабралі. На іх месцы запраектавала і пабудавала заходняя фірма SCN Lavalin блок магутнасці 464 мегаватаў, які 23 лістапада 2007 г. быў сінхранізаваны з дзяржаўнай энергетычнай сеткай і 28 снежня 2007 г. пачаў працаваць на поўную магутнасць. На гэты блок было ўзята на захадзе 392 мільёнаў амерыканскіх доляраў пазыкі.

Я даведаўся з абвяшчэння ў газеце, што побач майго месца працы ў турыстычным аўтабюро арганізуецца курс гідаў замежных экскурсій. Трэба будзе толькі здаць уступны экзамен, хаця б з адной замежнай мовы. Я тады меў у працы 30 дзён нармальнага водпуску і 10 дзён, як саратнік (kombatant) за ўдзел у баях на фронце ў 1945 г., а да таго даходзілі вольныя ад працы суботы, нядзелі і святы, якія мог выкарыстаць на экскурсіі. Таму я хутка выйшаў з майго праектнага бюро і побач запісаўся на ўступны экзамен, які адбыўся ў лістападзе.

Экзамен з нямецкай мовы я здаў ледзь на чатыры з мінусам, бо экзаменатарка была вельмі патрабавальная і мучыла мяне мінут дваццаць, вымагала не толькі расказваць на нямецкай мове, ды хутка перакладваць цэлыя сказы з польскай мовы на нямецкую і наадварот. А я нямецкай мовай рэдка карыстаўся, бо не меў патрэбы.

На экзамен з рускай мовы я пайшоў ужо без боязі. Экзаменатарка паказалася мне знаёмай, ды я не мог яе пазнаць. Загадала мне рас-

казаць маю біяграфію. Я паспеў сказаць толькі два ці тры сказы, як яна мяне спыніла: – Ты меня не узнаёшь?

Я пачаў ёй прыглядвацца, а яна: – Я ведь Ольга Войдаковская.

Супраўды, як я яе адразу не прыпомніў? Змянілася, але не на столькі, каб яе не пазнаць. Віну зваліў я на экзаменацыйнае хваляванне.

Вольга Вайдакоўская паходзіла са станцыі Чаромхі. Я з ёй вучыўся ў 4-м, 5-м і 6-м класе пачатковай школы, ды астатні раз я з ёй бачыўся ў 1953 годзе на ст. Чаромсе, перад маім выездам у Ленінград здаваць дыпломную працу. Яна вучылася ў Маскве на рускай філалогіі. Пасля я чуў, што Вольга выйшла замуж за паляка і жыве ў Варшаве, ды з ёй ніколі не сустрэўся. Мы прывіталіся. Яна мне расказала сваё жыццё і падала сваё новае прозвішча: Карчэўска. Сказала, што мае са сваім мужам старэйшую дачку, якую ахрысхціла ў царкве, і сынаа ахрышчанага ў касцёле і што яе сын здаваў тут таксама экзамен з нямецкай мовы. Абмяняліся мы адрасамі, пасля сустракаліся мы ад часу да часу і былі разам на экскурсіі ў Турцыі і Грэцыі. Тады яна мне паставіла з экзамена ацэнку вельмі добрую. Пасля я сустрэў яе ў царкве ў Варшаве на Волі і яна мяне паведаміла, што мела інфаркт сэрца. Праз год я даведаўся, што схапіў яе ізноў інфаркт сэрца ў сенаторыі ў Цехацінку, дзе яна памерла. Пахавалі яе на праваслаўным пагосце ў Варшаве на Волі.

Пасля экзаменаў я хадзіў на курс лекцый гідаў замежных экскурсій, якія пачаліся яшчэ ў снежні 1974 г., а кончыліся ў чэрвені 1975 г. Тады трэба было здаваць экзамены з вывучаных прадметаў. Здаў я іх у чэрвені 1975 г. і стаў гідам замежных экскурсій.

**29 снежня** ад землятрусу ў Пакістане згінула 4700 жыхараў

# 1975

**1 студзеня** выйшла пастанова ўлады аб будове кар’ера бурага вугля ля Белхатава і аб будове новай электрастанцыі „Белхатаў” з катламі BB-1150 на буры вугаль і генератарамі GTHW 360, магутнасці 360 мегаватаў. Хутка „Энергапраект пачаў праектаваць гэту элекрастанцыю і я таксама пачаў праектаваць у ёй аўтаматыку блокаў, рэлейную ахову, аўтаматыку падачы канвеерамі бурага вугля да катлоў і іншую аўтаматыку. Элекрастанцыя „Белхатаў” цяпер з’яўляецца самай вялі-

кай у Еўропе электастанцыяй магутнасці 4440 мегаватаў з 12 блокамі, якія пасля мадэрнізацыі маюць кожны 370 мегаватаў магутнасці. Першы блок у Белхатаве пачаў працаваць, калі ў Польшчы было ваеннае становішча, **29 снежня 1981 г.** Я быў яшчэ пры сінхранізацыі 7-мага блока, **12 снежня 1985 г.**, а пасля выслалі мяне ў Індыю на электрастанцыю Бакара. Астатні 12 блок сінхранізавалі 24 жніўня 1988 г., калі я яўчэ працаваў у Індыі, ды я яшчэ, калі вярнуўся перад пенсіяй, праектаваў аўтаматыку ачысткі з серы з дыму ў электрастанцыі Белхатаў. Электрастанцыя спальвае 36 мільёнаў тон бурага вугля ў год і трэба чысціць дым з яе камінаў не толькі з попелу і з серы, але і з іншых шкодных для здароўя рэчываў.

**Пасля 2004 г.** пачалі праектаваць Электрастанцыю Белхатаў II. За 850 млн. еўра французская фірма Alstrom Power Centrales з іншымі фірмамі пачалі праектаваць і будаваць у 2004 годзе электрастанцыю з блокам магутнасці 858 мегаватаў у Белхатаве II, у Рагоўцу. Некалькі раз змянялі тэрміны заканчэння будовы. Астатні тэрмін заканчэння будовы меў быць у першым квартале 2011 г.. Аднак першую сінхранізацыю блока з электрычнай сеткай зрабілі толькі **10 чэрвеня 2011 г.**, а пасля перапынку другую сінхранізацыю правялі **28 чэрвеня 2011 г.**

Я хадзіў ад **самага пачатку 1975 г.** на лекцыі гідаў замежных экскурсій кожную суботу і нядзелю і ў чэрвені я здаў экзамены з усіх прадметаў і стаў гідам замежных экскурсій, ды ў 1975 годзе я не меў часу заняцца экскурсіямі і адлажыў усё на наступны год.

**4 студзеня** пастановай канферэнцыі рабочага самакіравання атрымаў я за праекты электрастанцый Конін, Адамуў і Понтнуў ганаровы медаль заслужанага для Комплексу Электрастанцый Понтнуў-Адамуў-Конін.

У В'етнаме пачалося наступленне партызан і войск Паўночнага В'етнама і яны ўжо **4 студзеня** занялі правінцыю Фуакбіны, 30 сакавіка горад Дананг, а 30 красавіка Сайгон і вайна закончылася. ЗША раней забралі з В'етнама сваіх салдат, вайну прайгралі.

**21 студзеня** падалі, што ў Варшаве аддалі ў карыстанне жыхароў мільённую кааператыўную кватэру. Колькі было збудаваных дзяржаўных кватэр – не напісалі.

**4 лютага** ад землятрусу ў Кітаі згінула 2041 людзей, а 27 538 было параненых.

**У сакавіку** сябра з бюро, які жыў у Прушкове, паведаміў, што ў магазіне ў Прушкове прадаюцца аўтаматычныя пральныя машыны „Поляр” па 10 500 зл. кожная. У Варшаве іх хутка разбіралі, а ў Прушкове людзі былі бяднейшыя і нас тры асобы з Энергапраекта пехалі ў Прушкаў і іх купілі. Нанялі мы машыну і прывязлі тры аўтаматычныя пральныя машыны ў Варшаву па адной для кожнага. Пачаткова я паставіў яе ў кухні, бо ў ванным пакоі не было месца. Пасля замяніў ванну на меншую і перанёс яе ў ванны пакой. Якраз добра зрабіў, бо жанчына Шымчакова, якая нам мыла бялізну, памерла і яе цяпер замяніла аўтаматычная пральная машына. Яна ў мяне працавала доўгі час, пакуль не замяніў яе на загранічную пральную машыну, якая не толькі мые бялізну, а пасля мыцця яе сушыць.

**1 чэрвеня** ў Польшчы зліквідавалі паветы і стварылі 49 ваяводстваў. Для многіх гарадоў, як Конін ці Астралэнка, прынесла гэта карысць, змянілі яны свае аблічча, аднак страцілі гарады, якія былі павятовымі і не сталі ваяводскімі.

**10-13 сакавіка** наведаў Польшчу прэзідэнт Югаславіі Броз Ціта, 7-20 чэрвеня прэзідэнт Францыі В. Жыскар Д’Эстэн, а 28-29 чэрвеня прэзідэнт ЗША Дж. Форд.

Я далей праектаваў аўтаматыку ў электрастанцыі Казеніцэ, часта туды ездзіў на аўтарскі нагляд і там ужо быў амаль гатовы да эксплуатацыі 8-мы блок 200 мегаватаў.

**8 чэрвеня** ноччу з Гданьскага вакзала ад’ехаў я з жонкай Нінай і дачкой Ірэнай у спальным вагоне цягніком цэраз Гродна ў Ленінград на запрашэнне Таццяны Фармакоўскай і яе дачкі Алены. Прыехалі мы туды ранкам 10 чэрвеня. Яны нас там сустрэлі і забралі ў таксі на Канюшны перавулак, дзе яны жылі. Мы гасцявалі там да 28 чэрвеня, пабачылі Пэтэргоф з яго фантанамі, якія былі ўжо ўсе адноўленыя, пасля знішчэння немцамі ў час акупацыі, і Паўлаўск разам з паркам. Я быў у Пэтэргофе ў 1953 г., ды тады ён яшчэ быў знішчаны немцамі. Яны ўсё золата з пазалочаных элементаў фігур саскраблі, – выглядала, быццам яны іх зубамі грызлі. Цяпер усё зноў блішчэла пазалотай. Працавалі ўсе фантаны, нават фантаны-неспадзяванкі, тыя, якія аблівалі неспадзявана людзей вадой, калі яны пад іх падышлі, і фантаны-дрэвы (калі хто стане пад гэтым дрэвам, з яго пальецца на яго вада) ці фантаны пад лаўкамі – калі хто сядзе на гэтую лаўку, знізу яго абальe фантан вады.

Палац у Паўлаўску і навокал яго парк ужо выглядаў, як перад вайной. Немцам не ўдалося яго разбурыць, хаця доўга было ў ім відаць сляды іх акупацыі.

Сын Юра астаўся дома з маткай Ніны, бо рашыў паехаць у Ленінград у ліпені адзін, калі мы будзем дома, каб пабачыць белыя ночы. Мы таксама іх бачылі ў чэрвені. Мы вярнуліся дамоў **29 чэрвеня**, а Юра паехаў праз тры дня пасля нашага вяртання дамоў.

Дачка закончыла ліцэй з вельмі добрымі ацэнкамі і здала ўступныя экзамены ў Цэнтральную школы планавання і статыстыкі (SGPiS, цяпер SGH) і была прынята на першы курс гэтай вышэйшай школы.

Нас запрашала даўно да сябе сваячка з боку маткі маёй жонкі Ніны, Таццяна Яршова, унучка рускага царскага контр-адмірала Анатолія Конанава (1856-1944), які ў 1919-20 гг. ваяваў з бальшавікамі. Жонка контр-адмірала Анатолія Конанава Вера была роднай сястрой дзеда Ніны, царскага генерала Міхала Чэкмарова, сына Івана. Контр-адмірал А. Конанаў з сям'ёй і матка Ніны з сёстрамі, дочкамі Міхала Чэкмарова, які памёр у 1918 г, і сям'ёй брата Міхала, царскага генерала Віктара Чэкмарова (1861-1939), які ў арміі Врангеля на Крыме ваяваў з бальшавікамі, мелі невялікія маёнткі на Валыні ў вёсцы Поліцы Ровенскай вобласці і да верасня 1939 г. там жылі. Тады Таццяна Нялідава, дачка Аляксея Конанава (1889-1975) была жонкай Дзмітрыя Нялідава, з ім жыла у аддзельным доме і там радзіла сына Дзмітрыя. Аднак муж яе Д. Нялідаў у 1933 г. памёр ад тыфа і Таццяна асталася там удавой. Калі пад канец верасня 1939 г. прыйшла туды Чырвоная Армія, то і Таццяну з сынам і яе бацьку Аляксея, яе дзеда контр-адмірала Анатолія Конанава з жонкай Верай і ген. Віктара Чэкмарова з жонкай Апалінарыяй (якая была сястрой контр-адмірала Анатолія Конанова) выгналі з іх маёнткаў, ды яшчэ не паспелі арыштаваць. Яны на нейкі час затрымаліся ў Сарнах у сваяка Васіля Некрашэвіча, дзе 10 кастрычніка генерал-лейтэнант Віктар Чэкмароў памёр і быў пахаваны ў Сарнах. Тады яны ўсе за намовай дачкі ген. Віктара, Наталлі, якая прыехала да бацькоў з Югаславіі, паехалі ў яшчэ вольную Літву ў Вільню, калі даведаліся, што І. Сталін аддаў Вільню Літве. Адтуль яны пазванілі па тэлефоне ў Бялград прафесару Уладзіміру Фармакоўскаму, мужу сястры Наталіі Надзеі і ён хут-

ка вырабіў ім пашпарты і візы ў Югаславію. Тады Югаславія яшчэ была свабодная. Яны праз акупіраваную немцамі Польшчу, Славакію і Венгрыю прыехалі ў Бялград.

У Паліцах мела свой дом і маёнтак таксама дачка Анатолія Конанава Вера, якая была жонкай украінскага палкоўніка ў арміі Петлюры, Міхала Ханенка. Дзяцей у іх не было. Аднак яна паехала ў сакавіку 1939 г. лячыць свайго мужа ў Варшаву і там заспела яе вайна. Муж яе памёр у Варшаве і пахавалі яго на могілках на Волі. Да ліпеня 1941 г. яна жыла ў Варшаве і калі немцы занялі Валынь, яна вярнулася ў свой маёнтак і кіравала там з дапамогай Любы Некрашэвіч, якой бацьку Васіля савецкае НКУС вывезла ў 1941 г. у Казахстан, амаль да канца 1943 г. усімі маёнткамі астаўленымі Конанавымі, Чэкмаровымі і Некрашэвічам, а пасля з Любай уцякла пад Варшаву. У 1944 г. бацька маёй жонкі Васіль Кандыба сустрэў Веру Ханенка на вуліцы ў Варшаве і яна яму сказала, што яна жыве ў Аніне каля Варшавы і што нямецкі афіцэр застрэліў Любу Некрашэвіч, бо падазраваў яе, што яна мае сувязі з польскім падполлем. Вера Ханенка з Варшавы ўцякла ў Францыю ў Парыж да свайго брата Івана Анатольевіча Конанава.

Удава Таццяна з сынам Дзмітрыем, бацькам Аляксеем, дзедам Анатоліем і яго жонкай Верай жылі ў Бялградзе яшчэ тады, калі немцы акупіравалі Югаславію. Аднак жонка Анатолія Конанава Вера памерла ў Бялградзе 21 ліпеня 1941 г. Тады Анатолій Конанаў рашыў выехаць у Францыю, дзе жыў яго родны старэйшы сын віцэ-адмірал Іван Конанаў (1886-1959), які таксама ваяваў з бальшавікамі ў 1919-20 гг. і пасля не захацеў жыць з бацькам у Польшчы і выехаў у Парыж і там жыў яшчэ ў час акупацыі немцамі Францыі. І немцы дазволілі ў 1942 г. выехаць з Бялграда ў Францыю Анатолію Конанаву, яго малодшаму сыну Аляксею, унучцы Таццяне Нялідавай з сынам Дзмітрыем. Анатолій Конанаў памёр у Францыі ў 1944 г., а Таццяна Нялідава паехала з сынам і бацькам у Парыж да дзядзькі Івана Конанава і там пасля вызвалення Францыі ад немцаў сустрэла сваю цётку Веру Ханенка, якая прыехала з Варшавы. Пасля яна выйшла замуж у Парыжы за рускага эмігранта Івана Яршова і яны, пасля смерці яе дзядзькі Івана Конанава і цёткі Веры Ханенка, купілі ферму недалёка Альбі ў вёсцы Брус, на поўдні Францыі, дзе ў 1975 г. жылі. Жыў

разам з Таццянай яе родны бацька Аляксей, а сын Дзмітрый узяў за жонку фрацужанку, стоматолага Моніку і жыў з ёй у Альбі. Таццяна з Іванам Яршовым нарадзіла ў Брус дачку Алену і сына Юру.

Біяграфію Анатолія Аляксеевіча Кононова і яго сына Івана Анатольевіча Конанова і нават малодшага сына Аляксея, які быў толькі царскім афіцэрам, лёгка можна знайсці ў рускім інтэрнэце на google, трэба толькі рускімі літарамі напісаць іх імёны, іх імёны па бацьку і прозвішчы. Царскі віцэ-адмірал Іван Анатольевіч Конанаў выдаў у Парыжы кнігу „Путь к Голгофе русского флота (исторический очерк) и морские рассказы" і пісаў многа апавяданняў і ўспамінаў у рускіх журналах на захадзе Еўропы і ў ЗША.

Яны нас даўно запрашалі прыехаць у Брус. І вось мы рашылі да іх паехаць. Пашпарты нам міліцыя дала, бо мы мелі ў банку на рахунку долары, аднак я выступіў у банк, каб прызналі дачцэ Іры права абмяняць па дзяржаўным курсе польскія злоты на французскія франкі на білет у Альбі. І пачаткова мне адмовілі. Калі я ім другі раз напісаў, што дачку прынялі на ВНУ і за гэта яе запрашаюць прыехаць у Францыю, і вельмі будуць расчараваныя, калі даведаюцца, што польскія ўлады не дазволілі ёй абмяняць валюты каб паехаць да іх у Францыю, прыйшла згода. Я абмяняў нейкую суму польскіх злотых на франкі. І мы выкупілі білеты на цягнік на 31 ліпеня з Варшавы ў Альбі праз Парыж у купэ з ляжачымі ноччу месцамі. З Варшавы выехалі мы рана ўдзень, у купэ былі мы самі да Вроцлава, дзе ўвайшла да нас маладая дзяўчына, год 20, якая таксама ехала ў Парыж. Яна мела ў Парыжы адрас польскіх каталіцкіх манашак, якія прымаюць жанчын на начлег за невялікую плату. На ноч мы леглі спаць на полках: Ніна з Ірэнай на дзвюх ніжніх полках, а я з новай дзяўчынай на дзвюх верхніх. Ехалі мы праз Дрэздэн у ГДР і ноччу ўехалі мы у БДР. Ноччу будзілі нас нямецкія пагранічнікі і мытнікі, якія толькі казалі паказаць ім нашы пашпарты. У наш багаж не заглядвалі. На нямецка-французскай граніцы перад Страсбургам прыйшоў да нас толькі немец і паставіў у пашпарце пячатку, французскі пагранічнік і мытнік да нашага купэ не заглянулі. Стала ўжо відна і мы сышлі з верхніх полак. У час нашай язды мы елі толькі ежу, якую ўзялі з сабою. Дзесь перад поўднем прыехалі мы на паўночны парыжскі вакзал. Мы выйшлі на перон і не ведалі куды далей ісці. Падышоў да

нас багажны насільшчык, пабачыўшы што мы з усходу ён запытаўся ў нас на ўкраінскай мове, куды мы хочам ісці. Ніна ў Варшаве ўзяла была ад сваёй знаёмай адрас яе нейкай сяброўкі, жанчыны, якая працавала ў гасцініцы ў Парыжы. Ніна яму паказала гэты адрас і ён параіў нам, каб мы аставілі наш багаж у багажныя скрынкі, якія стаяць на вакзале, закрылі іх і ключы забралі з сабой і падаў нам нумары ліній парыжскага метро, якімі маглі б мы даехаць і да манашак, дзе хацела спыніцца знаёмая дзяўчына, і да гасцініцы, да якой мае адрас Ніна. Квіткі ў метро купілі мы ў кіёску з газетамі і паехалі спачатку да манашак з дзяўчынай. Знайшлі мы дом у якім жылі польскія манашкі і яны згадзіліся прыняць нашу знаёмую дзяўчыну, сказалі, што маглі б прыняць таксама Ірэну і маю жонку, ды мяне, мужчыну прыняць не могуць, бо ў іх жывуць толькі адны жанчыны.

Аставілі мы з манашкамі дзяўчыну, а самі паехалі шукаць гасцініцу з жанчынай, якой мы мелі адрас. Яна працавала ў гасцініцы на вуліцы Віктара Гюго, недалёка пляцу Этуаль, дзе стаіць вядомая трыумфальная арка. Мы яе знайшлі, яна нас завяла ў кавярню, паставіла кофе ды сказала нам, што ў гасцініцу, дзе яна працуе, прыняць нас не можа, бо баіцца, а яе гасцініца вельмі дарагая. Мы выйшлі неспадзявана на вуліцу Каперніка і там заўважылі невялікую гасцініцу. Мы ўвайшлі да яе і там дагаварыліся на нямецкай мове, каб нам далі пакой на дзве асобы і абяцалі даставіць трэці ложак для Ірэны. І мы затрымаліся ў гасцініцы „Д'Англетэр" на вуліцы Каперніка 21. Тады мы паехалі на вакзал, забралі наш багаж і прывезлі яго ў гасцініцу.У гасцініцы прыгатовілі мы гарбату, навеліся, напіліся і паехалі да манашак і забралі дзяўчыну, каб разам з ёй аглядаць горад. Дзяўчына прасіла, каб мы да яе прыехалі, бо сама яна баялася гуляць па горадзе. Я ў метро атрымаў карту ўсіх ліній парыжскага метро і з гэтай картай пачалі мы ездзіць і аглядаць горад. Наведалі мы кафедру Нотр-Дам, Палац Правасуддзя, пляц Бастыліі, Елісейскі палац  і Елісейскія палі, пляц Пігаль з эратычнімі секс-крамамі, кіна-тэатры з секс-фільмамі і з прастытуткамі на вуліцы, тэатр-кабарэ Мулен-Руж (Чырвоны Млын) з каляровым млыном на будынку на бульвары Клішы, Монмартр з прыгожай белай каталіцкай базілікай Сакрэ-Кёр (Святога Сэрца), вежу Эйфеля на Марсавым полі і іншыя месцы. У Мулен-Руж тады былі павешаныя рэкламы, што

будзе вечарам выступаць нейкі казацкі ансамбль. Былі здымкі артыстаў гэтага ансамбля ў час іх танцаў...

На наступны дзень ужо без дзяўчыны з Вроцлава пайшлі мы ў праваслаўны сабор Аляксандра Неўскага на ру Дару 12, які быў недалёка ад нашай гасцініцы; там было траурнае набажэнства па памерлым. Мы там пазнаёміліся з царкоўным старастам гэтай царквы рускім царскім калісь маладым афіцэрам, які ўцёк ад бальшавікоў і жыў у будынку ля царквы. Ён нам многа памог, бо сказаў, на які вакзал і на які цягнік маем папасці, каб даехаць у Альбі. Пасля абеду мы яшчэ паехалі паглядзець Версальскі пляц і агарод ды выслалі паштоўку ў Брус, калі мы будзем у Альбі.

У нядзелю **3-га жніўня** ранкам мы пайшлі ў Луўр, бо ў нядзелю уваход у музей быў бясплатны. Было многа людзей, аглядзелі мы скульптуры і палотны многіх мастакоў і ў шафе за шклом карціну Джаконды Леанарда да Вінчы. Аб нейкіх пабачаных мною ў Луўры палотнах жанчын я пасля напісаў верш „Жанчыны з Луўра", які ўвайшоў у мой зборнік вершаў „Эцюды падарожжа". Пасля абеда мы яшчэ пагулялі па Парыжы, а вечарам паехалі на вакзал, цягнік у Тулузу праз Альбі ўжо стаяў і мы занялі месцы.

У нашым купэ акрамя нас нікога не было, так што пасля візіту кандуктара мы маглі спаць да ранку. Калі стала відна, мы пачалі разглядваць паўднёвы пейзаж Францыі. Дамы ўсе былі памаляваныя на светлыя прыемныя колеры. Перад поўднем даехалі мы да Альбі і выйшлі з багажом. Падышоў да нас сын Таццяны Яршовай Юра і сардэчна з намі прывітаўся ды забраў нас у сваю машыну, якою павёз нас кіламетраў 30 у вёску Брус на іх ферму. Ён ведаў добра рускую мову. На ферме сустрэлі нас Таццяна і яе муж Вяня. У іх было тры дамы, адзін ля другога, адзін быў пусты і туды нас пасялілі, у другім пабач яны жылі з сынам.У трэцім доме на другім паверсе жыў бацька Таццяны, Аляксей Конанаў. Чацвёрты дом з чырвонай цэглы -- іх дачкі Алены, якая ўжо выйшла замуж за француза Роберта Рабіно, стаяў метраў сто ад іх дома. У іх дачкі Алены былі ўжо дзеці: дачка Кацярына і двух яшчэ малых сыноў: Іван, якога называлі Жано і трохгадовы Сцяпан. Пасля нашага выезда Алена нарадзіла яшчэ дачку Карыну.

Таццяна з Іванам паказалі нам сваю ферму, на каторай гадавалі больш чым 30 кароў. Даіў іх электрычны даільны апарат і малако-о плыло па трубках у халадзільны бак у якім падтрымлівалася тэмпература 4 $^0$C. Кожны ранак прыязджаў з горада да іх аўта-бак, які забіраў з бака малако і мыў бак. Каровы пасвіліся на абгарожаным лузе, луг быў агароджаны „электрычным пастухом", а даіць кароў заганялі ў хлеў. Мелі яны сваю зямлю, гектараў 35, на каторай рос вінаград і кармавыя травы для кароў, пшаніца. Поблізу дамоў у клетках гадавалі трусоў. Мелі яны свой трактар і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Бацька Таццяны, Аляксей Конанаў, які ўжо меў 86 год, і жыў у аддзельным доме на другім паверсе, ужо не выходзіў з дому і маю жонку Ніну, якую да верасня 1939 г. часта сустракаў, калі прыязджаў з Паліц у Сарны на Валыні, цяпер не толькі не пазнаў, а нават не помніў, што быў калісь у Сарнах. Калі мы выехалі з Францыі, то даведаліся з пісем, што ён 25 кастрычніка памёр.

У іх хаце быў збудаваны вялікі бак, у якім з вінаграда рабілася кіслае віно, якое кожны дзень да ежы з крана з баку налівалі ў літровую бутэльку і падавалі на стол. Была аўтаматычная пральная машына і вялікі халадзільнік і каляровы тэлевізар.

На вячэру запрасіла нас да сябе Алена. У іх быў двухпавярховы дом з усімі выгадамі, з пяццю пакоямі, кухняй, з ванным пакоем і туалетам. Дзяржава ім дала пасля шлюбу пазыку на дом і пры кожным народжаным дзіцяці памяншала выплату пазыкі.

З імі правялі мы два тыдні. Вазілі нас у Альбі, Тулузу, да блізкіх пячор і мясцовасцей.

У Альбі жыў першы сын Тацяны, Дзіма Нялідаў, які нарадзіўся яшчэ ў Паліцах у Польшчы, а ў Францыі служыў у арміі як французскі афіцэр, у Алжыры, а цяпер з жонкаю меў вялікі дом, машыну, матацыклы, коні і двух сыноў: Пятра і Філіпа. Ён таксама запрасіў нас да сябе на абед. Ён, Юра і Алена вельмі добра ведалі рускую мову, а муж Алены і жонка Дзмітрыя і дзеці іх толькі французскую. Да іх таксама, як на нашыя вёскі цяпер, два разы на тыдзень праязджаў самаход-крама пад іх дом з рознымі прадуктамі да ежы і яны ў іх што хацелі, то куплялі. Яны былі застрахаваныя на выпадак хваробы, плацілі нейкую суму ў месяц, і маглі пайсці прыватна да кожнага лекара, бралі рахунак ад лекара і пасля ім звярталі тую суму грошай, якую

яны заплацілі і за лекара, і за лякарствы. Калі пасля нашага выезда Ваня папаў у бальніцу ў Альбі, то меў аддзельны пакой у бальніцы з двума ложкамі, з тэлевізарам і ванным пакоем, каб магла у ім начаваць, калі захоча, яго жонка, сын ці дачка.

Юра пачаў заляцацца да маёй дачкі Ірэны і ён ёй спадабаўся, і яна хацела астацца ва Францыі, ды я ёй не дазволіў пакуль яна не закончыць ВНУ. Калі мы вярталіся, то ў вагоне Ірэна была ўвесь час смутная, ды пасля супакоілася. Прыехалі мы ў Парыж ранкам, аставілі багаж на вакзале ў багажных скрынках, паехалі ў царкву, пабачыліся зноў са знаёмым старастам, паездзілі па горадзе і вечарам селі ў цягнік Парыж- Варшава. Ехалі мы ноч і амаль цэлы дзень і вечарам прыехалі ў Варшаву, дзе сустрэў нас вялікі лівень на вакзале. Праз паўгадзіны ўдалося знайсці таксі і прыехаць дамоў.

Мы пайшлі працаваць у нашы бюро, а дзеці вучыцца ў сваіх ВНУ. Помню, як **21 верасня,** калі я ішоў у банк, то пабачыў вялікі пажар у Дзіцячым універмагу ля вуліц Кручай і Ерусалімскіх алей. **5 снежня** аддалі ў эксплуатацыю Цэнтральны вакзал у Варшаве. Тады новы Цэнтральны вакзал лічыўся сучасным вакзалам з экскаватарамі ля перонаў, з вялікай білетнай залай, з мармурамі. Цяпер яго хочуць разабраць, каб там паставіць нейкі блок.

**17 ліпеня** амерыканскі касмічны карабель „Апалон" 18 злучыўся з савецкім „Саюзам" 19. Гэта быў супольны касмічны эксперымент.

**8 жніўня** прарвалася ў Кітаі галоўная плаціна, а пасля іншыя меншыя плаціны і згінула 26 тысяч асоб.

Помню таксама, што быў шум у тэлебачанні, калі савецкі дэсідэнт і акадэмік Андрэй Сахараў **9 кастрычніка** атрымаў Нобелеўскую прэмію міра, а **20 лістапада** ў Іспаніі памёр дыктатар генерал Франка і Іспанія стала манархіяй з каралём Хуанам Карласам.

У Польшчы ў 1975 г. 330 800 пар узяло шлюб – найбольш у год ад канца вайны.

У гэтым годзе выйшлі два зборніка вершаў беларускіх паэтаў Беласточчыны: Віктара Шведа ,.Дзяцінства прыстань" і Аляксандра-а Барскага „Мой бераг" у Мінску. Гэта быў другі зборнік вершаў В. Шведа і трэці А. Барскага.

# 1976

Акрамя электрастанцыі Белхатуў я праектаваў аўтаматыку для блокаў 500 мегаватаў у электрастанцыі ў Казеніцах і туды часта ездзіў параважна з іншымі праектантамі аўтамашынай Энергапраекта. Працавала ўжо тады там 8 блокаў па 200 мегаватаў кожны, а пачалі мантаваць турбіну, генератар і трансфарматар для блока 500 мегаватаў, купленыя ў СССР. Першы блок 500 мегаватаў быў аддадзены ў эксплуатацыю ў 1978 г.

**1 лютага** падняўся па тэлебачанні шум, бо ў Гданьску ў адным блоку наступіў вубух газу, яд якога згінула 18 жыхароў гэтага блока, да якіх кватэр не быў яшчэ даведзены газ. Газ у іх блоку паявіўся ў падвале з нейкага трубаправода пад блокам, які праходзіў ад іншага будынка.

**10 лютага** польскі парламент уводзіць папраўку ў канстытуцыю аб вядучай ролі ў дзяржаве партыі ПАРП і аб саюзе з СССР, што вызвала незадаволенасць польскага касцёла і многіх людзей у Польшчы, аднак у выбарах 21 сакавіка ў сейм і народныя саветы паводле дзяржаўных даных брала ўдзел 98 % насельніцтва Польшчы.

У 1975 г. я здаў экзамены і атрымаў білет гіда замежных экскурсій і цяпер у сакавіку з ім з'явіўся я ў турыстычным бюро „Орбіс" і мне прызначылі там весці польскую экскурсію 7 чэрвеня з Варшавы ў Маскву, а пасля ў Баку, Ерэван, Тбілісі і Ваеннай грузінскай дарогай у Арджанікідзе (цяпер Уладзікаўказ), пасля ў Пяцігорск, Мінеральныя Воды, а адтуль самалётам у Кіеў і цягнікам у Варшаву. Аднак перад гэтай экскурсіяй загадалі мне ўзяць савецкую экскурсію па Польшчы. Далі мне экскурсію ў маі: Люблін – Кракаў – Вроцлаў.

**18 мая** выехаў я рана ў Люблін і затрымаўся ў гасцініцы „Меркуры-Унія", дзе быў для мяне забраніраваны пакой з ванным пакоем. Там далі мне нумары пакояў для экскурсіі, паглядзеў я, які ў рэстаране заказаны абед для экскурсіі і чакаў яе. Прыехала экскурсія пасля 13-ай гадзіны савецкім аўтобусам, 40 асоб. З кіраўніком гэтай экскурсіі я прыдзяліў турыстам пакоі ў гасцініцы і пасля ўсе яны сышлі са сваіх пакояў уніз у рэстаран на абед. Я з імі таксама паабедаў. Прыйшла мясцовая жанчына-экскурсавод і яна скіравала экскурсію іхнім аўтобусам па Любліне. Экскурсавод паказала ім Стары горад,

замак, некалькі касцёлаў. Экскурсавод добра ведала рускую мову, так што мне не трэба было яе перакладваць турыстам з польскай на рускую мову. Пасля эскурсіі з'елі мы ўсе вячэру ў рэстаране і а гадзіне 19-тай і былі ўсе свабодныя.

Наступным ранкам пасля снедання ў гасцініцы паехалі мы з той самай жанчынай- зскурсаводам, што была ўчора, у нямецкі канцэнтрацыйны лагер смерці з часу нямецкай акупацыі, у Майданак, які ляжыць некалькі кіламетраў ад Любліна, дзе ад 1941 г. да ліпеня 1944 г. жыло 150 тыс. зняволеных асоб, з якіх згінула там не менш чым 80 тысяч і праўдападобна 60 тысяч яўрэяў. Паказалі нам газавыя камеры, дзе цыклонам немцы забівалі людзей і крэматорную печ, у якой спальвалі забітых, якую немцы не паспелі знішчыць перад прыходам савецкіх танкаў. Пасля Майданка прыехалі мы ў гасцініцу, з'елі абед і а 15-тай гадзіне паехалі ў Кракаў. У гасцініцу „Гранд" у цэнтры горада Кракава прыехалі мы калі ўжо было цёмна. Раздзяліў я разам з кіраўнікам экскурсіі пакоі турыстам у гасцініцы, з'елі мы там вячэру і пайшлі спаць.

Як я даведаўся, экскурсія прыехала са Стаўрапальскага края. Кіраўнік экскурсіі быў з самага Стаўрапаля. Ды калі я сказаў ім, што ў чэрвені буду ў іх краях, то экскурсантка Ніна Мухаева з Кіславодска запрасіла мяне заехаць, калі я буду ў Кіславодску, да яе. Дала мне свой адрас і нумар тэлефона.

Наступным ранкам пасля снедання прыйшла дзяўчына-экскурсавод з Кракава, якая ведала добра рускую мову і павезла нас усіх у шахту солі ў Вялічцы. Хадзілі мы па калідорах-шахтах, аглядзелі ў зямлі касцёлы св. Кінгі і св. Антона зробленыя з солі, саляныя невялікія азёры, саляныя статуі і аздобы. Вярнуліся мы пасля ў гасцініцу, з'елі абед і з экскурсаводам да вечара абашлі пяшком цэнтр горада, былі ў Мар'яцкім касцёле і ў Вавелі, і ў музеі жывапісу, дзе агляделі розныя карціны і карціны Яна Матэйкі, і карціну «„Даму з гарнастаем" Леанарда да Вінчы. Вярнуліся на вячэру. На наступны дзень пасля снедання паехалі мы ў нямецкі канцэнтрацыйны лагер смерці ў Асвенціме, дзе напачатку паказалі нам фільм на рускай мове аб Асвенціме, а пасля мы абышлі ўвесь лагер смерці пехатою. Потым заехалі мы на абед забраніраваны нам у гарадскім рэстаране ў Асвенціме і пасля абеду паехалі ва Вроцлаў. Пад вечар ва Вроцлаве

пасяліліся мы ў гасцініцы „Манаполь”. Там на вячэры ў рэстаране іграў ужо аркестр і хто хацеў мог патанцаваць, а хто быў змучаны – ішоў спаць.

**22 мая** пасля снедання з’явілася жанчына-экскурсавод з Вроцлава, якая добра ведала рускую мову. Яна паказала нам горад і аб ім расказала. Пасля абеда я развітаўся з савецкімі турыстамі, яны паехалі ў ГДР, а я цягніком дамоў і ранкам 23 мая, у нядзелю я быў дома ў Варшаве.

**30 мая** ў Беластоку адбыўся VIII з’езд БГКТ, на якім аднатавалі дваццацігоддзе паўстання таварыства. ГП выбіла пад з’езд медалі „XX год БГКТ”, Мікалая Самоціка выбралі старшынёй, а Георгія Валкавыцкага намеснікам старшыні. М. Самоцік падаў, што БГКТ выдала 43 кніжных пазіцый і між імі 19 беларускіх календароў тыражом 5-6 тысяч экземпляраў у кожным годзе. Выйшла больш чым 1000 нумараў „Нівы”. Алесь Баршчэўскі выдаў „Гісторыю Беларускай Літаратуры. Фальклор”. У Мінску выйшла кніжка для дзяцей Віктара Шведа „Дружба”.

**7 чэрвеня** ў аўторак сустрэўся я на Цэнтральным вакзале ў Варшаве з маёй польскай экскурсіяй. Праверыў, ці кожная асоба мае паспартную ўкладку і даў кожнай з іх месца ў спальным вагоне цягніка Варшава-Масква. Вагон быў савецкі і ў кожным купэ было 4 спальныя месцы. Білеты для групы і іх прозвішча я раней атрымаў у „Орбісе”. Паехалі мы ў напрамку на Брэст. Група была з розных гарадоў Польшчы. Многа асоб было з Люблiна, ды былі і з Варшавы і з падваршаўскіх мясцовасцей, а нават з Беластока. Пашпартная праверка дакументаў і мытная багажу прайшла ў Тэрэспалі і ў Брэсце спакойна. У Брэсце стаялі мы гадзіны дзве, ды ніхто з вагона не выходзіў. Цэлую ноч ехалі мы ў Маскву і ранкам на Беларускім вакзале сустрэў я савецкага экскурсавода, дзяўчыну з Вільнюса, якая добра ведала польскую мову. Яна завяла нас у экскурсійны аўтобус „Інтурыста”, які завёз нас у гасцініцу „Бухарэст”. Там атрымалі пакоі. Для турыстаў з групы былі адзін пакой на дзве асобы. Кожны пакой быў з ванным пакоем і туалетам, толькі я і дзяўчына-экскурсавод атрымалі пакоі аднамесныя, таксама з ванным пакоем і туалетам. Хутка зышлі мы ўніз у рэстаран на снеданне, а пасля селі ў аўтобус і паехалі аглядаць Маскву. Завезлі нас, натуральна, у Маўзалей Лені-

на а пасля аглядзелі мы Крэмль і, як заўсёды, царскую гармату і звон на крамлёўскім пляцы, яго саборы і вярнуліся на абед у гасцініцу. Пасля абеда паказалі нам музей жывапісу -- Трэцьякоўскую карцінную галерэю. Вярнуліся мы ў гасцініцу і мелі час вольны да вячэры.

На наступны дзень, **9 чэрвеня** да абеда паказалі нам „Аружэйную палату " ў Крамлі, а пасля абеда паркі Масквы і пасля вячэры завезлі нас на аэрадром і пасадзілі ў самалёт Масква – Баку. Ноччу ляцелі мы тры гадзіны на поўдзень і а 23 гадзіне выйшлі з самалёта на аэрадроме ў Баку. У Маскве ў чэрвені было халаднавата, а ў Баку тэмпература паветра была больш чым $25^0$ С. Завезлі нас у прыгожую гасцініцу „Азербайджан" ля самага Каспійскага мора, дзе ў кожным пакоі быў ванны пакой і туалет. Я і дзяўчына–экскурсавод атрымалі 2 аднамесныя пакоі, іншыя турысты двухмесныя.

На наступны дзень **10 чэрвеня** хадзілі мы пехатою па горадзе, дзе паказалі нам стары горад Баку, яго Дзявочую вежу, мячэць Бібі Эйбат, палац Шырвашакаў і іншыя месцы. Пасля абеда мелі мы час вольны і гулялі па горадзе, па моле ля гасцініцы. На моры бачылі мы нафтавыя вышкі.

На наступны дзень **11 чэрвеня** пасля снедання завезлі нас на аэрадром і паляцелі мы над Каўказскімі горамі ў Ерэван. Пагода была сонечная і з акна самалёта бачылі мы цудоўныя панарамы гор. У Ерэване завезлі нас у гасцініцу „Ані" ў цэнтры горада. Пакоі былі з усімі выгадамі, як раней.

Пасля абеда паехалі мы ў армянскі патрыяршы сабор Каталікаса ўсіх Армян у Эчміадзіне, які ляжыць 15 кіламетраў ад Ерэвана, паказалі там нам сабор, цэрквы і музей. Драўляны сабор там быў збудаваны ў 301 г., калі хрысціянства ў Арменіі стала дзяржаўнай рэлігіяй, а каменны ў V і VII стагоддзі. Знаходзіцца там рэзідэнцыя патрыярха Каталікаса ўсіх Армян (1738-41 гг). Яго палац стаіць на пляцы манастыра. Паказалі нам царкоўны музей, дзе знаходзяцца іх царкоўныя рэліквіі, царкоўныя аблачэнні вышытыя золатам і жэмчугам, посахі і крыжы каталікасаў, рытуальныя прадметы зробленыя з золата, срэбра і слановай косці, крэсла каталікасаў, старыя рукапісы, мініяцюры. Паказалі нам храмы Рыпсіма (618 г) і царкву Шокагат. Адтуль аглядалі мы гару Арарат на турэцкім баку, дзе згодна з Бібліяй затрымаўся каўчэг Ноя.

Армянскія хрысціяне не прызнаюць чацьвёртага хрысціянскага сабору ў Халцэдоне, які сцвярджаў, што Ісус Хрыстос у адной асобе злучае дзве натуры, боскую і чалавечую, што ёсць Богачалавекам. Яны верацць, што Ісус Хрыстос мае толькі адну натуру -- боскую, што ёсць толькі Богам. Тым яны розняцца ад праваслаўных і каталікаў. Калі быў сабор у Халцэдоне ў 451г., іх прадстаўнік не прыехаў на сабор і яны пастановы гэтага сабора ў 506 г. адкінулі, каб быць незалежнымі ад Візантыі. Тых, якія верацць, што Ісус Хрыстос мае толькі натуру боскую, называюць монафізітамі.

На наступны дзень паказалі нам горад і завезлі ў музеў Матэнадаран, дзе аглядзелі мы старыя армянскія кнігі і рукапісы, пасля пад помнік Генацыда армян у 1915 г., калі туркі вынішчылі 1,5 млн. армян і пад помнік „Маці Арменіі" і запрапанавалі нам паехаць у стажытны храм бога сонца Мітры з эпохі элінізму з I стагоддзя ў Гарні, які знаходзіцца 30 км. ад Ерэвана. За транспарт на экскурсію трэба было, кожнаму хто хоча паехаць, заплаціць 5 рублёў. У сувязі з тым, што надвор'е было дрэннае, на экскурсію запісаліся толькі 9 асоб. Тады прадстаўніца „Інтурыста" сказала нам, што на 9 асоб не дадуць нам аўтобуса, а толькі дзве „Волгі". Аднак пасля абеда прыехала пад гасцініцу забраць жадаючых ехаць толькі адна „Волга". Пачалася жараб'ёўка, хто паедзе. Да мяне падышла экскурсаводка з Вільнюса і спыталася, ці я хачу ехаць у Гарні. Я сказаў, што ў такіх абставінах я не магу паехаць, хай едуць людзі з групы. Акрамя дзяўчыны-экскурсавода і шафёра паехала 4 асобы: адзін мужчына з Варшавы і тры жанчыны. Старэйшая жанчына з Варшавы, Соф'я Рынгман, села першая спераду ля шафёра, а мужчына разам з дзяўчынай-экскурсаводам і з дзвюма іншымі жанчынамі селі ззаду за шафёрам.

Я і рэшта турыстаў мелі вольны час да вячэры, а пасля ў нашым плане было наведванне тэатра, дзе будзе выступаць армянскі ансамбль песні і танцаў. Да вячэры я сам пагуляў па вуліцах горада. Калі з'явіліся мы ў рэстаране на вячэры, то я здзівіўся, што яшчэ не прыехалі турысты з Гарні. Кіраўнік з „Інтурыста" сказаў, што яны хутка вернуцца, а нам трэба ісці ў тэатр, які быў недалёка ад гасцініцы. У тэатры я ззаду пачуў размову нейкіх чэхаў, якія сядзелі блізка мяне. Яны гаварылі, што нейкая „Волга" з турыстамі наехала на аўтобус з дзецьмі. Я тады падумаў, ці гэта не „Волга" з нашымі турыста-

мі. Калі мы вярнуліся ў гасцініцу, мяне вызвалі ў пакой "Інтурыста", дзе паведамілі аб катастрофе, якую перажыла група, якая паехала ў Гарні. Прасілі мяне прабачэння, што не паведамілі мяне раней, ды не хацелі мне псаваць настрой перад тэатрам. Аказалася, што недзе на паўдарогі да Гарні, „Волга" з польскімі турыстамі з'ехала на левы бок шашы і з сілай наехала на аўтобус, які вёз дзяцей. Згінуў шафёр „Волгі" і Соф'я Рынгман, якая сядзела ля шафёра. Турысты, якія сядзелі ззаду ўсе параненыя і ляжаць у бальніцы 20 км ад Ерэвана. Сказалі, каб я ўстаў заўтра раней, бо хочуць мяне завезці ў бальніцу, каб я сустрэўся з параненымі. „Інтурыст" не ведае, ці шафёр, калі ехаў, меў інфаркт, ці заснуў і з'ехаў на левы бок шашы – гэта пасведчыць анатаміраванне яго трупа.

На наступны дзень ранкам, **13 чэрвеня**, калі мы павінны былі ехаць у Тбілісі, звезлі мяне машынай у бальніцу, 20 км ад Ерэвана. Завялі мяне да дзяўчыны – экскурсавода з Вільнюся, якая мела зламаную правую руку вышэй ад локця. Яна пачала плакаць, калі мяне пабачыла. Расказала, як яны ехалі і што здарылася. Я з жалем з ёй развітаўся, бо я далей паеду без яе. А яна добра ведала і польскую мову, і месцы, аб якіх трэба было расказваць турыстам. Цэраз некалькі год я яе сустрэў, калі быў з польскай групай на экскурсіі ў Вільнюсе. Яна мяне першая там пазнала.

Потым сустрэўся я з мужчынам з Варшавы. Ён сядзеў у „Волзее" ля самых дзвярэй і меў не вельмі моцна параненую галаву. Меў яе забінтаваную. Ён хадзіў сам па пакоі. Сказаў мне, што калі б ён сядзеў спераду, то не дапусціў бы да катастрофы, схапіў бы за руль і скіраваў бы машыну ўправа.

Ад яго я пайшоў да лекаркі з Беластока, Тамары Сьнежык, якая мела толькі зламаную стапу адной нагі і падпіраючыся кіем хадзіла па пакоі. Трэцяя жанчына мела зламаную нагу вышэй калена і яна толькі магла ляжаць, не ўставала. Яна была з-пад Варшавы.

Я аставіў параненых ў бальніцы, вярнуўся ў гасцініцу, сабраў з камісіяй усе рэчы і грошы забітай у катастрофе, пазваніў па тэлефоне ў польскае пасольства ў Маскву і папрасіў, каб яны паведамілі „Орбіс" аб катастрофе. Пасля абеду паехалі мы турыстычным аўтобусам „Інтурыста" ў Тбілісі.

Затрымаліся мы толькі на 20 мінут ля возера Севан перад кіёскам з мінеральнай вадой, напіліся, хто хацеў піць, хтосьці ўвайшоў у ваду возера, каб пачуць ці яна цёплая  і паехалі мы далей. Пад вечар былі мы ў Тбілісі і закватаравалі нас у гасцініцы „Аджарыя" ў пакоях з усімі выгадамі. У гасцініцы ў рэстаране атрымалі мы вячэру.

Да 1936 г. Тбілісі мела назву Тыфліс, а грузіны называлі яго Тпілісі, ад цёплых крыніц вады, якія там выплываюць.

На наступны дзень, **14 чэрвеня**, жанчына-экскурсавод завезла нас фунікулёрам на гару Мтацмінда, з якой аглядзелі мы панараму горада з яго храмамі і дамамі. Экскурсавод не ведала польскай мовы, а толькі рускую і я мусіў перакладваць яе словы на польскую мову. За вакзалам фунікулёра кідаўся ў вочы пусты высокі пастамент. Як сказала экскурсавод, раней стаяў на ім помнік І. Сталіну, які ўжо некалькі год перад намі па загаду ўлад скінулі. Пахадзілі мы па парку на гары і на абед прыехалі ў гасцініцу. Пасля абеда паглядзелі мы стары горад з разбуранай цытадэллю Нарыкала, старыя вуліцы горада, прыгожую царкву Семебе, што азначае ў перакладзе Св. Тройца. Пасля завялі нас ў царкву св. Давіда (грузінскага цара), дзе недалёка ад царквы стаяць пантэоны грузінскіх пісьменнікаў і паэтаў, а таксама рускага пісьменніка А. Грыбаедава і маткі І. Сталіна. Кацярыны Г. Джугашвілі.

**15 чэрвеня** пасля снедання завезлі нас у Мцхету, гарадок у некалькі кіламетрах ад Тбілісі. Там жыве епіскап Тбілісі і знаходзіцца кафедральны сабор Светыцхавелі, што ў перакладзе азначае „Жыватворны Слуп". Кафедральны сабор вялікі з адным купалам. Ва ўсіх армянскіх і грузінскіх цэрквах купалы не авальныя, як у нас, а вострыя. Сабор быў пабудаваны ў 11 стагоддзі на месцы першай царквы з 4 стагоддзя. У Грузіі праваслаўнае веравызнанне стала дзяржаўным у 326 г. Згодна з грузінскімі хронікамі сабор стаіць на месцы, дзе пахавалі хітон Ісуса Хрыста ў які была завернутая яўрэйка Сідонія. На магіле Сідоніі вырас вялікі кедр, які стаў свяшчэнным дрэвам для жыхароў Мцхеты. Калі грузіны прынялі хрысціянства, тое дрэва зрэзалі і на гэтым месцы сталі будаваць храм, ды ён распадаўся. Тады выстругалі з гэтага кедра слуп і паставілі яго ўнутры храма і тады маглі яго пабудаваць. Жыватворны слуп стаіць амаль у цэнтры храма, над ім пабудавалі каменныя сені, якія распісалі

фрэскамі. Большасць фрэскаў паказвае гісторыю хітона Ісуса Хрыста і самога Слупа.

Ад сабора павезлі нас дарогаю на гару, на якой у месцы, дзе зліваюцца рэкі Арагвы і Куры, стаіць старажытная царква, акружаная абароннай сцяной, Джвары, што значыць крыж. Калі мы ў ёй былі, царква была вельмі знішчаная, ніхто ёю не апекаваўся. Аб ёй успамінае рускі паэт Лермантаў у сваёй паэме "Мцыры". Недалёка ад яе стаіць яго помнік. Аб гэтай царкве я напісаў верш „Джвары", які ўвайшоў у мой зборнік вершаў „Эцюды падарожжа" і на вокладцы гэтага зборніка я паказаў, як выглядаў тады гэты храм. Цяпер яго грузіны адрэстаўравалі і там адбываюцца набажэнствы.

Пасля экскурсіі і абеду мы мелі вольны час, а пасля вячэры агледзелі ў тэатры грузінскі ансамбль, яго песні і танцы.

**16 чэрвеня** пасля снедання паехалі мы „Грузінскай ваеннай дарогай" ў Арджанікідзе (цяпер Уладзікаўказ). Мелі мы праехаць аўтобусам 208 км праз Каўказскія горы. Праехалі мы паблізу Мцхеты і Джвары, дзе мы ўчора былі. Я сядзеў у аўтобусе з правага боку і бачыў глыбокую прорву, дзе плыла ўнізе відочная як вузкая стужка рака Арагва. Калі б наш аўтобус упаў у гэту прорву, усе б мы згінулі. Аднак нідзе не бачыў я ўнізе разбітай машыны, як калісь у Югаславіі ля шашы ўздоўж Адрыятычнага мора. Ехалі мы павольна і асцярожна падымаючыся ўверх. Затрымаліся ля вёскі Ананура, дзе пабачылі замкавы ансамбль. У крэпасці была нейкая разбураная грузінская царква. У храме мы пабачылі савецкія адносіны да старых фрэскаў. Былі яны брудныя, пацарапаныя. Цяпер іх аднавілі. Пасля затрымаліся мы на нейкі час ля Крыжовага перавала (2384 м), дзе ляжаў яшчэ снег. Потым мінулі мы раку Арагву, павярнулі направа і пачалі ехаць уздоўж ракі Церак. Высока з левага боку бачылі мы доўгі час гару Казбек (5047 м.) з пакрытай снегам вяршыняй. Затрымаліся мы на кароткі час ў Казбегі і паехалі ўніз па даліне ракі Церак да Дар'ялбскай цясніны. Позна пасля поўдня прыехалі мы ў Арджанікідзе ў гасцініцу „Імперыял", дзе атрымалі пакоі і абед. Да вячэры мелі мы вольны час і самі пагулялі па вуліцах сталіцы Паўночнай Асецінскай Аўтаномнай Рэспублікі.

**17 чэрвеня** сустрэўся я пры сняданні ў рэстаране гасцініцы з вельмі прыгожай маладой дзяўчынай-асецінкай, якая была экс-

курсаводам нашай групы. Яна ведала толькі рускую мову і трэба было мне пасля ў аўтобусе польскім турыстам перакладваць яе словы на польскую мову. Яна мне сказала, што асецінцы ўсе праваслаўныя ды ў Арджанікідзе жывуць і армяне, і іншыя каўказскія народы, якія з'яўляюцца мусульманамі. Павезла яна нас да абеда ў горы і паказала нам у пячорах пахаваных старых жыхароў гэтых мясцін. Пасля абеда павазіла нас па горадзе, паказала нам асецінскую праваслаўную цакву з 1860 г., армянскую царкву з 1868 г. і суніцкую мусульманскую, вельмі прыгожую, мячэць, з якой тады зрабілі музей. Завезлі нас у месца, да якога ў 1942 г. дайшлі немцы. Горад Арджанікідзе яны не маглі захапіць.

У 1784 г. паўстала тут руская крэпасць Уладзікаўказ і ад яе таксама назвалі горад, і толькі ад 1931-44 гг. і ад 1954 горад называлі Арджанікідзе, ад 1944 да 1954 г. горад меў назву Джауджыкау. І ў 1990 г. вярнулі яму назву Уладзікаўказ.

**18 чэрвеня** экскурсавод завезла нас пасля снедання ў горад Нальчык, у сталіцу Кабардына-Балкарыі. Праязджалі мы тады па дарозе праз горад Бяслан, аднак у ім не затрымоўваліся. Нальчык – гэта невялікі горад, у перакладзе азначае малую падкову. Нальчык 28 кастрычніка 1942 г. занялі немцы і акупавалі яго да 3 студзеня 1943 г. Экскурсавод нам раскала, што ў сувязі з тым, што многія жыхары Нальчыка супрацоўнічалі ў часы нямецкай акупацыі з немцамі, па загаду І. Сталіна ўсіх жыхароў горада 8 сакавіка 1944 г. вывезлі 14 эшалонамі ў Сібір і ў Казахстан. Вярнуліся яны назад пры М. Хрушчове. Расказала нам, што ў 1928 г. разбурылі ў Нальчыку прыгожую праваслаўную царкву Прападобнага Сімяона Стоўпніка і пасля далі веруючым на іх моцнае патрабаванне нейкі малы домік, дзе яны маглі маліцца. Нальчык – курортная мясцовасць. Паказалі нам санаторыі і нейкі краязнаўчы музей. Абед з'елі мы ў невялікім рэстаране ў Нальчыку і наша група паехала, развітаўшыся з экскурсаводам, у Пяцігорск. Прыехалі мы пад вечар аўтобусам у Пяцігорск у гасцініцу „Інтурыст", там атрымалі пакоі і да вячэры мелі вольны час.

**19 чэрвеня** новы экскурсавод, таксама дзяўчына, з Пяцігорска паказала нам горад, музей М. Лермантава, дом у якім ён нейкі час жыў, месца, дзе згінуў ён на дуэлі, яго помнікі, прыгожы парк „Цветнік", пячору, альтанку „Эолаву арфу", дзе вецер калісь іграў на арфе,

многа санаторыяў, возера Тамбукан і іншыя месцы. Сваю назву горад Пяцігорск атрымаў ад гары Бештау, што ў перакладзе з цюркскай мовы азначае пяць вяршынь, бо гара Бештау мае пяць вяршынь, а самая высокая (993,7 м) называецца Машук. З Пяцігорска добра відна гару Эльбрус.

Экскурсавод сказала, мне, што пасля абеду група паедзе ў Кіславодск і я па тэлефону пазваніў да знаёмай з экскурсіі ў Польшчы, Ніны Мухаевай, што буду з экскурсіяй у Кіславодску. Яна мяне паведаміла, дзе будзе мяне чакаць.

Кіславодск ляжыць на вышыні 800-1069 м, і з'яўляецца горадам санаторыяў і дамоў адпачынку. На аўтобусе экскурсавод паказала нам будынкі цікавых курортаў, „Нарзанную галярэю" з „Кіпячай студняй", адкуль выплывае нарзан (мінеральная вада), „Мядовыя вадаспады", дзе вада падае з вышыні 18 м. На канец экскурсіі на „Курортным бульвары" я папрасіў экскурсавода, каб зявезла групу ў гасцініу на вячэру і на ноч. Я выйшаў з аўтобуса і сустрэўся з Нінай Мухаевай. Яна завяла мяне да сябе на кватэру, дзе пазнаёміла са сваёй маткай і сынам і пайшлі мы на шпацыр у парк. З парку бачылі мы добра гару Эльбрус, яе белую снежную папаху. Калі мы зноў вярнуліся на кватэру Ніны, быў ужо яе муж. Правялі мы прыемна разам вечар і я пераначаваў у іх у другім пакоі, а ранкам 20 чэрвеня, пасля снедання, Ніна адвезла мяне са сваім сынам электрычнай чыгункай у Пяцігорск. Прыйшлі мы ў гасцініцу, калі група польскіх турыстаў была на снеданні.

Пасля снедання група выехала аўтобусам на аэрадром у Мінеральныя воды і самалётам паляцелі мы ў Кіеў. У Кіеве з аэрадрома завезлі нас ў гасцініцу „Інтурыста" „Славутыч", там атрымалі мы пакоі і сышлі на абед уніз у рэстаран. Пасля да вячэры мелі мы вольны час.

**21 чэрвеня** пасля снедання завезлі нас у Сафійскі сабор, які быў пабудаваны па загадзе князя Яраслава Мудрага. Савецкая ўлада ў 1934 г. адабрала яго ад праваслаўнай царквы і зрабіла з яго музей-запаведнік. Пабачылі мы высокую званіцу і ўнутры царквы прыгожыя мазаікі святых і вялікую мазаіку Багамацеры–Араніі. Пабачылі мы бюст князя Яраслава Мудрага, які быў зроблены на падставе яго чэрапа. Сабор у 1596 г. пад націскам польскага караля Зігмунда III Вазы захапілі ўні-

яты ды ў 1630 г. адабраў яго ад іх праваслаўны мітрапаліт Пётр Магіла. Сафійскі сабор я бачыў раней, у 1970 г., калі ехаў з жонкай у Адэсу, аб чым я пісаў у сваіх успамінах.

Пасля паехалі мы ў Кіева–Пячэрскую лаўру, да 1930 г. праваслаўны манастыр. Савецкая ўлада адабрала яго ад Царквы і зрабіла з яго музей-запаведнік. Перад уваходам у калідоры са святымі мошчамі пабачылі мы вялікія карціны Страшнага Суда. Пасля аглядзелі мы сотні святых мошчаў, нейкія ляжаць ужо некалькі стагоддзяў і не разбураюцца. Экскурсаводка гаварыла нам, што прычынай гэтаму з'яўляецца адпаведняя глеба пачор у якіх ляжаць святыя астанкі. На абед вярнуліся мы ў гасцініцу ў рэстаран. Пасля абеда павезлі паказаць нам вуліцы Кіева такія як Крашчацік і іншыя ды працуючы Андрэеўскі праваслаўны сабор. Пасля вячэры, калі я ішоў у свой пакой, папярэдзілі мяне, што быў тэлефон, якім паведамілі, што давязуць да нас тры асобы. Я быў упэўнены, што прывязуць да нас раненых, якіх мы аставілі ў бальніцы, калі пакідалі Ерэван. Я папрасіў толькі, каб мяне разбудзілі, калі іх прывязуць і пайшоў спаць. Аднак ноччу ніхто не прыехаў.

**22 чэрвеня**, калі група прыйшла ў рэстаран на снеданне, нікога да нас не давезлі. І толькі а гадзіне 11-ай пад'ехаў аўтобус з параненымі. Мужчына з забінтаванай галавой і доктарка Сьнежык пайшлі ў свае пакоі, а трэцюю жанчыну з-пад Варшавы прынеслі ў пакой на насілках. Яна не магла хадзіць. Я тады хутка пазваніў у польскае пасольства ў Кіеве, каб яны паведамілі „Орбіс" у Варшаве, што мусяць прыслаць мне пад наш цягнік у Варшаве карэту хуткай дапамогі, якая магла б яе адтуль завезці ў бальніцу ў яе горад пад Варшавай.

Пасля абеда завезлі нас на чыгуначны вакзал і далі нам спальныя вагоны, у кожным купэ было па 4 месцы. Параненую прынеслі ў купэ цягніка і паклалі яе на ніжнюю полку. І так мы паехалі ў Варшаву.

**23 чэрвеня** праехалі мы спакойна граніцу; ні савецкія, ні польскія мытнікі не патрабавалі ў нікога з групы паказваць багаж. Ранкам мы з'явіліся на варшаўскім вакзале. Аказалася, што па параненую прыехаў з яе горада лекар з самаходам хуткай дапамогі і чакаў яе. І тады раптам параненая сказала, што яна хоча, каб яе завезлі на аперацыю ў варшаўскую бальніцу, бо яна лекарам са свайго горада не давярае. Я развітаўся з групай і вярнуўся да параненай і папр-

асіў шафёра і лекара з хуткай дапамогі з яе горада, каб завезлі нас у варшаўскую бальніцу па вул. Ліндлея. Там пачаткова не хацелі яе прыняць, бо яна з іншага горада, ды яна пазнала там нейкага знаёмага ёй лекара, што праходзіў, бо яна таксама была лекарам, і ён памог ёй, і яе прынялі ў бальніцу. Тады толькі я мог вярнуцца дамоў, раней паведаміў па тэлефону маю жонку Ніну аб усім, што здарылася і што я чакаю ў бальніцы і хутка прыеду дахаты. На наступны дзень я перадаў у „Орбісе" пад пратакол рэчы і грошы забітай Софіі Рынгман і зрабіў справаздачу з экскурсіі. Як я даведаўся ў „Орбісе", труну забітай прывезлі ўжо даўно самалётам у Варшаву і ўжо яе пахавалі, калі мы былі ў СССР.

Калі мы былі на экскурсіі, 8 чэрвеня Э. Герак паехаў у Бон і нармалізаваў адносіны між Польшчай і Заходняй Германіяй. Быў ён там з візітам да 12 чэрвеня.

**6 чэрвеня** СССР выслаў ракету „Саюз" 21 з касманаўтамі Віталіем Жлобавым і Барысам Валынавым на касмічную станцыю Салют-5; яны былі там 49 дзён, да 24 жніўня.

Калі я вярнуўся з экскурсіі, **24 чэрвеня** ў Сейме прэм'ер Пётр Ярашэвіч аб'явіў праект павышэння цэн на прадукты харчавання: цэны на мяса і мясныя прадукты павысілі на 69%, на масла і сыры на 50%, на цукар на 100%, на рыс на 150% і на гародніну на 30%. Усе працуючыя мелі атрымаць павышэнне зарплаты на 20%, калі хто больш зарабляў, тым больш атрымаў бы грошаў павышэння заробкаў.

На вестку аб павышэнні цэн у прамысловым прадпыемстве „Лучнік" у Радаме пачаўся пратэст рабочых. За імі пайшлі другія прадпрыемствы. Рабочыя з прадпыемстваў выйшлі ў горад на дэманстрацыю. А 11 гадзіне перад будынкам ВК ПАРП сабралася блізка 4 тыс. пратэстуючых. Рабочыя дамагаліся адмены павышэння цэн. Улада, аднак, маўчала. Тады а 14 гадзіне натоўп рабочых увайшоў у будынак і пачаў яго нішчыць. З пакояў выкідвалі партрэты Леніна, з даху сарвалі чырвоны флаг і павесілі бела-чырвоны. Пасля будынак падпалілі і зрабілі блакаду вуліц, каб не даехала пажарная каманда. Пачаліся вулічныя баі рабочых і студэнтаў з ЗОМО да 21 гадзіны. А гадзіне 20-ай улада адмяніла павышэнне цэн. У час баёў згінула тры асобы, 198 асоб было параненых. Міліцыя затрымала 634 асобы, засудзілі

на турэмнае зняволенне 8 асоб ад 8-мі да 10 гадоў, 11асоб -- ад 5 да 6гадоў, а 6 асоб ад 2 да 4 гадоў. Матэрыяльныя страты выцэнілі на 77 мільёнаў злотых. Было спаленых 5 грузавікоў, 19 легкавых аўтамабіляў, пажар пашкодзіў будынак Ваяводскага камітэта ПАРП. Улады пачалі прапагандную кампанію асуджэння пратэставаўшых, назвалі іх „радомскімі звадднікамі".

Страйкавалі таксама рабочыя ў Урсусе ля Варшавы і ў Плоцку. У ліпені ўвялі картачкі на цукар: можна было купіць толькі кілаграм цукру ў месяц на асобу.

**2 ліпеня** наступіла афіцыйльнае аб'яднанне Паўночнага і Паўднёвана В'етнама.

Вайна, якую пачалі ЗША ад 1963 г. з дапамогай Паўднёваму В'етнаму і ад 2 сакавіка1965 г. страшнымі бамбёжкамі Паўночнага В'етнама і атакамі 536 тыс. амерыканскіх салдатаў у 1968 г прынесла паражэнне амерыканцам. Амерыканцы ганебна выйшлі з В'етнама і аддалі Паўднёвы В'етнам у рукі паўночнав'етнамскіх камуністаў. Выйшлі таксама з Лаосу і Камбоджы. ЗША страцілі ў вайне 55 тыс салдатаў забітымі і 300 тыс. салдатаў параненымі і амаль 100 самалётаў.

**18 ліпеня** ў Ніццы ва Францыі аграбілі банк, украўшы 6 млн. фунтаў штэрлінгаў.

**21 ліпеня** ірландскія баевікі забілі англійскага пасла ў Ірландыі Крыстафэра Іверта-Бігса.

**28 ліпеня** ад землятрусу ў Таншане ў Кітаі згінула 650 тыс. людзей.

**9 жніўня** савецкая аўтаматычная міжпланетная станцыя „Луна" 24 даляцела да Месяца, прызямлілася на ім 18 жніўня, забрала з яго з глыбіні 2 метраў 170 грамаў глебы і 22 жніўня вярнулася на Зямлю.

**8 жніўня** я атрымаў з „Орбіса" праграму, каб прыняць у Любліне савецкую турыстычную групу і давезці яе да Вроцлава, таксама як 18 мая. Ды цяпер трапілася мне група армян, якім удалося правезці праз граніцу некалькі скрынак армянскага каньяку. Гэтая група не вельмі цікавілася турыстычнымі аб'ектамі ў Польшчы, а гандлявала рознымі прывезенымі з сабою рэчамі. У Кракаве не захацелі ехаць у шахты солі ў Вялічку, а хацелі мець вольны час. Кіраўнік іх групы падпісаў мне згоду, што група адмаўляецца ад экскурсіі ў Вялічку у і я адпусціў у Кракаве польскага экскурсавода, які меў нас завез-

ці ў Вялічку і паказаць горад. Экскурсаводам была дзяўчына. Былі мы толькі ў музеях Майданка і Асвенціма і пабачылі горад Люблін. Нават не ўсе ездзілі аўтобусам па Вроцлаве. 13 жніўня вярнуўся я з Вроцлава дамоў.

**9 верасня** памёр у Кітаі Мао Цзедун, кіраўнік дзяржавы і КПК, а 7 кастрычніка арыштавалі яго жонку- ўдаву, бо яна захацела захапіць уладу ў „бандзе чатырох".

**15 верасня** СССР выслаў касмічную ракету „Саюз 22" з касманаўтамі Уладзімірам Аксёнавым і Валерыем Быкоўскім на касмічную станцыю Салют-5. Яны фатаграфавалі Зямлю. Вярнуліся яны на Зямлю 23 верасня.

Я атрымаў з „Орбіса" экскурсію з польскай групай у Ялту. Гэта была адпачынкавая экскурсія. **19 верасня** сустрэў я групу на варшаўскім аэрадроме і пасля пашпартнай і мытнай праверкі паляцелі мы ў Кіеў, а там пасля такога самага кантролю пераселі ў самалёт у Сімферопаль, адтуль аўтобусам завезлі нас у вялікую і высокую гасцініцу „Ялту" ля самага Чорнага мора. Там атрымалі мы двухмесныя пакоі з усімі выгадамі. Толькі я атрымаў пакой аднамесны. Пляж быў ля самай гасцініцы. Ежа ў рэстаране гасцініцы была вельмі смачная. У Ялце я быў у 1970 г. Прыплыў сюды караблём з жонкаю з Адэсы на адзін дзень. Цяпер сюды прыехаў я другі раз на два тыдні.

Акрамя вольнага часу, каб загараць на пляжы і купацца ў Чорным моры, мелі мы з экскурсаводкай некалькі экскурсій. Адна экскурсія была катэрам па моры, дзе з мора мы пабачылі важнейшыя палацы Ялты, як „Лівадыю", „Алупку" і іншыя месцы – „Ластаўчына гняздо" на скале і бераг Чорнага мора, і Крымскія горы. Пасля была экскурсія ў палац Лівадыю, які калісь быў царскім палацам і ў якім праходзіла Ялцінская канферэнцыя Рузвельта, Сталіна і Чэрчыля. Пабачылі мы ўнутры ўсе пакоі ў палацы. Былі мы таксама ў палацы ў Алупцы. Аглядалі мы парк у Ялце. Завезлі нас у Бахчысарай у калішнюю сталіцу Крымскага Ханства, дзе нам паказалі ханскі палац (Хансарай) з яго гарэмам, з „Фантанам Слёз", пакоем рускай царыцы Кацярыны II, якая сюды калісь прыязджала. Час прайшоў вельмі прыемна, без трагедыі, як на папярэдняй экскурсіі, і 3 кастрычніка завезлі нас у Сімферопаль на аэрадром і самалётам давезлі нас да Кіева, а з Кіева таксама самалётам вярнуўся я з турыстамі ў Варшаву.

**8 кастрычніка** аддалі ў грамадскае карыстанне шлях Варшава – Катавіцы.

**14 кастрычніка** прайшоў няўдалы палёт савецкай касмічнай ракеты „Саюз 23” з касманаўтамі Вечаславам Жыдавым і Валерыем Раджественскім на станцыю „Салют -5” . Яны не маглі састыкавацца з „Салютам-5” і 16 кастрычніка вярнуліся на Зямлю.

**16 кастрычніка** з працы маёй жонкі Ніны была арганізаваная экскурсія аўтобусам на поўдзень Польшчы. Мяне яна запісала і заплаціла, і мы паехалі разам. Затрымаліся мы ў гасцініцы ў Кракаве і адзін дзень аглядалі мы старую сталіцу Польшчы, былі ў Вавелі і іншых музеях Кракава, а пасля паехалі на поўдзень у Пеніны.

Аглядалі мы стары амаль разбураны замак у Чорштыне і больш прыемны ў Нядзіцы, вазілі нас лодкамі на парогах ракі Дунайца і на чацвёрты дзень вярнуліся мы ў Варшаву. Тады толькі пачалі будаваць між Чорштынам і Нядзіцай вялікае вадасховішча. У 1997 г. пабудавалі ля Нядзіцы гідраэлектрастанцыю з дзвюма турбінамі магутнасці 46 мегаватаў кожная.

На выбарах ў ЗША Геральд Форд не быў выбраны на прэзідэнта. На яго месцы ў лістападзе стаў Джымі Картэр з дэмакратычнай партыі.

**23 верасня** 14 асоб стварыла Камітэт Абароны Рабочых рэпрэсіраваных (KOR) пасля забастовак у Радаме. Патрабавалі яны ад улады, каб вярнулі на працу ўсіх рабочых, якіх звольнілі, і каб улада правяла амністыю для асуджаных і выпусціла іх з турмы.

# 1977

У „Энергапраекце”я далей выдаваў праекты звязаныя з аўтаматыкай блокаў 500 мегаватаў і аўтаматыкай падачы вугля ў катлы Электрастанцыі Казеніцэ і аўтаматыкай блокаў 360 мегаватаў у электрастанцыі Белхатуў. На гэтыя электрастанцыі часта ездзіў у камандзіроўкі пераважна раз на тыдзень самаходам „Ныса” з “Энергапраекта” ці прыватнымі самаходамі праекціроўшчыкаў.

**26 лютага** ад пажару ў непрацуючай у Маскве гасцініцы „Россия” згінула 42 асобы, а больш, як 60 асоб, было параненых.

У „Орбісе“ атрымаў я, як гід з польскімі турыстамі, экскурсію ад 1 сакавіка ў СССР. Выехалі мы цягніком з Варшавы ў Маскву цераз Брэст. Ранкам былі мы ў Маскве, дзе на Беларускім вакзале сустрэла нас дзяўчына-экскурсавод і аўтобусам „Інтурыста” завезла нас ў вялікую і прыгожую гасцініцу „Рус-отэл” пры вул. Варшаўская шаша, далёка ад цэнтра Масквы, дзе атрымаўшы мы пакоі з усімі выгадамі і з'еўшы снеданне, паехалі на экскурсію па горадзе і пад маўзалей Леніна. Пасля абеду пабачылі мы, як многія экскурсіі, Крэмль, яго саборы, а пасля вячэры былі мы на балеце „Лебядзінае возера” ў Вялікім тэатры оперы і балета. На наступны дзень пасля Трэцьякоўскай галерэі і абеду завезлі нас на аэрадром і паляцелі мы самалётам у Адлер ля Сочы і з аэрадрома завезлі нас у Сочы ў гасцініцу „Жемчужина”, дзе атрымалі мы пакоі з ваннымі пакоямі і вячэру. Гасцініца „Жемчужина” вельмі прыгожы і вялікі 19-павярховы будынак, у якім знаходзіцца амаль 1000 пакояў з відам на бераг Чорнага мора. Побач знаходзіцца басейн з салёнай марской вадой і недалёка ад гасцініцы ёсць чарнаморскі пляж. На наступны дзень пасля снедання паказалі нам горад Сочы, яго парк, а пасля абеда Гагру, прыгожы марскі курорт у Абхазіі. 5-га сакавіка пабачылі мы горнае возера Рыца ў Абхазіі на вышыні 950 м., акружанае горамі з зялёна-блакітнай вадой. Аб ім я напісаў верш „Ля возера Рыца”, які ўвайшоў у зборнік вершаў „Эцюды падарожжа”. Пад вечар завезлі нас на вакзал у Сочы і цягніком у спальным вагоне паехалі мы ў Тбілісі. Ранкам былі мы ў Тбілісі ў гасцініцы „Інтурыста” „Аджария”, дзе далі нам пакоі і снеданне. Потым паказалі нам горад, а пасля абеду фенікулёрам завезлі нас у парк на гары Мтацмінда, там пахадзілі мы і паглядзелі з гары на панараму горада. 7-га сакавіка завезлі нас у горад Горы, паказалі нам горад і дом дзе нарадзіўся І. Сталін і жыў там чатыры гады. Малы драўляны дом у якім ён жыў з шаўцом бацькай і маткай стаіць пад мармуровай павеццю. Пры ім стаяў высокі помнік І. Сталіну на 9-ціметровым пастаменце, які толькі ноччу з 24 на 25 чэрвеня 2010 г. Саакашвілі і грузінскі ўрад паціху далі загад разабраць яго. На яго месцы мелі паставіць помнік загінуўшым грузінам у вайне з Расіяй у 2008 г., калі Грузія напала на Паўднёвую Асецію. За помнікам паставілі яшчэ пры жыцці дыктатара вялікі музей І. Сталіну ў стылі класіцызму, у якім знаходзіцца тры аддзелы, а ў іх усе падаркі, якія прыслалі яму на яго 70 гадавіну нараджэння, яго мэбля, дакументы,

фатаграфіі, карціны, ілюстрацыі, артыкулы з газет. На фатаграфіях паказывалі тады яго дачку Святлану Алілуеву, якая ўцякла раней з СССР у ЗША. Нядаўна туды прывезлі і паставілі яшчэ браніраваны чыгуначны вагон, у якім Сталін ездзіў на канферэнцыю ў Ялту і ў Тэгеран у час вайны. Цяпер два невялікія помнікі І. Сталіну стаяць ля музея і ў музеі. Па смерці дыктатара аказалася, што І. Сталін змяніў дату свайго нараджэння. Ён нарадзіўся 6 снежня 1878 г., а не як афіцыйна падавалі 21 снежня 1879 г. У гэтым доме перад ім нарадзіліся два яго браты. Першы брат Іосіфа быў Міхал, які нарадзіўся 14 лютага 1876 г. і жыў толькі два месяцы, другі яго брат, Георгій, нарадзіўся 24 снежня 1876 г. і памёр 19 чэрвеня 1877 г. І. Сталін у гэтым доме хварэў воспай, якая аставіла на яго твары сляды. Акрамя музея І. Сталіну паказалі нам на гары разбураную старую крэпасць Гарысціхе і 12 км . ад Горы храм „Афінскі Сіон", падобны да „Джвары" ля Мцхеты, які я аглядаў у 1976 г. і апісаў ва ўспамінах з 1976 г. Храм быў збудаваны ў VII стагоддзі.

Мяне і польскіх турыстаў дзівіла, што амаль усе шафёры ў Горы мелі на вокнах сваіх машын налепленыя партрэты І. Сталіна.

Калі мы вярнуліся з Горы ў Тбілісі, з'елі абед у гасцініцы, тады завезлі нас на вакзал і ў спальных вагонах паехалі мы ў Баку. Вячэру з'елі мы ў вагон-рэстаране. Ранкам прыехалі мы ў Баку і затрымаліся ў гасцініцы „Азербайджан". Пасля снедання завезлі нас паказаць 30 км ад горада месцы і пячоры, дзе людзі калісь маліліся богу-агню. Вера гэта прыйшла з Індыі і называецца зарастрызм ад іх прарока Заратуштры. Паказалі нам стары ў гэтай мясцовасці „Храм вечнага агню", дзе газ, які выходзіць з зямлі, вечна ў ім гарыць. У гэтай мясцовасці у многіх месцах газ, які выходзіць з зямлі, пры сустрэчы з кіслародам сам запальваецца і гарыць агнём.

Калі мы вярнуліся ў гасцініцу ў Баку, то пасля абеда мелі мы час вольны. **9-га сакавіка** паказалі нам горад, старую бакінскую крэпасць Ічэры-Шэхер, акружаную крэпаснай сцяной, па вуліцах якой мы хадзілі пяшком, і пабачылі там дварэц Шырваншахаў, а пасля Дзявічую вежу і іншыя кварталы горада Баку. Пасля абеда завезлі нас на аэрадром і самалётам паляцелі мы ў Кіеў. **10 сакавіка** аглядзелі мы Кіеў і Пячэрскую лаўру. Аб іх я пісаў у сваіх успамінах з 1976 г. 11 сакавіка вярнуліся мы самалётам у Варшаву.

Калі былі мы на экскурсіі, то 4 сакавіка ў Бухарэсце ў Румыніі быў моцны землетрус. Разбурыў ён многа будынкаў у сталіцы Румыніі.

**27 сакавіка** на аэрадроме Санта Круз на Тэнерыфе (іспанскі востраў на Атлантычным акіяне) сутыкнуліся два пасажырскія самалёты, Беінгі 747 (амерыканскі і галандскі). Згінула ў катастрофе 582 пасажыры.

Дайшлі да нас весткі ад знаёмых з „Энергапраекта" ў Кракаве, што там **16 мая** была дэманстрацыя супраць забойства студэнта Ягелонскага ўніверсітэта Станіслава Пыяса, якога цела знайшлі **7 мая** (нарадзіўся ён у Крынках).

**9 мая** ў пажары гасцініцы „Полен" у Амстэрдаме згінула 33 асобы.

**14 мая** закончылі ў Польшчы будову электрастанцыі „Дольная Одра" ў Новым Чарнове ля Грыфіна. Электрастанцыя магутнасці 1832 мегаватаў з 8 блокамі (2 блокі па 200 мегаватаў і 6 блокаў па 232 мегаватаў). Праектаваў электрастанцыю „Энергапраект Глівіце."

**20 мая** я сустрэў савецкую эскурсію з пад Уладзіміра ў матэлі ля Любліна, там з'елі мы абед і я іх прывёз у Варшаву ў гатэль „Брыстоль", дзе я з імі атрымаў пакоі і вячэру. **21 мая** экскурсавод з Варшавы паказаў ім горад, на Старым горадзе пабачылі яны фільм аб Варшаве, якая яна была пасля вайны, музеі Варшавы, а вечарам хадзілі мы ў кінатэатр на амерыканскі фільм „Сківіцы" аб пражэрлівай акуле. **22 мая** паехаў я з імі аўтобусам „Саўтрансаўта" у Вроцлаў у гасцініцу „Манаполь". і **23 мая** аглядзеў з імі горад. А **24 мая** я паехаў з імі пасля снедання ў Кудову-Здруй, дзе з'елі мы абед у рэстаране, агледзелі курорты і каталіцкі храм людскіх чэрапаў у Чэрмнай, аб якім я пасля напісаў верш „Храм у Чэрмнай", увайшоўшы у мой зборнік вершаў „Эцюды падарожжа". Сцены і столь храма ў Чэрмнай вылажаны 3000 людскімі чэрапамі, а 20-30 тыс. чалавечых чэрапаў знаходзіцца ў падвале капліцы. Чэрапы гэты калісь сабралі пасля сілезкіх войнаў у 1740-42 і 1744-45 гадах з суседніх палёў.

Пасля савецкая экскурсія паехала ў Чэхаславакію, а я ў спальным вагоне цягніком вярнуўся дамоў.

**27 мая** згінула 60 асоб у катастрофе на Кубе ў савецкім самалёце Іл-62.

**8 чэрвеня** атрымаў я з „Орбіса" польскую адпачынковую экскурсію ў Румынію ў Эфорыю Суд над Чорным морам. Сустрэў я польскую экскурсію ў Варшаве на Цэнтральным вакзале і ў спальным вагоне паехалі мы праз Украіну ў Канстанцу, адтуль забраў нас румынскі аўтобус і завёз у Эфорыю Суд, дзе атрымалі мы кватэры ў вялікім курортным доме „Капітоль", які стаяў паблізу Чорнага мора. Нашым апекуном быў старэйшы румынскі экскурсавод, які ведаў добра польскую мову і гаварыў, што ён па нацыянальнасці серб. Сталовую мы мелі метраў 100 ад нашага дома і туды кожны дзень хадзілі мы на снеданні, абеды і вячэры.

На другі дзень завезлі нас на фабрыку румынскіх він. Паказалі нам прадукцыю розных сартоў вінаградных він, а пасля зрабілі нам іх дэгустацыю. Пасля мы адпачывалі над морам. У суседнім доме жыла польская экскурсія, якая прыехала з-пад Элка з нейкага ПГР. Гэту экскурсію прывезла мая знаёмая гід з Кракава. На чацвёрты дзень зявезлі нашу групу ў Канстанцу і паказалі горад і музеі, а пазней яшчэ курорты Мамаі, дзе я адпачываў у 1968 г. На наступнай аўтобуснай экскурсіі наш апякун паказаў нам увесь румынскі літараль, мясцовасці і ў курортах вельмі прыгожыя курортныя дамы над Чорным морам, давёз нас да самай балгарскай граніцы. У сталовай сустрэў я знаёмую суседку Мікалая Фармакоўскага з Бялграда, Дабрылу Паязітовіч, якую я пазнаў у 1974 г. на кватэры Мікалая, калі ехаў у камандзіроўку на электрастанцыю ў Тузлу. Яна таксама прыехала сюды на адпачынак з Крагуеўца з Югаславіі. Ды яна раней ад мяне выехала.

Меў я там непрыемную сітуацыю, бо да аднаго пакоя на трэцім паверсе ў гасцініцы цераз адкрытыя дзверы балкона улез румынскі злодзей і ўкраў торбачку з дакументамі і залатым ланцужком у нашай турысткі з групы. Мела яна аднак шчасце, бо злодзей выкінуў пасля торбачку з дакументамі без залатога ланцужка і знайшла яе румынская міліцыя, і вярнула ёй. Бо турыстка мусіла б ехаць у Бухарэст у польскае пасольства, каб атрымаць права на выезд дамоў. З-за неасцярожнай турысткі з Лодзі, якая не зачыніла дзвярэй да пакоя на балкон, я мусіў некалькі раз хадзіць са скаргай у румынскаю міліцыю.

**30 чэрвеня** пад вечар завезлі нас на вакзал у Канстанцу і ў спальным вагоне цераз СССР вярнуліся мы **23 чэрвеня** ў Варшаву.

**2 ліпеня** ў Кітаі выкінулі з Камуністычнай Партыі так званую „банду чатырох", у якую уваходзіла ўдава Мао Цзедуна Цзян Цін і трох яе памочнікаў ( іх арыштавалі ўжо ў 1976 г. пасля смерці Мао Цзедуна) і 18 жніўня на ІХ з'ездзе КП К адкінулі курс Мао Цзедуна, Культурнай рэвалюцыі, у час якой згінула сотні тысяч людзей.

**9 ліпеня** пад Вроцлавам сутыкнуўся цягнік Прага – Масква з паравозам. Згінула 10 асоб, а 15 было параненых.

**19 ліпеня** ўлады Польшчы выдалі дэкрэт аб амністыі для тых рабочых, якіх прыгаварылі да турэмнага зняволення за выступленні супраць улады ў Радаме ў 1976 г. пасля павышэння цэн на спажывецкія прадукты.

**27 ліпеня** паехаў я аўтобусам разам з жонкай на экскурсію ў Турцыю ў Стамбул цераз Чэхаславакію, Венгрыю, Румынію, Балгарыю. Пасля з Турцыі паехалі мы у Грэцыю і з Грэцыі цераз Югаславію, Венгрыю, Чэхаславакію вярнуліся дамоў. Паехала разам з намі, як другі гід, Вольга Карчэўская, мая сяброўка са школы ў Чаромсе-е, якая ў Варшаве была маім экзаменатарам з рускай мовы на курс гіда замежных экскурсій. Выехалі мы ранкам і паехалі цераз Кросна і Санок, даехалі мы да чэхаславацкай граніцы і даехалі цераз Міхалоўцэ да венгерскай граніцы.

На Венгрыі затрымаліся мы на начлег ў Дэбрэцэне. На наступны дзень пераехалі мы румынскую граніцу і прыехалі на некалькі гадзін у Плаешці, дзе пабачылі нафтаперагонныя заводы і паехалі ў Бухарэст, каб пабачыць колькі шкоды зрабіў там землятрус 4 сакавіка 1977 г. а гадзіне $21^{20}$. У Бухарэсце землятрус разбурыў 33 гістарычныя будынкі. Раны гораду, якія прынёс землятрус, яшчэ мы тады бачылі наўкол на вуліцах.

З Бухарэсту паехалі мы ў Балгарыю і затрымаліся на два дні ў курортным доме „Чайка" ў Сонечным Берагу ля самага берага Чорнага мора. Пагода была сонечная, пляж пясчаны, мора спакойнае, так што мы адпачылі пасля падарожжа. Там сталаваліся мы ў рэстаране. На другі дзень пасля абеду завезлі нас у гарадок-музей Несебер, які ляжыць на поўдзень ад Сонечнага Берага на выспе даўжынёй 800 м

і шырынёй 200 м. Там стаяць цудоўныя невялікія драўляныя домікі, руіны сцен старай крэпасці з V стагоддзя, руіны сямі старых візантыйскіх цэркваў з IX і X ст., як царква Хрыста Пантакратара, царква св. Сафіі і іншыя, а таксама відаць сляды турэцкай няволі.

**31 ліпеня** цераз Бургас паехалі мы ў Турцыю. Балгарскі мытнік нас прапусціў без заглядвання ў нашы багажы, а турэцкі мытнік запатрабаваў даць яму сто долараў ЗША, тады нас прапусціць, інакш кажа выцягваць усе нашы багажы з-пад падлогі аўтобуса і іх правяраць. І экскурсія сабрала яму гэту суму долараў і мы паехалі ў Стамбул, які да 1930 г. называўся Канстантынопалем, бо 11 мая 390 г. імператар Рымкай Імперыі Канстанцін Вялікі перанёс з Рыма ў Канстантынопаль сваю сталіцу. Калі распалася Рымская імперыя, Канстантынопаль стаў сталіцай Візантыі. У 1204 г. напалі на яго вераломна і неспадзявана у IV крыжовым паходзе (які меў ісці на Егіпет) крыжаносцы, якія яго разграбілі і панавалі ў ім да1261 г., стварыўшы Лацінскую імперыю. І тады многія рэліквіі, помнікі культуры і каштоўнасці забралі з Канстантынопаля і вывезлі на захад. Яны так тады аслабілі Візантыю, што туркі хутка занялі ўсе тэрыторыі Візантыі ў Азіі і перайшлі ў Еўропу, захапілі Сербію, Албанію, Балгарыю, Румынію, частку Венгрыі, і ў 1453 г. Канстантынопаль, якім да сённяшняга дня валодаюць. Занялі яны тады ўсю Візантыю з тэрыторыяй сённяшняй Грэцыі, а пасля Боснію і Герцагавіну і пхаліся далей на захад, і калі б пад Венай іх не разбілі ў 1683 г., яны б увайшлі ў Рым.

Прыехалі мы ў Стамбул цёмнай ноччу ў невялікую гасцініцу „Лінда”, дзе атрымалі двухмесныя пакоі.

На наступны дзень паехалі мы паглядзець сабор Агія Сафія, храм Візантыйскай імперыі, які быў пабудаваны ў 537 г. за візантыйскага імператара Юстыніяна I. Ранейшыя саборы Агія Сафія згарэлі ў пажарах. Гэты сабор туркі пасля захопу Канстантынопаля замянілі на мячэць. Калі ўладу ў Турцыі атрымаў Ататурк, то ў 1935 г. з мячэці зрабілі музей і можна да яго ўваходзіць у абутку. Аб саборы я пасля напісаў верш, „Сабор св. Сафіі” які ўвайшоў у мой беларускі сборнік вершаў „Эцюды падарожжа” і ў польскі „Rezonanse pamięci” і надрукавалі яго пасля ў дзвюх беларускіх анталогіях у Мінску.

Потым мы аглядзелі турэцкую „Блакітную мячэць”(трэба быдо зняць абутак), а пасля абеда паказалі нам палацы турэцкіх султанаў, Топкапы і Долмабахчэ.

Не ўсе асобы з экскурсіі ездзілі аглядаць саборы, мячэці і палацы. Многія прыехалі на гандаль. Прадавалі свае рэчы і куплялі за іх залатыя вырабы і кажухі. Многія не прыходзілі нават на абед.

**1 жніўня** павезлі нас цераз мост на азіяцкую старану і паказалі нам турэцкія  курорты над морам і ў адным з іх мы з'елі абед, так што вярнуліся мы ў Стамбул у гасцініцу „Лінду" толькі вечарам.

**2 жніўня** ранкам паехалі мы ў Грэцыю. На граніцы нас прапусцілі без заглядвання ў нашы багажы. Даехалі мы да Кавалы і затрымаліся ў гасцініцы ля самага Эгейскага мора ля заліва Кавала. Горад калісь называўся Неаполіс. Цяпер гэта прыемны порт. Каляровыя дамы абселі гару. Да 1912 г.панавалі тут туркі. Па Сулеймане I астаўсяя акведукт Камарэс. Аглядзелі мы музей пашы Мухаманда, загаралі на пляжы і купаліся ў моры.

На наступны дзень прыехалі мы ў невялікі грэцкі гарадок, Літахарону, адкуль дзве дарогі вядуць на Алімп, дзе згодна са старажытнымі грэцкімі легендамі жыў іх бог маланак, Зеўс. Пяшком на гадзіны дзве пайшлі мы на гару, падышлі да легендарнага прыстанішча муз і пaглядзелі на даліну Эніпефса. Ды калі мы вярнуліся ў горад, загучаў звон у царкве з вялікім гадзіннікам пад купалам. І мы пабачылі, што людзі з усіх дамоў спяшаць у чорным адзенні ў царкву на паніхіду, бо як нам сказалі, дайшла да іх вестка, што нечакана памёр прэзідэнт Кіпра, архіепіскап Макарыёс III (Міхаліс Хрыстадулу Мукас).

Мы тады паехалі на поўдзень у напрамку Фермапілаў і там затрымаліся на нейкі час. Пабачылі мы месца і помнікі каралю Спарты Леаніду, які з 6000 ваярамі (у тым ліку 300 спартанцаў) абараняў у 480 г. да н.э.  два дні фермапільскі праход ад навалы 170 тысяч персаў. І толькі здрада Эфіальта, які паказаў персам абхадную дарогу, давяла да ганаровай смерці з рук персаў караля Леаніда і ўсіх спартанцаў. Побач шашы выплываюць з гары гарачыя серныя ручаі. Аб Літахароне і аб Фермапілах пасля я напісаў два вершы, якія ўвайшлі ў мой зборнік вершаў „Эцюды падарожжа".

Ад Фермапілаў даехалі мы да гасцініцы ля Стыліса і там затрымаліся на ноч і наступны дзень і ноч. Гасцініца была паблізу пляжа, дзе мы правялі цэлы сонечны дзен. 5 жніўня паехалі мы ў напрамку Афін і затрымаліся на нейкі час у Марафоне і пабачылі месца, дзе ў 490 г. да н.э. быў цяжкі бой з персамі і згодна з непраўдзівай ле-

гендай, пасля перамогі грэкаў Філіпід прабег ад Марафона да Афін 34,5 км. без адпачынку, каб аб'явіць у Афінах аб перамозе. Ён паспеў толькі сказаць аб перамозе і ўпаў мёртвы. У гонар гэтага здарэння ўвялі марафонскі бег.

З Марафона даехалі мы да Афін, затрымаліся ў гасцініцы. Там далі нам вольны час да вячэры.

На наступны дзень прыехалі мы ранкам пад Акропаль і чакалі ў тлуме, калі адкрыюць ухадныя брамы. Пасля з экскурсаводам, які ведаў польскую мову, абышлі мы Акропаль і месцы наўкол яго. Пасля мелі мы дзве гадзіны вольнага часу і я з Нінай пайшлі паглядзець царкву, якая стаяла недалёка Акропаля. Калі ўвайшлі ў яе, аказалася, што гэта руская царква. У 1847 г. рускія ўлады купілі ад грэкаў напоўразбураную царкву з 11 стагоддзя, якую мелі разабраць. Яе адбудавлі і далі назву Святой Тройцы. Тады побач царквы пабудавалі высокую званіцу, паўстаў вялікі васьмівугальны з вялікім купалам храм. Савецкія ўлады гэтай царквой не цікавіліся. Старастам яе быў рускі эмігрант Канстанцін Шчакоцін (па-руску Щекотин). Мы з ім пазнаёміліся і доўгі час я з ім перапісваўся. Яго жонкай была грачанка. Я памог яму знайсці, дзякуючы маім знаёмым з Кіева, яго родную сястру ў Кіеве, з якой ён ад 1941 г. не меў сувязі, не ведаў яе адрасу. Ён пасля з ёй сустрэўся ў Афінах.

Пасля абеда аглядзелі мы яшчэ археалагічны музей.

**7 жніўня** ранкам паехалі мы ў Суніон (ці Суньён), які ляжыць на самым паўднёвым мысе Атыкі. Там аглядзелі мы руіны храма старажытнага бога мора Пасейдана, пабудаванага ў 440 г. да н.э. На яго калоне калісь падпісаўся англійскі паэт Байрон. Ёсць там таксама вельмі слабы след старажытнага храма багіні Афіны. Аб Марафоне, афінскім Акропалі і Суньёне я напісаў вершы, якія знаходзяцца ў зборніку вершаў „Эцюды падарожжа". З Суньёна вярнуліся мы ў гасцініцу ў Афінах.

**8 жніўня** паехалі мы ў Дэльфы, старажытны грэцкі горад, іх рэлігійны цэнтр з храмам Апалона і аракулам. Асталіся ад іх толькі руіны, якія мы аглядзелі разам са стадыёнам. У мой зборнік „Эцюды падарожжа" ўвайшоў верш „Дэльфы", у якім я апісаў усё што мы там бачылі. Пасля затрымаліся мы на дзень у Салоніках і 10 жніўня паехалі цераз Югаслаўскую Македонію і Косава і пад вечар даехалі ў гасц-

ініцу „Метропаль” у Бялградзе. З гасцініцы я пазваніў па тэлефоне Мікалаю Фармакоўскаму, які сваёй машынай прыехаў і забраў нас да сябе. Сустрэліся мы пасля трох год з яго жонкай Невенай і сынам Уладзімірам. Пасля ён адвёз нас у гасцініцу, з якой на наступны дзень даехалі мы пад вечар у Будапешт. 12 жніўня даехалі мы да Цешына, дзе польскія мытнікі шукалі ў многіх залатых вырабаў. Казалі затрымацца на нейкі час маей сяброўцы В. Карчэўскай. Каб не задумалі зноў тамажнікі заглядаць у наш і яе багаж, які мелі мы ў аўтобусе, я загадаў ад'ехаць кіламетр ад граніцы і там яе чакаць. Праз паўгадзіны яна да нас даехала і мы ноччу вярнуліся ў Варшаву.

**8 жніўня** закончыла працу савецкая касмічная станцыя „Салют” 5 і 29 верасня вылецела ў космас новая касмічная станцыя „Салют” 6, якая працавала да 29 ліпеня 1982 г.

**9 жніўня** польскія ўлады змянілі назвы 120 населеных мясцовасцей у паўднёва-ўсходняй Польшчы.

**14 жніўня** ў ГДР загінула 70 савецкіх салдат у Даненвальдзе, ад выбуху ракеты на вайсковым складзе.

**20 жніўня** вылецела ў космас амерыканская сонда „Ваяжэр” 2 без людзей, якая пасля прыслала здымкі планет Юпітэра, Сатурна і даляцела да Нептуна, а 5 верасня вылецела сонда “Ваяжэр” 1, якая аперэдзіла сонду „Ваяжэр” 2 і прысылала здымкі тых самых планет. Сонды гэтыя да сённяшняга дня высылаюць сігналы з космасу. Яны хутка могуць пакінуць нашу сонечную сістэму.

**20 жніўня** вялікая паводка была ў паўднёва-заходняй частцы Польшчы. У Легніцы вада вышынёй 150 см заліла вуліцы.

**У верасні** я сустрэў савецкую экскурсію ў Варшаве, якая прыехала сваім аўтобусам „Саўтрансаўта”. Яна пабачыла горад Варшаву, пасля паехалі мы ў Жалязовую Волю, дзе радзіўся калісь польскі кампазітар Ф. Шапэн. Там пабачылі мы дом-музей, у якім радзіўся Ф. Шапэн і парк наўкол дома, а пасля два дні былі мы ў Познані, дзе пабачылі  цікавыя месцы ў горадзе. Экскурсія пасля паехала ў ГДР, а я цягніком вярнуўся дамоў.

**10 кастрычніка** быў з візітам у Польшчы кароль Бельгіі Будуэн з каралевай Фабёлай.

**10 снежня** ў СССР вылецеў у космас „Саюз” 26 з касманаўтамі Грыгорыем Грэчка, Юрыем Раманенкам, якія ўвайшлі на станцыю

„Салют” 6 і вярнуліся на Зямлю 16 сакавіка наступнага года на „Саюзе” 27, які да іх прыляцеў 10 студзеня 1978 г.

**2 снежня** згінула 59 асоб у Ліване ў катастрофе балгарскага самалёта ТУ-154 Б, а 4 снежня згінула 100 асоб ў Малезіі ў катастрофе самалёта Беінга 737.

**11 снежня** адбыўся семінар „Белавежы”, на якім гаварылі аб падрыхтоўцы да 20-годдзя літаб'яднання і аб кніжцы Аляксандры Бергман „Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu”.

**29 снежня** быў у Польшчы з візітам прэзідэнт ЗША Джым Картэр

# 1978

**1 студзеня** індыйскі Боінг-747 упаў у акіян ля Бамбеі. Загінула 213 пасажыраў.

Беларускі Аддзел БГКТ у Варшаве кожны год на юліянскі Новы год каля **14 студзеня** з суботы на нядзелю арганізаваў у Варшаве навагодні баль, на які прыходзілі не толькі беларусы, але ўкраінцы, рускія, а нават палякі. Прыязджалі на яго таксама беларусы з Падляшша: з Беластока, з Бельска-Падляшскага і з Гайнаўкі. Беларускі Аддзел БГКТ наймаў кожны год на навагодні баль розныя залы ў розных будынках у Варшаве, наканец пачаў наймаць залы ў Палацу Культуры і Навукі ў цэнтры сталіцы Польшчы. На ўсе гэты балі я кожны год хадзіў з жонкаю, а ў 1978 годзе пайшла з намі мая дачка Ірэна, якая вучылася ўжо на трэцім курсе Галоўнай Школы Планавання і Статыстыкі (SGPiS).Там з ёю пазнаёміўся  яе будучы муж Валянцін Пацэвіч з Беластока, народжаны ў Грабаўцы каля Бранска, які тады ўжо закончыў Варшаўскую Палітэхніку і працаваў інжынерам у Беластоку. У 1980 г. атрымаў ён кааператыўную кватэру 70 кв. метраў у Беластоку і 15 лютага 1981 г. мая дачка Ірэна стала яго жонкай. Узялі спачатку 5 лютага грамадзянскі шлюб у Варшаве, а 15 лютага царкоўны ў Прачысценскай царкве Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі ў Бельску–Падляшскім. Сёння ён кіруе ўласным Шматалінавым Прадпрыемствам „Трансбуд”, а Ірэна памагае яму ў яго прадпрыемстве. Кіруе яна адміністрацыйнымі і фінансавымі справамі.

У „Энергапраекце" я працаваў над праектамі блокаў 500 мегаватаў у электрастанцыі „Казеніцэ", з катламі на каменны вугаль. Першы з іх пачаў працаваць у канцы года, а другі блок 500 мегаватаў сінхранізавалі ў 1979 г. Як я ўжо пісаў, блокі (турбіны, генератары, транфарматары, катлы і ўсё машыннае абсталяванне) было закуплена ў СССР. Ездзіў я таксама на электрастанцыю Белхатаў, дзе будаваліся блокі 360 мегаватаў з катламі на буры вугаль, на польскіх турбінах, генератарах і трансфарматарах ды катлах.

Электрастанцыя Казеніцэ ў Свежах Гурных ля Казеніц над ракой Віслай з'яўляецца цяпер другой па магутнасці ў Польшчы электрастанцыяй (пасля Белхатава) , а першай у Польшчы па магутнасці на каменны вугаль. Працуе там 8 блокаў па 200 мегаватаў і 2 блокі па 500 мегаватаў , якія разам маюць пасля мадэрнізацыі магутнасць 2880 мегаватаў.

**9 студзеня** прайшла Нацыянальная Канферэнцыя ПАРП на тэму эканамічнага развіцця і росту даходу насельніцтва. Паведамілі, што камбінат у Плоцку перапрацаваў 100 млн. тон нафты з СССР, павысілі сялянам цэны скупкі малака на 50 грошаў за літр.

На пачатку года зрабіўся шум на Захадзе, бо савецкі спутнік Космас - 954 з атамным рэактарам упаў на зямлю ў Канадзе. На тэрыторыі 100 тыс. км$^2$ упала сотні радыёактыўных элементаў.

**10 студзеня** паляцеў у космас касмічны карабель Саюз-27, з касманаўтамі Уладзімірам Джанібекавым і Алегам Макаравым і ў космасе прымацаваліся разам з Саюзам-26, на якім раней прыляцелі Юрый Раманенка і Георгій Грэчка, да арбітальнай станцыі Салюта-6 і выходзілі на касмічны шпацыр. Вярнуліся яны на Зямлю на касмічным караблі Саюзе-26, які быў прымацаваны да арбітальнай станцыі Салюта-6. Саюз-27 вярнуўся на зямлю 16 сакавіка з касманаўтамі Юрыем Раманенкам і Георгіем Грэчкам, якія прыляцелі на арбітальную станцыю Салют-6 на касмічным караблі Саюз-26.

**2 сакавіка** вылецелі ў космас на касмічным караблі Саюз-28 касманаўты Аляксей Габароў і Уладзімір Рэмек з Чэхаславакіі і прыляцелі на арбітальную станцыю Салют-6. Сустрэліся там з Юрыем Раманенкам і Георгіем Грэчкам і 10 сакавіка іх аставілі і вярнуліся на зямлю.

**22 студзеня** ў катастрофе аўтобуса ў Асечніцы загінула 16 пасажыраў, а 14 было параненых.

**6 лютага** Дзяржаўная Статыстычная Установа паінфармавала, што сярэдняя зарплата ў Польшчы налічвае 4 384 зл. у месяц. Э. Герак у 1972 г. зліквідаваў для працаўнікоў у дзяржаўных прадпрыемствах падатак ад заробкаў. Аднак хлеб 800 г тады каштаваў 4 зл., кг масла – 75 зл., кг яблык – 12 зл., кг свінога мяса – 67 зл., цукар на карткі – 10,50 зл. за кг. Была невялікая плата за кватэру, газ, электраэнергію, каляровы тэлевізар каштаваў 21 000 зл., аўтаматычная польская пральная машына „Поляр" –10 500 зл., чорна-белы тэлевізар – 2 000-3 000 злотых.

**11 лютага** разбіўся ля Канады Боінг-737. Згінула 44 пасажыраў.

**25 лютага** прыехала з югаслаўскай экскурсіяй ў Варшаву жонка Мікалая Фармакоўскага з Бялграда, у якога мы не раз гасцявалі і зайшла да нас і мы з ёй два дні, калі яна была вольная, хадзілі па вуліцах і магазінах Варшавы.

**19 сакавіка** павысілі ў Польшчы на 20% цэны на бензін, амаль 2 зл. на літры.

Літр бензіна стаў каштаваць 13 злотых.

**20 сакавіка** я паехаў як гід ад „Орбіса" ў Каліш прыняць савецкую экскурсію, затрымаўся ў гасцініцы „Просна" і сустрэў яе там. Экскурсія прыехала з Чэхаславакіі на сваім аўтобусе „Саўтрансаўта" і ў гэтай гасцініцы затрымалася. Унізе ў рэстаране з'елі мы разам абед і вячэру. Пасля абеду экскурсавод-жанчына з Каліша паказала ім горад, ратушу, касцёлы і паблізу гасцініцы царкву св. Апосталаў Пятра і Паўла. На наступны дзень пасля снедання тая самая экскурсаводка , якая ў гасцініцы са мной сустрэлася, паказала нам наваколле Каліша, многія мясцовасці і вёску Дарухаў, дзе на „Горцы чараўніц" у 1775 г. спалілі 14 жанчын, абвінавачаных у чараўніцтве.

**22 сакавіка** ранкам мы паехалі ў бок Познаня і затрымаліся-я ў замку ў Курніку, дзе аглядзелі замак унутры, яго мэблю і паляўнічыя трафеі і за замкам прыгожы парк, а пасля паехалі ў Познань і затрымаліся ў гасцініцы, „Паланез". Вечарам пасля вячэры пайшлі мы ў тэатр на оперу Манюшкі, „Страшны двор", а на наступны дзень аб'ехалі і аглядзелі горад Познань. Затрымаліся мы на Старым рынку, дзе пабачылі ратушу і козлікаў на ратушы, блізка ратушы паказа-

лі нам цікавы фарны касцёл у стылі барока і іншыя касцёлы, пасля Тумскі Востраў, ваенны магільнік савецкіх салдат загінуўшых у 1945 г. і іншыя месцы. 24 сакавіка экскурсія паехала ў ГДР, а я цягніком вярнуўся ў Варшаву.

**3 мая** пачалася ў Польшчы серыйная прадукцыя аўтамашыны „Паланез".

**20 мая** я сустрэў на аэрадроме польскую экскурсію з Варшавы і як гід „Орбіса" паляцеў з імі ў Кіеў, а з Кіева ў Сімферопаль на Крым, а адтуль павезлі нас савецкім аўтобусам „Інтурыста" ў гасцініцу „Ялта" ў „Масандураўскім" парку, паблізу горада Ялты і мы правялі там на адпачынку два тыдні ля Чорнага мора. Гасцініца „Ялта" мае больш як 1100 пакояў, стаіць ля берага Чорнага мора, мае пляж ля мора, а ўнутры басейн з падаграванай салёнай вадой. Я ў гэтай гасцініцы быў ужо два тыдні ў 1976 г., а цяпер папаў туды другі раз. У Ялце, як два гады раней, мы пабачылі прыгожы парк, царскі палац „Лівадзію", дзе праходзіла ў час вайны канферэнцыя Рузвельта, Чэрчыля і Сталіна, а таксама іншыя палацы, як „Алупку" і ездзілі ў Бахчысарай. Там паглядзелі палац татарскага хана і плавалі на катэры па моры ля берага Крыма. Нейкія турысты самастойна ў вольны час за сваю валюту паехалі аўтобусам у Севастопаль і вярнуліся ў Ялту. 4 чэрвеня самалётам з Сімферопаля прыляцелі мы ў Кіеў, і другім самалётам з Кіева вярнуліся ў Варшаву.

**20 чэрвеня** я з жонкай Нінай цягніком Варшава-Кіеў паехалі прыватна на запрашэнне дваюраднай сястры Ніны, Тамары Панько (дзявочае прозвішча Некрашэвіч) у горад Сарны Ровенскай вобласці. Там сустрэла нас Тамара і завезла нас у свой дом на вул. Бегмы і там пазнаёміла са сваім мужам Мікалаем. Побач у суседнім доме жылі цётка Ніны, незамужняя Лідзія Чэкмарова і другая дваюрадная сястра Ніны, незамужняя Марыя Кандалец, ды сын Тамары, Алег з жонкай Ларысай. З Алегам сустракаліся мы ў 1970 г. у Адэсе, дзе ён вучыўся ва ўніверсітэце. Цяпер ён быў настаўнікам гісторыі ў сярэдняй школе ў Сарнах. Яго жонка Ларыса была таксама настаўніцай у сярэдняй школе ў Сарнах. Тамара, яе муж, Мікалай і Марыя Кандалец былі ўжо на пенсіі. Цётка Ліда пенсіі не мела, была на ўтрыманні Тамары і яе мужа.

Гэты мураваны дом, у якім жылі цётка Ніны Лідзія з Марыяй, Алегам і Ларысай быў пабудаваны бацькам Тамары яшчэ пры Польшчы, у 30-тыя гады. Тамара і Марыя мелі адну матку, старэйшую сястру маткі маёй жонкі Ніны Аляксандры – Алену, а розных бацькоў. Іх маці памерла яшчэ ў 1926 г, калі радзіла малодшую сястру Тамары Любу. Першы муж Алены, Кандапец, памёр яшчэ ў 1921 г. Другога Аленінага мужа, бацьку Тамары, Васіля Некрашэвіча ў 1941 г. савецкія ўлады вывезлі ў Казахстан. Пасля вайны ён вярнуўся ў Згажэлец, дзе жыў і ўжо памёр і там яго пахавалі. У Тамары была малодшая сястра Люба, ды яе пад Варшавай у 1944 г. застрэліў нямецкі афіцэр, там яна была з дачкой контрадмірала А. Конанава. Аленай Ханенка. А. Ханенка перабралася ва Францыю ў Парыж да свайго брата контрадмірала Івана Конанава і там памерла 19 лютага 1958 г.

У Марыі Кандалец была яшчэ сястра Наталля, ды яна ў час вайны першы раз выйшла замуж за нейкага ўкраінца, нарадзіла яму дачку Кацярыну, разышлася з ім і выйшла другі раз замуж за паляка Пятра Валянскага ды выехала з ім у Польшчу. Жыла тады з ім у вёсцы Канюхі ў Замойскім ваяводстве. Дачку яе Кацярыну Пётр Валянскі ўдачарыў і яна ўжо даўно выйшла замуж і з мужам, сынам і двюма дочкамі жыла ў той час у Ольштыне. Ніна аб гэтым даведалася толькі ў Сарнах...

Мы жылі ў доме, у якім жыла Тамара з мужам,. Дом іх пабудаваў муж Тамары. Дом меў туалет, ванны пакой. Атрымалі мы там у ім аддзельны вялікі пакой.

Ніна мела ў Сарнах знаёмых са школьных гадоў, Вольгу Чмерук і іншых, з якімі цяпер сустрэлася. Яшчэ стаяў дом яе другой маткі (мачахі) Матыльды, якая жыла з намі ў Варшаве, ды быў заселены. У ім з 1938 г. да 1944 г. жыла Ніна, калі яе бацька ажаніўся з Матыльдай. Жыла тады яшчэ ў палове гэтага дома жанчына, якая памагала Матыльдзе ў гаспадарцы. Мы з ёю сустрэліся. Улады Сарнаў забралі гэты дом і яго засялілі і прадалі жыхарам. Ніна сустрэла Вольгу Чмерук і аказалася, што брат яе мужа Анатолій Сохацкі жыве ў Варшаве побач нашага дома. З акна нашай кухні відаць блок, у якім жыве брат яе мужа, які папаўся калісь ў польскае войска, ажаніўся з полькай Янінай і жыў у Варшаве. У канцы снежня 1999 г. ён памёр, а жонка яго Яніна памерла ў чэрвені 2011 г. Мы з імі часта сустракаліся.

Мікалай Панько на сваёй машыне завёз нас у горад Роўна і там сустрэлі мызнаёмых Ніны. Пабачылі мы горад Роўна.

**Пад канец чэрвеня** мы вярнуліся цягнікам у Варшаву.

Некалькі год пасля нашага выезду з Сарнаў памерла цётка Ніны Лідзія, якая мела больш як 90 год. Пасля памерла Німіна дваюрадная сястра. Марыя Кандалец, а ў 90 гады – Тамара. У Польшчы памёр спачатку П. Валянскі, а пасля яго жонка Наталля. У Ольштыне жыве іхняя дачка Кацярына з другім мужам (першы памёр) а дочкі яе выйшлі ўжо замуж, а сын ажаніўся і ўсе яны жывуць аддзельна. Старэйшая яе дачка, Дарота выйшла замуж за немца і жыве ў Дортмундзе. Мае там з ім сына.

**15 чэрвеня** касманаўты Уладзімір Кавалёнак і Аляксандр Іванчанкаў на касмічным караблі Саюз-29 даляцелі да арбітальнай станцыі Салют-6 і там былі да 2 лістапада. Вярнуліся на зямлю на Саюзе-31, бо Саюз-29 вярнуўся на зямлю 3 верасня з касманаўтамі Валерыем Быкоўскім і касманаўтам з ГДР Зігмунтам Йенам, якія паляцелі 26 жніўня да арбітальнай станцыі Салют-6 касмічным караблём Саюз-31. 27 чэрвеня даляцелі да іх на касмічным караблі Саюз-30 Пётр Клімук і польскі касманаўт Міраслаў Гермашэўскі, якія 5 ліпеня вярнуліся на зямлю.

**27 чэрвеня** нарадзіўся ў Польшчы 35-мільённы грамадзянін. Падалі, што за 8 год ад 1970 ла 1978 г пабудавалі ў Польшы 2 млн кватэр. За 8 год пабудавалі тады столькі кватэр, колькі пасля за 20 год у 1991-2010 гадах.

**10 жніўня** атрымаў я з „Орбіса” польскую выпачынковую экскурсію ў Адлер ля Чорнага мора. Вылецелі мы з Варшаўскага аэрадрома і паляцелі пачаткова ў Кіеў, а адтуль другім самалётам у Адлер. Ля Адлера 100 метраў ад мора жылі мы ў вялікім 15- павярховым пансіянаце „Фрэгат” і там адпачывалі. У кожным пакоі быў душ . Я меў пакой № 628 на шостым паверсе. У Адлеры тады стаяла амаль 20 вельмі прыгожых і вялікіх дамоў санаторыяў, у якіх адпачывалі людзі. Першую экскурсію з Адлера зрабілі нам караблём у сталіцуу Аджарскай АССР Батумі. Цяпер Батумі з’яўляецца сталіцай Аджарскай Аўтаномнай Рэспулікі ў Грузіі. Тэрыторыя гэтай рэспублікі ў 1547 г. была захоплена туркамі і была яна ў турэцкай няволі да 1878 г., калі 30 тыс. грузінаў разам з рускім войскам далучылі яе

зноў да Грузіі. Таму ў Аджарыі многа грузінаў стала мусульманамі. Яшчэ ў 1980 г. было іх большасць. Сёння многа мусульман прыняла праваслаўе. У 2002 годзе ў Аджарыі 60,6 % насельніцтва лічыліа сябе праваслаўнымі і 30,4% мусульманамі-сунітамі. У Батумі аглядзелі мы старую крэпасць "Тамара", праваслаўны кафедральны сабор, каталіцкі касцёл і мусульманскую мячэць, якая была музеем. Паглядзелі мы вялікі порт з караблямі.

На шосты дзень завезлі нас караблём і паказалі сталіцу Абхазскай АССР, Сухумі. Сухумі, як і Батумі, доўгі час была ў турэцкай няволі і толькі ў 1810 г. перайшоў горад у рукі рускіх. У Сухумі паказалі нам многа цікавых санаторыяў і вялікі запаведнік малпаў, у якім жыло іх амаль 2500. У 1989-93 г. пачалася вайна між грузінамі і абхазцамі. Горад вельмі быў разбураны грузінскай артылерыяй. Большасць малпаў уў запаведніку была застрэлена. Быццам бы яшчэ асталося там 250 малпаў. Абхазія стала незалежнай дзяржавай пад апекай Расіі. Незалежнасць Абхазіі прызнаюць толькі Расія, Венесуэла, Нікарагуа, Науру і Прыднястроўская Малдаўская Рэспубліка. Нават Беларусь не хоча яе прызнаць. Аднак сёння ў Абхазіі жыве паводле перапісу насельніцтва з 2003 г. толькі 4,5% грузінаў , а абхазцаў 51,3%, а ў 1989 г. грузінаў жыло 41,5% . а абхазцаў толькі 12,5%.

На 9-ты дзень завезлі нас аўтобусам над возера Рыца, дзе я быў ужо ў 1977 г., аб чым я пісаў у маіх успамінах... 25 жніўня вярнуліся мы самаёлётам праз Кіеў на аэрадром у Варшаву.

**6 жніўня** памёр у Кастэль Гандольфа рымскі папа Павел VI, выбраны папам 21 чэрвеня 1963 г. Ён не раз сустракаўся з канстантынопальскім праваслаўным патрыярхам Атанагорам і яны адклікалі ў 1965 г. узаемныя анафемы, якія калісь накінулі каталіцкі папа на праваслаўнага патрыярха, а праваслаўны патрыярх на каталіцкага рымскага папу.

**26 жніўня** быў выбраны ў Ватыкане новы рымскі папа Ян Павел I, які быў рымскім папам толькі 33 дні і памёр 2**8 верасня**. Многія мяркуюць, што яго хтосьці ў Ватыкане задушыў, бо ён кожны дзень парушаў ватыканскія правілы і ўводзіў новыя парадкі, якія не падабаліся епіскапам і кардыналам. **16 кастрычніка** выбралі рымскім папам польскага кардынала Карла Вайтылу, які назваў сябе Янам

Паўлам II. Памятаю, у Польшчы святкавалі выбары папам польскага кардынала і цешыліся з яго выбару нават камуністы.

**8 верасня** ў Ніны бюро арганізавалі экскурсію ў Плоцк, Быдгашч і Торунь і мяне туды Ніна ўпісала, У Плоцку аглядзелі мы мазавецкі каталіцкі музей, каталіцкія касцёлы і старакаталіцкі вялікі касцёл марыявітаў, якіх у 1906 г. адлучыў ад каталіцкага касцёла рымскі папа Пій X за крытыку марыявітамі каталіцкага духавенства пасля быццам бы аб'яўлення  Богамаці манашцы Феліцыі Казлоўскай.

Пасля паехалі мы ў Быдгашч і там пераначавалі ў гасцініцы. На другі дзень аглядзелі мы горад Быдгашч са старым горадам у рэчышчы Брды і паехалі ў Торунь і там, пераначаваўшы ў гасцініцы, на наступны дзень аглядзеўшы горад і музей Каперніка, вярнуліся ў Варшаву.

**15 верасня** паехаў я ранкам цягніком у Познань на тэхнічную нараду у Энергетычнае Прадпрыемства Заходняй Акругі (ZEOZ). Пасля заканчэння нарады, а 13 гадзіне сустрэў я ў Гасцініцы „Паланез" беларускую экскурсію з Магілёва, якая прыехала на аўтобусе „Саўтрасаўта" з ГДР. Пасля абеда ў гасцініцы польская экскурсаводка з Познаня, якая ведала рускую мову, забрала групу іх аўтобусам на экскурсію па горадзе Познані. Паказала ім цэнтр горада, ратушу, касцёлы і магільнік савецкіх салдат, якія згінулі ў 1945 г. у час баеў з немцамі, і вечарам вярнуліся мы ў гасцініцу на вячэру і начлег. На наступны дзень пасля снедання паехалі мы па дарозе ў Варшаву на замак у Курніку, які аглядзелі з мясцовым экскурсаводам. Пабачылі мы замак і парк. Пасля па дарозе ў Варшаву затрымаліся на гадзіну ў Жалязовай Волі, адкуль родам Ф. Шапэн. Аглядзелі там дом, дзе ён радзіўся і парк. На 16 гадзіну прыехалі мы на абед і на начлег у гасцініцу „Гранд" ў Варшаве на вул. Кручай, 100 м. ад „Энергапраекта, дзе я тады працаваў. Я там таксама атрымаў пакоў на начлег. Да вячэры група мела вольны час.

Беларускія турысты гаварылі паміж сабою толькі на рускай мове. Калі я запытаўся ў іх, чаму не карыстаюцца роднай мовай, яны мне сказалі, што яны не нацыяналісты і, што па-руску гавораць у сябе дома, хаця ведаюць беларускую мову. Былі здзіўлены, калі я ім сказаў, што ў Польшчы жыве многа беларусаў, якія гавораць паміж сабою па-беларуску. Я прынёс і паказаў ім Беларускія календары, якія вы-

дала БГКТ. Нават кіраўніку групы я падараваў Беларускі каляндар за 1978 г, які я тады купіў.

На наступны дзень я завёз групу на вул. Крэдытову ў Таварыства Польска-Савецкай дружбы , дзе ўжо чакаў экскурсію варшаўскі экскурсавод-жанчына, якая добра ведала рускую мову і яна паказала ім Стары горад Варшавы і правезла іх па цэламу гораду. Пасля абеду я з імі развітаўся, яны паехалі ў Беларусь, а я вярнуўся дамоў.

**22 верасня** ў „Энергапраекце" арганізавалі экскурсію ў Райск на Аўгустоўскае возера. Я паехаў з жонкаю на тры дні. Начавалі мы там у абаграваных электрычнымі печкамі драўляных кемпнігавых доміках, а елі мы снеданні, абеды і вячэры ў сталовай у курортным доме ў лесе. Вудзільшчыкі лавілі там рыбу ў возеры. Між імі былі спаборніцтвы, хто большую і лепшую рыбу зловіць. Мы з Нінай адпачывалі ля возера.

**15 лістапада** ў Шры-Ланцы разбіўся ісландскі самалёт ДЦ-8. Загінула 183 пасажыры.

**18 лістапала** 911 членаў секты „Храм народа" ў Гуяне пакончылі жыццё самагубствам.

# 1979

**1 студзеня** Кітай і ЗША наладзілі дыпламатычныя адносіны, а 7 студзеня в'етнамская армія ўвайшла ў Камбоджу і выкінула адтуль Чырвоных Кмераў і 10 студзеня паўстала Народная Рэспубліка Камбоджы.

**У студзені** прыйшлі вялікія маразы, у газетах назвалі іх зімой стагоддзя. Помню, як на ТЭЦ Сякеркі ў Варшаве замерз вугаль на складзе і цеплацэнтраль спыніла на некалькі дзён абагравання нашых кватэр. Тэмпература у мяне на кватэры панізілася да12° С, трэба было хадзіць у паліто па хаце.

**31 студзеня** Галоўная Установа Планавання падала, што сярэдні заробак у 1978 г. у Польшчы налічваў 4 680 зл. Я тады меў асноўную месячную зарплату 7 200 зл. і месячную премію 100-110 %. Э. Герак у 1972 г. ліквідаваў падатак ад заробкаў для працаўнікоў у дзяржаўных прадпрыемствах. І пры ім мы не плацілі падатку ад заробку. Увялі яго зноў ад 25 ліпеня 1991 г. Аднак тады амерыканскі долар на

чорным рынку каштаваў 110-120 зл. Картачкі былі толькі на цукар. У месяц можна было купіць 1 кг цукру за 10,50 злотых.

**1 лютага** ў Іран вярнуўся з Францыі аятола Хамеіні, і шах Ірану ўцёк з дзяржавы, а **14 лютага** дэманстранты ў Тэгеране захапілі амерыканскае пасольства разам з 103 працаўнікамі. Трымалі іх як заложнікаў..Хацелі, каб амерыканцы ім выдалі шаха Ірану.

Помню, **15 лютага**, калі я працаваў у бюро, а мае вокны выглядалі на вуліцу Кручу, я пачуў за акном нейкі гук. Хутка дайшлі весткі, што ў Ратундзе ПКА на вугле вуліц Маршалкоўскай і Ерусалімскіх алеяў наступіў моцны выбух. Як пасля аб'явілі па тэлебачанні, што гэта быў выбух газу і ад яго тады згінула 49, а параненых было 110 асоб, якія ў той час былі ў ПКА. Пасля працы я пайшоў паглядзець здалёк. Ад Ратунды асталася куча друзу і разбітага шкла. Блізка падыйсці міліцыя не дазваляла.

Я далей праектаваў і ад часу да часу даязджаў у электрастанцыю Казяніцы, дзе ўжо гатовіліся да сінхранізацыі блока № 10 прадукцыі СССР магутнасці 500 мегаватаў і ў электрастанцыю Белхатаў, дзе будавалі польскі блок магутнасці 380 мегаватаў і дзе землечарпалкі дабіраліся да бурага вугля.

**5 сакавіка** амерыканскі касмічны зонд Ваяджэр праляцеў міма Юпітэра на адлегласці 280 тыс. кіламетраў ад яго.

**20 сакавіка** дайшлі чуткі, што была нейкая забстоўка на суднаверфі ў Гданьску, ды яна хутка закончылася., а 30 красавіка была моцная паводка ля Пултуска і Астралэнкі, і па тэлебачанню паказвалі, як прыязджаў туды яе аглядаць прэм'ер-міністр Пётр Ярашэвіч.

**28 сакавіка** была аварыя рэактара на амерыканскай атамнай электрастанцыі.

**4 мая** сустрэў я ля  гасцініцы „Еўрапейскай" у Варшаве грузінскую экскурсію, якая прыехала аўтобусам „Саўтрансаўта". Пасля вячэры, пераначаваў я з імі ў гасцініцы „Еўрапейскай" і наступным ранкам пасля снедання экскурсавод з Варшавы зявезла нас у Вілянаў і паказала ім парк і палац ўнутры, а пасля абеда горад Варшаву.

**6 мая** паехаў я з імі ў Жэлязовую Волю, дзе з экскурсаводам аглядзелі мы дом у якім нарадзіўся Ф. Шапэн, і парк у якім стаіць дом, і ў Познань. 7мая пабачылі яны горад Познань і пасля абеда паехалі ў ГДР, а я цягнікам вярнуўся дамоў. У Познані начавалі мы ў гасцініцы „Паланез".

Я атрымаў з „Орбісу" на **20 мая** польскую экскурсію, якая пачыналася а гадзіне 12-тай на пероне вакзала ў Пшэмыслі. Паехаў я туды цягніком і там сустрэў групу з фабрыкі „Герлях.". У цягніку, які падышоў на перон, мелі мы заказныя месцы. Выехалі мы з Пшэмысля а гадзіне14:23 і праз Масціскі прыехалі мы ва Львоў а гадзіне18:24. На вакзале ва Львове чакаў нас аўтобус „Інтурыста", які завёз нас у гасцініцу „Гранд-Атэль". Там мы атрымалі вячэру і пакоі з ваннымі пакоямі. На другі дзень пасля снедання селі мы ў аўтобус „Інтурыста", у якім экскуравод, які ведаў добра польскую мову, паказаў нам горад, касцёлы, цэрквы, помнікі і Лычакоўскія могілкі.

Львоў пасля першага падзела Польшчы ў 1772 г. перайшоў да Аўстра-Венгрыіі і называўся Лемберг. Лычакоўскія могілкі ўзніклі дзесь у 1786 годзе. Лычакоўскія могілкі гэта музей на адкрытым паветры, там на 40 гектарах стаіць больш за 3 000 розных надмагільных помнікаў і скульптур багатых гараджан Львова, палякаў, рускіх, украінцаў і армян. Стаяць там надмагільныя помнікі паэтаў і пісьменнікаў такіх як Іван Франко, М. Канапніцкая, Г. Запольская і іншых паэтаў і пісьменнікаў. Могілкі „Польскіх Арлянят" тады былі закрытыя і запушчаныя. Нікому тады не дазвалялі туды ўвайсці. У Львове я быў ужо раней з жонкаю Нінай прыватна ў 1970 г.

Пасля вячэры завезлі нас на вакзал і спальным вагонам паехалі мы ў Адэсу. 22 мая ў Адэсе з вакзала завезлі нас ў гасцініцу „Кантыненталь" па вул. Дэрыбасаўскай у цэнтры горада і пасля снедання паехалі мы з экскурсаводам аглядаць горад. Хадзілі мы па „Пацёмкінскай лесвіцы" і былі ў Марскім порце, дзе стаялі караблі. Пасля вячэры мелі мы вольны час і я пазваніў па тэлефоне знаёмай сям'і Коласаў, з якімі мы пазнаёміліся ў 1970 годзе, калі мы плылі караблём у Ялту і якая прыязджала да нас у Варшаву. Прыехала хутка да мяне дачка Коласа Аня і забрала мяне да сябе. З імі я правёў увесь вечар. 23 мая пасля снедання пабачылі мы ваенна-гістарычны музей, а пасля абеда мелі мы вольны час і паехаў я да Галіны і Тані Ачымовічаў, у якіх я з Нінай быў госцем у 1970 г., калі яшчэ жыў пісьменнік Ціхамір Ачымовіч. На жаль, на кватэры Ачымовічаў не было ні яго жонкі, ні яго дачкі, выехалі яны ў Югаславію. Аддаў я іх суседцы падарунак, які я ім прывёз, каб яна яго ім перадала калі вернуцца дамоў і паехаў у гасцініцу.

**24 мая** пасля снедання падстаўленым аўтобусам „Інтурыста” паехалі мы ў Кішынёў, сталіцу Малдаўскай ССР і прыехалі мы туды пад вечар у гасцініцу „Леагранд”, дзе атрымалі мы пакоі і вячэру-у. 25 мая пасля снедання паказалі нам з мясцовым экскурсаводам горад, новы з высокімі будынкамі і стары з нізкімі. У горадзе стаіць цікавая арка М. Кутузава з 1840 г., збудаваная ў гонар яго перамогі над туркамі. Паказалі нам бронзавы помнік малдаўскага рыцара Сцяпана Вялікага. і музей Пушкіна, кафедральны сабор са Святою Брамай і іншыя месцы, а пасля абеда завезлі нас у блізкі калхоз на дэгустацыю він і каньякоў іх прадукцыі. Многія з нашых турыстаў добра папілі і едучы ў гасцініцу спявалі песні.

**26 мая** пасля снедання завезлі нас на мясцовы аэрадром і паляцелі мы самалётам у Кіеў. У Кіеве з аэрадрома паехалі мы ў рэстаран, а пасля з мясцовым экскурсаводам павазілі нас па горадзе, паказалі нам Сафійскі сабор, Кіева-Пячэрскую лаўру, іншыя саборы і вуліцу Крашчацік, а пасля вячэры ў рэстаране завезлі нас на вакзал і мы ў спальным вагоне 27 мая прыехалі на Гданьскі вакзал у Варшаву, дзе я ўжо развітаўся з экскурсіяй. Яны самі раз’ехаліся да сваіх гарадоў.

**2 чэрвеня** прыляцеў з Рыма ў Варшаву папа рымскі Ян Павеп II. На аэрадроме сустрэлі яго кардынал С.. Вышынскі з Кіраўніком Рады Дзяржавы Г. Яблонскім. Маліўся ён ў Варшаве на Пляцы Перамогі. На трэці дзень быў у Гнезне, на 4-ты і 5-ты ў Чанстахове, а пасля ў Кракаве, Новай Гуце, а на 9-ы, 10 чэрвеня вярнуўся ў Ватыкан.

**14 чэрвеня** прыехала да нас на наша запрашэнне з Сарн стрыечная сястра маёй жонкі Ніны, Марыя Кандалец.. Пасля яна з Нінай паехалі да яе роднай сястры, Наталіі Валянскай ў сяле Канюхі, ля Гарышова-Рускага ў Замойскім ваяводстве.У час нямецкай акупацыі сястра Марыі выйшла замуж за паляка П. Валянскага і пераехала-а жыць у Польшчу. Вярнуліся яны адтуль з мужам Наталіі Пятром Валянскім і паехалі разам у Ольштын да дачкі Наталіі Кацярыны, якая там жыла з мужам, сынам і дзвюма дочкамі. Пасля прыехалі разам да нас у Варшаву з Ольштына і на наступны дзень П. Валянскі вярнуўся да жонкі ў Канюхі, а Марыя паехала ў Сарны .

**21 чэрвеня** сустрэў я польскую групу з „Орбіса” і паехаў з ёю праз Брэст у Маскву. У Маскве сустрэла нас на Беларускім вакзале

жанчына–экскурсавод і завезла нас аўтобусам „Інтурыста" у гасцініцу „Глобус", дзе атрымалі мы пакоі і снеданне. Для мяне не было адзіночнага пакоя і атрымаў я двуасабовы пакой з мужчынам, які мне прызнаўся, што ён з'яўляецца каталіцкім ксяндзом у Варшаве ў касцёле па вул. Твардай. Сказаў мне, што ён не хоча з намі ехаць на экскурсію па горадзе і ў Маўзалей Леніна, а паедзе сам шукаць каталіцкага касцёла. Ён адрас яго мае. Не мог я забараніць яму. Ён нават не быў з намі на абедзе, з'явіўся толькі на вячэру. А мы, як заўсёды аглядзелі Музей Леніна, горад і Крэмль. Вечарам у пакоі ксёндз мне расказаў, што сустрэўся ў каталіцкім касцёле з маскоўскімі каталіцкімі ксяндзамі. На наступны дзень 23 чэрвеня ён аглядаў з намі Трэцьякоўскую галерэю, а пасля абеда паехаў у касцёл, калі ў нас быў вольны час. Вечарам пагрузілі нас усіх на цягнік Масква-Ленінград і ранкам 24 чэрвеня ў Ленінградзе завезлі нас у прыгожую гасцініцу „Прыбалтыйскую", дзе атрымаў я самастойны пакой на 13 паверсе. Пасля снедання быў вольны час і я паехаў на Канюшны перавулак да знаёмай Т. Фармакоўскай, і Л. Кірэевай. Я пазычыў у іх рублі і купіў там люстраны аб'ектыў да фотаапарата „Зеніт". Калі Алена Кірэева прыехада ў Варшаву, я ёй аддаў яго кошт у польскіх злотых.. У Ленінградзе былі мы да 27 чэрвеня і паглядзелі Эрмітаж, Рускі музей, Смольны палац і іншыя музеі.

**28 чэрвеня** прыехалі мы ў Талін, які да кастрычніцкай рэвалюцыі меў нямецкую назву Рэвель, і затрымаліся ў цэнтры старага горада ў гасцініцы „Рэваль"ля вельмі прыгожага праваслаўнага сабора Аляксандра Неўскага, які быў пабудаваны ў 1900 г. у гонар выратавання рускага цара Аляксандра III у час чыгуначнай катастрофы 17 кастрычніка 1888 г. і недалёка ад праваслаўнай царквы Мікалая Цудатворцы, пабудаванай у 1807 г.. Недалёка стаялі ратуша з 1404 г., і пратэстанскія касцёлы св. Олафа з вежай вышынёй 127 м. і св. Мікалая, які быў заменены на музей, а таксама касцёл Св. Духа і Домскі сабор. Быў тут калісь Дамініканскі манастыр, ды ў часы лютэранскай рэфармацыі выгналі з яго каталіцкіх манахаў і ў 1531 г.узнік у ім пажар, які яго знішчыў. Асталіся толькі руіны. У гасцініцы я. пакой тут атрымаў самастойны, без ксяндза. Паказалі нам стары горад, 2 цэрквы і пратэстанскія касцёлы, порт і музей на адкрытым павет-

ры. На наступны дзень вывезлі нас за горад, дзе паказалі нам танцы эстонскага ансамбля на вольным паветры.

Так як у Варшаве, улады Эстоніі і эстонскія нацыяналісты хацелі ў 1924 г. і ў гады нямецкай акупацыі сабор Аляксандра Неўскага разабраць, а ў 1960 г. савецкія ўлады хацелі ў саборы зрабіць планетарый, толькі выратаваў яго епіскап Аляксей Рыдыгер, пазнейшы Патрыярх Усей Русі Алексій II. Многа эстонцаў з'яўляюцца праваслаўнымі, але большасц іх -- пратэстанты-лютэране.

На наступны дзень, **30 чэрвеня**, прывезлі нас у горад Вільню. Сустрэла нас знаёмая мне экскурсаводка, якая мяне пазнала з экскурсіі 1966 г. Яна тады ў Ерэване, ехаўшы з польскімі турыстамі „Волгай" у Гарні папала ў катастрофу , у якой зламала руку. Цяпер у яе рука была здаровая. Завезла яна нас у гасцініцу „Сарунас"у цэнтры горада. Ізноў я дастаў пакой двухмесны з варшаўскім ксяндзом. Тут ксяндзу ў польскіх касцёлах у Вільні давалі мажлівасць весці набажэнствы на польскай мове.

Экскурсавод на першы дзень правяла нас пехатою і паказала Стары горад. Літва толькі ў 1387 г. прыняла хрысціянства, калі яе князь У. Ягайла ажаніўся з польскай каралевай Ядвігай і стаў польска–літоўскім каралём. Ахрысціў ён літоўцаў без згоды беларускіх і ўкраінкіх князёў у рыма-каталіцкім веравызнанні, якое тады было ў Польшчы. Ранейшыя князі Літвы жаніліся з рускімі княгінямі і праўдападобна прымалі праваслаўнае веравызнанне. Бацька Ягайлы Альгерд меў першую жонку віцебскую князёўну Марыю Ярaслаўну. Па смерці яе ў 1346 г. ён ажаніўся з цвярской князёўнай Юльянай і яна яму нарадзіла Ягайлу, Скіргайлу, Карыбута, Лінгвена, Карыгайлу, Вігунда і Скідрыгайлу. Дзве яго жонкі былі праваслаўнымі і напэўна сам Альгерд быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве і ўсе яго дзеці разам з Ягайлай, якому быццам бы далі ў царкве імя Якаў. Братам Альгерда быў Кейстут, які быў язычнікам і якога Ягайла па-здрадніцку замардаваў. Кейстут меў сына Вітаўта, якога літоўцы прызнаюць сваім князем і ставяць яму помнікі, бо Ягайлу лічаць здраднікам Літвы.

Пабачылі мы Вострую браму з іконай Маці Божай Вострабрамакай, якую згодна з легендай Альгерд прывёз з Корсуня і падарыў яе сваёй першай жонцы. Другая яго жонка перадала яе ў Троіцкую царкву і была яна ў Троіцкай капліцы. У час уніі Троіцкую царкву

з капліцай захапілі ад праваслаўных разам з іконай базыльяне, а ад іх зноў пасля забралі ікону кармелітанцы і. папа рымскі прызнаў яе кармелітанцм, хаця базыльяне пратэставалі. І так яна папала з царквы ў каталіцкі касцёл. Побач Вострай брамы пабачылі мы праваслаўную царкву Св. Духа, якую не захапілі уніяты і стала яна праваслаўным манастыром. Пабудавалі яе ў 1597 г. У царкве захоўваюцца мошчы св.св. Антона, Івана і Яўстафія, віленскіх мучанікаў, якія згінулі ад язычнікаў за панавання князя Альгерда.. Пасля наведалі мы замак Гедыміна, праўдападобна пабудаваны князем Гедымінам у 1230 г. Замак пасля быў разбураны. Асталася ў ім толькі заходняя вежа і рэшткі крэпаснай сцяны і сам замак. У заходняй вежы пабачылі мы музей гісторыі Літвы, а з вежы аглядалі мы горад.У падножжа гары Гедыміна стаіць Віленскі каталіцкі кафедральны сабор. Праўдападобна паставіў яго, як праваслаўную царкву, князь Міндоўг у 1257 г., а ў 1387 г. замянілі яе ў каталіцкі касцёл ў гатычным стылі. Пасля яго некалькі разоў перабудоўвалі. У падзямеллях сабора наведалі мы музей, які паказвае гісторыю сабора ад паганскіх часоў. Наведалі мы касцёл св.св. Пятра і Паўла, касцёл св. Францішка, касцёл у стылі рэнесанса св. Архангела Міхала, цікавы касцёл св. Анны і царкву св. Параскевы, аб якой легенда гаворыць, што была яна пабудаваная на месцы паганскага свяцілішча бога Рагуціса у 1345 г. Быццам бы драўляная царква згарэла ў 14 ст. і на яе месцы пабудавалі каменную царкву і ў ёй пасля перамогі над шведамі быў на літургіі рускі цар Пётр І і ў ёй ахрысціў прадзеда А. С. Пушкіна Ганібала.

На наступны дзень пасля снедання паехалі мы аўтобусам „Інтурыста" ў Трокі, якія ляжаць 30 км на захад ад Вільні. Знаходзіцца там вялікі замак, які пасля разбурэння адбудавалі, хаця яшчэ не да канца. У другой палове 14 ст. у Старых Троках стаяў ужо каменны замак, у якім у 1337-1382 г.г. жыў брат Альгерда князь Кейстут. У 1375 г. ён перанёс сваю сталіцу са Старых Трок у Новыя Трокі, якія акружаны навокал возерам. Гэта была самая непрыступная крэпасць у Вялікім Княстве Літоўскім. Ніколі ніякі вораг у замак на востраве не ўвайшоў. Пасля здрадніцкага забойства Ягайлам свайго дзядзькі Кейстута, у замку жыў яго сын Вітаўт. Пасля бітвы пад Грунвальдам, 15 ліпеня 1410 г. замак страціў значэнне як вайсковы аб'ект, бо крыжакі ўжо не гразілі. Таму ўжо пасля смерці Вітаўта ім ніхто не цікавіўся і паво-

лі ён разбураўся. І толькі пасля другой сусветнай вайны пачалі яго адбудоўваць, як гістарычны і турыстычны аб'ект.

За востравам у горадзе Трокі жыве 67 з 257 караімаў Літвы. Караімы – гэта цюркская група людзей, якія прызнаюць толькі пяць першых кніг Бібліі. Ісуса яны лічаць прарокам, які з'явіўся, каб перав090рочваць у веру ў Бога язычнікаў і як настаўніка для яўрэяў. Не прызнаюць яго Богам. Махамета таксама прызнаюць прарокам. У 1397 прывёз з Крыма Вітаўт 387 караімскіх сем'яў і пасяліў іх на Літве. У 15 ст. вялікі князь Казімір даў ім магдэбурскія правы. У Троках знаходзіцца іх дом малітвы, так называемая кенаса, якую не закрылі нават бальшавікі. Маем тры караімскія могілкі і адны ёсць у Варшаве на Волі, блізка праваслаўных могілак ля вул. Рэдутовай. У горадзе Трокі стаяць аднапавярховыя дамы караімаў і кожны іх дом мае тры вокны з аканіцамі, якія глядзяць на вуліцу.

Трокі мы аглядзелі, як музей. Бачылі мы там Статут Вялікага Княства Літоўскага, напісаны царкоўна-славянскімі літарамі на старабеларускай мове і іншыя старыя кнігі, якіх я не пабачыў пазней, калі я быў у Троках другі раз у 1996 г. Калі Літва стала самастойнай дзяржавай,  гэтыя кнігі дзесь схавалі, бо яны не напісаныя на літоўскай, а на славянскай мове.

Пасля вячэры пагрузілі нас у цягнік і 2-га ліпеня былі мы ў Варшаве, дзе я развітаўся з групай.

**22 чэрвеня** невялікая рака Пелчніца заліла ў Валбжыху 585 будынкаў, 1 850 падвалаў, 30 прадпрыемстваў, 3 паліклінікі і 5 дзіцячых ясляў.

**3 ліпеня** Кіраўнік Рады Дзяржавы прызнаў мне Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы за сукупнасць праектнай працы, асабліва пры праектаванні Электрастанцыі Казяніцы. Атрымаў я яго ў Палацы культуры і навукі з іншымі працаўнікамі „Энергапраекта" **20 ліпеня**. Калі ў лістападзе 1989 г. я пайшоў на пенсію, то нейкі час атрымоўваў на 20% павышаную пенсію, пакуль новыя ўлады дзяржавы не зліквідавалі ўсім гэтага дадатку.

**16 ліпеня** Садам Хусейн стаў прэзідэнтам Ірака.

**17 ліпеня** Дыктатар Нікарагуі Л. Самоса ўцякае ў ЗША, а 19 ліпеня паўстанцы Сандыністычнага фронту захапілі сталіцу Манагуа і стварылі свой новы ўрад.

**25 ліпеня** прыехала да нас на наша запрашэнне з Сарн другая стрыечная сястра маёй жонкі Ніны, Тамара Панько, у якой мы былі ў 1978 г. і праз некалькі дзён паехала яна разам з маёй жонкай Нінай у Згажэлец да сястры яе бацькі. Як я ужо пісаў, яе бацьку Васіля Некрашэвіча разам з яго сястрой савецкі НКУС вывёз ў 1941 г. у Казахстан, а пасля вайны яны вярнуліся ў Згажэлец. Бацька Тамары памёр у Згажэльцу, а жыла яшчэ тады яго сястра з дачкой. Тамара і Ніна паехалі ў Згажэлец, пабачылі магілу Васіля Некрашэвіча і сустрэліся там з яго сястрой. Пасля Ніна з Тамарай вярнуліся да нас у Варшаву і Тамара паехала ў Сарны. Васіль Некрашэвіч у Казахстане ажаніўся з полькай Янінай, ды яна пасля смерці мужа ў Згажэльцу пераехала жыць у Бельск-Падляшскі і перапісвалася з Тамарай, а нават з маёй жонкай.

Калі Ніна ездзіла з Тамарай у Згажэлец, я працаваў у Варшаве.

**2 жніўня** у Познані я сустрэў вечарам у гасцініцы „Паланез" савецкую экскурсію з Масквы, якая прыехала аўтобусам „Саўтрасаўта" з ГДР, раздзяліў ім пакоі і з'еў з імі вячэру. На наступны дзень пасля снедання экскурсавод з Познаня іх аўтобусам павёз і паказаў ім горад, з ратушай і касцёлы ў Познані і прывёз іх у гасцініцу на абед. Пасля абеда паехаў я з імі ў бок Варшавы і аглядзелі мы замак і парк у Курніку,а пасля замест у Варшаву я завёз іх згодна з планам у Лодзь у гасцініцу „Гранд" па вул. Пятроўскай і раздаў ім пакоі ды з'еў з імі абед. Да вячэры яны мелі вольны час. На наступны дзень экскурсавод з Лодзі паказала ім горад з касцёламі і праваслаўнай царквой Аляксандра Неўскага пабудаванай у 1884 г. і Батанічны сад. Пасля абеда я завёз іх у Варшаву ў гасцініцу „Гранд" па вул. Кручай, дзе далі ім пакоі і вячэру. У сувязі з тым, што на наступны дзень я мусіў рана ехаць на тэхнічную канферэнцыю ў электрастанцыю Казяніцы, я перадаў групу савецкіх турыстаў майму сыну Георгію, які таксама, як я, закончыў курс гідаў . Ён іх на наступны дзень пасля снедання з варшаўскім экскурсаводам вазіў і паказваў ім Варшаву і пасля абеда з імі развітаўся. Я падвечар вярнуўся з Казяніцаў.

Пасля сын мой Георгій у палове жніўня сам паехаў цягніком на запрашэнне ў Сарны, дзе сустрэла яго Тамара Панько. Ён жыў тыдзень у іх на кватэры, вазілі яго ў Роўна, а пасля ён цягніком з Сарнаў паехаў у Ленінград да Таццяны Фармакоўскай і Алены Кірэевай на

Канюшны перавулак. У Ленінградзе правёў ён два тыдні і вярнуўся цягніком у Варшаву.

**27 жніўня** баевікі Ірландскай рэспубліканскай арміі ў паўночнай Ірландыі забілі 18 англійскіх салдат.

**7 верасня** ад урагана „Дэвіл"у Дамініканскай Рэспубліцы гіне 100 людзей.

**16 верасня** Х. Амін скінуў прэзідэнта Афганістана Нура Таракі і сам стаў прэзідэнтам дзяржавы, што не спадабалася СССР, бо яго падтрымліваў Кітай.

**З 29 верасня па 1 кастрычніка** папа рымскі Іван Павел ІІ быў з афіцыйным візітам у Ірландыі.

У электрастанцыі Казяніцы сінхранізавалі з электрычнай дзяржаўнай сеткай астатні дзесяты блок прадукцыі СССР магутнасці 500 мегаватаў і я ўжо рэдка туды ездзіў. Электрастанцыя Казяніцы цяпер мае магутнасць 2880 мегаватаў і з'яўляецца самай магутнай электрастанцыяй у Польшчы на каменны вугаль. Амаль кожны тыдзень ездзіў я з іншымі праекціроўшчыкамі машынай „Энергапраекта" на адзін дзень на электрастанцыю Белхатаў, дзе будавалі будынак і мантавалі першы блок (кацёл, турбіну, генератар і трансфарматар) польскай прадукцыі на буры вугаль магутнасці 380 мегаватаў. Велічэзныя землячарпалкі выкідвалі пясок і гліну, дабіраліся да бурага вугля на глыбіні некадькі дзесяткаў метраў, мантавалі канвеерныя транспарцёры, якія пасля будуць вазіць выкапаны буры вугаль на склад ля электрастанцыі. Будавалі каміны і халадзільныя ўстаноўкі.

**23 кастрычніка** шах Ірана ўцёк у ЗША на лячэнне.

Мы раней пазнаёміліся з сям'ёй Марыі і Уладзіміра Каліноўскіх, беларусаў з Беласточчыны, якія жылі на другім баку вул. Чэрнякоўскай. Ён, як юрыст, добра ведаў нямецкую мову і працаваў у нейкай арганізацыі ААН у Вене ў Аўстрыі і вельмі часта прыязджаў у Варшаву, а восенню на зіму забіраў жонку, сына і дачку ў Вену, дзе меў асобную кватэру, два пакоі з кухняй і ванным пакоем. А нас ужо некалькі год запрашала да сябе немка Ціна Блянк з Бад Райхенгаля ў Баварыі, з якою мы пазнаёміліся ў 1974 г. на пляжы ў Дуброўніку. Я з ёй перапісваўся з таго часу. І вось я з Нінай рашылі ў лістападзе паехаць да яе. І Марыя Каліноўская запрасіла нас да сябе ў Вену, калі мы будзем ехаць у Бад Райхенгаль. Мелі мы затрымацца ў іх, калі

будзем ехаць у Бад Райхенгаль і калі будзем вяртацца дамоў. Польскія ўлады далі нам пашпарты, а пасольствы Аўстрыі і Нямеччыны далі нам візы. Заходнюю валюту я меў на сваім доларавым рахунку ў польскім банку ПКА. Пры Герку кожны грамадзянін Польшчы мог купіць на чорным рынку заходнюю валюту і закласці рахунак з заходняй валютай ў польскім банку. ПКА і калі выязджаў у капіталістычныя дзяржавы, мог вывезці яе афіцыйна за мяжу. Мы выкупілі чыгуначныя білеты да самага Мюнхена і з Мюнхена ў Варшаву. З Варшавы ў Вену і з Вены ў Варшаву выкупілі мы спальныя месцы, а далей толькі сідзячыя.

**12 кастрычніка** вечарам селі мы ў спальнае купэ цягніка Варшава-Вена, Ніна на ніжнюю, я на сярэднюю полку. Верхняя полка была пустая да самай Вены. У кастрычніку была ўжо халаднавата і Ніна-а забрала з сабой футру з нутрый, а я асенняе паліто. На граніцы з Чэхаславакіяй польская мытніца хацела спачатку запісаць Ніціну футру ў мытную дэкларацыю, аднак паверыла Ніне, што яна яе не мае намеру прадаць і не запісала. У Вене нейкі яўрэй прапанаваў Ніне заплаціць за футру 6 тыс. аўстрыйскіх шылінгаў, ды Ніна не захацела яе прадаць, бо было холадна і трэба было б купіць паліто. У Братыславе, калі ранкам цягнік стаяў доўга на вакзале, Ніна выйшла з вагона і ўбачыла, як да нашага цягніка прычапілі два выгоны з савецкімі яўрэямі, якія з Сібіры групай ехалі праз Аўстрыю ў Ізраіль. Нават гутарыла па-руску з нейкімі бедна адзетымі яўрэямі. Ехалі яны цэлымі сем'ямі ў гэтых вагонах. Ранкам прыехалі мы ў Вену-у на паўднёвы вакзал Зюдбангоф. Марыя Каліноўская сказала нам у Варшаве, якім аўтобусам з вакзала даедзем да вуліцы, пры якой яны жывуць. І мы лёгка туды даехалі. Жылі яны ў цэнтры Вены недалёка ад пляцу Сцяпана. Там мы з імі сустрэліся і атрымалі ў іх кватэры аддзельны пакой з шырокім тапчаном. Пераначавалі мы ў іх дзве ночы і самі хадзілі па Вене.

Пасля снедання аглядзелі мы прыгожы гатычны сабор св. Сцяпана з вежай 135 м., з якой відна панараму Вены, пабачылі звонку парламент пабудаваны ў 1847 г., ратушу, пасля паехалі і аглядзелі палац Бельведэр з прыгожым вялікім паркам з алеямі ды з прыгожымі клумбамі, фантанамі і статуямі ўздоўж іх. Вярнуліся на абед,

а пасля паехалі ў музей Альберціна, дзе аглядзелі яго галерэі і рукапісы, і вярнуліся на вячэру і начлег.

**14 кастрычніка** з тэлефона на вуліцы на манеты я пазваніў у Бад Райхенгаль Ціне Блянк і паведаміў яе, што заўтра выедзем цягніком з Вены і пасля абеда будзем на вакзале ў Зальцбургу. Яна абяцала, што будзе там нас чакаць і забярэ нас да сябе.

Пасля паехалі мы паглядзець звонку палац Хофбург, дзе да 1918 г. жылі аўстравенгерскія імператары, а пасля абеда знайшлі мы на вул. Jauresgasse 2 прыгожы пяцікупальны, высвячаны яшчэ ў 1899 г. рускі сабор Мікалая Цудатворцы з залачонымі купаламі, які належаў Маскоўскаму патрыярхату. Сабор, аднак, быў закрыты. На дзвярах было напісана, што вячэрняя служба ў саборы будзе вечарам, ды мы не маглі чакаць. Прайшліся па вуліцы, пабачылі каталіцкі невялікі касцёл, дзе сустрэлі дзве польскія манашкі. Пабачылі, што праваслаўны сабор стаіць не вельмі далёка ад паўднёвага вакзала і рашылі прыйсці ў яго, калі будзем вяртацца ў Варшаву. І мы паехалі на начлег на кватэру да Каліноўскіх.

На наступны дзень паехалі мы цягніком у вагоне з сідзячымі лаўкамі у Зальцбург. Там на вакзале сустрэлі мы нашу знаёмую Ціну, з якой прайшлі праз мытны кантроль. У нас толькі спыталсяі мытнікі, колькі маем польскай гарэлкі і ў багаж не заглядвалі. На нямецкім баку селі мы з Цінай у электрычны цягнік і даехалі да вакзала ў Бад Райхенгаль, а з вакзала да яе дома дабраліся на таксі.

Ціна мела двухпавярховы домік. Нас пасяліла на другім паверсе ў вялікім пакоі, які абаграваўся газам. Побач нашага пакоя быў ванны пакой з ваннай і душам і туалетам. Сама Ціна жыла на першым паверсе, дзе былі яе вялікі пакой, сталовы пакой, яе спальня і яе ванны пакой. Побач яе дома стаяў другі падобны дом, у якім жыла яе дачка Герлінда з мужам Пэтэрам. Яна нядаўна выйшла замуж. Дзяцей у іх не было. Дзесяць дзён мы былі на Цініным утрыманні.

Ціна была аўстрыйскай немкай з-пад Зальцбурга і выйшла замуж за немца з Бад Райхенгаля. Муж яе папаў у савецкі палон на усходнім фронце і вярнуўся вельмі хворы і ў 1970 г. памёр, аставіўшы ёй дачку. Ціна была ўдавой-пенсіянеркай і, відна, мела добрую пенсію, калі кожны год ездзіла на загранічныя экскурсіі. Была не толькі ў Югаславіі. Была ў Італіі, Грэцыі, Іспаніі. Дачка яе працавала санітаркай

у санаторыі. Бад Райхенгаль гэта горад курортаў, які ляжыць у даліне, акружаны горамі Альпамі. Калісь у ім дабывалі чыстую соль і цяпер там у санаторыях лечаць людзей у саляных растворах.

На другі дзень на запрашэнне Ціны прыйшла яе сяброўка Рута Рабольд, якая так слаба ведала польскую мову, што мы мусілі дамаўляцца толькі на нямецкай мове. Ніна вывучала ў сярэдняй школе нямецкую мову і хаця гаварыла па-нямецку горш ад мяне, аднак добра з імі дагаварвалася па-нямецку і нам перакладчыцы не было трэба.

Першы дзень абышлі і пабачылі мы прыгожы горад. Дамы там былі памаляваныя яркімі колерамі, на дамах часта былі намаляваныя фігуры людзей. Магазіны ўсе ўжо рэкламавалі тавары на свята Божага Нараджэння. Аглядзелі мы Бертэргарднер – музей і звонку многія санаторыі, дзе ў саляных ваннах і басейнах купаліся курортнікі.

Перад рэвалюцыяй прыязджалі сюды багатыя рускія людзі і таму пабудавалі тут невялікую праваслаўную царкву. Аднак у апошнюю вайну бамбілі Бад Райхенгаль англа-амерыканскія самалёты, і, відна, бомба разбурыла праваслаўную царкву, аднак дах ад яе з купалам і праваслаўным крыжам выратавалі і ляжаў ён на зямлі ля адной з вуліц як рэлікт астатняй вайны.

На наступны вечар запрасіла нас на вячэру дачка Ціны Герлінда. Зазнаёміліся мы з яе мужам Пэтэрам, які быў адвакатам. У размове з ім я адчуў, што ён захапляўся А. Гітлерам, якога армія дайшла аж на Каўказ, хяця прызнаваў, што многа злога зрабіў ён для Нямеччыны. Пасля прыйшоў яго бацька Ганс, які быў судэцкім немцам. Яго чэхі выгналі з Чэхаславакіі. Гаварыў, што хяця яму добра жывецца ў Баварыі, аднак тужыць за Судэтамі. Калі я сказаў, што хочам паехаць і пабачыць Мюнхен,  ён запрапанаваў нам, што паедзе разам з намі і пакажа нам славутасці Мюнхена.

Перад Мюнхенам паехалі мы з Цінай і Рутай у Берхтэсгадэн ля возера Хімзее і там аглядзелі мы вельмі прыгожы палац караля Баварыі Людавіка II Шалёнага ( 1845-1886).

З Гансам ранкам паехалі мы цягніком у Мюнхен і з вакзала ён узяў таксі і завёз нас спачатку ў бенедыктынскі манастыр Андэкс і завёў нас у іх піўную на піва і сыр, які выраблюць манахі і яго прадаюць. А пасля паглядзелі мы манастыр.

Пасля завёз нас на Стары горад, на Marienplatz, на якім стаіць мармуровая фігура Марыі Дзевы і блізка прыгожая ратуша з фігурамі каралёў, герцагаў і святых, і 85-ціметровая вежа з гарадскім гадзіннікам. Прывёз ён нас сюды перад 11 гадзінай, каб пабачылі мы а 11 гадзіне, калі зайграюць куранты і пакажуць прадстаўленне. Фігуры тады пачынаюць рухацца і паказваюць спектакль. Пасля аглядзелі мы сабор Святога Пятра і Святога Духа. Большасць жыхараў Баварыі лічыць сябе каталікамі, у адрозненні ад іншых немцаў, якія з'яўляюцца пратэстантамі. Далей ён паказаў нам Ізарскіе вароты з дзвюма вежамі і касцёл Прасвятой Багародзіцы. За адзін дзень многа не пабачыш, аднак мы ўдзячныя былі яму, што з намі паехаў, таму што мы самі таго б не пабачылі. Пасля поўдня завёў нас у рэстаран і заплаціў за абед. Не хацеў, каб мы плацілі. А на вечар вярнуліся мы цягніком у Бад Райхенгаль.

На наступны дзень Ціна завезла нас фунікулёрам на гару Пэдыхштуль (1583 м.), адкуль мы агледзелі панараму Альпаў, а пасля завяла нас у рэстаран на гары на абед. У рэстаране было многа немцаў, якія паводзілі сябе вельмі гучна.

**25 кастрычніка** з Цінай рана паехалі мы у Зальцбург, каб аглядзець перад выездам у Вену горад. На граніцы мытнікаў не было і мы пакінулі багаж ў багажнай скрынцы на вакзале ў Зальцбургу і разам з Цінай гулялі па горадзе. Аглядзелі мы напачатку цікавыя вітрыны ў магазінах, пасля дом дзе нарадзіўся і жыў кампазітар Вольфганг Моцарт, сабор, фантаны, а потым фунікулерам паехалі на гару Фестунг (119 м), дзе на другім беразе ракі Зальцах увайшлі мы ў старую крэпасць з 1077 г. Хоэнзальцбург. Якраз прыехала туды экскурсія з Сербіі і мы разам з ёй аглядзелі пакоі замка, карціны ў крэпасці. Калі вярнуліся на вакзал, развіталіся сардэчна з Цінай і паехаліі цягніком у Вену да Каліноўскіх. З Цінай я перапісваўся да 2003 г. Амаль штомесяц я атрымоўваў ад яе розныя паштоўкі з краявідамі з яе экскурсій і пісьмы. Прыслала мне некалькі кніг з краявідамі, я ёй таксама высылаў на нямецкай мове кнігі з краявідамі з Польшчы і Петрапаўлаўска ды Ленінградс. Ціна была старэйшая ад нас. Колькі яна мела год, яна нам не сказала і я яе не пытаў. Калі перастала пісаць, я зразумеў, што яна ўжо не жыве. З дачкой яе Герліндай я не

перапісваўся. Ад Ціны ў пісьмах я даведаўся, што Герлінда ўзяла развод з Пэтэрам. Аб прычыне разводу Ціна мне не напісала.

**26 кастрычніка** ад Каліноўскіх паехалі мы пабачыць палац і парк у былой рэзідэнцыі Габсбургаў у Шэйнбрун. Абышлі мы вельмі прыгожы парк з клумбамі кветак і статуямі на пастаментах. Сустрэлі мы там беларускага спявака з-пад Магілёва, які там спяваў і зарабляў шылінгі спевам. Аб ім я напісацў пасля верш „Беларускі Арфей", які ўвайшоў у мой зборнік вершаў „Струмені лёсу". Там падышла да нас, пачуўшы нашу мову, былая масквічка з дачкой, якая выйшла замуж за румына з Бухарэста і цяпер яны паехалі аглядаць Еўропу. Былі ва Францыі два тыдні, а цяпер прыехалі ў Вену ў Аўстрыю. Разам з імі мы купілі квіткі ў палац Габсбургаў і яго разам з імі аглядзелі, а пасля развіталіся. Яны далі нам свой адрас у Бухарэсце, а мы ім свой у Варшаве і нейкі час я з імі перапісваўся, аднак больш ніколі з імі не сустрэліся.

Вечарам паехалі мы на вакзал, закампасціравалі чыгуначныя білеты, атрымаўшы спальныя месцы ў вагоне, схавалі багаж у багажныя скрынкі і пайшлі пехатой у праваслаўную царкву на вячэрню. На вячэрні разам з намі было 11 асоб. Пасля вячэрні пехатой ноччу вярнуліся мы на вакзал і пасля паехалі цягніком у Варшаву. На чэхаславацка-польскай граніцы польская тамажніца вельмі здзівілася, што раней польская тамажніца не ўпісала ў тамажнюю дэкларацыю Ніліну футру і што яе прывезла назад. **27 кастрычка** вярнуліся мы дамоў.

**12 лістапада** прэзідэнт ЗША за захоп амерыканскага пасольства ў Тэгеране ўводзіць эмбарга на пастаўку іранскай нафты.

**30 лістапада** адкрылі шырокарэйкавую чыгуначную лінію ў Гуту Катавіцэ з усходу, каб з СССР можна было давезці жалезную руду.

**2 снежня** натоўп людзей ў Трыпалі ў Лівіі спаліў пасольства ЗША.

**27 снежня** савецкае войска ўвайшло ў Афганістан, а фактычна ўжо 25 снежня а 7 гадзіне ў раёне горада Тэрмеза савецкія салдаты пачалі будаваць пантонны мост і а 15 гадзіне перайшлі граніцу, а ваенная транспартная авіяцыя пачала перакідваць паветра–дэсантныя дывізіі на аэрадромы ў Кабуле і Баграма. Высадзілі там 7700 дэсантнікаў і баявую тэхніку. 27 снежня савецкія дэсантнікі

захапілі многія будынкі ў Кабуле і забілі прэзідэнта Афганістана Г. Аміна і зрабілі прэзідэнтам Б. Кармалю. Пачалася вайна ў Афганістане, якая працягвалася да 15 лютага 1989 г. У 1979 г. у Афганістане згінула 86 савецкіх салдат. Аднак СССР не прасіў сваіх саюзнікаў, як гэта робяць цяпер ЗША, каб яны высылалі сваіх салдат на падмогу ў Афганістан ці раней у Ірак.

# 1980

**1 студзеня** аддалі ў эксплуатацыю ў Польшчы шахту медзі ў Серашавіцах.

**22 студзеня** ў СССР арыштавалі савецкага вучонага фізіка, акадэміка АН-СССР, аднаго са стваральнікаў савецкай вадароднай бомбы, а пасля дысідэнта А. Сахарава (1921-1989) і саслалі яго з Масквы ў Горкі.

**26 студзеня** Ізраіль і Егіпет наладзілі дыпламатычныя адносіны і 27 студзеня адкрылі граніцу, а 18 лютага ў Каіры пачало працаваць пасольства Ізраіля ў Егіпце.

**9 лютага** аб'явілі, што ў Польшчы сярэдні заробак у 1979 г. налічваў 5 087 зл.

**15 лютага** прайшоў VIII з'езд ПАРП, на якім Э. Герак астаўся далей першым сакратаром. **18 лютага** Пётр Ярашэвіч адмовіўся ад функцыі прэм'ер-міністра ва ўладах Польшчы. Прэм'ер-міністрам стаў Эдвард Бабюх.

**Ад 13 да 25 лютага** праходзілі ў Лейк-Плэсідзе ў ЗША зімовыя алімпійскія гульні. Па колькасці медалёў СССР заняў першае месца (10 – залатых, 6 – сярэбраных і 6 – бронзавых медалёў). Другое месца заняла ГДР, а трэцяе – ЗША.

**14 сакавіка** ля аэрадрома Акэнце разбіўся польскі самалёт ІЛ-62 „Мікалай Капернік", які прыляцеў з ЗША. Згінула 87 чалавек і між імі польская спявачка Анна Янтар.

**18 сакавіка** на касмадроме ў Плесецку ў СССР ад выбуху ракеты Васток згінула 50 асоб.

**23 сакавіка** прайшлі ў Польшчы выбары ў Сейм і ў народныя рады. Згодна з афіцыйнымі данымі ў іх галасавала 98,9 % грамадзян, якія мелі права на галасаванне. За спісак Фронту Адзінства Народу галасавала 99% галасуючых. Іншага спіска не было.

**3 сакавіка** сабраўся новы сейм, які выбраў Генрыка Яблонскага старшынёй Рады дзяржавы, Э. Бабюха – прэм'ер-міністрам, а Станіслава Гуцву – маршалкам Сейма.

**21 сакавіка** згінула 7 шахцёраў у катастрофе ў шахце каменнага вугля Барбара-Хожаў.

**9 красавіка** вылецеў у космас савецкі касмічны карабель Саюз-35 з касманаўтамі Леанідам Паповым і Валерыем Румінным. Даляцелі яны да арбітальнай станцыі Салют-6 і вярнуліся на Зямлю толькі 11 кастрычніка на касмічным караблі Саюз-37. Былі 185 дзён.у космасе на арбітальнай станцыі Салют-6.

**12 красавіка** ў Бразіліі ў катастрофе самалёта Боінг-727 згінула 50 пасажыраў.

**25 красавіка** на Канарыйскіх астравах у катастрофе Боінга-727 згінула 146 пасажыраў.

**2 мая** рымскі папа Ян Павеп II паляцеў з візітам у 6 афрыканскіх дзяржаў: у Заір, Конга, Кенію, Гану, Буркіна-Фасо (тады Верхняя Вольта) і КотДівуар.

**5 мая** я з Нінай паехалі цягніком другі раз ў Сарны на Украіну. Так, як у 1978 г. на вакзале ў Сарнах сустрэла нас стрыечная сястра Ніны, Тамара Панько і завезла нас да сябе. Іх дом стаяў недалёка ад вакзала ў Сарнах. Сустрэлі мы там яе мужа Мікалая, цётку Ніны Лідзію, другую стрыечную сястру Ніны, Марыю і сына Мікалая, Алега з яго жонкай Ларысай. У Алега і Ларысы быў ужо паўтарагадовы сын. Аб іх сям'і я пісаў у сваіх Успамінах з 1978 г. Жылі мы ў тым самым пакоі, як раней. Сустрэлі мы там Ніны знаёмых з яе школьных гадоў. Мікалай завёз нас на сваёй машыне ў Роўна і Ніна там сустрэла сваіх старых знаёмых. 15 мая вярнуліся мы цягніком у Варшаву.

**26 мая** вылецеў у космас касмічны карабель Саюз-36 з касманаўтамі Валерыем Кубалавым і венгерскім касманаўтам Феркашам Берталанам. Далецелі яны да касмічнай станцыі Салют-6 і 3 чэрвеня вярнуліся на Зямлю на касмічным караблі Саюз-35, які быў прымацаваны да Салюта-6, якім прыляцелі раней Леанід Папоў і Валерый Румін.

**30 мая** рымскі папа Ян Павел II прыляцеў з візітам у Францыю.

**1 чэрвеня** прайшоў IX з'езд БГКТ. БГКТ мела тады 5871 членаў. З'езд звяртаў увагу на пашырэнне ліку членаў і гурткоў БГКТ, на па-

шырэнне конкурсу „Беларуская песня” і на разбуджэнне большай самастойнасці. З’езд выбраў старшынёю БГКТ Мікалая Самоціка, намесніка старшыні Георгія Валкавыцкага і сакратара Янку Зенюка. Мікалай Самоцік не дачакаў X з’езда БГКТ у 1984 г., бо памёр 17 верасня 1983 г. на 63-ым годзе жыцця, раптоўна ў час пасяджэння.

**5 чэрвеня** вылецеў у космас для праверкі новы касмічны карабель Саюз-Т-2 з касманаўтамі Юрыем Малышавым і Уладзімірам Аксёнавым на арбітальную станцыю Салют-6. У сувязі з тым, што аўтаматычнае стыкаванне са станцыяй не было паспяховым, наступіла ручное стыкаванне 6 чэрвеня, а 9 чэрвеня расстыкаваліся і карабель з касманаўтамі вярнуўся на Зямлю.

**11 чэрвеня** ў Італіі пачаўся еўрапейскі футбольны чэмпіянат. Першае месца заняла ФРГ, другое – Бельгія, трэцяе – Чэхаславакія, чацьвёртае – Італія.

**27 чэрвеня** ў катастрофе самалёта Аэраляйн Італія 870 ля Сыцыліі загінула 27 пасажыраў. Праўдападобна самалёт быў збіты неапазнаным самалётам.

**30 чэрвеня** папа рымскі Ян Павел ІІ паляцеў з візітам у Бразілію.

**30 чэрвеня** сустрэў я польскую экскурсію з „Орбіса” ў Югаславію на Цэнтральным вакзале ў Варшаве і ў спальным вагоне паехалі мы ў Будапешт. 1 ліпеня на вакзале ў Будапешце сустрэў нас венгерскі экскурсавод, які ведаў добра польскую мову, забраў нас у венгерскі аўтобус і завёз нас у рэстаран на снеданне, а пасля снедання паказаў нам горад Будапешт, яго парламент, касцёлы і масты. Пасля абеда ў рэстаране далей вазіў нас і паказваў нам горад. Завёз нас пад чэхаславацкую граніцу. А пад вечар, пасля вячэры ў рэстаране, прывёз нас на вакзал і ў спальным вагоне паехалі мы ноччу ў Бялград. 2 ліпеня на вакзале ў Бялградзе сустрэў нас сербскі экскурсавод, які ведаў добра польскую мову, і завёз нас у гасцініцу „Славія”, дзе атрымалі мы пакоі і снеданне. Пасля снеданна да 16 гадзіны вазіў нас па Бялградзе і паказваў нам яго славутасці. Аб’ехалі мы стары і новы Бялград, абышлі крэпасць Калемегдан. Пасля з’елі мы абед у гасцініцы і мелі мы вольны час.

Вольны час я правёў у Мікалая Фармакоўскага і яго жонкі Невены. Мікалай ужо вярнуўся з працы. А турысты хадзілі па магазінах Бялграда. Вярнуўся я на вячэру ў гасцініцу.

**3 ліпеня** экскурсавод да абеда завёз нас у Вайводзіну ў горад Панчава, а потым у Новы Сад. Горад Панчава да 1716 г. быў у турэцкай няволі, пасля перайшоў да Аўстра-Венгрыі і толькі пасля 1918 г. далучылі яго да Сербіі. У горадзе ёсць некалькі фабрык. Пабачылі мы там народны музей, Успенскую царкву, касцёл і кірху і паехалі-і ў Новы Сад. Новы Сад з'яўляеццасталіцай Вайводзіны. Калісь на левым беразе Дуная была аўстра-венгерская крэпасць Пэтэрвайдэн і там забаранялі сяліцца сербам. Імператрыца Аўстра-Венгрыі Марыя Тэрэза пазволіла ім будаваць дамы на правым беразе Дуная і горад назвала Неаплянта, што ў перакладзе азначае Новы Сад. Горад далучылі да Сербіі толькі пасля 1918 г. У час другой сусветнай вайны яго акупіравала Венгрыя, якая супрацоўнічала з гітлераўскімі немцамі. Мы аглядзелі горад, музеі ў крэпасці, цэрквы і касцёлы ды вярнуліся ў гасцініцу „Славія" на абед.

Пасля абеда паехалі мы 50 км на поўдзень ад Бялграда ў горад Смедэрэва, дзе рака Марава ўліваецца ў Дунай. Смедэрэва калісь быў сталіцай Сербіі і ў 15 стагоддзі пабудавалі ў ім вялікую крэпасць з 25 вялікімі вежамі, якія часткова былі разбураны толькі ў другую сусветную вайну, бо ў іх немцы трымалі выбуховыя рэчывы. Мы аглядзелі горад, яго крэпасць, сабор св. Георгія і вярнуліся на вячэру ў гасцініцу „Славія". Пасля вячэры завезлі нас на вакзал і цягніком паехалі мы ў горад Крагуевац на поўдні ад Бялграда. Прыехалі мы ў Крагуевац, калі было ўжо цёмна, ды ля вакзала чакаў на нас аўтобус з экскурсаводам, які завёз нас у гасцініцу „Зеленгора" і пайшлі мы спаць.

**4 ліпеня** пасля снедання аглядзелі мы горад. Крагуевац з'яўляецца сталіцай Шумадзіі, чацвёрты горад па вялічыні ў Сербіі, паўстаў ён у 1476 г., пасля вызвалення ад туркаў у 1815 г. быў першай сталіцый Сербіі (1818-1841). У Крагуеўцу паўсталі першая сербская гімназія і ліцэй, першы суд, тэатр, і выйшла першая сербская газета. Тут пачала развівацца сербская прамысловасць, зрабілі там першую сербскую гармату ў 1853 г. У час першай сусветнай вайны Крагуевац стаў зноў сталіцай Сербіі. 21 кастрычніка 1941 г. немцы ў помсце за забойства ў баях з партызанамі Ціта 70 нямецкіх салдатаў і афіцэраў, расстралялі 7 тысяч жыхароў горада, сярод якіх было 300 вучняў і 18 настаўнікаў мясцовай гімназіі. Людзей забіралі з вуліц і дамоў

і расстрэльвалі. У горадзе знаходзяцца брацкія магілы замардаваных немцамі жыхароў горада.

У Крагуеўцу знаходзяцца зброевыя фабрыкі і фабрыка сербскіх аўтамашын „Застава".

**4 ліпеня** да абеда і пасля абеда пабачылі мы: старую царкву Святога Духа пабудаваную ў 1818 г., будынак старага парламента з 1859 г., які з'яўляўся музеем, замак прынца Міхала з 1860 г., замак Амідша з 1820 г., які быў музеем, будынак старой гімназіі, тэатр, музей „Застава", царкву св. Георгія, замак Карагеоргавічаў і народны музей.

На наступны дзень **5 ліпеня** пасля снедання паехалі мы аўтобусам у горад Чачак. Чачак, як і іншыя гарады Сербіі, быў ад 1459 да 1815 г. у турэцкай няволі, а пасля пад ўладай Аўстра-Венгрыі. Аднак праваслаўныя цэрквы і манастыры перажылі няволю. Аглядзелі мы горад і прыгожую царкву Божай Маці і пасля паехалі ў цясніну ракі Заходняй Маравы, дзе пабачылі мы 8 праваслаўных манастыроў, якія сербы называюць Сербскім Афонам, на гары Аўгер і пад гарой Каблер. Абед з'елі мы рэстаране ў Чачаку, а на вячэру прыехалі мы ў Крагуевац у гасцініцу.

**6 ліпеня** прыехалі мы цягніком у Бялград і мелі некалькі гадзін вольнага часу да цягніка ў Варшаву. Я паспеў пайсці развітацца з Невенай, бо Мікалай Фармакоўскі быў на працы. Больш я з Невенай не сустрэўся, бо яна хутка памерла ад рака. Мікалай астаўся ўдаўцом з сынам Уладзімірам. 7 ліпеня вярнуліся мы ў Варшаву і я даведаўся аб забастоўках, якія праходзілі ў ліпені ў Польшчы.

Э. Герак з Э. Бабюхам хацелі паправіць сітуацыю з продажам мяса і **1 ліпеня** ўвялі апрача старых нармальных цэн на мяса, цэны камерцыйныя. Цэнамі камерцыйнымі назвалі цэны вышэйшыя чым цэны, якія абавязвалі раней, на лепшыя сарты мяса і прадукты перапрацоўкі з мяса, якія прадавалі ў мясных магазінах, а якія пачалі прадаваць у створаных у 70 гады камерцыйных магазінах. Людзі маглі выбіраць, ці стаяць ў вялікіх чэргах за мясам у мясных магазінах, ці за вышэйшую цану купляць яго ў камерцыйных магазінах без вялікай чаргі. Камерцыйныя магазіны атрымоўвалі больш мяса чым ранейшыя мясныя магазіны. **1 ліпеня** ўвялі камерцыйныя цэны на мяса і вяндліны ў фабрычных буфетах і сталоўках. І гэта давяло да забастовак рабочых.

**1 ліпеня** пачало баставаць больш чым 200 фабрык, а **2 ліпеня** пачалі баставаць рабочыя ў Астрове-Велькапольскім, Улацлаўку, Тчэве і Мельцу. Тады ў сталоўках ліквідавалі павышэнне цэн і абяцалі працаўнікам даць дадатак да зарплаты.

**8 ліпеня** пачалася забастоўка ў фабрыцы тэлекамунікацыйнага абсталявання ў Свідніцы, а **13 ліпеня** ў Гарадскім Камунікацыйным Прадрыемстве ў Любліне, пасля **15 ліпеня** забаставалі працаўнікі чыгункі ў Любліне.

**19 ліпеня** пачаліся ў Маскве XXII летнія алімпійскія гульні. У сувязі з тым, што ў Афганістан увайшлі савецкія салдаты, многія заходнія дзяржавы, як ЗША, Канада, Заходняя Нямеччына і іншыя, байкатавалі гэтыя гульні і не выслалі сваіх 65 зборных каманд. У алімпійскіх гульнях прымала ўдзел 80 зборных каманд, 5 217 спартсменаў. Многія заходнія каманды выступалі там не пад сваімі народнымі сцягамі, а пад алімпійскім сцягам. Алімпійскія летнія гульні ў Маскве закончыліся 9 жніўня. Першае месца па колькасці медалёў заняў СССР, заваяваўшы 80 залатых, 32 сярэбраных і 46 бронзавых медалёў, другое – ГДР, трэцяе – Балгарыя, Польшча заняла 10 месца за Англіяй.

**23 ліпеня** касмічны карабель Саюз-37 з касманаўтамі Віктарам Гарбатка і в'етнамцам Фам Туан паляцеў да арбітальнай станцыі Салют-6, састыкаваліся і 1 жніўня вярнуліся на Зямлю на Саюзе 36, на якім раней прыляцелі В. Кубалаў з венграм Феркашам Берталанам.

**25 ліпеня** я сустрэў турыстычную групу з „Орбіса" на аэрадроме Акэнце ў Варшаве а гадзіне 20 вечара і а гадзіне 22$^{10}$ паляцелі мы ў Кіеў. Разам з нашай групай паляцела таксама другая група з „Орбіса", якой гідам быў М. Міхасевіч. Разам мы ў Кіеве пасля мытнай праверкі паляцелі другім самалётам у Адлер, адкуль двума аўтобасамі „Інтурыста" ноччу зявезлі нас у Піцунду ў пансіянат „Маяк" і далі нам пакоі, а ранкам снеданне. Ля гасцініцы быў шырокі пляж і далей Чорнае мора. Мы прыехалі сюды на адпачынак. Побач з маім пакоем атрымаў пакой М. Міхасевіч. Кожны пакой меў ванны пакой з душам. На пляжы стаяла вялікая чорная скульптура „Медэі". Навокал пансіяната „Маяка" рос густы лес з піцундскай сасны і самшыта. Піцундская сасна ў адрозненні ад нашай мае доўгія мяккія іголкі. Пасля снедання я пайшоў у кашулі з кароткімі рукавамі па лясной

дарозе пабачыць гарадок Піцунду. За дзве гадзіны сонца так апаліла мне рукі, што два дні мне яны пяклі. У Піцундзе тады мелі свае дачы саноўнікі савецкай дзяржавы.

На чацвёрты дзень завезлі нас у Сочы і паказалі горад і парк. А пасля ў санаторый „Мацесту", дзе людзі лечацца ў ваннах у сернавадароднай вадзе.

На сёмы дзень завезлі нас над возера Рыца. Я над возерам быў ужо два разы ў 1967 г. і ў 1968 г., аб чым я пісаў раней. На дзевяты дзень паехалі мы ў Новы Афон. У Новым Афоне было калісь многа праваслаўных манастыроў, аднак у СССР іх закрылі. Цяпер іх ізноў адкрылі. Нам тады паказалі ў Новым Афоне толькі вялікую новаафонскую пячору, у якую завезлі нас электрычным цягнікам. На адзінаццаты дзень паказалі нам Сухумі, сталіцу Абхазскай ССР, яе санаторыі і запаведнік малпаў, які я бачыў ужо ў 1988 г. Тады там было 2 500 малпаў. Сёння асталося іх толькі 250. У час абхазска-грузінскай вайны іх застрэлілі. 8 жніўня завезлі нас на аэрадром у Адлер і мы праз Кіеў вечарам прыляцелі ў Варшаву, дзе я развітаўся з групай. З М. Міхасевічам я сустрэўся яшчэ раз у Сочы ў студзені 1985 г. Я меў адну групу турыстаў, а ён другую, і ў нас былі розныя маршруты.

У сувязі з забастоўкамі ў Польшчы савецкія турысты перасталі ў Польшчу прыязджаць і мне не трэба было іх тут сустракаць.

**2 жніўня** ў Балоніі ад падложанай бомбы гіне 80 жыхароў.

**14 жніўня** пачаліся забастоўкі на марскім узбярэжжы. Затрымалася судаверф у Гданьску. А **15 жніўня** пачалі баставаць порт і гарадская камунікацыя. Заблакіравалі сувязь з іншымі раёнамі Польшчы.

**16 жніўня** паўстаў у Гданьску Міжзавадскі бастуючы камітэт пад кіраўніцтвам Леха Валэнсы, а 17 жніўня рабочыя сфармулявалі 21 пастулатаў, між іншым стварэння незалежных прафсаюзаў.

Пастулаты былі вельмі цяжкія для ўлад і маларэальнымі. Напрыклад пастулат № 8 жадаў падняць заробак кожнага працаўніка ў Польшы на 2 тыс. зл., а пастулат № 14 жадаў, каб кожная жанчына магла ісці на пенсію ў 50 год, а нават раней калі працавала 30 год, а кожны мужчына, калі мае 55 год, а нават раней, калі працаваў 35 год, а пастулат № 18 жадаў увесці для жанчын платны водпуск на догляд дзіцяці на тры гады.

**18 жніўня** пачалася забастоўка ў Судаверфі ім. Адольфа Варскага ў Шчэціне і стварылі там Міжзаводскі бастуючы камітэт пад кіраўніцтвам Мар’яна Юрчыка і сфармулявалі 36 пастулатаў.

**19 жніўня** ў чыгуначнай катастрофе паміж Атлочынам і Бжозай на лініі Кутна – Торунь згінула 67 пасажыраў, а 64 было параненых. Пасажырскі цягнік сутыкнуўся з таварным цягнікам.

**19 жніўня** ў Рыядзе на аэрадроме гіне ў самалёце, які згарэў, 301 пасажыр.

**23 жніўня** на Гданьскім узбярэжжы пачалася генеральная забастоўка. Паўстаў першы нумар Інфармацыйнага Бюлетэня Бастуючых „Салідарнасць”, а **24 жніўня** ў Гданьску паўстала камісія экспертаў пры Міжзаводскім бастуючым камітэце з кіраўніком Тадэвушам Мазавецкім.

**24 жніўня** на IV Пленуме ЦК ПАПР адклікалі з Палітычнага Бюро Эдварда Бабюха. Прэм’ер-міністрам выбралі Юзэфа Пінькоўскага.

**26 жніўня** ў Чанстахове прымас Польшчы кардынал Стэфан Вышынскі заклікае бастуючых закончыць забастоўкі і прыступіць да працы. Бастуючыя не згадзіліся.

**30 жніўня** дзяржаўная камісія падпісала дамову з Міжзаводскім камітэтам бастуючых у Шчэціне, а **31 жніўня** ў Гданьску. У Гданьску падпісваў дамову з боку бастуючых Лех Валэнса, а з боку дзяржаўнай камісіі Мечыслаў Ягельскі. Згадзіўся ён на 21 пастулатаў бастуючых і на ўзнікненне незалежных ад дзяржавы прафсаюзаў.

**30 жніўня** паехалі я з жонкай Нінай і дачкой Ірэнай у вёску Чаромху на шлюб наймалодшай дачкі маёй сястры Марыі, Гені Унучка. Яна закончыла сярэднюю школу і працавала ў Бельску-Падляшскім. Выходзіла яна замуж за Станіслава Кучыньскага з вёскі Крывая пад Бельскам-Падляшскім. Ён таксама закончыў сярэднюю школу і працаваў у Бельску-Падляшскім. Вечарам 30 жніўня сышліся госці ў дом маёй сястры, дзе адсвяткавалі вяселле, а 31 жніўня Геня са Станіславам і сведкамі легкавой машынай, а госці разам з намі нанятым аўтобусам паехалі ў вёску Крывую, а пасля ў царкву Адсячэння галавы Яна Хрысціцеля ў Шчытах-Дзенцялове, дзе іх вянчалі. Цывільны шлюб яны ўзялі раней у Бельску–Падляшскім. Пасля шлюбу ў царкве было вяселле ў доме бацькоў Станіслава амаль да ранка і ранкам 1 верасня мы і госці вярнуліся нанятым аўтобусам у вёску Чаромху,

а пасля мы цягніком паехалі ў Варшаву. Сын Георгій не мог паехаць на шлюб, бо аставаўся з хворай маткай Ніны.

Геня жыла з мужам толькі некалькі год, бо Станіслаў згінуў на басейне, калі скакаў з трампліна. Яна пасля выйшла замуж за малодшага брата Станіслава Георгія і жыве з ім ад 1989 г. у Чыкага ў ЗША. Маюць яны ўжо грамадзянства ЗША. Георгій працуе там у фабрыцы механікам, а Геня купіла за пазыку ў банку некалькі дамоў і наймае іх кватарантам. Пазыку яны ўжо ўсю сплацілі.

Старэйшая сястра Гені Аліна Жменька таксама жыве ў Чыкага і мае грамадзянства ЗША. Яна выйшла замуж пазней, бо 15 мая 1983 г., ды хутка аўдавела, бо яе мужа Славаміра Жменьку забілі дзесьці каля Орлі. Аліна закончыла ў Польшчы вышэйшую эканамічную ўстанову і атрымала кааператыўную кватэру ў Бельску-Падляшскім, у якой цяпер восенню і зімой і вясной жыве мая сястра. Калі яна аўдавела, то выцягнула жарэб'я на пражыванне ў ЗША і выехала да сястры Гені ў Чыкага і там здала ўжо іспыты на грамадзянства ЗША.

Працуе там таксама сын найстарэйшай яе сястры Ніны, якая жыве з мужам на станцыі ў Чаромсе, Андрэй Леўчук, які ў Чыкага мае жонку і дзве дачкі, аб якім я пісаў у маіх успамінах з 1970 г. Так што дзве старэйшыя дачкі маёй сястры Марыі жывуць на пенсіі ў Польшчы, а дзве малодшыя знаходзяцца ў Чыкага.

**1 верасна** апублікавалі ў газетах пратаколы дамоў між бастуючымі і ўладай у Шчэціне і Гданьску.

**1 верасня** ў катастрофе ў шахце каменнага вугля ў Галэнбе згінула 8 шахцёраў.

**6 верасня** Эдвард Герэк пайшоў у адстаўку з першага сакратара ПАПР. Яго месца заняў Станіслаў Каня.

**6 верасня** вечарам сустрэўся я на варшаўскім аэрадроме з групай турыстаў „Орбіса", якія прыехалі з Лодзі і паляцеў з імі самалётам у Варну ў Балгарыю. Калі ноччу ў самалёце я пачаў запісваць хто з кім хоча жыць у двумесным пакоі ў гасцініцы ў Варне, то ўзніклі пары мужчына з жанчынай, якія хацелі жыць разам. На адну пару старэйшай жанчыны з маладым мужчынам я не згадзіўся, бо тады я мусіў бы жыць у двумесным пакоі з нейкім мужчынам, а нейкая жанчына ў аднамесным. Жанчыну памесціў у пакоі з другой старэйшай жанчынай, а мужчыну з другім мужчынам. Аднак малады мужчына быў

такі смелы, што часта прыходзіў ноччу ў ложак да гэтай жанчыны і не даваў спаць другой жанчыне (аб чым яна мне скардзілася).

Другая пара гэта быў старэйшы мужчына, які выкупіў экскурсію для маладой дзяўчыны, і з ёй разам спаў у пакоі.

Атрымалі мы пакоі ў высокім Інтэр-Гатэлю на 10-тым і на 11-тым паверсе. Кожны пакой мей ванны пакой. Экскурсія была адпачынковая. З Варны экскурсія была толькі да маўзалея польскага і венгерскага карала Уладыслава Варнэньчыка, сына Уладыслава Ягайлы і Сафіі Гальшанскай, які тут загінуў у баі з Туркамі 10 лістапада 1944 г.. Пасля паказалі нам каменны лес з высокімі на 6 м калонамі, якія паўсталі 50 млн год таму назад на паверхні 50 кв км з геалагічных сталагмітаў. Была экскурсія ў Несебер за валюту, на якую я не ездзіў, бо ўжо там быў у 1977 г. Нейкія турысты ездзілі. Пляж ад гасцініцы быў метраў 500, аднак у верасні турыстаў на пляжы было мала, хаця ўвесь час пагода была сонечная і вада ў моры была цёнлая. Абышоў я ўсю Варну, быў у прыгожым Успенскім Саборы, паехаў аўтобусам у Залатыя Пяскі, туды, дзе я быў у 1968г. На пляжы адпачываючых было ўжо не вельмі многа. 21 верасна самалётам вярнуліся мы ў Варшаву. Дома я даведаўся, што памёр у Варшаве, закончыўшы 54 год, мой сябра з вёскі Чаромхі Антон Ляшчыньскі, з якім вучыўся я ў Чаромсе, Брэсце і ў Бельску-Падляшскім. Пакінуў ён жонку, сына і дачку. На жаль, жонка яго, каталічка, не пахавала яго на праваслаўных могілках на Волі, а на далёкім камунальным Паўночным Пагосце. Браў ён шлюб з ёй у Варшаве ў касцёле і ў царкве, сына хрысціў у царкве, а дачку ў касцёле.

18 верасня выляцеў у космас касмічны карабель Саюз-38 з касманаўтамі Юрыем Раманенкам і кубінцам Тамайсам Мендэсам Арнальдам. Даляцелі яны да арбітальнай станцыі Салют-6, прыстыкаваліся і былі там разам з касманаўтамі Леанідам Паповым і Валерыем Руміным і вярнуліся на Зямлю на Саюзе-38 26 верасня.

**22 верасня** пачалася іракска-іранская вайна. Яе пачаў дыктатар Іракa Гусейн.

**22 верасня** ўзнікла Незалежнае згуртаванне Студэнтаў (NZS).

**26 верасня** ад бомбы ў Мюнхене гіне 13 асоб, а 219 было параненых.

**2 кастрычнік**а пачаўся ў Варшаве X Міжнародны конкурс піяністаў ім. Ф. Шапена, на якім першае месца атрымаў **19 кастрычнка** в'етнамец Данг Тхай Шон.

**9 кастрычніка** Чэславу Мілашу прызналі літаратурную Нобелеўскую прэмію.

**10 кастрычніка** ад землятрусу гіне ў Алжыры 315 тыс. жыхараў, а 10 тыс. было параненых.

**11 кастрычніка** вярнуліся з арбітальнай станцыі Салют-6 пасля 185 дзён працы на ёй Леанід Папоў і Валерый Румін касмічным караблём Саюз-37.

**23 кастрычніка** прэм'ер-міністрам СССР стаў Мікалай Ціханаў.

**4 лістапада** Рональд Рэйган быў выбраны прэзідэнтам ЗША.

**10 лістапада** Вярхоўны Суд у Польшчы зарэгістраваў Незалежны самакіруючы прафсаюз „Салідарнасць".

Я ў 1980 г. працаваў над праектамі ў электрастанцыі Белхатаў і амаль кожны тыдзень ездзіў туды з іншымі праекціроўшчыкамі машынай „Энергапраекта" на адзін дзень, часам затрымоўваўся там і начаваў у гасцініцы ў Белхатаве. 19 лістапада пачалі там машыны капаць на склад буры вугаль з кар'ера.

**12 дістапада** зонд Ваяджэр прыблізіўся да Сатурна і зрабіў здымкі персценя вакол планеты.

**15 лістапада** рымскі папа Ян Павел II паляцеў з візітам у Заходнюю Нямеччыну.

**23 лістапада** ад землятрусу ў Італіі пад Неапалем згінула 2914 жыхароў.

**1 снежня** савецкія ўлады перадалі польскім генералам Т. Гупалоўскаму і Ф. Пахале планы нападзення на Польшчу падчас вайсковых манеўраў салдат Варшаўскага дагавора.

**2 снежня** на VII пленуме ЦК ПАПР выкінулі Э. Герка з ЦК ПАПР і абвінавацілі яго ў эканамічным, сацыяльным і ўнутрыпартыйным крызісе ў дзяржаве.

**4 снежня** ў катастрофе пад Лізабонам гіне прэм'ер-міністр Партугаліі з міністрам абароны разам з іх жонкамі і пілоты.

**9 снежня** ля Карліна пры свідраванні зямлі ў пошуках нафты наступіла зваржэнне нафты і паўстаў пажар, які апёк двух працаўнікоў.

Па тэлевізару паказвалі высокі фантан агню, які выходзіў з зямлі. Пажар пагасілі толькі 8 студзеня 1981 г.

**10 снежня** Чэслаў Мілаш атрымаў літаратурную Нобелеўскую прэмію.

14 снежня пачаўся з’езд прадстаўнікоў „Сялянскай салідарнасці”.

**16 снежня** ў Гданьску адкрылі Помнік суднабудаўнікам загінуўшым у 1970 г.

**21 снежня** ў катастрофе самалёта ў Калумбіі гіне 70 пасажыраў.

У Афганістане ў 1980 г. гінуць 1484 савецкія салдаты.

# 1981

**7 студзеня** дзяржава закрыла прадукцыю гуты алюмінію ў Скавіне ля Кракава, якая працавала ад 1954 г. і прадукцыю цэлюлозы ў Яленяй-Гуры.

**8 студзеня** затрымалі вывяржэнне нафты ў Карліне і пагасілі і пажар, які выбух пры свідраванні зямлі ў пошуках нафты 9 снежня 1980 г.. Тады быў вялікі шум, бо многія верылі, што там у зямлі знаходзіцца многа нафты. 16 студзеня пайшоў у перагонны завод з Карліна першы транспарт нафты, пасля аказалася, што ў Карліне знаходзіцца мала нафты.

Пасля беларускага навагодняга балю ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве інжынер Валянцін Пацэвіч з Беластока зрабіў шлюбную прапанову маёй дачцэ Ірэне, якая ўжо закончыла вучобу ў Галоўнай школе планавання і статыстыкі ў Варшаве. Трэба было ёй яшчэ зрабіць дыпломную практыку і напісаць і абараніць магістэрскую дыпломную працу. Аднак яна згадзілася на шлюб. Цывільны шлюб быў назначаны ў Варшаве на 5 лютага, а царкоўны на 15 лютага ў царкве ў Бельску-Падляшскім.

**20 студзеня** Іран асвабадзіў амерыканскіх заложнікаў, якіх іранцы трымалі доўгі час ў Пасольстве ЗША і Рональд Рэйган стаў новым прэзідэнтам ЗША.

**25 студзеня** ў Кітаі засудзілі гэтак названую імі „банду чатырох”, у якую ўваходзіла жонка Мао Цзедуна. Яе прыгаварылі на кару смерці ды замянілі пасля на пажыццёвае зняволенне.

**26 студзеня** „Салідарнасць” на Падбяскіддзі аб’явіла да 6 лютага генеральную забастоўку.

**5 лютага** Галоўная статыстычная ўстанова падала, што сярэдні заробак у Польшчы ў 1980 г. раўняўся 5 755 зл. Падатку ад яго не бралі.

**5 лютага** адбыўся цывільны шлюб у Палацу шлюбу Шустра ў Варшаве на Макатове. Сведкам Ірэны была сястра Марыі Каліноўскай, у якой мы былі ў Вене, Ліда, а з боку Валянціна быў яго дваюрадны брат Георгій Чарняўскі. Была музыка і фота. У сувязі і з тым, што было многа гасцей, я папрасіў В. Шведа, каб ён аддаў нам на вечар памяшканне Варшаўскага Аддзела БГКТ. Там адсвяткавалі мы цывільны шлюб.

**9 лютага** былога прэм’ер–міністра Польшчы Пятра Ярашэвіча выкінулі з ПАРП.

**11 лютага** генерал Войцех Ярузельскі быў назначаны прэм’ер-міністрам Польшчы.

На **15 лютага** я з жонкай і з сынам і з многімі сяброўкамі дачкі Ірэны паехалі аўтобсам праз Браньск у Грабавец у дом бацькоў Валянціна Пацэвіча, адкуль пасля завезлі нас у Бельск-Падляшскі, дзе ў царкве Нараджэння Прасвятой Дзевы Марыі адбыўся царкоўны шлюб Ірэны і Валянціна. Прыём гасцей быў у доме бацькоў Валянціна ў Грабаўцы. Маладыя пасля шлюбу пераехалі ў Беласток на кватэру Валянціна, а мы з запрошанымі сяброўкамі Ірэны вярнуліся ў Варшаву. Ірэна пасля ў Беластоку мела дыпломную практыку ў фабрыцы і там напісала дыпломную працу.

**16 лютага** папа рымскі Ян Павел II паляцеў з візітам у Пакістан, Філіпіны, на астравы Гуам, у Японію і на Аляску. Закончыў візіт 27 лютага.

**17 лютага** зарэгістравалі ў Варшаве Незалежнае аб’яднанне студэнтаў (NZS).

**28 лютага** ўрад Войцеха Ярузельскага ўводзіць харчовыя карткі на мяса і вяндліны.

**8 сакавіка** пачаўся з’езд Салідарнасці Індывідуальных сялян у Познані. Выбралі кіраўнікам Яна Кулая.

Калісьці я пачуў у радыё „Вольная Еўропа” інтэрв’ю Леха Валэнсы, у якім ён гаварыў, што „Салідарнасць” будзе старацца, каб у Польшчы

ўвесці капіталізм. Гэта мне тады не спадабалася, хаця я таксама не захапляўся ўладай, якая тады была ў Польшчы з-за яе палі-тычных рэстрыкцый і іншых заган. Капіталізм я ведаў з маіх юнацкіх год, калі зімою кожны дзень у вёску Чаромху прыходзіла дзесяткі беспрацоўных, галодных, абарваных, часта хворых людзей, якіх солтыс раздзяляў паміж сялянамі. Селянін мусіў даць ім скромную вячэру і снеданне, разаслаць ім на падлозе салому, каб яны ноччу маглі на ёй спаць. Потым беспрацоўныя ішлі ў другую вёску, а прыходзілі іншыя. За 15 год перадваеннага польскага капіталізму сялянам у вёсках таксама вельмі цяжка было жыць. Вясной летам і восенню ўсе сяляне хадзілі босыя, не мелі грошай на абутак, не было электрычнага святла ў дамах, а асвятлялі пакоі газавымі лямпамі і лучынай, усю зіму сяляне малацілі збожжа цэпамі, а летам жанчыны жалі збожжа сярпамі. Рэдка я тады бачыў малатарню з конным прывадам. Пасля вайны ў 1950 г. вёска Чаромха атрымала электрычнае святло, хутка паявіліся касілкі, жняяркі і малатарні на бензін, людзі хадзілі абутыя. Капіталізм – гэта беспрацоўе, вялікая грамадзянская несуразмернасць. Беспрацоўе родзіць бандытызм, мафіі, ашуканства, карупцыю, абніжае натуральны прырост насельніцтва. Адны багацеюць коштам іншых. Я бачыў тысячы маладых беспрацоўных, бяздомных маладых людзей на вуліцах Парыжа і ў іншых капіталістычных гарадах, якія жабравалі. І таму я ў маім бюро ў „Салідарнасць" не запісаўся і анархія, якую яны тады стварылі, мне не падабалася. Хаця заробкі насельніцтва ў Польшчы былі невялікія і былі чэргі за мясам, ды ў сувязі з тым, што не было беспрацоўя, прырост натуральны насельніцтва быў вялікі, у 1955 г. дайшоў амаль да 20 праміля і У. Гамулка заклікаў, каб будавалі тысячы школ на Тысячагоддзе Польшчы. Цяпер у сувязі з беспрацоўем натуральны прырост насельніцтва так знізіўся (цяпер ў Польшчы больш умірае людзей, чым родзіцца дзяцей), што не толькі ўсе збудаваныя школы на вёсках зліквідавалі, а яшчэ павышаюць людзям гады, калі яны могуць ісці на пенсію. Я бачу у ў Варшаве, як бяздомныя выцягваюць са сметнікаў спажывецкія прадукты. А зімой гіне ад марозу дзесяткі бяздомных людзей. Адны будуюць палацы, а другія спяць зімою ў каналах цеплацэнтралі. Цяпер у Польшчы нягледзячы на тое што больш як два мільёны гра-

мадзян Польшчы выехала за граніцу шукаць працы, беспрацоўнымі часта бывае больш як 12% грамадзян здольных да працы.

**12 красавіка** выляцеў першы раз у космас амерыканскі многаразовы транспартны карабель Калумбія з касманаўтамі Джонам Янгам і Робертам Крыненам. Гэта быў пробны палёт у космас. Калумбія лятала ў космас 28 разоў.

На **15 сакавіка** ў „Орбісе" я атрымаў польскую экскурсію ў Гомель. У „Орбісе" сказалі, што савецкія экскурсіі ў Польшчу ўжо не прыязджаюць, баяцца польскіх забастовак. Я сустрэў польскую экскурсію на Цэнтральным вакзале і ў спальным савецкім вагоне паехалі мы ў Брэст. Там наш вагон далучылі да другога цягніка і ноччу мы паехалі у Гомель. Рана ў Гомелі з вакзала забраў нас аўтобус „Інтурыста" і завёз нас у вялікую гасцініцу „Гомель" у цэтры горада, недалёка ад вакзала, дзе атрымалі мы пакоі з ваннымі пакоямі , а потым снеданне. У Гомелі ля гасцініцы і ў горадзе ляжалі яшчэ гурбы снегу.

Пасля снедання аўтобусам „Інтурыста" экскурсавод паказаў нам горад, парк, дварцы Паскевіча і Румянцава і вярнуліся мы на абед у гасцініцу. Пасля абеда быў час вольны і я сам пахадзіў па горадзе, прыпомніў год 1946, калі я вяртаўся як дэмабілізаваны салдат з Бабруйска дамоў праз Гомель і Брэст. Вячэру зрабілі нам з вінoм, музыкай і танцамі, да 12 гадзіны ночы. Многа турыстаў хадзіла ў час вольны на базар і гандлявалі і за праданыя рэчы і за грошы, якія абмянялі на рублі, куплялі розныя тавары ў магазінах, бо ў Польшчы тады з-за забастовак і анархіі было цяжка нешта купіць. Многія куплялі залатыя пярсцёнкі і іх правозілі праз граніцу.

На наступны дзень **17 сакавіка** завезлі нас за Гомель, паказалі Прыпяцкі парк і горад Вятку, дзе калісь жыло многа старавераў. Пасля абеду быў вольны час і турысты бегалі па магазінах.

**18 сакавіка** аўтобус „Інтурыста" завёз нам у горад Рэчыцу, дзе аглядзелі мы ў Дзяцінным парку Гарадзішча на правым беразе Дняпра, звонку Троіцкі касцёл, які быў закрыты, Свята-Успенскі сабор і капліцу св. Ефрасінні і на абед вярнуліся ў гасцініцу і быў час вольны да вячэры. Вечарам завезлі нас на вакзал і ў спальным вагоне паехалі мы ў Брэст, дзе далучылі наш вагон да цягніка, які ехаў у Варшаву і 19 сакавіка я развітаўся з групай на Цэнтральным вакзале ў Варшаве.

**19 сакавіка** пачаўся вялікі шум у тэлевізіі, бо ў Быдгашчы на сесіі Ваяводскай народнай рады міліцыя пабіла трох актывістаў „Салідарнасці". Назвалі яе „быдгашчскай правакацыяй".

**22 сакавіка** СССР выслаў у космас касмічны карабель Саюз-39 з савецкім касманаўтам Уладзімірам Джэнібэкавым і мангольскім касманаўтам Гурагчаям Жугдэрдэміндыйнам. Прыстыкаваліся яны 23 сакавіка да арбітальнай станцыі Салют-6 і 30 сакавіка вярнуліся на Зямлю.

**24 сакавіка** падалі камунікат аб прадаўжэнні на час неакрэслены трэніроўкі войск „Саюза 81" Заходніх акругоў Савецкай Арміі і атрадаў, якія стаяць у Польшчы разам з атрадамі войск ГДР. Знаходзіліся яны ўсе ў павышанай баявой гатоўнасці.

**27 сакавіка** фірма Xerox Parc паказала першую камп'ютарную мыш.

**30 сакавіка** наступіў няўдалы замах на жыццё прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана.

**10 красавіка** прэм'ер Войцех Ярузельскі звярнуўся з заклікам у Сейме да „Салідарнасці", каб яна прыпыніла на тры месяцы ўсе забастоўкі.

**16 сакавіка** прайшоў надзвычайны з'езд артыстаў, які аднавіў былую назву Саюза Артыстаў Польскіх Сцэн (ZASP), старшынёю саюза выбралі Анджэя Шчэпкоўскага.

**23 сакавіка** прыехала ў Польшчу делегацыя КПСС пад кіраўніцтвам Міхала Суслова.

**27 сакавіка** ў гастранамічным камбінаце „Каскада" ў Шчэціне згінула ў пажары 14 асоб.

**30 сакавіка** урад увёў карткі на  масла, муку, кашу і рыс.

**12 мая** зарэгістравалі Незалежны самакіруючы саюз індывідуальных сялян „Салідарнасць".

**13 мая** на пляцы св. Пятра ў Рыме турак Магмет Алі Агча раніў выстралам з пісталета рымскага папу Яна Паўла ІІ. Тэрарыста арыштавалі.

**14 мая** выляцеў у космас савецкі касмічны карабель Саюз-40 з савецкім касманаўтам Леанідам Паповым і румынскім касманаўтам Прунарыўам Думітрам Дорынам. Даляцелі яны да арбітальнай станцыі Салют-6, прыстыкаваліся, а 27 мая вярнуліся на Зямлю.

**19 мая** згінула 5 англійскіх салдат ад выбуху бомбы падложанай ірландскімі тэрарыстамі ў Паўночнай Ірландыі ў Бесбруку.

**28 мая** памёр у Варшаве польскі каталіцкі кардынал прымас Польшчы Стэфан Вышынскі і 7 ліпеня рымскі папа Ян Павел II устанавіў, а 12 верасня назначыў на яго месца кардыналам і прымасам Польшчы вармінскага епіскапа Юзэфа Глемпа.

**4 чэрвеня** згінула 25 пасажыраў, а 8 было параненых у чыгуначнай катастрофе пад Асецкам, а 5 чэрвеня прыехаў на 14 дзён з візітам у Польшчу лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш.

**6 чэрвеня** ў індыйскім штаце Біхар цягнік упаў у раку, згінула некалькі соцень пасажыраў.

**7 чэрвеня** ізраільскія самалёты знішчылі бомбамі іракскі атамны рэактар у Асіраку.

**28 чэрвеня** ў Познані афіцыйна быў адкрыты Помнік Ахвяр Чэрвеня 1956 г. на пляцы Міцкевіча.

**20 ліпеня** згінула 50 пасажыраў у катастрофе самалёта Фокер Ф-27 у Самаліі.

**1 жніўня** ўрад Польшчы паменшыў на 15-20% картачныя нормы на мяса, яго прадукты перапрацоўкі і ўвёў картачкі на пральны парашок.

**3 жніўня** пачаліся перагаворы паміж урадам і „Салідарнасцю", якая грозіла генеральнай забастоўкай.

**21 жніўня** Ежы Урбан, журналіст „Палітыкі" быў назначаны прэс-сакратаром урада.

**22 жніўня** ў катастрофе Боінга 737 на Тайване згінула110 пасажыраў.

**27 жніўня** ў катастрофе самалёта Вікерс Вісконт у Калумбіі згінула 50 пасажыраў

З Сарн атрымалі я з Нінай запрашэнне разам са знаёмай з суседняга блоку Янінай Сахацкай ад школьнай сяброўкі Ніны з Сарн Вольгі Чмерук прыехаць да іх. Муж Вольгі Чмерук быў родным братам мужа Яніны Сахацкай, нашай знаёмай з суседняга блока. У сувязі з палітычнай сітуацыяй у Польшчы муж Тамары Панько, стрыечнай сястры Ніны, пабаяўся нас запрасіць да сябе. 28 жніўня паехалі мы цягніком праз Брэст у Сарны. У сувязі з тым, што Вольга Чмерук мела вялікую сям'ю, затрымала ў сябе толькі Яніну

Сахацкую, а нас перадала на кватэру да сваёй сяброўкі Кацярыны Дударык, якая мела ўласны дом з пяццю пакоямі, ваннай і туалетам. У Кацярыны Дударык атрымалі мы вялікі пакой з двума ложкамі і маглі ў яе карыстацца з ваннага пакоя і з туалета. Давала яна нам таксама снеданні, абеды і вячэры, хаця часта мы гасцявалі у Вольгі Чмерук і ў яе сваякоў, якія запрашалі нас на сустрэчы. Калі выехаў кудысьці муж Тамары Панько Мікалай, Тамара запрасіла нас у госці да сябе. Выбралі мы адзін дзень і паехалі з Вольгай Чмерук да яе сястры ў Луцк. Паглядзелі мы горад, царкву і пахадзілі па магазінах. Я там купіў невялікі каляровы тэлевізар, які служыў мне разам з польскім чорна-белым тэлевізарам да майго выезду ў сакавіку 1986 г. у Індыю. У сувязі з тым, што ў польскіх магазінах у Варшаве цяжка было нешта купіць, Ніна таксама накупіла многа тавару. Калі 12 верасня вярталіся мы цягнікам, то савецкі тамажнік у Брэсце паглядзеў на наш багаж, памахаў галавою і сказаў: Не буду вас проверять, потому что знаю, какая у вас ситуация. І так вярнуліся мы ў Варшаву.

**5 верасня** ў Быдгашчы ўцякло пасля бунту з турмы 188 крымінальных вязняў.

**8 верасня** на Нацыянальным з’ездзе дэлегатаў „Салідарнасці” выслалі Заклік да працаўнікоў Усходняй Еўропы да супольнай барацьбы за свае правы і свабоду.

**15 верасня** Савет Міністраў увёў для шахцёраў за працу ў вольныя суботы 3 разы большую зарплату.

**6 кастрычніка** ў Каіры ў час вайсковага парада гіне на трыбуне ад замаху прэзідэнт Егіпта Анвар Садат.

**15 кастрычніка** падалі, што ў Польшчы выйшла з фабыкі мільён аўтамабіляў Фіат126-п, якога называлі „Малюхам”.

**15 кастрычніка** Войцех Ярузельскі стаў першым Сакратаром ПАРП.

**26 кастрычніка** пачалася забастоўка ў Вышэйшай інжынернай школе у Радаме.

**27 кастрычніка** пачалася акупацыйная забастоўка ў вугальнай шахце „Сасновец”.

**30 кастрычніка** паляцела на Венеру савецкі зонд Венера --13, які даляцеў на планету Венеру 2 сакавіка 1982 г. і перадаваў інфармацыю на Зямлю 2 гадзіны і пры тэмпературы 465 °C замоўк.

**1 снежня** ў катастрофе югаслаўскага самалёта МД-61 згінула 180 пасажыраў.

**11 снежня** канцлер Заходняй Нямеччыны Гельмунт Шмідт першы раз прыехаў з візітам у ГДР.

**11 кастрычніка** сілы ўрада ў Сальвадары забілі ў Эл Мазоце 900 грамадзян Сальвадара.

**7 лістапада** тайна ўцёк з Польшчы ў ЗША з польскага Генеральнага штаба амерыканскі шпіён Рышард Куклінскі.

**12 лістапада** пачалі баставаць усе вышэйшыя навучалныя ўстановы, а 19 лістапада нават сярэднія школы Любліна і ваяводства.

**22 лістапада** павысілі цэны бензіна і аўтолу на 50-80%.

27 лістапада адкрылі мост у Варшаве імя генерала Стэфана Грота–Равецкага.

**1 снежня** павысілі цану алкаголю на 40-80 %

**12 снежня** Рада Дзяржавы ўвяла ваеннае палажэнне ў Польшчы.

**13 снежня** ў нядзелю Ваенная рада народнага збаўлення (WRON) ноччу ўвяла патаемна Ваеннае становішча. Калі я рана ўстаў, заўважыў, што не працуе тэлефон. Хутка па тэлевізары выступіў Войцех Ярузельскі, які аб'явіў, што ўводзіцца ваеннае становішча ў дзяржаве. На вуліцах стаялі танкі і салдаты. Многа асоб было інтэрнаваных і вывезеных у лагер ці ў турму. Ваеннае становішча часова адтэрмінавалі **31 снежня 1982 г.**, а зусім закончылі **22 ліпеня 1983 г.** У час ваеннага становішча многа газет і журналаў было закрытых. Можна было купіць „Трыбуну лдюду" , „Жолнеж вольносці" і яшчэ нейкія газеты. **Ад сакавіка 1982 г.** пачала выходзіць „Ніва".

Некалькі дзён перад гэтым вярнуўся з Ленінграда мой сын Юра і гаварыў, што людзі, якія ўваходзілі ў вагоны блізка савецка-польскай граніцы, гаварылі, што стаіць блізка польскай граніцы савецкая армія, якая чакае на прыказ, каб увайсці ў Польшчу. Яны, відна, чакалі, калі ў Польшчы будзе ўведзена ваеннае становішча. Перад гэтым я ці мая жонка Ніна часта ездзілі цягніком у Беласток да нашай дачкі Ірэны, якая там жыла. Цяпер, каб паехаць у Беласток, трэба было атрымаць згоду на выезд. А дачка ўжо была цяжарная і 15 студзеня 1982 г. нарадзіла сына Луку.

**14 снежня** армія акружыла гданьскую суднаверф. Матарызаваныя рэзервы міліцыі (ZOMO) увайшлі да суднаверфі і зламалі супрацію

рабочых пры дапамозе танкаў і верталётаў. Задушылі таксама супрацiў у шахце „Ліпеньскі Маніфест", а 16 снежня ў шахце „Вуек" згінула ад куль 9 шахцёраў. Падавалі, што быццам бы шахцёры кінуліся з ланцугамі на міліцыю і таму міліцыя для самаабароны прымяніла зброю.

**15 снежня** ЗОМО разбіла маніфестацыі ў Гданьску і Кракаве.

**20 снежня** закончылася забастоўка ў Гданьскім порце.

**21 снежня** польскі пасол у ЗША Рамуальд Спасоўскі папрасіў прытанішча.

**24 снежня** выступіў у тэлебачанні і радыё Войцех Ярузельскі і заявіў, што ў сувязі з анархіяй у дзяржаве ўлады былі змушаны ўвесці ваеннае становішча.

**28 снежня** закончылі ў шахце ,.Пяст" забастоўку1074 шахцёры

**30 снежня** Ваенная рада народнага збаўлення (WRON) звярнулася з просьбай да сейму, каб стварыў Трыбунал, які асудзіў бы людзей, якія давялі Польшчу да крызісу ў 1970-тых гадах.

**14 снежня** я пайшоў на працу ў „Энергапраекце". З „Энергапраекту» нікога не арыштавалі, нікога не інтэрнавалі. Пачалася далей нармальная праца над праектамі. Я далей праектаваў электрастанцыю Белхатаў, у якой 29 снежня, у час ваеннага становішча, сінхранізавалі з энергетычнай сеткай  першы блок магутнасці 380 мегаватаў. Нам дазвалялі кожны тыдзень туды ездзіць у камандзіроўку. У бюро да10 студзеня 1982 г. не працавалі тэлефоны. Тэлефонную сувязь між гарадамі ўвялі 29 сакавіка1982 г. Аўтобусы і трамваі па Варшаве ездзілі нармальна. На многіх вуліцах стаялі салдаты, ездзілі ноччу па вуліцах танкі і вайсковыя машыны. Ноччу ад 22 гадзіны да 6 рана без пропуска нельга было хадзіць. У нашай кватэры мой сын Юра на сустрэчу Новага года запрасіў сваіх сяброў. Нас запрасілі на сустрэчу Новага года нашы знаёмыя з суседняга блока, Сахацкія. Дамоў вярнуліся мы ранкам. Да **4 студзеня 1982 г.** не працавалі школы, а вышэйшыя навучальныя ўстановы да **4 лютага 1982 г.** Увесь 1982 год я не мог ездзіць на экскурсіі за мяжу. Першую экскурсію меў 1983 годзе ў Будапешт на Венгрыю, потым у Прагу ў Чэхаславакію, а пасля і ў СССР у Беларусь, Днепрапетроўск, Казахстан, Італію і прыватна мы ездзілі ў Заходнюю Нямеччыну. Ездзіў я з жонкай і унукам Лукой у дом адпачынку у 1983 г.у Рэваль, а у 1984 г. у Кузніцу. У верасні 1984

г. былі мы 10 дзён у нашага знаёмага Уладзіміра Ганскага ў Заходняй Нямеччыне, у Хаген. Яшчэ пасля вяртання з Індыі ў канцы 1988 г. я меў экскурсіі з польскімі турыстамі ў СССР, у Гомель і ў Магілёў. І ў лістападзе 1989 г. я пайшоў на пенсію. Я, як франтавік, меў права пайсці на пенсію калі закончыў 60 год, ды 60-годдзе майго жыцця мяне сустрэла ў Індыі, 8 лістапада1986 г. Я працаваў бы яшчэ далей, каб мая дачка і зяць не выехалі на працу ў ЗША, у Чыкага. Пайшоў я на пенсію, каб пільнаваць разам з жонкаю ў Беластоку ўнукаў, якія ўжо хадзілі ў школу, пакуль дачка ў сакавіку 1991 г. не вярнулася з Чыкага.

# 1982

Сын запрасіў на сустрэчу Новага 1982 г. сваіх сяброў і сябровак, а я з жонкаю сустракалі тады Новы год у суседнім доме на кватэры ў Сахацкіх. Чакалі мы там да 6-ай гадзіны ранкам, калі можна было хадзіць па вуліцах.

Працаваў я нармальна ў „Энергапраекце" і праектаваў электрычную частку электрастанцыі на буры вугаль у Белхатаве, першы блок якой магутнасці 380 мегаватаў пачаў даваць электраэнергію ў электрычную дзяржаўную сетку **29 снежня 1981 г.** Праектаваў я наступныя энергетычныя блокі гэтай электрастанцыі і амаль кожны тыдзень машынай „Энергапраекта" ездзіў я з другімі працаўнікамі бюро на некалькі гадзін туды. Ехалі мы ў Белхатаў ранкам і вярталіся дамоў пад вечар.

**1 студзеня** ўлады абвесцілі, што ў сувязі з забастоўкамі „Салідарнасці" нацыянальны даход у дзяржаве ў 1981 годзе паменшыўся на 13 %.

**2 студзеня** ўлады развязалі Саюз Артыстаў Польскіх Сцэн (ZASP), а **6 студзеня** – Незалежны Саюз Студэнтаў (NZS) і дазволілі ўводзіць вучобу на вышэйшых навучальных установах.

**10 студзеня** ўключылі гарадскія тэлефоны, а міжгарадскую тэлефонную сувязь кантралявалі. У тэлефоне інфармавалі, што размову падслухоўваюць. **10 студзеня** рака Вісла ля Плоцка прарвала валы і затапіла частку горада і блізкія вёскі.

**12 студзеня** я з жонкаю паехаў у Беласток, бо там наша дачка Ірэна 15 студзеня ў бальніцы нарадзіла сына, якому далі пасля імя Лука.

**13 студзеня** ў Вашынгтоне самалёт Боінг 737 лініі Фларыда ўпаў у раку Патамак, раней зачапіўшыся за мост і пацягнуўшы за сабой некалькі аўтамашын. Згінула 78 асоб, а 6 асоб уратавалі.

**17 студзеня** пачаў працаваць у Варшаве Вялікі Тэатр.

**20 студзеня** Гарнізонная Пракуратура ў Глівіцах ануліравала следства ў справе смерці 9 шахцёраў у шахце „Вуек", якія 16 снежня 1981 г. згінулі ад куль міліцыі.

**25 студзеня** сейм зацвердзіў усе дэкрэты ўвядзення ваеннага становішча з 13 снежня 1981 г., а **26 студзеня** прыняў да рэалізацыі Карту Настаўніка.

**30 студзеня** ў Гданьску ў хваляваннях на вуліцах было параненых 6 асоб.

**1 лютага** ўлады ў Польшчы павысілі цэны на спажывецкія прадукты на 241%, на энергію на 171 % і ўвялі рэкампенсацыі ўсіх заробкаў. Мне тады павысілі аснаўны месячны заробак з 6 тысяч зл. на 9 800 зл. Прэмію далей атрымоўваў 100-110 % ад аснаўнога заробку. Многія спажывецкія і іншыя тавары прадавалі тады ў магазінах толькі на картачкі.

У суботу **6 лютага** паехаў я з жонкай і сынам у Беласток на хрост унука Лукі, які прайшоў **7 лютага** на кватэры Валянціна Пацэвіча і маёй дачкі Ірэны. Мой сын Георгій быў бацькам хросным, а Яўгенія Чарняўская, дачка сястры бацькі Валянціна Пацэвіча, была хроснай маткай, а хрысціў унука Беластоцкі і Гданьскі Епіскап Сава, які сёння з'яўляецца мітрапалітам Польшчы. Было многа гасцей з бацькамі Валянціна. Пасля хросту Лукі быў прыём гасцей на хрэсьбінах разам з епіскапам Савай. Там прыйшлося нам пераначаваць і толькі ў аўторак **9 лютага** вярнуліся мы ў Варшаву.

Лука Пацэвіч, які ў 2005 г. закончыў Беластоцкую Палітэхніку і атрымаў дыплом магістра інжынера, пасля працы ў будаўнічай фірме ў Варшаве і іншых гарадах Польшчы, цяпер памагае бацьку кіраваць Многагалінавым Прадпрыемствам „Трансбуд" і Гарадскім Прадпрыемствм Ачысткі( МПО).

У 2011 г. Лука Пацэвіч узяў у царкве св. Духа ў Беластоку шлюб з Эдытай Мядушэўскай, якая змяніла веравызнанне з каталіцкага на праваслаўнае, а ў 2012 г. ад прэзідэнта Польшчы Б. Камароўскага яна атрымала намінацыю на суддзю.

**9 лютага** ў катастрофе японскага самалёта Дугласа ДЦ-8 згінула 24 пасажыры.

**Ад 12 да 19 лютага** папа рымскі Ян Павел II, першы раз пасля замаху на яго жыццё 13 мая 1981 г., быў з візітам у Афрыцы, в Нігерыі, Беніне і Гвінеі.

**13 лютага** дзяржава рашыла збудаваць у Варшаве першую лінію метро з поўдня на поўнач, злучыць Кабаты з Млацінамі, будова закончылася 28 кастрычніка 2008 г.

**15 лютага** ля берагоў Ньюфаунленда затанула нафтавая платформа „Акіян Ранджэр", на якой згінула 84 працаўнікоў.

**19 лютага** з прыватным візітам прыехаў у Польшчу кіраўнік заходненямецкай партыі СПД Герберт Вейнер і сустрэўся з Войцехам Ярузельскім і з епіскапамі.

**23 лютага** 53% жыхараў Грэнландыі прагаласавала ў рэферэндуме, каб выступіць з Еўрасаюза. У 1985 г. Грэнландыя пакінула Еўрасаюз.

**24-25 лютага** прайшоў VII Пленум ЦК ПАРП, на якім В. Ярузельскі выступіў з дакладам Паліты-чнага Бюро ПАРП пад назвай „Задачы ПАРП у барацьбе за адзінства партыі і ўмацаванне народнай улады і аб поўнай падтрымцы сацыялізму". Пленум зацвердзіў ацэнку сітуацыі і накірункі дзеяння прадстаўленыя ў дакладзе і абавязаў Дэпутацкі Клуб ПАРП унесці ў Сэйм праект пастановы аб пакліканні Сацыяльна-Эканамічнага Савета і стварэння моцнага прафсаюзнага руху сярод рабочых. В. Ярузельскі выступіў таксама супраць фракцыйнай дзейнасці ў партыі.

**1 сакавіка** ліквідавалі абмежаванні ў падарожжы па Польшчы. Ужо я не мусіў стаяць у чарзе, каб атрымаць пропуск у Беласток.

**1-2 сакавіка** В. Ярузельскі паехаў з візітам у Маскву, дзе пахвалілі яго за ўвядзенне ваеннага становішча ў Польшчы.

З **1 сакавіка** пачала друкавацца зноў у Беластоку беларуская газета „Ніва", якую можна было лёгка купіць у Варшаве. А цяпер яе ў Варшаве не прадаюць.

**5 сакавіка** савецкі зонд Венера 14 сеў на планету Венеру, там працаваў ён 57 мінут пры тэмпературы 465 ° C і ціску 94 зямных атмасфер. Пераслаў ён на Зямлю панараму Венеры і хімічы састаў грунта ў месцы прычальвання.

**19 сакавіка** аргенцінскае войска заняло Паўднёвую Георгію на Фолклендах-Мальвінах, а **2 красавіка** 800 аргенцінскіх салдатаў занялі астравы архіпелагу Фолкленды. Пачалася аргенцінска-англійская вайна.

**20 сакавіка** прэзідэнт Варшавы распусціў Таварыства Польскіх Журналістаў і потым хутка стварылі Таварыства Журналістаў ПНР.

**26 сакавіка** Сейм Польшчы стварыў Канстытуцыйны Суд і Дзяржаўны Трыбунал (Trybunał Stanu).

**29 сакавіка** ўключылі міжнародную тэлефонную сувязь.

**25 красавіка** Ізраіль вярнуў Егіпту паўвостраў Сінай, які заняў у 1967 г., а англійскія салдаты адбілі ад Аргенціны востраў Паўднёвую Георгію на Фолклендах.

**26 сакавіка** паўднёвакарэйскі салдат застраліў у амоку 57 асоб, а раніў 35, а потым застраліўся.

**28 красавіка** ўлады Польшчы выпусцілі на свабоду тысячу асоб інтэрніраваных 13 снежня 1981 г..

**30 сакавіка** ў польскім самалёце 8 выкрадальнікаў змусілілі пілотаў ляцець у Заходні Берлін і там многа пасажыраў самалёта папрасіла права на прыстанішча.

**2 мая** англійская атамная падводная лодка Конкерэр (HMS „Conqueror") затапіла аргенцінскі крэйсер АРА Генерал Бельгано, дзе згінула 368 аргенцінскіх матросаў, а 4 мая аргенцінцы затапілі англійскі эсмінец Шэфільд( HMS Sheffield), дзе згінула дваццаць англійскіх матросаў.

**3 мая** на вуліцах Варшавы міліцыя затрымала ў нелегальных дэманстрацыях 271 асоб, 51 міліцыянераў было параненых.

У маі прыехала да нас у Варшаву з Беластока дачка Ірэна з сынам Лукой. Прыехала з дзіцячым вазком і ездзіла з сынам часта ў Лазенкі і сустракалася са сваймі школьнымі сяброўкамі. Была ў нас 2 тыдні і пасля вярнулася ў Беласток.

У сувязі з тым, што ў Польшчу не прыязджалі экскурсіі з замежжа і з Польшчы не выязджалі нідзе польскія экскуріі, мы спачатку ездзілі толькі да дачкі ў Беласток, а з Беластока да дачкі маёй сястры ў Бельск-Падляшскі, да Лідкі Семянюк і на станцыю Чаромху да Ніны Леўчук, і да маёй сястры ў вёску Чаромху.

**Ад 13 да 16 мая** з ініцыятывы Мікалая Бушко і а. Мікалая Нігярэвіча, і а. Юрыя Шурбака з Варшавы пры блаславенні мітрапаліта Польшчы Васілія прайшлі „Дні царкоўнай музыкі" ў царкве св. Мікалая ў Гайнаўцы, якія выклікалі вялікае зацікаўленне грамадскасці і ператварыліся ў штогадавы дзяржаўны, а пасля ў міжнародны конкурс царкоўнай музыкі. Тады брала ў ім удзел толькі восем царкоўных хароў з Падляшша і калектыў царкоўнай музыкі камернай оперы Юрыя Шурбака з Варшавы.

**13 мая** СССР выслаў пілатаваны касмічны карабель Саюз Т-5 з касманаўтамі Анатоліем Беразавым і Валянцінам Лебедзевым, якія прыстыкаваліся да касмічнай станцыі Салют 7 і правялі там даўжэй чым 211 сутак. Вярнуліся яны на Зямлю10 снежня 1982 г. Сустракалі яны там касманаўтаў з касмічнага карабля Саюза Т-6 і касманаўтку Святлану Савіцкую, якая прыляцела на касмічным караблі Саюз Т-7.

**21 мая** першыя вялікія атрады англійскіх салдат выйшлі на Фолкледах бліз порта Сан Карласа, а **25 мая** аргенцінскія самалёты затапілі англійскі ракетны эсмінец ГМС Кавентры.

**28 мая** рымскі папа Ян Павел II паляцеў з візітам у Англію. Быў там да 2 чэрвеня.

**7 чэрвеня** між Польшчай і СССР была падпісаная дамова аб супрацоўніцтве пры будове лініі метро ў Варшаве. СССР абавязаўся і даў Польшчы бясплатна 90 вагонаў для метро ў Варшаве.

**8 чэрвеня** В. Ярузельскі сустрэўся на Крыме з генеральным сакратаром ЦК КПСС Леанідам Брэжневым.

**8 чэрвеня** ў Бразіліі ў катастрофе Боінга-727 згінула 137 асоб.

**14 чэрвеня** англійскія салдаты адбілі Фолкленды з рук аргенцінцаў. і ў сувязі з тым ген. Леапольда Гальціеры перастаў быць прэзідэнтам Аргенціны. Прэзідэнтам Аргенціны стаў генерал Альфрэдэ Сен Жан.У вайне за Фолкленды згігула 255 брытанцаў і 652 аргенцінцаў.

**24 чэрвеня** СССР выслаў у космас касмічны карабель Саюз Т-6 з касманаўтамі Уладзімірам Джэнібекавым, Аляксандрам Іванчэнкавым і першым французскім касманаўтам Крэт'енам Жан Лу Жакам Мары (Chretien Jean Loup Jacques Marie). Карабель прыстыкаваўся да касмічнай станцыі Салют 7, дзе былі касманаўты А. Беразавы і В. Лебедзеў і разам з імі працавалі да 2 ліпеня, і самі вярнуліся на Зямлю 2 ліпеня.

**4 ліпеня** паднеслі сцяг на новым польскім школьным парусніку „Дар Памор'я".

**6 ліпеня** ў Маскве ў катастрофе самалёта ІЛ-62 згінула 90 асоб.

**8 ліпеня** ў Іраку быў неўдалы замах на прэзідэнта Садама Гусейна ў шыіцкім горадзе Дуджаіл.У помсце салдаты зрабілі крывавую расправу над жыхарамі горада.

**9 ліпеня** ў Луізяне (ЗША) у катастрофе самалёта Боінга 727 згінула 153 асобы.

**13 ліпеня** ў іранска-іракскай вайне іранская армія ўвайшла на тэрыторыю Ірака і яе там затрымалі.

**29 ліпеня** СССР сцягнуў з космаса на Зямлю касмічную станцыю Салют 6.

**У жніўні** ў Свінавусці пачаў працаваць дом адпачынку „Энергетыка" і „Энергапраект" і я выкупіў у маім бюро для сябе і для жонкі два месцы ад 2 да 15 жніўня. Паехалі мы туды спальным вагонам. Людзей там тады не было многа. Жылі мы ў доме „Энергапраекта", а сталаваліся ў доме „Энергетыка". У ГДР, як за Э. Герка, нельга было прайсці, экскурсій у другія месцы і гарады яшчэ не арганізавалі. Маглі мы толькі загараць над морам, купацца ў моры і хадзіць па горадзе, па пляжы і ў лес. Час прайшоў спакойна і спальным вагонам вярнуліся мы дамоў.

**19 жніўня** на касмічным караблі Саюз Т-7 другая па Валянціне Церашковай савецкая касманаўтка Святлана Савіцкая вылецела ў космас і прыстыкавалася да касмічнай станцыі Салют 7, выходзіла яна ў адкрыты космас і вярнулася на Зямлю 29 жніўня.

**31 жніўня** ва многіх гарадах Польшчы прайшлі нелегальныя дэманстрацыі, у Любліне ад куль ЗОМО згінула тры асобы.

**11 верасня** ў катастрофе амерыканскага самалёта ЦГ-47 згінула пад Мангаймам 46 асоб.

**8 кастрычніка** польскі сейм прыняў закон аб прафсаюзах і аб'явіў па-за законам прафсаюз „Салідаргасць".

**10 кастрычніка** ЗША ўвялі эканамічныя санкцыі для Польшчы.

**13 кастрычніка** падчас нелегальнай дэманстрацыі ў Новай Гуце застралілі рабочага Багдана Улосіка.

**31 кастрычніка** рымскі папа Ян Павел II прыляцеў з візітам у Іспанію. Быў там 10 дзён, да 9 лістапада.

**10 лістапада** памёр у СССР генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў (1906-1982) і **12 лістапада** на яго месца выбралі Юрыя Андропава (1914-1984).

**11 лістапада** у Ціры ў Ліване ад бомбы ліванскага смяротніка быў разбураны 8-павярховы ізраільскі штаб. Згінула больш як 100 асоб.

**12 лістапада** ў Польшчы выпусцілі дамоў з інтэрніравання Леха Валэнсу, які вярнуўся ў Гданьск.

**28/29 лістапада** ад выбуху пылу ў шахце КВК „Дзімітраў" ў Бытаме згінула 18 асоб.

**29 лістапада** выпусцілі з інтэрніравання 327 асоб.

**13 снежня** ад землятрусу ў Емене гіне 2 тысячы 800 людзей.

**31 снежня** Рада Дзяржавы Польшчы прыпыніла ваеннае становішча ў дзяржаве і выпусцілі з інтэрніравання ўсіх людзей. Ваеннае становішча ў Польшчы закончылася 22 ліпеня 1983 г.

# 1983

**14 студзеня** Лех Валэнса пасля інтэрніравання хацеў прыступіць да працы ў Гданскай Суднаверфі. аднак яго не ўпусцілі на тэрыторыю прадпрыемства.

**16 студзеня** ў катастрофе турэцкага самалёта Боінга727 у Анкары згінула 47 асоб.

**17 студзеня** Нігерыя выдаліла са сваёй дзяржавы два мільёны нелегальных эмігрантаў, пераважна з Ганы.

**19 студзеня** ў Балівіі арыштавалі нацысцкага ваеннага злачынцу Клауса Барбі, які за злачынствы падчас акупацыі ва Францыі ў 1942-1944 гадах быў ва Францыі ў 1947, 1952 і 1954 гадах завочна асуджаны на смяротнае пакаранне. Аднак ён пры дапамозе амерыканцаў

у 1951 годзе ўцёк у Балівію. І толькі цяпер яго арыштавалі і 4 лютага выдалі яго французам і ў 1987 г. яго французскі суд прыгаварыў на пажыццёвае зняволенне, а 9 верасня 1991 г. Барбі памёр ва французскай турме.

**20 студзеня** на Міжземным моры затануў польскі карабель «Кудова Здруй». Згінула 20 матросаў , а 8 выратавалі ад смерці.

**24 студзеня** ў Італіі асудзілі на пажыццёвае зняволенне галоўных членаў Чырвоных Брыгад , якія раней замардавалі прэм'ера Італіі Альда Мора.

**26 студзеня** НАСА выпусціла ў космас штучны спадарожнік Ірас, які вынёс на арбіту першы тэлескоп для астранамічных назіранняў у інфрачырвоных выпраменьваннях.

**2 лютага** прымас Польшчы Юзэф Глемп стаў кардыналам.

**9 лютага** Кіраўнік Савета Дзяржавы прызнаў мне Медаль Перамогі і Свабоды 1945 года за ўдзел ў вайне з немцамі, які мне ўручылі 24 лютага ў зале па вул. Пулаўскай.

**13 лютага** згінула 64 асобы ў пажары кінатэатра „Сінема Статута" ў Турыне ў Італіі.

**15 лютага** стварылі ў Польшчы Генеральную Дырэкцыю Будовы Варшаўскага Метро.

**28 лютага** Галоўнае Статыстычнае Ведамства падалао, што нацыянальны даход у дзяржаве панізіўся ў параўнанні да 1982 г. на 8% , а да 1978 г. – на 25%.

Я далей праектаваў Электрастанцыю на буры вугаль у Белхатаве і 2 сакавіка быў там на сінхранізацыі з электрычнай дзяржаўнай сеткай другога блока 380 мегаватаў.

**9 сакавіка** ў Грудзёндзу засудзілі Анну Валентыновіч на 1,5 года турмы з адтэрміноўкай за арганізацыю забастоўкі ў снежні 1981 г.

**15 сакавіка** ўлады павысілі цэны на каву, цыгарэты і бензін.

**31 сакавіка** землятрус у Калумбіі знішчыў горад Папаян.

**4 красавіка** выляцеў першы раз у космас амерыканскі шматразавы транспартны касмічны карабель Чэленджэр СТС-6

**7 красавіка** памерла ў Зэльве беларуская паэтка Ларыса Геніюш. Я з яе сынам Юркам сустракаўся на семінарах „Белавежы" ў Беластоку.

**11 красавіка** Канстанцін Чарненка стаў старшынёй Вярхоўнага Савета СССР.

**14 красавіка** ў нашай кватэры памерла мая цёшча, мачаха маёй жонкі Ніны, Матыльда Кандыба, па нацыянальнасці эстонка з роду Леоке, якая нарадзілася ў Эстоніі 29 верасня 1888 г. Бацькі яе выслалі вучыцца ў Пецярбург, дзе яна выйшла замуж за двараніна з Валыні, Георгія Сахацкага. Ён перавёз яе ў Сарны. Там яна яму нарадзіла дачку Сафію. Георгій пасля кастрычніцкай рэвалюцыі хутка памёр у Польшчы. Ён аставіў Матыльдзе ў Сарнах вялікі дом і яна ў ім удавой жыла з дачкой. Вывучыла яна польскую мову, навучылася пісаць і чытаць па-польску і нейкі час працавала ў бюро ў Сарнах. Ды ў Сарнах паявіўся паляк Леан Заянчкоўскі, які ажаніўся з яе дачкой і забраў у Пястаў пад Варшаву. Матыльда да 1938 г. жыла адна ў сваім доме і агародзе ў Сарнах. Наймала кватэры ў сваём доме вучням, якія вучыліся ў гімназіі ў Сарнах і вырошчвала ў агародзе кветкі ды прадавала іх. У 1938 г. ажаніўся з ёй бацька маёй жонкі Ніны, ужо ўдавец, Васіль Кандыба, быўшы рускі дваранін, які аставіў ў Поліцах пад Сарнамі маёнтак па першай жонцы, бо не мог яго прадаць пакуль дачка яго не дасягне паўналецця. Матыльда па веравызнанні была лютэранкай, ды шлюб і з першым і з другім мужам брала ў царкве і дачку ахрысціла таксама ў царкве. Бальшавікі, якія прыйшлі ў Сарны ў верасні 1939 г., не чапляліся да іх і В. Кандыба працаваў увесь час кіраўніком кааператыва ў Сарнах. Пасля прыходу немцаў у чэрвені 1941 г. далей мусіў там працаваць да паловы 1944 г. Калі другі раз падыходзіла Чырвоная Армія пад Сарны, В. Кандыба пабаяўся там астацца, бо ён у 1920-1924 гадах памагаў у Варшаве рускім бежанцам, якія ўцяклі ў Польшчу з Расіі ад бальшавікоў. І ён з Матыльдай і з дачкою Нінай уцёк з Сарн спачатку ў Варшаву, а патым у Чанстахову, дзе ў верасні 1946 г. памёр. І тады Матыльда з Нінай пераехала ў Пястаў, бліжэй да сваёй дачкі Сафіі, дзе наняла кватэру, гандлявала і памагла Ніне кончыць сярэднюю і вышэйшую школы і пайсці на працу ў Варшаве. Яе родная дачка Сафія ў Пяставе нарадзіла яшчэ ў 1931 годзе дачку Ірэну, якую ўжо яе муж Леан ахрысціў у касцёле. Яна закончыла пасля вайны медыцыну і сталаа стаматолагам. Сафія 4 сакавіка 1953 г. перад святам Пасхі мыла ў сваёй кватэры вокны і памерла ад хваробы шчытападобнай залозы. Пахавалі яе ў Варшаве на праваслаўным магільніку на Волі. Пад канец 1954 г. я пазнаёміўся з Нінай, узяў з ёй шлюб. Пачатка-

ва, пакуль не атрымаў кватэры ў Варшаве, я жыў з ёю ў Пяставе. Там Ніна нарадзіла сына Георгія і Матыльда стала ім апекавацца. Пасля пераехалі мы ў Варшаву і Матыльда памагла нам выхаваць сына і дячку. У 1964 г. памёр зяць Матыльды Л. Заянчкоўскі. Унучка яе Ірэна Заянчкоўская выйшла замуж за Андрэя Стшэльчыка і выехала разам з ім спачатку ў Шчэцін, а пасля ў Гданьск. Ірэна хацела Матыльду ўзяць да сябе, бо Ірэна нарадзіла ў Гданьску ў 1956 і ў 1958 гадах дзве дачкі, Ёлю і Зосю, ды Матыльда не згадзілася і засталася з намі да сваёй смерці. Яна памагла нам выхаваць нашых дзяцей. І Андрэй Стшэльчык, і яго жонка Ірэна ўжо не жывуць. Ірэна Стшэльчык памерла ў 1997 г., а Андрэй раней. Праўнучка Матыльды Зося выйшла замуж за француза Рамеза, жыла ва Францыі, нарадзіла ў 1990 і 1991 гадах дзве дачкі Олю і Еву і памерла ў 2003 годзе. Ёля выйшла замуж за Яна Рале, нарадзіла сына Яна, які закончыў ужо Варшаўскю палітэхніку і жывуць яны ў Гданьску. Так што да сённяшняга дня жыве толькі яе ўнучка Ёля, якая закончыла гданьскую палітэхніку і ў Гданьску працуе, яе праўнук Ян і ва Францыі яе дзве праўнучкі Оля і Ева. Ева ўжо выйшла замуж за француза Мікалая Лебрэ.

На пахаванне Матыльды на праваслаўных могілках на Волі прыехаў толькі муж маёй дачкі Ірэны Валянцін, бо Ірэна **15 красакавіка** пайшла ўжо ў бальніцу і **17 красавіка** радзіла другога сына, Грыгорыя. Я з жонкай паехаў тады ў Беласток і сустрэлі яе з першым і другім яе сынам. Першы сын Лука ўжо бегаў і вымаўляў многа слоў, ды не цешыўся, калі пабачыў брата.

**18 красавіка** ў замаху на амерыканскае пасольства ў Бейруце ад бомбы гінуць 83 асобы, а 130 асоб было параненых, а амерыканскі касмічны зонд Піянер 10 перасёк арбіту планеты Плутона.

**20 красавіка** прэзідэнт Варшавы прыпыніў дзеянне Саюза Артыстаў Скульптараў за „дзейнасць нязгодную са статутам".

**5 мая** я з жонкай і сынам паехалі ў Беласток на хрышчэнне другога ўнука Грыгорыя, якое адбылося ў царкве на Выгадзе. Хроснай маткай была дачка маёй сястры Марыі, Лідзія Семянюк з Бельска-Падляшскага, а хросным бацькам быў муж сястры Валянціна Ян Смык, які нарадзіўся ў вёсцы Дабрывада, а пасля стаў журналістам і рэпарцёрам Радыё Беласток. Хрысціў яго а. Уладзімір Парфён. Па-

сля хрышчэння Грыгорыя быў прыём гасцей на кватэры Валянціна Пацэвіча. Ірэна пасля выхоўвала двух сыноў і пісала дыпломную працу.

Грыгорый Пацэвіч закончыў пасля юрыдычны факультэт у Беластоку і цяпер з'яўляецца намеснікам кіраўніка фірмы МПО ў Беластоку. У 2009 годзе ажаніўся. Яго жонка Вераніка з'яўляеццяя адвакатам, мае ў Беластоку сваю адвакацкую канцылярыю і ў сакавіку 2012 года нарадзіла яму сына Аляксандра.

**15 мая** паехелі мы з жонкай і сынам з Варшавы ў вёску Чаромху, бо выходзіла замуж дачка маёй сястры Марыі, Галіна Унучка. Закончыла яна завочна вышэйшую эканамічную школу, працавала і жыла ў Бельску-Падляшскім. Выходзіла яна замуж за Славаміра Жменьку з Орлі. З Чаромхі нанятым аўтобусам паехалі мы ў Бельск-Падляшскі і шлюб адбыўся ў царкве Уваскрэсення Господняга на вул. Рамуальда Траўгута. Галіна купіла ў Бельску-Падляшскім каапературыўную кватэру. Ды хутка яна аўдавела, бо яе мужа нехта забіў, калі ён паехаў у Орлю. Яна ў 1994 г. выцягнула жарэбя на пастаяннае пражыванне ў ЗША і ўжо даўно стала грамадзянкай ЗША, жыве ў Чыкага і там працуе. У яе каапературыўнай кватэры ў Бельску-Падляшскім кожную восень, зіму і вясну жыве мая сястра, бо там мае цэнтралнае аграванне і не мусіць у Чаромсе паліць у печках. У доме ў Чаромсе жыве, калі не трэба абаграваць печкамі пакояў. Атрымоўвае па мужу ад дзяржавы пенсію, бо муж яе многа гадоў працаваў на чыгунцы ў Чаромсе. Два разы ўжо мая сястра лётала самалётам ў Чыкага да дачок, бо другая яе дачка Геня Кучынская з мужам і ўнук ад трэцяй дачкі з жонкаю і дзецьмі Андрэй Леўчук таксама жывуць у Чыкага і з'яўляюцца грамадзянамі ЗША.

**19 мая** прайшла ў Варшаве мірная дэманстрацыя пры пахаванні Гжэгажа Пшэмыка, які памёр, маючы 19 год, у камісарыяце міліцыі на Старым Горадзе Варшавы ў час допытаў.

**31 мая** арыштавалі серыйнага забойцу 9 жанчын ў 1975--1983 гадах Паўла Тухліна, якога пасла прыгаварылі да смяротнага пакарання і павесілі 27 мая 1987 г.

**2 чэрвеня** СССР выпусціў у бок планеты Венеры зонд Венеру 15, а 7 чэрвеня Венеру 16. Увайшлі яны на арбіту Венеры 10 і 14 кастрыч-

ніка 1983 г. і перасылалі на Зямлю здымкі планеты Венеры: Венера 15 да 5 студзеня 1985 г., а Венера 16 да 13 чэрвеня1985 г.

**13 чэрвеня** амерыканскі зонд Піянер 10 перасек арбіту планеты Нептуна і пакінуў Сонечную сістэму.

**16 чэрвеня** прыляцеў у Польшчу другі раз папа рымскі Ян Павел II. На аэрадроме ў Варшаве сустрэў яго праф. Генрых Яблонскі. Пасля ён сустрэўся ў Бельведэры з прадстаўнікамі ўлады Польшчы і з Войцехам Ярузельскім, і на стадыёне з жыхарамі Варшавы. 18 чэрвеня быў у Непакалянаве, 19 чэрвеня – у Чанстахове, а пасля ў Познані, Катавіцах, у Вроцлаве, на гары св. Анны і ў Кракаве. 23 чэрвеня паехаў у Татры на Даліну Хахалоўскую, а 23 чэрвеня з Кракава з Баліц адляцеў у Рым.

**16 чэрвеня** Юрый Андропаў стаў старшыеёй Вярхоўнага Савета СССР.

**18 чэрвеня** першая амерыканская касманаўтка Сэлі Рэйд паляцела ў місіі Чаленджэра ў космас, паляцелі з ёю разам каманаўты Роберт Крыпен, Фрэдэрык Хаўк, Джон Фабіян і Норман Тагард. Другі раз быля яна ў космасе ў 1984 г.  24 ліпеня 2012 г. Сэлі Рэйд памерла ад рака.

**31 чэрвеня** закончылі ў Польшчы прадукцыю аўтамашын «Сырэна». Выпусцілі іх 521 311 штук.

**1 ліпеня** павысілі ў Польшчы цэны на скупку сельскагаспадарчых прадуктаў і дэвальвалі польскі злоты да даляра на 7,8 %.

**11 ліпеня** 119 асоб згінула ў катастрофе Боінга 737 у Эквадары.

**15 ліпеня** на Парыжскім аэрадроме Орлі ад бомбы падложанай армянскай тэрарыстычнай арганізацыяй АСАЛА пры Туркіш Аэрлініі гіне 8 асоб, а 55 было параненых.

**16 ліпеня** ў катастрофе англійскага верталёта Сікорскі С-61 на Кельцкім Моры гіне 20 асоб.

**21 ліпеня** на антарктычнай станцыі Васток зафіксавалі тэмпературу -89,2 °C.

**22 ліпеня** закончылася ў Польшчы ваеннае становішча, распусцілі ВРОН, а Войцех Ярузельскі дзень раней стаў кіраўніком узброеных сіл.

**22 ліпеня** амерыканец Дык Сміс першы раз сам на верталёце абляцеў наўкол Зямлю за 11 месяцаў.

**23 ліпеня** Ежы Кукучка і Войцех Куртыка, першыя польскія альпіністы, увайшлі ў Гімалаях на вяршыню Гашэрбрун I (8 068 м.).

**З 7 па 14 жніўня** ў Хельсінках прайшлі спаборніцтвы ў лёгкай атлетыцы за першынство ў свеце, СССР атрымаў найбольш медалёў, бо 23, але залатых толькі 6.Найбольш залатых, бо 10 медалёў, заваявала ГДР, а ЗША 8. Польшча атрымала 2 залатыя медалі, 1 сярэбраны, 1 бронзавы і заняла 7 месца.

**17 жніўня** я атрымаў з Орбіса першы раз пасля ваеннага становішча экскурсію ў Венгрыю. Экскурсія прыехала аўтобусам з Астралэнкі. Сустрэў я яе ў аўтобусе на пляцу ля Палаца культуры і навукі ў Варшаве, куды яны прыехалі і чакалі мяне. Паехалі мы праз Славакію і ля Братыславы ў гасцініцы Шапен з’елі мы заказаны Орбісам абед і вечарам, калі ўжо было цёмна, прыехалі мы ў Будапешт у гасцініцу «Нэмзэты» на вячэру і на начлег.

На наступны дзень пасля снедання сустрэў я знаёмага мне венгерскага гіда, з якім сустракаўся ўжо ў 1980 г., які паказаў нам усе славутасці Будапешта. Ведаў ён добра польскую мову, мажліва, што ён быў венгерскім палякам.

Першы дзень да абеда і пасля абе-да ездзілі мы аўтобусам і аглядалі гарад Будапешт.

Горад Будапешт паўстаў у 1873 годзе ў выніку зліцця некалькіх венгерскіх гарадоў – Пешта, які ляжыць на ўсходнім беразе Дуная, і Буды і Абуды, якія займаюць заходні бераг Дуная. Да абеда аглядзелі мы ўсходнюю частку горада, Пешт, а пясля абеда – усходнюю Буду і Абуду. Былі мы ў замку Вайдахуняд, у Каралеўскім палацы, абышлі Венгерскі парламент, аглядзелі Рыбацкі бастыён і пляц Герояў, некалькі мастоў праз Дунай і іншыя месцы. Горад у час вайны быў часткава разбураны, аднак тады ўжо разбураныя месцы аднавілі.

Вельмі цікавым будынкам у стылі гатычным і неарэнесанса-а з’яўляецца вянгерскі Парламент, пабудаваны ў 1902 г., які ляжыць ля Дуная, паміж Ланцуговым мастом і мастом Маргарыты. Ён мае 24 вузкія вежы, вялікія аркі і высокія вокны, над якімі стаіць цэнтральны вялікі купал, аздоблены статуямі венгерскіх каралёў. Звонку будынак упрыгожвае 90 статуй слаўных у гісторыі Венгрыі людзей, а на карнізах знаходзяцца 242 алегарычныя статуі.

У Будапешце я раней ужо быў некалькі раз, з экскурсіямі і прыватна, так што горад мне быў даўно знаёмы.

На наступны дзень венгерскі гід завёз нас у Эстэргом, у горад ля Дуная, 50 км ад Будапешта, які ляжыць ля граніцы са Славакіяй (тады з Чэхаславакіяй). На другім  беразе Дуная мы бачылі славацкі горад Штурава. Мост паміж гэтымі гарадамі ў час вайны немцы знішчылі і тады яго яшчэ не пабудавалі. У Дунаі ляжалі рэшткі моста.

Эстэргом – стары венгерскі горад. Калісь жылі там кельты, пасля рымляне, славяне, якія назвалі гэты горад Стрэгам і ў Вялікамараўскім княстве пабудавалі там крэпасць. Калі з усходу з'явіліся і зяваявалі Эстэргом мадзьяры, то доўгі час ён быў іх сталіцай. У горадзе збудавалі каралеўскі палац і сабор св. Адальберта, які ў 16 стагоддзі разбурылі Туркі. Калі выгналі туркаў, то ў 1708 г. Эстэргом стаў свабодным каралеўскім горадам і ў 1869 г збудавалі ў ім базіліку св. Адальберта (118 х 49 м, і вышынёй – 71,5 м.), самую вялікую ў Венгрыі. Мы там яе аглядалі. Аглядалі мы стары горад, каралеўскі палац і палац архіепіскапа. З'елі мы там абед і на вячэру вярнуліся ў гасцініцу.

На чацвёрты дзень паехалі мы аўтобусам на поўдзень ад Будапешта і прыехалі мы ў стары венгерскі горад Секашпехервар (на нейкіх расейскіх картах называюць яго Секешфехервар). Аглядзелі мы вялікі чыгуначны вузел і прамысловы цэнтр. Горад паўстаў у 11 стагоддзі пры каралі Сцяпане І Арпадзе і ў ім былі каранаваныя больш як 30 венгерскіх каралёў, а 15 з іх былі там пахаваныя. Базіліка, дзе ляжаць пахаваныя каралі, стаіць у цэнтры гістарычнага парку. У паўночнаўсходняй частцы горада знаходзіцца замак Боры. Ацалелі ў ім яго абарончыя сцены і яго вартавыя вежы. Калі Венгрыя была пад панаваннем Габсбургаў,  горад меў нямецкую назву Штульвейсенбург. Аглядзелі мы горад, базіліку, замак, у гарадскім рэстаране з'елі абед, а на вячэру вярнуліся ў Будапешт у гасцініцу.

На пяты дзень паехалі мы з гідам на поўнач 45 км ад Будапешта, недалёка ад Эстэргома, да Вішэграду, які калісь быў старажытнай сталіцай Венгрыі на беразе Дуная. Жылі калісь тут кельты, пасля іх германскія плямёны і славяне.

Славянская назва горада засталася з рымскага часу. Король Бэла IV пачаў адбудоўваць разбуранаю татарскімі ардынцамі крэпасць,

якую адбудавалі цэраз два стагоддзі па смерці караля Андрэя ІІ, астатняга з дынастыі Арпадаў. Тады стаў каралём Карой Раберт Анжуйскі і ён паранёс у Вышэград сталіцу Венгрыі. Тады горад стаў імкліва развівацца. Туды часта прыязджалі суседнія каралі і быў у Вышэградзе польскі кароль Казімір ІІІ. Пачалі будаваць парадны палац. Аднак сын Роберта, Лаёш Вялікі ў 1350 годзе перанёс ізноў сталіцу Венгрыі ў Буду і Вышэградскі палац апусцеў. Палац разбураўся. І толькі ў 19 стагоддзі яго адбудавалі, бо ён зацікавіў гісторыкаў і археолагаў. Стала туды прыязджае многа турыстаў. Аглядзелі мы горад і палац у Вышэградзе і на абед вярнуліся ў гасцініцу ў Будапешт. Пасля абеда быў час вольны і турысты разбегліся па магазінах выдаваць фарынты, якія атрымалі яны ў Польшчы.

На шосты дзень з'елі мы рана снеданне і паехалі дамоў. Абед па дарозе з'елі мы ў Братыславе ў гасцініцы «Шапэн» і вечарам я з турыстамі я развітаўся ў Варшаве і яны ноччу паехалі ў Астралэнку.

Калі былі мы ў Будапешце, у Вашаве ўлады зліквідавалі Саюз Польскіх Пісьменнікаў, каб **19 верасня** ізноў яго стварыць на чале з Галінай Аўдэрскай.

**30 жніўня** ў катастрофе самалёта ТУ-134 ў Алма-Аце згінула 90 асоб.

**30 жніўня** на амерыканскім касмічным караблі Чэленджэр СТС-8 выляцеў у космас афраамерыканец Гайон Блуфорд.

**1 верасня** савецкія ваенныя самалёты збілі паўднёвакарэйскі пасажырскі самалёт Джамба-Джэт, які памылкова ўляцеў, ляцеўшы з ЗША, на тэрыторыю СССР.

На **6 верасня** выкупілі мы тры месцы ў доме адпачынку „Стражніца" ў Рэвалю над Балтыйскім морам і 5 верасня я з жонкай Нінай і з унукам Лукой паехалі мы з Беластока ў спальным вагоне цягніка ў Калобжэг. Прыехалі мы ў Калобжэг ранкам, пачакалі там вузкалейнага цягніка, які завёз нас у Рэваль. Там у доме адпачынку „Стражніца" атрымалі мы вялікі пакой на першым паверсе з трыма шырокімі ложкамі. Сталовую мелі мы ўнізе. Дом адпачынку стаяў 50 метраў ад мора, так што кожны дзень мы хадзілі з унукам па пляж ля мора. Курортнікі часта нас пыталі, ці Лука гэта наш сын. Унук Лука ўжо хадзіў і многа гаварыў. Вечарам перад сном змушаў мяне чытаць яму ў ложку кніжку. Калі я яму чытаў, ён засынаў. Прыехала ў Рэваль мно-

га іншых дзяцей, з якімі Лука бавіўся. У сталовай давалі яму малако, а блізка ў садзе мы куплялі яму яблыкі і слівы. Правялі мы там з ім час да **20 верасня**. Вечарам паехалі мы вузкалейным цягнікам у Калобжэг і там селі ў спальны вагон цягніка і ранкам **21 верасня** прыехалі ў Беласток, аддалі ўнука дачцэ Ірэне і цягнікам вярнуліся ў Варшаву дамоў.

У Варшаве я даведаўся, што **17 верасня** памёр у Беластоку ад інсульта старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік. Новыя выбары старшыні адбыліся на X з'ездзе БГКТ 6 мая 1984 г.

**23 верасня** 112 асоб згінула ад выбуху бомбы ў самалёце Боінг 737, які належаў да Галф-Эа на аэрадромае ў Абу Дабі ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

**5 кастрычніка** прызналі Леху Валэнсе Мірную Нобелеўскую Прэмію, якую **10 снежня** адабрала яго жонка Данута.

**9 кастрычніка** ў сталіцы Бірмы Рангуне выбух бомбы разбурыў Музей Пакутніцтва і забіў 4 бірманцаў і 17 членаў паўднёвакарэйскай дэлегацыі, якія чакалі прыезду паўднёвакарэйскага прэзідэнта.

**19 кастрычніка** ў Грэнадзе наступае вайсковы пераварот узначалены левымі афіцэрамі. У час перавароту забілі прэм'ер-міністра дзяржавы Марыса Бішопа.

**23 кастрычніка** ў стаўках войск французскіх і амерыканскіх ў Бейруце ад бомб самагубцаў згінула 242 амерыканскіх і 62 французскіх салдат.

**25 кастрычніка** ЗША напалі на Грэнаду, высадзілі ў Грэнадзе сваіх салдат і скінулі вайсковую ўладу афіцэраў Грэнады, а **28 кастрычніка** ў ААН паставілі вета па рэзалюцыі асуджаючай іх агрэсію на Грэнаду.

**30 кастрычніка** ад моцнага землятрусу ў Турцыі ў горадзе Эрзурум гіне 1300 асоб.

**4 лістапада** пачаўся з'езд новага Саюза Польскіх Пісьменнікаў. Кіраўніком Саюза выбралі Галіну Аўдэрску.

**8 лістапада** ў Анголе ў катастрофе самалёта Боінг 737 гіне 130 асоб.

**15 лістапада** Турцыя аб'явіла, што Паўночны Кіпр з'яўляецца незалежнай дзяржавай, аднак Савет Бяспекі ААН пацвердзіў, што гэты акт Турцыі з'яўляецца незаконным.

**22 лістапада** Войцех Ярузельскі перастаў быць міністрам народнай абароны.

**23 лістапада** Будэнстаг у Заходняй Нямеччыне абʼявіў, што на яе тэрыторыі будуць размешчаны ракеты Першынгі II, тады СССР прыпыніў размовы ў Жэневе з ЗША аб раззбраенні і **24 лістапада** Андропаў абʼявіў аб павялічэнні колькасці ракет на падводных лодках, якія будуць нацэлены на ЗША.

**27 лістапада** пад Мадрыдам разбіўся калумбійскі самалёт Боінг 747. Згінула 181 асоба.

**28 лістапада** ў катастрофе самалёта Фокер Ф-28 у нігерыйскім горадзе Энугу згінула 53 асобы.

**28 лістапада** першы немец з ФРГ, Ульф Мербольд, паляцеў у космас на амерыканскім касмічным караблі Калумбія і вярнуўся на Зямлю 8 снежня. У караблі было 6 асоб.

**7 снежня** на аэрадроме Бараяс ля Мадрыда гіне 93 асобы ад лабавога сутыкнення двух самалётаў – Боінга 727 і ДЦ-9.

**7 снежня** ў Лодзі ад выбуху газу ў блоку гіне 8 асоб.

**12 снежня** паехаў я з многімі працаўнікамі „Энергапраекта” на электрастанцыю Белхатаў на сінхранізацыю 3--га блока 380 мегаватаў з электрычнай дзяржаўнай сеткай. Сталі даваць у Белхатаве электрычную энергію тры блокі. Чацвёты блок таксама рыхтавалі на наступны 1984 год да эксплуатацыі.

**31 снежня** абʼявілі, што у 1983 г. нацыянальны даход першы раз ад 1979 г. павялічыўся на 4-5% , ды быў меньшы на 20% ад нацыянальнага даходу з 1978 г.

# 1984

**1 студзеня** ў Польшчы атрымалі гарадскія правы мясцовасці Млынары, Пілава, Сьвежава і Васоч.

**2 студзеня** стартавала ў космас спадарожнікавае тэлебачанне TV5 і RTL.

**5 студзеня** пасля 117 гадовага перапынку ЗША ізноў наладзілі дыпламатычныя адносіны з Ватыканам і ў катастрофе балгарскага самалёта Ту-134А ў Сафіі згінула 50 асоб.

**9 студзеня** паўстаў пры БГКТ у Беластоку Грамадскі камітэт пабудовы этнаграфічнага музея беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і Музея рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Не маглі тады назваць музея коратка „Беларускі музей". Гайнаўскія ўлады далі пляц, апарожненую паркетную фабрыку. Пачалі шукаць фінансаў на пабудову музея.

**12 студзеня** Мацей Бербека і Рышард Гаеўскі, польскія альпіністы, першы раз зімой ўвайшлі на вяршыню Манасла ў Гімалаях (8156 м).

**13 студзеня** былы старшыня Радыёкамітэту ў Польшчы пры Э. Герку Мацей Шчэпаньскі быў засуджаны за хабарніцтва на 8 год турмы. Выпусцілі яго з турмы пасля 4 гадоў.

**16 студзеня** першы раз прэм'ер Кітая Чжао Цзыян паехаў з візітам у Канаду.

**18 студзеня** ў японскай шахце вугля Мітсуі Мііке ў Амута на востраве Кюсю ад выбуху згінула 83 шахцёраў.

**27 студзеня** старшынёй Польскай Акадэміі Навук выбралі мікрабіёлага і эпідэміёлага Яна Караля Кастшэўскага.

**29 студзеня** ў Кітаі з касмадрома Сіхан у правінцыі Січуан выляцеў у космас кітайскі спадарожнік зямлі.

**3 лютага** ЗША выслалі касмічны карабель шматразавага выкарыстання „Чэленджэр", у якім былі касманаўты В. БРАНДТ, Р. ГІБСАН, Р. МАК-НЭР, Б. МАК-КАНДЛЕС і Р. СЦЮАРТ. Гэта быў дзесяты палёт „Чэленджэра" і 7 лютага Б. Мак-Кандлес правёў першую прагулку звонку карабля без сталага злучэння з касмічным караблём.

**Ад 9 да 19 лютага** прайшлі зімовыя алімпійскія гульні ў Сараеве. ГДР атрымала 9 залатых, 9 сярэбраных і 6 бронзавых, СССР – 6 залатых, 10 срэбных і 9 бронзавых і ЗША – 4 залатыя і 4 срэбныя медалі.

**13 лютага** на Пленуме ЦК КПСС выбралі Генеральным сакратаром ЦК КПСС Канстанціна Чарненку, які ўжо пражыў 72 гады і 10 сакавіка 1985 г. памёр. К. Чарненка тады меў мянушку: „Да, Леонид Ильич". Польскі сэйм 13 лютага прадоўжыў тэрмін сваіх паўнамоцтваў на тры гады.

**25 лютага** ў бразільскім горадзе Кубатао ў Штаце Сао Паўло ад выбуху трубаправода з нафтай згінула 500 асоб.

8 сакавіка паўстаў у Варшаве Музей Гісторыі Польскага Народнага Руху.

10 сакавіка ў Модліне ў пажары будынку адпачынку згінула 8 асоб.

3 красавіка СССР выпусціў у космас касмічны карабель „Саюз" Т11 з савецкімі касманаўтамі Г. Стрэкалавым і Ю. Малышавым і з індыйскім касманаўтам Г. Шармай, якія даляцелі да касмічнай станцыі „Салют"7 і вярнуліся на Зямлю 11 красавіка на касмічным караблі „Саюз Т10", які раней быў прымацованы да станцыі.

**3 красавіка** СССР аб'явіў, што байкатуе XXIII Летнія Алімпійскія Гульні ў Лос Анжэлесе ў ЗША і не вышле туды сваіх спартсменаў, таму што ЗША не выслалі сваіх спартсменаў на алімпійскія гульні ў Маскву ў 1980 годзе.

6 красавіка ЗША выпусцілі ў космас касмічны карабель „Спейс Шаттп Чэленджэр-5" з касманаўтамі Р. Крыпенам, Т. Хартам, Ф. Скобі, Дж. Нельсанам, і Дж. Ван Хаўтэнам.

**11 сакавіка** ў Маскве выбралі К. Чарненку Старшынёй Вярхоўнай Рады СССР.

**23 сакавіка** ў Вашынгтоне Маргарэт Хеклер заявіла, што выкрылі новы вірус СПІД (AIDS).

**1 мая** за парушанне ходу афіцыйных дэманстрацый і свят у Варшаве, Гданьску і Чанстахове ўлады пакаралі 325 асоб.

**4 мая** Польшча і СССР падпісалі гандлёвы дагавор на 5 гадоў.

**6 мая** ў Беластоку прайшоў X З'езд БГКТ, на якім выбралі старшынёй А. Баршчэўскага, намеснікам старшыні – Я. Зенюка і сакратаром – В. Лубу.

**7 мая** на вуліцы ў Горкім, куды яшчэ 22 студзеня 1980 г. сілай вывезлі з Масквы акадэміка Андрэя Сахарава (1921--1989), міліцыя схапіла яго за галадоўку, якую ён аб'явіў, і ўсадзіла яго ў Горкаўскую абласную клінічную бальніцу ім. Семашка. Там яно трымалі і мучылі 4 месяцы. Выпусцілі з бальніцы, ды дазволілі яму вярнуцца ў Маскву толькі ў 1986 г.

**15 мая** ў Ушуайя ў Аргенціне разбіўся самалёт Gates Learjet 35A кампаніі Tierra del Fuego Province. У катастрофе згінула 11 асоб.

**17 мая** Польскі Алімпійскі Камітэт аб'явіў, што польскія спартсмены не паедуць на XXIII Летнія Алімпійскія Гульні ў Лос Анджэлес у ЗША.

**23 мая** ваенны суд у Варшаве прыгаварыў завочна Рышарда Куклінскага за шпіянаж для ЗША на смяротнае пакаранне.

**25 мая** ў Крыніцы сустрэў я савецкую экскурсію з Украіны, якая прыехала туды сваім аўтобусам „Саўтранства". Затрымаліся мы ў гасцініцы „Крыніца", дзе сустрэўся я з дзяўчынай – польскім экскурсаводам з „Орбіса", якая ведала добра рускую мову і тры дні ўсюды з намі ездзіла. З'елі мы там снеданне, аглядзелі пасля санаторыі ў Крыніцы і паехалі цягніком на Парковую гару, аглядзелі парк, з'елі там ў рэстаране абед і пад вечар вярнуліся на вячэру і на начлег у гасцініцу. На наступны дзень пасля снедання ў гасцініцы паехалі мы іх аўтобусам у Павознік, а пасля ў Мушыну, дзе з'елі абед, аглядзелі горад і горныя мясцовасці і вярнуліся на вячэру ў гасцініцу. На трэці дзень паехалі мы ў Новы Сонч. Па дарозе аглядзелі мы іншыя цікавыя мясцовасці. У адным рэстаране ў Новым Сончу з'елі мы абед і на вячэру вярнуліся ў гасцініцу „Крыніца". На чацвёрты дзень пасля снедання я развітаўся з экскурсіяй. Яны паехалі ў Чэхаславакію, а я цягніком дамоў у Варшаву.

**1 чэрвеня** ў Індыі ў Амірытсар пачаліся баі за Залаты Храм паміж сікхамі і індыйскай арміяй. У баях згінула 650 асоб. **4 чэрвеня** па загаду прэм'ера Індыі Індзіры Гандзі індыйскія салдаты заатакавалі гэты храм, які акупавалі сікхі, і 6 чэрвеня яго захапілі. У баях згінула 1200 асоб і амаль 200 індыйскіх салдат.

**29 чэрвеня** ездзіў я з працаўнікамі „Энергапраекта" на сінхранізацыю 4 блока 380 мегаватаў у электрастанцыю Белхатаў. Гатовіўся ўжо пяты блок да сінхранізацыі.

**12 ліпеня** ў Мюнхене ў Заходняй Нямеччыне град велічынёй тэнісных мячоў параніў 300 асоб і прынёс шкоды на сотні мільёнаў марак.

**13 ліпеня** па дагавору ў Саарбрукен была ліквідавана граніца між Францыяй і ФРГ.

**14 ліпеня** паехаў я з Варшавы аўтобусам у Ломжу. У гасцініцы „Грамада" я меў аплачаны „Орбісам" пакой з ваннай. Там пераначаваў і ранкам ля гасцініцы знайшоў я аўтобус „Орбіса" з мясцовай экскурсіяй у СССР. Прывітаўся я з турыстамі, праверыў прысутных і мясцовы шафёр „Орбіса" павёз нас у Брэст праз граніцу. На граніцы нас хутка прапусцілі і польскія і савецкія пагранічнікі і мытнікі.

У Брэсце ля будынка „Інтурыста” сустрэў я савецкую сімпатычную жанчыну-экскурсавода, якая ведала добра польскую мову. Яна звяла нас у рэстаран, дзе мы паабедалі і пасля паехалі па вельмі добрай шашы, якую СССР збудаваў на Маскоўскоўскія Апімпійскія Гульні ў 1980 годзе, у сталіцу БССР Мінск. Па дарозе перад Мінскам мы павярнулі ўлева і заехалі ў пасёлак Мір і там на нейкі час затрымаліся. Там аглядзелі мы прыгожы, тады яшчэ не адноўлены, Мірскі замак, пасёлак, Траецкую царкву і касцёл св. Мікалая і паехалі далей. Падвечар прыехалі мы ў Мінск і затрымаліся ў гасцініцы „Спутнік” на вячэру і на начлег. На наступны дзень паездзілі мы аўтобусам па Мінску і агледзелі будынкі горада, а пасля абеда далі нам вольны час, каб турысты маглі пахадзіць па магазінах і выдаць атрыманыя ў Польшчы савецкія рублі.

На наступны дзень ранкам пасля снедання паехалі мы з экскурсаводам на ўсход.

Па дарозе затрымаліся мы на кароткі час у Хатыні, дзе аглядзелі мемарыял пабудаваны спаленым немцамі ў час вайны за забітага партызанамі нямецкага афіцэра 143 жыхарам вёскі і ў тым 75 дзецям. Выратаваўся ад смерці толькі адзін жыхар вёскі, Ёсіф Камінскі, якому паставілі там помнік, як ён стаіць і трымае на руках свайго мёртвага сына. Фашысты ў час вайны спалілі на Беларусі 628 вёсак і 186 вёсак яшчэ да сёння не адбудавалі.

Пасля праехалі мы і паглядзелі абласны горад Беларусі Магілёў з прыгожай ратушай, саборам апосталаў Пятра і Паўла і палацам Румянцава і паехалі ў пасёлак Леніна ў Гарэкім раёне, які перад рэвалюцыяй і ў часы акупацыі называўся Раманава ў гонар царскай сям’і, дзе 12 і 13 кастрычніка 1943 году ў бітве з немцамі брала ўдзел Першая польская пяхотная дывізія ім. Тадэвуша Касцюшкі і першы польскі танкавы полк ім. Герояў Вестэр-плятэ, сфарміраваны ў СССР з ініцыятывы Саюза польскіх патрыётаў з вывезеных за Сталіна грамадзян Польшчы. Аглядзелі мы там музей названы Музеем савецка-польскай садружнасці, магілы польскіх салдат. Паехалі ў Віцебск і там затрымаліся ў гатэлі, з’еўшы вячэру, на начлег. Па дарозе аглядзелі мы будынкі горада Віцебска.

На наступны дзень пасля снедання аглядзелі мы да абеда Віцебскі краязнаўчы музей і пасля звонку віцебскія прыгожыя цэрквы,

як Успенскі сабор, Свята-Васкрэсенскую царкву, Благавешчанскую царкву і іншыя, гарадскія масты праз Віцьбу, палац губернатара і палац Агінскіх.

На наступны дзень пасля снедання паехалі мы ў Полацк. Пахадзілі мы пяшком па вуліцах горада. Аглядзелі там помнікі, Сафійскі сабор, Верхні замак, Свята-Багаяўленскі сабор, Спасаса-Ефрасіннеўскі манастыр, з'елі заказаны абед у нейкім рэстаране і паехалі ў Мінск на начлег у гасцініцу „Спутнік". На наступны дзень пасля снедання прыехалі мы на абед у Брэст. Там мы развіталіся з экскурсаводам і паехалі на граніцу ў Польшчу. За граніцай у Тэрэспалі я развітаўся з турыстамі, яны паехалі аўтобусам у Ломжу, а я цягніком у Варшаву.

**17 ліпеня** СССР выпусціў у космас касмічны карабель „Саюз" Т12 з касманаўтамі Ігарам Воўкам, Уладзімерам Джэнібекавым і касманаўткай Святланай Савіцкай. Даляцелі і прыстыкаваліся яны да касмічнай станцыі „Салют"7 і 25 ліпеня першая жанчына Святлана Савіцкая з У. Джэнібекавым выйшлі ў адкрыты космас і праз тры гадзіны і 35 мінут рабілі эксперыменты. Вярнуліся яны на Зямлю 29 ліпеня.

**18 ліпеня** ў Сан Ісідра ў Каліфорніі сторож-вар'ят вайшоў у Мак Дональд і пачаў страляць і забіў 20 ды раніў 16 асоб.

**21 ліпеня** ў польскім Сейме выдалі закон аб амністыі і стварылі Шчэцінскі Універсітэт.

**Ад 28 ліпеня да 12 жніўня** праходзілі ў ЗША ў Лос Анджэлесе Летнія Алімпіўскія Гульні, на якіх не было спартсменаў з 14 дзяржаў, у тым ліку з сацыялістычных дзяржаў і СССР, акрамя Румыні, Югаславіі і Кітая. Найбольш медалёў атрымалі ЗША: 83 – залатых, 81– срэбных і 30 – бронзавых. Другое месца заняла Румынія: 20 – залатых, 16 – срэбных і 17 – бронзавых і трэцяе месца заняла ФРГ: 17 – залатых, 19 – срэбных і 23 – бронзавых.

**2 жніўня** ЗША правялі атамны выбух на палігоне ў Невадзе.

**3 жніўня** ад выбуху бомбы ў індыйскім аэрапорце Мадрас згінулі 32 асобы.

**4 жніўня** Верхняя Вольта змяніла назву на Буркіна Фасо.

**18 жніўня** ў Маскве адкрылі альтэрнатыўную Алімпіяду ў Лос Анджэлес, так званыя Гульні Дружбы, у якіх узялі ўдзел спартсмены сацыялістычных дзяржаў.

**27 жніўня** СССР правёў падземны атамны выбух.

**30 жніўня** ў ЗША пачаўся першы палёт касмічнага парома Дыскаверы STS-41D.

**31 жніўня** ад трапічнага шторму на Філіпінах гіне больш як 100 асоб.

**31 жніўня** паехаў я з жонкай Нінай і з унукам Лукой з Беластока спальным выгонам на паўвостраў Гель у Кузьніцу. Выкупілі мы там на 14 дзён у дзяржаўным турыстычным бюро пакой з трома ложкамі ў прыватным доме жыхара Кузьніцы, а харчаванне ў дзяржаўнай сталовай недалёка ад нашай кватэры. Дом, у якім мы жылі, стаяў блізка ад мора, дзе быў прыемны пляж і ад Гданьскай бухты, дзе таксама быў пляж. Былі там і іншыя турысты з дзяцьмі, так што час прайшоў нам вельмі прыемна і **15 верасня** прывезлі мы спальным вагонам унука Луку яго бацькам у Беласток.

**16 верасня** ў Новай Всі каля Аполя ў катастрофе польскага самалёта Ан-2 згінула 12 асоб.

**11 верасня** ля ракі Конга ў Заіры разбіўся самалёт Handley Page. Згінула 30 асоб.

**20 верасня** ў тэрарыстычным атаку на амерыканскае пасольства ў Ліване згінулі 23 асобы.

Сваячка Ніны ва Францыі, унучка контр-адмірала Конанава Тацяна, у якой мы гасцілі ў 1975 г., дала нам адрас свайго сваяка па матцы Уладзіміра Ганскага, які жыў у ФРГ у Хаген. Уладзімір Ганскі нарадзіўся ў Маскве, яго бацька меў нямецкае паходжанне і ў час сталінскай чысткі ў 1937 г. быў арыштаваны і расстраляны. Калі пачалася нямецка-савецкая вайна ў 1941 г., ён быў з братам скіраваны на нямецкі фронт і папаўся ў нямецкі палон. Брат яго згінуў, а ён маючы, адрасы далёкіх сваякоў у Нямеччыне, вырваўся з палона і стаў жыць у Хаген і пасля вайны атрымаў нямецкае грамадзянства. Яго сястра асталася ў Маскве, стала заўзятай камуністкай і не хацела мець з ім сувязі. Аднак яе дзеці перапісваліся з ім.

Калі я атрымаў яго адрас, напісаў яму, ён адказаў мне і мы сталі рэгулярна перапісвацца на рускай мове. Ён хутка запрасіў майго зяця да сябе і знайшоў яму там на месяцы два працу, а пасля запрасіў на месяц і зяця і маю дачку, і знайшоў ім працу. Тады мая жонка пільнавала ўнукаў. І ў верасні ён запрасіў мяне з жонкай да сябе ў госці.



*З унукам над Балтыйскім морам*

І мы выкупілі білеты і **20 верасня** цягніком паехалі ў Хаген. У Хагене на вакзале ён нас сустрэў і сваёй машынай завёз да сябе. Жыў ён без шлюбу з вельмі прыемнай немкай Лётэ і з яе маткай. У кватэры яго было чатыры пакоі, вялікая кухня і ванны пакой. Нам даў аддзельны пакой і мы жылі ў Хагене да канца верасня. Сваёй машынай завёз нас у Дортмунд, Эсен і іншыя гарады ФРГі паказаў іх. На цэлы дзень завёз нас у Кёльн, дзе аглядзелі мы прыгожы сабор св. Пятра і Марыі з высокімі 157-метровымі вежамі, у якім быццам бы знаходзяцца мошчы трох каралёў, якія прыехалі ў Віфліем пакланіцца народжанаму Хрысту: Каспара, Мельхіора і Балтазара, музей жывапісу Вольфа Рыхарда з рознымі карцінамі і іншыя касцёлы, прыгожы мост на рацэ Рэйне. Абед з'елі мы там у кітайскім рэстаране і вярнуліся ў Хаген. Даў ён мне некалькі рускіх кніг, якія надрукавалі на захадзе, якія я прывёз тады ў Польшчу, бо на граніцы Польшчы ў вагоне зрабілася такая таўкатня, што мытнікі не заглядалі нам у багаж. Пасля да яго яшчэ ездзіў мой зяць Валянцін і там знаходзіў ён яму працу. Калі быў я ў Індыі, ён перапісваўся са мной і прыслаў мне туды дзве рускія кніжкі напісаныя савецкімі дэсідэнтамі, якія ўцяклі на захад. У 1992 годзе са сваімі знаёмымі ён прыехаў у Варшаву аўтамашынай. Быў у мяне тры гадзіны і паехалі яны ў Беласток да Валянціна. На

жаль, пасля я атрымаў вестку, што ён памёр. Калі былі мы ў яго, ён зяпрасіў у госці да сябе адну сям'ю з Хагена, дзе мужам немкі быў жыхар з вёскі Беражышчаў, якая знаходзіцца паблізу вёскі Чаромхі. Аказваецца, гэтая сям'я жыла раней доўгі час у Польшчы на тэрыторыі былой Усходняй Прусіі. Там слесар з Беражышчаў працаваў і пазнаёміўся з ёй, і ажаніўся з немкай і пасля разам выехалі ў Хаген. Ён там жыў і працаваў слесарам, меў шыкоўную машыну, на якой часта прыязджаў у Польшчу да сваіх бацькоў. Яго жонка і яе матка гаварылі ўжо добра па-польску, а слесар з Беражышчаў навучыўся гаварыць па-нямецку.

**26 верасня** Вялікабытанія і Кітай падпісалі дагавор аб перадачы Велікабрытаніяй Гангконга Кітаю.

**2 кастрычніка** савецкія касманаўты Леанід Казім, Уладзімір Салаўёў і Алег Ацькоў, пасля 237-сутачнага палёту на касмічнай станцыі Салют 7, вярнуліся на Зямлю.

**11 кастрычніка** першая амерыканская касманаўтка Катрын Суліван у час палёта касмічнага парома „Чэленджэра" выйшла ў адкрыты космас.

**11 кастрычніка** ў катастрофе самалёта Ту-154 Б пад Омскам гінуць 174 асобы.

**12 кастрычніка** ў гасцініцы Брайтан, у якой была прэм'ер Англіі Маргарыта Тэчэр, ад бомбы ІРА згінула 5 асоб, а 34 было параненых.

**5 кастрычніка** ў катастрофе самалёта Ту-154 ў Омску гіне 150 асоб.

**17 кастрычніка** ў чыгуначнай катастрофе ў Польшчы ў Бонкове гіне 4 асобы, а 60 было параненых. Хуткі цягнік наехаў пад семафорам на таварны цягнік.

**18 кастрычніка** СССР правёў атамны выбух на палігоне ў Семіпалацінску.

**19 кастрычніка** на дарозе ля Гурска пад Торунем былі захоплены ксёндз Ежы Папялушка і яго шафёр. Шафёру хутка ўдалося ўцячы. Падняўся вялікі шум. Захапілі іх тры афіцэры польскай міліцыі: кап. Грыгор Пятроўскі, паручнік Лешак Пэнкала і паручнік Вальдэмар Хмялеўскі. Е. Папялушку яны ўтапілі ў Вісле. **30 кастрычніка** іх арыштавалі і пасля судзілі. Цела Е. Папялушкі выцягнулі з ракі і **3 лістапала** яго пахавалі.

**27 кастрычніка** цягнікі ў СССР пайшлі па Байкальска--Амурскай магістралі, якую пачалі будаваць яшчэ ў 1934 годзе.

**31 кастрычніка** двух сікхаў з асабістай аховы прэм'ера Індыі Індзіры Гандзі замардавалі яе ў помсце за захоплены індыйскімі салдатамі Залаты Храм у Амірытсары.

**6 лістапада** другі раз выбралі ў ЗША прэзідэнтам Рональда Рэгана.

**24 лістапада** паўстаў у Польшчы прафсаюз OPZZ.

**3 снежня** польскі сейм прадоўжыў свой тэрмін паўнамоцтваў да 31 жніўня 1985г., а ў індустрыяльнай катастрофе ў Індыі **3 снежня** гіне некалькі тысяч людзей.

**15 снежня** СССР выпусціў у космас зонд Вега 1 і 21 снежня зонд Вега 2 для даследавання планеты Венеры і каметы Галілея. Даляцелі яны на Венеру 9 і 15 чэрвеня 1985 г.

**17 снежня** ездзіў я машынай «Энергапраекта» з яе працаўнікамі на сінхранізацыю 5 блока 380 мегаватаў ў электрастанцыю Белхатаў.

**18 снежня** ў пажары дзіцячага дома ва Вронках згінула 8 дзяцей і дырэктар дома.

**23 снежня** ў катастрофе самалёта Ту-154 Б-2 пад Краснаярскам згінула 110 асоб.

**23 снежня** Францыя стала чэмпіёнам свету ў футболе, перамагаючы Іспанію 2:0.

**27 снежня** пачалі судзіць у Торуні забойцаў Ежы Папялушкі.

# 1985

Ад **2 студзеня** я пачаў праектаваць у „Энергапраекце" фрагменты аўтаматыкі для атамнай электрастанцыі ў Жарноўцу, хаця часта ездзіў з іншымі праекціроўшчыкамі аўтамашынай „Энергапраекта" на аўтарскі нагляд ў электрастанцыю Белхатаў, дзе будаваліся ўжо шосты і сёмы блокі па 380 мегаватаў кожны.

**7 студзеня** Японія выпусціла ў космас першы міжпланетны зонд „Сакігакэ" (у перакладзе „Піянер") выкананы ў ЗША з японскімі апаратамі ўнутры для вывучэння космасу. Сігналы ад яго даходзілі на Зямлю да 15 лістапада 1995 г.

**11 студзеня** савецкі касмічны зонд „Вега1" праляцеў ля планеты Венеры, выслаў здымкі і паляцеў у кірунку каметы Галея.

**13 студзеня** ў чыгуначнай катастрофе ў Эфіопіі згінула 428 асоб.

**17 студзеня** ў Варшаве адкрылі помнік салдатам-касцюшкоўцам.

**20 студзеня** Рональд Рэйган стаў прэзідэнтам ЗША на наступныя 4 гады.

**21 студзеня** польскія альпіністы Анджэй Чок і Ежы Кукучка першы раз зімой ўвайшлі на вяршыню Дхаулагіры ў Гімалаях (8167 м).

**24 студзеня** наступіў 15 старт (STS-51C) амерыканскага Спейс Шатла і трэці палёт шатла «Дыскаверы» з касманаўтамі Томасам Матынглі, Ларэнам Шрайверам, Элісонам Анідзука, Джэймсам Бэчлі і Гэры Пейтанам. Былі ў космасе 3 суткі і 1 гадзіну.

**1 лютага** Грэнладыя выйшла з еўрапейскіх гаспадарчых арганізацый. 1лютага ў катастрофе савецкага самалёта Ту-134 ў Мінску згінула 58 асоб.

**7 лютага** суд прыгаварыў забойцаў ксяндза Ежы Папялушкі на 25 гадоў турмы і на 10 гадоў пазбавіў іх грамадзянскіх правоў.

**8 лютага** на Паўночным Моры затануў польскі карабель „Буска-Здруй". Згінулі 24 асобы, адну асобу выратавалі.

**8 лютага** ад выбуху метана і вугальнага пылу ў шахце каменняга вугля „Ніўка-Маджэюў" у Сасноўцу згінула 5 шахцёраў.

**12 лютага** польскія альпіністы Мацей Бербека і Мацей Паўлікоўскі ўвайшлі першы раз зімой на вяршыню Чо Ою в Гімалаях (8201 м.)

**13 лютага** ў Гданьску арыштавалі дзеячоў „Салідарнасці" Уладзіслава Фрасынюка, Багдага Ліса і Адама Міхніка.

**19 лютага** ля Більбао ўдарыў у тэлевізійную вежу іспанскі самалёт Боінг 727 лініі Іберыя. Згінула 148 асоб і ў катастрофе малійскага самалёта Ан-24 у горадзе Тымбукту згінула 50 асоб.

**25 лютага** выдалілі з Польшы амерыканскага вайсковага аташэ, які з жонкай фатаграфаваў вайсковыя аб'екты. ЗША ўзамен выдалілі з Вашынгтона польскага палкоўніка З. Шыманскага.

**28 лютага** ірландскія баевікі ІРА абстралялі мінамётам англійскі паліцэйскі ўчастак у Ньюры і забілі 9 афіцэраў паліцыі.

**3 сакавіка** ад землятрусу ў чылійскім раёне Вальпараіса згінула 177 асоб, а 2500 было параненых.

**4 сакавіка** ўлады ў Польшчы ўводзяць этапамі павышэнне цэн, незалежна ад супраціву прафсаюза OPZZ.

**9 сакавіка** пажар у Варшаве знішчыў будынак Нацыянальнага тэатра.

**10 сакавіка** памер у Маскве Генеральны сакратар КПСС К. Чарненка (1911-1985).

**11 сакавіка** пленум ЦК КПСС выбраў Генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова.

**12 сакавіка** пачалося аднаўленне савецка-амерыканскіх мірных перамоў у Жэневе.

**14 сакавіка** на тыдзень прыехала ў „Энергапраект" група праекціроўшчыкаў з Ленінграда, якія там праектавалі атамны рэактар для электрастанцыі Жарновец. Трэба было хадзіць на сустрэчы з імі і на розныя тэхнічныя ўзгадненні.

**1 красавіка** на аэрадроме ў Варшаве сустрэў я польскую экскурсію „Орбіса", якая прыехала з Замосця, прывітаўся я з ёй, праверыў прысутных і разам з імі савецкім самалётам паляцелі мы ў Кіеў, дзе пасля праверкі дакументаў і прасветлення мытнікамі нашых багажоў, паляцелі дадей другім самалётам у Алер. У Адлеры сустрэла нас дзяўчына-экскурсавод, якая ведала добра польскую мову і яна аўтобусам „Інтурыста" завезла нас ў Сочы ў прыгожую і вялікую 19-павярховую гасцініцу „Жамчужыну", якая мае 956 пакояў з відам на мора. Раздзяліў я турыстам пакоі, з'елі мы там абед і паехалі аўтобусам „Інтурыста" з экскурсаводам аглядаць горад Сочы. Вярнуліся пад вечар на вячэру і на начлег.

**2 красавіка** пасля снедання паехалі мы з экскурсаводам спачатку у Музей гісторыі горада Сочы, а потым у Парк Рыв'ера, дзе паказалі нам розныя паўднёвыя расліны і дрэвы.

Пасля абеду далі нам час вольны. Пад гасцініцай можна было купацца ў басейне ў падаграванай марской вадзе, трэба было толькі паказаць лекару голыя ногі. У моры тады вада была хаподная.

Можна было шпацыраваць ля мора ці ў горадзе.

**3 красавіка** пасля снедання паехалі мы на гару Ахун (700 м) і з вежы аглядалі панараму Сочы. Пасля абе-да мелі мы вольны час.

**4 красавіка** пасля снедання завезлі нас на чыгуначны вакзал у Сочы і цягніком паехалі мы ў Краснадар, дзе на вакзале сустрэла нас другая дзяўчына-экскурсавод, якая ведала добра польскую мову і завезла нас у гасцініцу „Інтурыст", дзе дасталі мы пакоі і абед. Пасля а-беда аб'ехалі мы аўтобусам горад і аглядзелі цікавыя помнікі, будынкі і месцы ў Краснадары.

**5 красавіка** пасля снедання завезлі нас у прадпрыемства на дэгустацыю паўднёвых савецкіх він і каньякоў. Нейкія турысты пасля ў аўтобусе спявалі вясёлыя песні.

**6 красавіка** пасля снедання паказалі нам Музей Каваленкі з карцінамі Шагала і іншых мастакоў, а пасля абеда Археалагічны музей са старымі манетамі, старой зброяй. Пасля завезлі нас на аэрадром і мы самалётам пад вечар прыляцелі ў Маскву. Там маскоўская дзяўчына-экскурсавод завезла нас у гасцініцу „Інтурыст", дзе атрымалі мы пакоі, вячэру і начлег.

**7 і 8 красавіка** правялі мы ў Маскве і, як заўсёды, аглядзелі Маўзалей Леніна, Крэмль і Трэцьякоўскую галерэю. 8 красавіка вечарам прывезлі нас на Беларускі чыгуначны вакзал і спальным вагонам ранкам **10 красавіка** вярнуліся мы ў Варшаву. На вакзале я развітаўшыся з экскурсіяй, вярнуўся дамоў. **11 красавіка** я быў на працы, а **15 красавіка** ноччу спальным вагонам паехаў у санаторый ў Свінавусці.

**1 красавіка**, калі быў я на экскурсіі, улады ў Польшчы павысілі цэны на электраэнергію, газ і вугаль, а **12 красавіка** зарэгістравалі Агульнапольскае пагадненне прафсаюзаў (OPZZ).

**Ад пачатку 1985 года** пачала балець у мяне правая нага. Рэнтген выказаў, што на пятах маёй правай і левай нагі нараслі так званыя „шпоры" і на правай назе націскала „шпора" мне на нейкі нерв і нага балела. У Варшаве награвалі мне пяты электратокам, ды гэта мне не памагала. Электраток не мог разбіць мне „шпораў" на пятах. І лекар «Энергапраекта» скіраваў мяне ў санаторый. Прызналі мне санаторый у Свінавусці ў Доме адпачынку Электрастанцыі Конін. Ад лістапада да мая кожнага года ў Свінавусці дамы адпачынку розных прадпрыемстваў замянялі ў санаторыі і лячылі людзей. Санаторыі былі бясплатнымі і час знаходжання ў санаторыі не ўлічваўся да адпачынковага водпуску. Раней высылалі ў санаторыі на тры тыдні, ды ў 1985 годзе скарацілі пабыўкі да 14 дзён. І мне прызналі санаторый з 16-га да 29-га красавіка.

**16 красавіка** ранкам даехаў я цягнікам да Свінавусця, пераехаў паромам заліў і ў Доме адпачынку Электрастанцыі Конін атрымаў я месца ў пакоі з ванным пакоем з адным інжынерам з Познані. Перад прыездам у санаторый мяне правеяў вецер і я стаў чуць боль у ягадзіцы, таму меў я там гразевыя ванны, а „шпоры" на пятах разбілі мне ўльтракароткімі хвалямі і правая нага і ягадзіца перасталі мне балець. У Свінавусці ў моры ў красавіку вада была халодная, нельга было купацца. Хадзіў я толькі на шпацыр па беразе мора. **30 красавіка** ранкам вярнуўся я спальным вагонам цягнікам дамоў у Варшаву і пайшоў на працу.

**11 красавіка** ў Албаніі пасля смерці Энвера Ходжа, выбралі першым сакратаром Албанскай партыі працы Раміза Алію.

**12 красавіка** ў ЗША наступіў 16 старт (STS-51D) па праграме Спейс Шатл і 4-ы палёт шатла „Дыскаверы" з касманаўтамі Каролем Бабко, Доналдам Уільямсам, Рэам Седонам, Давідам Грыге, Джэфры Хофманам,Чарлзам Уокерам і Эдвінам Гарнам. Былі яны ў космасе 6 сутак і 23 гадзіны.

**19 красавіка** ў СССР правялі падземны атамны выбух на Семіпалацінскім палігоне.

**22 красавіка** Вышэйшы суд ў Варшаве падтрымаў ранейшы прыгавор на забойцаў ксяндза Ежы Папялушкі.

**26 красавіка** ў Варшаве кіраўнікі сацыялістычных дзяржаў прадоўжылі Варшаўскі дагавор на наступныя 20 гадоў.

**29 красавіка** польскі сейм прыняў рашэнне аб утварэнні Кастытуцыйнага Трыбунала.

**29 красавіка** ў ЗША наступіў семнаццаты старт (STS-51B) па праграме Спейс Шатл і сёмы палёт шатла „Чэленджэра" з касманаўтамі Робертам Авермаерам, Фрэдрыкам Грэгорым, Донам Ліндам, Норманам Тагардам, Уільямам Тарнтонам, Людвігам ван дэн Бергам і Тэйларам Уэнгам. Былі яны ў космасе 7 сутак.

**30 красавіка** Рада Міністраў Польшчы перадала маёмасць усіх „былых прафсаюзаў" Агульнапольскаму пагадненню прафсаюзаў (OPZZ).

**1 мая** ў час першамайскай дэманстрацыі ў Гданьску дайшло да сутыкнення 10 тысяч прыхільнікаў „Салідарнасці" з міліцыяй.

**9 мая** польская дэлегацыя з віцэ-міністрам абароны ген. Тадэвушам Тучапскім брала ўдзел у святкаванні 40 гадавіны перамогі ў Вялікай айчыннай вайне на Чырвоным пляцы ў Маскве.

**10 мая** сікхскія экстрэмісты зрабілі выбухі бомб у трох індыйскіх гарадах. Згінула 84 асобы.

**11 мая** ў пажары драўляных трыбун на футбольным стадыёне ў Брандфордзе ў Англіі згінула 56 асоб, а больш чым 300 асоб было параненых.

**13 мая** ў Філадэльфіі паліцэйскі верталёт скінуў бомбу на штабкватэру радыкальнай арганізацыі MOVE. У пажары згінула 11 асоб.

**14 мая** тамільскія баявікі напалі на горад Анурадхапуру ў Шры-Ланцы. Згінула 146 асоб.

**16 мая** выйшаў Указ Прэзідыума Вярхоўнай рады СССР „Аб узмацненні барацьбы з п'янствам", які даў пачатак антыалкагольнай кампаніі ў СССР, якая працягвалася да 1988 г.

**22 мая** ў Бейруце ад выбуху аўтамашыны-пасткі гіне 55 асоб.

**25 мая** ад трапічнага цыклона і штурмавой хвалі ў Бангладэшы гіне больш як 10 тысяч людзей.

**28 мая** прыехаў у Польшчу з візітам італьянскі прэм'ер Беціна Краксі.

**29 мая** на футбольным стадыёне ў Бруселе ў час фінальнана матча Кубка Чэмпіёнаў між камандамі Ліверпуля і Ювентуса ад бойкі між балельшчыкамі згінула 39 балельшчыкаў.

**3 чэрвеня** сустрэў я ў гасцініцы „Меркуры – Унія" ў Любліне савецкую экскурсію з Сібіры з Чыты, якая прыехала сваім аўтобусам „Саўтранства". Раздзеліў я ім пакоі. Пасля абеду ў гасцініцы паехалі мы да вячэры іх аўтобусам з польскай дзяўчынай- экскурсаводам, якая добра ведала рускую мову, у горад і аглядзелі стары і новы Люблін. На наступны дзень пасля снедання паехалі мы з экскурсаводам і аглядзелі нямецкі лагер смерці Майданак і вярнуліся на абед у гасцініцу. Пасля абеда паехалі мы ў Кракаў, прыехалі вечарам у гасцініцу „Гранд", дзе атрымалі пакоі на начлег і вячэру. 5 чэрвеня аглядзелі мы да абеда з мясцовым экскурсаводам, ведаўшым польскую мову, Вавель і горад, а пасля абеда Карцінную галерэю.

**6 чэрвеня** паехалі мы ў Асвенцім, дзе хадзілі пяшком па тэрыторыі лагера смерці і аглядалі сляды нямецкіх зверстваў. Пасля паказалі нам савецкі фільм аб вызваленні лагера Чырвонай арміяй. Пасля завезлі нас у горад у рэстаран на абед і паехалі мы ва Вроцлаў у гасцініцу „Манаполь". Там атрымалі мы пакоі і вячэру. 7 чэрвеня ва Уроцлаве з мясцовым экскурсаводам аб'ехалдi і аглядзелі горад, яго касцёлы і пасля абеда экскурсія паехала ў ГДР, а я цягніком у Варшаву дамоў.

**З 1 чэрвеня** ў СССР першы сакратар КПСС М. Габачоў пачаў уводзіць рэформы ў дзяржаве, якія назвалі „перабудовай" – па-руску „перестройкой". Першы этап рэформы працягваўся да студзеня 1987 г. Пачалі барацьбу з непрацоўнымі даходамі і карупцыяй.

**6 чэрвеня** ў СССР выляцеў у космас касмічны карабель Саюз Т-13 з касманаўтамі У. Джэнібекавым і В. Савіных. Прыстыкаваліся яны да касмічнай станцыі Салют-7 і 2 жніўня выйшлі на 5 гадзін у адкрыты космас. Уладзімір Джэнібекаў быў у космасе 110 дзён і вярнуўся на Зямлю на Саюзе Т-13 26 верасня, а Віктар Савіных – 168 дзён і вярнуўся на Зямлю на Саюзе Т-14 21 лістапада.

**14 чэрвеня** па паразуменні Шэнген зліквідавалі візы між Францыяй і ФРГ.

**14 чэрвеня** ваяводскі суд у Гданьску прысудзіў Уладзіслава Фрасынюка, Багдана Ліса і Адама Міхніка ад 2,5 да 3,5 гадоў турмы за дзейнасць у нелегальнай Нацыянальнай камісіі прафсаюзаў „Салідарнасць".

**17 чэрвеня** ў ЗША наступіў 18 старт (STS-51G) па праграме Спейс Шатл. Пачаўся 5 палёт шатла „Дыскаверы" з касманаўтамі Дэніелам Брандэнстайнам, Джонам Крайтонам, Шэнонам Лусідам, Джонам Фабіянам, Стывенам Нейджэлам, французам Патрыкам Барды і касманаўтам з Саудаўскай Аравіі Салманам ас-Саулам. Закончыўся палёт 24 чэрвеня.

**23 чэрвеня** на поўдзень ад Ірландыі ў Атлантычным акіяне з вышыні 9500 м упаў пасажырскі самалёт Боінг-747 кампаніі Аір-Індыя. Згінула 329 асоб.

**1 ліпеня** ў Польшчы павысілі цэны мяса і вяндлін і павысілі таксама цэны скупкі мяса ад сялян. „Салідарнасць" заклікала да пратэстаў, аднак былі кароткія забастоўкі толькі на некалькіх фабрыках.

**2 ліпеня** Еўрапейскае Касмічнае Агенцтва выслала ў космас зонд Джыота (Giotto) да каметы Галея. Праляцеў зонд 596 км ад каметы і прыслаў на Зямлю здымкі яе ядра.

**2 ліпеня** ў СССР Андрэй Грамыка быў выбраны старшынёй Вярхоўнай рады СССР, а Эдуард Шэварнадзе, генеральны сакратар ЦК КП СССР, стаў міністрам замежных спраў СССР.

**7 ліпеня** разам з працаўнікамі „Энергапраекта" ездзіў я аўтамашынай на электрастанцыю Белхатаў на сінхранізацыю 6-га блока 380 мегаватаў. Рыхтаваўся ў пуск ўжо  сёмы блок.

**10 ліпеня** ў бухце Акленда (Новая Зеландыя) агенты французскай спецслужбы ўзарвалі і затапілі карабель Грынпіс.

**10 ліпеня** 200 асоб згінула ў катастрофе самалёта Ту-154Б у Узбекістане.

**19 ліпеня** ў катастрофе ў Італіі пры разбуранай плаціне Валь ды Става згінула 268 людзей.

**20 ліпеня** брытанская разведка вывезла з СССР свайго агента Алега Гардыеўскага.

**24 ліпеня** ў катастрофе самалёта Дуглас ДЦ-6 у Калумбіі згінула 80 асоб.

**26 ліпеня** ля берага Антарктыды ледакол „Уладывасток" вызваліў з чатырохмесячнай ледзяной блакады навучны квкрабель-дызель-электраход „Міхал Сомаў".

**27 ліпеня** ў Маскве адкрылі XII Сусветны фестываль моладзі, які працягнуўся да 3 жніўня.

**29 ліпеня** наступіў у ЗША 19 старт (STS-51F) па праграме Спейс Шатл і 8 палёт шатла „Чэленджэр" з касманаўтамі Чарльзам Фулертонам, Роем Брыджэсам, Сторы Мастрэйнам, Энтонам Інглендам, Карлам Хеніце, Лерэнам Эктонам і Джонам Бартоу. Былі яны ў космасе 7 сутак і 22 гадзіны.

**30 ліпеня** М. Гарбачоў заявіў аб аднастаронні мараторыі СССР на атамныя выбухі.

**2 жніўня** ў катастрофе самалёта Дэльта Эа Лейнс 191 у Далас, Тэкмас, ЗША згінула 137 асоб, а 27 было параненых.

**6 жніўня** суд у Гданьску прыгаварыў серыйнага забойцу Паўла Тухліна за забойства 9 жанчын на пакаранне смерцю. Павесілі яго ў 1987 г.

**8 жніўня** папа Ян Павел II пачаў 27 падарожжа. Паляцеў ён у 6 дзяржаў Афрыкі: Тога, Кот-д'Івуар (Бераг Слановай Косці), Камерун, Цэнтральна-Афрыканскуя Рэспубліку, Кенію і Марока. Кончыў падарожжа 19 жніўня.

**12 жніўня** ў самай цяжкай авіякатастрофе ў Японіі, дзе разбіўся самалёт Боінг 747 лініі Джапан Эалайнес 123, згінула 520 асоб.

**17 жніўня** ад выбуху аўтамашыны-пасткі ля супермаркета ў Бейруце згінула 40 людзей, а 122 было параненых.

**22 жніўня** ў пажары на авіялайнеры Боінг 737 ў аэрапорце Манчэстэра ў Вялікабрытаніі згінула 55 асоб, а 15 было параненых.

**22 жніўня** ад'ехаў з Польшчы праваслаўны мітрапаліт Мінска і ўсёй Беларусі Філарэт, які прыехаў на 900 гадавіну праваслаўнага царкоўнага прыхода ў Драгічыне.

**27 жніўня** у ЗША наступіў 20 старт (STS-51I) па праграме Спейс Шатл. Пачаўся 6 палёт шатла „Дыскаверы" з касманаўтамі Джо Энглам, Рычардам Коуві, Джэймсам Ван Хафтэнам, Джонам Лонджам і Уільямам Фішэрам. Былі яны ў космасе 7 сутак і 2 гадзіны.

**1 верасня** прыехаў я ў гасцініцу «Орбіс» ў Хелме, дзе атрымаў вячэру і пакой з ванным пакоем. Пераначаваў я там і ранкам 2 верасня з'еў там снеданне і на пляцы ля гасцініцы сустрэў аўтобус „Орбіса", у якім ўжо былі ўсе члены экскурсіі ў Чэхаславакію. Праверыў я ці ўсе турысты з'явіліся і паехалі мы на Вроцлаў. У Вроцлаве з'елі мы абед ў гасцініцы „Манаполь" і паехалі на Кудову-Здруй. За ёй пераехалі мы польска-чэхаславацкую граніцу і пад вечар даехалі мы ў Градэц-Кралёвэ ў гасцініцу „Тэрэз'янскі Двур" , дзе атрымалі пакоі на начлег і вячэру.

**3 верасня** пасля снедання сустрэў я мясцовага экскурсавода, які ведаў добра полькую мову і ён павёз нас нашым аўтобусам паказаць горад Градэц-Кралёвэ. Горад ляжыць у месцы зліцця рэк Лабы і Орліцы і з'яўляецца прыгожым горадам Багеміі. Аглядзелі мы на Вялікім пляцы прыгожы гатычны сабор Святога Духа, які калісь быў пабудаваны чэскай каралевай Элішкай (1286-1335) і дзе быў пахаваны Ян Жыжка (каля 1360-1424), правадыр войска гусітаў, які разбіў крыжацкае войска 14 ліпеня 1420 г.

**Аглядзелі** мы пасля Старую ратушу і Белую вежу, езуіцкі касцёл Узнясення Дзевы Марыі і дом каралевы Элішкі. З Белай Вежы аглядалі мы Орлінскія горы.

Вярнуліся мы на абед у гасцініцу і пасля абеду час быў вольны і турысты пайшлі ў магазіны выдаваць атрыманыя ў Польшчы чэшскія кроны.

**4 верасня** пасля снедання паехалі мы ў чэшскую сталіцу Прагу і затрымаліся ў гасцініцы „Раяль", дзе атрымалі пакоі і з'елі абед. Сустрэў я там чэшскага экскурсавода, які пасля абеда завёў нас і паказаў мост Карла IV пабудаваны ў 1353 г., які мае 516 м даўжыні і 10 м шырыні ды 30 розных статуй. Пасля пайшлі мы аглядаць старагарадскі пляц з брукаванымі вузкімі вуліцамі. Экскурсавод прывёў нас у гасцініцу на вячэру і начлег.

**5 верасня** паказалі нам Віфліемскую капліцу (дзе ў 1390годзе чытаў свае казані Ян Гус), Порахавую вежу ці Порахавыя вароты ля Старага горада пабудаваныя ў 1475 г., Стары каралеўскі палац, Валенштанскі палац і іншыя славутасці Прагі.

**6 верасня** да абеда далі нам час вольны, каб турысты выдалі апошнія чэшскія кроны, а пасля абеда паехалі мы аўтобусам цераз граніцу ў Вроцлаў у гасцініцу „Манаполь" на вячэру і на начлег.

**7 верасня** вярталіся мы ў Хелм, ды па дарозе ля Пятркова-Трыбунальскага папсаваўся нам аўтобус. Шафёр пазваніў у „Орбіс" і трэба было чакаць тры гадзіны іншага аўтобуса, які нас забраў. Я папрасіў шафёра падвезці мяне да вакзала ў Пятркове-Трыбунальскім і там я з экскурсіяй развітаўся. Яны паехалі аўтобусам у Хелм, а я цягніком у Варшаву.

**4 верасня** ў катастрофе самалёта Ан-26 у афганскім Кандахары згінула 52 асобы.

**11 верасня** ў шахце каменнага вугля ў Валбжыху ад падаючых скал і вуглекіслага газа згінула 5 шахцёраў.

**11 верасня** ад сутыкнення двух цягнікоў у партугальскім Нелас згінула 118 пасажыраў.

**13 верасня** Вялікабрытанія выкінула з дзяржавы 25 савецкіх дыпламатаў, абвінавачваючы іх у шпіянажы, і 14 верасня СССР выдварыў з Савецкага Саюза 25 англійскіх дыпламатаў.

**17 верасня** у СССР выляцеў у космас касмічны карабель Саюз Т-14 з касманаўтамі У. Васюціным, Г. Грэчка і А. Волкавым, прыстыкаваліся яны да касмічнай станцыі Салют -7. Г. Грэчка з У. Джэнібе-

кавым вярнуліся на Зямлю на Саюзе-Т13 26 верасня, а У. Васюцін, А. Волкаў і В. Савіных на Саюзе-Т14 21 лістапада.

**19 верасня** ад землятрусу з сілай 8,1 бала па шкале Рыхтара ў Мексіцы згінула амаль 10 тысяч людзей, 3 тысячы было параненых, а 9500 страціла жыллё.

**Ад 26 да 30 верасня** я атрымаў з „Орбіса" накіраванне на нагляд за паляваннем на звяроў у лесе ля Зялёнай Гуры. Ранкам я прыехаў цягнікам у Зялёную Гуру і на таксі дабраўся да дома Мечыслава Дрэбшока ў лясніцтве Ляскова. У яго вялікім доме я атрымаў аддзельны пакой з ложкам. Да яго прыехала двух немцаў з Заходняга Берліна В. Веер і Ганс Шмідт з паляўнічай зброяй і атрымалі ў яго другі пакой. Мечыслаў Дрэбшок і яго жонка ведалі некепска нямецкую мову. Яго жонка варыла нам смачную ежу, муж вадзіў у лес немцаў на паляванне.

Немцы за гэты час застрэлілі два алені. Мяса яны аставілі гаспадарам, а жонка Драбшока ачысціла ім ад мяса і выварыла рогі аленяў і яны іх забралі з сабой у Заходні Берлін. Я **30 верасня** вечарам цягнікам вярнуўся дамоў.

**1 кастрычніка** ў Варшаве пачаўся IX Міжнародны Конкурс піяністаў ім Ф. Шапена і 20 кастрычніка Станіслаў Бунін з СССР заняў у конкурсе першае месца.

**1 кастрычніка** ад налёта ізраільскіх самалётаў на штаб-кватэру Арганізацыі вызвалення Палестыны ў Тунісе згінула 60 людзей, а 70 было параненых.

**3 кастрычніка** у ЗША стартаваў 21 раз (STS-51J) па праграме Спейс Шатл. Пачаўся 1-шы палёт шатла „Атлантык" з касманаўтамі Кэролам Бабко, Роналдам Грэйбам, Робертам Сцюартам, Дэвідам Хілмерсам і Уільямам Пейлсам. Былі яны ў космасе 4 суткі і 1 гадзіну.

**3 кастрычніка** ад налёта ізраільскіх самалётаў на кватэру Ясіра Арафата ў Тунісе згінула 76 асоб.

**5 кастрычніка** згінула ад замаху ў Егіпце 7 і ў Тунісе 5 ізраільскіх турыстаў.

**13 кастрычніка** прайшлі ў Польшчы выбары ў Сейм.

**29 кастрычніка** ўлады ў Польшчы аб'явілі амністыю.

**30 кастрычніка** ў ЗША стартаваў 22 (STS-61A) па праграме Спейсл Шатл і наступіў 9 палёт шатла „Чэленджэра" з касманаўта-

мі Генрым Хартстлдам, Стэвенам Нейджэлам, Боні Данбарам, Джэймсам Баклім, Гійонам Блуфордам, Эрнстам Месершмідтам з ФРГ, Райнхардам Фурэрам з ФРГ і Вюба Акеле з Нідэрландаў. Былі яны ў космасе 7 сутак.

**1 лістапада** ўлады ў Польшчы ліквідавалі ў дзяржаве регламентацыю цукру.

**5 лістапада** Збігнеў Рэліга першы раз правёў у Польшчы аперацыю па перасадцы сэрца.

**6 лістапада** ў Польшчы ген. В. Ярузельскі перастаў быць прэм’ерам Рады міністраў, а стаў старшынёй Рады Дзяржавы.

**7 лістапада** ў Багоце ў Калумбіі згінула больш чым 100 асоб ад атаку калумбійскай арміі на Палац справядлівясці захоплены партызанамі з групы М-19.

**12 лістапада** Збігнеў Меснер стаў прэм’ерам Рады міністраў Польшчы.

**13 лістапада** ад выбуху вулкана Невадо дэ ла Руіс у Калумбіі згінула больш чым 23 тысячы людзей з блізкага ля вулкана горада Армера і з шасці мясцовасцей, якія ляжаць блізка вулкана.

**19 лістапада** ў Жэневе першы раз сустрэліся прэзідэнт ЗША Р. Рэйган з генеральным сакратаром ЦК КПСС М. Гарбачовым.

**23 лістапада** група тэрарыстаў з іх кіраўнікам Абу Нідалем захапіла егіпецкі самалёт на маршруце Афіны – Каір. Яго пасадзіді ў Мальце і 24 лістапада амаль 60 заложнікаў згінула ад выбуху пры штурме гэтага самалёта атрадам егіпецкіх камандосаў.

**26 лістапада** у ЗША стартаваў у космас (STS-61B) па праграме Спайс Шатл і паляцеў 2-гі шатл „Атлантык” з касманаўтамі Брустэрам Шоу, Брайанам О’Конарам, Мэры Клівам, Шэрвудам Спрынгам, Джэры Росам, мексіканцам Рудольфа Неры Вела і Чарлзам Уокерам. Былі яны ў космасе 6 сутак і 21 гадзіну.

**У лістападзе** атрымаў я новы білет гіда замежных экскурсій.

**4 снежня** выйшаў у рэйс першы савецкі авіяносец „Адмірал Кузнецоў”.

**4 снежня** Войцех Ярузельскі выехаў з візітам ва Францыю.

**12 снежня** ездзіў я з многімі працаўнікамі «Энергапраекта» службовай машынай на электрастанцыю Белхатаў на сінхранізацыю 7-га блока на буры вугаль магутнасці 380 мегаватаў. Гатовіўся ўжо 8-мы блок да сінхранізацыі.

**12 снежня** ў катастрофе рэйсавага самалёта Дугласа ДЦ-8 лініі Ароў Эа 1285 паблізу Гандэры, Ньюфаундленд, згінула 256 асоб, з якіх 248 былі амерыканскімі міратворцамі вяртаючыміся пасля місіі на Сінайскім паўвостраве.

**20 снежня** пад грузавой аўтамашынай браты Зялінскія ўцяклі з Польшчы ў Істадт на поўдні Швецыі. Пасля аб іх паставілі фільм „300 міль да неба".

**22 снежня** ад выбуху метана ў шахце каменнага вугля ў Валбжыху згінула 18 шахцёраў.

**27 снежн**я тэрарыстычная група Абу Нідаля пачала страляць да пасажыраў у аэрапартах Рыма і Вены. Згінула 18 асоб, а 120 было параненых.

**30 снежня** на здымках, якія прыслаў касмічны карабель Ваяжэр 2, знайшлі новы месяц планеты Урана, які назвалі Пук.

**29 снежня** ў Польшчы павялічылі цэны на цыгарэты і запалкі.

**30 снежня** Грэнландыя пакінула Еўрасаюз.

# 1986

Яшчэ ў снежні 1985 г. варшаўскае Бюро праектаў „Энергапраект" на просьбу Бюро праектавання і камплектацыі паставак энергетычных аб'ектаў „Мегадэкс" у Варшаве, якое знаходзілася на вул. Міцкевіча 63, вызначыла мяне на гадавы кантракт пры наглядзе праектаў электрычнай часткі электрастанцыі Бакара ў Індыі. Меў я замяніць мгр. інж. Збігнева Чарнэцкага, якога кантракт кончыўся ў канцы сакавіка 1986 г. Польскія прадпрыемствы будавалі ў Электрастанцыі Бакара два энергетычныя блокі (катлы-турбіны-генератары з іншым машынным абсталяваннем) магутнасцю па 65 мегават. Гэта самае рабілі ў другой электрастанцыі Індыі, якая ляжыць бліжэй ля Калькуты, Дургапур. „Мегадэкс" выслаў мяне на медычнае абследаванне, ці я магу працаваць у трапічным клімаце. Медычны агляд выказаў, што магу. „Мегадэкс" скіраваў тады мяне на курс бяспекі і гігіены працы ў лютым, таму што ў студзені лекар „Энергапраекта" скіраваў мяне ў санаторый у Паляньчыку на поўдні Польшчы.

**У снежні 1985 г.** я прыгатовіў да друку два мае зборнікі вершаў „Маё Падляшша" і «Эцюды падарожжа» і завёз іх у Беласток у БГКТ.

Прыняў іх ад мяне Кастусь Майсеня, паклаў іх на полку і яны праляжалі там праз амаль тры гады майго знаходжання ў Індыі.

А я **2 студзеня** ранкам паехаў спальным цягнікам у Загужа, дзе чакаў аўтобус з Паляньчыка людзей, якія прыехалі цягнікам на лячэнне ў санаторый „Энергетык" і завёз нас у санаторый.

На цэнтральным вакзале ў Варшаве хацелі мяне акрасці. Калі я ўваходзіў у спальны вагон, то ў калідоры вагона зладзеі зрабілі штучную таўкатню. Адзін з іх раптам адвярнуўся перада мною да мяне тварам і затрымаўся, а другі ззаду націскаў і рукою прабаваў выцягнуць мой партфель з маёй задняй кішэні. Я пачуў гэта, кінуў багаж і схапіў яго за руку. Тады той, што стаяў спераду адвярнуўся і прапусціў мяне наперад. Відаць, што злодзей ззаду даў вачамі знак злодзею спераду, што кража была няўдалай і ён мяне прапусціў у купэ. І я тады ўвайшоў у свае купэ вагона. Пасля кандуктар хадзіў і пытаў, ці каго з нас не абкралі, бо хадзілі злодзеі. У партфелі я не меў грошай, аднак меў пашпарт і дакументы ў санаторый.

У санаторыі я атрымаў двухмесны прыгожы пакой нумар 321 з ванным пакоем, туалетам і пярэднім пакоем з дзвюма шафамі. Са мной быў курортнік, годам старэйшы за мяне, са Скаржыска-Каменнага. У пакоі быў балкон ды зімой ён быў непрыгодны. Навокал санаторыя было многа снегу. У пакоі быў радыёапарат, а два тэлевізары былі ў залах санаторыя. Адзін тэлевізар быў у зале за нашымі дзвярыма.

У санаторыі я меў тры працэдуры: у няпарныя дні гімнастыку і дыятэрмію кароткімі электрахвалямі пазваночніка, а ў парныя дні дыятэрмію ўльтрагукавымі хвалямі правай стапы нагі, каб разбіць „шпоры" на пяце. У нядзелю не было працэдур. У суботу вечарам рабілі танцы пад музыку з гучнагаварыцеля. Арганізавалі экскурсіі пехатой, а аўтобусам на плаціну гідраэлектрастанцыі на Саліне. Калі стварылі штучнае возера Саліну, то вадой ракі Сан залілі некалькі вёсак і нейкі палац.

Са старых вёсак лэмкаў тады польскія ўлады не пакінулі ні адной. Усіх лэмкаў выгналі у 1947 г. у час так званай Акцыі „Вісла" на захад і на тэрыторыю былой Усходняй Прусіі. Усе праваслаўныя цэрквы замянілі на рымскакаталіцкія касцёлы. У Паляньчыку праваслаўную царкву св. Параскевы ў 1948 г. замянілі на касцёл пад назвай Святці-

лішча Марыі Божай Прыгожага Кахання. Яшчэ ў 1986 г купал быў стары, перарабілі толькі крыж на купале. Аставілі аднак тады яшчэ месяц пад крыжам. А цяпер я паглядзеў у інтэрнэце на новы здымак былой царквы, то яе выгляд зусім знявечылі. Менш звонку змянілі царкву св. Георгія ў суседніх Мычкоўцах, якую перарабілі на касцёл у гонар Маці Божай Чанстахоўскай.

Бойкі былі ўніятамі і паходжанне іх праўдападобна румынскае ці кельцкае, ды прынялі яны рускую мову. Жылі яны на ўсход ад Паляньчыка. Быццам бы суседзі назвалі іх бойкамі таму, што, калі гналі овечак на пашу, пакрыківалі: «бой, бой». Яны самі сябе называлі *гырнакамі*, або *верхавыньцамі*. Іх таксама ўсіх тады выселілі пры Акцыі „Вісла" на захад. На ўсход ад бойкаў, тады ўжо на тэрыторыі УССР, а цяпер на Украіне, жыве яшчэ народ рускага паходжаня, гуцулы.

Білет з Загужа да Варшавы ў спальным вагоне купілі мне ў „Орбісе" ў Саноку і **25 студзеня** ранкам у 8 гадзін я вярнуўся з Загужа ў Варшаву.

Цяпер не ведаю на што замянілі будынак санаторыя , бо ў інтэрнэце я не мог знайсці санаторыя „Энергетык" у Паляньчыку.

Пасля медычных абследаванняў лекар даў мне рэцэпт на лекі супраць малярыі. Пачаткова я іх там прымаў, аднак там даведаўся, што камары ў Бакара не заражаны малярыяй і перастаў іх глытаць. Ніхто з палякаў, што працавалі ў Бакара, не захварэлі на малярыю. Аднак у Калькуце нейкія людзі хварэлі на гэту хваробу.

**Ад 12 да 14 лютага** хадзіў я на курс бяспекі і гігіены працы, пасля на іспытах з яго атрымаў я ацэнку добрую і «Мегадэкс» падпісаў са мной кантракт на працу ў Індыі да 13 сакавіка 1987 г. і з Электрыму-у ў Варшаве я атрымаў білет на самалёт у Маскву на **11 сакавіка** і з Масквы ў Калькуту на **12 сакавіка** і чакаў вылету.

**9 студзеня** ў Гданьску знайшлі і арыштавалі Багдана Барусевіча, якому ўдавалася 4 гады скрывацца ад польскай міліцыі.

**11 студзеня** Ежы Кукучка і Кшыштаф Вяліцкі першы раз увайшлі зімой на вяршыню 8–тысячніка Канчэндзонга ў Індыі ў Гімалаях (8598 м).

**12 студзеня** наступіў у ЗША 24 старт (STS-61C) па праграме Спейс Шатл і 7-ы палёт у космас шатла „Калумбія" з касманаўтамі Робертам Гібсонам, Чарльдзам Болдэнам, карсіканцам амерыканскага гра-

мадзянства Франклінам Чанг-Дыазам, Стывенам Хауэлі, Джорджам Нельсанам, Робертам Сенкерам і Уільямам Нельсанам. Вярнуліся яны на Зямлю 18 студзеня.

**14 студзеня** амерыканскі зонд „Ваяджэр-2” абляцеў навокал планету Уран і зрабіў здымкі трох яе месяцаў, якіх назвалі Белінда, Дэздэмона і Разалінда.

**16 студзеня** адкрылі ў Варшаве Сусветны кангрэс інтэлектуалаў у абароне мірнай будучыні свету.

**18 студзеня** ў катастрофе самалёта Sud Avation Caravelle ў Гватэмалі згінула 87 асоб.

**20 студзеня** на здымках, якія прыслаў амерыканскі зонд „Ваяджэр-2”, выкрылі чацвёрты месяц планеты Уран, які назвалі Кардэліяй, а 23 студзеня знайшлі яшчэ пяты месяц, які назвалі Бланкай.

**21 студзеня** ад выбуху аўтамашыны-пасткі ва ўсходнім Бейруце згінула 30 асоб, а 132 асобы былі ранены.

**28 студзеня** ў ЗША наступіў 25 старт (STS-51L) па праграме Спейс Шатл і 10-ы палёт шатла „Чэленджэр” з касманаўтамі Франкісам Скобім, Майклам Смітам, Джудыт Рэзнік, Элісонам Анідзукам, Роналдам МакНэйрам, Грэгорым Джарвісам і Крыстам МакАліфам. На 73 секундзе палёта наступіў выбух „Чэленджэра”. Усе 7 касманаўтаў згінулі.

**31 студзеня** папа рымскі Ян Павел II паляцеў у сваё 29 падарожжа ў Індыю. Вярнуўся ў Ватыкан 11 лютага.

**1 лютага** ўвялі ў Польшчы эксперыментальна ў трох ваяводствах вольны прадаж мяса і прадуктаў перапрацоўкі з мяса. Попыт быў большы чым прапанова. Тады аднак забаронена было у шынкі, кумпякі і каўбасы пад ціскам уліваць ваду з канцэрагеннымі кансервантамі, як гэта робяць афіцыйна сёння. Сёння з аднаго кілаграма чыстай шынкі ці кумпяка пасля перапрацоўкі атрымоўваюць больш як 2 кг.

**16 лютага** ў заліве Порт Гор ля Новай Зеландыі затануў савецкі лайнер цеплаход «Міхаіл Лермантаў», які меў 408 пасажыраў і 330 членаў экіпажа. Пасажыраў і членаў экіпажа выратавалі.

**17 лютага** павысілі ў Польшчы цэны на газеты да 2 зл. за экземпляр.

**18 лютага** Барыса Ельцына выбралі кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС. З Палітбюро вывелі В. Грышына.

**19 лютага** ў СССР вынеслі на арбіту ў космас першы модул савецкай арбітнай станцыі „Мір”.

**19 лютага** іранскае войска захапіла ў Іраку порт Фао з нафтавымі тэрміналамі і ўвяло кантроль над ўваходам да ракі Шатл-эл-Араб.

**25 лютага** ў Маскве адкрыўся XXVII З’езд КПСС, які закончыўся 7 сакавіка. Ён зацвердзіў новую рэдакцыю Праграмы КПСС і „Асноўныя напрамкі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986-90 гады і на перыяд да 2000 года”.

**28 лютага** ў Стакгольме нехта застрэліў на вуліцы шведскага прэм’ер-міністра Улофа Пальме, калі ён вяртаўся з кінатэатра дамоў.

**6 сакавіка** савецкі зонд „Вега1” праляцеў блізка каметы Галея , зрабіў здымкі і пераслаў іх на Зямлю.

**7 сакавіка** на дне Атлантычнага акіяна знайшлі кабіну „Чэленджэра” з 7 мёртвымі целамі амерыканскіх касманаўтаў.

**8 сакавіка** японскі зонд «Suisei” зрабіў здымкі ў ультрафіялетавым спектры каметы Галея і выслаў іх на Зямлю.

**10 сакавіка** прыехала да мяне з унукамі з Беластока мая дачка Ірэна і 11 сакавіка разам з імі, маім сынам Георгіем і маёй жонкай Нінай адвялі мяне на Варшаўскі аэрадром, адкуль я разам з працаўнікам „Энергапраекта” Лешкам Юргасем адляцелі праз Маскву ў Калькуту ў Індыю. Адляцелі мы недзе пасля 11 гадзіны ранкам, у Маскве былі па маскоўскаму часу недзе каля гадзіны 13-ай і там трэба было чакаць да поўначы другога савецкага самалёта ў Калькуту. Я меў многа вольнага часу. Пазваніў па тэлефону знаёмым, выйшаў з аэрадрома і даехаў да метро, і цягніком метро дабраўся да Крамля, паглядзеў мне ўжо знаёмыя месцы і вярнуўся зноў на аэрадром Шарамецьева. А 12 гадзіне ночы тамажнікі прасветлілі наш багаж, пагранічнікі праглядзелі нашы пашпарты і дакументы, і ноччу селі мы ў самалёт, дзе сцюардэсы далі нам вячэру. На тры гадзіны я заснуў на сядзенні і прачнуўся над Індыйскім акіянам. Пагода была сонечная, і праз акно самалёта відна была сінь акіяна. І дзесь каля 10-ай гадзіны нам аб’явілі, што затрымаемся на кароткі час у Бамбеі. Калі самалёт рабіў круг над аэрадромам у Бамбеі, то праз акно самалёта я ўбачыў

паблізу дзіўны індускі пасёлак з мазанак. Самалёт прызямліўся і мы на амаль гадзіну маглі выйсці праз рукаў самалёта да індыйскага будынка з ларкамі. Там можна было купіць розныя тавары за валюту, ды мы нічога не патрабавалі. Савецкія пасажыры нешта куплялі. Калі ўвайшлі мы ізноў у самалёт, то сцюардэсы далі нам снеданне з індыйскіх прадуктаў узятых у Бамбеі.

Праз дзве гадзіны даляцелі мы да аэрадрома ў Калькуце. На аэрадроме мы забралі свой багаж і вынеслі яго на двор, бо ў нас не праглядваў ніхго ні дакументаў, ні багажа. Звонку поўна было рыкшаў, ручных і матаровых, вадзіцелі якіх пыталіся куды нас завезці. Ды сустрэў нас прадстаўнік польскага „Электрыма", які машынай завёз нас у гасцініцу. Па дарозе аглядалі мы поўна бедных абдзёртых індусаў, якія цягнулі, як коні, сідзячых на рыкшах людзей. Ноччу праз акно гасцініцы бачылі мы, як бедныя індусы, мужчыны, жанчыны і дзеці, спяць і кахаюцца на вачах іншых на вуліцы за акном. У гасцініцы многія яе працаўнікі спалі на падлозе ў калідорах на матарацах.

У гасцініцы атрымалі мы абед, вячэру і **13 сакавіка** рана снеданне на кошт „Электрыму". Пасля снедання з'явіўся польскі прадстаўнік з электрастанцыі Бакара і завёз нас на чыгуначны вакзал у Калькуце, і цягніком паехалі мы з ім у Дхамбад, а адтуль машынаю ў Бакара. Калі ехалі мы цягніком, то на кожнай станцыі ўбягалі ў вагон індускія прадаўцы з розным таварам і заахвочвалі, каб яго купіць.

У Бакара завезлі нас у выдзелены пасёлак з чырвоных цагляных будынкаў пабудаваных даўно для савецкіх спецыялістаў, якія тут жылі ў многіх будынках. Яны паставілі ў элекрастанцыі Бакара 6 блокаў па 25 мегаватаў і эксплуатавалі іх. Домікі стаялі між пальмамі, папаямі і іншымі трапічнымі дрэвамі. Домікі былі двухпавярховыя і кожны меў на першым і на другім паверсе па дзве кватэры. Укожнай кватэры была кухня, з кухоннай электрычнай печкай, шафай і ўмывальнікам, пярэднім вялікім пакоем з шафамі на адзенне, бібліятэчкай са сталом, мяккімі фатэлямі і крэсламі, ванны пакой з умывальнікам, туалетам і душам з цёплай вадой і два спальныя пакоі з кандыцыянерамі, якія ўвесь час працавалі і ахаладжвалі паветра. У кожным спальным пакоі быў вялікі ложак з маскітнаю сеткай супраць камароў. У пярэднім пакоі былі вялікія вокны з сеткамі на адной сцяне і на другой супрацьлеглай. На плоскім даху дома стая-

лі два вялікія бакі з халоднай вадой, якая сцякала да пакояў і якую помпы ўвесь час далівалі да бакаў з глыбіні зямлі. На даху былі крэслы і там можна было загараць на сонцы. У кожнай кватэры магло жыць толькі два чалавекі, і я доўгі час жыў у ёй адзін.

Рускія спецыялісты мелі амбулаторыю з лекарам і двумя санітаркамі, якія прымалі таксама і палякаў, хворым выпісвалі лекі і давалі звальненне ад працы. Рускія мелі водны басейн, дзе дазвалялі купацца польскім працаўнікам, аднак для гэтага трэба было мець згоду лекара. Калі я першы раз прыйшой па дазвол да лекара, ён мне не даў, бо ў мяне тады быў вялікі ціск крыві. Калі ў мяне ціск крыві ўнармалізаваўся, я атрымаў дазвол купацца ў басейне.

У рускіх была вялікая святліца з вялікім тэлевізарам, які ад савецкага спутніка атрымліваў тэлепраграму з Масквы. Я ведаючы добра рускую мову, амаль кожны дзень хадзіў туды аглядаць савецкае тэлебачанне. Палякі ўключалі над сталовай індускае тэлебачанне і часта пазычалі ў горадзе Час касеты з парнаграфічнымі фільмамі і іх там аглядалі.

У рускіх у клубе была сцэна і рускія часта запрашалі на суботу і нядзелю індускіх артыстаў, каб тыя выступалі перад працаўнікамі. Іх аглядалі тады таксама і польскія працаўнікі. Часам нейкія іхнія працаўнікі выступалі з песнямі, запрашалі палякаў, каб заспявалі, ды ніхто не адважыўся выйсці с песнямі на сцэну, хаця, як выпілі многа гарэлкі, то чуць было іх спевы паміж дамамі. Часта ў гэтай зале на экране паказвалі савецкія фільмы.

Адзін наш дом быў заняты на сталоўку, дзе нанятыя індусы гатовілі нам снеданні, абеды і вячэры, аднак за іх трэба было плаціць індыйскімі рупіямі. Я толькі хадзіў на абеды, даволі смачныя. Снеданні і вячэры я рабіў сабе сам. За электрычную энергію нам не трэба было плаціць.

Паблізу нашага пасёлка быў індускі базар і ўсё там можна было купіць з ежы. Сырой вады я баяўся там піць. Я яе кіпяціў і наліваў у бутэлькі і толькі такую піў.

Часта нейкія нашы працаўнікі з цукру гналі самагон. Самі прыгатовілі апарат да прадукцыі самагону і перадавалі яго адзін другому, ды самагон гэты смярдзеў дымам. І многія палякі яго пілі. А ў продажы там алкаголю было многа, ды быў дарагі.

Метраў 100 ад нашага пасёлка быў невялікі каталіцкі касцёл, дзе ў нядзелю ранкам было набажэнства на індускай мове. Нейкія польскія працаўнікі туды хадзілі.

У пакоях па столі бегалі зялёныя яшчаркі, якія з'ядалі камароў. Я пачаткова пробаваў іх лавіць і выкідваць, а пасля перастаў. Яны былі няшкодныя. Камароў вельмі было многа, асабліва ў час мусона, ды як я ўжо пісаў, яны не былі заражаны малярыяй, таму перастаў я прымаць лекі супраць малярыі.

Бакара ляжыць ў паўночнай частцы Індыі ў штаце Біхар і таму-у там халадней, чым на поўдні Індыі, ды самая нізкуя тэмпература, якую я там сустрэў была каля 25 снежня, гэта +16 °C. Дрэвы там былі вечна-зелёныя. У маі сустрэў я тэмпературу вышэй 52 °C.

На працу на электрастанцыю вазілі нас аўтобусам, які меў кандыцыянер. Калі мы ехалі па дарозе на электрастанцыю, бачылі гурты худых кароў, якімі ніхто не апекаваўся. Бачыў, як яны збіралі і елі каляровыя папяровыя лістоўкі, якія раскідвалі часта па дарозе прафсаюзныя працаўнікі. На дрэвах сядзела многа вялікіх каршуноў і калі прыкмецілі яны нежывую карову, наляталі на яе і праз 15 мінут аставаліся з яе адны косці, якія аб'ядалі мурашкі і іншыя насякомыя. Ды калі на дарозе ляжала жывая карова, яе ніхто праганяў з дарогі, а яе аб'язджалі ці чакалі аж сама ўстане і сыдзе з дарогі.

Сяляне там гадавалі не кароў, а вялікіх чорных буйвалаў. Іх ў рэчцы мылі, у іх самак даілі малако і прадавалі палякам.

Амаль усе члены аховы перад уваходам на тэрыторыю электрастанцыі былі сікхамі, якія насілі турбаны на галаве і мелі пры сабе зброю.

У электрастанцыі быў пакой з туалетам, умывальнікам, сталамі і крэсламі дзе я працаваў, калі трэба было рабіў нейкія папраўкі ў электрычным праекце „Энергапраекта". У сакавіку яшчэ не было высокай тэмпературы звонку і надвор'е было вельмі прыемнае. Да канца сакавіка працаваў яшчэ са мной сябра з „Энергапраекта" З. Чарнэцкі, які паказаў мне ўсю электрастанцыю і ўсё што трэба было мне рабіць, і пад канец сакавіка вярнуўся ў Варшаву. Кіраваў ўсімі польскімі працаўнікамі праз увесь час кіраўнік з «Мегадэксу, вельмі сімпатычны інжынер.

З індусамі дагаворваўся я, як і іншыя нашы працаўнікі, толькі на англійскай мове. Індускі тэхнічны персанал ведаў англійскую мову добра, іншыя гаварылі з нейкім індускім акцэнтам, аднак сумеў я з імі дагаварыцца.

**13 сакавіка**, калі я быў ужо ў Індыі, СССР запусціў у космас пілатаваны касмічны карабель Саюз Т-15 з касманаўтамі Л.Козіным і У. Салаўёвым. Даляцелі яны першы раз да новай арбітальнай станцыі „Мір" і там былі да 4 мая і пераляцелі 5 мая на Саюзе Т-15 на арбітальную станцыю „Салют 7, там выходзілі два разы ў адкрыты космас, станцыю закансервавалі і 25 чэрвеня яе апусцілі, і на Саюзе Т-15 пераляцелі зноў на арбітальную станцыю „Мір", на якой былі да 16 ліпеня і Саюзам Т-15 вярнуліся на Зямлю.

**16 сакавіка** ў Польшчы павысілі цэны на хлеб, кашу, малако, масла, цукар і алкаголь.

**24 сакавіка** пасля абстрэлу ў Лівіі ракетамі зямля-паветра амерыканскіх самалётаў, амерыканскія самалёты бамбілі лівійскае ракетнае абсталяванне і лівійскія ваенныя караблі ў Заліве Вялікай Сырты.

**31 сакавіка** ў авіякатастрофе ў Мексіцы Боінга 727 кампаніі Мексікана, які разбіўся ў Маравітыа, згінула 167 асоб.

**31 сакавіка** прэзідэнт ЗША Р Рэйган выдаў загад пастаўляць ў Афганістан для моджахедзінаў ракеты ПЗРК „Стынгеры" зямля-паветра супраць савецкіх самалётаў.

**5 красавіка** ад бомбы лівійскіх агентаў у Заходнім Берліне згінулі тры асобы і ў тым ліку 2 амерыканскіх салдат, а 250 асоб было параненых. За гэта амерыканскія самалёты 15 сакавіка бамбілі сталіцу Лівіі Трыполі і горад Бенгазі, дзе забілі прыёмную дачку Кадафі і 40 грамадзян Лівіі ды паранілі 226 асоб.

**13 красавіка** папа рымскі Ян Павел ІІ, як першы рымскі папа, наведаў жыдоўскую сінагогу ў Рыме.

**14 красавіка** ў раёне Гапалгандж у Бангладэшы ад граду, якога градзіны важылі каля 1кг, згінула 92 асобы.

**26 красавіка** на Чарнобыльскай АЭС на Украіне у час выпрабавання па загаду Масквы 4-га энергаблока пры выключаных ахоўвах блока, атамны рэактар перагрэўся і наступіў выбух, які разбурыў рэактар. Выбух часткова разбурыў будынак, пры якім згінуў аператар галоўнай цыркуляцыйнай помпы Валеры Хадэмчук і другі пра-

цаўнік Уладзімір Шашэнак. На даху пачаўся пажар. Выбух выкінуў у паветра радыёактыўныя рэчывы, як ізатопы ўрана, плутонія, ёда-131, цэзія-134, цэзія-137 і стронцыя-90. Многія з іх даляцелі да Беластока і нават да Швецыі. Тады ў Індыі падняўся шум, я чытаў аб аварыі ў англамоўных газетах. Найгорш ад яе пацярпела Беларусь, з тэрыторыі якой трэба было выселіць многа людзей.

**28 красавіка** ранкам мы даведаліся, што ноччу ў электрастанцыі Бакара быў непрыемны пажар у кабельнай. Згарэла многа кабеляў, абгарэлі сцены і вышэй кабельнай згарэў польскі пульт кіравання блокам 65 мегаватаў. Бо агонь па кабелях перайшоў да пульта кіравання. Праўдападобна зрабіў гэты пажар нейкі індус, каб не страціць працы.

Дырэкцыя электрастанцыі, каб паскорыць адбудову згарэлай часткі электрастанцыі, набрала на працу многа індускіх жанчын у сары, якія на дошках на галовах пяшком насілі ў місках цэмент і цэглу на трэці паверх электрастанцыі. Ішлі па чарзе адна за адной з грузам наверх і пасля ў чарзе вярталіся назад без грузу, толькі з дошкай на галаве, набіралі груз і зноў ішлі наверх. Аб працы жанчын у Індыі я напісаў верш „Карусель", які увайшоў у зборнік вершаў „Эцюды падарожжа". Першая страфа верша гучыць:

*Абвітыя ў сары ідуць, як мурашкі,*
*Адна за адной па чарзе.*
*Замест капялюша – з цэментам таз цяжкі*
*На кожнай стаіць галаве.*

Для мяне таксама прыбавілася праектнай працы і таму замест год, я працаваў там больш як два з паловай года. Частку праектнай працы дырэкцыя электрастанцыі даручыла індыйскаму праектнаму бюро ў горадзе Кота і каб ім памагчы, **13 мая** да іх на тры тыдні скіравалі мяне з сябром з «Энергапраекта» з Лодзі З. Сакалоўскім. Каб хутчэй да іх даехаць, купілі нам авіябілеты на самалёт з горада Ранчы ў Дэлі. Пад вечар завезлі нас у гасцініцу ў Ранчы. Горад знаходзіцца на поўдні ад Бакара. Там далі нам вячэру, а ранкам снеданне і завезлі нас на аэрадром.

На аэрадроме ў Ранчы чакалі мы амаль дзве гадзіны самалёта з Дэлі, які нас забраў у сталіцу Індыі. Там вечарам атрымалі мы месцы

ў спальным вагоне з кандыцыянерам у цягніку ў Коту. Ранкам мы прыехалі ў Коту і атрымалі месцы ў гасцініцы ў пакоях з кандыцыянерамі. Там тры тыдні хадзілі мы ў ідыйскае праектнае бюро і памагалі ім праектаваць аўтаматыку для электрастанцыі Бакара. Кота ляжыць у заходне-паўночнай частцы Індыі ў штаце Раджастан. Горад славіцца хімічнай прамысловасцю, Праплывае там шырокая рака Чамбал. Аглядзелі мы там стары індыйскі форт збудаваны ў 12 стагоддзі і гарадскі палац з 16 стагоддзя, а ў ім два цікавыя музеі з ідыйскай старой зброяй і карцінамі. Цікавы быў мангавы сад з трапічнымі раслінамі і прыгожымі пальмамі. Звонку аглядзелі мы чырвоны і белы палац, бо ўнутры тады яго аглядзець нам не дазволілі.

**6 чэрвеня** завезлі нас на малы аэрадром ў Коце і невялікім пасажырскім самалётам на 30 асоб мы даляцелі ў Дэлі і там затрымаліся ў гасцініы ў пакоях з кандыцыянерамі, каб наступнага дня паляцець другім самалётам у Ранчы, дзе чакала нас машына з Бакара.

**21 мая** СССР выпусціў у космас беспілотны касмічны карабель ТМ-1, для апрацоўкі сістэм карабля новай сістэмы беспілотных караблёў. 30 мая ён прызямліўся.

**26 мая** ў Бангладэшы на рацэ Медха перавярнуўся двухпалубны паром Шамя. Згінула 600 людзей.

**31 мая** ў Мексіцы пачаўся Чэмпіянат свету па футболу. Кончыўся ён 29 чэрвеня. Першае месца заняла Аргенціна, другое – ФРГ.

**30 чэрвеня** задоўжанасць Польшчы дасягнула 31,2 мільярда долараў.

**Пад канец чэрвеня** па просьбе дырэкцыі Электрастанцыі Бакара, „Мегадэкс" у Варшаве пачаў высылаць да нас з Польшы многа розных спецыялістаў, каб памагчы  індусам адбудаваць спаленую ў пажары збудаваную частку блока 65 мегаватаў. І пачалі запаўняць кватэры і мне ў кватэру наш кіраўнік даў маладога 25-гадавога электрыка з-пад Жэшава, Станіслава Гуменяка, які раней працаваў ужо на будове польскай электрастанцыі „Дольная Одра". Ён стаў спаць у другім вольным пакоі ў кватэры, дзе раней я жыў адзін. На электрастанцыі ён правяраў ці згодна з праектам індыйскія манцёры замацавалі драты на розных табліцах, пультах кіравання і размеркавальных устаноўках. Я жыў з ім разам да 7 студзеня 1987 г., пакуль не прыехаў да мяне з Варшавы на тры тыдні ў госці мой сын Георгій. Тады я пера-

йшоў у другую кватэру ў іншым доме, дзе мы занялі разам цэлую кватэру на другім паверсе.

Кожны дзень ранкам пад'язджаў да нас індыйскі аўтобус з кандыцыянерам, забіраў нас і завозіў нас на працу ў Электрастанцыю, а пасля абеда прывозіў нас у нашы кватэры. Мы ішлі ў сталовую на прыгатаваны нам індускімі кухарамі абед. Пасля абеда мы мелі вольны час. Часам пасля абеда мы, два-тры чалавекі, заказвалі машыну з індыйскім шафёрам і ён вёз нас у блізкі невялікі горад, які называўся Час. Там было многа розных індускіх магазінаў. За горадам стаяў вялікі храм сікхаў. Калісь я з сябром з працы туды паехаў і сікхі нас прынялі і паказалі нам гэты храм і ўнутры і звонку і нават дазволілі мне зрабіць у іх храме здымкі. Трэба было толькі залажыць там на галаву хустку і ўзяць у рукі іх меч.

Сікхі гэта народ, у якога айчынай з'яўляецца штат Пенджаб у Індыі, на паўночным усходзе Індыі, аднак жывуць яны ў многіх дзяржавах свету, не толькі ў Індыі. Іх рэлігіяй з'яўлаецца сікхізм. Гавораць яны між сабой на пенджабскай мове урду. Сікх у перакладзе азначае вучань. Яны адракліся ад індуізму, бо верацц толькі ў аднаго Бога, аднак не захецелі прыняць ісламу і з магаметанамі часта ваявалі. Тварцом сікхізму быў іх гуру Нанак (1469-1539), які ездзіў нават у Мекку, аднак ісламу не прыняў. Сікхам можа быць кожны чалавек, які прызнае іх веру. Аднак кожны сікх не можа стрыгчы валасоў на галаве, а звівае іх і трымае пад чалмой, не можа брыць барады, а падвязвае яе да падбароддзя, мусіць мець грэбень, які прытрымвае валасы пад чалмой, сталёвую бранзалетку на руцэ і кароткія штаны як ніжнюю бялізну, і мусіць мець пры сабе меч ці кінджал, схаваны пад адзеннем. Сікхійскія жанчыны не носяць сары, як індускі, а маюць спадніцу і на галаве хустку ці нешта іншае, што прыкрые іх валасы.

Сікхі абвінавачвалі індусаў у дыскрымінацыі. Іх партыя Акалі Дал вяла агітацыю за стварэнне дзяржавы Халістана. На пачатку 80 гадоў лідэр сікхійскіх сепаратыстаў Джарнайлу Сінгху Бхідранвале са сваймі паплечнікамі захапілі ў Пенджабе Залаты храм у Амрытсары і стварылі з яго крэпасць. Як я ўжо пісаў, што ў чэрвені 1984 г. індыйская армія захапіла штурмам гэты храм і забіла многа сікхаў і Бхідра-

нвале. За гэта ў помсце сікхійскія целаахоўнікі прэм'ер-міністр Індыі Індзіры Гандзі застралілі яе ў Дэлі ў кастрычніку 1984 г.

Ды ў Бакара сікхі былі спакойныя, сачылі за ўваходам у Электрастанцыю, а ў горадзе Час многія з іх мелі магазіны, былі краўцамі і іншымі рэмеснікамі.

У той час у Маскве **ад 5 да 20 ліпеня** прайшлі спартыўныя ігры Добрай Волі.

**10 ліпеня** памёр генеральны сакратар ЦК КП В'етнама Ля Зуан і **14 ліпеня** выбралі новага сакратара ЦК КП В'етнама Чыонг Тыня.

У Польшчы **17 ліпеня** Сейм прыняў трэцюю амністыю для палітычных вязняў.

**20 ліпеня** завезлі нас ранкам у Раджырапу. Над ракой Гангам стаяла амаль 30 індускіх невялікіх каляровых храмаў прысвячаных іх розным багам і багіням. У Індыі бодьшасць насельніства прызнае рэлігію індуізм, якая паўстала ў першым стагоддзі да н.э. У іх рэлігіі амаль столькі багоў і багінь, колькі ў хрысціян святых угоднікаў. Самым голоўным богам лічаць яны Брахму (часта называюць яго Брамай), тварца сусвету, багоў і людзей. Але ён быццам бы цяпер сядзіць дзесь спакойна на небе і не цікавіцца нічым. Таму яму вельмі мала будуюць храмаў. Яго жонкай з'яўляецца багіня мудрасці і навук – Сарасваты. Усіх багоў іх і багінь яны малююць на карцінах з не менш чым дзвюма парамі рук, часам з двума або чатырма тварамі. Другім важным іхнім богам ёсць Вішну, а трэцім Шыва. Вішну мае жонку найпрыгажэйшую багіню дабрабыту Лякшмі, а жонкай Шывы з'яўляецца Парваты. Яны маюць сыноў – бога Картакію і бога Ганэша з галавой слана. Багіня Парваты можа змяняцца і мае 108 іншых імён, бывае добрай багіняй Дургай і часта змяняецца ў чорную багіню смерці Калі, якую малююць з ашыйнікам з чалавечых галоў.

У Раджырапе было сотні індускіх пілігрымаў, мужчын і жанчын. Многа жанчын у сары купалася ў рацэ. Пад гарой, на якой стаялі храмы іх багоў і багінь, было многа кіёскаў з рознымі таварамі і сталовая. Храмы багам і багіням былі невялікія, кожны з каляровым купалам і шпілем над купалам. У храме заўсёды была высокая каляровая карціна бога ці багіні і гарэлі пры ёй электрычныя лямпачкі. Толькі ля храма багіні Калі стаяла чарга індусаў, мужчын і жанчын, якія прынеслі ахвяры багіні, пераважна кветкі. Аднак адзін індус

стаяў з невялікай казой, якую прывёз у ахвяру для багіні Калі. Храм Калі быў большы, чым іншыя храмы. З ахвярамі можна было ўвайсці ў сярэдзіну храма, адкуль выходзілі іх святары ў белым адзенні. Я ўспомніў толькі аб трох багах і іх багінях, а іх ёсць сотні.

Аб Раджырапе я напісаў верш „Раджырапа", які знаходзіцца ў маім зборніку вершаў „Эцюды падарожжа". З Раджырапы прывезлі нас вечарам у Бакара на абед і на вячэру.

Да нас заходзіла часта вечарам невысокая і худзенькая полька з Каліша, якая калісь вучылася ў педагагічным інстытуце ў Маскве. Яна там выйшла замуж за індуса. Ён пасля як інжынер працаваў у электрастанцыі Бакара і жыў з ёй у Бакара. І вось летам яны паехалі да яго бацькоў дзесь ля Бенгальскага заліва. І там яна і ён захварэлі малярыяй. Прывезлі іх у бальніцу ў Бакара. Ён вытрымаў хваробу і выздаравеў, а  жонка памерла. І ўсе польскія працаўнікі ў Бакара бралі ўдзел у пахаванні яе на невялікім каталіцкім могільніку ў Бакара. Завёз нас туды наш індыйскі аўтобус. Набажэнства і пахаванне на індыйскай мове вёў індыйскі каталіцкі ксёндз. Бацькі яе з Каліша не прыехалі, былі на пахаванні толькі мы і сям'я яе мужа і яе муж. Помню, што пры канцы пахавання змачыў нас дождж. Уцяклі мы ў аўтобус. У чэрвені пачаўся мусон, там тады часта ішоў дождж.

У індусаў няма могільнікаў, бо яны паляць на кастрах ля ракі целы мёртвых, а попел кідаюць у раку. Я быў сведкам некалькі раз на вуліцы ў Часе, як неслі на насілках да кастра ля ракі мёртвае цела мужчыны ці жанчыны і за насілкамі ішлі сям'я і сваякі мёртвага мужчыны ці мёртвай жанчыны.

**1 жніўня** ў Польшчы павысілі цэны на мяса і мясныя прадукты.

**16 жніўня** ў катастрофе збітага паўстанцамі самалёта Фокер Ф-27 у Малакалі ў Судане згінула 60 асоб.

**20 жніўня** ў Эдмантоне ( ЗША, штат Аклахома) працаўнік пачтовай службы Патрык Шэрыл застрэліў 14 працаўнікоў пошты, у якой ён працаваў, 6 асоб раніў, а пасля сам сябе застрэліў.

**21 жніўня** ў Камеруне на возеры Ніос ад вуглекіслага газу, які пачаў выдзяляцца з возера, згінула 1700 асоб.

**31 жніўня** ў Цемескай бухце ў Новарасійску пасля лабавога сутыкнення з грузавым караблём у катастрофе парахода „Адмірал Нахімаў" згінулі 423 асобы.

**31 жніўня** ў Каліфорніі над Серытас самалёт Даглас ДЦ - 9 кампаніі Аэрамексікас сутыкнуўся з самалётам Піпер ПА-28. Згінулі 82 асобы (на зямлі згінула 15 асоб), а 8 асоб было параненых.

**1 верасня** дырэкцыя электрастанцыі Бакара выслала мяне на 10 дзён на кансультацыю. ў бюро праектаў у Бамбеі. Купілі мне білет на самалёт з Ранчы ў Дэлі, месца ў гасцініцы ў Дэлі, білет на самалёт з Дэлі ў Бамбей і білеты на самалёты з Бамбеі ў Дэлі і з Дэлі ў Ранчы і месца ў гасцініцы ў Дэлі на 14 верасня. Гасцініцу ў Бамбеі таксама яны аплацілі. Як калісь я ехаў у Коту, так і цяпер завезлі мяне ў гасцініцу ў Ранчы, дзе я пераначаваў і пасля самалётам паляцеў у Дэлі. З аэрадрома пры дапамозе таксі даехаў я ў гасцініцу ў Дэлі, пераначаваў там і ранкам на таксі паехаў на аэрадом у Дэлі і самалётам прыляцеў на аэрадром у Бамбей, на якім я ўжо быў, калі ляцеў з Масквы ў Калькуту. З аэрадрома ў Бамбеі наняў я таксі і даехаў у іх бюро праектаў. Адтуль мяне пасля абеда завезлі ў блізкую гасцініцу з кандыцыянерам, дзе я начаваў 10 сутак. Працы было многа, так што я прыходзіў у гасцініцу, калі ўжо цямнела на вуліцах.

Бамбей ляжыць на захадзе Індыі ў штаце Махараштры на берагу Аравійскага мора. У 16 стагоддзі панавалі тут партугальцы і яны называлі горад Бомбаін, а англічане пасля змянілі назву на Бамбей. 9 год пасля майго наведвання горада, у 1995 годзе індусы змянілі зноў назву Бамбеі на Мумбай. у гонар індуісцкай багіні Мумбы. Так горад называецца цяпер.

Гарад вельмі цікавы, як на Індыю, з шырокімі вуліцамі і ў ім ёсць многа зелені. На тэрыторыі форта знаходзяцца дзяржаўныя будынкі, банкі, цікавыя магазіны, універсітэт. А на поўнач ад форта ляжаць нецікавыя будынкі індыйскага тыпу. Уздоўж усходняга берагу выспы распалажаны склады і докі. Цікавы тут Чор-базар з рознымі таварамі.

Я жыў недалёка ад вельмі прыгожага фантана Флора на пляцы Хутома Чоук ў паўднёвай частцы горада недалёка Форта. Мала агляdaў горад днём, бо быў заняты ў праектным бюро. Вяртаючыся меў некалькі гадзін часу ў Дэлі, каб пахадзіць па сталіцы Індыі. Пабачыў шырокую вуліцу, дзе стаяць пасольствы савецкае і недалёка ад яго амерыканскае, і там зразумеў, як лёгка было ўцячы з савецкага пасольства ў амерыканскае дачцэ Сталіна Святлане Алілуевай.

**15 верасня** я зноў вярнуўся з Бамбея ў Бакара і сустрэўся з С. Гуменякам на кватэры.

А **5 верасня** ў Пакістане на аэрадроме ў Карачы пакістанскія антытэрарысты адбілі захоплены палестынскай групай Абу Нідаля самалёт Боінг-737 з 379 пасажырамі. Аднак з рук тэрарыстаў згінула 20 пасажыраў, а 120 пасажыраў было параненых.

**6 верасня** два палестынскія тэрарысты ўварваліся ў Стамбулее ў Турцыі ў сінагогу „Неве Шалон" і застралілі ў ёй у час шабата 22 жыдоў, а 6 асоб паранілі.

**11 верасня** ў Польшчы аб'явілі амністыю 225 актывістам апазіцыі, а **14 верасня** павысілі на 15% цэны алкаголю. У чыгуначнай катастрофе ў Лохаве згінула 2 пасажыры, а 7 было параненых.

**17 верасня** ад бомб ісламскіх тэрарыстаў гіне ў Парыжы 7 асоб, а 51 была паранена.

**29 верасня** міністрам культуры ў Польшчы стаў прафесар Аляксандр Краўчук.

**Ад 4 да 7 кастрычніка** рымскі папа Ян Павел II быў з трэцім візітам ва Францыі.

**6 кастрычніка** паблізу Злучаных Штатаў Амерыкі патанула савецкая падводная лодка з балістычнымі ракетамі К-219.

**7 кастрычніка** зрабілі нам экскурсію ў храмы джайнаў, якія знаходзяцца ля гары Парашнат. Джайнізм гэта самая старая рэлігія. Першы Вялікі Джайн паводле іх легенды жыў 23-24 тысячы год перад намі. Пасля яго жыло яшчэ 23 іх вялікіх настаўнікаў. Астатні настаўнік называўся Махавір і жыў ён у тым часе, што і Гаутанама Буда, у 6 стагоддзі н.э. Джайны маюць многа сваіх святых гор і гара Парашнат, на якую мы прыехалі, гэта адна з іх. Кіламетраў 10 ад гэтай гары джайны пабудавалі 24 вялікіх і цікавых белых храмаў са званамі ў гонар усіх іх Вялікіх Настаўнікаў.

Джайны не вераць у багоў і сцвярджаюць, што сусвет і зямля існавалі вечна і будуць вечна існаваць. Аднак вераць у пекла і рай, у якія пападае душа чалавека ці іншай жывой істоты пасля смерці. Многія з іх з'яўляюцца аскетамі і некаторыя джайны ходзяць голымі. Аднак я бачыў толькі голых мужчын, нідзе не сустрэў голай жанчыны. Манахі джайны заўсёды маюць у руках невялікую мятлу з пер'яў і калі ідуць, то замятаюць перад сваймі нагамі зямлю, каб не наступіць на нейкую

жывую казяўку ці мураша, бо гавораць, што яны таксама маюць душу і нельга іх забіць. Маюць таксама на губах завязаны паясок з густой сеткі, каб у рот не папалі і не згінулі нейкая мушка ці камар. Нельга ім забіць камара ці муху і іншую жывую істоту. Калі нехта ўваходзіць у іх храм, то мусіць абавязкова зняць з ног абутак, скураны рэмень са штаноў і іншыя скураныя прадметы і пакінуць  іх звонку храма.

Калі мы агледзелі белыя вялікія храмы джайнаў, то я са Станіславам Гуменяком і іншым адным польскім працаўнікам рашылі пайсці на гару Парашнат. Ішлі мы па дарозе праз невялікі лес, усё ўверх і ўверх, сустракалі па дарозе розныя малыя храмы джайнаў, у якія толькі заглянулі і ішлі наперад. Толькі пры самай вяршыне гары падход быў стромы. Метраў 30 ад вяршыні быў невялікі храм джайнаў са скульптурай, а пасля на самай вяршыні 1 366 м. стаяў другі храм. У ім гарэлі свечы і быццам пахаваны быў у гэтым храме 23 настаўнік джайнаў. Стаіць цяпер у ім статуя Тытрганкара. Побач сядзелі два іх святары на зямлі ў белым адзенні, з сеткамі на вуснах, трымалі ў руках мяцёлкі з пёраў.

З гары мы хутка сходзілі ўніз і калі сышлі, то іншыя польскія працаўнікі ўжо нас чакалі. Калі селі мы ў аўтобус, то я выпіў больш літра вады, адчуваў такую смагу.

**10 кастрычніка** ў землятрусе ў Сальвадары згінула 1500 асоб.

**15 кастрычніка** ў Рэйк'явіку (Ісландыя) сустрэліся прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган з савецкім сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым.

**19 кастрычніка** ў катастрофе самалёта Ту-134 у гарах Лебомба ў Паўднёвай Афрыцы згінуў прэзідэнт Мазамбіка Самора Махаль і 33 іншыя асобы, а 10 асоб было параненых.

**20 кастрычніка** ў катастрофе самалёта Ту-134 ў Куйышаве (Самара) згінула 70 асоб.

**2 лістапада** ў Іране ў гарах Загедана ў катастрофе іранскага ваеннага самалёта Ц-130 Геркулеса згінула 103 асобы.

**6 лістапада** ў катастрофе верталёта Боінг ЦГ-47 Чынук згінула 43 працаўнікоў свідравальнай платформы на Паўночным Моры і 2 лётчыкі.

**8 лістапада** адсвяткаваў я сваё 60-годдзе ў савецкім клубе, дзе яны святкавалі свята Кастрычніцкай Рэвалюцыі 1917 г. Быў прыём і танцы.

**26 лістапада** іранскі снарад, які разарваўся ў Багдадзе ў Іраку, забіў 103 асобы.

**12 снежня** ў катастрофе савецкага самалёта Ту-134А ва Усходнім Берліне згінула 70 асоб.

**19 снежня** ўлады СССР дазволілі, каб Андрэй Сахараў вярнуўся ў Маскву з Горкага.

**23 снежня** самалёт Рутан Ваяжэр першы раз абляцеў навокал Зямлі без прызямлення і без запраўкі гаручым у паветры.

**24 снежня** польскія працаўнікі ў Бакара паставілі ля нашых кватэр вялікія брызентавыя палаткі, уставілі туды сталы і крэслы і сустрэлі мы там каталіцкія Каляды.

**25 снежня** многія польскія працаўнікі Бакара ездзілі вечарам нашым індыйскім аўтобусам у індыйскі каталіцкі касцёл у горадзе Бакара на каталіцкае набажэнства на індыйскай мове на Нараджэнне Хрыстова

**25 снежня** ў катастрофе ірацкага Боінга 737 у Саудскай Аравіі ў горадзе Арар згінулі 63 асобы.

**26 снежня** першы раз выляцеў у паветра савецкі транспартны самалёт Ан-124 Руслан.

**30 снежня** ў чыгуначнай катастрофе пад Модлінам у Польшчы згінула 6 асоб, а 10 было параненых.

**31 снежня** ў Кракаве паўстаў музей фатаграфіі.

**31 снежня** ў Сан Жуан у Партарыка ў пажары гасцініцы згінула 97 асоб, а 140 было параненых.

# 1987

Новы год у Індыі з’яўляецца таксама святам. І мы разам з індусамі на Новы год не працавалі. Удзень палякі святкавалі групамі ў розных дамах: многія пілі алкаголь і закусвалі. Так што пад вечар некаторыя хадзілі падпітыя, а нават былі такія, што спявалі, як ішлі па пасёлку. Многія куплялі феерверкі ў індускіх ларках, якія стаялі паблізу нашых дамоў, іх падпальвалі і выстрэльвалі ў паветра. Адзін падпіты польскі працаўнік няўмела выстраліў феерверк і апарыў сабе рукі.

Вечарам польскія працаўнікі былі запрошаны ў савецкі клуб, дзе выступалі індускія артысты, якія спявалі індыйскія песні і танцавалі індыйскія танцы. Пасля пад гукі гучнагаварыцеля зрабілі танцы. Многія польскія працаўнікі прыйшлі ў клуб і танцавалі. Сярод са-

вецкіх працаўнікоў многа было жанчын і жонак працоўнікоў, а нават маладых прыгожых дзяўчат. Адзін з нашых польскіх працаўнікоў, малады кавалер, здаецца з-пад Любліна, нават стаў сустракацца з адной маладой і прыгожай санітаркай з Масквы. Аднак, калі савецкае кіраўніцтва даведалася аб гэтым, то выслалі яе дамоў у Маскву. Ён нейкі час з ёй перапісваўся, аднак калі вярнуўся ў Польшчу, то знайшоў жонку ў Варшаве, пераехаў да яе і стаў працаваць у ТЭЦ Жэрань.

У студзені ў нас ужо было цёпла і на працу мы ездзілі ў кашулях з кароткімі рукавамі. У сувязі з тым, што да мяне **7 студзеня** меў прыехаць у госці мой сын Георгій, мне далі новую кватэру ў іншым доме далей ад сталовай, таксама на другім паверсе, бо як я ўжо пісаў, што на кожнай кватэры магло жыць не больш, як дзве асобы. У кожнай кватэры апроч вялікага пярэдняга пакоя, кухні і купальнага пакоя з душам, умывальнікам і туалетам, было толькі два пакоі з ложкамі і з кандыцыянерамі з аднаго і другога боку купальнага пакоя.

Я ўжо раней замовіў ў Дэлі двухмесны пакой у гасцініцы „Ымка" і купіў білет на адно месца ў цягніку з Дханбада ў Дэлі і два месцы з Дэлі ў Дханбад, бо ўжо з Варшавы пачалі лятаць самалёты цераз Дубай у Дэлі. Не трэба ўжо было ляцець у Маскву і з Масквы ў Калькуту, як я ляцеў раней.

**У студзені** ў Варшаве былі моцныя маразы. Мая жонка, якая праводзіла сына на варшаўскі аэрадром, прастудзілася і пасля тыдзень хварэла.

У той час у Польшчы **1 студзеня** атрымалі гарадскія правы Джэвіца, Ельч-Лясковіцэ, Скала, Тарногруд і Залева, ды дазволілі застрэліць у пушчах 40 зуброў.

**2 студзеня** ў канфлікце ў Афрыцы між Чадам і Лівіяй у бітве за Фаду чадская армія разбіла лівійскую бронетанкавую брыгаду.

**3 студзеня** ў Абіджане ў катастрофе бразілійскага Боінга 707 лініі Варыг згінула 30 асоб.

**4 студзеня** ў чыгуначнай катастрофе ў ЗША ў штаце Мэрыленд, дзе сутыкнуліся два цягнікі, згінула 16 пасажыраў.

**6 студзеня** у Польшчы прадстаўнік улады аб'явіў, што з амністыі скарысталі 71,5 тыс. асоб і што з турмаў выпусцілі 15 тыс. вязняў.

**6 студзеня** я пасля працы даехаў на таксі ў Дханбад і сеў у цягнік да Дэлі. У цягніку сядзенні былі такія, як у самалёце, і па дарозе далі кожнаму пасажыру з кухні вячэру і ранкам снеданне. І так я даехаў

ранкам 7 студзеня да вакзала ў Дэлі. З вакзала ўзяў я маторную рыкшу і дабраўся да гасцініцы „Ымка” (Ymca) на вул. Jaj Singh, дзе атрымаў двухмесны замоўлены раней мною пакой. У цане за гасцініцу было снеданне і вячэра. З’еўшы снеданне, гадзіны праз тры паехаў я маторнай рыкшай на аэрадром.

У Дэлі акрамя таксі ездзілі маторныя і веласіпедныя рыкшы. Ехаць маторнай рыкшай было таней, чым таксі, а веласіпеднай яшчэ таней, ды ехала яна даўжэй да мэты. Калі я не спяшаўся, браў веласіпедную рыкшу. У маторнай рыкшы было два месцы для пасажыраў, а веласіпедныя рыкшы былі і з адным і з двума месцамі для пасажыраў. У Калькуце ў 1986 г. былі нават рыкшы, якія цягнулі людзі, аднак, калі я быў у Калькуце ў 1988 г., то рыкшаў ужо зусім не было, былі толькі таксі. Новыя гарадскія ўлады ліквідавалі зусім рыкшы, нават маторныя.

Калі на аэрадроме аб’явілі на англійскай мове, што прыляцеў самалёт з Варшавы, можна было ўвайсці высока на платформу і зверхуу глядзець, як уваходзяць пасажыры з самалёта ў зал аэрадрома. Я пабачыў зверху свайго сына. Ён меў толькі кантроль пашпартоў і яго хутка выпусцілі без кантролю багажу. Сын быў здзіўлены, што ён так хутка сустрэўся са мной. Перад аэрадромам знайшлі мы маторную рыкшу і з яго багажом даехалі да гасцініцы. Пасля абеду ў рэстаране я павёў сына паказаць яму горад.

Калі мы ішлі па вуліцы, сын быў вельмі збянтэжаны колькасцю жабракоў, якія сядзелі на тратуары ўздоўж кожнай вуліцы, многія былі калекамі, без рукі ці нагі. І так дабраліся мы да „Паліка Базару”, які знаходзіўся пад паркам у глыбіні зямлі. Пад паркам на плошчы амаль гектара знаходзіцца танны гандлёвы цэнтр з сотнямі розных магазінаў, дзе прадаюцца пераважна розныя тэкстыльныя тканіны, электроніка і цікавыя сувеніры. Мы хадзілі па вулічках Паліка Базару пад зямлёю і аглядалі з адной і другой стараны вулічак выстаўленыя тавары. Індускія прадаўцы запрашалі нас да сябе, ды мы нічога не куплялі, бо прыйшлі толькі паглядзець. Пакуль мы абышлі і аглядзелі ўсе магазіны страцілі тры гадзіны і калі вярнуліся ў гасцініцу, то з’елі вячэру і пайшлі спаць.

На наступны дзень пасля снедання павёз я паказаць сыну Чырвоны Форт (Red Fort), які я ўжо раз аглядаў, калі вяртаючыся з Бамбеі

затрымаўся ў Дэлі. Чырвоны Форт заснаваў шах Джахан у 1639 годзе, калі перанёс сталіцу дзяржавы з Агры. Гэта была першая цытадэль элохі Маголаў, збудаваная ў форме васьмівугольніка.

Унутры тоўстых і высокіх ад 16 да 33 метраў вышыні абарончых сцен форта збудаваных з чырвонага пясчаніка знаходзіцца комплекс будынкаў, у якіх калісь жыла сям'я шаха і амаль тры тысячы прыдворных і вяльмож. Унутры будынкаў прыгожыя калоны, сцены залаў, прыгожыя мазаікі з мармуровых пліт, дзіўныя купалы на будынках, ажурныя каваныя краты стварылі Чырвоны Форт цікавым помнікам магольскага дойлідства. На тэрыторыі Чырвонага Форта знаходзіцца цяпер некалькі музеяў, якія мы аглядзелі.

З Чырвонага Форта вярнуліся мы ў гасцініцу, з'елі абед і гатовіліся на вакзал. Паехалі мы з вакзала ў Дханбад, такім самым цягніком, якім я ехаў у Дэлі з сядзеннямі, як у самалёце, дзе нам далі вячэру, як у самалёце, а ранкам снеданне. Дзесь каля 11 гадзіны былі мы ў Дханбадзе, адкуль на таксі даехалі да маёй кватэры ў Бакара. Я выкупіў для сына абеды ў нашай сталовай і мы разам з'елі там абед.

На наступны дзень ранкам мы разам паехалі нашым аўтобусам з польскімі працаўнікамі на электрастанцыю, дзе я паказаў сыну працучыя савецкія турбіны і генератары і катлы, і два польскія непрацуючыя генератары, турбіны і катлы. Увайшлі мы на дах электрастанцыі і пабачылі зверху панараму Бакара. Сын аглядзеў пакой, дзе я працаваў, пляц, дзе працавалі індусы і індускі, якія насілі цяжары на галаве высока на трэці паверх электрастанцыі. Пасля працы разам вярнуліся мы на нашу кватэру і на абед.

**11 студзеня** ў нядзелю пайшлі мы пасля снедання з двума польскімі працаўнікамі і дачкой аднаго з іх паглядзець, як кіламетраў пяць ад нашага пасёлка за ракой мясцовыя індусы капаюць вугаль, які ляжыць плытка ў зямлі. Трэба было прайсці праз вельмі бедную індыйскую вёску, дзе сяляне жылі ў маленькіх мазанках зробленых з гліны, без шкляных акон, без дзвярэй, толькі з адтулінамі для ўвахода ў сярэдзіну і для святла. У вёсцы зрабілі мы некалькі здымкаў, нават адзін з сялянамі і падышлі пад шырокую рэчку. Над рэчкаю быў збудаваны высокі канатны мост даўжынёй матраў 50, які трэба было прайсці. Мост гойдаўся ў паветры, трэба было трымацца за

поручні. А за ракой, калі мы сышлі з маста, мы ўбачылі на прасторы 10 гектараў, як сотні мясцовых індусаў лапатамі і рукамі капалі зямлю і з-пад яе выцягвалі чорны вугаль. Збіралі яго ў мяшкі і пасля яго развозілі на веласіпедах і прадавалі мясцовым жыхарам. Ствалоў у зямлі, з якіх брудныя працаўнікі, капаючы выцягвалі вугаль, было дзесяткі. Навокал гарэлі вогнішчы, на якіх працаўнікі, капаючыя вугаль, варылі сабе ежу. Аглядзеўшы іх працу, мы праз канатны мост і праз вёску вярнуліся на абед у нашу сталовую.

Калі я працаваў у электрастанцыі, то сын выходзіў на дах нашага дома і на шэзлонгу загараў. Сонца ўжо грэла вельмі моцна. Калі я вяртаўся з працы, то пасля абеда хадзілі мы разам аглядаць іншыя пасёлкі і дамы ў якіх жылі індыйскія працаўнікі электрастанцыі. Блізка нашага пасёлка быў шпіталь і санітарны пункт, у якім працавала многа індусак, старэйшых жанчын і маладых дзяўчат. Некалькі раз кіраўнік даваў нам шафёра з машынай і мы ездзілі і аглядалі гарадок Час, яго вуліцы і магазіны. Завёз я сына таксама ў храм сікхаў, аб якім я ўжо пісаў, дзе я рабіў калісь здымкі. А 18 студзеня ў нядзелю атрымалі мы машыну і з іншымі польскімі працаўнікамі паехалі на цэлы дзень у манастыр джайнаў ля гары Парашнат, аб якім я ўжо пісаў. Цяпер мы не хадзілі на святую гару джайнаў Парашнат, а толькі дакладна аглядзелі 24 цікавыя храмы джайнаў і пад вечар вярнуліся на абед у сталовую ў Бакара.

**2 студзеня** ў Польшчы Войцех Ярузельскі паехаў у Італію і ў Ватыкан і **13 студзеня** прыняў яго на прывытнай аўдыенцыі папа рымскі Ян Павел II.

**15 студзеня** ў Жэневе зноў пачаліся савецка-амерыканскія размовы аб кантролі над узбраеннем.

**16 студзеня** ў Кітаі Чжаа Цзыян змяніў Ху Яобана на пасадзе генеральнага сакратара Камуністычнай партыі Кітая.

**22 студзеня** ў сталіцы Філіпінаў Маніі армія абстраляла дэманстрацыю сялян, якія патрабавалі аграрнай рэформы. Згінула 16 сялян.

**26 студзеня** ў Індыі дзяржаўнае свята, Дзень Рэспублікі. У гэты свабодны ад працы дзень у Бакара пайшлі мы разам з польскімі працаўнікамі на стадыён, які знаходзіцца кіламетр ад нашага пасёлка, дзе аглядалі мы спачатку парад індыйскіх салдат, а пасля танцы і спевы

розных індыйскіх ансамбляў. Вярнуліся мы на абед і пачалі гатовіцца да выезду ў Дэлі. Цяпер я купіў два білеты да Дэлі ў спальным вагоне з Бакара, каб не ехаць у Дханбад. Да вакзала даехалі мы таксі на 18 гадзіну. Спальны вагон быў тыпу савецкага. У купэ было шэсць полак да спання, па тры з кожнага боку. Нашы полкі былі пасерадзіне, з аднаго боку -- мая, з другой стараны -- сынава. Пада мною заняў полку нейкі індыйскі мужчына. Іншыя полкі былі пустыя. Цягнік паехаў і мы ляжалі на полках і праз акно глядзелі на індыйскі краявід, а пасля заснулі. У цягніку не давалі ні вячэры, ні снедання, мы елі, тое што ўзялі з сабой. І ранкам, калі мы абудзіліся і з'елі наша снеданне, індус, які спаў на ніжняй полцы, загаварыў да нас на рускай мове. Раней азываўся да нас на англійскай мове. Аказалася, што ён калісь быў студэнтам маскоўскага інстытута, які яго закончыў і цяпер працаваў інжынерам у электрастанцыі Бакара. Ён добра ведаў індуса, працаўніка электрастанцыі, які быў мужам полькі з Каліша, яб якой я пісаў, што яна памерла ад малярыю. Удзень цягнік затрымаўся на вакзале горада Варанасі. Наш знаёмы індускі інжынер сказаў нам, што цягнік будзе стаяць мінут 15 і мы разам з ім выйшлі з вагона і агледзелі вуліцы пры вакзале і індускіх пілігрымаў, якія прыехалі ў Варанасі. Горад Варанасі для індуістаў, будыстаў і джайнаў з'яўляецца святым горадам і мае такое значэнне, як для католікаў Ватыкан. І так мы даехалі пад вечар да вакзала ў Дэлі. Цягнік гэты ехаў два разы даўжэй, як цягнік з Дханбада, ды там трэба было ўсю ноч сядзець, а тут мы маглі спаць на полках. На вакзале ў Дэлі наш знаёмы індус хутка знайшоў нам таксі і мы даехалі да гасцініцы «Ымка», дзе мы атрымалі замоўлены мною раней пакой і з'елі вячэру.

На другі дзень ранкам выкупіў я ў гасцініцы для сына аўтобусную экскурсію па Дэлі з экскурсаводам. Сын добра ведае англійскую мову і ён паехаў з экскурсіяй і пабачыў горад і індускія і мусульманскія храмы ў сталіцы Індыі. Калі ён закончыў экскурсію па горадзе, то я паехаў з ім у польскае пасольства, куды я занёс паперы, якія прасіў мяне перадаць мой кіраўнік з Бакара. Прайшлі мы пасля ад польскага пасольства па шырокай і доўгай вуліцы Шанты Патх (Shanti path) у раёне Чанак'я Пуры (Chanakyapuri), пры якой стаяла польскае пасольства, а далей пасольствы СССР і ЗША і іншыя. Пасольствы СССР і ЗША стаялі амаль па-суседску. Пасля абеда ў гасцініцы па-

ехалі мы на індыйскі базар Чанды Чоўк, дзе сын пабачыў у розных дзіўных ларках скураныя і тэкстыльныя вырабы. Адтуль паехалі мы зноў у падземны Паліка Базар. Там я купіў яму выбраныя ім сувеніры, якія ён забраў у Польшчу. Вярнуліся мы ў гасцініцу, забралі яго багаж і паехалі маторнай рыкшай на аэрадром, дзе я развітаўся з сынам.  Георгій паляцеў праз Дубай у Варшаву, а я вярнуўся ў гасцініцу і на наступны дзень сеў у цягнік Дэлі-Дханбад і 29 студзеня вярнуўся ў Бакара. Хутка далі мне ў кватэру новага кватаранта. Кватаранты ў мяне пасля часта змяняліся, бо многія прыязджалі ў Бакара з Польшчы на кароткі час. Тых якія аставаліся тут доўга, было не больш як 20 асоб.

**3 лютага** польскія альпіністы Артур Гайзер і Ежы Кукучка першы раз зімой увайшлі ў Гімалаях на вяршыню Анапурну (8891 м.).

**4 лютага** ў Польшчы ў вугальнай шахце ў „Мыславіцах" ад выбуху метану згінула 17 шахцёраў.

**5 лютага** у СССР выляцеў першы раз у космас касмічны карабель Саюз ТМ-2 з касманаўтамі Ю. Раманенкам і А. Лавейкіным. 7 лютага дастыкаваліся яны да касмічнай станцыі „Мір", выходзілі некалькі раз са станцыі ў космас. А. Лавейкін у космасе быў 174 сутак, вярнуўся на зямлю ў канцы чэрвеня, а Ю. Раманенка прызямліўся 22 снежня 1987 г.

**9 лютага** першы раз пасля 1979 г. у Маскве пачаліся савецка-кітайскія размовы на тэму пагранічных канфліктаў. Размовы працягваліся да 23 лютага.

**10 лютага** ў СССР аб'явілі, што выпусцілі з турмаў і гулагаў 140 дысідэнтаў.

**10 лютага** ў Лупаа на Філіпінах салдаты забілі 17 грамадзян, у тым ліку 6 дзяцей.

**19 лютага** ЗША касавала гандлёвае эмбарга з Польшчай, якое ўвялі ў 1981 г.

**19 лютага** сакратарыят Саюза пісьменнікаў СССР касаваў пастанову аб выключэнні Барыса Пастэрнака з членаў Саюза пісьменнікаў СССР.

**20 лютага** італьянскі суд прыгаварыў Мехмета Алі Агджу на пажыццёвае зняволенне за замах на папу рымскага Яна Паўла II.

**Ад 21 да 28 лютага** ў Чэхаславакіі ў Штрбске Плеса прайшла XIII зімовая Універсіяда. Чэхаславацкія студэнты занялі першае месца. Атрымалі 17 залатых, 7 срэбных і 5 бронзавых медалёў. Другое месца занялі савецкія, а трэцяе аўстрыйскія студэнты.

**6 сакавіка** брытанскі пасажырскі паром з аўтамашынамі «Геральд оф Фры Энтэпрэз» затануў ля берагоў Бельгіі, недалёка Зебруге. Згінула 193 асобы.

**6 сакавіка** ад землятрусу ў Эквадары і Калумбіі згінула тысяча людзей.

**Ад 28 сакавіка да 1 красавіка** прыляцела з афіцыйным візітам у СССР прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчэр.

**13 красавіка** Партугалія згадзілася аддаць у 1999 г. Кітаю Макаа.

**17 красавіка** ў Шры Ланцы тамільскія тэрарысты напалі на некалькі аўтобусаў з людзьмі і забілі 127 пасажыраў.

**22 красавіка** ланкійскія самалёты нанеслі бомбавы ўдар па тамільскіх тэрарыстах. Згінула больш як 100 тэрарыстаў.

**9 мая** ў катастрофе польскага самалёта Лёт Іл-62 „Тадэвуш Касцюшка" ў варшаўскім Кабацкім Лесе згінулі 183 асобы.

**15 мая** наступіў першы запуск савецкай звերхмагутнай ракеты-насіцеля „Энергія".

**17 мая** пры выбуху іракцкай ракеты, якая памылкова трапіла ў Персідскім заліве ў карабель ЗША „Старк", згінула 37 асоб.

**28 мая** малады (19 гадоў) пілот з ФРГ Матыас Руст на малым самалёце даляцеў да Масквы і прызямліўся на Чырвоным пляцу. Савецкая абарона яго не выкрыла. Яго арыштавалі і судзілі ў СССР.

**28 мая** быў запушчаны савецкі цяжкі (15 тон) спутнік „Космас 1870" створаны на базе арбітальнай станцыі вайсковага прызначэння тыпа „Алмаз".

**Ад 8 да 14 чэрвеня** правёў III паломніцтва ў Польшчы папа рымскі Ян Павел II. Наведаў ён Шчэцін, Гдыню, а пасля Гданьск і 13 чэрвеня Лодзь.

**25 чэрвеня** ў Венгрыі змянілася кіраўніцтва дзяржавы. Прэм'ер-міністрам стаў Карой Грос.

**27 чэрвеня** ў катастрофе на Філіпінах ля Багіа разбіўся самалёт Hawker Siddeley HS748. Згінула 50 асоб.

**29 чэрвеня** Войцех Ярузельскі паляцеў з афіцыйным візітам у Японію.

На **4 і 5 ліпеня** кіраўнік польскіх працаўнікоў у Бакара запрапанаваў жадаючым польскім працаўнікам экскурсію ў Варанасі на два дні на суботу і нядзелю. Сабралася амаль 20 асоб. Кіраўнік аформіў нам спальныя месцы ў цягніку Бакара – Варанасі, які ехаў у Дэлі на 3 ліпеня. 3 ліпеня вечарам прыехалі мы на чыгуначны вакзал у Бакара і цягнікам у спальным выгоне паехалі ў Варанасі. Ранкам 4 ліпеня мы туды прыехалі, заехалі на таксі ў горад, аплацілі ў гасцініцы на адну ноч двухасабовыя пакоі з кандыцыянерамі і вярнуліся да ракі Ганг. Варанасі ляжыць у штаце Ітар-Прадэш, у часы англійскага панавання горад называўся Бенарэс. У 1987 г. у Варанасі было амаль 200 тыс. жыхароў, а ў час індыйскіх свят прыязджала туды і 100 тысяч пілігрымаў.

Варанасі для індуістаў, джайнаў і будыстаў з'яўляецца святым горадам, як для католікаў Рым. Згодна з легендай, горад паўстаў 5 тысяч год таму і быццам бы стварыў яго бог Шыва з багіняй Дургай на трох узгорках на левым беразе ракі Ганг (на трохзубе Шывы), паміж рэкамі Варана і Асі, якія ўліваюцца ў Ганг.

Індуісты, джайны і будысты вераць, што душа чалавека праходзіць рэінкарнацыю, што яна пераўвасабляецца, пераходзіць у другую жывую істоту. Калі чалавек жыў сумленна, нікога не крыўдзіў, то яго душа пасля яго смерці пераходзіла ў цела нованароджанага дзіцяці чалавека, калі жыў несумленна, то ў нованароджанага звера, або ў насякомае. У. Высоцкі спяваў у сваёй песні: „Живёшь правильно – будет тебе счастье в следующей жизни, а если туп – родишься баобабом".

Аднак яны вераць, што калі хто памрэ ці цела яго спаляць у Варанасі, то яго душа больш не будзе пераўавсабляцца, а перойдзе ў стан нірваны, або мокшы, будзе існаваць у спакоі. Таму многія едуць уміраць, або вязуць мертвыя целы сваіх крэўных у Варанасі, каб іх там спаліць. І таму на беразе ракі Ганг у Варанасі гараць дзень і ноч многа кастроў з мёртвымі целамі людзей, і крэматорый працуе ноч і дзень. Апроч таго яны вераць, што ў Варанасі вада ў рацэ Ганг з'яўляецца святой і змывае ўсе грахі з чалавека. Увесь левы бераг Ганга забудаваны малымі храмамі і прыступкамі да ракі, якія называюцца гха-

тамі. Збудавалі там 84 гхаты. Па іх індусы і індускі зыходзяць уніз, купацца і мыцца ў рацэ.

Мы падышлі да ракі заплацілі за месцы ў лодцы і паплылі па рацэ Ганг, аглядзелі з праваднікам усе гхаты і паўголых індусаў і індусак, якія мыліся ў рацэ, і гарэўшыя кастры з мёртвымі целамі. Ехалі з намі таксама турысты з іншых дзяржаў, з Японіі і Англіі. Праваднік расказваў нам на англійскай мове аб кожным храме на гхатах. Правы бераг Ганга не быў забудаваны. Там убачыў я некалькі шалашоў і індусак, якія мылі бялізну. Каб зрабіць здымак кастра трэба заплаціць 10 долараў. Адзін японец з нашай лодкі зрабіў здалёк здымак кастроў. Заўважыў гэта на беразе індускі ахоўнік і рукою даў нам загад, каб да яго падплысці. Аднак наш праваднік выпусціў нас у іншым месцы і мы ўсе разышліся.

За ім відна адзін гхат і храмы. Пры ім сядзіць турыстка з Англіі.

Пасля пайшлі мы паглядзець на кастры на беразе ракі. Я гаварыў з тымі, якія абслугоўваюць іх. Хто хоча, каб спалілі цела яго сваяка, мусіць заплаціць не толькі за драўніну на кастрах, ды і за абслугоўванне, а гэта дорага каштуе. Не кожны можа заплаціць такую суму грошай. А апроч таго, яны не паляць целы дзяцей, цяжарных жанчын, ахвяр якіх укусіла кобра і іншых са скурнымі хваробамі. Іх часта кідаюць у лодку і пускаюць плысці па Гангу. І дзесь там яны топяцца. Часта людзі бачаць, як па рацэ плывуць трупы. Вада ў рацэ вельмі брудная і не ведаю, чаму індусы не хварэюць пасля мыцця і купання ў такой вадзе.

Пасля пабачылі мы так званы „Залаты Храм" бога сусвету Шывы (па-індыйску называюць яго „Кашы Вішванатх"), які быў пабудаваны на руінах іншага індускага храма, знішчанага мангольскім падышахам Аўрангзебам. У 1835 г. дах храма пакрылі залатой бляхай, падараванай сікхскім кіраўнікам Пенджаба махараджам Ранджытам Сінгхам. Страцілі яны на дах 820 кг золата. Ля храма ляжыць невялікая сажалка, у якой абмывалі свае хворыя ногі пілігрымы і я бачыў, як адзін індус піў пасля гэту ваду. Унутры храма было цёмна, толькі залаты дах і медныя калоны ззялі ад промняў сонца, якія прабіваліся праз шчыліны на вежы храма. Віселі на сценах храма аб'явы, што рабіць здымкі там забаронена.

Пасля завялі нас да чырвонага храма багіні Дургі, жонкі бога Шывы, які называюць храмам малп, бо многа малп там бегала звонку храма і па храме. Напэўна добра іх кормяць, бо калі індуская жанчына давала ім хлеб, не хацелі есці. Унутры храма нічога цікавага я не бачыў, толькі кветкі на алтары.

На сёняшніх здымках у інтэрнэце бачу, што храм багіні Дургі за 25 гадоў вельмі пашырылі і разбудавалі і з'яўляецца ён прыгажэйшым чым быў.

Ноч пераначавалі мы ў прыемнай гасцініцы з кандыцыянерам, дзе ўнізе ў рэстаране мелі мы смачныя снеданні, абеды і вячэры. Вуліцы ў Варанасі былі даволі чыстыя. Ездзілі і веласіпедныя, і маторныя рыкшы. Варанасі славіцца ў Індыі вырабам прыгожага шоўку, які індускія жанчыны купляюць на свае сары, якія яны носяць замест сукенак.

На наступны дзень 5 ліпеня пасля снедання паехалі мы ў прыгарад Варанасі, Сарнатх, паглядзець будысцкую 30-метровую ступу Дхамек і будысцкі храм. У гэтым месцы згодна з легендай Буда ў 5 стагоддзі да н.э. прачытаў сваю першую пропаведзь. Там знаходзяцца руіны будысцкіх храмаў пабудаваных яшчэ пры імператары Маўрыёў, Ашоке (273-232г. да н.э). У будысцкім храме было многа пілігрымаў.

Пасля абеда паглядзелі мы мячэць Аўрангзебу, якую мусульмане пабудавалі пасля разбурэння Варанасі ў 17 стагоддзі магольскім падышахам Аўрангзебам на руінах індускага храма. Там пабудавалі тады два мінарэты на беразе Ганга вышынёй па 30 м. кожны, ды іх у 20-тым стагоддзі знішчыў землятрус. Могольскія падышахі былі мусульманамі.

Вечарам мелі мы цяжкасці, каб дастаць месцы ў цягніку да Бакара. Аднак кіраўнік польскіх працаўнікоў выпрасіў месцы для нас у адным вагоне і спалі мы на лаўках вагона ў цягніку. Так вярнуліся мы ў Бакара.

**11 ліпеня** ААН апублікавала, што ў Загрэбе ў Югаславіі радзіўся пяцімільярдны грамадзянін на Зямлі.

**16 ліпеня** Вярхоўны суд СССР рэабілітаваў 15 вучоных асуджаных у 1931, 1932 і ў 1935 гадах.

**22 ліпеня** стартаваў касмічны карабель Саюз ТМ-3, які даляцеў і прыстыкаваўся да арбітальнай станцыі "Мір" з касманаўтамі А. Вік-

тарэнкам і грамадзянінам Сірыі М. Фарысам, якія вярнуліся на зямлю з А. Лавейкіным 30 ліпеня на Саюзе ТМ-2, і з А. Аляксандравым, які прызямліўся на Саюзе ТМ-3 29 снежня 1987 г. з Ю. Раманенкам і Ан. Леўчанкам.

**31 ліпеня** 400 іранскіх паломнікаў саўдаўскімі службамі былі забіты ў Мекцы .

**3 жніўня** ў Бакара сінхранізавалі першы польскі генератар 65 мегаватаў, які аддалі да эксплуатацыі. Другі сінхранізавалі ў 1988 годзе.

**7 жніўня** ў СССР на станцыі Каменск сутыкнуліся два цягнікі. Згінула 106 асоб.

**8 жніўня** ад землятруса ў Чылі згінула 5 асоб.

**9 жніўня** ў Аўстраліі ў Мельбурне 19 гадовы Джульян Найт застрэліў 9 чалавек і раніў 17.

**16 жніўня** ў Дэтройце ў ЗША на аэрадроме ў катастрофе самалёта МД-2 згінула 156 асоб.

**17 жніўня** ў турме Спандаў ў Заходнім Берліне скончыў жыццё самагубствам Рудальф Гес, наменік Гітлера да 1941 г. Быў асуджаны на пажыццёвае зняволенне. Меў 93 гады.

**19 жніўня** ў Англіі ў Ханджэрфордзе рабочы Майкл Райан (27 год) застрэліў 16 асоб разам са сваёй маткай і параніў 15, а пасля закончыў жыццё самагубствам.

**7 верасня** кіраўнік ГДР Эрых Хонекер першы раз паехаў з афіцыйным візітам на 5 дзён у ФРГ.

**18 верасня** Ежы Кукучка разам з Рышардам Варэцкім, Артурам Гайзерам і Вандай Руткевіч увайшлі ў Гімалаях, як другія пасля Райнхольда Меснера, на вяршыню Шышабангма, 8027 м.

**18 верасня** я з пяццю польскімі працаўнікамі зрабілі экскурсію ў Непал. Паехалі цягніком цэраз Патну ў Гарахпур і адтуль турыстычным аўтобусам даехалі мы ў Катманду, сталіцу Непала, да аўтобуснага вакзала Гангебу і таксі давезла нас у раён горада Тамель. І там затрымаліся мы ў гасцініцы „Нана”. Двуасабовы пакой каштаваў нас за суткі 150 непальскіх рупій, якія мы вымянялі на граніцы. На другі і на трэці дзень хадзілі мы па горадзе пяшком. З Катманду добра відаць горы Гімалаі.

Гістарычны цэнтр Катманду называецца Дабрар. Там стаяць індуісцкія храмы Непала. Там знаходзіцца больш чым 50 храмаў і ману-

ментаў, як храм Шывы, Парваты, Хануман Дхока з яго статуяй з 1672 г. Там стаіць драўляная пагада Катх Мандзір з 12 стагоддзя, адноўленая ў 1596 г. і многа іншых храмаў. Цікава было пабачыць старыя будысцкія храмы, як ступа Сваямбхунатх з трэцяга стагоддзя да н.э., якую перабудавалі ў 9 стагоддзі. Ступа падобная да паўсферы, якая падтрымлівае высокі канічны купал, на якім стаіць медны шпіль. Унізе купала стаяць чатыры статуі Буды па кожным баку свету, які быццам бы ўсё бачыць. У Катманду не было тады рыкш, а толькі таксі, а яны былі дарагія, таму мы цэлыя дні хадзілі па горадзе пяшком. Ежа і напоі не былі тут дарагія.

На чацьвёрты дзень нанялі мы шафёра і яго джыпам пад'ехалі пад самую граніцу з Кітаем і там сустрэў нас шквал. Мы змушаныя былі схавацца на некалькі гадзін у беднай хаце аднаго мясцовага жыхара. Калі мінуў шквал, мы вярнуліся джыпам у Катманду, пераначавалі ў гасцініцы і на пяты дзень вечарам вярнуліся ў Бакара.

Згодна з кантрактам у 1986 г. „Мэгадэкс" плаціў мне ў Індыі5 800 індыйскіх рупій і маёй жонцы 4 600 зл. у месяц. А ад 20 студзеня павялічыі мне ў Індыі заробак да 6 380 індыйскіх рупій у месяц. Нейкую частку рупій я перасылаў у Варшаўскі банк ПКО на 600 доларавых талонаў у месяц. Я мог у Індыі абмяняць рупіі на долары, ды гэта было нявыгадна, бо за амерыканскі долар у гандляроў трэба было заплаціць 12 рупій. Жонка тады лёгка выкупіла нашу кааператыўную кватэру на ўласнасць.

Я маю нядрэнную пенсію, бо сёння за маю пенсію я мог бы купіць 1 100 амерыканскіх долараў, калі долар каштуе 3,25 зл., а з пенсіяй жонкі нават больш чым 1 800 амерыканскіх долараў, і не ведаю, ці мог бы я сёння выкупіць такую кватэру на ўласнасць, як зрабіў калісь, за сённяшнюю пенсію. Так выраслі цэны. Хаця маю ўласную кватэру, то мушу за цэнтральнае ацяпленне, за рамонты, за ваду і смецце ды за іншыя паслугі кожны месяц плаціць у кааператыў, пералічваючы на долары, 185 долараў. Як працаўнік энергетыкі я калісь плаціў за электраэнергію вельмі мала, а цяпер пералічваючы на долары плачу амаль 60 долараў у месяц. Падаражалі газ, бензін і іншыя паслугі. А цэны лекаў выраслі, хіба, у 20 раз. Тады пенсіянеры мелі бясплатныя лекі на рэцэпты і ўсе працаўнікі мелі льготныя цэны на лекі па рэцэпце. Не было тады такіх лекаў, як сёння, ды яны мне былі

непатрэбныя. Цяпер лекі каштуюць мне вельмі многа, хаця не хварэю. Пакуль магу іх выкупіць. А многія пенсіянеры не маюць сёння грошай, каб заплаціць за выпісаныя лекарам на рэцэпце лекі. Многія маі суседзі ў доме абцяжараныя даўгамі, не маюць грошай, каб заплаціць за кватэру.

Адно цяпер добра, што я два разы ў месяц заказваю праз інтэрнэт усе патрэбныя мне спажывецкія і іншыя прадукты ў магазіне і іх мне прыносяць дамоў. Не мушу хадзіць у магазіны і стаяць у чарзе, а магу выбраць такія спажывецкія прадукты, якія хачу. І цешуся, што мае дзеці і мае ўнукі не з'яўляюцца беспрацоўнымі. Бо амаль 2 мільёны палякаў не маглі ў Польшчы знайсці працы і выехалі за мяжу. У Варшаве бачу кожны дзень многа бяздомных, якія ў сметніках шукаюць выкінутае іншымі. Цяпер у Польшчы больш людзей памірае, чым нараджаецца дзяцей. Таго калісь не было.

**30 верасня** Махамад Наджыбулах стаў прэзідэнтам Афганістана.

**1 кастрычніка** ад землятрусу ў Каліфорніі ў ЗША згінула 9 асоб.

**15 і 16** кастрычніка ад моцнага шторму ў Паўднёвай Англіі згінула 23 асобы. Шторм вырваў з каранямі амаль 15 мільёнаў дрэў. Такой буры ў Англіі не было 300 год.

**19 кастрычніка** у Персідскім заліве караблі ВМС ЗША разбурылі 2 іранскія нафтавыя платформы і ў Інданезіі ля Джакарты ў чыгуначнай катастрофе згінула 102 асобы.

**20 кастрычніка** ў ЗША ля Індыянаполіса ў штаце Індыяна самалёт-знішчальнік упаў на гасцініцу. Згінула 10 асоб.

**22 кастрычніка** паэт Іосіф Бродскі атрымаў Нобелеўскую прэмію з літаратуры. Ён жыў тады ў ЗША, бо ў 1972 г. яго выгналі з СССР.

**25 кастрычніка** ў Пекіне адкрыўся XIII з'езд Камуністычнай партыі Кітая, які закончыўся 1 лістапада.

**7 лістапада** савецкія працаўнікі ў Бакара святкавалі ў сваім клубе 70 гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі. Запрасілі на ўрачыстасць польскіх працаўнікоў. Папрасілі мяне, каб я прачытаў даклад на рускай мове аб сітуацыі ў Польшчы. Пасля выступлення іх прадстаўнікоў я прачытаў свой даклад. Пасля быў канцэрт індускіх артыстаў і танцы пад гучнагаварыцель.

**8 лістапада** ад выбуху бомбы ірландскай ІРА ў Паўночнай Ірландыі ў Эніскілене згінула 12 асоб.

**11 лістапада** ў СССР быў адсунуты з пасады першага сакратара Маскоўскага гарадскога камітэта КПСС Барыс Ельцын, пасля таго, як ён скрытыкаваў рэформы.

**15 лістапада** паехаў я вечарам цягнікам з Дханхабада ў Дэлі. Ранкам **16 лістапада** затрымаўся я ў гасцініцы Імка. Пасля снедання паехаў я маторнай рыкшай на аэрадром у Дэлі, куды мела прыляцець з Варшавы мая дачка Ірэна, якая здала ўжо дыпломную працу на вельмі добрую ацэнку ў Галоўнай школе планавання і статыстыкі-і ў Варшаве і атрымала там дыплом магістра. У сувязі з тэрактамі, якія раней былі на аэрадроме ў Дэлі, цяпер забаранілі ўсім чакаючым прылёту самалётаў пасажырам уваходзіць у будынак аэрадрома. Я мусіў чакаць увесь час перад дзвярыма будынка. Паінфармавалі, што самалёт з Варшавы прыляцеў, пачалі выходзіць пасажыры, а маёй дачкі – няма. Я пачаў выходзіць з цярпення. Ужо стаў думаць, што яна не прыляцела. Чакаў больш як гадзіну і раптам мая дачка выйшла, заплаканая.

Аказалася, што прытрымаў яе індускі мытнік. Ірэна непатрэбна купіла на аэрадроме ў Дубаі, дзе самалёт затрымаўся на гадзіны дзве, дзве бутэлькі каньяку. І да іх прычапіўся мытнік, казаў ёй плаціць мыта. Ірэна не мела пры сабе столькі грошай, аддавала яму гэты каньяк, каб ён сабе забраў. А ён не хацеў. І толькі па гадзіне калатні аддаў ёй каньяк без мыта і яе выпусціў з аэрадрома. І нарэшце я яе сустрэў, і забраў маторнай рыкшаю ў гасцініцу Імка.

Пасля абеда паехаў я з Ірэнай у Чырвоны форт і паказаў ёй Палік-базар, а на наступны дзень іншыя храмы і месцы ў Дэлі.

**17 лістапада** вечарам выехалі мы цягнікам з Дэлі ў Дханхабад.

**18 лістапада** з Дханхабада таксі прыехалі мы ў Бакара, дзе я выкупіў для дачкі абеды ў нашай сталовай да 8 снежня. На наступны дзень завёз і паказаў ёй электрастанцыю ў Бакара, а пасля працы гулялі мы па пасёлку Бакара. Па дарозе часта падбягалі да нас індускія дзеці са сшыткамі і прасілі дачку, каб яна напісала ім свой аўтограф.

**19 лістапада** польскі кіраўнік даў нам машыну з індускім шафёрам і мы паехалі ў гарадок Час, дзе я паказаў ёй індускі горад, яго магазіны і храм сікхаў, аб якім я пісаў ва ўспамінах з 1986 г.

**22 лістапада** польскі кіраўнік даў нам машыну і індускага шафёра і мы разам з іншымі польскімі працаўнікамі паехалі ў Раджырапу, дзе Ірэна пабачыла індускія храмы іх багоў і пілігрымаў, якія туды прыехалі і купаліся ў рацэ Ганг. Аб Раджырапе таксама я пісаў ужо ва ўспамінах з 1986 г.

А **29 лістапад**а польскі кіраўнік даў нам машыну і індускага шафёра і мы разам з іншымі польскімі працаўнікамі паехалі ў Парасна-ш, дзе аглядзелі мы 24 храмы джайнаў. Аб Параснашы і аб джайнах я таксама пісаў у маіх успамінах з 1986 г.

**8 снежня** паехалі мы вечарам у Дханхабад і **9 снежня** ранкам мы былі зноў у гасцініцы Імка ў Дэлі. Пасля снедання я ў гасцініцы выкупіў аўтобусную экскурсію з гідам па горадзе Дэлі. Да абеда мы аб’ехалі ўсе цікавыя храмы і месцы ў індыйскай сталіцы. Пасля ездзілі мы па розных базарах, дзе я купіў дачцэ куртку з норак і падарункі для ўнукаў. **10 снежня** вечарам дачка паляцела польскім самалётам у Варшаву, а я **12 снежня** вярнуўся ў Бакара.

**18 лістапада** ў пажары ў метро ў Лондане згінула 31 асоба.

**24 лістапада** ў Кітаі Лі Пэн стаў прэм’ерам Дзяржаўнай рады замест Чжао Цзыяна.

**25 лістапада** палестынскі тэрарыст уехаў машынай у ізраільскую базу і пакуль яго не забілі, гранатамі і кулямётам забіў 7 ізраільскіх салдатаў.

**25 лістапад**а ад тайфуна „Ніна” на Філіпінах згінула 1036 асоб.

**28 лістапала** ў катастрофе паўднёваафрыканскага Боінга 747, які ўпаў у Індыйскі акіян, згінула 159 асоб.

**29 лістапада** паўднёвакарэйскі самалёт разбіўся над Андаманскім морам. Згінула 155 асоб. Падазраваюць, што паўночнакарэйскія спецслужбы падлажылі ў самалёт бомбу.

**7 снежня** ў ЗША ў Каліфорніі ля Пасо Роблес у час палёта самалёта Баэ 146, які ляцеў з Лос Анджэлос у Сан Францыска, пасажыр застраліў свайго сябра, двух пілотаў і сябе. Згінула 43 асобы.

**8 снежня** ў Вашынгтоне (ЗША) сакратар КПСС Міхал Гарбачоў і прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган падпісалі Дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і малой далёкасці. Дагавор увайшоў у сілу з 1 чэрвеня 1988 г.

**8 снежня** ў катастрофе самалёта Фокер Ф27 ля Вінтанілы згінула 43 асобы разам з футбалістамі каманды Alianza Lima.

**15 снежня** паўстала палестынская арганізацыя Хамас.

**17 снежня** ў Чэхаславакіі звольнілі з пасады сакратара ЦК КПЧ Густава Гусака. Новым сакратаром ЦК КПЧ выбралі Мілоша Якеша.

**20 снежня** ў праліве Таблас на Філіпінах пасля сутыкнення з нафтавым танкерам Віктарам затануў пасажырскі паром. Згінула каля 4000 пасажыраў парома.

**21 снежня** выляцеў у космас савецкі касмічны карабель Саюз ТМ-4 з касманаўтамі М. Манаравым, А. Леўчанкам і У Цітавым. Прыстыкаваліся яны да арбітальнай станцыі „Мір”. **29 снежня** А. Леўчанка з Ю. Раманенкам і А. Аляксандравым вярнуліся на Зямлю, а У. Цітаў з М. Манаравым і з французам Жанам-Лу Крэт’енам прызямліліся **21 снежня 1988** г. на Саюзе ТМ-6. У. Цітаў і М. Манараў працавалі на арбітальнай станцыі цэлы год.

Да кіраўніка польскіх працаўнікоў у Бакара дайшла вестка з „Энергапраекта” ў Варшаве, што кіраўнік праектнай групы Збігнеў Радомскі хоча, каб я ў канцы снежня вярнуўся ў Варшаву, бо на мае месца ён хоча выслаць маладога праекціроўшчыка. Кіраўнік адпісаў, што калі „Энергапраект” мяне забярэ, то ён нікога больш з „Энергапраекта” не прыме. І так я астаўся на наступны 1988 год. У сувязі з тым „Мэгадэкс” выслаў мяне на два тыдні ў водпуск у Варшаву, заплаціў за мае білеты на цягнік з Бакара да Дэлі і з Дэлі ў Бакара і за білеты на самалёт Дэлі – Варшава і Варшава – Дэлі.

**24 снежня** польскія працаўнікі ў Бакара паставілі ля сталовай вялікую брызентную палатку, уставілі ўнутры палаткі сталы, крэслы і ежу на сталах і сустрэлі вечарам каталіцкую Каляду. На каталіцкае свята Нараджэння Хрыстова мы не працавалі. Я гатовіўся да выезду ў Варшаву ў водпуск.

# 1988

Новы год я святкаваў яшчэ ў Бакара. Вечарам быў я ў савецкім клубе разам з іншымі польскімі працаўнікамі на канцэрце індускіх артыстаў, а пасля на танцах.

У сувязі з тым, што білет на самалёт з Дэлі ў Варшаву мне „Мегадэкс" выкупіў на 4 студзеня, а група 5 польскіх працаўнікоў ехала на экскурсію ў Варанасі, я далучыўся да іх як шосты і паехалі мы ранкам 2 студзеня ў Варанасі і на вечар былі там у гасцініцы. 3 студзеня я яшчэ раз плаваў лодкай па рацэ Ганг і аглядзеў індускія храмы. Аб рацэ Ганг я напісаў пасля наступны верш:

Плыву на доўгай лодцы па шырокім Гангу,
За мною сонца шар падняўся над зямлёй,
І горад прада мной пад колер сочнай мангі
Расцягнуты блішчыць усходняю красой.
Ступенькамі зыходзяць сотні белых готаў
У шэрую ваду з натоўпамі людзей.
Каплічкі над ракой бліскаюць пазалотай –
Здаецца, і яны купаюцца ў вадзе.
Я бачу прад сабой малы храм бога Шывы
Падмыты ўвесь вадой, схіліўся ўжо набок.
Пусты цяпер стаіць, як купал над абрывам,
І нават грозны бог з яго зусім уцёк.
Ён мае другі храм. святыню залатую,
У горадзе яна стаіць паміж дамоў,
Між залатых аздоб ён горда трыумфуе,
Глядзінь на пілігрымаў летам і зімой.
Далей храм Ганумана ўзняўся над ракою,
І ўнізе ўсіх нас вабіць сарамі жанчын,
Іх колеры вясёлкай ззяюць над вадою,
Кішаць, што мошак рой у сетках павуцін.
Вось гот багаты джайнаў у абдымках хвалі,
Дзе голыя мужчыны бавяцца гурбой,
А готы магараджаў. Калі і Шываля,
Пустыя, як сіроты, хмурацца імглой.
Далей над готам бачым дымавыя слупы,
Там свецяць іскраў рой і кветкі-аганькі.
Дымы плывуць з кастроў, дзе спальваюцца трупы,
І попел іх кідаюць у ахоп ракі.
Бо той, хто тут памрэ, здабудзе стан нірваны,
Не будзе нараджацца больш яго душа,

Яна не будзе мець ні прагі, ні жаданняў,
Ніхто яе не будзе да жыцця змушаць.
Таму індусы часта тут чакаюць смерці,
Таму кідаюць дзеці тут сваіх бацькоў,
І сотні пілігрымаў хочуць тут памерці,
Купляючы кастры пры готах над ракой.

Пасля вечарам я цягнікам з Варанасі спальным вагогам паехаў у Дэлі.

**4 студзеня** дзень правёў я у гасцініцы „Імка" і ў горадзе, купляючы сувеніры для сям'і, а вечарам самалётам цераз Дубай я паляцеў у Варшаву.

У Варшаве на аэрадроме 5 студзеня сустрэлі мяне жонка з сынам і праваслаўныя Каляды я святкаваў ужо дома з сям'ёй. Прыехала з Беластока дачка з унукамі і зяць. Быў я таксама ў „Энергапраекцые", дзе кіраўнік праектнай групы выказаў сваё шкадаванне, што я не вярнуўся на працу, бо хацеў на маё месца выслаць маладога праекціроўшчыка, аднак супакоіўся, калі даведаўся, што кіраўнік «Мегадэксу» ў Бакара не згадзіўся мяне замяніць на іншую асобу ў „Энергапраекцые".

**1 студзеня** ў Польшчы мясцовасці Брусы, Юзэфуў, Ноўгарад-Бабжанскі і Ажараў атрымалі гарадскія правы, перасталі заглушаць радыёстанцыю Свабодная Еўропа і ў Нысе распачалі прадукцыю аўтамашыны ФСО Паланез Трак.

Я раней з Бакара выслаў запрашэнне прыехаць да мяне ў Бакара майму зяцю, мужу маёй дачкі, Валянціну Пацэвічу. Ён ужо аформіў пашпарт і візу і мы разам 16 студзеня выляцелі самалётам з Варшавы ў Дэлі. Ранкам затрымаліся на аэрадроме ў Дубаі і выйшлі цераз рукаў самалёта на дзве гадзіны да бязмытных магазінаў на аэрадроме, да якіх трэба было ехаць метраў сто стужкавым канвеерам. Зяць хацеў вельмі купіць у Дубаі ў магазінах электронны магнітафон, каб яго пасля прадаць індусам у Бакара. Аднак я пабаяўся індускіх мытнікаў у Дэлі, якія ўжо раней прычапіліся да дзвюх бутэлек каньяку ў маёй дачкі на аэрадроме ў Дэлі, калі яна раней прыляцела да мяне, і  не згадзіўся. А аказалася пасля, што на аэрадроме ў Дэлі для нас не было індускіх мытнікаў і мы выйшлі ў Дэлі з аэрадрома без мытнага кантролю.

**17 студзеня** на дзень затрымаліся мы ў гасцініцы „Імка" ў Дэлі, дзе выкупіў я зяцю зкскурсію турыстычным аўтобусам па Дэлі, а пасля я паехаў з ім у Чырвоны Форт і ў іншыя месцы ў Дэлі. Вечарам селі мы ў цягнік Дэлі Дханбад і 18 студзеня былі ўжо ў Бакара. Там я выкупіў абеды сыну і сабе да канца студзеня ў нашай сталовай.

**18 студзеня** ў катастрофе самалёта ІЛ-18Д у кітайскім горадзе Чанггінг згінула 108 асоб.

19 студзеня было індускае дзяржаўнае свята і мы разам з іншымі польскімі і індускімі працаўнікамі на стадыёне ў Бакара аглядзелі выступленні розных індускіх ансамбляў, а пасля парад індускіх салдат.

**20 студзеня** я завёз і паказаў зяцю нашую электрастанцыю, а пасля працы пасёлкі Бакара, а 21 студзеня прайшлі мы па канатным мосце цераз раку і ён пабачыў месца, дзе мясцовыя ігдусы дабываюць лапатамі чорны вугаль з зямлі. Пасля індускі шафёр завёз мяне і майго зяця ў горад Час і ў храм сікхаў, аб якім я пісаў ва ўспамінах з 1986 г.

Пасля, калі я ездзіў рана да працы, зяць ішоў на дах нашага дома і там загараў на сонцы, ці ішоў у савецкі клуб і аглядаў маскоўскае тэлебачанне. Пасля вечарам мы хадзілі да сям'і савецкіх спецыялістаў з-за Урала, якія працавалі ў Бакара і з імі праводзілі вечары. У суботу кіраўнік даў нам на цэлы дзень шафёра і машыну і аглядзелі мы індускія храмы ў Раджырапе, а ў нядзелю храмы джайнаў у Парашнаце, аб якіх я пісаў ва ўспамінах з 1986 г.

**2 лютага** я завёз зяця Валянціна ў Дханбад, выкупіў яму білет на цягнік у Дэлі і ён разам з іншымі польскімі працаўнікамі, якія вярталіся ў Польшчу з Бакара даехаў на вакзал у Дэлі і да гасцініцы „Імка", а пасля самалётам вярнуўся ў Варшаву і Беласток.

**4 лютага** ў СССР рэабілітавалі М. Бухарына і іншых асуджаных ў сакавіку 1938 г. пры І. Сталіне на смерць. Не рэабілітавалі толькі Генрыха Ягаду, наркома ўнутраных спраў і генеральнага сакратара дзяржаўнай бяспекі, якога таксама І. Сталін ліквідаваў.

**10 лютага** ў час парламенцкіх выбараў у Бангладэшу згінула больш як 100 асоб.

**11 лютага** кіраўнік дазволіў мне і двум працаўнікам з Бакара паехаць на 4 дні у Калькуту, дзе я хацеў аформіць у польскім пасольстве

запрашэнне прыехаць да мяне ў Індыю маёй жонцы Ніне. Паехалі мы таксі ў Дханбад, а адтуль цягпіком у Калькуту. У Калькуце выкупілі мы твохасабовы пакой з кандыцыянерам недалёка Бенгальскага заліва. Я ў Бакара непатрэбна купіў кілаграм каўбасы, якая за час нашага падарожжа ў Калькуту сапсавалася і мусіў яе ў Калькуце выкінуць.

Калькута гэта важны порт над Бенгальскім залівам і па велічыне была чацвёртым горадам у Індыі, жыло ў ім 15 мільёнаў жыхароў. З'яўляецца Калькута сталіцай штата Бенгаль. Я ў Калькуце быў ужо ў 1986 г., калі прыляцеў з Масквы ў Індыю. Цяпер пабачыў, што горад вельмі змяніўся. У 1986 г. я бачыў рыкшы, якія цягнулі людзі. У 1988 годзе зусім не было рыкшаў, а толькі таксі.

Калькуту пачалі будаваць ангельцы яшчэ ў 1690 г. Яны збудавалі ў Калькуце Форт Вільямс, куды тады нас індусы не ўпусцілі. Калькута да 1912 г. была ангельскай каланіяльнай сталіцай Індыі . У 1912 г. перанеслі сталіцу Індыі ў Дэлі. Вельмі прыгожым астаўся па ангельцах Мемарыял ангельскай каралевы Вікторыі, які тады быў музеем. Цікавым быў таксама мост Вікторыі.

Аглядзелі мы прыгожы кафедральны сабор св. Паўла пабудаваны ў 1847 г. і храм джайнаў і нейкія індускія храмы і паркі. Тады ў Калькуце працавала матка Тэрэза, ды нас яна не цікавіла, бо мы мелі мала часу.

Я паехаў на таксі ў Польскае Пасольства і аформіў запрашэнне ў Індыю для маёй жонкі, ды яна з яго не скарыстала, бо пабаялася сама ляцець самалётам з Варшавы ў Дэлі. Мы пасля выкупілі білеты на турыстычны карабель і некалькі гадзін паплавалі на ім па Бенгальскім заліве. І ў нядзелю 14 лютага вечарам вярнуліся ў Бакара.

**12 лютага** пусцілі ў эксплуатацыю ў СССР 723- кіламетровую высокавольтную энергалінію парадачы ЛЭП Скавародзіна (Амурсквя вобласць – Магоча – Халбон Чытынская вобласць).

**З 13 па 28 лютага** ў Кангары (Канада) прайшла XV Зімовая Алімпіяда. СССР атрымаў 11 залатых, 9 срэбных і 9-бронзавых медалёў, ГДР атрымаў 9 залатых, 10 срэбных і 6 бронзавых медалёў і Швейцарыя атрымала 5 залатых, 5 срэбных і 5 бронзавых медалёў.

**17 лютага** ў Намімбіі ад выбуху бомбы ля першага нацыянальага банка згінула 27 асоб і 70 асоб было параненых.

**20 лютага** Абласная Рада Нагорнага Карабаха прагаласавала аб пераходзе з Азербайджанскай ССР у Армянскую ССР.

**28 лютага** ў азерскім горадзе Сумгаіт азеры выступілі супраць армянаў. Згінула 41 асоба, а было параненых больш за 2 тысячы асоб.

**З 1 сакавіка** ліквідавалі ў Польшчы картачкі на шакалад і шакаладныя вырабы.

**4 сакавіка** в катастрофе самалёта ФГ-227 ля французскага горада Фонтанебло згінула 23 асобы

**6 сакавіка** паляцела ў космас камерцыйная ракета Арыян 3.

**8 сакавіка** сям'я Авечкіных з СССР (матка Нінель і 11 яе дзяцей), якая ляцела самалётам ТУ-154 з Іркуцка на гастролі ў Ленінград, захапіла самалёт і хацела паляцець на захад. Удалося ім пранесці ў самалёт абрэзы зброі. Пілот аднак прызямліў самалёт на ваенным аэрадроме і ён быў узяты штурмам антытэрарыстамі. Згінула матка сям'і Авечкіных Нінэль і яе 4 сыны, бортправадніца самалёта і 3 пасажыраў. 19 асоб было параненых. Апошніх членаў сям'і арыштавалі і судзілі.

**8 сакавіка** у Форт-Кэмпбел, Кентакі, ЗША сутыкнуліся два верталёты UH-60. Згінула 17 асоб.

**11 сакавіка** СССР выпусціў у космас адной ракетай 8 спадарожнікаў Зямлі: „Космас-1924", „Космас-1925", „Космас-1926", „Космас-1927", „Космас-1928". „Космас-1929", „Космас – 1930", і „Космас -1931".

**13 сакавіка** ў Японіі адкрылі тунель паміж астравамі Хансю і Хакаіда.

**14 сакавіка** ля спорных астравоў Спартлы на Паўднёвакітайскім Моры была марская бітва ў якой згінула 6 кітайскіх матросаў і 64 в'етнамскіх.

**16 сакавіка** ў Халабджы ў Іракскім Курдыстане іракскае войска выкарыстала хімічную зброю супраць мірнага насельніцтва. Згінула 5 тыс., а пацярпела 20 тыс. жыхароў.

**17 сакавіка** ў катастрофе калумбійскага Боінга-727, які ўрэзаўся ў склон гары ля граніцы з Венесуэлай, згілула 143 асобы.

**17 сакавіка** войска Народнага Фронта Вызвалення Эрытрэі разбіла эфіопскі корпус і заняла Афабет.

**24 сакавіка** суд Ізраіля прысудзіў на 18 гадоў зневалення нуклеарнага тэхніка Мардэхая Вануну за раскрыццё ангельскім газетам ізраільскай атамнай праграмы.

**1 красавіка** кіраўнік польскай групы ў Бакара арганізаваў на цэлы тыдзень для ўсіх польскіх працаўнікоў нашым аўтобусам, які давозіў нас на працу, экскурсію ў гарады, якія ляжаць на поўначы штата Біхар. Паехалі мы ў бок сталіцы Патны.

Першым горадам была Бодхгая. У Бодхгаі ў гасцініцы выкупілі мы пакоі з кандыцыянерамі на двое сутак, перанеслі нашы рэчы з аўтобуса ў пакоі, з'елі ў гасцініцы абед і пайшлі аглядаць горад.

Бодхгая з'яўляецца невялікім ды слаўным індускім горадам, які ляжыць у 113 км. ад Патны. Горад – гэта святое месца для будыстаў усяго свету, бо ў ім князь Сідхартха Гаутама, калі меў 29 гадоў (500 год да н.э.),  пад дрэвам „Бо", раздумваючы знайшоў Прасвятленне – новую рэлігію, якую з таго часу стаў прапаведваць. Паўстаў тут храмавы комплекс, у які едуць будысцкія пілігрымы з усяго свету.

Галоўным будысцкім храмам з'яўляецца Махабодхі з алмазным тронам Буды (Ваджрасана). Храм вышынёй 50 м, пабудаваны быў у III стагоддзі да н.э. царом Ашокам ( 273-232 да н.э.), адноўлены ў XI ст., а потым у 1882 г. без змянення вонкавага і ўнутранага выгляду і побач з дрэвам, якое вырасла з насення дрэва Шры Маха Бодхі з Шры-Ланкі, якое раней вырасла з насення арыгінальнага дрэва Махабодхі, пад якім Буда знайшоў Прасвятленне. Увесь комплекс храма Махабодхі мае многа памятных рэчаў па Будзе і яго прыхільніках.

Навокал храма Махабодхі згрупаваліся манастыры розных краін. Тут пабудавалі свае храмы Бутан, Кітай, Японія, М'янма, Непал, Сікім, Шры-Ланка, Тайланд, Тыбет і В'етнам. Кожны храм выкананы ў стылі адпаведняй дзяржавы са статуямі Буды.

Навокал раскінуты прыгожыя паркі. У кожных храмах праводзяцца рэгулярныя выступленні будысцкіх настаўнікаў, семінарыі і канферэнцыі і чуць было, як будысцкія манахі выбівалі на барабанах малітвенныя рытмы., а пілігрымы–будысты недалёка ад іх святога дрэва вешалі на сцяне храма каляровыя палотны з надпісамі-і, якія ўсхвальвалі Буду. Часта будысцкія манахі ішлі да іх святога дрэва на каленах.

У парках было многа кіёскаў з таварамі. Там я купіў сабе невялікі японскі фотаапарат на плёнку. Тады яшчэ электронных фотаапаратаў не было.

За два дні агледзелі мы ўсе храмы і на чацвёрты дзень паехалі ў Гаю, у горад, які ляжыць 100 км на поўдзень ад Патны.

Гая раскінулася над берагам ракі Фалгі (якую ў „Рамаяне" называюць Ніранджана) і з'яўляецца святым месцам як для індусаў, так і для будыстаў. З трох другіх бакоў Гаю акружаюць тры ўзгоркі. Назва горада ўзнікла ад імя дэмана Гаясуры, якога быццам бы бог Вішну прыдушыў сваёй стапой. Быццам бы ад стапы Вішну Гаясура ачысціўся і стаў вызваляць людзей ад грахоў, тых якія да яго дакрануліся ці на яго паглядзелі. Так што цянер прыязджае ў Гаю многа індускіх пілігрымаў, і лічыцца Гая другім святым горадам пасля Варанасі, бо індусы вераць, што калі пройдуць па ўсіх храмах і месцах, якіх тут больш чым паўсотні, і ахвяруюць багам „піндас" (пахавальнае піражнае), то душы іх продкаў вызваляцца ад увасаблення, пападуць у стан нірваны.

Асноўным храмам у горадзе з'яўляецца Вішнупад, у якім можна пабачыць даршан, адбітак стапы бога Вішну на камяні. Бог Вішну у індусаў з'яўляецца адным з галоўных багоў. Прадстаўляюць яго ў кароне на галаве сідзячага на лотасе ці на міфічнай птушцы гарудзе, ці на вужы сешы, які плавае ў акіяне. Індусы вераць, што бог Вішну ўжо дзесяць раз сыходзіў на зямлю і ўвасабляўся першы раз у рыбу, другі раз у чарапаху, а пасля ў дзіка, у паўчалавека і паўільва, у карліка, у Раму, у Рамачудру, у Крышну і ў Буду.

Калі мы былі, то рака Фалга была сухая, а ў час монсуна ад другой паловы чэрвеня і амаль да верасня напаўняецца вадою.

Аглядзелі мы храм Вішнапад і другія меншыя індускія храмы. Аб храме Вішнапад я калісь пісаў у вершы:

За рэчышчам сухім шырокай Фалгі
Храм Вішнупад блішчыць, як антрацыт,
З высокай вежай, з залацістым флагам
Зліваецца ў цудоўны каларыт.

Малыя купалы чароўныя на даху,
З дзесяткамі калон, як гурт людзей,
Сышліся ў круг пад дзіўнаю папахай
І захапляюць, быццам чарадзей.

Там унутры ляжыць, як пад каронай,
Між пліт сярэбраных вялікі след.
То след ступні пад срэбным парасонам,
Адбіты богам Вішну на скале.

Тут пілігрымы складваюць ахвяры
І ля ўвахода два званы звіняць.
Спацелыя ад сонечнага жару,
Прыходзіць іх сюды за раццю раць.

З Гаі пасля абеда паехалі мы ў Райджыр.

У Райджыры затрымаліся мы ў гасцініцы на адны суткі і пайшлі аглядзець на пляцы індускі храм „Брахма Кунда". Брахма (Брама) па індускай міфалогіі, гэта бог тварэц сусвету і ўсіх жывых істот. Малююць яго з чатырма рукамі і чатырма тварамі на адной галаве, гэтыя твары глядзяць на чатыры бакі свету. У храме „Брахма Кунда" выплывае ўнізе з зямлі цёплая вада, якая быццам бы мае лячэбныя ўласцівасці. Унізе ў гэтай вадзе купалася многа індускіх жанчын і мужчын. Я калісь пісаў так у вершы аб гэтым храме:

Белы храм на гары вочы вабіў няспынна,
А на купале пікі паблісквалі ўдзень.
І чырвоныя дахі, як гронкі рабіны,
Зіхацелі на сонцы, як промняў струмень.

Як у студні, ў тым храме глыбока ў падвале
Выплывае з крыніцы вада пад сцяной.
Там індусы кішаць, як у вузкім канале
Незлічоная лічба жывых уюноў.

У святыні фігуры багінь каляровых
Паглядаюць з усмешкай у мой аб'ектыў,
А паблізу манах нерухомы, суровы
Пры ўваходзе ў калодзеж, як камень, застыў.

І на плошчы ля храма ларкі пад навесам
І гурма смуглатварых абдзёртых дзяцей,
І двухколкі, і рыкшы, таксі з занавескай,
І натоўпы багатых і бедных людзей.

Калісь Райджыр быў індыйскай сталіцай і ў ім 12 гадоў жыў Буда. І цянер высока на гары стаіць японская ступа. Да яе мы паехалі канатнай дарогай, аглядаючы прыгожы краявід.

Ступа выглядала, як звон на зямлі. А ўнутры ступы на алтары стаяў залаты бюст Буды, а навокал яго на каленах стаялі будыйскія японскія манахі ў аранжавых халатах з бубнамі і выбівалі на іх нейкія гукі. Дрыжэлі сцены ступы ад іх стукаў у бубны, быццам гэта іграў афрыканскі тамтам.

Пасля мы на гары яшчэ пабачылі храм джайнаў, які стаяў у даліне ў прыгожым агародзе, дзе раслі каляровыя кветкі і цвілі дрэвы . Храм быў чырвона-белы з вострым дахам. Храмы джайнаў я не раз аглядаў у Парарашнаце.

Пасля мы канатнай дарогай вярнуліся ў гасцініцу ў Райджыр, там пераначавалі і наступным ранкам паехалі  пасля снедання ў Наланду, якая ляжыць 10 км на поўнач ад Райджыра. Там затрымаліся ў гасцініцы і пайшлі аглядаць горад. Усюды сустракалі нас дзясяткі жабракоў ад малых да старых, якія працягвалі рукі, каб атрымаць міласціну.

Наланда калісь ад I да X стагоддзя была вялікім будыйскім цэнтрам культуры. У V ст. паўстаў тут універсітэт, у які прыязджалі студэнты з многіх краін усходу і вучылася ў ім 10 тыс. студэнтаў. Універсітэт быў дзевяціпавярховы. У Наландзе было 6 храмаў і 7 манастыроў, а ў бібліятэках ляжала 9 мільёнаў кніг. Аб Наландзе пісаў вядомы кітайскі будыйскі вучоны і падарожнік Сюаньцынзан, які жыў у Наландзе адзін год у VII ст.н.э.

У 1193 г. універсітэт быў разбураны мусульманскім фанатыкам Бхактыарам Кхілджы, які са сваім войскам напаў і спаліў горад і жывымі тысячы будыйскіх манахаў. Пасля гэтага будызм у Індыі папаў у заняпад. Многія будыйскія манахі ўцяклі ў Непал і Тыбет.

У 1351 г. у Тыбеце адкрыўся падобны цэнтр пад той самай назвай.

На месцы ўніверсітэта асталіся руіны. Тады калі мы былі, праводзіліся раскопкі руін універсітэта, манастыроў, ступ ля якіх мы хадзілі на плошчы 150 тыс. кв.м.

У 1951г. у Наландзе паўстаў археалагічны музей і пад кіраўніцтвам Міжнароднага цэнтра навукі будызму пачаліся раскопкі і адбудоваа манаствра. Адбудавалі тады ўжо Вялікую ступу і адкапалі малыя ступы.

У Наландзе аглядзелі мы цікавы музей, у якім знаходзяцца манускрыпты, знойдзеныя падчас раскопак.

Мы пераначавалі ў гасцініцы ў Наландзе і наступным ранкам пасля снедання аўтобусам паехалі назад праз Райджыр і Гаю і ноччу вярнуліся ў Бакара.

**5 красавіка** экстрэмісты мусульмане-шыіты захапілі пасажырскі кувейцкі самалёт Боінг –747 са 111 пасажырамі, забілі двух заложнікаў, пасадзілі самалёт ў Іране і жадалі, каб Кувейт выпусціў з турмы 17 шыітаў. 20 сакавіка на аэрадроме ў Алжыры асвабадзілі яны ўсіх заложнікаў.

**10 красакавіка** ад выбуху ў магазіне зброі ў Пакістане згінула 5000 асоб.

**18 красавіка** ВМС ЗША праводзіць ваенную аперацыю супраць Ірана ў Персідскім заліве. Знішчылі там некалькі іранскіх караблёў і свідравальную платформу за мініраванне Іранам заліва.

**21 красавіка** ў катастрофе танкера Антэнян Вентурэ ля берагоў Паўночнага Мора згінула 24 польскіх матросаў і 5 іх жонак.

**26 красавіка** пачалася акупацыйная забастоўка на металургічным заводзе імя Леніна ў Кракаве, якая ноччу з 4 на 5 мая была зліквідаваная.

**1 мая** ў шэсцях прымала ўдзел 9 мільёнаў асоб.

2 мая пачалася забастоўка ў судаверфі ў Гданьску. Пасля двух дзён судаверф акружыла ЗОМО, выключыла тэлефоны. Не дагаварылася з забастоўшчыкамі дэлегацыя з Епіскапата і Т. Мазавецкага з Велавейскім. Арыштавалі 7 кіраўнікоў прафсаюза ,,Салідарнасць”.

**4 мая** у Хендэрсоне,Невада, ЗША на вайсковай фабрыцы наступіў выбух.Згінулі 2 асобы і 372 было параненых. Наступіла разбурэнне ў радыусе да 16 км.

**8 мая** ва Францыі выбралі прэзідэнтам Франсуа Мітэранда.

**14 мая** у ЗША ля Кэролтона, Кентукі, п'яны шафёр наехаў на школьны аўтобус з дзяцьмі. Згінула 27 асоб.

**15 мая** Савецкая Армія стала пакідаць Афганістан.

**19 мая** ў чыгуначнай катастрофе вайсковага транспарту ў Піле ў Польшчы згінула 10 салдат, а 28 было параненых.

**29 мая** прэзідэнт ЗША Р. Рэйган прыехаў з візітам у СССР.

**4 чэрвеня** на станцыі Арзамас-1 ад выбуху трох вагонаў выбуховых рэчываў згінула 91 асоба і раненых было больш як 700 асоб.

**4 чэрвеня** згінула 10 польскіх салдат пры сутыкненні ля Бытома-Аджанскага машыны з салдатамі з цягнікoм.

**5 чэрвеня** ў Богаяўленскім патрыяршым саборы ў Маскве вядучыя прадстаўнікі хрысціянскіх цэркваў святкавалі гадавіну тысячагоддзя хрышчэння Русі.

**7 чэрвеня** ў СССР наступіў старт касмічнага карабля „Саюз ТМ-5" з касманаўтамі А.Салаўёвым, У. Савіных і з балгарскім касманаўтам А.Аляксандравым. Вярнуліся яны на зямлю 17 чэрвеня на касмічным караблі „Саюз ТМ-4".

**19 чэрвеня** прайшлі ў Польшчы выбары да Народныя Рады. Улады падалі, што ўдзел у выбарах прыняло 56% насельніцтва.

**10 чэрвеня** пачаўся ў Заходняй Нямеччыне VIII Чэмпіянат Еўропы па футболу.

**10 чэрвеня** ў Маскве ў Вялікім Тэатры СССР быў праведзены святочны канцэрт прысвячаны тысячагоддзю хрышчэння Русі.

**24 чэрвеня** у СССР атруціліся газам 47 працаўніцы Міаскай швейнай фабрыкі „Гарун".

**26 чэрвеня** ў катастрофе французскага самалёта Эарбус А320 згінула 3 асобы.

**27 чэрвеня** ў чыгуначнай катастрофе ў Парыжы згінула 56 асоб, а 57 было параненых.

**30 чэрвеня** ў Эконе ў Швейцарыі каталіцкі архіепіскап Марсель Лефеўр высвяціў 4 епіскапаў без згоды Ватыкана

У ліпені два польскія энергетычныя блокі, катлы, турбіны і генератары 65 Мвт. працавалі без перапынку і мне рэдка трэба было нешта праектаваць. Яшчэ іншыя працаўнікі часам рабілі нейкія папраўкі. Аднак трымалі нас на выпадак нейкай аварыі. Я кожны ранак ездзіў аўтобусам разам з іншымі польскімі працаўнікамі на працу і вярта-

ўся на абед у сталовай, а пасля абеда хадзіў у савецкі клуб аглядаць у тэлевізары апошнія весткі з Масквы і іншыя праграмы. У суботу аглядаў часта індускіх артыстаў, якіх аплачваў савецкі клуб. Некалькі раз ездзілі мы аўтобусам ў індускі кінатэатр у горад паглядзець нейкі індыйскі фільм з ангельскімі перакладамі іх мовы, якія выкупіла нам электрастанцыя. Часам запрашалі вечарам мяне рускія працаўнікі да сябе на кватэру. У нядзелю хадзіў купацца ў рускі басейн. І так час праходзіў. Мы атрымоўвалі з двухтыднёвым спазненнем важнейшыя польскія газеты і журналы, так што ведалі што адбываецца ў Польшчы. Пісьмы перадавалі мы праз выязджаючых працаўнікоў у „Электрым", а ён рассылаў іх па адрасах. Наклейвалі мы польскія паштовая маркі на пісьмы і праз „Электрым" прыходзілі пісьмы да нас з Варшавы. Цераз індыйскую пошту я высылаў толькі пісьмы да знаёмых у Югаславію, Францыю, ФРГ і ЗША. З ФРГ ад Уладзіміра Ганскага з Гагена я атрымаў тры кніжкі напісаныя рускімі дэсідэнтамі на эміграцыі і на магнітафонных стужках ён прыслаў мне песні рускіх спевакоў на захадзе. Я меў пры сабе касетны магнітафон.

**1 ліпеня** ў Польшчы распачалі пробны прадаж бензіну без картак. Літр блакітнага бензіну каштаваў – 260 зл., а жоўтага – 300 зл.

**3 ліпеня** амерыканскі ваенны крэйсер Vincennes ВМС збіў іранскі пасажырскі самалёт рэйса 655 Iran Air. Згінула 290 пасажыраў з пілотамі.

**6 ліпеня** на Паўночным Моры ад выбуху і пажару разбуранай свідравальнай платформы Piper Alpha згінула 167 асоб.

**31 ліпеня** у Багане ў Малайзіі разбурыўся мост, на якім згінула 32 асобы і было параненых 1674 асобы

**7 жніўня** ў Хартуме і ў наваколлі ў Судане ад паводкі больш чым 1 міл. грамадзян страціла прытулак.

**8 жніўня** ў паўстанні 8888 у Бірме было забітых тысячы пратэстэстуючых грамадзян.

**17 жніўня** ў авіякатастрофе ля Бхавалнутра ў Пакістане згінулі прэзідэнт дзяржавы Зія-уль-Хак і пасол ЗША Арнольд Рэйфел. У Пакістане ўвялі надзвычайнае становішча.

**19 жніўня** закончылася вайна між Іранам і Іракам.

**20 жніўня** на граніцы Непала і Індыі ад землятрусу згінула блізка 1000 людзей.

**28 жніўня** ў катастрофе ў ФРГ на ваеннай базе Рамштайн у час авіяшоў сутыкнуліся ў паветры тры італьянскія самалёты і адзін упаў на натоўп гледачоў. Згінула 75 і было парапененых 346 асоб.

**28 жніўня** СССР выпусціў у космас касмічны карабель „Сяюз ТМ-6" з касманаўтамі Уладзімірам Ляхавым, лекарам Валерыем Паляковым і афганскім касманаўтам Абдулам Ахадам Момандам. Карабель прыстыкаваўся да касмічнай станцыі „Мір" і У. Ляхаў з афганцам А.А.Момандам вярнуліся на зямлю 7 верасня 1988 г. на касмічным караблі „Саюз ТМ-5".

**31 жніўня** ад паводкі ў Бангладэшу страцілі прытулак 25 мільёнаў жыхароў.

**4 верасня** ў Югаславіі прайшлі дэманстрацыі сербаў і чарнагорцаў, якія жадалі ўвесці надзвычайнае становішчя ў Косаве для абароны жыхароў ад албанскіх сепаратыстаў.

**5 верасня** прымас Польшчы Юзеф Глемп паехаў у Беларусь, запрошаны мітрапалітам Мінска і ўсёй Беларусі Філарэтам. Гэта быў першы візіт прымаса польскага каталіцкага касцёла ў СССР.

Мне і 11 польскім працаўнікам у Бакара „Мегадэкс" выкупіў на 11 верасня білеты на польскі самалёт Дэлі – Варшава. Асталіся ў Бакара кіраўнік польскіх працаўнікоў з працаўнікамі „Электрыму" і яшчэ чалавек 10. Кончылася наша праца на электрастанцыі Бакара. 7 верасня выехалі мы з Дханбада цягніком у Дэлі і 8 верасня затрымаліся ў гасцініцы „Імка". Пасля снедання паехалі мы ў польскае пасольства афармляць выездныя паперы, а пасля абеду раз'ехаліся па магазінах купляць сувеніры для сям'і. Я прачытаў у гасцініцы вестку, што 9 верасня едзе з гасцініцы экскурсія ў Агру. Толькі я адзін з польскіх працаўнікоў выкупіў месца на гэту экскурсію, ніхто больш не захацеў.

**9 варасня** пасля ранейшага снедання выехалі мы аўтобусам з кандыцыянерам у Агру. Індускі гід зразумела гаварыў на ангельскай мове. Кепска, што не ехаў са мной ні адзін знаёмы, бо мы ад часу да часу затрымліваліся, выходзілі з аўтобуса і аглядалі прыгожыя мусульманскія мячэці і я бянтэжыўся прасіць незнаёмых зрабіць пры іх мне здымкі маім фатаапаратам. Са мной сядзела смуглая дзяўчына з Інданезіі, якая лепш ад мяне гаварыла на ангельскай мове і я толькі тры разы адважыўся папрасіць яе зрабіць мне здымак маім фатаапаратам. А сам рабіў толькі дыяпазітывы, якіх маю многа. Па

дарозе ў Агру мелі мы яшчэ другое снеданне і, вяртаючыся з Агры ў Дэдi абед у нейкім рэстаране на кошт экскурсіі.

Агра ляжыць на поўнач ад Дэлі ў штаце Утар-Прадэш. З 1528 г. да 1658 г. Агра была сталіцай імперыі Вялікіх Маголаў. Цяпер жыве ў ёй больш чым міл. жыхароў і з'яўляецца турыстычным горам з-за маўзалея Тадж-Махал, які называюць цудам свету. Агра паўстала ў XV стагоддзі. У 1526 г. захапіў яе Бабурі, збудаваў у ёй умацавання і стала яна сталіцай імперыі. На правым берагу Джамны збудавалі крэпасць. Аднак у 1658 г. Аурангзеб перанёс сталіцу ў Аурангабад. А ў XVIII стагоддзі на Агру нападалі і яе разбуралі джаты, персы і афганцы. У 1784 г. яе вельмі разбурылі маратхі. У 1803 г. захапілі горад ангельцы, якія выгналі маратхаў. І хутка Агра стала гандлёвым горадам. Між Аграй, Дэлі, Бенарэсам і Калькутай збудавалі яны чыгунку. У 1857 г. у Агры было паўстанне. Ангельцы схаваліся ў крэпасці пакуль не прыйшла армія з Англіі, якая разграміла паўстанцаў.

Калі мы прыехалі ў Агру, то паказалі нам напачатку Тадж-Махап. Збудаваў яго Шахджахан для сваёй жонкі Мумтал Махал, якая памерла ў 1631 г., калі радзіла 14-е дзіцё, а Шахджахан быў на вайне. Будавалі яго 22 гады 20 тыс працаўнікоў. Уваход вядзе праз вялікую Сарацынскую браму, зробленую з чырвонага пясчаніка. Высціланая мармурам дарога вядзе да шырокага канала праз 4 агароды да маўзалея. Сімвалічная грабніца жонкі шаха  стаіць на платформе вышынёй 75 м., над якой вісіць вялікі цэнтральны купал падобны да цыбулі. Галоўны купал акружаюць малыя бочныя купалы. Вакол маўзалея стаяць 4 круглыя мінарэты. Праўдзівая грабніца знаходзіцца ў падзямеллі.

Перад маўзалеем дзяўчына, з каторай я сядзеў у аўтобусе, зрабіла мне здымак маім фатаапаратам. Пасля мы абышлі ўвесь маўзалей. Увайшлі таксама ў падзямелле.

Пасля аўтобус завёз нас у Чырвоны Форт, які збудаваны быў у паўночна-ўсходняй частцы Агры. Двайныя тоўстыя муры вышынёй больш чым 20 м., зробленыя з чырвонага пясчаніка акружаюць крэпасць. Муры мелі даўжыню 2,5 км. Навокал муру калісь цягнуўся глыбокі і шырокі роў напоўнены вадою. Уваходзіцца ў Чырвоны форт прааз цікавую браму. Да ўнутранага форту трэба прайсці праз другую браму, на якой стаіць высокая васьмібочная Язміновая Вежа пакрытая

залатым купалам. Ля яе стаялі калісь будынкі імператара маголаў і яго чыноўнікаў , залы, дзе ён прымаў замежных дыпламатаў.

Абышлі мы форт, пабачылі грабніцу перскага мірзы і вяртаючыся ў Дэлі затрымліваліся пры нейкіх цікавых храмах і мусульманскіх мячэцях і з'елі абед. Вярнуліся вечарам на вячэру.

**10 і 11 верасня** хадзіў я па базарах, дзе купіў жонцы куртку з норак і іншыя сувеніры для сям'і і вечарам 11 верасня паехаў з іншымі працаўнікамі на аэрадром. Самалёт у Варшаву цяпер не ляцеў праз Дубай, як раней. Прызямліліся мы ноччу ў Ташкенце, выйшлі з самалёта ў зал на аэрадроме, прасядзелі там мінут 40, вярнуліся зноў у самалёт і другі раз ранкам прыселі на аэрадроме ў Бургасе ў Балгарыі. Там былі бязмытныя магазіны, дзе я купіў балгарскую пліску. Перад абедам прыляцелі мы ў Варшаву, дзе чакала на мяне жонка. І так вярнуўся я дамоў.

Дома ў мяне ляжала запрашэнне прыехаць у Беласток, дзе ўручылі мне Адзнаку заслужанага дзеяча культуры і **17 верасня** я з жонкаю і двума ўнукамі з Беластока паехаў на два тыдні ў Дом адпачынку „Энергапректа" ў Свінавусці, у які мая жонка выкупіла раней у маім месцы працы пакоі. Мелі мы там два аддзельныя пакоі, кожны з ванным пакоем. У адным быў я з унукам Лукой, у другім жонка з Грыгорыем. Пагода была сонечная і ўнукі купаліся ў моры. У кастрычніку я зноў быў у Варшаве і атрымаў двухмесячны водпуск з працы ў „Энернапраекце". Скіравалі мяне на медыцынскае абследаванне, ці я не маю нейкай трапічнай хваробы. Абследаванні ніякай трапічнай хваробы ў мяне не выкрылі. У кастрычніку прыехалі да мяне знаёмыя з Сарн з Украіны і прывезлі мне два каляровыя савецкія тэлевізары, якія я ў іх купіў і гэтыя тэлевізары працавалі ў мяне да 1992 г. Тады я іх аддаў знаёмым, бо купіў сабе заходнія тэлевізары.

**У лістападзе** пачаў я ізноў працаваць у „Энергапраекце". Пачаў праектаваць аўтаматыку ачысткі дыму ад серы і іншых шкодных элементаў на электрастанцыі Белхатуў і часта туды ездзіць аўтамашынай „Энергапраекта". „Орбіс" выслаў мяне на бясплатны курс замежных экскурсій, бо я меў амаль трохгадавы перапынак у працы з турыстамі. Зімою хадзіў я на курс і толькі ў чэрвені 1989 г. я атрымаў замежную экскерсію ў Ташкент , а потым на Украіну у Днепрапятроўск і на Беларусь у Гомель.

**Ад 17 верасня да 2 кастрычніка** прайшлі ў Сеуле ў Паўднёвай Карэі XXIV Летнія Алімпійскія спаборніцтвы. Найбольш медалёў атрымаў СССР: 55 залатых, 37 срэбных і 46 бронзавых, другое месца заняла ГДР: 37 залатых, 35 срэбных і 30 бронзавых медалёў і 3-яе месца ЗША: 36 залатых, 31 срэбных і 27 бронзавых медалёў.

**19 верасня** Ізраіль запусціў у космас свой першы разведвальны спутнік.

**25 верасня** прэм'ер- міністрам урада Польшчы стаў замест Збігнева Меснера Мечыслаў Ракоўскі і 14 кастрычніка стварыў новы ўрад.

**29 верасня** у ЗША наступіў 26 старт (STS-26) па праграме Спейс Шатл, 7–мы палёт шатла Дыскаверы з касманаўтамі Фрэдэрыкам Хаўкам, Рычардам Ковi, Джонам Лоунджам, Дэвідам Хілмерсам і Джорджам Нельсанам.

**1 кастрычніка** М. Гарбачоў стаў Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнай савета СССР.

**29 кастрычніка** польскі ўрад аб'явіў, што суднаверф у Гданьску будуць ліквідаваць.

**2 лістапада** прыехала з візітам у Польшчу прэм'ер-міністр Англіі Маргарэт Тэчэр на размовы з В. Ярузельскім, М. Ракоўскім, Ю. Глемпам і Л. Валэнсам.

**2 лістапада** ў катастрофе польскага самалёта Ан-24 пад Жэшавам згінула 1 асоба.

**8 лістапада** прэзідэнтам ЗША стаў кандыдат Рэспубліканскай партыі Джордж Буш (старэйшы).

**15 лістапада** выляцеў у космас у СССР касмічны карабель шматразовага выкарыстання „Буран" і ракета „Энергія".

**21 лістапада** прайшлі пагромы армян у Баку, Кіравабадзе, Нахічэване ,Хандарэ, Шамхарэ, Шэке, Казахе, Мінгечаўрэ. На пачатку снежня пачалі выганяць армян з Азербайджанскай ССР і пачалася поўная дэпартацыя азербайджанцаў з Армянскай ССР.

**26 лістапада** СССР выпусціў у космас касмічны карабель „Саюз ТМ-7" з касманаўтамі А.А. Волкавым, які вярнуўся на зямлю 27 красавіка 1989 г., з С.В.Крыкалёвым і французскім касманаўтам Ж. Л. Крэт'енам. Прыстыкаваліся яны да касмічнай станцыі „Мір" і вярну-

ліся на зямлю 21 снежня 1988 г. на касмічным караблі „Саюз ТМ-6” В.Г. Цітаў, М.Х.Манараў і француз Ж.Л.Крэт’ен.

**1 снежня** ў Арджанікідзе ў Паўночнай Асеціі тэрарысты захапілі школьны аўтобус з 30 дзяцьмі і настаўнікамі і жадалі даць ім самалёт. 2 снежня атрымалі самалёт за заложнікаў, якім даляцелі да Ізраіля. У Ізраіле тэрарыстаў затрымалі і вадалі іх СССР, дзе іх судзілі.

**2 снежня** ад урагана ў Бангладэшу згінула некалькі тысяч людзей, а 5 міл. грамадзян страціла прытулак.

**2 снежня** ў ЗША наступіў 27 старт (STS-27) па праграме Спейс Шатл і 3 палёт у комас шатла Атлантыс з касманаўтамі Робертам Гібсанам, Гаем Гарднерам, Рычардам Малэйнам, Джэрым Росам і Уільямам Шэпердам.

**3 снежня** ў чыгуначнвй катастрофе ў Дольнай Бяляве ў Польшчы згінула 8 асоб.

**5 снежня** пры разгроме мітынгу ў Баку згінулі 2 асобы, а 547 асоб затрымалі.

**6 снежня** прайшоў у Польшчы ўсеагульны перапіс.

7 снежня ад землятрусу ў Армянскай ССР згінула 25 тысяч людзей, 15000 было параненых і 400 000 страціла прытулак. Землятрус знішчыў гарады: Ленінакан, Спітак і Кіравакан.

**7 снежня** ў Эстонскай ССР аб’явілі, што эстонская мова з’яўляецца афіцыйнай мовай.

**9 снежня** на станцыі Клемпхен у Лондане ў Англіі ў чыгуначнай катастрофе згінула 35 людзей, а 500 было параненых. Сутыкнуліся там тры цягнікі.

**11 снежня** ў Ленінакане ў Армянскай ССР разбіўся пры пасадцы савецкі ваенны самалёт Іл-76, які вёз дапамогу для ахвяр землятрусу. Згінула 78 асоб.

**17 снежня** зарэгістравалі ў Польшчы Саюз Сібіракоў. 21 снежня наступіў у СССР першы палёт самага вялікага самалёта Ан-225 „Мрыя”.

**21 снежня** наступіў выбух у самалёце Боінг-747 амерыканскай кампаніі Пан Амерыкэн над Локербі ў Англіі. Згінула 270 людзей. Віну за выбух у 2003 г. узяла на сябе Лівія. Яе агенты падлажылі бомбу ў самалёце.

* * *

**У маі 1989 г.** мая дачка Ірэна атрымала візу ў ЗША і паляцелаа ў Чыкага, дзе працавала ў польскім магазіне „Чэрвонэ Яблушка" да красавіка 1991 г. Я працаваў у „Энергапраекце" і акрамя вылетаў з замежнымі экскурсіямі, як гід „Орбіса", з польскімі турыстамі ў Ташкент, Днепрапятроўск і Гомель у чэрвені выехаў з жонкаю Нінай і ўнукамі Лукой і Грыгорыем на два тыдні ў дом адпачынку „Энергапраекта" ў Сьвінавусці. Мой сын Георгій з дачкой маёй сястры Галінай і зяцем другой дачкі маёй сястры Алегам паехалі ў ліпені на два тыдні машынай Алега ва Францыю ў Манпелье ля Міжземнага Мора на запрашэнне праўнука расійскага царскага контр-адмірала А.А.Конанава – Георгія Ершова. Там правялі прыемна час і вяртаючыся заехалі да ўнучкі маёй цешчы Софіі, якая выйшла замуж за француза і пабачылі яе дзвюх дачок. **У кастрычніку** зяць, муж Ірэны, таксама атрымаў амерыканскую візу і паляцеў да жонкі ў Чыкага, і працаваў там як інжынер, на фабрыцы. Унукамі апекавалася тады мая жонка, якая пайшла на пенсію, бо мела стаж працы 30 гадоў. Старэйшы ўнук Лука пачаў хадзіць ужо ў школу і жонка мая мусіла ранкам завесці яго ў школу, а пасля прывесці яго са школы дамоў. І хоць школа стаяла недалёка ад іх дома, ёй было цяжка. І таму жонка мая пачала мяне прасіць, каб я таксама пайшоў на пенсію і прыехаў у Беласток. Я, як франтавік, меў права пайсці на пенсію ў 60 гадоў. Таму я **ад 1 лістапада 1989 г.** стаў пенсіянерам і пераехаў на два гады ў Беласток апекавацца унукамі. Мой сын таксама **1 лістапада 1989 г.** атрымаў амерыканскую візу і паляцеў у Чыкага і працаваў там на фабрыцы пры камп'ютары да 1997 г. Тады долар меў 20 раз большую вартасць, як сёння. Дзякуючы заробленым доларам дачкі і зяця, яны пабудавалі ў Беластоку дом (8 пакояў, кухня, саўна, два ванныя пакоі, гараж, гаспадарчы пакой) і прадаўшы сваю кааператыўную кватэру яны маглі стварыць прыватную фірму „Трансбуд", збудаваць там для яе будынак, купіць для фірмы розныя патрэбныя машыны. Купілі дзве дачы ля Аўгустоўскага возера.

Калі я жыў у Беластоку, пісаў вершы, успаміны і іншыя артыкулы ў „Ніву"і іх там друкавалі. Выйшаў тады мой першы зборнік вершаў „Эцюды падарожжа", які доўга чакаў друку. Мой другі зборнік вер-

шаў „Маё Падляшша”пачаў тады друкавацца і закончылі яго друк, калі я вярнуўся ў Варшаву.

Я з жонкаю толькі **ў сакавіку 1991 г.** пераехалі з Беластока ў Варшаву, як вярнулася дачка Ірэна з Чыкага. З Беластока ў летнія месяцы, калі ўнукі не хадзілі ў школу, ездзілі мы аддзельна на запрашэнне да знаймых у Даўгапілс, Рыгу і Ленінград. Пасля прыезду дачкі і зяця ездзілі мы ў Данію ў Копенхаген і з унукамі ў Закапанэ, у Палангу, у Вільнюс, у Марскую Крыніцу ў Польшчы, у Гайдэ Парк у Заходняй Нямеччыне, у Славакію і іншыя месцы. Пасля ўнукі самі ездзілі ў Турцыю, Грэцыю, Егіпет, бачылі егіпецкія пірамiды. А сын і дачка адпачывалі над морам у Іспаніі.

Калі я жыў у Беластоку, не меў часу, каб ездзіць гідам на замежныя экскурсіі і працу ў „Орбісе”закончыў. За мяжу ездзіў толькі прыватна. Пасля 1991 г., калі вярнуўся з жонкаю ў Варшаву, то на просьбу „Энергапраекта” зрабіў я дома 7 розных праектаў у электрастанцыях, за якія мне плацілі. Больш не захацеў праектаваць, бо пенсію я з жонкаю атрымалі добрую і я не патрабаваў дадатковага заробку. Цяпер нікуды далёка не выязджаем.

Цяпер сын мой працуе ў Варшаўскім Універсітэце, мае ўласны дом з гаражом, больш як 200 кв.м.

І кожны ўнук таксама мае свой дом па 160 кв. м. і добрую працу. Адзін унук ёсць магістрам інжынерам і кіруе фірмай „Трансбуд”, яго жонка працуе суддзёй. Другі ўнук закончыў юрыдычны факультэт і з’яўляецца віцэ-кіраўніком фірмы, а яго жонка працуе адвакатам, мае сваю ўласную адвакацкую канцылярыю ў Беластоку. Адзін сын жонкі майго сына быў на кантракце ў Новай Зеландыі і залажыў там сваю фірму і не хоча вярнуцца ў Польшчу. Другі з’яўляецца магістрам інжынерам і працуе ў Варшаве.

# ЗМЕСТ